# ІВАН МЕЛЕЖ

## ЗБОР ТВОРАЎ У ДЗЕСЯЦІ ТАМАХ



Мінск
«Мастацкая літаратура»
1981

# ІВАН МЕЛЕЖ

## ТОМ 4

МІНСКІ НАПРАМАК

**Раман у трох кнігах**

*Кніга другая*

МІНСК ЗА НЕБАКРАЕМ

*Кніга трэцяя*

БУДУЧЫНЯ З НАМІ

РЭДАКТАР ТОМА
С. А. АНДРАЮК

ПАДРЫХТОЎКА ТЭКСТУ І КАМЕНТАРЫІ
А. Д. АТАЕВАЙ І Э. А. ЗОЛАВАЙ

**Мінск**
**«Мастацкая літаратура»**
**1981**

*Зямля наша. Любая з дзіцячай пары, помная сэрцу велічная плынь Прыпяці. Клапатлівы гоман заводаў Мінска, турбін Асінайкі, які заціх на тры доўгія, бясконцыя гады... Родная, мілая зямля наша!*

*Чуеш, грымяць грамы над Оршай і над палескімі гушчарамі? Чуеш? Гэта грамы, якіх ты чакала: з імі скончыцца ліхалецце, зноў заззяе неба людзям і траве. Ідуць табе на помач незлічоныя крэўныя твае браты, сыны шчырай сям'і нашай. Ідуць, пасланыя клапатлівай, разгневанай у горы маці нашай — Масквой... Чуеш? Гэта — час твайго збавення, тваёй урачыстасці. Выпакутаваны час вялікай радасці.*

# ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

## РАЗДЗЕЛ I

### 1

Тады, як загрымела, як ад грукату захадзіла дзіўна падатная зямля, Юрый нібы ўступіў у незвычайны свет.

Ціснучыся ў траншэйцы, на самым перадзе нашых пазіцый, перад самым грукатам, ад якога моцна, балюча біла ў вушы, ён доўгі час не думаў, не разважаў. Аглушаны, ачмурэлы ад грукату, доўгі час ён толькі хваравіта-востра сачыў, з нейкай няцямнай цікаўнасцю міжвольна, падсвядома адзначаў усё. Ён раптам нібы страціў здольнасць разумець. Усё, што адбывалася навокал, было такім незвычайным, агромністым, што здавалася нібы нерэальным. Недасяжным для звычайнага разумення.

Ён толькі сачыў, адзначаў усё: і тое, што снарады выбухаюць вельмі блізка, і тое, што ад іх выбухаў находзяць тугія, гарачыя хвалі, і тое, што ўвесь час не спыняецца, цурчыць з краю траншэйкі пясок, і нават тое, што дзень па-ранейшаму хмурны, што пачынае церусіць дождж. Сярод усяго незвычайнага, што спляталася ў яго ўвазе, і дождж гэты, які нейкі час ішоў вельмі спорна, адзначаўся як штосьці незвычайнае.

З тым, што ўбіраў увагаю, жыло ў Юрыю, таміла яго неспадзяванае і непрыемнае адчуванне нязвыклай сваёй кволасці, дробнасці, асабліва вострае ў параўнанні з усім агромністым, што грымела, раўло, прымушала паслухмяна хадзіць зямлю. У тым, незнаёмым, недасяжным разуменню сэрца, што было навокал, незнаёмым заўсёднаму, звыкламу быў ён і самому сабе. Быццам і сачыў за ўсім, і гнуўся трывожна, і стрымліваў недарэчныя дрыжыкі пад прамоклай ад кароткага дажджу гімнасцёркай не сам, не той, які быў заўсёды, а хтосьці другі.

Потым, калі выбухі пайшлі далей, калі шчуплы, з дзіўным бляскам у вачах камандзір узвода знакамі па-

казаў, што хутка ўставаць, ісці ў атаку, хоць Юрый кіўнуў як мог бадзёра, што помніць, не падвядзе,— ён адчуў, як у душы яго, гэтага нязвыклага, дробнага чалавечка, штосьці трывожна, самотна сціснулася. Быццам павінен быў хутка страціць штосьці дарагое, якое дасюль не толькі не цаніў, а нібы і не заўважаў і значэнне якога зразумеў толькі цяпер, так позна.

Сочачы за Праворным, чакаючы яго каманды, ён разам чуў, як ніколі, у сабе гэтае дарагое, да болю мілае, чуў, што гэта апошнія хвіліны, калі яны разам. Няпроста было яму, калі ён перахапіў загад неспакойнага, парывістага Праворнага, калі сам закрычаў аддзяленню — закрычаў, нібы чужым голасам,— устаць у атаку, калі ён і яго аддзяленне з крыкам, што глух у роце, з вінтоўкамі і аўтаматамі ў руках, з рэчавымі мяшкамі за плячыма сталі ўзбірацца на беражок траншэі, пабеглі, не чуючы ног пад сабою, услед за грукатам, насустрач невядомасці.

Калі беглі, усё было па-ранейшаму разам: і адчуванне дробнасці, кволасці, і жаль, што астаўся ў душы, і ўзрушаная цікаўнасць. Але акрамя гэтага жыло ў ім, няхай між супярэчлівай сумяціцы, тое, што ён ведаў з нядаўніх павучэнняў і патрабаванняў, ён помніў гэта і цяпер як абавязковае, неадменнае, і яно вяло яго ўперад, насустрач невядомасці.

Ён ведаў, што адразу, як устануць, пабягуць, будзе міннае поле — нашае, што ў гэтым мінным полі сапёры парабілі праходы, што ісці трэба іменна ў гэтыя праходы, бо інакш можна падарвацца. Ён і бег там, дзе былі праходы, паўз салдат са сцяжкамі, міма сцяжкоў, уткнутых у зямлю,— бег так, быццам бег не сам, а нехта іншы. І быццам тое, што было, бачыў не сам, не сваімі вачыма, бачыў, як нешта недасяжнае сэрцу, чужое.

## 2

За мінным полем была пустэча, нічыя зямля. Казалі, на яе месцы калісьці красавалася вёска,— цяпер не было нават знаку печышчаў. Ніякага знаку ранейшага жылля. Толькі ямы ды выгары. За пустэчай пачынаўся невялікі ўздым, тут, у варонках, давялося легчы, аказалася, што сапёры не скончылі размініраваць

праход у мінным полі, другім, нямецкім. Юрый бачыў, як нездаволена прылёг Праворны, як нешта запалена гаварыў, пэўна, лаяўся, што давялося спыніцца, траціць такі важны момант. Бачыў Юрый, як амаль адразу падбег да Праворнага салдат, відаць, сувязны з загадам. Праворны адказваў яму таксама нездаволена, горача, нецярпліва паглядваў у бок сапёраў. Ловячы гэта краем увагі, Юрый разам з тым з нязвыклым жалем чуў, як хараша, гаркава пахне яшчэ вільготная трава, бачыў, як кусток яе прарос праз нейкую ржавую бляху ўскрай даўняй варонкі. Чуў раптоўную палёгку, што прылёг, прытуліўся да зямлі.

З гэтымі адчуваннямі бачыў ён, як наперадзе, за ледзь прыкметным пагоркам, ужо за нямецкімі траншэямі, ускідваюцца стаўбуры выбухаў. Паглядваў з насцярожанасцю туды, да чужых траншэй, сачыў, як перад траншэямі, наўколенцах, спяшаючыся, завіхаюцца постаці — сапёры. Неспадзеўкі, не разумеючы, што гэта, убачыў, як сярод іх выбухнула раптам. У грукаце выбуху амаль не было чуваць, але ён мімаволі ўтуліў галаву: так гэта было блізка. Ён падумаў, што гэта б'е нямецкая гармата, але выбухаў за гэтым не было, і яму прыйшла здагадка: мусіць, узарвалася міна. Калі ён выглянуў, то ўбачыў, што там усе ляжаць, адны нерухома, іншыя, нясмела паглядваючы. Сярод іх замітусіўся адзін, штосьці закрычаў да іншых, стаў завіхацца зноў. Нясмела, з асцярогай, адзін за адным узяліся за сваё і іншыя, хто ўцалеў.

Калі ўсталі і кінуліся ў праход, быццам нерэальнае, немагчымае бачыў Юрый — крывавае месіва на дарозе, жахліва кароткае, без галавы, без рукі, з рэчавым мяшком. Беглі хапаючыся, сачыў, ці няма немцаў уперадзе,— таму заўважыў страшнае ў той момант, калі мала не наскочыў; ледзь управіўся збочыць нагою, каб не наступіць. Пачуў, як зрабілася млосна, трохі не падагнуліся ногі. Так дабег да верху пагорка, да першай нямецкай траншэі, ашалелы ад грукату, ад толькі што перажытага ўтрапення, цьмяна адзначыў, што навокал траншэі ўсё перакапана, паразварочвана выбухамі снарадаў. На дне яе ўбачыў некалькі трупаў, амаль засыпаных пяском.

За траншэямі блізка пачынаўся негусты, увесь пасечаны алешнік. Пачынаўся ўзболатак. Ледзь прайшлі

алешнік, выткнуліся на голае, куп'істае балота, важка загрукалі выбухі. Па вострым, гнёткім свісце, што прарываўся ў грукаце, Юрый здагадаўся, што б'юць аднекуль нямецкія гарматы.

Той-сёй прыпыніўся. Юрый стаў таксама. Яму раптам нястрымна захацелася ўпасці на зямлю ці кінуцца назад, у бяспечнае месца. Стуліўшыся, уцягнуўшы галаву ў плечы, ён хапатліва, няцямна азірнуўся, потым выхапіў вачыма Праворнага, чакаючы падтрымкі ці парады. Малодшы лейтэнант, сціскаючы ў руцэ пісталет, махнуў нецярпліва наперад. Юрый, яшчэ гнучыся, штосьці крыкнуў байцам,— што, ён і сам не ведаў, і, стаіўшыся, замёршы ўвесь у чаканні, кінуўся ў страшны грукат і дым. Ён цьмяна, хваравіта адчуваў, што жыццё яго цяпер у незвычайнай, смяротнай небяспецы. Гэта было даўкае, бязлітаснае адчуванне, якое нацята лавіла кожны новы свіст, адзначала кожны выбух. «Яшчэ адзін... Яшчэ... Яшчэ...» Яшчэ мацней хацелася ўпасці, ушыцца ў зямлю ці кінуцца далей адсюль,— але ён адольваў гэтае жаданне і — у грукаце, у страху — бег, бег.

Калі выбухі засталіся ззаду, яму не палягчэла. Як і раней, ён недаверліва прыслухоўваўся, чакаў — жыла апаска, што ўсё зараз зноў паўторыцца. У ліхаманкавай сумяціцы пачуццяў і думак прабілася адна ясная думка: «Гэта, відаць, і было тое...» Думаць было цяжка, і думка абарвалася, давяршылася недзе ў падсвядомасці: тое грознае, бязлітаснае, што называецца — «быў у агні». Яму на міг успомніўся Мінск, першая бамбёжка там, прыціхлая было ў памяці за далеччу перажытага.

Насцярожаны, узрушаны, нацяты ўвесь, ён усё ішоў, насустрач небяспецы, насустрач невядомасці. Ішоў таму, што, помніў, трэба было ісці, не зважаючы ні на што. Ішоў таму, што трэба было ісці не толькі самому, але і весці другіх, аддзяленне. Ішоў таму, што блізка ішоў Праворны, яго надзея і яго павяліцель, яго камандзір. Таму, што абапал, як акінуць вокам, ведаў ён, рушылі многія такія, як ён. Ішлі, стралялі, лажыліся, уставалі, беглі.

Стараючыся не адставаць ад другіх, ён ішоў і ішоў.

## 3

Па меры таго як паглыбляліся ў размяшчэнне ворага, наступаць станавілася цяжэй. Хоць рушылі амаль адразу за артылерыйскімі выбухамі, якія, здавалася, змяталі са шляху ўсё жывое і нежывое, вораг яшчэ спрабаваў утрымацца. Калі выбухі аддаляліся, гітлераўцы, якім пад бетоннымі столямі і тоўстымі накатамі пашанцавала выратавацца, выпаўзалі наверх і еклі з кулямётаў і аўтаматаў...

На адзін такі заслон наскочыў і ўзвод Праворнага. Кулямётная чарга ўдарыла раптам так блізка, што Юрый ледзь управіўся кінуцца на зямлю. Яшчэ не разумеючы, што адбылося, ён адзначыў, што над ім, над самай галавой, нібы прайшоў гарачы, грымучы вецер.

Чуючы, што яго быццам апаліла жарам, намагаючыся аддыхацца, ён паспрабаваў зразумець, што здарылася. Чэргі нямецкага кулямёта рвалі паветра так блізка, што гукі стрэлаў, здавалася, стукалі па галаве. Справа, поблізу, чарга кулямёта зрэзала некалькі высокіх балотных сцяблін... Вось-вось,— яшчэ чарга, і кулі, напэўна, увап'юцца ў галаву, у плечы.

Ён трывожна адзначыў, што ляжыць на голым, небяспечна адкрытым месцы. Як на бяду, побач хоць бы кусточак, хоць бы варонка, якімі перарыта амаль усё балота,— каб можна было хоць трохі схавацца ад куль! Адны толькі бародаўкі-купіны ды балотная трава.

Да ўсяго вакол пачалі выбухаць нямецкія міны. Прыслухоўваючыся мімаволі да іх посвісту, Юрый стараўся асэнсаваць сваё становішча. Што з ім, ці не паранены? Не, здаецца, пакуль абышлося... Што з яго байцамі? Жывыя яны? Дзе яны цяпер?.. Ён асцярожна азірнуўся па баках і ўбачыў аднаго крыху правей ад сябе, ззаду,— гэта быў Шарыфутдзінаў. Ён вострымі вачыма штосьці высочваў з-за купіны. Злева ляжаў тварам уніз бялявы Куліш, на яго спіне тапырыўся новенькі рэчавы мяшок... Ляжаў нерухома...

Юрый вачыма адшукаў поблізу ямку і, па-ранейшаму ўціскаючыся ў зямлю, перасунуўся ў яе. Ямка была мелкая, напалову зацягнулася чорнай граззю, але Юрый усё ж адчуў сябе тут больш надзейна: хоць крыху, ды можна ўкрыцца. Цяпер ён пачаў турбавацца пра далейшае: колькі ж яшчэ ім прыйдзецца тут ля-

жаць?.. Чаго маўчыць Рыбалка з кулямётам? Чаго не страляе? Нельга марудзіць...

Час ішоў і ішоў, даўкі, бясконцы, а Рыбалка ўсё маўчаў, Юрыю заставалася адно гадаць, што з ім: патронаў няма ці, можа, загінуў?.. Не, патроны ён яшчэ не расстраляў. Няўжо ён загінуў?! Забіты?.. А што з другім нумарам?..

Пытанні ўзнікалі адно за адным, а адказу не было. Аднак галоўнае было вядома: кулямёт маўчаў. Што там ні здарылася, кулямёт маўчаў. У такі час, калі ні секунды не павінен быў маўчаць.

У гэтым незвычайным свеце Юрыя не пакідала нязменнае разуменне сваёй адказнасці за ўсё, што ідзе ў аддзяленні. Разуменне гэтае было цяпер куды больш складаным, чым раней, але яно жыло ў ім, патрабавала ад яго. Гэты кулямёт — яго, за яго ён, камандзір аддзялення, адказвае. І калі кулямёт не павінен маўчаць, Юрый абавязаны, каб ён не маўчаў, зрабіць усё неабходнае. І Юрый пачаў цяжка разважаць пра тое, што належыць зрабіць.

Яму прыйшло ў думкі: калі ўскочыць і хутка кінуцца да Рыбалкі, то варожыя кулямётчыкі, напэўна, не ўправяцца ўзяць на прыцэл. Трэба толькі выбраць момант, калі будуць біць кулямёты ў суседніх аддзяленнях...

Ён ведаў, што так трэба зрабіць. Неабходна зрабіць. Але гэтае разуменне натыкалася на асцярожлівае, страшнае: адразу як устанеш, нямецкі кулямёт паверне сюды. Ён прыстраляўся ўжо. Адной кароткай чаргі даволі. У Юрыя аж халадзела сэрца, дробна дрыжалі пальцы. Ніколі не было так трывожна і так брыдка на душы.

Чым больш ён думаў: трэба зрабіць, тым нібы больш прыціскала яго да зямлі. Не давала ўзняцца, страшыла тым, што будзе адразу, як ён устане. Брыдка было і ад страху, і ад назольнай думкі, што гэта ўсё, не інакш, бачаць. Бачаць, што ён, выходзіць, баязлівец. Самы нікчэмны баязлівец.

Ён намагаўся адолець страх і не мог. Не мог адарвацца ад зямлі, устаць; ужо амаль сабраўшыся ўскочыць, ён згадваў: кулямёт немца толькі і чакае. І зямля быццам прыцягвала больш, не адпускала. Ніколі так цяжка не было яму адольваць сябе — ні да гэтага,

ні потым, за многія гады. На ўсё жыццё запомніўся той міг, калі ён, чуючы ў сабе адчайную рашучасць, разумеючы, што іншага выйсця для яго няма, раптам ускочыў, з усёй сілы пабег.

Ён упаў каля Рыбалкі на якую-небудзь долю секунды раней, чым прайшлася над ім чарга.

Здавалася, не хвіліну, а вечнасць зноў уціскаўся ён у зямлю, не мог паварухнуцца. Хапаў ротам паветра, не мог аддыхацца, усё задыхаўся. Чуў, як, поўнячы ўсяго, калацілася сэрца. Грымела мацней за ўсе выбухі.

Супакоіўшыся крыху, ён асцярожна павёў галавою, прыгледзеўся да Рыбалкі. Той ляжаў, уткнуўшы галаву ў балота, нібы хаваў яе. Над кволай шыяю, над шышачкамі пазванкоў заплывала крывёю шырокая рана. Убачыўшы аголеную, закрываўленую тканку, кроў, у якой бялелі асколкі касці, Юрый хутчэй адвярнуўся. Адчуў, што зноў робіцца млосна...

Стараючыся падтрымліваць тую дужасць, якую чуў, калі ўскочыў, бег сюды, помнячы абавязак свой камандзірскі, Юрый, прыкрываючыся Рыбалкам, непаслухмянымі рукамі выцягнуў незвычайна важкі кулямёт і адпоўз у бліжэйшую ад выбуху ямку, переналок каробку з дыскамі.

Выбраўшы, як яму здавалася, зручную хвіліну, ён, спяшаючыся, прыцэліўся і хутчэй націснуў спускавы кручок. Кулямёт адразу паслухаўся, загаварыў, б'ючы, пругка торгаючыся, як жывы, нібы падтрымаў, даў дужасці Юрыю. Прыціскаючы прыклад, імкнучыся вытрымліваць лінію прыцэлу, Юрый адчуў радасць сілы.

Даўшы доўгую чаргу, ён адпусціў прыклад, апаў у варонку. Ляжаў цярпліва, пакуль нямецкі кулямётчык вёў па ім страляніну. Потым, пачуўшы, што перастаў страляць, паспрабаваў зноў узяць кулямёт, аднак ледзь узняў галаву, побач прайшлася чарга. Юрый доўга ляжаў моўчкі. Стрымліваючы нервовую дрыготку, узрушаны спрэчкай бою, ён вырашыў чакаць падалей. Ён разлічваў, што чым больш будзе маўчаць, тым менш пільным стане немец. Можа, нават падумае, што ён, Юрый, забіты. Вычакаўшы, Юрый зноў прыпаў да кулямёта, прыцэліўся. Даў чаргу туды, адкуль той біў. Схаваўшыся ў ямцы, стаў зноў чакаць адказу...

## 4

Камбат Паўлоўскі, заўважыўшы са свайго КП, што залегла рота, адразу пастараўся дапамагчы ёй. Ён загадаў камандзіру суседняй роты ўдарыць у фланг праціўніку. Тады ж камбат, доўгі, з доўгім качыным носам і рашучым падбародкам, нязменна з біноклем на грудзях, павярнуў свае крутыя плечы да шчупленькага артылерыста-капітана з чумацкімі вусамі, камандзіра прыданага артдывізіёна.

— Выручай, капітан. Эх, гады пячорныя,— прыціснулі маіх «самаварамі» і кулямётамі! Узняцца не даюць!.. Вунь, бачыш, крывое дрэўца, там, злева, побач — кулямёт... Лявей яшчэ два — адзін на два пальцы лявей хмызнячку. Бачыш?..

Капітан заклапочана падняў бінокль, стаў углядвацца, вызначаць месцы кулямётаў. Пакусваючы кончык вуса, позіркам некалькі разоў перасек балота, вымераў адлегласць. Моўчкі і важна разгарнуў палявую, завялікую для яго росту сумку, дастаў сшытак. Зрабіў нейкія свае знакі. Потым, дазваляючы камбату толькі назіраць за ім, коратка загадаў артылерысту-тэлефаністу даць «Амур».

Узяўшы трубку, ён, дробны, у вялікіх ботах, хрыплым, з басам, голасам пачаў камандаваць «Амуру» прыцэл, вугламер, зарад.

Наперадзе Юрыя спачатку па адным, прыцэльваючыся, потым купамі пачалі рвацца снарады. Яны праносіліся ўгары з імклівым, абнадзейлівым посвістам. Там, дзе былі чужыя кулямёты, выблісквалі ярасна-гарачыя агні, з громам ускідваліся рудыя грывы.

Неўзабаве пачалі біць гарматы і спераду, з нямецкага боку.

Юрый чуў, як усё мацнее артылерыйскі паядынак. Вось ужо ў бой уступілі нашы цяжкія гарматы. Яны пачалі біць па нямецкай артылерыі,— іх выбухі грымелі далёка за пазіцыямі пяхоты. Ад гэтых выбухаў уздрыгвала зямля. Слухаючы магутны грукат, які ўсё мацнеў наперадзе, Юрый нібы дужэў. Вунь колькі артылерыстаў заступілася за іх...

Нарэшце нямецкія кулямёты сціхлі. Калі Юрый, трымаючы ў руках кулямёт, узняўся, адразу і не верылася, што яны не загавораць. Але яны маўчалі.

І, хоць навокал па-ранейшаму кіпела вялікая бітва, Юрыю здавалася, што настала цішыня.

Праворны ўстаў, звыклым рухам выцер локці, паправіў пілотку. Азірнуўся ўправа, улева, махнуў рукою ўздымаць байцоў, весці наперад.

Але падымаць і не трэба было. Убачыўшы, як усталі Юрый і Праворны, байцы, хто застаўся жывы, самі пачалі ўздымацца. Па затравелай, падатнай глебе, па куп'і, хлюпаючы ў вадзе, а часта і грузнучы па пояс, зноў пайшлі наперад.

Юрый, стараючыся ісці ў рост, ісці так, як і належыць камандзіру, мімаволі падтрымліваў у сабе тую цяжкую смеласць, якая патрэбна была, каб годна ісці наперад, весці іншых. Нялёгка хаваючы тое, што супярэчыла гэтаму ў ім, ён усё ж ішоў з асцярогай, чуйна ўглядваўся, услухоўваўся, зноў мімаволі чакаў страшнага. Але ён бег, і падаў, і ўскокваў, а гэтае страшнае, на шчасце, не чапляла яго.

Між тым наблізіліся да альховага хмызняку. Вось-вось павінны былі ўскочыць у яго...

І тут, калі заставалася некалькі крокаў, да Юрыя раптам збоку штосьці паляцела. Юрый не зразумеў, што гэта, але жвавы, спрытны Шарыфутдзінаў ірвануў яго да сябе і кінуўся з ім на зямлю. Ледзь управіліся ўпасці, побач ударыў выбух.

Інстынктам чуючы, які дарагі кожны міг, Юрый, лежачы, хапаючыся, адчапіў ад пояса «лімонку», кінуў за альховы куст. Туды, адкуль кінулі гранату. Ледзь яна выбухнула, ухапіў кулямёт — даў туды чаргу.

Перачакаўшы момант, ускочыў, трымаючы перад сабой кулямёт, насцярожана зазірнуў за куст. Поблізу, каля траншэі, ляжалі два забітыя ў шэрых мундзірах. Адзін немец выбіраўся з акопчыка, намерваючыся ўцячы, але, убачыўшы пехацінцаў, падняў рукі.

Далей у кустах ішла аўтаматная перастрэлка. Потым адтуль прывялі яшчэ некалькі палонных.

Выгляд у іх быў устрывожаны. Глядзелі ўжо спалохана, рук не апускалі. Нібы малілі аб літасці. Салдат з белай грывай, без пілоткі і без мундзіра, у заплямленай граззю майцы плямкаў губамі, штосьці мармытаў.

— Чалавек: галава, два вухі,— пагардліва сказаў Шарыфутдзінаў.

— Малітву, ці што, ён шэпча? — здзівіўся Юрый, запытальна пазіраючы цыганскімі, як у бацькі, вачыма на Праворнага.— Думае, мусіць, што бог паможа яму?.. Успомніў!..

— Наш «бог вайны» напомніў! — без усмешкі прамовіў Праворны.

Юрый упершыню бачыў іх так блізка. Ён пазіраў на іх, як на незнаёмыя істоты — «вось яны якія!». Яшчэ ўсхваляваны тым, што смяротная небяспека ледзь мінула, ён пільна агледзеў салдата, якога ўзялі раней: хто кінуў гранату? Ці не гэты?

Хоць стаялі яны перад ім упершыню, у яго была да іх даўняя, укаранелая нянавісць. Ён ненавідзеў іх асабліва з таго дня, калі ўбачыў сваю маці пад абломкам сцяны, якую разбурыла бомба з «юнкерса»...

Праворны адправіў палонных у тыл.

5

Пад поўдзень рота заняла боем рад траншэй на ўскраі лесу. Уся зямля тут была перакапана безліччу варонак. У неглыбокіх, аплеценых лазою траншэях на дне блішчэла рэдкая балотная гразь. У гэтай гразі, у варонках і ў траве каля траншэй валялася многа трупаў, ранцаў з рудой цялячай скуры, газеты, часопісы са здымкамі.

Заняўшы ўвесь лясок, рота вымушана была пры ўзлессі прыпыніцца. Байцы пачалі хутка акопвацца. Увесь час білі варожыя гарматы, але снарады рваліся недзе ззаду пазіцый пяхоты. Юрый таксама ўзяўся капаць акопчык, выкапаў да пояса, так, каб можна было прыхавацца. Ведаў, што стаяць тут будуць нядоўга. Выткнуўшы з краю акопа кулямёт, ён на хвіліну прысеў перадыхнуць. Цяпер, калі трохі стала спакайней і можна было сабрацца з думкамі, з пачуццямі, ён упершыню ясна, свядома адчуў, як многа перажыў і пераадолеў за некалькі гадзін. Узрушаны агромністасцю таго, у чым ён сёння браў удзел, ён быў уражаны не менш тым, як пры ўсёй вялікай сіле арміі цяжка на вайне кожнаму чалавеку. І ад таго, што ён адолеў столькі, так неверагодна многа, ён здаваўся сабе не зусім звычайным, нібы падрослым раптам, пастарэлым нават. Нібы зрабіў ужо штосьці вельмі значнае.

Разам з тым гняло яго і нязвыклае, прыкрае разуменне таго, што жыццё яго не такое трывалае, як ён думаў заўсёды да сённяшняга дня. Але ён не даў волі гэтаму разуменню, ён цяжка сціснуў яго ў сабе. Няма чаго думаць пра гэта...

Ён зняў боты, каб выліць з іх ваду, якая прыкра хлюпала, і выкруціць мокрыя анучы. Ногі пакрыліся быццам рубцамі ржы, а анучы зусім парудзелі.

Толькі ўправіўся пераабуцца, як яго паклікаў да сябе Праворны. Малодшы лейтэнант, як і Юрый, мокры да пояса, з мокрымі рукавамі, з чубком раскіданых і звіслых на лоб глянцавітых каштанавых валасоў, сядзеў каля камля дрэва, зламанага снарадам. Вяршыня дрэва ляжала тут жа, на траве. Перад Праворным былі малодшы лейтэнант з суседняга ўзвода і тоўсты, пануры ротны старшына. Праворны сядзеў заклапочаны, але з выглядам бадзёрага чалавека: яго карыя вочы, як і раней, здавалася, пасмейваліся. Юрыю было дзіўна бачыць яго звычайным пасля такой гераічнай работы.

Праворны цяпер замяняў камандзіра роты, якога паўгадзіны назад разарвала міна, што прыляцела з варожага боку.

Адпусціўшы малодшага лейтэнанта, Праворны, не змяняючы выразу заклапочанасці, моршчачы па-юнацку чысты лоб, спытаў Юрыя пра страты. Юрый дакладаў, што аддзяленне страціла шэсць чалавек: чатыры ранены, двое забіты.

— Падшукай кулямётчыка яму,— сказаў Праворны старшыне.— Яшчэ вось што,— Праворны павярнуўся зноў да Юрыя. Але тут вырваўся раптам імклівы грукат. Юрый мімаволі ўтуліў галаву: нізка, амаль чапляючы крыллямі за вяршыні дрэваў, незвычайна вялікія, чорныя, выхапіліся, пранесліся некалькі самалётаў. Ён запознена павёў услед ім позіркам. Штурмавікі.

Праворны заклапочана вярнуўся да перарванай гаворкі:

— Вось што — мы атрымліваем папаўненне. Табе таксама прышлём... Сачы за імі, памагай, пакуль абвыкнуцца. Многія з іх, мабыць, упершыню будуць. Так што трэба мець на ўвазе...

Ён запытаў, колькі аддзяленню Юрыя трэба патро-

наў і гранат, і загадаў, каб старшына зараз жа ўсё даставіў яму.

— А ты малайчына, Туравец,— як бы выпадкова прамовіў ён напаследак.

Юрый хоць узяў гэтыя словы знешне стрымана, узрадаваўся ім, як цяжка здабытай узнагародзе.

— Добра трымаешся!.. Адказнасць адчуваеш за справу: за кулямёт лёг. Гэта таксама добра... Прадаўжай так і далей!..

— Ясна,— адказаў Юрый, падбадзёраны добрым словам Праворнага.

У такім настроі сержант вярнуўся ў сваё аддзяленне, праверыў, як яно размясцілася.

Хутка падышло папаўненне. Юрый пазіраў на яго ўжо, як бывалы франтавік, не заўважаючы ў сабе гэтай змены, і «навічкі» адносіліся да яго таксама з давер'ем і павагай. Ён размеркаваў «навічкоў». Аднаму з іх Юрый перадаў кулямёт Рыбалкі.

Крыху ззаду, дзе снарады пакінулі толькі пасечаныя камні і мешаніну галля, усталёўваліся мінамётчыкі. Яны ўстанаўлівалі важкія зялёныя пліты і трубы, падносілі скрынкі з мінамі. Потым падышлі лясной прасекай палкавыя артылерысты, расчырванелыя, змораныя; гарматы глыбока груэлі ў балоце, іх цягнулі метр за метрам.

Адзін з артылерыстаў — яфрэйтар — падбег да Юрыя, папрасіў закурыць.

— Запалкі ёсць? — запытаў Юрый, дастаючы з кішэні пачак махоркі. Ён ніколі раней не курыў, але цяпер чамусьці хацелася курыць.

Закурылі. Яфрэйтар адразу пабег да сваіх гармат, дзе артылерысты браліся капаць раўкі.

Зноў пацямнела, пайшоў спорны, недарэчны дождж. Дзіўна было бачыць, што багата ў каго на плячах паявіліся плашч-палаткі, што хтосьці быў здатны на такі дробны, нікчэмны клопат. Юрый быў нібы рад, што дождж лье, што можна мокнуць, яму прыемна было чуць, як ліпне да плеч, халодзіць спіну вымаклая гімнасцёрка.

Яшчэ ішоў дождж, калі снарады праціўніка пачалі часта рвацца навокал. У лесе пайшоў няспынны, памножаны на розныя галасы гул. Пэўна, ад дажджу гул гэты быў прыглушаны, нібы важчэйшы. Тады, як

выбухала і гуло, падбег, прыгнуўшы галаву і крутыя плечы, камбат Паўлоўскі і перадаў загад падрыхтавацца адбіваць контратаку. З камбатам было два байцы — ардынарац і, мусіць, сувязны.

Дождж цяпер быў не моцны, і за шараватым полагам яго азначыўся зноў брудны, паўзучы дым ад падпаленага,— відаць, снарадамі — торфу. Там між дыму ўжо варушыліся невыразныя абрысамі, быццам нерэальныя постаці. Постаці гэтыя ўсё збіраліся, усё падцягваліся на нявідны рубеж. Зыходны для атакі рубеж...

Аглядзеўшы пазіцыю ўзвода, камбат загадаў перанесці два кулямёты на левы фланг. Юрый, паглядваючы час ад часу ў бок немцаў, адплёўваючы ваду, што аплывала з пілоткі, са лба, цякла ў рот, пахапліва курыў. Выбухі ўзнікалі ўсё часцей і часцей.

— Не курыў раней? — запытаў раптам камбат, пачуўшы, як Юрый закашляўся.— Не куры... Здароўе папсуеш,— сказаў ён павучальна, як старшы малодшаму.— Ну, камандуй!

Ён паслаў сувязнога з нейкім даручэннем у суседнюю роту, а сам подбегам падаўся да КП. Тут ён звязаўся з камандзірам кулямётчыкаў і загадаў перакінуць чатыры кулямёты да Праворнага.

Капітан-артылерыст з чумацкімі вусамі, стоячы за дрэвам каля КП, назіраў за выбухамі сваіх снарадаў, часам ён падбягаў да тэлефаніста і перадаваў «Амуру» папраўкі.

— Бачыш, капітан, дзе яны збіраюцца? — запытаўся камбат.

— Бачу. Няхай, няхай збіраюцца! Я зараз вермішэль з іх зраблю!

Юрый з мелкага акопчыка бачыў, як варожых пехацінцаў, якія ўзняліся і рушылі сюды, да ляска, раптам ахапілі дым і полымя выбухаў. Білі гарматы прыданага дывізіёна, пачалі біць палкавыя батарэі, мінамёты. Некалькі дзесяткаў салдат узняліся, бегам рушылі да роты Праворнага. Не дабеглі. Прыкметна парадзелымі радкамі запынілі бег, залеглі. Пачалі адпаўзаць назад.

Тады батальён паспрабаваў прабіцца далей. Але немцы трымаліся па-ранейшаму ўпарта...

Седзячы ў гразкім акопчыку, над якім роем віліся

надакучлівыя камары, Юрый зноў бачыў, як пад хмурным небам наперадзе штурмуюць ворага «ІЛы»...

Прыйшоў пануры старшына і аб'явіў, што падвезлі тэрмасы з абедам. Юрый загадаў вылучыць двух чалавек атрымаць абед... Ён толькі тут успомніў, што звечара нічога не еў.

Але есці і не хацелася. Ці да таго было яму, калі яго поўнілі такія нязвычныя, непадатна агромністыя ўражанні.

Ён не заўважыў, як падышоў Праворны. Прысеўшы на край акопчыка, спусціўшы ў акопчык ногі, Праворны на момант прыслухаўся да блізкага артылерыйскага грукату, што ўсё мацнеў ззаду.

— Чуеш? Артылерыя пачынае... Толькі што званіў камбат — трэба рыхтавацца. Хутка пойдзем, улічы!

Зноў пачынаў сеяць дождж.

6

Калі перадавыя падраздзяленні аддаліліся, генерал-маёр Шчарбацюк загадаў перанесці НП на новае, падрыхтаванае ўжо месца. Ён узяў папку з картай і, спусціўшыся з узгорка, на якім быў ранейшы НП, з групай штабных афіцэраў пайшоў наперад.

Пад нагамі ўгіналася забалочаная зямля, зацягнутая разнатраўем, хлюпала вада. Амаль на кожным кроку відneліся сляды нядаўняй бойкі — варонкі ад снарадаў, ад бомб, ад мін, парваныя дротавыя загароджы, кінутыя нямецкія супрацьгазы, падобныя на тэрмасы. Усюды валяліся трупы.

Увесь час плылі і плылі самалёты — адны ў бок пярэдняга краю, другія вярталіся назад. Плылі вялізнымі і маленькімі стаямі, высока ў блакітным небе і нізка, над самымі дымамі бітвы. У небе было цёмна ад іх.

Ішлі мінамётчыкі, згінаючыся пад цяжарам пліт, труб і скрынак з мінамі. Напінаючыся з усіх сіл, коні цягнулі цяжкія павозкі...

Генерал, грузны, рыхлаваты, з жыватом, прасачыў, як некалькі артылерыстаў сунулі гармату, якая грузла амаль да восі, сказаў начарту [1] дывізіі:

[1] Начальніку артылерыі.

— Адстае твая тэхніка... Ці ўправішся ты падцягнуць усе ствалы ў час?

Начальнік артылерыі, смуглявы чарнабровы падпалкоўнік, адказаў:

— Усе процітанкавыя і лёгкія паспею.

Пад НП была занята варожая траншэя ў хмызнячку, на ледзь прыкметным пагорку. НП не падабаўся генералу, але знайсці лепшае месца на гэтым балоце было немагчыма.

— Ну, як сувязь? — запытаўся генерал у сувязіста-лейтэнанта.

— Сувязь устаноўлена, таварыш генерал...

Месца, дзе выбралі НП, было пад шалёным артабстрэлам. У розных баках ад НП ірваліся снарады і міны, раскідваючы балотную гразь. Магчыма, не трэба было рабіць НП так блізка ад ворага, але Шчарбацюк улічыў тое, што палкі наступаюць...

— Звяжыся з палкамі, удакладні абстаноўку,— загадаў ён падпалкоўніку — начальніку разведкі.

Генерал рыхтаваў новую атаку на варожыя пазіцыі. Дывізія заняла першую лінію ворага, а месцамі пачала штурмаваць другую. Аднак праціўнік трымаўся яшчэ моцна, асабліва на цэнтральным участку, дзе ён прыпыніў полк Сібірака. Генерал стаў гаварыць з Сібіраком сам.

— Контратакуе Сібірака!.. От, скажэнны! — Ён звярнуўся да начарта: — Дадай Сібіраку дывізіён. Толькі адзін! Іншых рыхтуй да атакі...

Шчарбацюк зняў фуражку, выцер лысіну, медны карак.

— Ну, дзянёк!.. Угрызаешся, як у пароду, у гадзіну — крок.

Генерал стаў пазіраць на поле бітвы. Была хвіліна, як здавалася камдыву, незвычайнага ў гэты гарачы дзень зацішша ў яго дывізіі. Праўда, назваць гэта «зацішшам» мог толькі хіба такі цярплівы, прывыклы да бою воін, як Шчарбацюк. Як і раней, наваколле грымела ад выбухаў і стрэлаў гармат, у прамежкі між якімі ўрывалася чачотка кулямётаў. Над варожымі пазіцыямі ўзляталі кусты дыму і полымя. Але генерал усё ж меў рацыю: гэта было адноснае зацішша. Зацішша ў буры. Больш за палову гарматных ствалоў, што стаялі сярод хмызняку на ўчастку, які займала дывізія,

маўчалі. І баявыя палкі, акрамя Сібірака, таксама маўчалі. Але чарга іх набліжалася.

Поблізу ад генерала, у суседнім акопчыку, быў наводзячы ад авіячасці, прыданай дывізіі, рослы флегматычны з выгляду лейтэнант. Ён сядзеў каля рацыі, трымаючы ўвесь час сувязь з палком, і, здавалася, нешта ціха насвістваў.

— Праз дваццаць адну хвіліну пачнём атаку,— сказаў камандзір дывізіі, падышоўшы да яго.— Перадай сваім, каб былі напагатове.

— Добра. Зараз перадам.

— Сігнал для абазначэння пярэдняга краю — дзве белыя ракеты. Не пераблытай квадраты... Начальнік разведкі ўдакладніць табе абстаноўку.

Шчарбацюк паклікаў падпалкоўніка.

Непадалёк ад гарбка ішлі павозкі са снарадамі. Яшчэ некалькі цягнулася ззаду ад іх. Коні груззлі. Ездавы пярэдняй павозкі размахваў пугаю і крычаў штосьці на каня, які пяўся з усіх сіл. За павозкай ішлі, папіхаючы яе, два пехацінцы.

— Марудна, другі мае, наступаеце,— заўважыў генерал пехацінцам, калі тыя, уз'ехаўшы ўжо на выспачку, прывіталі яго.

— Дык балота ж, таварыш генерал-маёр... Вось выйдзем на цвёрдую зямлю, тады — аж пыл закурыцца! — аптымістычна адказаў адзін з салдат.

— «Выйдзем на цвёрдую»... Колькі ж вы будзеце так выходзіць!

Генерал зірнуў на гадзіннік,— заставалася семнаццаць хвілін. На НП Шчарбацюк звязаўся з камандзірамі палкоў, правяраючы, ці падрыхтаваліся ўсе, зверыў свой гадзіннік з гадзінікам начарта.

— Што ж, дарагі, палкі гатовы... Табе засталося шэсць хвілін.

Начальнік артылерыі ведаў, што калі генерал сказаў: шэсць, значыць — шэсць, ні секунды менш ці больш. Шчарбацюк быў, пры ўсёй сваёй марудлівасці, на дзіва дакладны.

Роўна праз шэсць хвілін забухалі гарматы. Некаторыя з іх стаялі так блізка ад НП, што тэлефаністы і лётчык вымушаны былі прыкрываць вушы далонямі, каб чуць з трубак адказы. Над пазіцыямі праціўніка суцэльнай сцяною заклубіўся дым. Адтуль адказалі на

нашу страляніну некалькімі залпамі,— паўдзесятка снарадаў лягло каля агнявой пазіцыі бліжэйшай батарэі.

Камандзір дывізіі падышоў да лётчыка:

— Падымай, лейтэнант, у паветра сваіх летуноў.

Штурмавікі пранесліся так нізка, што рокат іх на хвіліну заглушыў усе гукі вайны. Праз кіламетры два з паловай яны развярнуліся і пайшлі ўсцяж пярэдняга краю, расстрэльваючы праціўніка з кулямётаў і гармат. Адсюль было відаць, як з самалётаў выкідваюцца вострыя язычкі полымя. Раз-пораз чуліся выбухі бомб...

— Пайшла, царыца палёў і балот! — сказаў падпалкоўнік-разведчык, гледзячы наперад.

Там былі відаць пехацінцы, тысячы пехацінцаў з мяшочкамі за плячыма, са зброяй, яны паступова аддаляліся. На іх шляху нярэдка ўскідваліся дымы выбухаў, але людзі не спыняліся. Павольна і ўпэўнена яны ўсё ішлі ды ішлі...

Вось яны ўжо дабраліся да пагорка, і тут хваля пяхоты, як марская хваля, ударыўшыся аб бераг, спынілася. Шчарбацюк, што нязводна сачыў за сваёй пяхотай, пачаў хвалявацца — на шчоках з'явіліся белыя плямы. Ён вынуў кісет, панура зацягнуўся едкім дымам самакруткі.

З гэтым астраўком прыйдзецца павалтузіцца. Не так проста вытурыць адтуль ворага. Шчарбацюк непакоіўся, як бы яго дывізія, заваждаўшыся з узгоркам, не адстала ад суседзяў. Гэта было б для яго найвялікшай ганьбаю. Ён уявіў, як бы адгукнуўся на вестку пра гэта камандарм: «Я так і ведаў... Ён толькі хваліцца майстар!»

Генерал выклікаў авіяцыю, і над астраўком з'явіліся нашы пікіроўшчыкі. Змяняючы адзін аднаго, яны кідаліся з гары на нябачныя адсюль цэлі. Не перастаючы, па тых жа месцах біла артылерыя. Усё ўдалечы зацягнула дымам.

Шчарбацюк загадаў выклікаць да тэлефона Скарабагатага, полк якога правым флангам наступаў на ўзгорак, але лейтэнант-сувязіст зморана адказаў, што сувязь з палком перарвана.

— Трэці раз! Толькі што паправілі і зноў...

— Хоць бы і дзесяты раз, дарагі... Мне патрэбен Скарабагаты!

Лейтэнант хацеў сказаць, што там, на лініі, ужо ёсць салдат, якога ён нядаўна паслаў, але стрымаўся. Зірнуўшы на генерала, сувязіст пайшоў подбегам усцяж провада следам за байцом.

Каля кустоў алешніку лейтэнант убачыў збялелага тэлефаніста, які поўз каля провада, цягнучы акрываўленую нагу.

— Снарад... блізка...— прашаптаў баец з намаганнем.— Нага... як у агні...

Ён сам сабе наспех зрабіў перавязку, напэўна, адразу пасля ранення. Лейтэнант сказаў, што зараз вернецца, і, спяшаючыся, занепакоена пабег далей. Паблізу ён знайшоў абрыў,— каля провада чарнела варонка, якая напалову заплыла тванню. Сувязіст нацягнуў правады з абодвух бакоў, абчысціў ножыкам парваныя канцы і, злучыўшы іх, абматаў клейкаю ізаляцыйнай істужкай.

Праз хвіліну Шчарбацюк слухаў хуткую гаворку Скарабагатага. Наступленне па правым флангу затармазілася, і гэта ставіла пад пагрозу фланг Сібірака.

— Дзоты? — перапытаў генерал-маёр, густа-барвова чырванеючы.— Спачуваю! Непрыемнасць такая!..

Усе, хто ведаў натуру камандзіра дывізіі, адчувалі, што падступае выбух гневу. У дабрадушнага Шчарбацюка роўны, лагодны настрой часам рэзка перарываўся, змяняўся выбухам гневу. У такія хвіліны генерал станавіўся гарачым і нястрыманым,— нібы ўсё, што капілася многія дні, выбухала адразу.

Гэтых выбухаў у дывізіі ўсе баяліся.

— У цябе, душа мая, артылерыі на цэлую дывізію! Больш як на дывізію! Такая сіла! І ты не можаш з такой сілай закрыць ім зяпы!.. Нялёгка? Спачуваю! — у голасе камдыва чулася кіпенне.— Але, каб было лёгка, нам тут не было б чаго рабіць!..

З самага маленства ён жыў нялёгка. У пятнаццаць год ён, абліваючыся гарачым потам, ужо ганяў вагонеткі як адкатчык. Праз два гады стаў сам рубіць вугаль, у цёмнай пячоры ўядаўся жалезам у непадатную цвёрдасць. Шахцёры ніколі не скардзіліся на цяжкасці, ён таксама не гаварыў пра гэта. Больш таго, ён не разумеў, што такое лёгкае жыццё. Былы вугальшчык з-пад Новачаркаска, настойлівы і ўпарты, ад той пары захаваў прывычку спакойна адольваць усё. Хоць ве-

даў, што Скорабагатаму сапраўды цяжка, ён адчуваў непрыхільнасць да камандзіра палка, які паскардзіўся.

— Не разумею гэтага чалавека! Гонару мала! Я б разбіўся, а не стаў бы скардзіцца, а ў яго вечныя скаргі. Баба!..

Генерал звязаўся з Сібіраком.

— Павярні дзве крайнія роты і дывізіён артылерыі направа — дапамажы Скорабагатаму.

На нейкую хвіліну ён падумаў, як ацэніць сённяшнія дзеянні камандарм,— пры ўспаміне пра камандарма Шчарбацюку стала неспакойна. Успомніліся словы Чарняхоўскага — «...а што вы скажаце, таварыш генерал... справіцеся?». Ён падумаў, што Чарняхоўскі, відаць, уважліва сочыць за яго дывізіяй...

Камандзір дывізіі падышоў да лётчыка.

— Пяць «Ільюшыных» на правы фланг,— ён назваў квадрат.

Пазваніўшы Скорабагатаму, генерал-маёр сказаў, каб той абазначыў свой пярэдні край.

## РАЗДЗЕЛ II

### 1

Туравец прыпыніўся, выняў з кішэні гадзіннік і чыркнуў запальнічкай. У варухлівым святле акрэсліўся кружок цыферблата.

«Спазніўся!»

Звычайна ў гэты час ён быў каля радыёпрыёмніка, слухаў зводкі Інфармбюро. Сёння ж Туравец затрымаўся — партыйны сход у атрадзе, з якога ён цяпер ішоў, зацягнуўся. «Ну што ж, даведаюся ад Габдуліна»,— падумаў Туравец, дзьмухнуўшы на запальнічку. Ён збавіў крок, пайшоў спакайней.

Сцежкі амаль не было відаць, ад дрэваў, якія маўкліва цесна абапал вузкай дарожкі, тут панавала такая цемрадзь, якая можа быць толькі ў лесе і то хіба летнім вечарам. Толькі таму, што Туравец добра ведаў дарогу, ён ішоў не збіваючыся.

Падыходзячы да лагера, ён яшчэ здалёк пачуў там гоман і здзівіўся. У гэты час у лагеры заўсёды было ціха. Значыцца, нешта здарылася, і да таго ж — незвычайнае. Ён заспяшаўся, стаў нецярпліва ўслу-

хоўвацца. Хутка ў агульным шуме вылучыліся асобныя, больш моцныя галасы, але як ён ні стараўся, ніводнага слова нельга было разабраць. Усё ж чуваць было, што шум гэты радасны, незвычайна вясёлы. Тураўца ўзяло прадчуванне шчасця, такое нецярплівае, што ён ледзь не кінуўся бегчы. «Няўжо ж пачалося?»

Недалёка ад лагера Тураўца спыніў вартавы. Ён аклікнуў з цемры, нявідны між дрэвамі, і толькі калі Туравец адгукнуўся, падышоў блізка.

— Чаго гэта, браце, у нас расшумеліся там, як на маёўцы?

— Не ведаю, таварыш камісар... Ды там ужо даўно так,— мусіць, з паўгадзіны... Штосьці дзіўнае робіцца. Эх, а ў мяне як на тое — гэта варта!.. Ды каб хоць змену прыслалі, а то яны могуць і забыцца...

Туравец заспяшаўся да лагера.

Каля зямлянак усюды стаялі групкамі людзі, весела перагаворваліся. Наводдаль нехта заводзіў песеньку,— чалавек, відаць, быў падвыпіўшы. Туравец, не распытваючы нікога, накіраваўся проста да штабной зямлянкі, спадзеючыся пра ўсё даведацца ад Ермакова. Па асобных словах, якія ён лавіў на хаду, камісар ужо здагадаўся, што пачалося наступленне. Ад адной групкі данеслася слова «Віцебск», і ён падумаў, што наступленне ідзе пад Віцебскам. Але ці толькі пад Віцебскам? Камісар ужо не ішоў, а бег.

Акрамя камбрыга ў зямлянцы ціснуліся яшчэ некалькі чалавек. Як і ва ўсім лагеры, тут было незвычайна ажыўлена і шумна — гаварылі голасна, перабіваючы адзін другога, смяяліся. Калі камісар, цяжка дыхаючы, увайшоў, увесь гэты тлум на хвіліну сціх.

— Эх ты, інфармбюро! — сказаў Ермакоў з урачыстай усмешкай на паўнаватым твары.— Паведамляў, паведамляў, а самае галоўнае прамаргаў!..

— Пачалося, значыцца?!

— А ты яшчэ не ведаеш? — здзівіўся Габдулін, пазіраючы вузкімі вачыма чамусьці не на камісара, а на таварышаў.

— Так, камісар, наступленне! — прамовіў Ермакоў. Такім узрушаным Туравец бачыў яго ўпершыню.— Вялікае наступленне. Пад Віцебскам! Трэці Беларускі і Першы Прыбалтыйскі бяруць фрыцаў у «клешчы». З паўночна-заходняга кірунку і з поўдня.

Ермакоў па-ваеннаму адрывіста, з амаль дзіцячай радасцю стаў пераказваць змест зводкі. Камбрыг запомніў яе, здаецца, слова ў слова.

— Віцебск не занялі яшчэ?

— Не, пакуль пра гэта не перадавалі. Але зоймуць!

— Не сумняваюся, Дантон любы!.. Слухай, камандзір,— схамянуўся Туравец,— пры такім выпадку трэба было б мітынг. Сабраць людзей.

— Спазніўся,— адказаў замест камбрыга Дрозд, што моўчкі стаяў сярод камандзіраў.— Мы тут ужо зрабілі... Ды і без мітынгу людзі цяпер самі тое... мітынгуюць...

— А ў другія атрады конных паслалі?

— Паслалі... Я, прызнаюся, на радасці не здагадаўся, дык прыбег Крайко: «Камбрыг, кажа, загадай людзям завезці гэтую вестку ў іншыя атрады».— «Правільна,— кажу.— Ляці ў «Радзіму». Толькі без лішняга шуму там — каб не перапалохаў уночы ўсіх...» Ён ужо даўно там... А ты яго не сустракаў? — запытаўся Ермакоў.— Не бачыў?.. Ты па сцежцы ішоў? І ён там, не інакш,— як жа вы маглі размінуцца?

— Бачыш, камісар, і тут ты спазніўся. Але ў адным ты ўсё ж не спазніўся.— Габдулін хітравата падміргнуў Ермакову і аднекуль з кутка выняў пляшку самагонкі.

2

Камбрыг раптам схамянуўся,— на твары яго з'явіліся вінаватасць і няёмкасць.

— Табе, Нічыпар Паўлавіч, пашанцавала яшчэ на адзін падарунак... Даруй, што не сказаў адразу. Адгадаеш?

Які падарунак яшчэ? Можа... пісьмо ад Юрыя, якога ён ужо даўно чакае? «Не, мусіць, штосьці іншае»,— падумаў ён, больш за ўсё жадаючы, каб гэта было іменна пісьмо.

— Не, відаць, не адгадаю...

— Ад сына! Вось! — Ермакоў падаў Тураўцу адразу два канверты.— Са штаба злучэння прыслалі...

Камбрыг заўважыў, як здрыганулася працягнутая рука Тураўца. Выраз шчасця, які асвятліў твар камісара ў першы момант, змяніўся непакоем. Туравец, было прыкметна, хваляваўся. І гэта так падзейнічала на

ўсіх, што ў зямлянцы адразу стала ціха. Усе сачылі за камісарам. Ён разгарнуў адзін трохкутнік і прагна прабег вачыма некалькі паспешлівых, напісаных зялёным алоўкам радкоў: «Пішу з дарогі... цягнік вязе нас у той бок, дзе ты... хутка, напэўна, і я пачну ваяваць... будзем разам...» Схапіўшы нецярпліва галоўнае, паспакайнелы, Туравец стаў чытаць ліст у другі раз, цяпер павольней, слова ў слова. У скронях горача стукала: «Значыць, і Юрый — на вайне». Ён думаў пра гэта і з гонарам, што ў яго сын ужо на фронце, і з трывогаю. Любы хлопец, хто лепш за мяне ведае, як табе будзе цяжка! І небяспечна. У такія маладыя гады!

Ён асцярожна адкрыў другі канверцік — пісьмо было напісана тыдні на два раней за першае. Юрый пісаў пра сваё жыццё ў вучэбным палку.

— Юрый — на фронце...— Туравец сказаў гэта стрымана, але многія адчулі, як ён узрушаны.

Раптам, нібы адганяючы трывогу, Туравец рашуча ўзняўся.

— Трэба зайсці ў друкарню. Як там з газетаю, ці ўправяцца надрукаваць да світання? Раён чакае...

— Усё-такі адну справу мы, выходзіць, празявалі!..— прызнаўся Ермакоў.

Туравец выйшаў; на адзіноце падумаў: «Юрка, мусіць, таксама наступае там...» У друкарні зводку ўжо кончылі набіраць, рэдактар газеты нешта пісаў. Лісток быў увесь перакрэслены.

— Нічога не атрымліваецца,— сказаў у роспачы рэдактар, як толькі ўбачыў камісара.— Не магу! У сэрцы — агонь, а тут пустата! Пратакол! Квас!..

Туравец сеў за столік. Ён быў добрым прамоўцам, і яго палкія, разумныя выступленні моцна дзейнічалі на людзей. З алоўкам у руцэ ён адчуваў сябе менш упэўнена,— на паперы словы, здавалася, трацілі сваю запальную сілу. Акрамя таго, трэба было напісаць коратка, вельмі сцісла, пра галоўнае. Як у маўклівых, скупых словах выказаць тое агромністае, багатае пачуццё, якое хвалюе яго?

Так, газетчык гаворыць праўду — патрэбны нейкія асаблівыя словы... Туравец некалькі разоў пачынаў, але, напісаўшы два-тры радкі, закрэсліваў.

Нарэшце яму прыйшло: «Збылося! Гэтага дня мы чакалі тры доўгія гады, чакалі з нязгаснай вераю ў

дапамогу Радзімы, роднай арміі...» У яго памяці прайшлі ўрыўкамі гэтыя тры гады — апошнімі ажылі чорныя дні блакады.

Успомнілася Ніна,— дзе яна, што з ёй? Ніна, Ніна!.. Якія пакуты трываеш ты, можа, у гэтую хвіліну? Эх, як не пашанцавала! Так, вялікія і цяжкія былі гэтыя тры гады!

Туравец адчуў, што знайшоў самае галоўнае, самае важнае. Пісаць стала лягчэй.

— Бяры,— аддаў ён лісток рэдактару,— і хутчэй, як мага хутчэй друкуй нумар.

Выйшаўшы з зямлянкі, камісар спыніўся. Плыла ноч, звычайная, падобная на многія ночы. Недзе ўзышоў месяц, але ў лесе яго не было відаць; пра тое, што месяц узышоў, можна было здагадацца па блакітных водсветах, якія плаўна варушыліся на верхавінні дрэваў, ды па тым, як усё навокал, нават затуленае галлё, пасвятлела. У прагалінах мігалі няяркія зоры.

Туравец уявіў — недзе пад Віцебскам грымяць гарматы, сціхаюць пажары ў першых вызваленых вёсках, са сховішчаў выходзяць жанчыны і дзеці... Ён амаль убачыў Юрыя: ідзе па вуліцы вёскі, абветраны, стомлены, пільны. Рука бацькі мімаволі дакранулася да правай кішэні гімнасцёркі, дзе ляжалі абодва канверты. Захацелася зноў узяць лісты, перачытаць...

Як ён, Юрый, хутка вырас. Здаецца, не так даўно гадзінамі біўся над просценькімі арыфметычнымі задачамі, і радасцю сустракаў у піянерлагеры бацькоў, з якімі не бачыўся цэлы тыдзень.

Ці даўно перажываў ён, што не падышоў у школьнай камандзе на варатара. Рост малы! Туравец успомніў, як сын захапляўся ў школе футболам. Юрка тады знайшоў сваё месца ў абароне, стаў добрым цэнтрам абароны — хуткі, спрытны, увішны.

Маці часта дакарала яго: дзе абутку набрацца. Ды і бацьку былі клопаты: і раней Юрый быў «сярэднім» вучнем, а цяпер часта стаў прыносіць троечкі...

Успомніліся паездкі на паляванне. Для Юркі гэтыя паездкі — калі бацька браў яго з сабою — былі цэлым святам. Як ён любіў хадзіць са стрэльбай па лесе, упарты, цярплівы, як любіў спаць з паляўнічымі каля агню! Колькі тады трывог было маці: каб не прастудзіўся, каб не параніў сябе...

Ці даўно гэта было? А сёння Юрка ўжо салдат...

Вось яна, настала і яго салдацкая пара. «Будзь жа сапраўдным салдатам, сынок. Будзь шчаслівы, Юрка!..»

Туравец падумаў, што і ім трэба перайсці ў наступленне. «Мы ж таксама стаім на Мінскім напрамку». Трэба пагаварыць з Ермаковым!

Але калі ён ступіў у зямлянку, то ўбачыў, што на стале, за якім схіліўся камбрыг, ляжыць карта і Ермакоў лінейкаю нешта мерае на ёй. На адным канцы карты, каб яна не тапырылася, стаяў карэц, з якога нядаўна пілі гарэлку.

Камандзіры, што былі поруч, перагаварваліся і таксама разглядвалі карту.

— Падарунак хачу зрабіць Чырвонай Арміі. Да сустрэчы... Сядай, камісар, далучайся...

3

Як гэта сталася, Васіль і сам добра не ведаў.

Калі Ермакоў даў яму даручэнне ехаць у атрад, Васіль мігам кінуўся да каня. Мігам асядлаў, узляцеў на сядло і памчаў. Ён быў такі шчаслівы ад таго, што пачуў, што такую навіну нясе,— што не бачыў і не чуў нічога ўжо навокал. Ён, здавалася яму, не імчаў на кані, а ляцеў разам з канём, над зямлёю, у нейкім незвычайным, ахмялелым ад шчасця свеце.

Ён быў таксама ахмялелы, і ад радасці, і ад ледзь не поўнай шклянкі самагонкі, шчодра налітай камбрыгам. Ахмялелы, ён чуў сябе багацеем, які можа зрабіць багатым на ўсё жыццё кожнага, каго захоча. Абы захацеў, ашчасліціць адным словам! А ён хацеў: і звычайна добразычлівы, у гэты вечар, у шале нястрымнай радасці, ён быў, як ніколі, ахвочы радаваць усіх. Найперш, канечне, самых блізкіх душы.

Ці дзіва, што конь, які спачатку пакіраваў быў на сцежку да атрада, неўзабаве збочыў на іншую, вузкую, звілістую, што вяла ў шпіталь. Ці трэба вельмі дзівіцца, што ў тыя хвіліны Васіль зусім не помніў, што з Валяю «ўсё кончана», як ён цвёрда думаў амаль цэлы месяц. Яна была зноў такою, як да той прыкрасці, да бяды, нібы і не стаяў між іх ніхто.

Ён падляцеў да яе зямлянкі і, саскочыўшы з каня, пастукаў па невялічкай квадратнай шыбе.

— Валя, Валя,— ён паправіўся: — Залеская!

Васіль адступіў ад акенца і стаў нецярпліва чакаць. «А можа, яе няма?» — затрывожыўся раптам хлопец. Сапраўды, чаму ён думае, што яна абавязкова ў зямлянцы, а не на дзяжурстве? Але тут дзверы адчыніліся, і Васіль пазнаў: яна! Яе постаць добра акрэслівалася ў блакітным месячным святле.

— Хто тут? Ты?! — Голас дзяўчыны задрыжаў, але ў наступную хвіліну ў ім пачуліся ўжо халаднаватыя ноткі: — Што гэта такое раптам прывяло... вас... уночы?..

Багаты, шчодры, Васіль не заўважыў ні гэтага халадку, ні «вас».

— А вось адгадай! Адгадай!

Дзяўчына па голасу адчула, што адбылося нешта незвычайнае. Але ўсё ж вытрымала гонар.

— Я не цыганка. Не гадаю...

— Вялікая навіна! Т-такая навіна!..

— Пачалося?!

Яна і прасіла і патрабавала адразу. Як ні ганарліва і нібы холадна яна казала, Васіль пачуў нецярплівасць у яе голасе. І гэта скарыла яго.

— Пачалося! Наступленне! — выдыхнуў ён, без меры шчаслівы, што можа так парадаваць самага дарагога чалавека.— Пад Віцебскам! Прарвалі абарону на фронце! Працягам трыццаць кіламетраў. Прабіліся да пятнаццаці кіламетраў углыбіню!

— Адкуль ты гэта ведаеш?

— Па радыё прынялі...— І ён, чуючы патрэбу падзяліцца ўсім, да рэшты, хапаючыся, аб'явіў, што занялі больш за сто населеных пунктаў, горад Шуміліна вызвалілі, перарэзалі дарогі на Полацк і на Віцебск...

— Ух, як многа! — чамусьці збянтэжана сказала Валя і раптам — гэтага Васіль ужо ніяк не чакаў — заплакала. Васіль ад неспадзеўкі аж разгубіўся.

Але ўжо нехта другі прыбег са штаба і апавясціў на ўвесь шпіталь: «Наступленне!!!» Ціхі лясны пасёлак адразу заварушыўся. Непадалёк сталі збірацца натоўпам людзі: «Дзе... якое наступленне?! Орша?!» — крыкнуў хтосьці, бегучы паўз Васіля і Валю да шумлівага натоўпу.

Як ні быў захоплены сустрэчай з Валяй, Васіль апамятаўся, згадаў, што яго чакаюць. Скеміў спалохана,

што можа так здарыцца — пакуль ён тут займаецца сваімі справамі, вестку пра наступленне можа прынесці туды хто-небудзь іншы. Хто-небудзь іншы, а не ён, і выйдзе, што ён, Васіль, не выканаў загаду. І калі гэта дойдзе да камбрыга, да камісара, як гэта яны палічаць. І наогул — будзе сорамна, калі ён спозніцца!..

— Валя, я п-паеду,— сказаў ён спяшаючыся і разам вінавата.— Мне, разумееш, трэба ў «Радзіму»...— Не развітваючыся, ён павярнуў каня. Павярнуў з той жа вінаватасцю перад ёю: няхай не крыўдзіцца, зразумее, што ён не можа затрымлівацца больш. Валя раптам падбегла да яго, лёгка і хутка, уподбег пайшла побач.

— Будзе мне! Пап-падзе на арэхі! — весела прызнаўся Васіль.— Не папала за баявыя справы, дык пападзе за гэта.

— Нічога не будзе,— супакоіла ўпэўнена яна. Сказала, як і раней,— быццам старэйшая, чалавек больш вопытны.

— Добра, што зрабіў так!

Нібы падмацоўваючы значэнне сваіх слоў, Валянціна затрымала яго дужай рукой, прытулілася да яго і — пацалавала.

У гэтыя хвіліны ён быў без меры шчаслівым чалавекам. Любоў, што прынесла яму столькі горычы, адразу прымусіла яго забыць на ўсе прыкрасці.

З лёгкім сэрцам ускочыў ён на каня, не азіраючыся, памчаў да атрада.

## РАЗДЗЕЛ III

### 1

Калі пачалася артпадрыхтоўка, Чарняхоўскі выйшаў на назіральны пункт.

На ўсім абшары, дзе быў вораг, ускідваліся стаўбуры зямлі, успыхвалі агні, паўзлі хвалі дыму. Ён некалькі хвілін узрушана аглядваў абшар, слухаў роў і клёкат, што поўнілі ўсё навокал. Але і ў гэты момант, калі тое, што ён бачыў і чуў, было такім новым, павінна было б так радаваць, твар яго, са слядамі бяссоння і

напружання многіх дзён, быў па-ранейшаму заклапочаны.

Увесь час, як стаяў ён на НП, ці, падаўшыся ўперад, наблізіўшы вочы да акуляраў стэрэатрубы, у кружку якіх ішло ўсё вельмі блізкім, рэзка акрэсленым, ці, адступіўшы ад стэрэатрубы, выпраставўшыся, глядзеў проста ў амбразуру, яго вярэдзіў неадступны, непрыемны неспакой. Неспакой гэты быў у яго даўно, як прадчуванне; з учарашняга дня ён стаў рэальнасцю, адным з найбольшых яго клопатаў. Яго нарадзіла разведка боем, якую вялі ўчора яго войскі.

За ноч Чарняхоўскі паспрабаваў зрабіць усё, што можна, каб улічыць тое, што выявіла разведка: перанацэліў частку артылерыі і авіяцыі, узмацніў часці, што наступалі ў паласе магістралі, падцягнуў наперад некаторыя дывізіі на правым крыле. Але трывога, выкліканая няўдачай баёў на магістралі, не пакідала яго. Ды і як было не трывожыцца, калі ззаду, у паласе магістралі, стаяў, чакаў, калі адкрыецца шлях, 2-гі гвардзейскі танкавы корпус, а яшчэ далей — прытоеная ў лясах каля Гусіна 5-я гвардзейская танкавая армія. Якім адводзілася такая важная роля ва ўсёй аперацыі. І якія трэба было, як мага раней, вывесці на аператыўны прастор.

Неспакойны начны роздум над тым, што выявіла разведка боем, усё больш пераконваў камандуючага, што становішча патрабуе іншага рашэння аб 2-м танкавым корпусе. Раніцай ён выклікаў да сябе генерала Родзіна — камандуючага бранятанкавых войск і загадаў перакінуць яго ў лясы на поўнач ад магістралі, з тым каб увесці яго ў прарыў праз Востраў Юр'еў, Межава, праз забалочаны раён, дзе абарона немцаў аказалася больш падатнай.

Увесь гэты клопат жыў у Чарняхоўскім цяпер, калі ён назіраў, як працуе артылерыя. Да неспакою, што застаўся ад учарашняга дня, ад ночы, дадалося новае: спрактыкаванай, пільнай увагай ён адзначаў, што артылерыя немцаў і сёння супраціўляецца моцна, што артпадрыхтоўка тут, у раёне НП фронту — недастаткова эфектыўная. Як бяду і як значны факт ён убачыў, што за некалькі хвілін залпы нямецкіх гармат адну за адной накрылі тры батарэі. Як і ўчора, у яго паявілася трывожнае адчуванне, што ўдар для немцаў — ва ўся-

кім разе тут, у паласе магістралі — не быў зусім нечаканы. Падобна было: заўважылі канцэнтрацыю артылерыі, засеклі батарэі. Чакалі, падобна...

Да гэтага прымешвалася нездавальненне тым, што ўжо ўгледзеў на світанні і што з НП убачыў зноў: дзень быў хмурны, хмары віслі нізка, дажджавыя — авіяцыі не разгарнуцца на поўную сілу. Памяць не выпускала, што далажылі ўранку: у паласе арміі Крылова і дзень і ноч ішлі дажджы. Заліло ўсё, размыла дарогі, і гэта — у балотным, мокрым краі, дзе і без таго рэзала бездараж. Трэба ж — надвор'е падкінула такую неспадзеўку!

## 2

Непакой пра тое, як ідзе артпадрыхтоўка на іншых напрамках, прымусіў яго вярнуцца ў бліндаж КП. Ці не даведаліся, не пранюхалі немцы, што рыхтавалася ім? — раптам нанова, моцна затрывожыла яго. Ён падышоў да тэлефонаў, якія звязвалі яго з усімі злучэннямі, упраўленнямі, штабам фронту.

З армій паведамлялі, што артпадрыхтоўка ўсюды пачалася ў час, артылерыя дзейнічае з поспехам. Паведамлялі, што на многіх участках нямецкая артылерыя падаўлена. Ледзь ён, трохі паспакайнелы, устаў ад тэлефонаў, у бліндаж увайшоў начальнік аперупраўлення генерал Іголкін, сказаў, што ў арміі Люднікава тры палкі 19-й гвардзейскай дывізіі кінуліся ў атаку за гадзіну да зацверджанага камандуючым часу. Артпадрыхтоўка прыпынена. На гадзіну раней, чым зацверджана графікам. Аперупраўленне высветліла абстаноўку: да таго часу, калі весткі гэтыя пацвердзіліся, стала вядома, што ў наступленне пайшоў ужо ўвесь корпус генерала Бязуглага.

— Як ідзе наступленне? — коратка запытаў камандуючы.

— У паласе 19-й дывізіі захоплены два рады траншэй.

Па позірку начальніка аперупраўлення ён бачыў, што той чакае ўказанняў, але не сказаў яму нічога. Нахіліўшыся над аператыўнай картай, разасланай на стале, з увагай прыгледзеўся да таго месца, дзе гэта адбывалася. Абвёў яго чырвоным алоўкам.

Якія ўказанні могуць быць? Хіба ён ведае абстаноўку так, як там? Бязуглы, Люднікаў — вопытныя, разумныя камандзіры. Калі яны лічаць, што абстаноўка дазваляе,— з богам! Уся адказнасць на іх, яны разумеюць. Разумеюць: калі яны паспяшаліся — літасці не будзе!.. Люднікаў гэта добра ведае: не першы дзень разам,— як-ніяк разам прайшлі з-пад Варонежа да Дняпра і далей ён, Чарняхоўскі,— камандуючым арміі, Люднікаў — камандзірам корпуса ў яго арміі. Можа быць, тут такая ж сітуацыя, якая была ў яго, тады камандуючага 60-й арміі, пасля Курскай бітвы. Армія тады толькі называлася арміяю, але, калі немцы знялі частку сваіх войск, ён адчуў, што настаў момант, які не выкарыстаць — злачынства. І ён дзярзнуў — рэшткамі арміі ўдарыў, прарваў абарону, пасадзіў пяхоту на аўтамашыны, вывеў армію на аператыўны прастор. Адкрыў дарогу танкавым войскам. З якімі разам прабіўся да Дзясны.

Люднікаў таксама ведае, што значыць — выгадны момант. І як важна не ўпусціць яго... От і пачынаюць ламацца планы. Лёс самых дасканалых планаў, на жаль ці на радасць, такі. Чарняхоўскі ўстаў, даў знак начальніку аперупраўлення, што на гэтым размову канчае. «Гладко дело на бумаге...» А хадзіць — па зямлі!

Час у бліндажы цягнуўся нясцерпна, і ён выйшаў зноў на НП. Набліжалася пара, калі да артылерыі павінна была далучыцца авіяцыя. Ён некалькі разоў нецярпліва зірнуў на гадзіннік: прызначаны для авіяцыі момант падыходзіў, здавалася, марудна. Мабыць, гэта адчуванне было і ў лётчыкаў, бо першая група пікіруючых бамбардзіроўшчыкаў паявілася над нямецкімі пазіцыямі за дзве хвіліны раней. Немцы заўважылі іх толькі пасля таго, як яны скінулі першыя бомбы. Калі над дымам артылерыйскіх выбухаў выраслі горы чорнай зямлі.

Хмарнае неба наперадзе нізалі чырвоныя ніткі трасіруючых куль, плямілі частыя дымкі выбухаў нямецкіх зенітак. Але самалёты, якіх з кожнай хвілінай усё большала, кружыліся, кідаліся на нябачныя адсюль цэлі, уздымалі пад сабой горы вывернутай зямлі. Завіхаліся бамбардзіроўшчыкі, лёгка, імкліва кружылі

знішчальнікі, што ахоўвалі, памагалі ім. Завіхаліся бліжэй, далей, зусім далёка. Неба, здавалася, варушылася...

Быў час, калі артылерыя сціхла і стала чуваць кулямётная страляніна, спачатку з нашага боку, потым усё больш з немецкага. На тым баку, не інакш, вылазілі з бліндажоў, займалі пазіцыі. Чарняхоўскі чакаў. Неўзабаве на варожыя пазіцыі зноў абваліўся грукат, закіпелі зноў агонь і дым. Адну хвіліну, дзве, тры...

Тады наперад рушылі танкі. Танкі і пяхота...

## 3

Увесь гэты дзень Чарняхоўскага вярэдзіла неспакойнае, непатрэбнае чаканне. Ён не любіў корпацца ў сваіх пачуццях, чалавек дзейсны, заклапочаны мноствам неабходных, неадкладных спраў, ён звык займацца тым, што неабходна было рашаць, але пачуцці, зусім непатрэбныя цяпер, упарта лезлі ў душу яму, узрушалі, кволілі. Што б ён ні рабіў, яго хвалявала адчуванне таго, што з учарашняга дня, а асабліва з сённяшняга ранку, з артпадрыхтоўкі ён і ўсе войскі, якімі яму даручылі камандаваць, уступілі ў новую даўно чаканую і разам — самую адказную пару дзейнасці. Яго хвалявала разуменне таго, што з пачаткам гэтай пары ў яго жыцці пачынаецца самая строгая, жорсткая праверка ўсяго, што ён рабіў, чым жыў многія дні. Праверка яго стараннеяў, разлікаў, прадбачлівасці, праверка яго камандзірскай вартасці.

Ён спадзяваўся, што наступленне ў цэлым будзе паспяховым: тое, што ён ведаў пра сілы праціўніка з разведвестак, што ведаў пра свае войскі, пра падрыхтаванасць да такой складанай аперацыі, давала яму падставы лічыць: наступленне ў цэлым павінна быць паспяховым. Падрыхтоўка, ён быў упэўнены, зроблена ў цэлым непагана, ёсць, па пільных разліках, дастатковая перавага ў людзях, і асабліва — у тэхніцы. Ёсць — здольныя, вопытныя камандзіры. Але ўсё гэта ўсё ж не давала яму спакою. Поспех, ён помніў, залежаў не толькі ад яго. Залежаў ад многага і — ад многіх. Ці мог ён быць зусім спакойны хоць бы таму, што нават сярод

тых, з якімі добра пазнаёміўся, бачыў: ёсць і здольныя, з глыбокім, творчым розумам, у лепшым значэнні камандзіры, і ёсць — недалёкія, без божай іскры выканаўцы. Ёсць, нарэшце, і такія, якіх ён не мог як след распазнаць. І за якіх, хоць бы па гэтай прычыне, не можа быць зусім упэўнены. А да гэтага — хто можа сказаць, што ў яго не было ніякіх памылак у разліках, у выбары, напрыклад, месцаў для прарываў? І хто можа сказаць, як дорага абыдуцца яго і іншых камандзіраў памылкі і пралікі? Якія пачнуць адкрывацца толькі цяпер, калі не ўсё можна паправіць. Або — паправіць са стратамі, памер якіх немагчыма прадбачыць.

Ён быў па натуры заўсёды нецярплівым. Гэта яго нецярплівасць давалася яму ў знакі кожны раз перад важнай падзеяй. Тут яна асабліва выказвала сябе: упершыню даводзілася яму рабіць такую складаную, цяжкую і разам — адказную справу. Яго нецярплівасць, якая расла з дня ў дзень, па меры таго як набліжалася наступленне, цяпер дайшла да сваёй найвышэйшай мяжы. Гэта быў самы цяжкі, самы напружаны момант для яго — можа, не толькі за ўсе гэтыя дні, а і за ўсё жыццё.

Усё сышлося, ціснула разам: і неспакой за правы фланг, дзе быў Люднікаў, і клопат, як пачынаюць Крылоў, Галіцкі, Глаголеў; і насцярожанасць ад няведання: як там, на тым баку. Дзе абапал магістралі, закапаўшыся ў зямлю, за бетонам і жалезам сядзеў са сваёй упартай 78-й штурмавой дывізіяй Траут; дзе ўсцяж па фронту спадзяваліся ўтрымацца іншыя нямецкія дывізіі.

Як яно пойдзе?..

Першыя весткі, што прыходзілі з розных кірункаў, з упраўленняў і армій, здавалася, не павінны былі б выклікаць трывогу ў ім. Падрыхтоўка, якую зрабілі артылерыя і авіяцыя, мяркуючы па вестках, прайшла ў цэлым арганізавана, з поспехам, войскі пачалі наступленне ў час, у адпаведнасці з планам; не марудзячы. выкарыстоўваючы тое, чаго дабілася артылерыя. Рушылі ўслед за агнявым валам, рабілі ўсё, каб не даць ворагу апамятацца.

Але хоць не было нібы прычын для новых трывог, неспакой у ім не толькі не спадаў, а яшчэ мацнеў,— дасягнуў, можна сказаць, найбольшай сваёй сілы. Пры-

чынай яго неспакою было тое, што іменна ў гэты момант, адчуваў ён, павінна будзе рашыцца ўсё, што было самым важным для яго, усё, чаму ён аддаў столькі сілы і што стала сэнсам яго жыцця.

Ад таго, што ён так нецярпліва, напружана чакаў, час, здавалася, цягнуўся нязносна павольна. Каб суцішыць прыкрае чаканне, падагнаць час, Чарняхоўскі то сядаў за стол, браўся працаваць, то кідаў усё, хутка, імкліва хадзіў па пакоі. Як бы знарок, кожны раз, калі ён падыходзіў да стала, вочы яго траплялі на тэлефоны,— рукі проста цягнуліся да іх, але ён стрымліваў сябе. Ён ведаў, што ў гэты час усе камандуючыя армій захоплены сваімі клопатамі. І акрамя таго, ён ведаў, ніхто з камандуючых нічога важнага, істотнага не скажа пакуль. І што самае галоўнае: яму цяпер няма неабходнасці гаварыць: бо нічым не можа памагчы. Нічога не можа змяніць. Бо ўсё толькі пачынаецца, бо момант гэты залежыць адно ад таго, што зроблена раней. Ад таго, наколькі правільна было вызначана сапраўднае становішча. І ад таго, што нельга ні выявіць, ні прадбачыць загадзя. І што пачне адкрывацца толькі цяпер.

Ён адчуваў адно: увесь фронт пачаў бітву. Самы цяжкі, напружаны момант яе. Момант, калі вораг, як бы ні быў ён аслаблены артпадрыхтоўкай і ўдарамі авіяцыі, яшчэ ў вялікай сіле. Калі машына праціўніка працуе амаль на поўную моц. Калі яшчэ дзейнічае ў яе тая зладжанасць, якая была многія месяцы.

Чарняхоўскі, здавалася, у сабе адчуваў усю тую напругу, з якой счапіўся з ворагам у бітве ў гэты момант увесь фронт, усе яго войскі...

Прыйшло некалькі хапатлівых данясенняў, што на асобных участках войскі захапілі першыя пазіцыі ворага. Добра, з поспехам пачыналі войскі Крылова, новыя абнадзейлівыя весткі былі ад Люднікава. Але разам з гэтым ён чула адзначыў, што ў арміі Глаголава поспеху не відаць...

Цяжка, проста немагчыма было сядзець у бліндажы, чакаць. І ён зноў выйшаў на НП. Заўважыў: бой быў амаль што на ранейшым рубяжы. І па ўсім полі чарнелі нерухомыя танкі. Падбітыя, спаленыя. Над некаторымі яшчэ не апалі дымы... Вось яшчэ адзін — над вежай чорна выбухнула, узляцела полымя. Закруціў-

ся дым... З машыны выскачылі дзве постаці. Кінуліся назад ад яе...

Ён адзначыў: напружанне бою ўзрасло. Працiўнік не збіраўся адступаць...

## 4

Весткі, якія прыходзілі потым, зноў то абнадзейвалі, то трывожылі. Як і ўчора, вельмі ўдала ішлі войскі Люднікава, асабліва на левым яго флангу. Армія ўсё глыбей урэзвалася ў варожыя пазіцыі, пашырала прарыў. Зноў радавалі весткі з 5-й арміі, ад Крылова. І зноў трывожыла слаўная 11-я гвардзейская, Галіцкі,— тут толькі на поўнач ад магістралі войскі дабіваліся поспеху. І дарагою цаною.

У паласе магістралі войскі па-ранейшаму тапталіся. Трацілі багата людзей і тэхнікі і тапталіся на месцы. Без поспеху намагаліся зрушыць праціўніка і войскі Глаголева...

Усё ж фронт быў у руху. Тое, што цэлыя месяцы значылася нерухомым, цяпер у многіх месцах зрушвалася, адпаўзала. Трашчала, ламалася даўняя, назольная сталасць лініі фронту. Няхай цяжка, неахвотна, але — ламалася!

Так, спачатку — марудна, не ўсюды з поспехам — фронт уваходзіў у новы стан, стан зменнасці, якой хутка трэба было стаць асноўнай асаблівасцю жыцця тысяч і тысяч людзей. Гэта зменнасць цяпер змяняла і настрой камандуючага фронту: у аднастайнае, цягучае чаканне ўсё часцей, мацней урывалася нецярплівае, дзейнае імкненне — новых і новых падзей. Ад гэтага імкнення ў ім зноў расла энергія, якая прагнула працы. Да яго вярталіся ранейшыя дзелавітасць, дужасць.

Данясенні ўсё больш паказвалі, што амаль увесь левы фланг не можа дабіцца пералому: і левы фланг арміі Галіцкага, і армія Глаголева амаль не зрушылі немцаў з месца. Цяжка прабіваецца — але ўсё-такі прабіваецца! — армія Галіцкага на правым флангу, з паўночнага боку магістралі. Праз залітыя дажджамі балоты ўпарта, мужна імкне ў кірунку Арэхі — Выдрыца. За наступленнем тут Чарняхоўскі сачыў з асаб-

лівай увагай: ён ведаў — тут, як бы там ні было,— самае чулае месца нямецкай абароны ў раёне магістралі. Подступ да іх абароны ў паласе магістралі. Адсюль, прабіўшыся ў глыб балот, можна навіснуць з фланга над іх абаронай, а потым — і зусім абысці іх з тылу, прыгразіцца акружэннем. Гэта, быць не можа, каб не падзейнічала на іх, у тым ліку і на Траута, пры ўсёй яго вытрымцы. Трэба толькі, каб Галіцкі прабіваўся ўперад, як бы ні было цяжка...

З правага крыла фронту, з-пад Віцебска, весткі ўсё больш радавалі: пацвярджалі, што тут наступленне развіваецца ўдала і што поспех з кожнай гадзінай усё мацнее. Камандуючы 39-й Люднікаў, што пачаў наступленне дачасна, усё глыбей уваходзіў у размяшчэнне ворага, усё павялічваў прарыў ушырыню. Ужо добра можна было бачыць клін з поўдня ад Віцебска, клін гэты цешыў прадчуваннем вялікай, важнай удачы.

Рушыла добра і 5-я армія Крылова, не зважаючы на раскіслыя ад няўчасных дажджоў дарогі і разлітыя рэчкі, балоты, якіх было столькі на шляху. Войскі нястрымна прарываліся ў кірунку на Багушэўск, важны горад на чыгуначнай лініі, што злучае Віцебск і Оршу. Удача арміі Крылова на багушэўскім напрамку і радавала Чарняхоўскага і ўсё больш прымушала вяртацца нездаволенымі думкамі да магістралі, туды, дзе стаяла, чакала сваёй пары танкавая армія. Зноў і зноў турбавала яго, і з кожнай гадзінай усё больш настойліва, адчуванне, што танкі Ротмістрава трэба перакінуць у раён арміі Крылова, увесці ў кірунку на Багушэўск.

Як ні ўскладнялася становішча, чым больш акрэслівалася яно, тым больш сабраным, цвёрдым станавіўся Чарняхоўскі. Адыходзіла самае паганае: няпэўнасць, якая прымушала губляцца ў здагадках, звязвала па руках і нагах; па меры таго як вызначалася становішча, ясней адкрывалася поле для дзейнасці. Тое, што становішча было няроўным, што яно змянялася і ставіла ўсё новыя задачы, надавала яго імкненню дакладны, дзейсны сэнс. Яго нібы ўцягвала ў сябе зменлівае напружанне бітвы, у якой цяпер — і з часам усё больш,— адчуваў ён, патрэбна была яго кіруючая воля. Ён жыў ужо змястоўным, імклівым клопатам пра арміі, карпусы, дывізіі, якія былі ў такім зменлівым, розным

становішчы, наступалі з такім розным поспехам, перадольвалі такія розныя перашкоды; прабіваліся наперад і тапталіся на месцы. Усё новыя і новыя задачы ўзнікалі перад ім, патрабавалі яго. І ён аддаваўся ім, жыў імі, не заўважаючы ўжо нічога іншага.

Камароў, які, як заўсёды, быў нязменна побач, у цеснай баковачцы, чуў, як ён прасіў звязаць яго то з камандуючым 31-й арміі, то з камандуючым 11-й гвардзейскай, то з начальнікам штаба, то з упраўленнямі. Убягаючы з абавязкам даручэнца раз-пораз у бліндаж камандуючага, Камароў бачыў, як хутка хапае ён позіркам змест радыёграм, як, схіліўшыся над сталом, робіць адзнакі на карце, углядаецца ў яе, быццам хоча прачытаць штосьці схаванае ўглыбіні, як засяроджана, заклапочана ходзіць.

Часта, убягаючы, Камароў бачыў яго каля тэлефона.

— Развівайце поспех дывізіі! — гаварыў-раіў Чарняхоўскі, выпрастаўшыся на ўвесь рост, прыжмурыўшы вочы. Не заўважаючы Камарова.— Узмацніце яе — артылерыяй і танкамі. Яе поспех адкрывае перад вамі добрыя перспектывы. Вы дарэмна недаацэньваеце яго...

— Вы не баіцеся за свой левы фланг? Не? — чуў Камароў, паявіўшыся пазней. Каб напомніць пра позні абед, які трэці раз прыносілі ў яго бакоўку. Камандуючы глянуў насустрач, узняў брыво, нібы пытаўся: з якою навіною? — але Камароў не стаў перабіваць яго, нават выцягнуўся гатоўна.— Не баіцеся? — прамовіў Чарняхоўскі ў тэлефонную трубку стрымана, але вельмі нездаволена.— Дарэмна. За яго трэба баяцца — ён у вас кепска прыкрыт.— Нецярпліва паслухаў, што яму казалі, адрэзаў строга: — Гэта — не рызыка! Гэта проста легкадумства. Тактыка «авось».— І ўжо тонам загаду: — Прыкрыйце фланг. Зараз жа.

— Вы не выконваеце задачы, топчацеся! — жорстка, з гневам вымаўляў ён камусьці. Цвёрда, бязлітасна паўтарыў: — Топчацеся, траціце выгадны момант! Даяце немцам сабрацца з сіламі! Падводзіце суседзяў! З-за вас наступленне пад пагрозай зрыву! А сілы ў вас досыць, каб пагнаць! Як належыць, пагнаць!..— Камандуючы паабяцаў: — Я пазваню праз гадзіну.

5

Пад канец першага дня войскі левага фланга 39-й арміі прабіліся на дзесяць — пятнаццаць кіламетраў у глыб нямецкай абароны, фарсіравалі рэчку Лучэсу. Дзесяць-адзінаццаць кіламетраў прайшлі і войскі 5-й арміі. Фронт войск праціўніка быў прарваны на шырыню да пяцідзесяці кіламетраў.

Тут жа, у паласе магістралі, цяжкія, упартыя баі не далі поспеху. Не зважаючы на ўсе намаганні, авіяцыя, артылерыя, стралковыя часці, што багата разоў уздымаліся ў наступленне, так і не здолелі зламаць ворага ў гэтым раёне. Толькі на поўнач ад магістралі войскі 11-й гвардзейскай арміі здолелі з нечалавечай упартасцю прабіцца на два-тры кіламетры ўперад.

31-я армія генерала Глаголева, што наступала на поўдзень ад магістралі, пад канец гэтага цяжкага дня была амаль на тых жа самых пазіцыях, што і ўранку.

З супярэчлівымі пачуццямі падпісваў Чарняхоўскі данясенне ў Стаўку пра вынікі першага дня наступлення фронту. Вельмі сур'ёзнай усё ж была няўдача на левым крыле, каб можна было заплюшчваць на яе вочы з-за таго, што на поўначы наступленне пайшло проста выдатна. З неспакоем думалася пра тое, як гэта няўдача на левым флангу будзе ацэнена ў Стаўцы, асабліва, як паставіцца да яе Сталін.

Як ні прыкра гэта, відаць ужо, што наступленне на важнейшым кірунку не ўдалося, захоп важнейшай камунікацыі пакуль што сарваўся. Ясна, што, як там ні будзе далей, няўдача гэта, хоць часова, затрымае развіццё наступлення, адцягне, затрымае вялікую частку войск.

Якраз у гэты час генерал Алёшын, начальнік разведаддзела фронту, далажыў: ад палоннага афіцэра-артылерыста стала вядома, што немцы да пачатку наступлення заўважылі канцэнтрацыю артылерыі ў раёне магістралі, змаглі засекчы многія батарэі. Слухаючы гэтыя весткі, Чарняхоўскі ўспомніў тое, што бачыў з НП: значыцца, ён не памыліўся, палічыўшы, што наступленне тут не было для немцаў зусім нечаканым. У гэтым немалая доля прычыны няўдачы ў паласе магістралі. Няўдачы, адказнасць за якую павінен не-

сці і 5-ты артылерыйскі корпус прарыву, што не змог скрыта заняць пазіцыі, як належыць замаскіраваць батарэі. Адказваць ён павінен, вядома, разам з камандаваннем абедзвюх армій, што не здолелі добра разведаць сістэму агню праціўніка, арганізаваць дакладна агонь сваіх часцей...

Хто там ні вінаваты, у Стаўцы віна за тое, што адбылося тут, будзе выглядаць найперш яго віною, і, можа быць,— толькі яго віною. І вывад гэты не будзе несправядлівым: у гэтым, пэўна, заканамерная праява той адказнасці, якую належыць несці за ўсё яму, камандуючаму фронту, хто б там ні быў яшчэ вінаваты, акрамя яго...

Думкі гэтыя амаль адразу ж адышлі. Не было калі разважаць пра такія далікатнасці. Яго чакалі, патрабавалі да сябе неадкладныя клопаты. Трэба патурбавацца пра заўтрашні дзень. Даць распараджэнні на заўтра. Заўтра — вельмі важны, нялёгкі дзень.

Ён звязаўся са штабам фронту, ■ начальнікам штаба генералам Пакроўскім. Аляксандр Пятровіч — пунктуальны, крытычны чалавек, вопытны штабіст, Чарняхоўскі ўважліва прыслухоўваўся да яго ацэнак становішча на асобных участках фронту, да яго меркаванняў аб перспектывах на будучае. Уважліва, падрабязна памеркавалі пра работу штаба, яго аддзелаў на заўтра. Тады Чарняхоўскі выклікаў камандуючага 1-й паветранай арміі. Запрасіўшы генерал-лейтэнанта Громава сесці, стоячы за сталом, коратка, у дакладных словах растлумачыў новае становішча фронту і ў сувязі з гэтым новыя задачы авіяцыі. Падавіць супраціўленне войск, якія ўпарта абараняюцца ў паласе магістралі і на поўдзень ад яе, падтрымаць войскі, што развіваюць наступленне ў раёне Віцебска і ў кірунку Багушэўска. Сарваць перакідку ворагам рэзерваў з тылу. Наносіць і далей удары па важных станцыях, пунктах забеспячэння праціўніка. Схіліўшыся над картай, разам дамовіліся пра асноўныя цэлі, найбольш важныя кірункі дзейнасці авіяцыі. Камандуючага бранятанкавых войск фронту генерала Родзіна, які толькі што вярнуўся з 2-га танкавага корпуса, Чарняхоўскі папрасіў далажыць, як перадыслакаваўся корпус на новы рубеж і становішча ў ім. Паведаміў абстаноўку ў 11-й арміі на ўчастку ўводу корпуса і папярэдзіў: усё

падрыхтаваць, каб корпус мог у любы момант без затрымкі, ў найкарацейшы час пераправіцца праз балоты. Сам былы танкіст, ён клапаціўся пра танкістаў з асаблівай увагаю, не ўтрымаўся, каб не даць генералу Родзіну некалькі парад са свайго танкісцкага вопыту, што да пераправы цераз балоты. Тады перайшоў да новага клопату, да 5-й гвардзейскай танкавай арміі. Сказаў: становішча складваецца так, што 5-ю гвардзейскую танкавую армію, можа быць, прыйдзецца перадыслакаваць таксама. Увесці ў паласе войск Крылова, на багушэўскім кірунку. Папрасіў прадугледзець усё, што неабходна для гэтага...

З начальнікам інжынерных войск генералам Баранавым гаворка, акрамя многага іншага, зноў ішла пра 2-гі танкавы корпус: інжынерныя падраздзяленні павінны зрабіць усё, каб пераправа танкавага корпуса праз балотны масіў ішла без затрымкі. Ачысціць ад мін, выслажыць, дзе трэба, фашынамі насып вузкакалейкі, падрыхтаваць масты. Генералу Барсукову, камандуючаму артылерыі фронту, давялося паслухаць нямала і непрыемнага: Чарняхоўскі нелагодна аб'явіў, што артылерыя ў паласе магістралі дзейнічала кепска, што ён нездаволены вынікамі. Цяпер гэта факт: варожыя пазіцыі былі разведаны неахайна. Парушэнні маскіроўкі артылерыяй прывялі да таго, што нечаканасць агнявога ўдару была страчана...

Час ішоў у турботнай дзейнасці. Тады, калі Чарняхоўскі ўжо даваў распараджэнні камандуючым армій, пазваніў камандуючы 39-й Люднікаў. Генерал далажыў пра вынікі наступлення за дзень, расказаў пра становішча войск, папрасіў узнагародзіць салдат і афіцэраў, якія вызначыліся адвагай, ініцыятывай. Увесь час, па тым, як стрымана ён гаварыў, Чарняхоўскі адчуваў, што камандуючы арміі ўпотай непакоіцца, помніць сваю віну.

— Прысылайце рэляцыі, узнагароды не затрымаем,— сказаў ён лагодна Люднікаву, які, мусіць, ужо думаў, што гэтым і скончыцца. Чарняхоўскі ж, памаўчаўшы, запытаў патрабавальна: — А чаму вы, Іван Ільіч, скрылі, як і калі пачаліся вашы атакі? За гэта, між іншым, таксама тое-сёе належыць. Не ведаю толькі — ордэн ці спагнанне...

Люднікаў адказаў, што гэта можа рашыць толькі камандуючы.

Чарняхоўскі прамовіў мякчэй:

— Добра тое, што добра канчаецца.

Калі аддаў неабходныя распараджэнні на заўтрашні дзень, адчуў, што стаміўся. Устаў, пахадзіў па бліндажы, стараючыся разагнаць стому. Стома не адыходзіла. У галаве не было звычайнай яснасці. Адбіваліся, пэўна, шматдзённае напружанне і недасыпанне. І, вядома, сённяшняе хваляванне.

Ён папрасіў, каб падалі вячэру. Павячэраўшы, зноў хадзіў па бліндажы, спрабаваў развеяцца. Але ў думкі зноў лезла напамінанне пра няўдачу ў паласе магістралі. Думкі гняло адчуванне — вялікія страты. Вочы самі сабой выхоплівалі кожны раз, як праходзіў паўз стол, тую знаёмую пляму, якая абазначала нерухомыя пазіцыі ворага, магістраль, 78-я штурмавая, упарты Траут.

Зноў турбавала 5-я танкавая армія. Падумаў са шкадаваннем: Ротмістраў меў рацыю — не трэба было пакуль падцягваць яе да пярэдняга краю. Цяпер давядзецца адводзіць назад, да былога размяшчэння, і ўжо адтуль, па ракаднай дарозе, у паласу Крылова... Зноў думаў пра няўдачы, пра іх прычыны. Бачыў выявілі, што і вывучкі войск аказалася малавата. Не хапіла часу ўсё-такі. Войскі трэба было больш вучыць, як наступаць. А не капаць бясконца акопы. Столькі часу ўбілі на акопы — якога было так мала. Капаць, вядома, трэба было для маскіроўкі. Але не так сур'ёзна... І ці трэба было так позна фронт дзяліць, амаль перад самым наступленнем. Няўжо нельга было зрабіць гэта раней? Столькі часу патрацілі на перабудову!..

Стомлены неспакоем ад няўдачы на поўдні, трывожнымі думкамі, што не давалі перадыхнуць, ён пашкадаваў, што не можа пакінуць КП, рынуць на машыне па франтавой дарозе. Глянуць на ўсё сваімі вачыма, ажыць ураз. Не можа, абавязаны быць тут. Можа толькі зрабіць вылазку ў бліндаж аператыўнага ўпраўлення. Тут жа, пад зямлёй.

Калі ён увайшоў у бліндаж упраўлення, афіцэры, што апрацоўвалі матэрыялы, якія прыходзілі з фронту, адразу заўважылі яго, паўставалі. Ён адзначыў, былі

задаволены, што ён прыйшоў. Чарняхоўскі прывітаўся з усімі, ветліва прайшоўся позіркам па тварах. Афіцэры глядзелі на яго з такім выглядам, быццам чакалі, што ён скажа штосьці важнае.

Пад нагамі некалькі разоў запар хіснулася зямля. Здрыгануліся жоўтыя, з сасновага бярвення сцены.

— Не сціхае... — кіўнуў камандуючы кудысьці за бліндаж. Кіўнуў і прамовіў са значэннем: — Не сціхае, не слабее бітва.

— Не сціхае!..

Чарняхоўскі сярод іншых адзначыў голас шчуплага, ціхмянага падпалкоўніка Арыкі. Камандуючы даўно сімпатызаваў разумнаму і сціпламу падпалкоўніку: лічыў, што ён багата можа зрабіць. Талент ды яшчэ працавітасць...

Чарняхоўскі, быццам толькі для гэтага і прыйшоў, засяроджана, дзелавіта павярнуўся да начальніка аперупраўлення.

— Таварыш генерал, прашу апошнія данясенні. І — зводку страт. Людскіх і тэхнікі.

Павярнуўся зноў да іншых, тонам разам і строгім і таварыскім загадаў:

— Астатнім, акрамя дзяжурных,— спаць! Заўтра — многа працы будзе!

Калі вяртаўся ў свой бліндаж, зноў успомніў падпалкоўніка Арыку. Удумлівы, працавіты і да ўсяго — якая сціпласць! Якая чалавечая прывабнасць!.. Радаснай цеплынёй адазвалася, калі згадалася, якімі позіркамі сустрэлі. Ад адчування гэтага ішоў ужо як бы без нядаўняга цяжару на плячах. Быццам пабачыў нанава, што цяжар гэты дзеляць і ім. І дзеляць надзейна. Каму-каму, а яму — грэх скардзіцца...

Іголкіна не трэба было доўга чакаць. Разам разгледзелі, абмеркавалі апошнія данясенні. Уважліва, сумна вывучылі зводку страт. Страты былі вялікія, і найбольшыя ў паласе магістралі. І найбольшыя —і што асабліва гняло, у паласе магістралі — марныя...

Правёўшы Іголкіна да дзвярэй, параіўшы і яму лепчы адпачыць, Чарняхоўскі вярнуўся да стала. Вочы зноў мімаволі знайшлі на карце дэфіле, рыску магістралі. Ён адарваўся ад карты, пацягнуўся рукой да апарата ВЧ: можа быць, Васілеўскі ўжо вярнуўся. Увесь дзень маршал, ведаў Чарняхоўскі, правёў пад Віцеб-

скам, у войсках Першага Прыбалтыйскага і ў арміі Люднікава.

Падумаў, што, відаць, не вярнуўся: калі б вярнуўся, напэўна, пазваніў бы. Чарняхоўскі не памыліўся: у трубцы адазваўся голас дзяжурнага пры ўпаўнаважаным Стаўкі. Дзяжурны пацвердзіў — маршала яшчэ няма.

Перад тым як легчы, Чарняхоўскі не ўтрываў, выйшаў зноў на НП. На ўсходзе, мусіць, ужо святлела, а ў амбразуры неба было цёмнае. Унізе гарэлі там і тут пажары, і ад іх яно чырванела трывожна. Чырванела і то ўздымалася, то ападала.

У няспынным, блізкім і далёкім, грукаце, белых успышках ракет Чарняхоўскі чуў яшчэ неастылы напал бітвы. Напружанае, частае дыханне байцоў, што счапіліся насмерць...

6

І ў гэты дзень наступленне перад вышынёй 208,5 ішло амаль без поспеху. Чарняхоўскі, што некалькі разоў выходзіў на НП, бачыў, як неба паласуюць «эрэсы», бачыў, як імкліва, пагрозна праносяцца штурмавікі.

Увесь дзень без перадыху малаціла артылерыя, зямля грымела, гарэла, дым засцілаў усё наперадзе, але пяхота, што багата разоў уздымалася ў наступленне, усё не магла прыкметна зрушыць праціўніка. Выходзячы на НП, Чарняхоўскі бачыў, што баі ідуць амаль на адным і тым жа месцы.

Весткі, якія па тэлефонных правадах, шыфраванымі радыёграмамі, дакладамі начальніка аператыўнага ўпраўлення прыходзілі на КП, казалі, што на ўсім паўднёвым крыле наступленне ідзе, як і раней, цяжка, з вялікімі стратамі. Калі б ход бітвы вызначалі толькі весткі з паўднёвага фланга, можна было б лічыць, што наступленню пагражае няўдача.

Але як ні непакоіла Чарняхоўскага становішча на поўдні, ён адчуваў, што з кожнай гадзінай наступленне ў цэлым набірае ўсё больш сілы. Нават з арміі Галіцкага, з правага яе фланга, дзе войскі пракладвалі сабе дарогу праз моцныя абарончыя вузлы, па дрыгве Асінаўскіх балот, ішлі ўсё больш абнадзейлівыя весткі.

Выбіўшы немцаў у цяжкім баі з Вострава Юр'ева, магутнага вузла нямецкай абароны, войскі 11-й гвардзейскай праз вузлы ў глыбіні абароны Арэхі і Выдрыца прабіваліся на Грышань, на Межава. Поспехі гэтых войск Галіцкага вельмі хвалявалі Чарняхоўскага: па меры таго як яны разбуралі нямецкую абарону, набліжалася пара, калі зможа выйсці на аператыўны прастор танкавы корпус генерала Бурдзейнага. Пару гэту Чарняхоўскі чакаў з нецярплівасцю, што не забывалася сярод усёй навалы турбот і клопатаў.

Весткі з правага крыла фронту радавалі што далей — больш. Войскі 39-й арміі сёння рушылі яшчэ хутчэй. Абыходзячы з поўдня ўсё далей Віцебск, 5-ты гвардзейскі стралковы корпус 39-й арміі настойліва ішоў на Астраўно, на Гняздзілавічы, дзе яму трэба было злучыцца з часцямі Першага Прыбалтыйскага фронту, завяршыць акружэнне віцебскай групы ворага.

Радавала Чарняхоўскага і тое, як ішло наступленне 5-й арміі генерала Крылова, што вяла бai ў кірунку Багушэўска. Армія прабілася да рэчкі Лучэсы, фарсіравала з боем яе, вырвалася на шасэ Віцебск — Орша: перарэзала ўслед за войскамі Люднікава прыфрантавую камунікацыю немцаў. Не збаўляючы націску, армія пайшла далей, на Багушэўск, і з ходу, штурмам, узяла горад. Поспех войск Крылова быў асабліва важны таму, што ў прарыў, зроблены імі, стала магчыма ўвесці першую моцную рухомую групу, пачаць развіваць наступленне ў аператыўнай глыбіні нямецкай абароны. Ужо ўдзень Чарняхоўскаму далажылі, што група гэта ўвайшла ў прарыў. Мехпяхота, танкі, коннікі — механізаваны корпус генерала Абухава і конны — генерала Аслікоўскага — рынулі ў варожыя тылы.

З самага ранку з нецярплівасцю, якая ўсё расла, Чарняхоўскі думаў пра 5-ю гвардзейскую танкавую армію. Чым больш разгортвалася наступленне, тым больш вярэдзіла яго турбота пра армію Ротмістрава, якую няўдача войск у паласе магістралі вымушала стаяць без карысці, і цяпер і невядома які час потым. Разуменне таго, што такую магутную сілу нельга было трымаць бяздзейнай, прымушала яго з пільнай увагай углядвацца туды, дзе ўсё з большым поспехам ішлі войскі Крылова. Да ўсяго ў той ранак генерал Іголкін між іншага далажыў яму, што ўзяты ў палон ранены

нямецкі зенітчык паведаміў, што іх 25-я зенітная артылерыйская дывізія пастаўлена ў паласе магістралі з задачай адбіваць танкавае наступленне рускіх.

Гэты факт, які Чарняхоўскі асабліва адзначыў як доказ таго, што немцы найбольш чакаюць наступлення танкаў па магістралі, разам з тым быў камандуючаму фронту яшчэ адным довадам, які скіроўваў яго ўвагу да войск, што наступалі на багушэўскім напрамку.

Але для таго, каб змяніць зацверджанае Стаўкай рашэнне, што абавязвала ўводзіць танкавую армію ў прарыў па магістралі, патрэбна была згода ўпаўнаважанага Стаўкі. Яшчэ па ранейшай дамоўленасці маршал Васілеўскі неўзабаве павінен быў прыехаць на КП, і Чарняхоўскі цяпер нецярпліва чакаў яго. Калі з кантрольна-прапускнога пункта пазванілі, што маршал прыехаў, Чарняхоўскі з генералам Макаравым адразу па ходзе злучэння пайшлі насустрач.

За маршалам Васілеўскім, запыленым, у генеральскай фуражцы і камбінезоне,— Чарняхоўскі ўбачыў, таксама прытомленага і прапыленага, камандуючага 5-й гвардзейскай танкавай арміі. Чарняхоўскі ледзь не ўсміхнуўся: нібы знарок! на лаўца — звер! — але стрымаўся: сустрэча была сур'ёзная. Ды і заўважыў: маршал Ротмістраў глядзеў з-за акуляраў насцярожана, нездаволена.

Калі прыйшлі на КП, Чарняхоўскі сцісла далажыў упаўнаважанаму Стаўкі, як развіваецца наступленне. Асабліва зазначыў, што няўдача ў паласе магістралі прымушае прыняць некаторыя, адпаведныя абстаноўцы, новыя рашэнні. Сабраны, рашучы, ён зірнуў на маршала Васілеўскага, прамовіў тым тонам, які выказваў цвёрдае перакананне ў тым, што гаворыць:

— Таварыш маршал, прашу дазволіць 5-ю гвардзейскую танкавую ўвесці ў паласе арміі генерала Крылова.

Удумлівы, уважлівы позірк маршала Васілеўскага перайшоў на маршала Ротмістрава, што хмурна, прытоена сядзеў каля другой сцяны. Чарняхоўскі заўважыў: гэты позірк нібы гаварыў пра нешта, ранейшае, вядомае абодвум,— Чарняхоўскі не зразумеў, пра што.

Ротмістраў сядзеў, крыху нахіліўшыся, вусы тапырыліся, выразу вачэй за акулярамі не было добра ві-

даць. Чарняхоўскі адно ўлавіў: Ротмістраў нервова варухнуўся.

— Я згодзен,— прамовіў Васілеўскі павольна, спакойна, і Чарняхоўскі адчуў: маршал, відаць, таксама думаў пра гэта.

Тут жа Ротмістраў атрымаў задачу: да раніцы 25 чэрвеня сканцэнтраваць 5-ю гвардзейскую танкавую армію на зыходным рубяжы, у паласе 5-й арміі Крылова, з такім разлікам, каб уноч 26 чэрвеня ўвайсці ў прарыў. Увайшоўшы ў прарыў, наступаць у кірунку Талачына; заняўшы Талачын, развіваць наступленне у паласе Мінскага шасэ ў раён Барысава.

## 7

Раніца 25 чэрвеня прыйшла ў сонечным бляску. У нязвыклай, урачыстай цішыні. Упершыню за некалькі сутак, якія быў тут, Чарняхоўскі змог выйсці наверх, парадавацца сонцу, роснай свежасці.

Радасць, праўда, была мімалётнай і стрыманай: усё навокал нагадвала нядаўняе. Свежыя варонкі, чорныя выпаліны сярод травы, незлічоныя раны на дрэвах — бярозах, асінах. Непадалёк страшна чарнелі нерухомыя танкі — з вежамі, без вежаў...

Заклапочаны, Чарняхоўскі спусціўся ў бліндаж.

Генерал Іголкін увайшоў з такім выглядам, што Чарняхоўскі з аднаго позірку ўлавіў: з вясёлымі весткамі.

— Лёд крануўся, таварыш камандуючы! — аб'явіў начальнік аператыўнага ўпраўлення задаволена, паюначы звонка. Нізкаваслы, моцны, ён схіліў голую, бліскучую галаву над картай, зазваў парадавацца: — 26-я і 84-я гвардзейскія дывізіі ўзялі Шалашына і ў добрым тэмпе ўсцяж магістралі выходзяць на рубеж Юрцава — Бурдзюкі! Выбраўся на прастор і набірае хуткасць 2-гі гвардзейскі танкавы корпус. Перадавы атрад корпуса перахапіў шасэ Віцебск — Орша і заняў Клюкаўку.— Абедзве вёскі і станцыя Клюкаўка знаходзіліся на поўнач ад Оршы.— Немцы ў Оршы адчулі пагрозу акружэння. З гэтай прычыны ў праціўніка, мяркуючы па радыёперахватах, пачалося вялікае хваляванне. У тым ліку — у 78-й штурмавой дывізіі генерала Траута...

— Не вытрымалі нервы ў жалезнага Траута,— адгукнуўся Чарняхоўскі.

— Не вытрымалі. 78-я дывізія пачала адыходзіць. Праўда, яшчэ агрызаючыся.

Войскі 5-й арміі Крылова, што ўзаемадзейнічала з конна-механізаванай групай Аслікоўскага, вялі баі ўжо далёка за Багушэўскам, які вызвалілі ўчора. Перадавыя атрады набліжаліся да горада Сянно, важнага вузла дарог. Яшчэ больш важныя навіны былі з правага фланга, з 39-й арміі Люднікава. Частка войск арміі прарвалася ў Віцебск, выбівала ворага з горада, а другая — 5-ты гвардзейскі корпус — была далёка за Віцебскам, у раёне Гняздзілавіч. Сыходзілася з войскамі Першага Прыбалтыйскага, завяршала акружэнне ўсёй віцебскай групы немцаў.

Навіны былі такія, што лепшага і чакаць нельга было. Але Чарняхоўскі не выказаў вялікай радасці, быццам узяў на ўвагу ўсё як належнае. Гэта было даўняе, нязменнае правіла: ці неспакой, ці радасць — трымаць у сабе, не даваць ім асабліва волі. Пачуцці расслабляюць.

Усё ж, як ні стрымліваўся, тое, што пачуў, моцна хвалявала яго. Захапляў вялікі, імклівы рух, у якім былі цяпер войскі фронту, узрушвала напружанае вiраванне агромністага, магутнага жыцця. Чарняхоўскі з нецярплівай радасцю адчуваў, што яшчэ адзін, другі моцны ўдар — і вораг не вытрымае, пабяжыць.

З радасцю было нездавальненне: ад таго, што момант быў такі важны, такі зручны для ўдару, што так трэба было біць усёй сілаю, не даваць ворагу перадышкі, ён адчуваў асаблівае нездавальненне тым, што магутная частка войск фронту — танкавая армія Ротмістрава — пакуль не ўдзельнічае ў бітве. Яго не супакойвала, а напаўняла яшчэ большай нецярплівасцю тое, што чакаць уводу арміі ў прарыў засталося нядоўга. Што, як паведамілі яму, армія ўжо сканцэнтравалася на зыходным рубяжы. У гэтай нецярплівасці было і неспакойнае прадчуванне таго, што зробіць армія, калі ўвойдзе ў прарыў, у поўнай сіле, ва ўсёй, нiколькі не патрачанай магутнасці Каб падмацаваць гэту магутнасць, прыкрыць танкавую армію ад варожых самалётаў, ён выдзеліў з 1-й паветранай арміі, што падтрым-

лівала наступленне фронту, моцную падмогу — чатыры авіяцыйныя карпусы і дзве дывізіі. Усё, што мог выдзеліць.

Сярод мноства вестак, важных, дзелавых, што ішлі ў гэты дзень на КП камандуючага фронту, адна была асабліваю. Не толькі таму, што яна мела асабісты характар, а і таму, што паведамляла пра няшчасце. Несла гора.

Усе іншыя весткі дайшлі, гэтую затрымалі. Затрымалі перад самым камандуючым, на КП.

Узрушаны, член Ваеннага Савета генерал Макараў спачатку зайшоў на КП, насцярожана, затоена зірнуў на Чарняхоўскага: нібы хацеў праверыць сваю апаску. Камандуючы гаварыў па тэлефоне, насустрач генералу ўзняў чужаваты, паглыблены ў гаворку позірк. Член Ваеннага Савета, як мог стрымана, даў знак яму: нічога асаблівага, зайду потым, знік за дзвярыма.

У суседнім пакойчыку генерал прыпыніўся, разважліва пастаяў, папрасіў падпалкоўніка Камарова пайсці з ім. Калі яны ўвайшлі ў бліндаж члена Ваеннага Савета, генерал стаў усутыч перад падпалкоўнікам. З болесным і нібы сярдзітым позіркам на паўнаватым твары ціха запытаўся:

— Алёша, ты ведаеш, што здарылася няшчасце?..

— Якое няшчасце?

— Брат камандуючага Аляксандр загінуў...

— Падпалкоўнік Чарняхоўскі? Калі?

— Толькі што паведаміў генерал Аляксееў. Пад Аляксінічамі... Як ты думаеш — камандуючы не ведае?

— Не.

— Трэба, каб ён не ведаў. Я папрашу корпус, каб яны маўчалі пакуль. Трэба пачакаць... У яго цяпер, ты ведаеш, так напружаны нервы. Трэба паберагчы яго. Разумееш?

— Разумею, таварыш генерал.

Калі член Ваеннага Савета вярнуўся ў бліндаж камандуючага, Чарняхоўскі, што ўсхвалявана стаяў у поўны рост, нецярпліва, патрабавальна загадваў некаму:

— Трэба дзейнічаць энергічна і хутка! Час не цярпіць, таптацца няма калі!.. Рассякайце на часткі, біце па частках! Без перадыху! Каб у іх іскры з вачэй! Каб

ніводзін не выкруціўся! — Мякчэй, амаль лагодна, скончыў: — Спадзяюся на вас, Іван Ільіч!

Паклаўшы трубку, павярнуўся да члена Ваеннага Савета, прамовіў, яшчэ ўзрушаны размовай:

— З Людніковым гаварыў. Ну, вось, Васіль Емяльянавіч, магу парадаваць. Першы «беларускі кацёл» гатовы!

— Колькі ўсяго?..

— Пяць дывізій.

Чарняхоўскі назваў іх нумары.

8

На наступны дзень 2-гі гвардзейскі танкавы корпус генерала Бурдзейнага імкліва рушыў на поўдзень, у тыле нямецкіх войск абышоў аршанскі вузел, вырваўся на шасэ і захапіў станцыю Коханава, за дваццаць пяць кіламетраў на захад ад Оршы. У гэты ж дзень, у чатыры гадзіны раніцы, рынула ў прарыў 5-я гвардзейская танкавая армія маршала Ротмістрава. Да вечара, кіруючы на паўднёвы захад, яна прабілася больш як за семдзесят кіламетраў і заняла раённы цэнтр Талачын, за пяцьдзесят кіламетраў ад Оршы.

З выхадам абодвух танкавых злучэнняў на магістраль аршанская групоўка ворага аказалася адрэзанай ад тылу, страціла самы зручны шлях для адступлення. Нашы ж войскі, танкі 5-й гвардзейскай арміі, маглі рушыць проста да Барысава, да Бярэзіны.

Прабілася праз варожыя ўмацаванні, праз балоты, на прастор, нарэшце, 11-я гвардзейская армія генерала Галіцкага, пачала хутка набіраць тэмп руху. Па-ранейшаму добра, усё глыбей на захад ішла 5-я армія генерала Крылова, што ў гэты дзень перарэзала шасэ Орша — Лепель. Яшчэ далей прарвалася конна-механізаваная група.

І ў гэты дзень асабліва парадаваў Чарняхоўскага камандуючы 39-й арміі Люднікаў: часці яго, разам з войскамі Першага Прыбалтыйскага фронту, ачысцілі ад гітлераўцаў Віцебск, які больш за паўгода здаваўся такім блізкім і далёкім. Войскі Люднікава сціскалі акружаныя часці праціўніка, знішчалі іх.

Хоць не адступаў клопат пра тое, каб не даць немцам прарвацца з Оршы на захад, каб не даць вырвацца

з акружэння віцебскай групоўцы, хоць турботы нецярпліва вялі ўжо далей на захад, да Бярэзіны, Чарняхоўскі чуў усё ж, як спадае нядаўні, даўкі неспакой, які ціснуў усе дні. Што там ні будзе потым, цяпер ужо відаць: фронт варожы разбураны, разламаны. Самае цяжкае зроблена, і зроблена ■ поспехам. Цяпер адно: замацаваць поспех, развіць як толькі можна.

Тут генерал Макараў рашыў, што настала пара паведаміць нарэшце тое, што ён столькі таіў ад камандуючага.

— Іван Данілавіч,— сказаў ён, пазіраючы на Чарняхоўскага рашуча і разам вінавата.— Я вам павінен паведаміць... сумную вестку...— Чарняхоўскі зірнуў на яго, не разумеючы і, здалося, нібы не верачы. Макараў збянтэжыўся, змоўк ніякава. Нахмураны, адвёўшы ўніз вінаватыя вочы, строга, з намаганнем дакончыў: — Ваш брат... Аляксандр Данілавіч... загінуў...

— Саша? — Чарняхоўскі ўсё яшчэ быў у нейкіх сваіх далёкіх думках. Як і раней, не разумеў і нібы не верыў. Затым ужо вырваўся з далёкага. Прамовіў неспакойна: — Адкуль вам вядома?

— Генерал Аляксееў паведаміў. Яму перадалі з корпуса.— Макараў узняў вочы, стараўся гаварыць як мог спакойна, мужна.— Акрамя таго, я сам звязваўся з корпусам.

Чарняхоўскі, здалося, доўга маўчаў.

— Калі ён загінуў?

— Пазаўчора.

Зноў быў момант маўчання. Тады Чарняхоўскі прамовіў патрабавальна:

— Чаму не паведамілі раней?

— Гэта — па маёй просьбе.— Дзіўна: Макараў гаварыў цяпер спакайней: нібы самае цяжкае было ззаду.— Вам тады было вельмі цяжка...— растлумачыў ён чула.

— А цяпер — лёгка...

Чарняхоўскі памаўчаў нездаволена, потым стомлена апусціўся на крэсла, папрасіў:

— Што вам вядома — як ён загінуў?

Увесь час, пакуль член Ваеннага Савета гаварыў, Чарняхоўскі моўчкі пазіраў у адну кропку на карце, што была разаслана на стале. І пасля, калі генерал Макараў скончыў, таксама маўчаў.

— Іван Данілавіч, можа — на магілу з'ездзілі б?

Чарняхоўскі на момант задумаўся. Сказаў са шкадаваннем, але цвёрда:

— Не. Не змагу.

Ён зварухнуўся, выклікаў суседняга пакоя даручэнца. Калі той з'явіўся, папрасіў стрымана, лагодна:

— Вось што, Алёша. З'ездзі на месца, дзе пахаваны Саша. Паглядзі, ці ўсё там як належыць. Калі што трэба — зрабі. Вазьмі ў часці рэчы яго. На памяць сям'і...

Чарняхоўскі выйшаў з бліндажа.

Пачынала днець. Сонна пракрычала непадалёк нейкая птушка.

Чыстае перадранішняе паветра халадзіла, бадзёрыла. Паволі адыходзіла змора. Але на душы яго было журботна, даўка.

«Саша...»

Згадалася далёкае-далёкае. Калі пахавалі маці, Саша-маленькі доўга не мог забыць яе. Яму сказалі, што маці паехала ў горад: «прывязе хлебца», ён помніў і ўсё пытаўся — калі ж яна вернецца?..

Урыўкамі ўспаміналася пазнейшае. Весткі, што прыносілі нячастыя лісты, рэдкія сустрэчы. Усе гады, пакуль Саша вучыўся, Іван дапамагаў яму — пасылаў грошы, сачыў за поспехамі ў вучобе, даваў парады. Аднойчы строга выгаварыў брату — гэта было ўжо на фронце,— калі дачуўся, што Саша багата п'е...

Усё, што прыходзіла на памяць, цяпер выклікала журботу. «Апошні раз не застаў мяне. Не ўбачыліся, і цяпер ужо — ніколі не ўбачымся...»

Прайшоўшы крыху, Чарняхоўскі заўважыў: у ляску, наводдаль ад КП, клапатліва гуркаталі цягачы. Часам даходзілі адтуль вясёлыя воклічы. Мабыць, здымалася з пазіцыі цяжкая артбатарэя. Лес, у якім нядаўна было поўна артылерыі і танкаў, пакідалі апошнія гарматы.

Усё навокал спусцела. Але гэтая спусцеласць выклікала не сум, а радавала.

Наступленне, што пярэднімі часцямі было ўжо далёка наперадзе, адводзіла за сабой апошнія падраздзяленні. Нават тут, у раёне магістралі, якая столькі

часу трывожыла яго. І камандуючага, не першы раз, з большай сілай, узяла нецярплівасць: хутчэй трэба адсюль і яму, яго каманднаму пункту...

Услед за войскамі...

## РАЗДЗЕЛ IV

### 1

Вакол быў змрок. Дарога ў ім віднелася цьмяна-шэраю ручаінаю. Аляксей Лагуновіч, седзячы на вежы, спусціўшы ногі ў сярэдзіну яе, бачыў, як бегла і бегла насустрач гэтая ручаіна, як абапал праходзілі цёмныя, ледзь відныя дрэвы, кусты, падобныя ў змроку на копы сена. Часам шэрая ручаіна надоўга прападала, машыну пачынала больш кідаць ва усе бакі: батальён ішоў наўпрасткі па полі...

Грукат пярэдняга краю паступова аддаляўся, і агністыя ўсплёскі выбухаў станавіліся падобнымі на зарніцы. Танкі ўсё глыбей уваходзілі ў тыл ворага.

Аляксей быў усхваляваны. З хваляваннем адзначаў ён усё: і змрок навокал, і дарогу, і гукі фронту, што аціхалі, і рух, рух у ноч, у невядомасць. Ад таго, што ўсё, што ён бачыў, было дарагое яму, што рух і адчуванне небяспекі былі новыя нібы, нязвыклыя яшчэ, усё, што адбывалася цяпер, хвалявала яго асабліва востра і моцна.

Неспакойна было ў Аляксея на душы.

Сумна, трывожна помнілася Аляксею тое, што ён убачыў, калі праходзіў прарыў. У водсветах чырвонага, заходняга неба на выпаленай зямлі, каля развароча-ных траншэй, нерухома чарнелі танкі. Прабітыя, узараныя, згарэлыя. Іх было многа. Аляксей і цяпер, калі ўсё гэта засталося ззаду, быццам бы чуў добра знаёмы жалезны пах гары, які заўсёды выклікаў у ім тугу. Колькі іх, сяброў незнаёмых, такіх жа, як ён, танкістаў, палегла там?!

Але як трава праз выгар і попел, у душы старшага лейтэнанта праз горыч перажытага ўпарта прабівалася, адольвала ўсё радасць. Радасць таму, што наступіла нарэшце пара, якую ён так доўга чакаў, што вось дачакаўся ўсё ж, вядзе машыны па роднай зямлі, да родна-

га дома. Гэту радасць падмацоўвала цвярозае разуменне таго, што самае цяжкае, як там ні пойдзе далей, ужо зроблена. Тое, што немцы старанна будавалі цэлага паўгода, разламана, прабіта.

Як жа было не радавацца старшаму лейтэнанту. Тым больш, што яму хацелася радасці, што гэтая радасць была нібы натуральным працягам таго настрою, якім ён жыў усе апошнія дні. Ужо звыклым для Аляксея быў той добры, асаблівы ўздым, калі хочацца працы, клопату, калі невядома адкуль бярэцца сіла, калі забываецца, што такое стома. Вось і цяпер хацелася імчаць як мага хутчэй, імчаць без упынку.

Разам з тым, як чалавек, які нямала зазнаў на фронце і добра ведаў, што такое — наступленне, баі, ён не чуў бестурботнай лёгкасці. Ён ведаў: дарога будзе жорсткая, небяспечная. Тое, што пачатак быў удалым, ведаў ён, не азначала зусім, што далей усё будзе так жа добра. З даўняга вопыту ён ведаў, як багата нечаканага можа падставіць кожны бой, і таму не цешыў сябе зманлівымі надзеямі. Хто мог сказаць загадзя, як далёка ўдасца адагнаць гэту навалач? Ці ўдасца прабіцца да яшчэ такога далёкага Мінска, вызваліць яго цяпер? А калі ўдасца войскам у цэлым, хто можа ведаць — што ў гэтыя дні, у гэтых баях будзе з ім самім, з Аляксеем? Ці дойдзе ён? І ўжо асабліва непакоіла: што чакае яго там?

Сярод ночы, глушачы гаворку тракаў, наперадзе раптам гухнуў недалёкі гарматны стрэл. Яшчэ адзін, два адразу... Там была цяпер батальённая разведка. Неўзабаве камбат перадаў, што ў бліжняй вёсцы — на іх шляху — разведка выявіла каля двух узводаў танкаў і самаходак праціўніка. Ён загадаў Аляксею, рота якога ішла ў галаўной паходнай заставе, расчысціць дарогу.

Старшы лейтэнант хутка падышоў да танкаў разведкі. Адзін танк быў падбіты і гарэў.

Аляксей пакінуў трэці ўзвод, каб вёў перастрэлку з боку дарогі, а сам з іншымі машынамі, хаваючыся ў цемры, пачаў абыходзіць вёску справа. На шчасце, тут аказалася вялікае роўнае поле.

Ён хваляваўся. Прыкра, нервова дрыжалі рукі, у

грудзях ныла неспакойнае напружанае чаканне. Вось, ліха на яго,— заўсёды так: варта толькі крыху адвыкнуць ад фронту, як зноў пачынаеш, нібы ў першы раз.

«Хоць бы не заўважылі хлопцы...»

Яму ўдалося, не стрэліўшы ні аднаго разу, дабрацца да самых агародаў.

У сярэдзіне сяла палалі некалькі хлявоў і хат. Полымя кідалася ўгару лютымі агніста-барвовымі грывамі. Ад іх на зямлі лажыліся чырванаватыя, хісткія водбліскі. З агародаў было добра відаць усё, што рабілася на вуліцы, на дварах, між абрысамі хат і хлявоў.

Адсюль Аляксей, які стаяў у адкрытай вежы, каб лепш назіраць, убачыў два нямецкія танкі. Яны стралялі па дарозе, хаваючыся за пабудовы. На дварах і на вуліцах у розных месцах увішна мітусіліся постаці. З недалёкага двара, праламаўшы плот, на вуліцу выбіраліся два грузавікі.

Аляксей разгледзеў гэта пільна і хутка. Ён спяшаўся, адчуваў, што момант вельмі важны, марудзіць нельга. Імкнучыся не страціць яго, Аляксей ужо намерыўся быў скамандаваць першыя цэлі — абодва варожыя танкі,— як яго ўвагу захапіла іншае.

З-за хлява, што быў крыху лявей тых пабудоў, якімі прыкрываліся машыны, што стралялі, вынырнуў яшчэ адзін нямецкі танк. Старшы лейтэнант убачыў яго цёмны сілуэт: танк быў павернуты ўжо ў бок нашых машын. Амаль у тую ж хвіліну там зыркнуў агонь стрэлу, і побач, са свістам рэжучы паветра, шугануў снарад.

Аляксей спрытна нырнуў уніз:

— Быстроў, злева, каля хлява...

Старшы лейтэнант не паспеў скончыць, як яго «трыццацьчацвёрка», бліснуўшы полымем, стрэліла. Быстроў лавіў каманды старшага лейтэнанта так хутка, нібы адгадваў загадзя.

Разам з машынай Аляксея стрэліла другая «трыццацьчацвёрка» — гэта была машына Колышава. Нямецкі танк хутка ўдарыў другі раз, трэці, потым, відаць, манеўруючы, стаў адыходзіць назад.

Але Быстроў і Колышаў не далі яму адысці. На варожай машыне клубам выбухнуў агонь...

Калі Колышаў убачыў гэта, ён спачатку і не паверыў сваім вачам. Не паверыў, што гэта ён, не хто іншы,

падбіў танк. Танк палаў, а яму неяк у першы момант цяжка было адчуць, што гэта — ад яго снарада, яго, Колышава! Неўзабаве, аднак, гэта недавер'е змянілася гонарам за сябе, за тое, што ён так умела ўціхамірыў фрыца.

Так ён цяпер будзе гаварыць з імі ўсімі!

Трэба сказаць, тое, што ўбачыў Колышаў, пакуль ішлі баі на прарыў, цяжка падзейнічала на яго. З усяго, што ён уведаў і перажыў у гэтыя дні, больш за ўсё ўразіла яго адкрыццё таго, як неймаверна цяжка на вайне кожнаму чалавеку. Яго гняло тое, якіх жорсткіх высілкаў, рызыкі, ахвяр патрабуе кожны крок на зямлі, якую трэба вырваць у ворага. Ад падарваных і спаленых танкаў, абгарэлых хлопцаў, якіх было столькі ў месцы прарыву, засталося ў ім, гняло яго адчуванне няўпэўненасці за сваё жыццё. Цяпер, калі ён адчуў сябе пераможцам, яму стала як бы вальней.

— Малайцы, хлопцы,— сказаў ён экіпажу весела, рашуча. Хоць ён гаварыў гэта таварышам па машыне, Колышаў чуў гэтыя словы перш за ўсё як пахвалу самому сабе. Вядома ж, у тым, што здолеў экіпаж, кожнаму зразумела, заслуга перш за ўсё яго, камандзіра.

Гэты першы поспех асабліва радаваў лейтэнанта таму, што цяпер усё, што ён рабіў, здавалася яму незвычайна значным. Ён сам сабе цяпер здаваўся іншым, чым быў зусім нядаўна, да бою, гэтага, як ён адчуваў, вялікага часу, з якога пачалося ў яго іншае, сур'ёзнае жыццё. Пачалося такім выдатным учынкам.

Некалькі «трыццацьчацвёрак» вырваліся на вуліцу. Сярод вёскі, між дамоў, полымя, мітусні грузавікоў яны выклікалі ў немцаў сумяціцу. Тое, што была ноч, яшчэ дадавала хваляванняў, неразбярыхі. Хоць некалькі танкаў немцаў і асобныя групкі яшчэ спрабавалі супраціўляцца, адчувалася, што абараняюцца яны разрознена і не здолеюць доўга ўтрымацца.

І праўда, даволі хутка яны пачалі адыходзіць за будынкі на другім баку вуліцы. Бой усё далей адступаў у цемру за сялом.

Узвод, у які ўваходзіў і Колышаў, павінен быў адрэзаць праціўніку шлях да адступлення.

Лейтэнант па агародах вывеў танк на заходнюю ўскраіну вёскі. Ашчасліўлены і ўдачай сваёй і агульным поспехам, лейтэнант быў поўны адвагі, жадання

дзейнічаць, зрабіць яшчэ які-небудзь выдатны ўчынак. Тое, што ўзводу і яму была даверана такая важная справа, абнадзеіла лейтэнанта: ён чакаў, што танкі немцаў вось-вось пачнуць адпаўзаць у яго бок і тады ён зноў пакажа сябе. Але танкі немцаў, наперакор яго спадзяванням, не паказваліся тут, пайшлі ў іншы бок, міма яго.

Тады, як лейтэнант, усё яшчэ не трацячы надзеі, узіраўся і ўслухоўваўся туды, дзе быў бой, на машыну яго ўзрадавана наскочылі трое ў нямецкіх мундзірах. У цемры, відаць, палічылі яго машыну за сваю.

Пакуль немцы разабраліся, хто перад імі, было позна. Ім не заставалася нічога іншага, як узняць рукі. Адзін з аўтаматчыкаў узняўся да лейтэнанта, запытаў, што рабіць з імі.

Што з імі рабіць, Колышаў не ведаў. Паказваючы аўтаматчыку, што рашыць гэта яму не па чыну, ён пачаў звязвацца з камандзірам узвода. Далажыў, што ёсць палонныя, і папрасіў даць указанне, куды іх адправіць.

Узводны дзіўна абыякава сказаў, што адпраўляць нікуды не трэба: — Нашто адпраўляць?!. Хутка сюды падыдзе ўся брыгада. Тады іх і здадзім...

2

Калі бой сціх, Колышаў вярнуўся ў вёску. Спыніўшы машыну, саскочыў на зямлю.

Яшчэ ўвесь апанаваны боем, ён раней за ўсё пашукаў вачыма той танк, якому так удала даў «прыкурыць». Не знайшоў: танк быў недзе за будынкамі.

Разумеючы, якое важнае, вялікае ўсё, што адбылося тут, Колышаў мімаволі чакаў і асаблівага працягу. Але тое, што ён пабачыў, здзівіла яго і проста расчаравала. Вёска была маўклівая, амаль пустая.

Ён чакаў, што адразу ж, як толькі сціхне бой, а можа, і ў часе бою, усе жыхары, без меры шчаслівыя, акружаць танкістаў, пачнуць абдымаць, дзякаваць ім. А тут навокал была панылая амярцвеласць і насцярожанасць. Нават каля хат, якія гарэлі, ніхто не завіхаўся, не трывожыўся. Гэтыя пажары сярод цішыні рабілі вёску яшчэ больш сумнай.

Толькі пазней, калі Колышаў са сваёй машынай спыніўся ў цэнтры сяла, ён убачыў жыхара.

Гэта быў вельмі пажылы чалавек, амаль лысы, з барадою, адзін бок якой недзе падгарэў; на плячах сваіх ён меў чамусьці накінуты кажушок. Стары стаяў у акружэнні танкістаў, сярод якіх Колышаў заўважыў старшага лейтэнанта і Якавенку. Стары штосьці гаварыў да Якавенкі, але пра што ён гаварыў, Колышаў праз шум недалёкіх матораў спачатку амаль нічога не чуў. Ён бачыў, як усе ўзрушаны расказам, і сам мімаволі паддаўся агульнаму хваляванню.

— Павесілі яго!..— дайшло раптам да Колышава, голаснае, роспачнае, і лейтэнант убачыў, як жорстка прыплюшчыліся вочы Быстрова, які стаяў насупраць дзеда. Стары дзіўна гыхнуў і павёў па вачах кулаком: — Няма Андрэя!

Колышаў збянтэжыўся. Яго радасць адразу патухла. Ад таго, што не чакаў, словы старога нібы ўдарылі: у іх пякло такое вялікае, няўцешнае гора.

Прыціхлы і быццам вінаваты, слухаў ён, як стары расказваў, куды падзеліся людзі.

— Адарвалі ўсіх ад сваіх хат... Акружылі з бакоў... Наставілі вінтоўку і пагналі... Толькі і засталіся тыя, хто ўправіўся ўцячы ці схавацца...— Ён сказаў, што ўсе хаваліся ў нейкім Амелькавым лесе.

Стары раптам зноў застагнаў, поўны пранізлівай тугі:

— Няма Андрэя!..

Гора старога, бяда выгнаных важка леглі на душу Колышава, прыціснулі тое лёгкае, шчаслівае, што здавалася нядаўна такім важным. Стрымана, стала ішоў ён да падбітай машыны. Яна цяпер ледзь дымілася. Лейтэнант задаволена дакрануўся рукою да гарачага жалеза. Пашукаў на брані прабоіну, якую зрабіў яго снарад, і знайшоў недалёка ад лабавіка круглую дзірку — вось яна. А можа, і другі снарад уцэліў? Колышаў знайшоў і другую прабоіну, але побач з ёю аказалася чамусьці яшчэ і трэцяя. Адкуль яна? Ён жа стрэліў два разы!

— Што, таварыш лейтэнант, вучышся, як працаваць трэба? — нечакана пачуў ён ззаду кплівы голас Быстрова.

Лейтэнант азірнуўся.

— Не, правяраю, як мой экіпаж працуе.

— Тады вам, таварыш гвардыі лейтэнант, трэба было б пайсці да другой машыны. Бо тут мая работа.

— Чаму гэта?

І Колышаў пачуў, што па гэтаму танку біў таксама Быстроў! Гэта навіна яго не тое што расчаравала, а проста аглушыла: значыцца, гэта, можа, і не ён, не Колышаў, падбіў? Колышаў паспрабаваў уцешыць сябе тым, што, як бы там ні было, усё-ткі хоць адзін снарад, ды ёсць там яго, але расчараванне ад гэтага не знікла.

Вяртаючыся да машыны, сумны Колышаў спаткаў старшага лейтэнанта. Камандзір роты запытаў у яго:

— Ну, як — страшна было?

— Спачатку было...— прызнаўся няёмка Колышаў.— А потым — прайшло...

— Прайшло?

— Забыў. Забыў, таварыш гвардыі старшы лейтэнант! — Колышаў сказаў гэта ўпэўнена і як бы з радасцю. Здалося, што знайшоў добры, трапны адказ.

Старшы лейтэнант, падобна было, не зусім паверыў яму. Паглядзеў на Колышава ўважліва, нібы ўзіраўся ў яго.

— Забыў?

Колышаў пачырванеў, быццам яго палічылі за хлуса, сказаў, апраўдваючыся:

— Не было, ведаеце, калі баяцца. Так завіхацца давялося, што ўсякае глупства вылецела...

— Вылецела?! — старшы лейтэнант параіў са значэннем: — Ну, глядзі, не ўпускай яго назад!.. Як бы ні прыйшлося!..

Камандзір роты загадаў ісці хутчэй да машыны. Сказаў, што зараз выступяць.

3

Машына ўвесь час калыхалася, падскоквала, ападала. Напружана працавалі, раўлі маторы, імкліва неслі важкую крэпасць наперад — па дарозе, праз узгоркі, рачулкі. Ствол гарматы, нацэлены туды, куды ляцела машына, то апускаўся ніжэй лініі небасхілу, то ўскідваўся ў нябесную шэрань.

На дарогах і каля іх часта віднеліся варонкі, мно-

ства варонак, вакол якіх тырчалі разбітыя, пакарэжаныя грузавікі і павозкі, валяліся раздутыя конскія трупы, далёка раскіданыя выбухамі абломкі. Было падобна на тое, нібы тут прайшоў ужо фронт. Гэта былі вынікі работы нашай авіяцыі...

Мерна-роўна, як гадзіннік, стукацелі, спяшаліся тракі. Аляксей, слухаючы гэты звыклы перастук, акружаны аўтаматчыкамі, насцярожана ўглядваўся ў маўклівыя хмызнякі, дрэвы, яры.

Толькі калі ён азіраўся назад, яго добрыя, сарамлівыя вочы весялелі.

За ім, уздымаючы, як дымавую завесу, касякі пылу, адна за адной імчалі па дарозе машыны, таксама аблепленыя аўтаматчыкамі. Танкі імчалі следам за Аляксеем з тым жа неўтаймаваным імкненнем наперад, падуладныя яго волі, яго камандзе...

Калі ўзнялося зіхатлівае сонца, над танкавымі калонамі ў бязвоблачным лагодным небе паявіліся нашы знішчальнікі. Самалёты ўвесь час патруліравалі брыгаду, ахоўваючы яе зверху,— то пралягалі наперад, так далёка, што станавіліся ледзь віднымі, то вярталіся, лагодна ракочучы.

Потым яны некуды зніклі. А хвілін праз пятнаццаць сержант-аўтаматчык, які сядзеў каля вежы, паказаў Аляксею ўправа. З-за блізкага лесу сунуўся «кастыль». Неўзабаве ён ужо кружыў, як коршак, над танкамі, тоячы нейкія нядобрыя намеры.

— Аляксей, мне не падабаецца гэтая варона! — паведаміў старшаму лейтэнанту Гогабярыдзе.— Ты бачыш яе?

— Бачу...

Аляксей недаверліва сачыў за «кастылём». Той паволі рабіў кругі над калонаю, ляніва нахіляўся то на адно крыло, то на другое.

Рота падыходзіла да балота, праз якое цягнулася грэбля. Старшы лейтэнант, асцерагаючыся налёту бамбардзіроўшчыкаў, загадаў павялічыць адлегласць між машын. Заднія танкі адразу пайшлі павольней. Калона стала расцягвацца.

Хутка выявілася, што Аляксей непакоіўся недарэмна.

Ён яшчэ здалёк убачыў злева ў небе некалькі чорных, даўгаватых сілуэтаў нямецкіх бамбардзіроўшчы-

каў, якія, відаць, заходзілі ў хвост яго калоне.Назіраць за імі хутка стала цяжка — там, куды яны зайшлі, сляпуча іскрылася сонца.

— Злева, ззаду — нямецкія самалёты,— прытрымліваючы рукою ларынгафон, перадаў старшы лейтэнант экіпажам. Выглянуўшы з вежы, ён яшчэ раз уважліва азірнуўся навокал — усюды былі асака з лугавой травою, рэдкія сіваватыя купы лазняку, нізкарослыя дрэўцы.

— Ісці — па грэблі!.. Не зварочваць!..

Самалёты хутка набліжаліся да калоны. Вось ужо ў чыстым, спакойным небе сталі відаць жаўтаватыя канцы крылаў і шкляныя насы. За стукам тракаў гулу самалётаў не было чуваць. Аўтаматчыкі то сачылі за небам, то трывожна пераглядваліся. Старшы лейтэнант, перадаючы камбату, што на роту ідуць «юнкерсы», пазіраў, як яны дзелавіта выстройваюцца адзін за адным, рыхтуючыся да бамбёжкі. Усярэдзіне ў Аляксея штосьці тужліва сціснулася — ох, як не любіў ён бамбёжак! З тых першых дзён вайны засталася ў яго гэтая тужлівая апаска перад бамбёжкамі. Горш за ўсё не любіў ён налёты!

Праз адкрыты люк Аляксей бачыў, як адзін, пераваліўшыся на нос, стаў імкліва падаць уніз. Аўтаматчыкі адразу пасыпаліся з машыны. На хвіліну здалося, што наступіла цішыня, што ўсё замерла і нібы стукат тракаў паглушэў. Поблізу рэзка залескатаў нечы кулямёт.

Запоўніўшы ўсё на час даўкім свістам, самалёт пранёсся над машынай Аляксея. Наперадзе ён крута выраўняўся, сыпнуў адразу некалькі бомб.

Загрукаталі моцныя выбухі — гуп, гу-гуп!

— Лагуновіч, глядзі, не засадзі машыны ў балота! — пачуў Аляксей у шлемафоне ўладны голас камбрыга. Бяссонаў увесь час ведаў, што робіцца ў батальёнах, ротах, экіпажах, ведаў, здавалася, нават драбніцы. У ліхую хвіліну амаль заўсёды камандзіры чулі яго голас, быццам ён быў разам з імі...

Камбрыг адгадаў, што непакоіла старшага лейтэнанта. Аляксей таксама баяўся, што хто-небудзь з танкістаў не вытрымае бамбёжкі і ■ перапалоху збочыць з грэблі, засядзе ў балоце або «закупарыць» вузкую дарогу.

Калі Аляксей бачыў, як валіцца ўніз другі самалёт, у яго памяці раптам мільгануў плот каля роднай хаты, аксамітная травіца, кусток парэчак, заліты спякотным летнім святлом. Чаму ўбачыліся гэтая травіца і гэты кусток з далёкага, немагчымага маленства, хто яго ведае, але такім мілым, дарагім здалося яно цяпер...

Ён крыкнуў, каб падалі лабавы кулямёт. Зараз жа, не марудзячы!

— Хутчэй!

Пакуль кулямёт дайшоў да Аляксея, «юнкерс» праляцеў... Старшы лейтэнант хапатліва нарыхтаваўся сустрэць наступны бамбардзіроўшчык, які ўжо ішоў у піке.

Цяпер, калі яго захапіла жаданне счапіцца ў бойцы, ён ужо не адчуваў ранейшай тугі, страху. Туга і страх, праўда, не зніклі зусім, але неяк прытупіліся, як бы адышлі перад запалам бою, імкненнем адказаць належна.

Увесь моцна напружаны, ён быццам прыкіпеў рукамі да кулямёта. Вочы, што не міргаючы гарэлі пад скамянелымі бровамі, здаецца, пранізвалі бамбардзіроўшчык,— Аляксей стараўся ўвесь час трымаць яго на прыцэле.

«Юнкерс» падаў на «трыццацьчацвёрку». Ён хуткахутка павялічваўся. Можна было падумаць, што ён так і не зверне: урэжацца ў танк з усімі сваімі бомбамі.

Цэліцца было цяжка: усё ж неяк дзейнічала, прыціскала гэтае прамое, накіраванае падзенне «юнкерса». Цяжка было трымаць самалёт на прыцэле: машыну ў руху ўвесь час кідала з боку на бок.

Але жаданне — уцэліць, разануць чаргою па ўпэўненаму гругану было такім моцным, што ён гатоў быў усё адолець. Толькі б — даць, разануць. Упіўшыся вачыма ў «юнкерс», упарта стараўся трымаць яго на прыцэле. Колькі сілы ўціскаў спуск кулямёта. Не абрываў чаргу, няспынна біў. Насустрач гругану, яго кулямётам.

Затуліўшы, здалося, паўнеба, «юнкерс» стаў выроўнівацца.

— Сто-о-й! — крыкнуў старшы лейтэнант. Штосьці падказала яму, што «юнкерс» кіне бомбы на яго машыну.

Сонцаў спыніў машыну так рэзка, што Аляксей, яко-

га па інерцыі кінула наперад, ледзь не ўдарыўся галавой аб перыскоп. У раптоўнай цішыні яму было добра чуваць, як бомбы з уедлівым візгам несліся на «трыццацьчацвёрку». Машыну моцна страсянуў адзін, другі, трэці выбух. Аляксей выглянуў з вежы — поблізу на грэблі асядала хмара зямлі.

— Наперад! — Машына адразу рванулася і кінулася ў гэтую хмару. Праскочыць удалося вельмі мала — пікіраваў другі самалёт. Сонцаў зноў рэзка затармазіў «трыццацьчацвёрку». Бомбы на гэты раз упалі не на дарогу, а ў балота.

Неўзабаве Аляксееў танк вымушан быў зусім спыніцца. Перад ім, загароджваючы вузкі насып, нерухома стаяла машына.

Што з ёй? Чаму яна стала? Старшы лейтэнант убачыў, што адна гусеніца сарвана,— машына нахілілася набок. Заўважыў: кавалак вежавай брані вырваны!..

Але падбегчы да раненага танка яму не давялося: зірнуўшы ўгару, ён убачыў, як на калону падае «юнкерс». Аляксей схапіў кулямёт і пачаў зноў біць па ненавіснаму пікіроўшчыку.

Услед за гэтым рынуў яшчэ адзін... Раптам іншыя «юнкерсы», якія ўжо рыхтаваліся да атакі, крута павярнулі ўбок.

Што гэта, які-небудзь новы манеўр?

4

Не, гэта быў не манеўр. Да «юнкерсаў» імкліва набліжаліся нашы знішчальнікі. Аляксей, яшчэ ўвесь узрушаны, сустрэў іх удзячным позіркам.

Ён цяжка, стомлена спусціўся з вежы: чорт, як яго змарнавала гэтая бамбёжка. Ён падышоў да пярэдняга танка. Колышаў, хваравіта бледны, хмурны, абняўшы аберуч Архіпава, выцягваў яго з пярэдняга люка. Рукі Архіпава без сілы віслі, а ногі сунуліся па брані, вядучы за сабой струменьчык крыві. Аляксей дапамог спусціць Архіпава на зямлю, беражліва падтрымліваючы раненую нагу, загадаў Колышаву, каб перавязаў рану. Старшы лейтэнант хапатліва зазірнуў у вежу — зараджаючы быў забіты.

— Не пашанцавала!..— з высілкам гаварыў Архі-

паў Колышаву, які абкручваў бінтам яго белую, голую нагу. Архіпаў моршчыўся ні то ад болю, ні то ад таго, што бачыць сваю нагу ў крыві.— Толькі што пачаў — і трах!..

— Вайна — не маці родная,— адказаў недзе чутымі словамі Колышаў.— Бывае і горш...— Ён быў нібы ў сне, яшчэ нібы не мог зразумець усяго, што адбылося; рабіў усё, як заведзены.

Рукі яго слухаліся кепска, быццам чужыя, і аўтаматчык, адзін з тых, што сышліся сюды і абступілі абодвух, хацеў узяць ад яго бінт, але Колышаў не аддаў. Прадаўжаў перавязваць сам.

Угары раптам узніклі, сталі хутка набліжацца роў і страляніна. Усе адразу павярнуліся насустрач ім, трывожна падрыхтаваліся да новага налёту. Проста на грэблю, на іх ляцеў «юнкерс». За ім ішлі, не адпускаючы яго, страляючы з кулямётаў, два знішчальнікі. Нашы. Відаць, адрэзалі бамбардзіроўшчык ад іншых.

«Юнкерс» зніжаўся, траціў хуткасць. Потым нахіліўся, клюнуў носам, стаўваліцца ўніз. Некалькі разоў нязграбна перавярнуўся цераз крыло, цераз нос. У тую хвіліну, калі ён даляцеў да зямлі, ускінулася хмара гразі і вады. Загрымеў важкі выбух. Калі аселі гразь і вада, на балоце, прыкладна праз кіламетр, стала чарнець вывернутымі берагамі варонка. Вакол яе валяліся нейкія пакарэжаныя абломкі.

Знішчальнікі з задаволеным рокатам зрабілі круг над балотам, на крутым развароце пайшлі нізка над грэбляй. Танкісты ўзрадавана замахалі ім рукамі. Там, відаць, заўважылі гэта, прывітальна паківалі крылламі.

Праляцеўшы зноў над грэбляю, крута ўзялі ўгару і сталі аддаляцца. Туды, дзе, можа быць, яшчэ біліся іншыя.

Робячы перавязку Архіпаву, Колышаў увесь час адчуваў, што ў правым баку нешта непрыемна шчыміць. Ён стараўся не зважаць на гэта, але ў баку шчымела ўсё больш. Стала дзіўна ныць. Скончыўшы перавязку, ён засунуў руку пад камбінезон, пад бялізну, памацаў, дзе ныла. Пальцы адчулі штосьці мокрае, ён паднёс іх да твару і здзівіўся: яны былі ў крыві!

— Вы ж ранены! Што ж вы маўчыце! — здзіўлена сказаў аўтаматчык, які браўся перавязваць Архіпава.

З Колышава знялі верх камбінезона, узнялі падмочаную крывёю майку. Аказалася, на целе была тонкая драпінка ад нейкага асколка. Нібы ад нажа...

Між тым да месца затрымкі падышло яшчэ некалькі танкаў. Купка людзей каля падбітай машыны Архіпава і Колышава хутка пачала расці. Усіх цікавіла, што здарылася. Ды і рады былі кароткай перадышцы, размінцы. Але Аляксей, што пабыў ужо каля машын наперадзе, агледзеў грэблю, турбаваўся, як прабівацца далей. Машына загарадзіла амаль увесь шлях: яна стаяла не ўсцяж насыпу, а наўкасяк. Калі гусеніцу разарвала выбухам бомбы, каткі аселі ў зямлю і затармазілі адзін бок.

Аляксей загадаў Сонцаву сапхнуць машыну з грэблі.

Сержант падвёў танк да машыны і стаў паціху ціснуць на яе. Пабітая «трыццацьчацвёрка» спачатку не рушылася з месца. Толькі калі Сонцаў даў больш «газу», пачала спаўзаць з дарогі марудна і неахвотна, быццам не хацела адыходзіць ад іншых.

Старшы лейтэнант спачувальна зірнуў на Колышава:

— Ваяваць можаш? Шпіталь, здаецца, табе непатрэбны...

— Непатрэбны, таварыш гвардыі старшы лейтэнант.

— Вось і добра.— Аляксей прыгадаў начную размову з Колышавым перад прарывам. Ад гэтай размовы ў Аляксея засталося пачуццё сяброўскай, як бы інтымнай, блізкасці да шчырага хлопца. «Відаць, нялёгка будзе сёння яму,— пашкадаваў мімаволі Аляксей.— Трэба б накіраваць у які-небудзь экіпаж. Куды?» Але разважаць аб гэтым не было часу. Старшы лейтэнант толькі сказаў Колышаву, каб той дагнаў свой узвод і сеў на машыну Гогабярыдзе.

Аляксей падышоў да Архіпава. Каля таго быў цяпер санінструктар, які прыехаў у адной з машын, што ішлі следам. Аляксей параіў санінструктару, як адправіць Архіпава ў тыл. Трэба вывезці адсюль з грэблі на танку і ў бліжэйшай вёсцы пачакаць тылавых машын,— з першай папутнай перавезці Архіпава ў медсанбат.

Старшы лейтэнант працягнуў Архіпаву руку на развітанне:

— Ну, браток, бывай! Шкада, што так рана пакідаеш... Ну, нічога. Не свая ахвота... Пішы нам, а? Не забывай, адным словам... А паправішся — сюды зноў. Рады будзем!

Аляксей пабег да сваёй машыны. Праз хвіліну яго «трыццацьчацвёрка» рушыла далей.

Неўзабаве Аляксей зноў убачыў знішчальнікі прыкрыцця. Самалёты з моцным таварыскім гулам ладнай тройкай праляцелі над танкамі, аддаліліся наперад. Нібы ў разведку.

Вярнуліся, прайшлі наперад зноў...

## 5

Колышаў сказаў Архіпаву — «бывае і горш!» — не выпадкова. Ён ведаў, што на вайне бываюць і больш цяжкія няшчасці, чым тое, якое здарылася з ім, і хацеў глядзець на сваё спакойна. Але жаданы спакой не прыходзіў. Як ні хацеў, Колышаў не мог спакойна разумець тое, што смерць так блізка прайшла паўз яго, што толькі выпадковасць уратавала яму жыццё.

Ён ледзь не загінуў у першы ж дзень, прычым нават не ў баі, а на маршы! Калі лейтэнант думаў пра гэта, яму рабілася трывожна. Будучыня, заўсёды такая вядомая, надзейная, раптам нібы завалаклася невядомасцю. Невядомасцю такой жорсткай, бязлітаснай, што браў страх.

Як і тады, перад боем, яму ўспаміналася Рая, але цяпер было нязвычна тужліва думаць пра яе. Не было цяпер у Колышава ранейшай абнадзейлівай упэўненасці, што яны пабачацца. Гняло неадольнае адчуванне, што можа здарыцца — ужо і не сустрэнуцца ніколі. Што сустракаліся, можа, апошні раз...

Успамінаўся запытальны, жорсткі позірк камбрыга: «А ты не трус?» І Колышаў, заўсёды праўдзівы, бязлітасна судзіў сябе: значыцца, ён не герой, сапраўдныя салдаты не думаюць такога. Яму было прыкра за сябе.

А перад вачыма паўставалі незвычайныя дзівосныя відовішчы.

На дарозе, што бегла цераз поле, дзе мільгалі то палоскі жыта, то зялёны бульбянік, пад'язджаючы да

лесу, танкісты наткнуліся на групу ўзброеных людзей. Гогабярыдзе быў тут першы з наступаючых войск: брыгадная разведка пайшла па іншай дарозе.

Людзі ляжалі і сядзелі ў кювеце, у маладым зарасніку ўскрай лесу; заўважыўшы танкістаў, яны хутчэй прыхаваліся і насцеражыліся. Колышаў, што ехаў на машыне з аўтаматчыкамі, ледзь толькі ўбачыў іх, паведаміў пра гэта Гогабярыдзе.

— Хто гэта? — угледаўся пільна Колышаў.— У іх вінтоўкі...

— Хутка ўбачым! — Гогабярыдзе загадаў аўтаматчыкам даведацца пра людзей, а сам падрыхтаваўся на ўсякі выпадак да бою. Пакусваючы губу пад фарсістымі вусікамі, ён нецярпліва выглядваў з вежы.

Колышаў пайшоў разам з аўтаматчыкамі. У яго кішэні ляжала важкая граната, у руцэ ён сціскаў пісталет. Каб на ім не было камбінезона, то можна было б палічыць яго за аднаго з дэсантнікаў. Ён ішоў, уважліва сочачы за тымі, што былі на ўзлессі.

Раптам адзін, маленькі, рухавы, выскачыў адтуль, з зарасніку, і, размахваючы аўтаматам, штосьці крыкнуў. Кінуўся насустрач, стаў абдымаць аўтаматчыкаў. Следам за ім з зарасніку высыпала яшчэ многа.

— Нашы! Ур-ра-а-а! — чуў Колышаў ашалелае, шчаслівае.

Што было потым, Колышаў не змог бы расказаць. Воклічы радасці, пацалункі, страляніна! Адзін з партызан пусціў у неба доўгую чаргу з кулямёта — салют!.. Колышава абдымалі, штосьці крычалі яму, і ён таксама крычаў, шчаслівы, усё яшчэ трымаючы ў руцэ пісталет. Такога выбуху радасці Колышаў ніколі не бачыў...

Калі пад'ехаў Гогабярыдзе, чалавек, які першы выбег на дарогу, моцна абняў яго, потым схамянуўся, выпрастаўся і аб'явіў лейтэнанту, што перад ім Ваўчок, начальнік разведкі атрада.

— Гогабярыдзе. Гвардыі лейтэнант,— з пафасам назваў сябе танкіст, прыгожа казырнуўшы, потым памоўніцку дадаў: — Для сяброў проста — Сандро...

Разведчык зноў абняў лейтэнанта.

— А мы сумняваліся! — прызнаўся ён вінавата, расчулена.— Чулі, што хутка нашы павінны быць, ды больш меркавалі, што першыя прыкоцяць гэтыя, каб

яны спруцянелі, кураеды... Рыхтаваліся больш да іншай сустрэчы...

— Яны адсталі! — пажартаваў Сандро.

Партызан можна было цяпер бачыць і на танкавых вежах і каля машын, дзе яны вірлівым натоўпам акружалі невялічкі гурток танкістаў.

Адкуль іх столькі сабралася на гэтай дарозе, якая толькі што здавалася амаль пустой! Пажылыя мужчыны, бязвусыя юнакі, жанчыны з вінтоўкамі. Якіх тут толькі людзей не было! Яны мала нагадвалі ваенных: розная вопратка, розная зброя — звычайныя цывільныя людзі. Але Колышаў глядзеў на іх, як на нейкія няведамыя, казачныя істоты, не тоячы шчырага захаплення. І як не захапляцца было, перад ім упершыню, увачавідкі стаялі тыя, хто — ведаў ён даўно — вялі цяжкую, неймаверную барацьбу, хто ўразіў ёю ўвесь свет. Славутыя беларускія партызаны.

Калі б Колышаў быў менш усхваляваны і мог назіраць, ён убачыў бы, што партызаны глядзяць на яго з не меншым захапленнем. Асабліва адзін чарнявы хлопец у старой, з адкладным каўняром, гімнасцёрцы, які неспадзявана запытаўся:

— Дык вы з вучылішча? Праўда, з вучылішча?! І нядаўна толькі скончылі?.. А скажыце, каго прымаюць у яго? Ну, якая асвета патрэбна?..

Ён пашкадаваў, што асвета ў яго малаватая. Усяго сем класаў... Колышаў жа мімаволі пазайздросціў яму: вось ён, напэўна, прайшоў праз «агонь і ваду», не баіцца нічога...

Праз кіламетры два — якраз на ўездзе ў сяло — узвод Гогабярыдзе «атакавалі» зноў. Тут былі людзі з сякерамі і піламі,— канчалі папраўляць мост. Вакол моста весела жаўцелі сасновыя трэскі і пілавінне.

Колышава, як і іншых танкістаў, абдымалі, цалавалі. У яго чыстыя, з ценем смутку, вочы пазіралі з адданасцю і любоўю.

Хіба мог быць абыякавым да гэтых людзей, да іх радасці Колышаў? Тоячы няёмкасць за сябе, за баязлівасць сваю, ён як бы зноў пачынаў адчуваць зямлю пад нагамі. Чула адгукаючыся на шчырасць і адданасць гэтых людзей, ён абяцаў моўчкі, патрабаваў ад сябе: не, ён не будзе баязліўцам. Ён не ашукае людзей, якія яго так любяць! Так спадзяюцца на яго.

У гэтых думках і жаданнях, сярод агульнага шчасця, адольваў ён даўкую сумяціцу, няўпэўненасць, знаходзіў душэўную раўнавагу...

Колышаў чуў, як стары, з ружовай лысінай цясляр здаволена і проста, быццам даўнім знаёмым, казаў:

— Выходзіць, недарэмна масток падправілі! — Ён цешыўся: — А то тут некаторыя баяліся!..

Хвалюючыся і спадзеючыся, глядзеў стары, як першы танк рушыў на другі бераг па новых, ім зладжаных бярвеннях.

Мінаючы сяло, Колышаў усё азіраўся: пакуль бачыў, ад хат, ад моста, махалі рукамі, шапкамі...

## РАЗДЗЕЛ V

### 1

Усе няўдачы пачыналіся з той страшнай раніцы.

Клямт яшчэ спаў у раўку, як прасвістала некалькі снарадаў і грымнула непадалёк. Ён адразу прачнуўся і вылаяўся.

У наступную хвіліну ўсё навокал грукатала. Снарады лажыліся справа, злева, спераду.

Не было чаго і думаць пра сон. Лейтэнант адразу, сагнуўшыся, кінуўся ў бліндаж. Тут ён перавёў дыханне. Столь угары трэслася, з накатаў сыпаўся пясок. Нібы білі ў зямлю вялізнай цяжкай даўбнёй.

Усе, скурчыўшыся, насцярожана чакалі, што нейкі снарад уцэліць сюды, праломіць тоўстую столь або зажыва заваліць зямлёю. Лейтэнант, аднак, стараўся не губляць раўнавагі. Ён быў упэўнен, што руская артылерыя хутка сціхне, тады пойдзе пяхота. Трэба спакойна чакаць гэтую хвіліну. Каб сустрэць рускіх як належыць.

Але гром, што ўладарыў угары, думкі гэтыя паступова выбіваў з галавы, глушыў, пакідаў у душы толькі цягучае чаканне невядомага і страшнага.

Тэлефаніст перадаў яму трубку. Камандзір батальёна пераказаў загад генерала: «Трымацца, трымацца! Ён пасылае сваё благаславенне».

Лейтэнант адказаў, што загад зразумеў і выканае яго. Аднак цягучае чаканне страшнага не пераставала гнясці.

З кожнай хвілінай было горш.

Спачатку тэлефаніст паведаміў, што парваны правады. Рота засталася без сувязі, яна цяпер адна, адарвана ад усіх. Потым лейтэнант убачыў перад сабой салдата з першага ўзвода. Салдат быў увесь у гразі і так змардаваны, што змяніўся з твару. «Хто гэта? Што яму трэба? Чаго ён дабіваецца? — не разумеў лейтэнант Клямт.— Загінулі? Чаму — усе загінулі?.. Бліндаж, прамое пападанне!..»

— Хутка... артылерыя скончыць, пойдзе пяхота... Глядзіце ўважліва! — закрычаў да салдата лейтэнант. Ён спрабаваў трымацца з годнасцю, але ад страху, які ўсё рос, завалодваў ім,— сам не цяміў, што гаворыць. Потым ужо схамянуўся: у першым жа ўзводзе цяпер нікога няма...

Памаўчаў. Але сядзець моўчкі было нязносна, і ён зноў нечакана накінуўся на салдата:

— А што з другім узводам? Я ў вас пытаюся, што з другім узводам?..

Адказу лейтэнант Клямт не дачакаўся, не толькі таму, што салдат нічога не чуў з яго слоў і не ведаў пра другі ўзвод. Столь так страсянулася, што здалося — абрыне на галовы, прыдушыць усіх. Пасыпалася зямля, едка запахла дымам. Праз момант моцны выбух абваліў некалькі бярвенняў. Прыдушыла тэлефаніста.

У ліхаманкавым чаканні, якое гняло нястрымным страхам, лейтэнант Клямт заўважыў яфрэйтара-аўтаматчыка, нядаўна прысланага пасля кантузіі са шпіталя. Яфрэйтар сядзеў белы, глядзеў так напружана, што здавалася: зараз вочы выскачаць. Нейкі час ён быў нібы скамянелы; калі выбух абваліў бярвенні, штосьці ашалела закрычаў, падскочыў і рынуў да выхада.

Лейтэнант ледзь утрываў, каб не кінуцца ўслед. Адчуваючы, што надыходзіць канец жыццю, з жахам чакаючы апошняга выбуху, які пахавае тут, ён стаў горача, хапатліва мармытаць малітву, з той адданасцю, якая была толькі некалі ў маленстве.

Блытана і вострa памяць яго стала нагадваць перажытае, бачанае. Згадаўся бацька — з металічнай, абшытай скураю падстаўкай замест нагі, дыбае каля стала, падае «гасцям» піва. У апусцелым пакоі, зачыніўшыся, лічыць старанна белыя кружочкі грошай, выручку. Сам асалавелы ад выпітага, ад успамінаў, за сталом з наведвальнікамі шчодра дзеліцца згадкамі пра свае ваенныя радасці. Па-прыяцельску завіхаецца за прылаўкам, частуе шумлівых, здаровых малайцоў-штурмавікоў, што забеглі вясёлыя, расчырванелыя. Лагодны, давольны, вучыць сына раўняцца на другіх, хапаць сваё шчасце! Памяць нагадала, з якой шырокай надзеяй падаўся ён, Клямт, у армію, ахвотную, радасную муштру. Ваенная кар'ера аказалася, на жаль, не надта ўдалаю: доўгія гады ў яфрэйтарах, доўгая дарога да фельдфебеля. Усё ж ён жыў надзеяю, ён не траціў веры, што прыйдзе яго пара! Ён, як бы там ні было, чакаў гэту пару... І вось — дачакаўся!..

Неспадзявана лейтэнант успомніў жанчыну з дзіцем, якую спаліў у часе блакады. Як бы нанава ўбачыў яе страшныя вочы, пачуў словы пагрозы: «Табе гэта так не мінецца!..» Пагроза гэта ўпершыню занепакоіла: у ёй, здавалася, была рэальная, жахлівая моц. Якая невядома што зычыла.

Усё мацней гнёў яго страх. У страху гэтым пачало губляць сэнс усё — і камандзірскі абавязак, і загад генерала, і жыццё.

«Калі ж будзе канец? — нецярпліва падумаў ён.— Так можна звар'яцець...»

Ён не ведаў, што гэта быў толькі пачатак.

Калі сціхла, ён не паверыў. Чакаў, што зараз усё пачнецца зноў. Але было ціха. Аглушаны, ашалелы, ён спачатку нічога не цяміў. Быў такі знясілены, што не мог скрануцца. Варухнуцца не мог. Колькі часу працягвалася гэта, ён не мог бы сказаць. Тады ў яго не было адчування часу.

Усё ж спакваля, непрыкметна для самога, ён як бы прытомнеў. Не разважаючы яшчэ толькі ад звычкі, якая першая нагадала пра абавязак камандзіра, загадаў усім заняць свае месцы. Сам выпаўз з бліндажа, ходам злучэння павалокся ў сваю ячэйку.

Усё было перакапана снарадамі. Навокал гарэла, поўз дым. Дым курэў усюды, душыў грудзі. Замінаў глядзець. У разрывах дыму лейтэнант Клямт убачыў наводдаль постаці. Ішлі рускія. Глухі яшчэ, амаль не чуючы сябе, ён стаў крычаць каманды, сачыць, як іх выконваюць.

Салдаты, што разгублена гнуліся поблізу ў паўзасыпаным, з абваленымі берагамі ходзе злучэння, азіраліся ачмурэла,— пачалі разбягацца па ячэйках. Іх было яшчэ нямала. Адплёўваючы зямлю, атрасаючы яе з-пад расшпіленага каўняра, лейтэнант Клямт глядзеў то на сваіх, як яны ўладкоўваюцца, то на рускіх. Рускія ўсё набліжаліся.

У гэты час прыбег ад камандзіра батальёна задыханы пасыльны, перадаў загад трымацца: гэта зусім вярнула лейтэнанта да звыклага клопату...

І тут раптам зноў абрынуўся на яго, на зямлю грукат і агонь...

2

Пасля двух пякельных дзён баёў рота была адведзена з пярэдняга краю. Аддзяленні і ўзводы яе парадзелі за гэты час настолькі, што з роты наўрад ці можна было б сфарміраваць адзін узвод.

Здаўшы ўчастак змене, лейтэнант адчуў сябе адразу лягчэй. Праўда, адчуванне палёгкі было няпэўнае, насцярожанае: не верылася, што сапраўды дазваляюць пакінуць гэтае пекла. Вельмі ўедлівымі і даўкімі былі ўражанні апошніх дзён, каб іх можна было лёгка забыць.

Тым не менш гэта была праўда. Рота перайшла ў карпусны рэзерв. У вёсцы, ноччу, яе наспех папоўнілі рэшткамі з другіх пабітых падраздзяленняў і сказалі чакаць далейшых загадаў...

Настрой і тут быў трывожны. Увесь час у баку фронту былі чуваць несціханыя гукі бою. Лейтэнант уяўляў, што там робіцца, і з непакоем думаў, што, напэўна, у тое пекла хутка прыйдзецца вяртацца зноў.

Пасля абеду лейтэнант Клямт атрымаў загад выступаць, але праз паўгадзіны, калі ён ужо выводзіў салдат з сяла, прыйшоў другі загад, які адмяняў першы,— чакаць далейшых распараджэнняў.

З фронту правезлі праз вёску некалькі машын з раненымі.

Папаўзлі няясныя, трывожныя чуткі, якія невядома хто прынёс. Нібы недзе на левым флангу бальшавікі прарвалі фронт, і іх танкі і конніца апынуліся глыбока ў тыле нямецкіх часцей. Гэты прарыў — гаварылі — пагражае ўсяму фронту. Лейтэнант Клямт спрабаваў даведацца аб праўдзівасці чутак у аднаго штабнога афіцэра, але той раздражнёна адмахнуўся ад яго.

Неўзабаве пасля гэтага прыйшоў загад — неадкладна выступіць і заняць пазіцыі на паўночнай ускраіне вёскі, што была на ўсход.

Ледзь рота наблізілася да вёскі, аказалася, што яна ўжо захоплена савецкімі пехацінцамі.

Тады са штаба палка лейтэнанту і яшчэ аднаму камандзіру роты загадалі атакаваць бальшавіцкія пазіцыі і вярнуць вёску. Перад атакай абедзвюм ротам прыслалі на падмацаванне тры «фердынанды». Бой ішоў амаль да вечара — за гэты час савецкая пяхота падбіла дзве самаходкі. Акрамя таго, лейтэнант Клямт страціў многіх салдат.

Рускія абараняліся вельмі ўпарта. Усё ж позна ўвечары яны былі выбіты з вёскі. У начной цемры, цёплай, як сырадой, салдаты Клямта акопваліся, абсталёўвалі кулямётныя гнёзды — у дамах, на дахах.

Лейтэнант папрасіў падмацавання, але са штаба адказалі, што трэба абысціся тою сілаю, якая ёсць. Кепска было і з боепрыпасамі — машына прывезла толькі палову таго, што патрэбна. Казалі, боепрыпасы затрымаліся недзе ў тыле, абяцалі да раніцы падвезці рэшту. Лейтэнанта мала суцешылі гэтыя абяцанні, ведаў, як небагата яны значылі.

Ён адчуваў сябе неспакойна. Акрамя таго, што рота паслабела і боепрыпасаў мала, была яшчэ адна важная акалічнасць, якая трывожыла яго,— левы фланг роты быў дрэнна прыкрыты. А гукі бою злева заходзілі ўсё глыбей і глыбей у тыл ротных і палкавых пазіцый.

Лейтэнант не быў перакананы ў тым, што рускія пакінуць вёску ў спакоі. Удзень яны, напэўна, пастараюцца яе вярнуць сабе, атакуюць, напэўна, з большаю сілаю.

На краі вёскі гарэлі падпаленыя ў часе бою хаты, кідаючы злавесныя водсветы на ўсё наваколле. У водсветах пажару Клямт хадзіў па выгане і агародах,— правяраў, як салдаты рыхтуюцца да абароны. Каля адной траншэйкі сядзелі обер-яфрэйтары Келер і Гетэрых. Яны аб нечым размаўлялі. Калі Клямт падышоў, Келер запытаўся:

— Ну, як падрыхтоўка, пан лейтэнант? Напэўна, рускія разаб'юць свае лбы аб нашу абарону? — Клямт пачуў у яго голасе ноткі насмешкі і раздражнення.

Пытанне гэтае не здзівіла лейтэнанта: Келер, на яго думку, наогул быў лішне гаварлівы і слабы духам. Не раз ужо шкадаваў лейтэнант, што розныя акалічнасці не дазвалялі заняцца гэтым прагнілым ныцікам як належыць. Але што здзіўляла лейтэнанта Клямта, і моцны, здаровы обер-яфрэйтар Гетэрых маўчаў, і ў гэтым нельга было не заўважыць падтрымкі Келеру.

— Не хвалюйцеся, пан лейтэнант,— супакоіў усё тым жа тонам Келер. Ён, заўважыў Клямт, быў да дурасці п'яны.— Сядзьце, пасядзіце — пабераjжыце сілы на заўтра. Заўтра будзе гарачы дзянёк...

— Заўтра давядзецца паваяваць — гэта ясна,— адгукнуўся Гетэрых.

Памаўчаўшы, Келер раптам незадаволена, з п'янай рашучасцю, выказаў:

— Давядзецца. Трапілі мы ў гісторыйку. Смярдзючую гісторыйку. Па самыя вушы...— Ён брыдка, злосна вылаяўся.

Лейтэнант Клямт загадаў яму змоўкнуць і, паклікаўшы з сабой обер-яфрэйтара Гетэрыха, стаў правяраць абарону.

«Няўжо яны праўда — прарвалі фронт? — думаў ён, ідучы ад ячэйкі да ячэйкі.— Няўжо не здолеем утрымаць?.. Сапраўды, смярдзючая гісторыйка можа выйсці... Не,— не хацелася яму верыць. Ніяк не хацелася верыць у такую агіднасць.— Быць не можа! Утрымаемся! Рускія ўдарылі нечакана, не паспелі падысці рэзервы. Але яны падыдуць. Рускія ж слабеюць дзень за днём...»

Ён быў трывалым аптымістам, лейтэнант Клямт. Узор трываласці здаровага нямецкага духу. Непахіснага духу. Можа быць, таму, што некаторыя ныцікі сумняваліся, што можна выправіць становішча, лейтэ-

нант адчуваў асаблівую неабходнасць у здаровым нямецкім духу. Ведаючы, што трэба зберагаць гэты моцны дух, ён не дазваляў сабе ніколькі расслабляцца. Не дазваляў нават думкі, што становішча можа стаць безнадзейным. Не дазваляў, і таму — не верыў...

Уранні савецкія салдаты павялі наступленне. Яны абышлі вёску і ўдарылі з левага фланга і з тылу. У іх было многа мінамётаў і гармат. Яны адкрылі ўраганны агонь па абедзвюх ротах, уварваліся на заходнюю ўскраіну і зноў захапілі свае пазіцыі. Увесь узвод, які абараняў гэты ўчастак, разам з обер-яфрэйтарам Гетэрыхам, прапаў без вестак. Загінулі або трапілі ў палон.

Лейтэнант Клямт і сам ледзь-ледзь выратаваўся. Апрача яго выбраліся з вёскі толькі некалькі салдат.

Не было больш обер-яфрэйтара Гетэрыха — ветэрана роты, які разам з лейтэнантам перажыў усе радасці і нягоды рускага паходу. Не было яшчэ многіх, якія бралі сотні гарадоў і раптам палеглі ў невядомай рускай вёсцы.

Ён усё ж не паддаваўся роспачы.

## 3

Вёска, у якую лейтэнант заявіўся з рэшткамі роты, была маўклівая і пустая.

Гэтае запусценне Клямт бачыў не ўпершыню. Куды яны ўсе хаваюцца, чорт іх бяры! Куды ні прыедзеш — ні душы.

Лейтэнант загадаў каго-небудзь знайсці. Палазіўшы па вёсцы, салдаты прывалаклі да яго жанчыну, якая хавалася ў склепе, блізка ад сваёй хаты. У яе былі неспакойныя, спалоханыя вочы, сівыя, раскіданыя валасы. Лейтэнант праз перакладчыка запытаў, ці даўно былі тут рускія.

Жанчына адвяла вочы, пакруціла галавою, штосьці няўпэўнена сказала. Яму пераклалі: яна гаворыць, што не ведае.

— Чаго не ведае,— прамовіў нецярпліва Клямт,— ці наогул былі тут рускія?

Яна пакруціла галавою, і яшчэ да таго, як пераклалі яе словы, лейтэнант здагадаўся пра яе адказ.

— Ты брэшаш,— зазлаваў, пагрозна ступіў да яе лейтэнант.— Тут была руская пяхота і нават танкі.— Ён кіўнуў на сляды грузавых машын на вуліцы. Паўтарыў, патрабуючы неадкладна адказаць: — Даўно яны былі? У якім кірунку пайшлі?

Яна зноў пакруціла галавою, штосьці загаварыла, кленучыся, просячы.

Лейтэнант злосна, рэзка варухнуў плячом, азірнуўся ў той бок, адкуль яе прывялі. Убачыў наводдаль купку малых, што спалохана глядзелі на яго. Яшчэ да таго, як лейтэнант павярнуўся да яе, каб выцяць, зламаць яе пагрозаю, думка пра якую ў момант загарэлася ў ім, жанчына, як бы перахапіўшы яго намер, са страхам кінулася яму ў ногі.

— Скажы ёй,— паморшчыўся Клямт,— што мне няма часу гуляць у хованкі. Няхай, пакуль не позна, падумае пра сваіх дзяцей!

Перакладчык перадаў ёй словы лейтэнанта, наском бота прымусіў старую падняцца.

— Яна гаворыць: рускія былі даўно. Пасля снедання.

— Многа іх было?

Яна спалохана зірнула ў бок двара, дзе былі малыя. Перакладчык перадаў Клямту:

— Яна гаворыць: рускіх было вельмі многа, пан лейтэнант. Былі танкі і пяхота на машынах.

— Запытай: у якім кірунку яны пайшлі?

Зноў да таго, як перакладчык перадаў, лейтэнант зразумеў адказ па тым, куды яна махнула чорнай, кручкаватай рукой.

Лейтэнант заўважыў, як яна ўзрадавалася, калі ён варухнуўся, каб ісці ад яе. Ён быў недавольны: чуў, хоць яна і баіцца, разумее таксама, які ён цяпер нямоцны, бяссільны.

— Скажы,— загадаў ён перакладчыку,— калі яна ашукала, я вярнуся. І няхай тады не чакае літасці!

Яна ўсё з той жа прытоенай надзеяю прамовіла:

— Не маню я. Праўду сказала.

Калона звярнула з шасэ. Амаль гадзіну ехалі па пыльнай дарозе, у спякотнай млоснасці. Насцярожана ўглядваліся ўперад, у палі абапал. У нейкай вёсцы іх баспынілі афіцэры, перадалі загад заняць абарону на беразе рачулкі. Рота стала акопвацца ў пяску, між ла-

зовых кустоў. Чорт пабяры, колькі ім даводзілася капаць зямлі ў гэтыя дні! І ўсё марна: ні ў адным з акопаў не прыйшлося абараняцца.

Не было боепрыпасаў, і Клямт, які сядзеў у цяньку пад лазовым кустом, думаў пра бой з трывогаю, лаяў у душы тылавых службістаў і няўпраўных генералаў, якія не маглі ў свой час пра патроны паклапаціцца.

Перад вечарам перадалі новы загад адысці. Зноў адступаць!

Яны былі цяпер недалёка ад Талачына, і гэта ўздымала ў лейтэнанта новыя надзеі.

Ён думаў не пра адпачынак: перадышкі, ён ведаў, чакаць не прыходзіцца, ды яна яму і не патрэбна — не такі час. Лейтэнант Клямт спадзяваўся, што ў Талачыне, ва ўсякім разе, можна будзе атрымаць боепрыпасы. Там таксама, напэўна, стабілізуецца фронт і праясніцца становішча...

Акрамя роты Клямта тут ішлі рэшткі ўсёй дывізіі. На цягачах і грузавіках, што выцягнуліся ў доўгую нястройную чараду, млелі ад спёкі некалькі соцень пехацінцаў і артылерыстаў. Калона рушыла вельмі марудна, невядома, чаму часта прыпынялася...

Кіламетраў за дзесяць ад гарадка зусім спыніліся.

Па калоне папаўзлі чуткі, што дарога перарэзана. Што ў Талачыне — рускія танкі.

Пабачыўшы, як затрывожылі гэтыя чуткі салдат, што пачалі пераглядвацца, перагаворвацца, лейтэнант спакойна, з годнасцю запэўніў:

— Не можа гэтага быць.

Ён стомлена сеў на падножку машыны, стаў жаваць галету. Бачыў: усюды збіраліся купкі, узрушана гаманілі...

Спакою не было і ў яго. А што, калі гэта праўда? — тачыла лейтэнанта. Гадаць — праўда гэта ці не праўда,— не прыйшлося доўга. Вельмі хутка яго паклікалі да маёра — камандзіра батальёна. Па трывожных тварах афіцэраў ён зразумеў, што гэта праўда...

Здарылася непапраўнае і грознае — перарэзан шлях!

## РАЗДЗЕЛ VI

### 1

Гэта быў апошні дзень працы Сяргея Сняжко ў гаражы, які належаў фірме «Ост».

Сяргей ад самай раніцы корпаўся ў маторы старога «Ганамака», замяняў поршні і падшыпнікі.

— Ну, як справы, Сняжко? — запытаўся ў яго шэф гаража Гюнтэ, тоўсты, нізенькі, з кароткімі пухлымі ручкамі немец, апрануты ў рабочую блузу. Пан шэф Гюнтэ стараўся здавацца дабрадушным і прасцецкім.— Яшчэ пажыве гэты стары каняка?..

— Пажыве, пан шэф,— кіўнуў галавой Сяргей, выціраючы аб пакулле чорныя рукі.

— Гэта— добра. Я задаволены табою. Ты — малайчына. Справу ведаеш нядрэнна. Ты будзеш добры майстар, Сяргей.— Гюнтэ нават ляснуў Сяргея па плячы, што ён звычайна рабіў, калі быў у добрым настроі.— Пачакай крыху: закончым вайну — і ты будзеш вучыцца... Так, так — вучыцца,— калі будзеш старацца працаваць. На спецыяльных курсах!.. Я табе дапамагу паступіць...

Сяргей падумаў: «Я і без цябе паступлю ў інстытут, калі мы вытурым вас адсюль». Але ўголас, адкінуўшы назад валасы, што спадалі на лоб, адказаў:

— Дзякую, пан шэф...

Праца ў Гюнтэ сёння была скончана. Сяргей скінуў ненавісную спяцоўку і надзеў свой латаны, замаслены пінжачок. Хлопец быў вельмі стомлены: цэлых трынаццаць гадзін пратрымаў яго «шэф» у гэтым праклятым гаражы. Дабрадушны з выгляду Гюнтэ стараўся выціскаць з людзей усё, што толькі можна. «Жмінда старая»,— вылаяўся ў думках Сяргей, пазіраючы ўслед Гюнтэ, які накіраваўся ў кантору.

Сяргей ужо сабраўся ісці дамоў, як на двор укаціў незнаёмы сіне-шэры «опель-капітан». З машыны рашуча выскачыў гестапавец, а ўсярэдзіне яе Сяргей заўважыў шафёра, падпольшчыка Калесніка.

Твар Калесніка быў увесь у сіняках і страшэнна распух. «Папаўся!» — адразу зразумеў Сяргей і тут жа насцеражыўся: «А Клава? Што з ёю?» Яго стома ў момант знікла. Думкі адразу пабеглі, завіхурыліся.

«Клава таксама... папалася?!»

Напэўна, папалася. У яе, у мяшках з бульбаю, павінна было быць самае галоўнае — магніткі. Нічога іншага недазволенага Калеснік не вёз, толькі гэта...

Значыцца, гестапаўцы знайшлі магніткі. А калі так, то яму таксама не мінуць турмы... Трэба зараз жа ратавацца, як мага хутчэй.

Ён заўважыў, што два эсэсаўцы з аўтаматамі сталі каля выхада з двара. Не марудзячы больш ні хвіліны, хаваючыся за машыну, Сяргей мітнуўся за вугал гаража. Ён прабраўся па вузенькім цёмным закутку, што ішоў паміж сцяною і плотам, да месца, дзе ў плоце была напалову адарвана дошка. Сяргей адсунуў яе і выскачыў на агарод. Тут ён асцярожліва азірнуўся: ці не гоніцца хто за ім. Пакуль нікога не было.

Прыхоўваючыся плотам, ён выбраўся на суседнюю вуліцу. Трохі прайшоў па ёй, не хапаючыся, нібы спакойна, каб не выклікаць падазрэння ў сустрэчных. Нарэшце павярнуў у завулак.

Як ні стараўся стрымлівацца, не мог ужо ісці звычайнай хадой. Не ставала сілы цягнуцца далей так: кожны момант у гаражы маглі хапіцца, што ён знік, кінуцца ўслед. Азірнуўшыся, ён дадаў хады, гатовы вось-вось кінуцца бегчы.

Завулак, яшчэ завулак, не напрасткі, зігзагамі. І хутчэй, хутчэй ад гаража, ад небяспекі. Часта, хапатліва дыхаючы, ён трывожна думаў, дзе ж Клава. Чаму Калеснік у машыне адзін?.. Ён рабіў розныя здагадкі. Найбольш праўдзівай з іх здавалася такая: Клаву, мусіць, павезлі ў сталоўку, дзе яна працавала...

— Эх, Клава, Клава! — загараваў ён.— Чаму ёй так не пашанцавала? І Калеснік — столькі разоў выходзіў удала з усіх закавык, і раптам — папаўся...

У ціхім завулку, вельмі далёка ад гаража, Сяргей спыніўся. Абапершыся аб плот, нібы адпачыць, ён пачаў абдумваць, што рабіць далей. Усё раптам змянілася ў яго становішчы, і ён не ведаў, як быць далей. Адно толькі было вядома: ісці дамоў нельга.

Калі гестапаўцаў яшчэ і няма ў яго хаце, яны хутка, як груганы, наляцяць туды. Наляцяць, гэта ўжо

факт. Яны не пакінуць без сваёй увагі яго і Клавінага дома. І факт: нават калі ў іх няма ніякіх зачэпак супраць яго, Сяргея, яго ўсё роўна арыштуюць. Ужо за тое, што Клавін брат.

І тут легла на сэрца яго яшчэ больш цяжкая трывога: мама! Як ён не падумаў пра гэта адразу. Яна ж таксама ў небяспецы, над ёю таксама не злітуюцца. Яны і яе схопяць. Усіх Клавіных блізкіх схопяць, а яе найперш. Кінуць у турму, будуць катаваць.

Яна яшчэ, напэўна, нічога не ведае! Трэба выратаваць яе, выхапіць з дому. Можа быць, яшчэ не позна...

Разумеючы, як гэта небяспечна, ён усё ж стаў прабірацца да дому, да маці. Завулкамі, пусткамі, спяшаючыся як толькі можна, дапаў ён да суседняга саду. Намерваючыся адсюль выведаць, ці дома яшчэ маці, ці няма гестапаўцаў. Тады адсюль пралезці ў дом...

Ён убачыў толькі, як яе выводзілі [redacted] дому двое ў чорных плашчах. Як штурхнулі ў крыты грузавік і зачынілі дзверы ўслед.

2

Першыя дзве ночы ён перабыў у свайго таварыша, таксама падпольшчыка. Схова гэта была вызначана яму яшчэ да правалу, на ўсякі выпадак. Тут некалькі разоў яны хавалі сувязных [redacted] лесу. А цяпер вось давялося Сяргею.

Ён сядзеў у цесным драўляным хлеўчуку. Нават не так у хлеўчуку, як у склепе. Сырым і цёмным склепе пад хлявом. Улазячы туды, ён павінен быў накрываць над сабою покрыўку. Днём яе часам застаўлялі яшчэ скрынкай з рознай драбязою.

У склепе былі перагародка, цэбар, палічка з аднаго боку. Раней у ім трымалі бульбу, капусту, іншыя харчовыя прыпасы. Цяпер ніякіх прыпасаў не было, былі толькі макраватая гніль і цяжкі, задышны пах зямлі. Каб не задыхнуцца, Сяргей прыўздымаў крышку, падкладваў у кут яе абломак дошкі.

Хлеў быў замкнёны знадворку, у яго, каб не прыцягваць лішняй увагі, амаль не заходзілі. Заходзілі таварыш і яго сястра не больш двух разоў на дзень — нібы па дровы. Тады яны ўпотай і прыносілі што-небудзь з'есці.

Узняўшы покрыўку, падавалі яду, паведамлялі коратка навіны і знікалі хутка: нельга было затрымлівацца.

Марнеючы ў зямлі, у цемры, якую часам ледзь разрэджвала святло з-пад покрыўкі, Сяргей востра лавіў гукі жыцця вакол хлеўчука. Чуў галасы на сваім двары, на суседскіх, мужчынскія, жаночыя, дзіцячыя. Ён разбіраў ужо: у суседкі справа быў галасісты хлопчык, да якога збіралася чародка равеснікаў. Дзеі малых часта круціліся блізка ад хлеўчука. Аднойчы залезлі нават на хляўчук, круціліся там, пакуль сястра сябра не патурыла: «Праломіце крышу, бейбусы!..»

Сяргей з ахвотай і радасцю лавіў іх галасы: яны бадзёрылі і весялілі, нібы нагадвалі, што ёсць, не спыняецца жыццё. Але ён не толькі радаваўся ім, ён і сцярогся: як бы падшыванцы не заўважылі, не падсачылі.

У суседкі былі яшчэ дзяўчынка і малое. У суседкі злева быў зласлівы, нервовы голас. Яна ўсё то загадвала, то пагражала: сыну свайму, некаму дарослаstarting — відаць, чалавеку свайму... З боку дома даходзілі гукі вуліцы. У ціхі час былі чуваць крокі па драўляным тратуары, галасы. Бразганне калёс па бруку, рыканне грузавікоў.

Нярэдка сярод галасоў ён лавіў блізка нямецкія, насцярожваўся.

Уночы ён выбіраўся наверх. Сядзеў і драмаў на зямлі, піў свежае, на дзіва смачнае паветра. Ноч таксама была поўная гукаў, часцей за ўсё далёкіх. На вуліцы ж як правіла было ціха. Ноччу толькі грукалі цяжкія крокі нямецкіх патрулёў ды раўлі, праходзячы, машыны. Раўлі пагрозна.

А яшчэ ўночы гаварылі зеніткі ды — было відаць праз шчыліны ў хлеўчуку — хадзілі нажы пражэктараў. У небе звінелі гукі, якія слухаў з надзеяй, ад якой сціналася сэрца. Ішлі самалёты, нашы, зорныя. Гупалі ў розных месцах горада выбухі. Бамбілі.

Яму было цяжка. У Сяргеевым жыцці, пэўна, ніколі яшчэ не было такіх цяжкіх дзён.

Гняла невядомасць. Невядомасць, у якой таілася самае страшнае. Гнялі адзінокасць, неабходнасць хавацца. Гняла бяздзейнасць, вымушаная, нязносная бяз-

дзейнасць. Усё гняло ў схове яго, маладога, поўнага імкнення жыць.

Асабліва пагана было яму, калі ён думаў пра маці і пра Клаву. Калі ён уяўляў, як іх, напэўна, катуюць. Ён быў вінаваты перад імі. Вінаваты ў іх лёсе. У тым, што абедзве яны ў турме, што пакутуюць там. Гэта ён прывёў Клаву да падпольшчыкаў. Ён навёў небяспеку, бяду на маці. Канечне, іншага кірунку не было. Канечне, трэба было змагацца, і ён будзе змагацца. І ён разумее ўсё, што здарылася — непазбежна ў барацьбе. Але хіба гэтым можна супакоіць сваю душу, калі ведаеш, што там з імі робяць. Калі ведаеш, што ў рэшце рэшт прычына ўсяму гэтаму — ты. Ты, які сядзіш тут, пакутуючы толькі ў думках.

Кожны раз, калі Сяргей думаў пра маці і сястру, яму нястрымна хацелася выйсці адсюль. Выйсці, што б там ні было, не асцерагаючыся, не лічачыся ні з якой рызыкай. Толькі б не сядзець, толькі б — дзейнічаць.

Тады ён зноў і зноў шкадаваў, што няма ні адной магніткі, няма аўтамата. Аўтамат нямецкі, праўда, быў, але ён, Сяргей, расшчадрыўся аднойчы, аддаў сувязному, партызану. Вельмі ж таму хацелася...

Тое, што здарылася з маці і сястрою, блытала ўсе яго ранейшыя разлікі. Неразвязна заблытвала яго цяперашняе жыццё. Раней, думаючы, што трэба будзе зрабіць у выпадку правалу, ён нязменна ўсе свае планы звязваў з партызанамі — пойдзе ў лес. Лес быў надзеяй, абаронцам: калі толькі ўдасца выслізнуць з лап гестапаўцаў — адразу ў лес, з маці і Клаваю. Але вось — цвяроза мяркуючы — трэба б у лес, а пайсці туды — не мог. Не мог прымусіць сябе пакінуць горад, пакуль маці і Клава тут. Пакуль яны ў небяспецы.

Трэба было заставацца жыць і дзейнічаць тут. Але жыццё тут ставіла мноства новых, цяжкіх для вырашэння пытанняў. Усе звыклыя сувязі былі разарваны тым, што нельга было выходзіць у горад удзень.

Цяпер ён мог выходзіць са схова і сустракацца толькі ўночы. Трэба было ладзіць новыя спосабы сувязі. Але ладзіць іх было нялёгка...

Ведаючы, што надзеі на ратунак маці і Клавы амаль няма, ён усё ж спадзяваўся. Спадзяваўся, што старую,

можа, не пакараюць: яна ж, высветліцца, не ведала нічога. Стараўся не траціць надзеі, што Клаве ўдасца апраўдацца, яе не трэба вучыць знаходлівасці. Ды і зачэпак, магло здарыцца, не знайшлі асаблівых...

Разумеючы зманлівасць гэтых надзей, ён прасіў сябра як-небудзь разведаць, што было ў гаражы і што там ведаюць пра Клаву, маці. Нецярпліва чакаў, калі той вернецца дамоў, і, ледзь той заходзіў у хлявучук, адчыняў склеп,— сустракаў яго трывожным позіркам. У першы раз сябар Сяргея прыйшоў ні з чым: не змог уведаць. На другі дзень сябар адвёў важкі позірк, і Сяргей зразумеў: навіны паганыя. Тады ж, калі прыязджалі гестапаўцы, амаль усіх механікаў і шафёраў арыштавалі, адных проста ў гаражы, другіх — на кватэрах. У наступны дзень гестапаўцы, праўда, некалькі чалавек выпусцілі, але сямёра яшчэ і цяпер сядзяць.

— Цябе, Сярожка, таксама шукалі. Дапытваліся, дзе ты можаш быць... Вобыск у тваёй хаце...

— Дзе мама?! Што з мамаю! Даведаўся? — ціха, цяжка выказаў Сяргей. Ён раптам нацяўся ўвесь, быццам баючыся дыхнуць.

— Маці, гавораць, у турме.

— Дзе, у якой?

— Не ведаюць.

— А — Клава?

— Таксама... у турме...

— Не ведаеш, як схапілі?.. З усімі... рэчамі?.. Ці толькі... падазраюць?..

— Яна трапіла нечакана. З усім...

— Э-эх...— Сяргей парывіста ўзняўся, неспакойна варухнуў плячыма і раптам сеў зноў. Апусціў галаву і, утаропіўшы кудысьці невідушчы позірк, затаіўся ў сабе, аддаўся свайму гору...

Некалькі дзён Сяргей хаваўся ў хаце Залескай. Галоўным, што прывяло яго сюды, было ўсё тое ж імкненне — даведацца, што з маці і Клавай. Сяргей прабраўся да яе дому ноччу, каля самага дома Залескай яго застаў чарговы налёт. Прытаіўшыся каля плота, Сяргей трывожна сачыў, як рэзалі неба праменні пражэктараў і выблісквалі зенітныя снарады. З самалётаў скінулі асвятляльныя ракеты, якія залілі горад святлом. Бамбілі адразу некалькі раёнаў, доўга і ўпэўнена. Калі бамбёжкі сціхлі, Сяргей пастукаў у шыбку таго пакоя, дзе

звычайна спала Залеская. Як толькі пачула, хто гэта, яна адразу пайшла адчыняць. Увёўшы Сяргея ў сенцы, загаварыла са слязамі:

— Божа мой, якое няшчасце!..

Яна нічога не ведала пра лёс маці і Клавы.

Уладзіла Сяргея на гары, у куточку за комінам. Над ім коса звешваўся паплёт і шчыльна прыгнаны адзін да аднаго гонт, які тут, знізу, быў яшчэ як новы. Сяргей па некалькі разоў на дзень падбіраўся да паўкруглага акенца, зацягнутага павуціннем, і пазіраў на горад. За бляшанымі і драўлянымі пірамідамі дахаў удалечы быў відаць рог будынка вакзала. Адтуль даходзілі гудкі паравозаў: Сяргею чуўся ў іх неспакой.

Нашы самалёты наляталі на горад цяпер і сярод белага дня. Гэтыя налёты яшчэ больш уздымалі ў Сяргею нецярплівасць, трывогу і надзеі. Сяргей прагнуў дзейнасці.

## 3

Неяк пад вечар у камеру ўпіхнулі жанчыну. Яна застагнала, трымаючыся за паясніцу, але праз момант сціхла і стала азіраць камеру, здзіўлена і недаверліва.

— Ідзіце сюды,— паклікала яе жанчына, што сядзела каля Ніны.

Новая адразу пачала прабірацца да яе, пераступаючы праз тых, хто ляжаў.

Калі жанчына села, яе пачалі, як звычайна, распытваць: хто яна, адкуль, а потым — асцярожна, з падходамі, за што ўзялі. Незнаёмая адрэзала сярдзіта:

— За доўгі язык.

Зазіраючы ў твары ўсіх вачыма, якія як бы прасілі спачування, яна пачала гаварліва, аж захліпаючыся, расказваць, як усё было. Яна прадавала на Чэрвеньскім рынку малако. Прынесла бітончык, прадала некалькі карчыкаў,— калі падышоў нейкі паліцай, не гаворачы, не плоцячы нічога,— як сваё,— узяў яе бітончык і падаўся прэч. Малочніца кінулася ўслед, хацела забраць сваё, ён адштурхнуў яе. І пайшоў сабе, бы не было нічога. Ад такога нахабства яна ашалела і ў гневе, каб дапячы паліцаю, крыкнула: «Пачакай, прыйдуць партызаны!..»

Паліцай, нашто быў глухі раней, адразу спыніўся.

Вярнуўся: «Партызаны?! А-а, дык ты з партызанамі звязана! Адкуль жа яны прыйдуць? А ну, ком са мной...» — і гвалтам пацягнуў яе з сабой.

У СД яна богам клялася, што і ведаць не ведае пра партызан. Але ёй не паверылі...

Цяпер ёй хацелася давесці гэта зняволеным. У камеры, амаль не сціхаючы, чулася, як яна скардзіцца ды охае. Асабліва надакучыла яна Ніне, поруч з якой сядзела. То яна трывожылася, што могуць цяпер кароўку забраць, што рэчы раскрадуць, то дапытвалася, колькі трэба заплаціць, каб выпусцілі з турмы.

— Пяць тысяч, пэўне, хопіць. Хопіць, праўда?.. Ці, можа, замнога столькі?..

— Сціхніце!.. Як вам не сорам? — з абурэннем сказала Ніна.

На другую ж ноч малочніцу, між некалькіх другіх, выклікалі і павезлі кудысьці. Яна не вярнулася: відаць, расстралялі.

Тут цяпер не вельмі дапытваліся: турэмшчыкам, мусіць, было ўжо не да гэтага. Яны спяшаліся. Па некалькі разоў за суткі дзесяткамі хапалі зняволеных, выводзілі на двор і адтуль везлі або ў канцлагер, або адразу на згубу.

Яны нерваваліся і шалелі. Асабліва лютаваў адзін з іх, наглядчык з сонным тварам. Штоночы п'яны ўвальваўся ён у камеру, абводзячы ўсіх ненавідным позіркам, выбіраў ахвяру. Забіваць яму не дазвалялі, але біць ён мог, колькі хацеў. І наглядчык гэтае права выкарыстоўваў. Выбраўшы каго-небудзь, ён без усякай прычыны, з асалодай садыста, рукамі і нагамі біў датуль, пакуль знемагаўся. Ісці да яго баяліся не менш, як у гестапа...

Страшныя гэта былі дні. Людзі, якім даводзілася зносіць нечалавечыя здзекі, увесь час адчувалі блізкі цень смерці. Кожны дзень гадалі: «Сёння?..» У тамлівым напружанні цягнуліся бясконцыя ночы. Ночы чакання і надзей. Асабліва расло напружанне пасля паўночы, пад раніцу. Бралі звычайна ў гэты час. Калі адчыняліся важкія дзверы, усе глядзелі: «Каго зараз?» Дзіўныя істоты людзі, разумеючы асуджанасць сваю, яны да самай апошняй гадзіны сваёй не трацілі надзеі: а можа, яшчэ не ўсё? У апошнюю хвіліну не маглі згадзіцца з пагібеллю.

Як тут да апошняй хвіліны чакалі цуду! Цуд гэты бачыўся ў розных абліччах, але найчасцей быў з надзеяй на прыход сваіх. З вызваленнем сваімі. Нечаканым, дзівосным. І яшчэ — колькі тут кіпела гневу, нянавісці. Калі б гнеў гэты меў жывую сілу, ніякія сцены не ўтрымаліся б перад ім. Узарваў бы ўсе сцены, якія б цвёрдыя яны ні былі.

Але сцены былі глухія і да гневу, і да праклёнаў зняволеных.

Дваццаць чацвёртага чэрвеня — позна вечарам — выклікалі Клаву.

— От і мая чарга настала...— прамовіла яна глуха, пачуўшы сваё прозвішча, і дзіўна ўсміхнулася.

Яна стрымана папраўіла пасму бялявых валасоў, што спалі на лоб, і раптам моцна, уся аддаўшыся моманту, прыціснулася да Ніны. Апаліла гарачым шэптам:

— Можа, мяне на смерць... Калі табе... пашанцуе, Нінка... скажы Сяргею пра ўсё...

Ніне захацелася падтрымаць яе:

— А ты, калі... будзеш... пра мяне... Аляксею і маці.

Сказала з тугою: ведала, што не вернецца, не будзе жыць Клава. Злічаны дні Клаўкі.

Адзін з турэмшчыкаў, які трымаў блакноцік у руцэ з залатым пярсцёнкам, закрычаў нецярпліва:

— Хутчэй, карова!

— Управішся! — кінула яму Клава, не адрываючыся ад Ніны. Раптам сумна, шчыра, нібы ўздыхнула: — Ой, не, Нінка, мне, мусіць, не давядзецца...

Як бы гонячы кволасць, яна хітнула галавой. Сабралася з сілаю, узнялася і да дзвярэй,— здавалася, як звычайна, спакойная.

Насустрач ёй выскачыў наглядчык з сонным тварам.

— Чаго паўзеш! — сонны брыдка вылаяўся і наводмаш ударыў яе. Клава ледзь утрымалася на нагах, але не паказала болю, болю на яе твары ніхто не ўбачыў. Яна нават усміхнулася. Пагардлівая, страшная ўсмешка з'явілася на яе твары.

— Эх ты, гніда нямецкая! — пачулі ў прыціхлай камеры.

— Д-давай! Кацiся!

— Спяшайся... Мала вам засталося!..

Наглядчык мацюкнуўся, ударыў зноў. Таўхануў люта.

Клава знiкла ў калiдоры. Нiна адчула, што больш яны ўжо нiколi не ўбачацца.

Усю гэту ноч Нiна думала пра Клаву. Згадвала першую сустрэчу: хто тады мог падумаць, што яна такая, гэтая дзяўчынка-жартаўнiца... Нiна бачыла яе зноў, якой яна прыйшла з допыту: «Ой, як мяне бiлi... Нiколi яшчэ не бiлi так...» «Усё-ткi яны ад мяне нiчога не дабiлiся!» — як бы яшчэ гучаў яе гарачы шэпт.

I вось яна пайшла ў апошнi, напэўна, шлях. Ледзь толькi пачаўшы ■ разуменнем жыць. Яшчэ амаль нiчога не паспытаўшы.

Ёй жа ўсяго семнаццаць. Столькi Нiне было, калi яна канчала дзесяты клас... Што яна ведала тады? Вочы толькi-толькi пачыналi разумець хараство. Сэрца ледзь пачало сумаваць па каханнi, невядомым, заваблiвым. Тады толькi пачыналася самае лепшае ў яе гадах. Усё лепшае ў яе жыццi было потым...

Клава не спазнае нiчога гэтага.

4

Ранiцай пасля гэтай ночы Нiну выклiкалi на допыт. Гэта быў яе апошнi допыт.

Дапытвалi яе цяпер не ў будынку былога Iнстытута народнай гаспадаркi, а тут жа, у памяшканнi турмы. У нiзкiм пакоi, куды яе ўвялi праз цёмны калiдор, быў следчы з «вучоным выглядам». Ён стаяў за сталом ■ немцам у форме эсэсаўца. Эсэсавец трымаў у руцэ, глядзеў нейкiя паперы.

— Вось яна,— сказаў следчы, мелькам слiзгануўшы па Нiне позiркам.

Ён даў рукой знак турэмшчыку, якi ўвёў Нiну, што той можа выйсцi, i турэмшчык знiк за дзвярыма.

Эсэсавец узняў вочы ад папер, зiрнуў на Нiну, востра i жорстка.

Следчы надзеў рагавыя акуляры, якiя ляжалi перад iм на папцы. Пачаў штосьцi жаваць, як i мiнулы раз.

— Я яшчэ раз паклікаў цябе,— загаварыў ён патрабавальна.— Мне патрэбны... прозвішчы саўдзельнікаў тут і адрасы явак... Ты іх, вядома, успомніла?..

Па тым, як ён трымаўся, Ніна адчула, што яго хвалюе тое, што побач эсэсавец, абавязвае да асаблівай строгасці, дзейснасці. Што ён сам нібы пад допытам. І што размова для яе будзе вельмі цяжкай.

Яна зірнула на знакі на мундзіры эсэсаўца: немалы чын, штурмбанфюрэр. Начальства нейкае...

— Я не ведаю іх.

— Не ведаеш? Ты, значыць, рашыла ўпарціцца?.. А я думаў, што наша мінулая размова... непрыемная для цябе размова прымусіла цябе паразумнець. Аказваецца, не... Не? — Вочы за рагавымі акулярамі рабіліся злымі. Ніна падумала, што сёння зноў будуць біць, але следчы, зірнуўшы на эсэсаўца, раптам сказаў:

— Ну, што ж, нарэшце... Мы заплоцім. Грошы дадзім. У Германію можам адправіць... калі ты баішся сваіх...

Эсэсавец, востра сочачы за Нінаю, стрымана кіўнуў галавою: пацвердзіў словы следчага.

— Я казала — я не была ў Мінску. Была ў мястэчку, у Ігумені. На кірмашы. Хадзіла мяняць рэчы на прадукты.

Яна ўвесь час адчувала маўклівую, нечым пагрозлівую ўвагу эсэсаўца.

— Ты смяешся! — наступаў следчы. Ён казаў як бы і ёй і эсэсаўцу.— Ваша брыгада звязана з горадам. Гэта вядома... У мяне дакладныя весткі... Я маю весткі, што тут была і ты...

— Я не была...

— Ты лжэш!..— раптам умяшаўся эсэсавец. Ён сказаў гэта так рашуча і злавесна, што Ніна адчула страх.

— Я не была тут,— ціха, але цвёрда паўтарыла яна.

— Не, ты была!..

У яго голасе была такая ўпэўненасць, нібы ён ведаў, усё ведаў. Ніне захацелася сесці.

— Яўкі і прозвішчы! — крыкнуў эсэсавец тонам загаду.— Зараз жа!.. «Не ведаю, нічога не ведаю...» — едка перакрывіў ён Ніну.

Рэйзе злосна ўсміхнуўся.

— Я не буду далікатнічаць!.. Пакуль не позна, чорт пабяры,— яўкі! Ну, я чакаю!

Нейкім паўсвядомым чуццём Ніна зразумела, што наступіў самы рашучы момант, што зараз усё завершыцца. Што звароту назад, надзей ніякіх на ратунак ужо не будзе. Што яна стала каля самага абрыву, што крок далей — у прорву...

Эсэсавец маўчаў, уставіўшыся пранізлівым позіркам на Ніну.

— Ну?!

— Я сказала — не ведаю.

Твар эсэсаўца, цвёрды, са сціснутым ротам, наліўся крывёю. Ён рэзка падаўся да Ніны і з нянавісцю ўдарыў яе кулаком у вуха. Яна ўпала. Калі Ніна прыўзнялася і села, стрымліваючы боль у галаве, каб не застагнаць, следчы, стараючыся, відаць, паддобрыцца эсэсаўцу, з пагрозай спытаў:

— Будзеш маўчаць?

Яна прамаўчала. Следчы ■ пагардай запэўніў:

— Мы і так усё ведаем! А ты дарэмна губіш сябе!

Рэйзе нецярпліва перарваў яго:

— Канчаць трэба!

Следчы вярнуўся да стала. Сеў на месца, сінім алоўкам штосьці надпісаў наверсе ліста і кінуў яго на край стала, як непатрэбную рэч. Зірнуў на эсэсаўца так, нібы паказваў: «Ну вось — зроблена!..»

Эсэсавец загадаў увесці наступнага. Следчы крыкнуў у дзверы і, калі паявіўся турэмшчык, што вёў Ніну, загадаў:

— Назад яе.

Зноў — калідорны прыцемак, мерны стукат аб падлогу ботаў турэмшчыка, рады дзвярэй. Важка заскрыпелі завесы, і Ніна апынулася ў сваёй камеры.

Абыходзячы людзей, якія сядзелі і ляжалі на падлозе і нарах, прабралася да свайго месца. Прымасціўшыся на ўскрайку нараў, абаперлася локцямі на калені. У галаве было адно, нерухомае і важкае: «канчаць трэба».

— Хутка сёння цябе... Напэўна, усё-ткі білі,— паспачувала суседка, Красуцкая.

— Без гэтага, мусіць, не абысціся...

Ніне гаварыць не хацелася, і Красуцкая, відаць, улавіла гэта. Не зачэплівала больш гаворкай. Ніна як

бы адасобілася, схавала ўсё ў сабе. Як і раней, ёй не думалася, у памяці стаяла ўсё тое ж: «канчаць трэба». Адчуванне асуджанасці, безвыходнасці. Даўкае нязноснае адчуванне.

З гэтай бядою яна не заўважала нічога навокал. Не хацела, не магла заўважаць. Усё навокал здавалася чужым, нібы ўжо не датычыла яе. Нібы было ўжо аддзелена ад яе непераходнай мяжою.

Потым наваліўся адчай, які напоўніў усю яе болем. Балела доўга, і здавалася, гэтаму не будзе канца. Але спакваля боль пачаў сціхаць і прыйшла цяжкая, дурнотная змора. Прыйшло нейкае атупенне, нейкая нячуласць. Абыякавасць да ўсяго.

Яна раптам апала ні то ў сон, ні то ў забыццё.

Абудзілася яна, калі ўбачыла сонечную палоску на сцяне. Падумала, што ўжо, відаць, поўдзень, бо ў гэтым месцы палоска бывае, калі сонца стаіць на поўдні.

Тады ўспомнілася, як сонечны прамень калісьці лавіла Люда. Лавіла і ніяк не магла схапіць непаслухмяны прамень, які, нібы дражнячыся, скакаў ёй на ручкі, на пальчыкі.

Ніне раптам нясцерпна захацелася ўзяць тыя ручкі, тыя пальчыкі, прыцісвуць да свае шчакі. Пяшчотна-пяшчотна. У душы варухнулася такое харошае і такое пякучае пачуццё, што сэрца зайшлося з болю.

Страшэнна захацелася гаварыць пра дачку. Падумала: з Красуцкай можна. Можна даверыцца, і зразумее ўсё... Зразумее. У яе самой чацвёра на волі.

— Дзе гэта цяпер мая... Людачка? — выказала яна сваю тугу Красуцкай.

Ніна расказала, не называючы горада, як аднойчы,— яна ўспомніла пакой Клавы, асветлены вячэрнім сонцам,— была блізка ад дачкі, але не змагла пабачыцца з ёй...

— Пабаялася за яе!.. Век за яе баялася.

— Вядома, матчына сэрца... У кожнай маці сэрца найбольш баліць па дзіцяці.

Красуцкая прызналася шчыра, балесна:

— Я таксама ўсё пра сваіх... Чую душою: мусіць, не пабачымся...

Яна ледзь стрывала, каб не заплакаць. Ніну зноў запёк боль. Працяла ясная, жорсткая думка, заліла ўсю адчаем: «І мы больш не ўбачымся...» Але так не хаце-

лася прымірыцца з гэтым, што яна запярэчыла сабе: не, быць не можа, каб ніколі!..

— А мне здаецца: пабачу...

5

Уночы непадалёк пачуліся гулкія выбухі гармат, за імі амаль адразу блізка захапаліся кулямёты. Ніна адразу ажыла, стала пільна ўслухоўвацца. Ажылі, заварушыліся ўсе ў камеры.

Хутка страляніна зрабілася такой густою, што здавалася, там, знадворку, усё неба пранізана кулямі ды асколкамі і, як бы ні хацелася, нікому не ўдасца праравацца да горада. Лямпачкі ў камеры пагаслі. На пераплеценых кратамі вокнах, прарэзаных каля самай столі, трапятала злоснымі ўсплёскамі святло.

Прайшло некалькі хвілін, і Ніна ў прамежку між выбухаў пачала ўлоўліваць жаданы, моцны гул. Ён рос, набліжаўся.

Нарэшце ўхапіла самае радаснае: гухнулі важкія выбухі бомб. Яны глушылі ляскат зенітак. Бомбы грукалі як бы чэргамі,— выбухне некалькі бомб, потым наступае малая паўза, пасля якой зноў: гу-гу-гу. Сцены казамата і падлога пры кожнай чарзе ўздрыгвалі.

— Гэта на Таварнай!..— радасна адзначыла Ніна. Яна прытулілася да старой Красуцкай: каб тая магла пачуць. Падзяліць шчасце: — Бамбяць Таварную! Ды як моцна! Што там цяпер робіцца, на Таварнай, пабачыць бы!.. Чуеце, як грымнула! О, яшчэ раз! Чуеце?..

— Толькі б уцэлілі добра...— адгукнулася турботна Красуцкая.

Ніна ведала, што значылі гэтыя словы. На Таварнай станцыі амаль заўсёды стаялі эшалоны з боепрыпасамі...

— Уцэляць! Яны ўцэляць!.. О, чуеце, яшчэ — якія выбухі!.. Гэта ўжо ў іншым баку.

— На станкабудаўнічым нібы...

Так, самалёты, падобна было, бамбілі і станкабудаўнічы завод, дзе рамантавалі танкі і гарматы... Ніну апантала такое шчасце, якога яна даўно не ведала. Калі яшчэ тут гарэлі гэтак весела яе вочы, у якіх цяпер адбіваліся зарніцы выбухаў!.. Вось яна, яе ўдача. Прыйшла! Парадавала!

Праз вокны, праз тоўстыя сцены ўсё прабіваліся гукі выбухаў — г-гах, га-гах...

У камеры слухалі гэтыя гукі як найлепшую музыку. Водбліскі святла выхоплівалі незвычайна ўсхваляваныя твары. Ззянне вачэй, усмешкі. Людзі нібы забылі пра сваё становішча.

Самалёты адбамбіліся, павярнулі назад. Гул аддаліўся, знік, сціхлі зеніткі, а ў камеры яшчэ доўга панавала шчаслівая ўсхваляванасць, якую прынеслі самалёты.

Доўга яшчэ выбухала штосьці, падобна — на Таварнай. Па сценах трапяталі чырванаватыя водсветы.

— Відаць, уцэлілі ў склад снарадаў...— Не магла маўчаць Ніна.— Не інакш, снарады! Глядзіце, як успыхвае!..

Ёй раптам падумалася, што лётчыкі, можа быць, карысталіся тымі весткамі, якія яна прынесла з горада. Можа, іх камандзір па яе карце-схеме выбіраў аб'екты для бамбёжкі.

Калі б так было. Каб недарэмна рызыкавала...

## 6

Клаву прывезлі сюды з лагера, што быў на вуліцы Шырокай.

Калі людзі пачалі выходзіць з машын, вартавыя, што канваіравалі арыштаваных, адабралі некалькі чалавек, першых, якія трапіліся. Між іх была і Клава. Ім адразу загадалі ўзняць рукі і, нічога не гаворачы, пагналі да нейкай нізкай і доўгай пабудовы. У ранішнім змроку яна была падобна на хлеў.

Клаву ўпіхнулі ў вароты.

Яна ступіла крок наперад і неспадзеўкі спатыкнулася аб штосьці мяккае, што ляжала на зямлі. Амаль у той жа момант недзе побач штосьці заляскала, прарэзліва, жалезна, моцна б'ючы ў вушы. Яна не ўправілася зразумець, што гэта, як яе люта штурхнула ззаду, і яна ўпала тварам уніз...

«Гэта — канец?» — працяла яе, страшнае, у нейкім ліхаманкавым тумане.

Адчуваючы, як унутры ўсё пахаладзела, Клава чакала, што зноў пачнуць страляць па ёй. Але некалькі хвілін было ціха. Тыя хвіліны цягнуліся вельмі марудна

на. Напэўна, нічога не магло быць горш гэтага: ляжаць, чакаць смерці.

Ёй страшэнна хацелася падхапіцца і бегчы, бегчы — абы-куды, толькі б не ляжаць тут, не чакаць.

Але яна стрымлівалася,— ці таму, што навакольнае было такім незвычайным, жахлівым, што яна не магла сабраць думкі да якога-небудзь ладу, ці таму, што, усёй душой цягнучыся да жыцця, яшчэ спадзявалася, што ўдасца як-небудзь вырвацца. Як бы там ні было, Клава ляжала нерухома.

Не застагнала, не варухнулася яна і тады, калі хтосьці схапіў яе за рукі і павалок, хоць плячо яе пры гэтым апаліла такім болем, што яна ледзь не страціла прытомнасць.

Яе кінулі ў нейкую яму. У яме, адужваючы боль, ад якога мутнела ў галаве, яна праз жах сачыла за тым, што адбывалася ўгары, ля варот. Купу за купай прыганялі арыштаваных. Зноў чуліся крыкі людзей і лаянка вартавых.

— Н-ну, жвавей! Чорт пабяры... Ідзі!..

— Не пайду! Страляй тут, паскуда арыйская!

— Гей, пагавары! Штыль!.. Маўтшаць! Маўтшаць!

— І так намаўчаліся! Хопіць.— І на ўвесь голас: — Смерць вашаму Гітлеру, іуды! Усім вам!.. Гады вы! Падкалодныя!

— Страляй, сволач! Страляй! Хутка прыйдуць нашы. Яны табе...

Нечы дзявочы голас маліў: «Мамачка мілая... мамачка мая...»

Воклічы і галасы абрываў, глушыў рэзкі жалезны ляскат. Аўтаматы.

Два забітыя, якіх сапхнулі ў яму, прыціснулі Клавіны плячо і ногі. Ёй было балюча, але яна маўчала.

Раптам штосьці вогненна зіхнула, ударыў выбух. Адзін, другі. Праз жах, які поўніў яе, прарвалася здагадка — гранаты. Кідаюць, пэўна,— каб дабіць параненых.

Адна граната разарвалася так блізка, што выбух на хвіліну аглушыў Клаву. Але яна засталася жывой, бо яе прыкрыў сваім целам забіты.

Потым загучалі рэзкія, як каманда, галасы, воклі-

чы за варотамі, і, нарэшце, стала ціха. Канвойныя, відаць, адыходзілі, галасы іх паволі глушэлі.

Яна асцярожна павярнула галаву. Угары, каля ямы чарнеў ледзь відны ў змроку салдат, з нейкай пасудзіны абліваў забітых. Далей, за ім, значыўся яшчэ хтосьці. Яна чула, як, плюскочучы, льецца вадкасць. Ёй даў у нос едкі пах бензіну, і да яе дайшла страшная здагадка:

«Нас збіраюцца спаліць!»

Ад гэтай думкі Клаву нібы абліло варам. Ёй зноў захацелася ўскочыць і бегчы, бегчы. Але яна ўсё ляжала...

Неўзабаве ў салдат здарылася нейкая замінка, і яны, перакінуўшыся нейкімі недавольнымі словамі, сталі выбірацца з хлява.

У аднаго, калі ён выходзіў, бразнула аб нешта цвёрдае пасудзіна...

7

Калі крокі і галасы салдат пачалі аддаляцца, Клава першы момант яшчэ ляжала, нібы нежывая. Яна не адразу і зразумела, што адбылося. Але хутка ў гарачым змроку, што поўніў яе галаву, штосьці заяснела, затурбавала. Тады да яе ўжо выразна дайшло, што крокі аддаляюцца, што адбылося нешта важнае для яе, і гэта Клаву быццам абудзіла.

Чуючы, як ураз забілася сэрца, яна з натугай вызваліла плячо і, крыху ўзняўшы галаву, стрымліваючы боль у плячы, у спіне, спасцярожліва азірнулася.

Тут нікога больш не было. У яе ўспыхнула з новай прагай надзея, ад якой сэрца закалацілася гулка, часта.

Нікога?! Няўжо — нікога?! Не верачы, яна азірнулася ў другі раз. Нікога! Навокал не было нікога! Ніводнай постаці з тых.

Ціха. Пуста і — ціха. Так ціха, што становіцца млосна. Нямее, сціхае сэрца.

Толькі аднекуль здалёк — глыбокі, пакутлівы стогн кагосьці з раненых: ы-ых, ы-ых!

Нікога няма! Ніхто не сцеражэ!.. Можна... Клава не ўправілася дадумаць, як усю яе заліло палючае, нястрымнае: хутчэй, хутчэй!

Не трацячы ні хвіліны, яна паспрабавала скінуць

з сябе важкі труп, што прыціснуў ногі і паясніцу. Як ні намагалася, не змагла нават зварухнуць дзіўна непадатны цяжар. З адчаем і знямогай апала. Але праз момант зноў нецярпліва, што сілы ўперлася рукамі ў дол, напружыла спіну. Хітнулася, спрабуючы скінуць цяжар. Труп крыху падаўся. Яна яшчэ напружыла спіну і плячо і ссунула труп ніжэй. Яшчэ адно намаганне, яшчэ, і цяпер толькі ногі да каленяў заціснуты. Ногі яна можа выцягнуць.

Вызваліўшыся, нарэшце адчула, што знемаглася. Але перадыхваць не стала. Няма калі. На коленцах дабралася да краю ямы, учапілася ў яго рукамі, адчула пад пальцамі мокрую і слізкую зямлю. Узлягла на край ямы грудзямі, уперлася каленямі. Выбралася.

Два крокі — і яна апынулася каля варот, у якія цьмяна шарэў двор.

Тут яна прыпынілася. Хоць хацелася хутчэй, хутчэй бегчы, хоць адсюль быццам штурхала штосьці гарачае, нецярплівае, яна стрымалася. Тулячыся да шурпатага вушака, асцярожліва, пільна выглянула.

Нікога не відаць. Пуста, ціха. Толькі сэрца гулка, важка гухкае,— яго ўдары ў цішыні, як грымоты. Клава прыціснула руку да грудзей, як бы стрымліваючы яго,— узяў страх, што яго могуць пачуць...

Куды бегчы? У які бок? Яна хацела была ўжо кінуцца ўлева, калі адтуль пачуліся недалёкія галасы. Відаць, салдаты вярталіся.

Каб не гэтыя галасы, Клава наскочыла б на забойцаў, але, на шчасце, яна пачула іх у час. Забойцы самі як бы перасцерагалі Клаву: жыццё яе залежала ад нікчэмнай выпадковасці.

Слухаючы галасы, у якіх ёй чулася пагроза, хоць немцы гаварылі будзённа, яна, не марудзячы, не разважаючы, рашуча кінулася ў вароты. Тулячыся да сцяны, ценем шмыгнула за вугал будынка.

Яна ледзь управілася схавацца за вуглом. Прыціскаючыся да бярвенняў, замершы так, што сэрца нібы спынілася, яна прыслухалася да галасоў і крокаў — ці не заўважылі?! Ці не ідуць сюды? — і разам з тым насцярожана і востра кінула позіркам навокал.

Месца было пустое і адкрытае: ні кусточка, ні лагчынкі, дзе б можна было прапаўзці, стаіцца ад чужых вачэй. І змрок шарэў па-ранішняму рэдкаваты, здрадлі-

вы, і цішыня панавала зманлівая, небяспечная. Чаму была не глухая, асенняя ноч, не цемра, якая хавае чалавека, не вецер, які глушыць крокі...

Справа хтосьці хадзіў,— напэўна, вартавы, яго было слаба відаць у прыцемку. Каля вартавога ледзь значыліся ў рад слупы, там — мільганула ў Клавінай галаве — напэўна, загароджа. Вунь, лявей, яшчэ адна постаць.

Як тут выбрацца?

Марудзіць нельга было. Яна не толькі ведала гэта, яна гэтым жыла. Гэта было самае галоўнае ў яе душы. Ледзь агледзелася, яна адразу ж пачала адпаўзаць — хутчэй, хутчэй ад гэтага страшнага месца.

Больш за ўсё ў гэтыя хвіліны шкадавала яна, што навокал так светла! Здавалася, кожны рух яе відаць здалёк. Яна прыпынялася ад страху, замірала: ці не заўважылі яе. Вунь вартавы чамусьці перастаў хадзіць...

Прыпаўшы да зямлі, не варушачыся, яна чакала са страхам. Не, гэта ён так, ён не бачыць яе. Вось ён зноў захадзіў. Клава аддыхалася: тады, калі сачыла за вартавым, перастала дыхаць.

Цяпер можна прабірацца далей, асцярожней і смялей, пакуль не позна.

Шлях гэты здаўся ёй бясконца доўгім. Яна яшчэ некалькі разоў прыпынялася, прыслухоўвалася, узіралася ў змрок, пакуль нарэшце не дабралася да агароджы, да слупа, які цяпер здаўся вельмі высокім. Тут яна зноў прыпынілася. Трэба было зрабіць, мусіць, самае цяжкае, а можа, і немагчымае: прабрацца праз калючую загароджу.

А што, калі яна, загароджа, так зроблена, што праз яе пралезці няможна? Ці, можа, ледзь дакранешся да яе, яна загрыміць? Трывожачыся гэтым, Клава асцярожна кранула рукою дрот. Хутка адхапіла руку, паслухала: навокал было па-ранейшаму ціха. Узняўшы ад зямлі тугі, жорсткі дрот, паспрабавала падціснуць пад яго плечы.

Дрот паддаваўся неахвотна, уядаўся калючкамі ў рукі.

Ёй прыйшлося легчы на спіну, каб можна было трымаць дрот над сабою. Так яна прасунула галаву, грудзі. Рукі дрыжалі, стамляліся ад натугі, і яна апу-

скала іх. Потым зноў уздымала, адціскала дрот. Асабліва цяжка было адціскаць яго, калі засталося выцягнуць ногі. Рукам не было як абаперціся. Яна сагнулася, легла амаль усцяж дроту. Калючкі ўпіваліся ў ногі, ранілі, але яна не чула болю.

Тады, калі ўжо амаль уся выбралася за загароду, яна раптам заўважыла, што спадніца зачапілася за калючку. Клава паспрабавала лёгка пацягнуць спадніцу, але калючка моцна трымала.

Стараючыся не трывожыць дрот, прытрымліваючы яго адной рукой, другой вырвала тканіну. Вызвалілася нарэшце ад калючкі...

За загароджай, у траве Клава нейкі час ляжала, чакала, пакуль вартавы адыдзе далей. Сочачы за ім, збіраючыся з сілаю, яна раптам пачула: пахла рамонкам. Пахла так моцна, так неверагодна, што ў яе пачала кружыцца галава.

Вычакаўшы зручны момант, яна выбралася на дарогу. Уціскаючыся ў зямлю, ловячы кожны гук у ранішняй цішыні, хапатліва папаўзла на другі бок. Перабраўшыся, затаілася ў затравелай канаве, пасцерагла, ці не заўважылі. Выглядзела, у які бок ідзе вартавы. Было ціха, і вартавы ішоў ад яе. Значыцца, можна далей.

Паўзком па роснай траве яна дапала да хмызнячку.

Схаваўшыся ў ім, узнялася трохі, азірнулася, паслухала. Не маючы больш сілы стрымлівацца, забыўшыся пра асцярогу, адно адчуваючы ззаду за сабой здань смерці, якая нібы гналася за ёй, кінулася ў бок балота ці рэчкі, мяркуючы па тым, што там бялеў туман. Задыхаючыся ад бегу, гарачкава думала: у тумане можна пакуль што схавацца, а ў балоце яна скрые свой след. На той выпадак, калі кінецца пагоня... І нап'ецца вады...

Ґаліны алешынак і бярозак секлі яе твар, але яна бегла і бегла. І ўсё прагнула — хутчэй, хутчэй ад таго жахлівага будынка.

Яна не ведала ні радасці, ні палёгкі. Усе яе пачуцці глушылі трывога і страх, якія гналі яе ўсё далей...

Але хутка яна пачала слабець. Галаву паліў агонь, ён паступова мацнеў і, нарэшце, пры кожным кроку стаў адзывацца нясцерпным болем. Яна вымушана бы-

ла пайсці цішэй, са страхам заўважаючы, што перад яе вачыма ўсё пачынае хістацца.

У яе яшчэ хапіла сілы перабрацца цераз рэчку. Гэта, выявілася, было не балота, а дробная, мелкая рэчка. Вады ў рэчцы было крыху больш, як да каленяў. Перайшоўшы рэчачку, Клава здолела праз лужок дапаўзці да загону жыта. Становішча яе было па-ранейшаму небяспечнае, тут маглі лёгка знайсці.

Калі ўзнялося сонца і пачало прыграваць, яна ляжала тварам да мяккай, пульхнай зямлі, тулілася шчакой да белай кветкі павітухі. Як праз дрымоту, праз гарачы звон, што поўніў галаву яе, пачула яна поблізу крокі, шоргат калоссяў. Хтосьці блізка ішоў.

Больш нічога не чула. Усё раптам патанула ў гарачым звоне, усе трывогі і ўсе надзеі.

Клава страціла прытомнасць.

# ЧАСТКА ЧАЦВЁРТАЯ

## РАЗДЗЕЛ I

### 1

Дні былі поўныя руху, клопату, падзей.

Яны быццам падаўжэлі — так многа ўбіралі ў сябе. Незвычайна многа ўбіралі яны, дні баёў, дні наступлення. Дні смерці для адных і дні жыцця для другіх. Дні непараўнанай радасці на нашай спакутаванай зямлі.

Тысячы тысяч узброеных людзей з усёй краіны — танкісты, пехацінцы, артылерысты, салдаты і афіцэры — рушылі з баямі па нашай зямлі.

Мост быў разбураны. Іншыя зручныя для пераправы месцы знаходзіліся далёка. Старшы лейтэнант рашыў перапраўляцца ўброд.

Танкі, рассоўваючы крутымі грудзьмі ваду, лёгка пераходзілі рэчку, але з натугай раўлі, калі пераадольвалі вязкі грунт берага. Як ні асцярожна вялі па гэтым грунце машыны вадзіцелі, памятаючы Аляксееву навуку, усё ж, калі пераправіліся некалькі машын, гусеніцы раскапалі на берагах такія канавы, што гразь уздымалася амаль на вышыню кліранса. Аляксей паспрабаваў пераправіцца далей ад дарогі. Паслаў туды аднаго з самых вопытных вадзіцеляў, але машына засела, яшчэ не дайшоўшы да рэчкі. Давялося вяртацца на ранейшае месца.

— Наслаць бярвенні! — загадаў старшы лейтэнант. На кожнай машыне былі бярвенні, падрыхтаваныя яшчэ да пачатку прарыву, па загаду Бяссонава іх увесь час везлі з сабой.

Цяпер іх хутка паклалі ўпоперак чорных разваротаных канаў. Па бярвеннях, як па шпалах, пачалі пераправіцца «трыццацьчацвёркі»...

Неўзабаве важкія машыны так уціснулі ў гразь бярвенні, што іх не стала відаць.

Старшы лейтэнант, які ўвесь час быў на беразе, выходзіў насустрач кожнай машыне, што набліжалася да пераправы, і, ступаючы наперадзе яе, рукамі паказваў механікам, дзе весці.

На шчасце, ноч была ясная. Над полем серабрыста бялеў амаль поўны месяц, падобны на ліхтарны шар, і перапраўляцца можна было, не запальваючы святла. Вада ў рэчцы блакітна свяцілася,— за машынамі, як ад парома, разыходзіліся ў бакі зыбкія вадзяныя палосы.

Адна «трыццацьчацвёрка» засела на самым цяжкім месцы пераправы, у пачатку другога берага, калі трэба было як можна павялічыць абароты, даць сілу машыне, каб яна здолела ўзяць круты ўздым, матор не вытрымаў нагрузкі, заглух. Вадзіцель заводзіў яго зноў, павялічваў абароты, але матор не цягнуў, глух.

— Эх ты, герой! — сказаў гарачкава лейтэнант Гогабярыдзе.— У лужыне сеў!..

— Вазьмі на буксір,— загадаў яму Аляксей, які не любіў гаварыць попусту.— Чаго тут лаяць, усё роўна гэтым не дапаможаш.

Лейтэнант схамянуўся, заспяшаўся да кладкі, якая была перакінута на месцы разбуранага мастка. Аляксей бачыў, як Гогабярыдзе спрытна перабег па хісткіх жэрдках, балансіруючы рукамі. Рухі яго, як заўсёды, былі лёгкімі і прыгожымі. «Хадзіць бы табе, Сандро, у тэатры па сцэне, каб любаваліся ўсе»,— мімаволі мільганула ў галаве Аляксея.

Тады, калі на тым баку прыладжвалі буксір, старшы лейтэнант то хадзіў туды-сюды, то паглядваў нецярпліва за рэчку, непакоіўся, што гэтая пераправа адбярэ ў яго многа часу. Прыйдзецца, мусіць, да самага світання тут працягацца. І хто б мог ведаць, што гэтая рачулка так доўга затрымае. Аляксей адчуў, што вельмі стаміўся. «Трэба было б гадзіну падрамаць... Ну, што ж, яшчэ некалькі машын перапраўлю, а потым пакіну наглядаць тут каго-небудзь...»

Неўзабаве на тым баку натужна, з завываннем, загурчаў буксірны танк. Счапілі, было відаць, некалькі тросаў, каб буксірная машына стаяла наводдаль ад берага, на цвёрдым грунце...

Танк, што засеў на пераправе, неахвотна і важка пачаў успаўзаць на разварочаны бераг...

## 2

Старшы лейтэнант убачыў, што па дарозе да пераправы падышла легкавая машына. Як толькі яна спынілася, з яе выскачыў прысадзісты, з выгляду моцны чалавек. Аляксей пазнаў Бяссонава і пайшоў насустрач яму.

— Ну, як тут у цябе? Многа перацягнуў?..

Палкоўнік, не спыняючыся, адразу накіраваўся да рэчкі. Аляксей на хаду дакладваў яму, як ідзе пераправа, колькі машын перабралася ўжо на другі бераг.

— Корпаешся доўга,— прамовіў незадаволена Бяссонаў.— Так да паўдня буксаваць будзеш...

Ён паглядзеў, як гусеніцы размясілі бераг, і, загадаўшы, каб Аляксей ішоў за ім, пакрочыў назад.

Каля свайго «газіка» ён спыніўся:

— Вось што, Лагуновіч, пакінь за сябе намесніка, а сам — бяры машыны, што пераправіліся, і гані ў кірунку Хвойнага! — Ён сказаў ад'ютанту, каб той даў ліхтарык. Пасвяціў Аляксею, які выняў карту з планшэткі.— Вось тут... у лясочку — будзеш засяроджвацца. Злева ад дарогі, правей цябе, будзе Белабародаў... Немцы — ёсць весткі — на выручку сваім спешна перакідваюць пяхотную дывізію. Трэба выйсці сустрэць іх!..

Ён сеў у машыну, даў знак шаферу завяртаць і ўжо на хаду кінуў Аляксею:

— Трымай са мной сувязь — будзь увесь час на прыёме!..

— Ёсць, таварыш гвардыі палкоўнік!

Аляксей адразу перабраўся на той бераг, да сваёй машыны. Па тым, як камандзір роты рашуча і хутка падышоў, Гогабярыдзе здагадаўся, што далі нейкі важны загад.

— Справа ёсць?

— Так, Сандро, заданне. І вельмі важнае... Давай камандзіраў сюды!

Схіліўшыся ў люк вадзіцеля і паднёсшы карту да маленькай зыркай лямпачкі, Аляксей уважліва праглядзеў маршрут.

Калі камандзіры сабраліся, ён некалькімі словамі расказаў пра задачу і загадаў зараз жа падрыхтавацца выступаць.

Цяпер, адчуваў ён, на ўліку кожная хвіліна... Аляксей спехам зацягнуўся папяросаю некалькі разоў, кінуў яе і ўскочыў на вежу. Танк крануўся.

Ішлі хутка. Па-ранейшаму свяціў месяц, і былі добра бачны дарога, палі з бакоў, дрэвы, пералескі наводдаль. Не затрымліваючыся, праскочылі праз некалькі пустынных вёсак з цёмнымі хатамі.

Хуткі рух, чаканне блізкага бою, адчуванне небяспекі, якая магла таіцца ўсюды тут, у варожым тыле, трымалі Аляксея ў напружанні. Паглядваючы ўвесь час наперад і ў бакі, Аляксей узрушана думаў пра бой, імкнуўся ўгадаць, прасветліць план яго, характар дзеянняў роты. Ён непакоіўся, ці ўдасца падысці да месца раней за нямецкую калону. Лепшым варыянтам, вядома, было б, каб удалося дамчацца раней, заняць зручную пазіцыю, зрабіць засаду. Прыхавацца і, падрыхтаваўшыся, чакаць.

Важна, думаў ён — калі будзе такая сітуацыя,— ударыць знянацку і адразу — на ўсю сілу. Аглушыць, разламаць першым ударам, не даць апомніцца. Выкарыстаць усе перавагі засады, неспадзяванага ўдару... Толькі б удалося дапасці загадзя, падрыхтавацца...

Калі ён думаў пра гэта, у ім бруілася надзея, што, можа быць, немцы на ноч затрымаюцца на адпачынак. Але цвярозыя меркаванні мутнілі, нішчылі надзею, амаль упэўнены быў: не затрымаюцца. Ноч цяпер — самы зручны момант для руху. Ды, да таго ж, сёння яна такая светлая. І фар запальваць не трэба...

Непакоячыся пра тое, як можа разгарнуцца бой, шкадаваў пра дзве машыны, што заселі на пераправе. Вельмі патрэбнымі былі яны цяпер.

У думкі пра бой, пра роту амаль увесь час унізваліся звыклыя думкі пра дарагое і невядомае — пра Ніну. Дзе яна цяпер? Як жыве? Ці ўсё добра ў яе? Як заўсёды, калі думаў пра яе, Аляксееваму сэрцу станавілася неспакойна. Цяпер, калі яна была бліжэй, чым калі-небудзь, калі бліжэй была сустрэча з ёй, у ім нібы расла трывога за яе.

Трывога гэта, няпэўная і жывая, была недзе ў глыбіні і тады, калі старшы лейтэнант звязаўся па рацыі з камбатам і з «Грымучым» — радыстам камандзіра брыгады.

— «Грымучы»! Я — «Ручай»... Як чуеце мяне?..

Прыём,— ён пераключыў рацыю на прыём і пачуў адказ радыста палкоўніка Бяссонава:

— Я — «Грымучы»... Чую вас добра...

У навушніках стаяў бязладны трэск, мешаніна розных гукаў.

Аляксей адзначыў: у святле месяца палоскі збажыны, якая ледзь варушылася, паблісквалі, як марскія хвалі. Ценявыя бакі кустоў і дрэваў былі чорныя, загадкавыя, і Аляксей на гэтыя цені пазіраў недаверліва.

У баку фронту амаль без упынку грукалі гарматы. Гукі іх цяпер нагадвалі прыцішаны, няблізкі гром. Слухаючы тое бяссоннае ўркатанне, Аляксей падумаў, як многа яны прайшлі за гэты кароткі час. Але гукі далёкіх грымот будзілі разам з тым і неспакой,— Аляксей у іх як бы чуў, што нямецкія войскі па-ранейшаму б'юцца, б'юцца зацята, спрабуюць, дзе можна, трымацца.

## 3

Яшчэ не пачынала світаць, калі дайшлі да месца. Месяц яшчэ свяціў, і былі відны дарога, нейкае поле, чарнеў лес. Ён падыходзіў краем да самай дарогі.

Аляксей вызначыў узлесак, зручны для засады, вымеркаваў, як паставіць у ім танкі. Загадаў заводзіць машыны ў лес.

Разгарнуў роту фронтам да дарогі. Расставіў так, каб усе маглі весці агонь адначасова. Маглі адразу выйсці ў атаку. Загадаў усім добра замаскіравацца.

Паслаў Колышава і двух аўтаматчыкаў разведаць, якое наперадзе месца, ці добрае для атакі танкаў.

Папярэдзіў, каб Колышаў не адыходзіў далёка: хто ведае, калі пачне паяўляцца гэтая спешная выручка.

Пакуль ладзіліся, маскіравалі роту, месяц — перад самым світаннем — схаваўся, і ўсё навокал агарнула цемра. У лесе, сярод дрэваў і плецiва галля, стала так чорна, што, лазячы тут, трэба было прыкрываць вочы.

Аляксей быў нездаволены цемраю: як знарок, здарылася такое якраз тады, калі патрэбен відавок наперадзе.

— Разбягуцца, чэрці, у гэтай цемрадзі...— сказаў Аляксей лейтэнанту Гогабярыдзе.

— Не разбягуцца, Аляксей! — упэўнена заявіў Сандро.— Як гэта, разбягуцца?! Чалавек — не іголка... Акрамя таго — цемры не будзе!

Ён засмяяўся.

— Не верыш?! Яны падыдуць сюды, калі сонца будзе... на самым высокім месцы. Апоўдні — вось пабачыш!

Гогабярыдзе гаварыў з такой упэўненасцю, быццам пра усё гэта ў яго меліся дакладныя весткі. Ён чамусьці заўсёды і ўсюды быў упэўненым у тым, што ўсё будзе так, як яму здаецца і хочацца. Гэтая яго ўпэўненасць, якая не адзін раз здзіўляла Аляксея, межавала з нейкай бесклапотнасцю: Сандро здаваўся Аляксею крыху легкадумным.

— Да чаго ж можна быць бесклапотным! — здзівіўся не ў першы раз Якавенка.

— А ты — страх сур'ёзны! Увесь час думаеш, думаеш — шкада цябе!.. Не гавары нічога — я не люблю, калі ты чытаеш мараль — мне становіцца нудна.

Якавенка пачырванеў: Сандро трапіў у балючае месца — Якавенка вельмі любіў павучаць.

Гогабярыдзе паклікаў Аляксея «перакусіць». Сандро аднекуль са сваіх запасаў дастаў пляшку трафейнага рому.

— Канечна, не маскоўская асобая, але нішто, піць можна. Мы яшчэ, Аляксей, не пілі за тваё шчасце...

Добры, таварыскі хлопец Сандро! Жыццё за таварыша можа аддаць, нічога не пашкадуе. Падабалася Аляксею, што ён быў адкрыты, просты, не таіўся ні ў чым...

Спехам паснедаўшы, Аляксей падаўся да сваёй машыны.

— Прыляж, прыкархні гадзінку-дзве,— параіў услед яму Гогабярыдзе.— Раней поўдня не пачнецца!..

Аднак ледзь Аляксей ступіў некалькі крокаў, пачуўся наводдаль трэск матацыклаў. Ён стаў хутчэй прадзірацца да сваёй машыны.

Танк, уціснуты ў зараснік ускрай лесу, наперадзе да вежы быў прыхаваны ссечанымі дрэўцамі і галлём.

Аляксей стаў каля лабавіка. Абламаўшы некалькі галінак, ён зрабіў перад сваімі вачыма прагалінку, каб лепш бачыць дарогу.

Праз некалькі хвілін у світальнай шэрані, што была ўжо даволі рэдкай, на полі перад лесам Аляксей разгледзеў цёмныя абрысы дзвюх постацей на матацыклах, якія паволі набліжаліся па дарозе. За імі, наводдаль, ціха, быццам прыслухоўваючыся і прынюхваючыся, ішла бронемашына. «Відаць, перадавая застава»,— мільганула здагадка ў Аляксея.

— Здымем, старшы лейтэнант? — прамовіў нецярпліва Быстроў, які з люка вежы таксама сачыў за дарогаю.

— Хай едуць...

Аляксей прадчуваў, што за бронемашынай пойдуць, можа, яшчэ матацыклы, а хутчэй за ўсё грузавікі з пяхотай — асноўныя сілы. Ён пільна ўглядаўся ў не зусім ясную далеч і ў той жа час прыслухоўваўся, але яму перашкаджаў надакучлівы трэск матацыклаў. Калі матацыклісты крыху ад'ехалі, за ўзгоркам пачуўся прыцішаны шум, і тады ж Аляксей заўважыў недзе далей, на другім, крыху вышэйшым, узгорку абрыс грузавіка. Машына пачала спускацца ў нявідную лагчыну і хутка знікла, але ўслед за ёй на ўзгорак высунулася другая, трэцяя, пятая...

Яны ішлі з патушанымі фарамі, ішлі, мусіць, усю ноч, спяшаючыся да дня дабрацца да фронту.

Праз якіх-небудзь трыста метраў ад дрэваў, дзе сталі танкі, дарога паварочвала і ішла ўсцяж лесу. Першымі павярнулі — убачыў Аляксей — яшчэ адна бронемашына, два бронетранспарцёры, за імі — некалькі машын з салдатамі, за машынамі на прычэпе каціліся дзве маленькія процітанкавыя гарматкі. Салдаты ў кузавах сядзелі ціха, нерухома, падобна, драмалі.

Аляксей ведаў, што танкісты нецярпліва чакаюць сігналу да атакі: стрэлу з яго, камандзірскай машыны. Але ён не спяшаўся, стрымліваў сябе. Пераадольваючы нервовую дрыготку ў руках, адчуваючы, як марудна, бясконца цягнецца час, чакаў і чакаў, калі калона як мага больш спусціцца з пагорка.

«Цяпер яны нікуды не ўцякуць ад нас...— як бы пераконваў сам сябе.— Няхай падыходзяць бліжэй...»

Калона расцягнулася амаль на паўкіламетра, а з нявіднай лагчыны на пагорак вылазілі новыя машыны. «Ого, колькі іх тут!» — мімаволі падумаў старшы лейтэнант.

І вось Аляксей адчуў, што надышоў час пачынаць. Ён ускочыў у машыну і загадаў даць стрэл. Танк ледзь падаўся наперад.

Гармата ўдарыла ва ўпор па калоне. Бранявік, што ішоў наперадзе, адразу вільнуў з дарогі і застыў, нахіліўшыся набок. Лясное рэха не паспела падхапіць гук стрэлу, як Аляксея падтрымалі іншыя «трыццацьчацвёркі».

Уся моц роты абрынулася ў момант на калону. Усе кулямёты, усе гарматы ўдарылі разам. Сталі біць без перадыху. Па пярэдніх машынах, па цэнтру, па хвасце.

Калона спынілася. Нейкі час яна стаяла як бы змярцвелая. Потым усчалася бязладная мітусня. З машын сыпаліся салдаты. Азіраліся, падалі, беглі, адстрэльваліся. Машыны адны стаялі нерухома, другія разварочваліся, выбіраліся ў поле. Рушылі ў розных кірунках. Заміралі ў розных месцах. А танкі, не спыняючыся, білі і білі. Па дарозе, па полі. З гармат, з кулямётаў.

У першы ж момант на дарозе ўспыхнула некалькі агнёў. Хутка полымя пачало ўздымацца ў розных кутках поля. Адзін грузавік у полі раптам выбухнуў імпэтна-ярка, пачаў раскідваць угару і навокал штосьці падобнае да галавешак. Відаць было: выбухалі боепрыпасы.

Чым далей, тым больш замірала ў полі машын, падпаленых, разбітых, кінутых...

Расстраляўшы і разагнаўшы галаву калоны, Аляксей загадаў выходзіць з засады. Атакаваць тых, якія засталіся за пагоркам. Атакаваць неадкладна. Не даючы ворагу часу акрыяць.

Машына Аляксея, раскідваючы маскіроўку і падмінаючы кусты, выйшла з узлеску.

Другія «трыццацьчацвёркі» рушылі разам з ёй. Кідаючы з-пад гусеніц зямлю, уціскаючы траву, танкі пакіравалі да дарогі. Разгорнутым строем вырваліся на пагорак, убачылі дарогу і поле, поўныя мітуслівага руху.

Тут праціўнік спрабаваў ужо арганізаваць абарону. Трэба было з ходу навалíцца, змяць, раздушыць. Усё павінны былі рашыць хуткасць, націск, смеласць.

Б'ючы з усіх гармат і кулямётаў, не марудзячы, тан-

кі на вялікай хуткасці ўварваліся ў калону, што бязладна разлезлася па дарозе і полю. Секлі чэргамі, налятаалі, ламалі, расціскалі...

Аляксей, машына якога вяла бой, як і іншыя, імкнуўся сачыць за ўсёй ротай. Ён заўважыў, што некалькі варожых грузавікоў, крута развярнуўшыся, стараліся ўцячы полем...

— Сандро!.. Лявей машыны!.. Уцякаюць!.. Накрый!..— выдыхнуў старшы лейтэнант, прытрымліваючы рукой ларынгафон.

— Накрыю!..

Абодва танкі з узвода Гогабярыдзе, пакалыхваючыся, памчаліся полем следам за машынамі. Адна загарэлася ад трапнай чаргі кулямёта, другую кінуў шафёр, а трэцюю, якая яшчэ каціла, «трыццацьчацвёрка» дагнала і абярнула.

Аляксей раптам заўважыў, што ■ боку ад дарогі, каля грузавіка, які стаяў у зеленаватым жыце, некалькі гітлераўцаў, спяшаючыся, устанаўліваюць процітанкавую гармату. Каля іх дзве яго «трыццацьчацвёркі», але ні ў адной, здаецца, не бачаць, якая пагражае ім небяспека. Хто там? Там павінен быць Якавенка... Яшчэ хвіліна — і гітлераўцы, напэўна, падпаляць або падаб'юць яго. Адна хвіліна. Аляксей указаў на гарматку Быстрову. Сержант адразу прыпаў да прыцэла...

Некалькі на дзіва хуткіх рухаў і — Быстроў націснуў спуск. Гухнуў стрэл. Снарад — гэта была бранябойная «балванка» — не папаў у артылерыстаў, але яны, асцярожліва прыгнуўшыся да зямлі, прапусцілі зручны момант...

— Якавенка! Справа, у жыце! Гармата! — крыкнуў трывожна Аляксей.

Машына Якавенкі адразу развярнулася. Амаль тады ж з гарматкі стрэлілі...

— Эх ты, бісова душа! — пачулася ў навушніках.

Не чакаючы паўторнага загаду старшага лейтэнанта, Быстроў яшчэ два разы стрэліў, цяпер ужо асколачнымі. Другі снарад выбухнуў каля самай гарматы, і яна застыла нерухома. Аляксей, аднак, заўважыў, што «трыццацьчацвёрка» таксама стаіць. «Што з ёй? Падбілі?.. Як там у ёй?» — мільганула ў галаве старшага лейтэнанта. Ён убачыў: адзін ■ танкістаў выскачыў з машыны, азіраючыся, стаў завіхацца куля гусеніцы...

«Напэўна, гусеніцу пашкодзіла?» Старшы лейтэнант запытаўся ў Якавенкі, што з экіпажам.

— З экіпажам усё добра — та «ленівец» разбіло, будзь воно неладно!..

Колышаў, як звычайна, быў на машыне Гогабярыдзе.

Ён ашалела сачыў ля вежы за тым, што адбывалася перад машынай, ахоўваў яе. Машыну ў бегу моцна кідала. Каб не сарвацца, ён амаль не выпускаў скабу, часам учэпіста сціскаў яе абедзвюма рукамі. Толькі калі танк спыняўся ці калі паказвалася блізкая цэль, хапаўся за аўтамат... На хаду машыны біць з яго патрэбен быў немалы спрыт...

Нялёгка было на машыне, усё глядзі, каб не паляцець на зямлю. Ды і не надта прыемна было — курчыцца так, незатуленым бранёю. Адкрытым для кожнай кулі. Хацелася на зямлю, гаспадарыць на зямлі. Тым больш што рабіць там было чаго. Трэба б прачасаць жыта, пачысціць кінутыя грузавікі. Відаць, нямала там хаваецца...

Але танкі ішлі наперад. Сеялі з кулямётаў, працавалі гарматамі... Яго ля вежы хістала, матляла, кідала. Трэба было моцна трымацца. Нямелі рукі ад напружання. Секла твар ветрам, сляпіла пылам.

Трэба было трымацца. Танкі працавалі...

## 4

Спыніліся ў лесе.

Трэба было пачакаць, пакуль падцягнецца батальён. Чакалі тых, якія затрымаліся ля пераправы.

Замаскіраваўшы машыны, пачалі сыходзіцца ў групкі. Усюды горача і весела гаварылі пра бой. Нягледзячы на бяссонную ноч, ніхто не збіраўся спаць. Усе жылі радасцю вялікай удачы.

Убачыўшы Гогабярыдзе, Аляксей, якому хацелася смяяцца, дакорліва паківаў галавою:

— Сандро, якія ў цябе сёння хромавыя боты! Быццам і не твае, як падмянілі іх! Проста пазнаць нельга!.. Дзе гэта ты іх так размаляваў?

Гогабярыдзе паглядзеў на свае акуратныя, ладна прыгнаныя, але нячышчаныя боты, аблепленыя закарэлай граззю, і сказаў без усмешкі, што выпэцкаў уно-

чы, калі выцягваў з рэчкі танк. Хоць Аляксей жартаваў, ведаючы празмерную прыхільнасць лейтэнанта да акуратнасці і чыстаты, Гогабярыдзе прыняў яго словы ўсур'ёз.

Ён забраўся ў машыну і, вылезшы адтуль са шчоткай ды нейкім чорным мяшэчкам, стаў люта аддзіраць гразь ад ботаў. Сандро ўсюды вазіў шчотку, гуталін і нават шматок аксамітнай тканіны, якім наводзіў на хром люстраны бляск.

Пачысціўшыся і ўважліва агледзеўшы сябе, Гогабярыдзе заспяшаўся да бліжэйшай групкі. Ён любіў паслухаць другіх, а яшчэ больш — каб яго слухалі.

Гаварылі пра мінулы бой. Гогабярыдзе толькі падчакаў момант, каб уставіць сваё слова, калі Касцючэнка аб'явіў:

— Зампаліт прыехаў.

Усе пачалі ўзірацца туды, дзе між сосен набліжаўся «газік».

Сонцаў сказаў:

— Навіны, відаць, прывёз...

Падпалкоўнік Сяміжон, лёгка ступаючы, накіраваўся да танкістаў. Ідучы, ён, як заўсёды, амаль не размахваў рукамі, быццам знарок трымаў іх па швах. Да таго, як ён прывітаўся з танкістамі, усе, хто сядзеў, паўсхопліваліся. На прывітанне адказалі весела: начальнік палітаддзела быў жаданым госцем.

Але тут з-за дрэваў, глушачы ровам, страляючы, вырваліся, пранесліся два нямецкія штурмавікі. Недзе недалёка загупалі выбухі. Побач моцна затутукаў запознены зенітны кулямёт.

Нейкі час цягнулася насцярожанае чаканне: самалёты не вярталіся.

— Якія навіны прывезлі, таварыш падпалкоўнік? — запытаўся Гогабярыдзе.

Сяміжон зняў фуражку, выцер хусцінкай белы лоб і паголеную галаву.

— А я, прызнацца, чакаў навін ад вас.

— Ну, што ў нас, вы ўжо, мусіць, ведаеце,— адгукнуўся Аляксей Лагуновіч.

— Бачыў, Лагуновіч, сваімі вачыма. Праехаў цяпер там — малайцы, папрацавалі добра. Палкоўнік за гэта падзяку перадае! А што да агульных навін, то іх, таварышы, столькі, што пераказаць усё цяжка...

Асабліва ўзрадаваліся, пачуўшы, што пяхота і танкі, якія вялі баі ў Оршы, выбілі немцаў з апошніх кварталаў. Орша вызвалена. Гэта толькі што перадаў камбрыгу камандзір корпуса. У той час, як іншыя, перабіваючы адзін аднаго, абмяркоўвалі пачутыя навіны, Быстроў запытаўся насцярожана:

— А як там, таварыш гвардыі падпалкоўнік, амерыканцы, на гэтым другім фронце?

— У камюніке саюзнікаў гаворыцца, што яны надзейна ўчапіліся ў прадмоснае ўмацаванне, на паўвостраве Катантэн... Вечарам перадавалі, што перасеклі чыгунку, каля горада Муана. Наступленне праходзіла ў цяжкіх умовах,— у вачах падпалкоўніка мільганулі іскаркі,— ішоў вялікі дождж...

— І, не зважаючы на дождж, яны наступалі?! — з насмешлівым захапленнем прамовіў Гогабярыдзе.

— Дождж-то дождж. Ды фарсіравалі Ламанш яны здорава! — нібы запярэчыў Аляксей. — Гэта вам, брат, не рэчачка. Акіянская пратока!

Гогабярыдзе адгукнуўся пераканана:

— Каб не мы, то бачыць бы ім гэты бераг толькі з таго боку!..

Яго весела падтрымалі.

Быстроў, які звычайна сачыў за іншымі так, нібы старэйшы чалавек, што пабачыў усяго і прывык не здзіўляцца, прамовіў:

— Усё-ткі, як яны круцілі, гэтыя паны. Калі нам фрыцы горла душылі, дружкі гэтыя — усё абяцалі, усё круцілі!

З замежных навін, якія перадаў Сяміжон у гэтую раніцу, найбольш усхвалявала паведамленне швейцарскай газеты «Газет дэ Лазан» аб тым, што Мусаліні ўцёк у Германію.

— Збег дучэ, ратуючы шкуру... як пацук!

— А цікава — куды фюрэр будзе ратавацца, калі мы падступім да Берліна? Як ён тады, гадзючына сухарукая, закруціцца?..

Невядома, колькі б гадалі пра гэта, але тут з зарасніку выпаўз танк. Гэта прыехаў лейтэнант Якавенка. Як толькі лейтэнант вылез з машыны і саскочыў на зямлю, да яго падбег Гогабярыдзе. Гогабярыдзе адразу заўважыў, што Якавенка нечым узрушаны.

— Што такое, дарагі? Што здарылася?!

Лейтэнант стомлена махнуў рукой, зняў шлем і прысеў каля танка. Падышло яшчэ некалькі чалавек.

— Таке було, шчо і казаць нэ хочацца.— Ён наогул не любіў гаварыць пра непрыемныя справы.

— Ну, што ж усё-ткі?

— А такое, шчо трохі нэ попаў на той свет!.. Як одыйшлы вы, я выліз, корпаюся біля машыны. Нэ одын я, а шчэ троіх — вадзіцель, стралок, башнёр... А тут раптам — фрыцы! Блызько, у жыці! Як пабачылы, шчо мы іх заўважылы, з аўтаматаў па нас. Ледзьве мы ўправіліся пад машыну схавацца. Добрэ, шчо зараджаючы быў у машыне — він одразу до кулямёта. Чаргу! Воны і остылы. Але нэ зовсім — бачу, почалы обыходзіць. Ну тут я вжэ з пісталета попужаў. А стралок і башнёр ляжаць моўчкі, у іх голі рукі. Про вадзіцеля нічога нэ знаю, шчо з ным, можэ, і вбілы...

— А што з ім?!

— Пачакай. Нэ спішы попэрэд бацька!.. Ну, цераз аварыйны ў танк влізлы, а там — вадзіцель. Кроў з рукава тэчэ, лежыць білы. Він кінуўся ў люк свій, та яго куля догнала... Я яго вжэ ў шпіталь перадаў... Цілы бой далы! Добрэ, шчо ў ных гарматы нэ було, а то б зовсім копэць... Одным словом — ухо трэба остро трымаць,— закончыў Якавенка павучальна.

— Сёння забілі камандзіра ўзвода ў трэцім батальёне,— загаварыў падпалкоўнік Сяміжон, які дагэтуль моўчкі слухаў.— З жыта забілі, на ціхай дарозе.

— Без бою загінуў чалавек...

— Дурная смерць...

— Дурная! У кожнага можа быць такая... З любога куста можа прыйсці...

— Так, можа з любога куста,— сказаў Сяміжон, з той рэзкасцю, якую ад яго не прывыклі чуць.— З любога! Таму што той-сёй перастаў заўважаць зямлю пад нагамі. Галава закружылася з першых поспехаў.

— Одным словом, ухо трэба остро трымаць...

— Тут так — хто першы ўправіцца...

5

Рота зрабіла прыпынак на адпачынак ускрай сасонніку, побач з невялікай вёскай. Ледзь стала вядома, што прыпынак будзе не менш за гадзіну, да хат хапатліва

рушыў Рыбакоў. Рушыў з заклапочаным выглядам і скруткам у руцэ.

Увесь той час, як Рыбакоў застаўся без машыны, ён жыў вельмі вольна. Машыны сваёй у яго не было, а чужую, на якой ехаў, ён не думаў даглядаць. Так што Рыбакоў нібы і не меў ніякіх абавязкаў.

Не было быццам у яго цяпер камандзіра. Праўда, ён звычайна ехаў пры Колышаве,— аднак лейтэнант як бы перастаў быць для яго камандзірам. Лейтэнант быў цяпер такі ж бясконнік, як і сам ён.

І Рыбакоў рабіў усё так, як яму хацелася, не звяртаючы ўвагі на лейтэнанта. А Колышаў стараўся не бачыць гэтага...

Неўзабаве Рыбакоў здаволены вярнуўся назад, са скруткам таксама, але з меншым. Ён адразу забраўся ў машыну. Хоць Рыбакоў лічыў гэту машыну чужой, ён уладжваўся тут, калі яму выгадна было, нараўні з іншымі членамі экіпажа.

Вылезшы з танка, ён стаў, насвістваючы, разбіраць аўтамат, каб пачысціць яго. Тут да Рыбакова падышоў Колышаў, запытаў, куды ён адлучаўся.

— Вады напіцца захацелася... Надакучыла гэтая смярдзючая з бачка, прападзі яна. Ды я ж толькі на хвілінку і адышоў...

— На хвілінку!.. Каб у другі раз не было гэтага.— Колышаў не стаў распякаць сержанта: навошта прыдзірацца? Тым больш танкісты не любяць прыдзір-афіцэраў. А яму, вядома, хацелася, каб яго любілі.

Сонца пачало ўжо спадаць на захад, але было яшчэ вельмі спякотна. Спякота гэта асабліва адчувалася ў сасонніку, які патыхаў гарачым, млосным настоем смалы, нагрэтаю травою і суніцамі. Паветра ў ельніку здавалася зусім нерухомым.

Танкісты развязвалі рэчавыя мяшкі, бралі адтуль памяты хлеб, кансервы, сухія каўбасы. Рыбакоў таксама сеў перакусіць. Ён выняў буханку свежага хлеба і кавалак жоўтага сала. Яго мяшок быў заўсёды напоўнены.

Адрэзаў кавалак сала камандзіру гарматы Светліку, потым, як бы падумаўшы, і радысту, які сядзеў поруч. Рыбакоў стараўся быць у добрых адносінах з экіпажам.

— Дзякую. Такога не ем!..— Светлік нечакана кі-

нуў кавалак сала назад Рыбакову.— Выцягнуў у чалавека,— можа, апошні кавалак выменяў. Ды яшчэ частуе!..

— Мяняла. Купец свіны!..

— Ну-ну, нашто выражацца! — стрымана папракнуў Рыбакоў.— І дабро кідаць не трэба! Не хочаце есці, дык не ешце!.. І выдумляць няма чаго!..

Рыбакоў азірнуўся: ці не чуе ўсё гэта Колышаў? Не, лейтэнанта тут не было.

Яшчэ адзін танкіст таксама ўмяшаўся ў спрэчку. Усе падтрымлівалі Светліка.

— Слухай, купец, ты даўно гэтым займаешся?..— пацікавіўся Светлік. Аказалася, Рыбакоў пачаў «гандляваць» не сёння. Радыст успомніў, што, яшчэ калі стаялі, перад наступленнем, Рыбакоў раз ці два прыносіў з вёскі сала, а неяк нават пляшку самагону. Сёння ён падабраў недзе ў трафейным грузавіку адзенне і вось «рэалізаваў».

Рыбакоў асцярожліва адступіў, пастараўся патушыць спрэчку.

— Вось што, друг: каб не пэцкаў маю машыну, ясна? — не хацеў уціхамірвацца Светлік.— Ты, праўда, не з майго экіпажа, але на маёй машыне едзеш. Дык не пэцкай... А то скіну з машыны...

— Ясна, ясна... Хопіць ужо...— прабурчаў прымірэнча Рыбакоў.

Тады ж гэтая спрэчка дайшла да Быстрова, а потым нейкім чынам і да старшага лейтэнанта. Камандзір роты выклікаў Рыбакова і Колышава да сябе.

— Ну, Рыбакоў, адыходнымі промысламі заняўся? — Старшы лейтэнант запытаў спакойна, але ў гэтым спакоі Рыбакоў адчуў нядобрае. «Усё-ткі хтосьці ж прадаў!»

Рыбакоў пачаў хітрыць: якія там промыслы? Адзін раз паспрабаваў, і за кавалачак сала столькі прыкрасці. Каб ён ведаў гэтае, то нізашто б не пайшоў бы ў тую хату...

— Мне гаварылі, што гэта не ў першы раз... Дарэчы, пытанне: у цябе яшчэ засталося гэтае... як бы сказаць, трафейны «набытак»?

Рыбакоў сказаў, што няма. Ён пільна зірнуў на старшага лейтэнанта і адразу адвёў вочы ўбок.

— А ты, Рыбакоў, смялей! Чаго ж саромецца? Ба-

чылі вочы, што бралі... Будзь жа, чорт пабяры, хоць мужным...

Старшы лейтэнант, насупіўшы ламаныя бровы, непрыязна зірнуў на сержанта.

— Няёмка, значыцца? Ды і мне, прызнацца, таксама не вельмі радасна. У маёй роце такіх «спецыялістаў» раней не было...— Ён памаўчаў.— Ты думаў сам, для чаго мы сюды прабіваліся... на захад ідзём?

Рыбакоў маўчаў, але ўпарты позірк старшага лейтэнанта настойваў. Рыбакоў адказаў:

— Ну, думаў, канечне!..

— Кепска думаў... Тут — зірнеш, пабачыш, як спакутаваліся людзі, сэрца крывёю сыходзіць... Убачыш, як іх абадрала гэтае звяр'ё ненаеднае,— і як бы матчын дакор чуеш. А ён — «ну, думаў, канечне...». Не чалавек, а... ліха ведае што! — старшы лейтэнант пачаў хвалявацца. І Рыбакоў, чуючы гнеўны, абураны голас, стаў раптам — чаго з ім даўно не здаралася — пабойвацца камандзіра. Яму захацелася адступіцца далей.

— Ды што вы на мяне так, таварыш гвардыі старшы лейтэнант? — прамармытаў Рыбакоў.

— Што ён за чалавек?! Як яго магло не крануць вось гэта гора навокал. Тое, як сустракаюць нас? Не разумею!

Камандзір роты здзіўлена зірнуў на Колышава, нібы просячы яго дапамагчы разгадаць гэта.

— Я — чалавек не злы, але памятлівы, Рыбакоў...— Не чакаючы адказу Колышава, ротны зноў загаварыў да сержанта, але цяпер стрымана, і Рыбакоў адчуў, што гэта, відаць, апошнія словы.— Ведайце, гэтага выпадку я не забуду ніколі і не дарую... Вы паказалі сябе нікчэмным чалавекам, і, калі вы не перайначыце сябе, не апраўдаецеся ў будучым, кепска будзе вам...

Рыбакоў хацеў штосьці сказаць, але старшы лейтэнант папярэдзіў:

— Не трэба... Вас лейтэнант не адпускаў? — Колышаў кіўнуў галавою: «не адпускаў».— За самавольную адлучку — пяць нарадаў без чаргі. Ідзіце.

Ніколі яшчэ Колышаў не бачыў камандзіра роты такім. Проста дзіўна, што, звычайна добры і ветлівы да Колышава, старшы лейтэнант глядзеў на яго так непрыязна.

Яны крыху адышлі ад роты. Адсюль, дзе яны сталі, віднеліся палоскі жыта, сярод яго дробныя кусты, а на ўзлессі — прыкрытыя галлём рамонтныя лятучкі. Зямля пад нагамі была густа засыпана рудою іглiцаю.

— Я буду гаварыць коратка.— Аляксей пераступіў з нагі на нагу, пад ботамі затрашчалі сухія галінкі.— Калі вы даведаліся, што Рыбакоў пакінуў узвод і падаўся «гандляваць», што вы зрабілі?

Колышаў сказаў, як і было, што Рыбакоў ашукаў яго. Але галоўнае не мянялася: вадзіцель зрабіў «самаволку». Ён, Колышаў, загадаў Рыбакову, каб больш гэтага не паўтарылася.

— І ўсё? Чаму гэтак мякка?.. Не хацелі, мусіць, заядацца? Баяліся, каб не палічылі прыдзірам?..

Колышаў здзівіўся, як старшы лейтэнант здагадаўся. Хлопец шчыра прызнаўся, што так ён і думаў.

— Вось што, Колышаў. Каб гэта было не ўпершыню, я гаварыў бы з вамі больш строга. Але і цяпер я лічу вас вінаватым. Я не мог і падумаць, што вы будзеце зарабляць сабе аўтарытэт за кошт свайго абавязку... Гэта несумленна...

Больш моцнага папроку, чым папрок у несумленнасці, для Колышава быць не магло. Яго далікатны твар густа пачырванеў. Аляксею стала шкада Колышава, і ён ужо мякчэй, нібы апраўдваючыся, што даводзіцца гаварыць непрыемнае, працягваў:

— І не арыгінальна гэта, брат... Былі ўжо такія афіцэры, якія хацелі здавацца «добрымі дзядзькамі» — думалі, салдаты будуць больш любіць... Толькі гэта, Колышаў, самаашуканства. Я ведаю добра, павер. Можа, і будуць паважаць салдаты, але толькі такія, як вось Рыбакоў. У «добрых дзядзек» канец адзін — яны, нарэшце, Колышаў, трацяць павагу...

Там, дзе стаялі танкі, пачулася: «Старшага лейтэнанта Лагуновіча — да камандзіра батальёна!»

— Іду... З «гандлярствам» трэба скончыць! Я не дазволю ганьбіць роту...— Ён ужо намерыўся ісці да ро-

ты, калі запытаў, тоячы на добрых губах усмешку: — Ну, дык як, запісаць у «добрыя дзядзькі»?

— Не, не трэба...

РАЗДЗЕЛ II

1

Чэрвеньская спёка. Хмары пылу над дарогай...
Няспынная плынь машын, павозак.

Спяшаюцца адна за адной «кацюшы», на якіх, нібы ветразі, лапоча брызент. Важка гурчаць, ляскочуць гусеніцамі непаваротлівыя цягачы з гарматамі. Працавіта туркочуць грузавікі. На іх то штабелі скрынак боепрыпасаў, то мяшкі з сухарамі ці з мукою, то запыленыя загарэлыя салдаты. Часта на машынах трапечуць засохлыя галінкі маскіроўкі.

Павозкі сціпла і асцярожна цiснуцца да бакоў дарогі. Коні, прывыклыя да грукату, да ўсяго на свеце, ідуць спакойна, цярпліва, пазіраючы перад сабой на вытаптаную гарачую зямлю.

Між гэтых фурманак у тыя дні можна было бачыць старыя скрыпучыя сялянскія калёсы, якія лянiва цягнуў худы каняка. Размаляваны ў нейкія жаўтаватыя яблыкі, каняка адмахваўся і хвастом і галавою ад назалелых аваднёў. У яго былі худыя маслакаватыя ногі, якія, здавалася, чапляліся адна за другую. На павозцы, на свежым сене, ляжаў немалы мяшок, да якога былі прымацаваны дзве вяровачкі, каб насіць яго за плячыма; мяшок быў для пэўнасці адной з іх прывязаны да драбінкі.

На павозцы калі-нікалі трэсліся тры чалавекі. Трэба сказаць, адпачываць на павозцы ім даводзілася мала: больш за ўсё трое крочылі побач [redacted] ёю. Адзін з трох, пажылы, высокі, малагаваркі, быў у вайсковым касцюме, але без пагонаў, другі — нясмелы хлапчук, гадоў шаснаццаці, трэці — старэйшы з іх, дробны і жвавы, ішоў кульгаючы, абапіраючыся на кіёк. На плячах яго вісела ватная мятая паддзёвачка. Невядома, чаму ён у такую спёку не хацеў скідаць яе са сваіх плеч.

— Ты ж самлееш у ёй — скінь! — неяк сказаў яму, пасміхваючыся, чалавек у вайсковым адзенні.

— Самлела адна баба, калі муж яе заспеў з другім...— адгаварыўся жартам мужчына ў паддзёўцы. Гэта быў той самы агароднік з Міншчыны Жывіца, якога некалі затрымалі на перадавой танкісты Лагуновіча.

Яны ішлі разам ужо трэці дзень і цяпер адчувалі сябе так, нібы знаёмы былі ўсё жыццё. Жывіца аказаўся вельмі гаваркім і цікаўным чалавекам, ён бясконца распытваў: а куды вы ідзяце, а што вы будзеце рабіць, а дзе ваша сям'я, а дзе вы жылі да гэтага?

Хлопчык, даведаўся Жывіца, ішоў з лагера, вяртаўся дадому. Немцы ўзялі яго капаць акопы, але два дні назад нашы вызвалілі яго.

Пажылы, апрануты ў вайсковы шарсцяны касцюм, па прозвішчу Міхалап, дабіраўся ў Мінск, куды яго прызначылі дырэктарам завода. Міхалап ступаў шырока, разваліста, увесь час чамусьці нібы хітравата пасміхваўся. З усмешкай паглядваў на навакольле, слухаў гаваркога старога.

— Дырэктар завода! — разважаў Жывіца.— Які ж гэта дырэктар, калі завод, невядома, ці застанецца яшчэ? А можа, там — барані бог! — адно ламачча будзе?

— Ёсць дырэктар, значыцца, будзе і завод!..

— Э, гэта яшчэ... як сказаць. Час цяпер такі, што ўсяго чакай... Каб гэта чутае ды бачыць...— Ён раптам успомніў: — у нас каля Паплавоў, не дайце збрахаць, перад вайной арганізавалі нейкую вопытную станцыю,— дык туды прыязджаў таксама дырэктар. Чалавек з выгляду вельмі важны і вучоны — у капелюшы, з акулярамі. Дык ён усё нешта мітусіўся, арганізоўваў, арганізоўваў, ды так нічога і не арганізаваў... Глеба там, ці што, казалі, не падышла... Адным словам, з чым прыехаў, з тым і паехаў. Арганізаваў! Вось вам і дырэктар!.. Я вам лепш на вашы словы адкажу, што быў бы завод, а дырэктара знойдуць!

Ён разважаў і гаварыў ледзь не беспарапынку. Амаль ніколі яго не бачылі спакойным — Жывіца то радаваўся, то гараваў. Убачыў уціснутае ў зямлю жыта, падбег, пахадзіў, паглядзеў, а пасля паўгадзіны айкаў:

— Ай-ай, колькі жыта здрасавана! Колькі дабра на глум пушчана!.. То ж расло пад пяшчотным сонейкам такое багацце, цягнулася ўгару, налівалася сабе сокамі, кланялася каласкамі зямлі — і вось раптам палягг-

ло, памерла... Бывала, да вайны, кожнае сцябельца, як дзіця тое, беражэш, каб ніводнае зярнятка не прапала ў полі, а тут — цэлая паласа стаптана — і быццам так і трэба!..

Амаль на кожным полі Жывіца прыглядаўся да збажыны — як наліваецца. То бядуючы, то хвалячы, залежна ад таго, якое бачыў жыта, Жывіца ўсхвалявана разважаў, ці засеялі палі там, дома, ці не патаптаны яны, і як іх прыйдзецца прыбіраць...

Калёсы, на якіх Жывіца ехаў або, лепш сказаць, каля якіх ён ішоў, падабаліся яму тым, што былі лёгкія, але яны ўжо дажывалі свой век. Колы амаль увесь час надакучліва скрыпелі.

Жывіцу даводзілася з калёсамі многа валаводзіцца.

Ледзь не кожныя паўдзесятка кіламетраў спыняў ён каня і аб'яўляў жвава:

— Шына, няма на яе ўправы, спаўзае!

— Атоса зноў спала!.. Цьфу, каб ты згарэла, такое прыладдзе!

Ён адразу пачынаў борзда завіхацца.

— Стой, няма чаго сказаць! Эх, у нас, у «Сусветнай рэвалюцыі», рабілі, бывала, павозкі. Коціцца — ні скрыпу, ні рыпу, а паклажу, як на грузавік, можаш нагрузіць, усё вытрымае! Самі ж павозкі — лёгкія, не то што конь, а дзіця можа пакаціць.

Каняку ён вельмі бярог і шкадаваў. Адганяў бясконца аваднёў, якія плоймай круціліся над ім і ўпіваліся ў бакі і шыю. Жывіца не злаваў, што ён ідзе паволі. Толькі калі-нікалі памахваў пужкаю ды дабрадушна пасвістваў, як бы для таго, каб падахвоціць.

Жывіца запэўніў сваіх спадарожнікаў, якія па міласці гэтага стварэння вымушаны былі амаль увесь час тупаць пеша:

— Падкарміць бы крыху, і можна хоць на іпадроме скакаць наперагонкі. Усіх бы, ручаюся галавой, перагнаў! — Раптам прамовіў задуменна і трывожна:

— Можа, там ніводнага канякі цяпер не засталося. Адзін гэты будзе... На яго, можа, там будуць усе нашы надзеі... Да вайны на гэтага каня, напэўна, мала хто і глядзець захацеў бы, а цяпер — калі ён адзін — за ім трэба, як за самым дарагім стаеннікам, хадзіць.

І Жывіца на ўсіх прывалах старанна падкормліваў каня.

Спыніліся на начлег у Талачыне.

Гарадок быў увесь запоўнены войскамі. Не было такога двара, дзе б не віднеліся ці грузавікі, ці гарматы, ці групкі байцоў. На некалькіх дварах стаялі крытыя машыны з чырвонымі крыжамі, і Жывіца здагадаўся, што гэта вайсковы шпіталь.

Толькі аб'ехаўшы з паўсотні двароў, убачылі нарэшце адзін пусты.

Жывіца заехаў на двор, каля сцяны пустога хлява распрог каня, даў яму з воза пахучага сена. Двор быў шырокі, зараслы рамонкам і травою, ён аддзяляў дом ад невялікага саду, які падступаў да вуліцы.

Міхалап і хлапчук пайшлі ў хату, а старшыня застаўся назіраць за канём. Спаць Жывіца збіраўся тут, на павозцы, каб каняка, крый бог, не прапаў — час неспакойны, многа ўсякага народу бадзяецца, вуха трэба трымаць востра.

Амаль адразу за ім на двор зайшло некалькі жанчын і дзяўчат. Жывіца заўважыў, што яны вельмі стаміліся, і параіў ім спыніцца тут: ён заўсёды спачуваў людзям. Жанчыны пачалі размяшчацца, некалькі з іх пайшло на суседнія двары, а чалавекі чатыры засталіся тут. Жывіца, вядома, пацікавіўся, хто яны і адкуль, і даведаўся, што іх учора гітлераўцы гналі ў Германію, але танкісты насціглі немцаў і вызвалілі палонных.

«Можа, гэта тыя танкісты?» — падумаў раўніва, з раптоўнай зайздрасцю, Жывіца.

— Ці не бачылі вы, скажыце, якія знакі нарысаваны на танках?

— Хто ж прыглядаўся да знакаў! Хіба нам было да таго! Як падляцелі да нас танкі, як выскачылі адтуль свае людзі ды пачаліся абдымкі — дык і зямлі пад сабою не бачылі!.. Не тое што знакаў!..

— Усё роўна знак трэба было запомніць... Таму што без знака вы не будзеце ведаць, хто вас выратаваў!

— Божа, а я і не падумала пра той знак!..

Тут адазвалася праворная, жвавая дзяўчынка:

— Збоку на тых танках была белая стрэлка і «Б»!

— Стрэлка і «Б»? Вось цяпер ясна, каму трэба дзякаваць!.. То — спрытныя, баявыя хлопцы! Я іх добра ведаю...

Ну так, гэта яны! Глядзі ты, як далёка апярэдзілі — напэўна, на цэлую сотню ці больш кіламетраў. Дзе там

за імі ўгнацца! Праўду тады ў сорак першым казалі, што назад нячысцікаў будуць перці так, што драпака даць не ўправяцца...

2

Па вуліцы ішло ды ішло войска. Грукаталі цягачы з важкімі гарматамі і прычэпамі. Цягнуліся адна за адной павозкі, дымілі на хаду палявыя кухні. Нецярпліва сігналілі легкавікі, патрабуючы сабе дарогу.

На гарматах, на павозках, на прычэпах — усюды салдаты, салдаты, салдаты. Запыленыя, стомленыя, усмешлівыя. Усе — міма, усе далей, на захад...

Пачало ўжо змяркацца, калі да двара, на якім быў Жывіца, і да суседніх падышла доўгая калона запыленых салдат. Адразу, як толькі яны спыніліся, скупіліся, пачулася гаворка. Жартачкі, стрыманы гоман. Гаману гэту хутка перапынілі гучныя галасы каманд.

Байцы са сваімі камандзірамі адны пайшлі ў хату цераз вуліцу, а іншыя павярнулі на двор, дзе атабарыўся Жывіца. Між іх быў малады чарнявы сержант, які, увайшоўшы на двор, адразу накіраваўся да Жывіцы.

— Вы што, гаспадар тут? Не... Праезджы? — сержант хутка, уважліва акінуў позіркам Жывіцу.

— Праезджы, дарагі. Праезджы.

Жывіца быў рад гаворцы. Але сержант раптам страціў цікавасць да яго. Не бачачы больш яго, цвёрдым крокам пакіраваў у хату.

Неўзабаве ён з'явіўся зноў на ганку, уладна крыкнуў салдатам:

— Размяшчацца на двары, у садку!..

Салдаты, большасць, падаліся ў садок, у якім расло некалькі нізкіх маладых яблынь з раскідзістым галлём, з зеленаватымі яблыкамі.

З гаворак салдат Жывіца вылучыў, што сержанта звалі Туравец.

Жывіцу вельмі хацелася папытацца, адкуль прыйшлі байцы, але ён не наважваўся. З таго выпадку, калі танкісты ледзь не арыштавалі яго, Жывіца з асцярогай адносіўся да вайсковых і іх спраў.

Хто яго ведае, можа,— запытаешся, а потым зноў

прыйдзецца ісці выкладваць душу перад іх начальнікам. Адказваць як за ваенную тайну.

Усё-такі Жывіца не ўтрываў. Не адразу, вядома, але наважыўся. Падышоўшы да аднаго байца, ён спачатку пакурыў, пагаманіў аб розных дробязях і, нарэшце, як бы выпадкова, запытаўся:

— Здалёк, калі не сакрэт, едзеце?

— Цяпер ужо не сакрэт! З Оршы, бацька! Проста з горада,— адказаў весела і галасна салдат.

— Значыцца, Оршу занялі?!

— Занялі, бацька, занялі!

Паўз іх прайшоў лёгкай хадою малодшы лейтэнант з карымі вясёлымі вачыма, загарэлы да чарнаты. Неўзабаве яго постаць паявілася каля невялічкага агню, што расклалі салдаты.

— Глядзіце, не нарабіце пажару! — не камандзірскім, а таварыскім тонам асцярог афіцэр.

— Не наробім... Будзьце спакойны...

Малодшы лейтэнант прысеў каля агню, на траве, паправіў доўгую галіну, што гарэла пасярэдзіне. Жывіцы вельмі спадабаўся камандзір, такі просты, абыходлівы з байцамі.

З вуліцы ў гэты час пачулася: «Сержанта Тураўца — да камандзіра ро-оты!» Сержант, што гаманіў наводдаль ад агню з байцом, адразу кінуў гаворку, падаўся на вуліцу. Міхалап падышоў да аднаго з салдат, чарнявага, з вузкімі вочкамі,— запытаўся:

— Не ведаеш, адкуль сержант родам?

— Туравец? Здаецца, з Мінска... Эй, Цішын,— крыкнуў ён да таварыша, босага, без сарочкі, што паліваў з кацялка на рукі байца,— тут пытаюцца, адкуль наш камандзір родам. Не з Мінска?

Той, каго звалі Цішыным, адказаў:

— У яго бацька ў партызанах.

— «У партызанах»! Не з Мінска, пытаюцца — ясна? Чалавек — галава, два вухі! — закончыў Шарыфутдзінаў прымаўкай, якую ён чамусьці любіў гаварыць і якая ў розныя выпадкі мела розныя значэнні: то насмешкі, то пагарды, то таварыскага жарту.

— З Мінска, казаў...

— Ну так, Нічыпара Паўлавіча сын! — задаволена прагаварыў Міхалап. Ён, ні то ўспамінаючы, ні то тлумачачы, сказаў байцу, які стаяў побач: — Я ў іх гады

чатыры назад гасцяваў некалькі разоў. Тады ж ён, сержант ваш, быў птушанём. А цяпер — глядзі ты, мужчына!

— Сталы хлопец і баявы!..— адгукнуўся з павагай пехацінец.

Увечары Міхалап, лейтэнант і сержант Туравец сядзелі разам з салдатамі каля агню. Сюды падышлі паслухаць людзей і некалькі жанчын і, вядома, Жывіца.

На вуліцы плынь войск амаль не спынялася. Гулі працавіта машыны, дробна стукацелі фурманкі.

Туравец і Міхалап гаварылі пра Мінск. Разважалі, што ім давядзецца ўбачыць у горадзе, як лепш жыццё там наладжваць.

У гаворцы, у клопаце сваім не заўважылі, як каля кастра апынуўся грузны, важкі чалавек у кіцелі з палявымі генеральскімі пагонамі. На грудзях генерала ад святла полымя пабліскваla залатая зорка. Генерал уважлівым, павольным позіркам агледзеў тых, што сядзелі перад ім, прывітаўся:

— Добры вечар, таварышы!

Усе вайсковыя і Міхалап з імі ўскочылі, уразнабой адказалі на прывітанне. Калі генарал нейкім лагодным, паблажлівым тонам дазволіў сесці, усе нехапатліва, як бы з роздумам пачалі зноў уладжвацца.

Сержант, які да гэтага сядзеў на чурбачку, сеў таксама, але тут жа з няёмкасцю ўстаў. Асцярожна нібы сказаў:

— Чурбачок от тут, таварыш генерал. Можа — сядзеце?

— Сяду,— лагодна прамовіў генерал.— Дзякую.

Ён павольна, зморана апусціўся на чурбачок, зняў фуражку, пагладзіў пухлай рукою амаль лысую, з рэдкімі валасамі галаву. Жывіца не ўтрываў, пацікавіўся, хто гэта, і пачуў усхваляваны, пачцівы шэпт: «Камандзір. Камдыў...»

— Чужы самалёт не наклічаце на сябе? — Генерал, неяк па-дамашняму горбячыся, стомлена павёў позіркам у неба.

— Не. Агонь дробненькі, таварыш генерал...

— Не да нас яму...

Хвіліну маўчання пачціва перапыніў Жывіца.

— Пацягнула да вогнішча, таварыш генерал?

Генерал дапытліва паглядзеў на яго, прамовіў стрымана:

— Дзе вогнішча, там — салдаты...

— Салдат без кастра, што без кацялка,— падхапіў нехта з байцоў.

Пачуўся смех.

Генерал прыгледзеўся да Жывіцы.

— Не мясцовы?

— Не.— Жывіца насцярожыўся. Каб схаваць насцярожанасць, пажартаваў: — Прыблудны, можна сказаць...

Дадаў на ўсмікі выпадак сур'ёзна:

— Ішоў, ішоў ды прыстаў. А тут і вашы,— кіўнуў на салдат, што сядзелі навокал агню,— падышлі. От і сабраліся сямейкай...

— Дадому? — не адстаў генерал.

— Ага, дадому. У калгас вяртаюся.— Уздыхнуў: — Іду і баюся. Там, мабыць, ні кала ні двара...

Генерал зірнуў на Міхалапа.

— Дэмабілізаваны?

— Адклікалі, таварыш генерал,— па-вайсковаму адрапартаваў Міхалап.— З рэзерву, пасля шпіталя.

— Куды пасылаюць?

— У Мінск. Дырэктарам завода.

— І гэта трэба,— сказаў генерал.

Ён пайшоў позіркам па тварах байцоў, быццам шукаў некага. Хмурна, з камандзірскай строгасцю прамовіў:

— Ну, што ж — прабіліся? — Ён сказаў такім тонам, быццам быў тут нехта такі, што не верыў, і ён выгаварваў гэтаму недаверку.

— Прабіліся!..— загаманілі вакол агню.

— Баяўся я,— з той жа адкрытасцю, знарок з грубаватасцю прызнаўся генерал.— За маладых асабліва. Падвядуць, думаў, пад манастыр.

Ён нібы знарок прыхоўваў лагоднасць, знарок выстаўляў адкрытасць, мужчынскую грубаватасць.

— Нічога, не падвялі,— аб'явіў ён.

— Можаце заўсёды спадзявацца, таварыш генегал! — адгукнуўся задаволены голас.

— Не сумнявайцеся!.. Гвардзейцы не падвядуць!..

— Цяпер ужо не сумняваюся,— спакойна адказаў генерал.— Бачу: можна спадзявацца.— Ён зноў павёў

павольным позіркам па тварах, цікаўна запытаў: — Ну, як Орша?

— Орша — то добра, то — горша,— прамовіў хтосьці, і зноў пачуўся смех.

— Усякая была!

Шчарбацюк з-пад ледзь прыкметных, белаватых броваў глянуў на Юрыя:

— Сустрэчы цікавыя былі? — Растлумачыў: — У вулічных баях бываюць цікавыя сітуацыі.

— Былі, таварыш генерал.

— Ну, напрыклад? — папрасіў-загадаў генерал.

— Напрыклад? — Юрый задумаўся.— Напрыклад — на ўскраіне! — Ён пажвавеў, захваляваўся ўспамінам.— Ідзём мы і ідзём напагатове... Адзін дом абышлі, другі. Ідзём, як на ўзводзе баявым. Потым пачынаем прабірацца паўз хлеў. Вялікі такі хлеў.— Юрый пашукаў вачыма.— Шарыфутдзінаў першы, мы — за ім... І тут раптам перад ім, тварам да твару, двое! Адзін вырачыў вочы ад неспадзеўкі, другі — за аўтамат зразу! Каб міг ён — Шарыфутдзінаў — спазніўся,— каюк бы яму. Але ён — апярэдзіў!

— У іх аўтаматы былі на рамянях,— паясніў Шарыфутдзінаў.— У іх — на рамянях, а ў мяне — у руках.

— Аднаго ён адразу чаргою, ва ўпор. А другі — рукі ўгору!

— Усё — так было? — павярнуўся генерал да Шарыфутдзінава.

— Так,— пацвердзіла некалькі галасоў.

— Малайчына! — строгім тонам пахваліў камандзір дывізіі.— Гэта па-гвардзейску.— Ён памаўчаў. Падумаў уголас: — А ўсё з-за нейкай долі секунды. Вось што значыць секунда ў вулічным баі... Так, тут мух не лаві. Зброю трымай напагатове, патрон — у патронніку. Адзін міг праваронiў — і канец. Тут так.

— Гэта точна!

— Дзе вы, таварыш гвардыі яфрэйтар, ідзеце па вуліцы, у час бою? — раптам зноў падняў Шарыфутдзінава камандзір дывізіі. У вачах генерала была пільная дапытлівасць: «А ну, ведаеце?»

— Калі ідзём па вуліцы? — перапытаў яфрэйтар.

— Па вуліцы.

— Калі ідзе бой?

— Калі ідзе бой.

— Тады мы ідзём блізка да сцяны. Ці каля плота. Асцярожна.

Генерал не кіўнуў галавою. Нібы не ўхваліў. Чакаў чагосьці.

— Можна і каля платоў. Але лепш — дварамі.

— Дварамі мы таксама ідзём.

— Дварамі лепш.— Генерал зноў глянуў патрабавальна: — Як вы цераз вуліцу перабягаеце?

— Калі ідзе бой?

— Калі ідзе бой.

— Мы перабягаем хутка-хутка.

— На скрыжаванні — таксама?

— На скрыжаванні — не. Абходзім скрыжаванне.

— Гэта правільна.— Генерал дазволіў Шарыфутдзінаву сесці.

— Вось што яшчэ, сябры,— быццам і раіўся, і разважаў Шчарбацюк.— У вулічным баі першы друг — граната. Бяры іх пабольш з сабою. Падбірай на дарозе. Навучыся скарыстоўваць трафейныя. Граната — лепшы друг у вулічным баі. Запомніце гэта. Запомніце, што мы тут гаварылі. Нам многа прыйдзецца весці вулічных баёў... Спачатку ў Барысаве, потым, можа быць,— у Мінску. Потым — глядзіш — у Варшаве. І так — да Берліна. У гарадах і ў вёсках. Многа вулічных баёў будзе.

— А і праўда. Я неяк не думаў пра гэта.

— І я...

— Трэба думаць.

Генерал зноў павярнуўся да Жывіцы:

— Дык кажаце: ідзяце і баіцеся?

— А як жа не баяцца,— зусім асмялеў Жывіца.— Калі там, можа, ні кала ні двара. Выпалена, можа, усё...

— Так, вам прыйдзецца, відаць, спачатку нясоладка...

— Нясоладка, нясоладка,— згадзіўся Жывіца.— А толькі,— дадаў ён з одумам,— усё адно душа рвецца туды. Хутчэй бы, здаецца, дакаціць.

— Лёгкага жыцця пакуль не будзе,— задуменна сказаў Міхалап.

— А ёсць людзі, якія думаюць інакш,— адгукнуўся генерал.— Вось нядаўна па рашэнню ЦК партыі дэмабілізавалі мы аднаго маёра. З палітаддзела. Ён да

вайны тут, на Беларусі, працаваў. Дык маёр стаў прасіць, каб пакінулі ў арміі. Прыйшоў да мяне і кажа: «Хачу астацца на фронце. Дзе цяжэй». Дык я яго «супакоіў»: «Дзе лягчэй цяпер, сказаў я яму, не так проста разабрацца. Паедзьце ды паглядзіце».

Шчарбацюк памаўчаў, потым прамовіў задумліва:

— Мы вось ваюем, вызваляем. Вызвалілі — і многія думаюць: галоўнае зрабілі. А галоўнае, можа быць, якраз толькі пачынаецца...

— От, праўда! — горача падтрымаў яго Жывіца.— Праўда вялікая!.. І я іду гэта і думаю...

Але што ён думае, сказаць Жывіцу не давялося, бо тут да камандзіра дывізіі падышоў падпалкоўнік і паведаміў, што яго тэрмінова выклікаюць да рацыі.

— Вось не ў час,— прамовіў хмурна, недавольна генерал.— Толькі разгаварыліся ад душы. Кожны раз так!..

Ён, павольны, грузны, неахвотна ўзняўся. Асветлены няроўным полымем, на хвіліну затрымаўся.

— Дык значыцца,— ён абвёў байцоў вачыма,— можна спадзявацца на вас?

— Можаце, таварыш генерал!

— Не падвядзём.

— Ну, глядзіце!

3

Некаторы час усе, хто быў каля вогнішча, гаварылі пра камандзіра дывізіі. Пра яго клапатлівасць аб салдатах, пра строгасць і адвагу ў баі. Гаварылі з любоўю і гонарам. Потым гаворка стала чапляць іншыя тэмы, дзяліцца на групкі. У кожнай групцы свая цікавасць і свой клопат. Хто журыўся, хто жартаваў, хто славіў баявое геройства сваё і таварышаў перад жанчынамі. Шарыфутдзінаў зацягнуў ціха нейкую сумную цягучую песню.

Жывіца падсеў да Праворнага, учапіўся распытваць, адкуль родам, ці жанаты, дзе і кім працаваў, хто дырэктар завода і які ён, дырэктар, па характару. Малодшы лейтэнант ветліва адказваў цікаўнаму спадарожніку.

Родам ён з Урала, са Свярдлоўска. Там ён скончыў рамеснае вучылішча, потым рабіў токарам. Да вайны

працаваў на вялікім машынабудаўнічым заводзе, а ў першыя дні пайшоў добраахвотнікам у армію. Увесь час у пяхоце... Што за чалавек дырэктар? Ды як сказаць: на заводзе цяпер новы дырэктар. А ён, Праворны, ужо тры гады як развітаўся з родным горадам і пра тое, што там робіцца, ведае толькі з лістоў...

— У вас там будзе лягчэй... Што там ні кажыце, усё цэлае...

— Нам лягчэй,— згадзіўся Праворны.— У нас не толькі не разбурана нічога, а многа новага набудавана... Але — вы ж не чужыя. А нашы, ўральцы, у бядзе сваіх не кідаюць... Паможам! Чым можам, паможам. Ручаюся.

— Гэта добра было б! Па-братняму!.. А мы ўжо ў даўгу не застанемся!

«Сабраліся са ўсяго свету, а нібы даўнія знаёмыя!» — мімаволі падумаў расчулены Жывіца.

Поблізу размаўлялі Міхалап і Юрый. Сяржант з любоўю расказваў пра свайго бацьку.

— Даўно-даўно не бачыліся! Цэлую вечнасць, здаецца... Эх, каб пабачыцца! Трапіць бы ў Мінск!.. Ведаеце, я чамусьці ўпэўнены, што ён абавязкова будзе ў Мінску. Калі толькі жывы... А калі будзе ў горадзе, то я змагу яго знайсці! Гэта — як двойчы два. Зайду ў гарком, і там мне скажуць. Упэўнены... Вось толькі б не мінуць Мінска!

— Пападзеце. Накіроўваецеся ж акурат на Мінск.

— Пакуль што туды ідзём, а заўтра, трэба будзе,— дык павернем адразу куды-небудзь на поўнач... І тады — убачыш Мінск... на здымку ў газеце...

Ён устаў, зморана выпрастаўся.

Іх паднялі на світанні. Жывіца, што спаў на возе, ад якога пахла свежым сенам і крыху дзёгцем, праз дрымоту пачуў, як да вартавога падбег хтосьці з салдат і запытаўся, дзе знайсці лейтэнанта. Калі Праворнага разбудзілі, пасыльны перадаў загад камбата падымаць людзей.

Неўзабаве ўсе ў садочку заварушыліся. Сярод яблынь заплёскаліся то энергічныя, то вялыя, яшчэ паўсонныя галасы. Бразгалі зброя і кацялкі.

Жывіца таксама ўстаў. Пачаў тупаць каля каня, ладаваць воз у дарогу. Ад таго, што ўсе навокал хадзілі, завіхаліся, у яго на душы было радасна.

— Туравец! Загадай атрымаць снеданне! — пазнаў Жывіца голас малодшага лейтэнанта.

Перагаворваючыся, салдаты з кацялкамі адзін за адным патупацелі некуды на вуліцу. Калі яны пачалі вяртацца, у садочку запахла вараным пшаном. Жывіцу таксама захацелася есці, і ён развязаў свой запаветны мяшок. Тут да яго падышоў Праворны і прынёс кацялок з кашай.

— Падсілкуйся вось на дарогу, бацька. Ехаць вам яшчэ далёка...

На вуліцы ўзніклі дзве няяркія плямы святла, павалі пасунуліся да самага плота і сталі. Праз хвіліну святло згасла, сціх шум матора аўтамашыны. У ранішняй шэрані Жывіца ўгледзеў цёмны абрыс грузавіка. Яшчэ адна машына спынілася на другім баку вуліцы.

— Грузавікі прыйшлі. Вось добра,— сказаў Праворны і пайшоў да машын. Праз некалькі хвілін пачулася каманда:

— Канчаць снедаць. Грузіцца на машыны!..

Калі садок апусцеў і сціх, Праворны вярнуўся. Падбег да Жывіцы.

— Ну, мы гатовы!.. Выязджаем! — Ён спехам, але моцна пацісную руку Жывіцы.— Шчасліва дабрацца вам, бацька!..

Развітаўся з Жывіцам нечакана і Міхалап. Ён сказаў, што Юрый узяўся падвезці яго, пакуль будзе магчыма. Дырэктар забраў з воза свой лёгенькі, з увагнутым бокам, чамаданчык і заспяшаўся да машыны.

— Што ж, баба з воза — кабыле лягчэй!..— весела прамовіў Жывіца.

Але калі машыны крануліся, адвозячы вайсковых і Міхалапа, яму раптам стала тужліва, адзінока.

Добрыя людзі! А вось разышліся і, напэўна, ніколі ўжо не сыдуцца зноў. І Праворны, і генерал паехалі, і дырэктара няма...

Жывіца зірнуў на тое месца, дзе ўчора гарэла вогнішча: там цяпер толькі сумна чарнела пляма вугалю і попелу ды валялася кінутая некімануча.

Некалькі жанчын і дзяўчат, што праводзілі байцоў, вярнуліся ў хату.

Пуста было навокал.

Жывіца прынёс з хаты вядро і дастаў вады з калодзежа. Напіўся сам павалі, крывячыся: ад халоднай

вады заходзіўся хворы зуб. Напаіў каня і запрог яго. Тады разбудзіў хлопца, які яшчэ моцна спаў.

Калі хлопец сеў на драбінку, Жывіца выкаціў на вуліцу. Адганяючы тугу, пакруціў над галавою пугаю:

— І-і-і! Но, мілка! Жвавей! Дадому едзем, не абы-куды!

## РАЗДЗЕЛ III

### 1

Раніцай танкісты падышлі да Мінскай магістралі. Перасеклі шасэ і адразу збочылі з яго. Зноў рушылі па вузкіх і звілістых прасёлачных дарогах, нярэдка і наўпрасткі па полі.

Але танкісты і цяпер адчувалі побач шасэ. Магістраль была як бы арыенцірам...

...Не адны танкісты Лагуновіча арыентаваліся па ёй. Праходзілі баявыя чырваназорыя самалёты на Мінск — часта трымаліся магістралі, што свяцілася ўнізе.

Па якіх дарогах і сцежках ні рушылі б артылерыйскія дывізіёны, пехацінцы, што наступалі на Мінск,— усе адчувалі побач з сабою стралу магістралі. Яна быццам указвала кірунак.

Магістраль бегла проста на захад.

Бегла то праз дружныя, цёмныя сасоннікі, то праз беластволыя бярэзнічкі, то праз густыя мяшаныя гаі. Бегла паўз шырокія прасцягі яшчэ не ўчарнелых пнёў, што аддзялялі шасэ ад лясоў. Прасцягі, на якіх упарта выбівалася ўгару зялёная моладзь.

Бегла цераз балоты, што паблісквалі аерам, цераз палі, на якіх часта азёрамі разлівалася свірэпа. Праз вёскі, спаленыя, зруйнаваныя ці затоеныя ў трывозе за жыццё. Праз масты, акружаныя дзотамі і дотамі, аплеценыя калючым дротам. Бегла туды, дзе чакаў спакутаваны Мінск.

Яна была як паказчык напрамку. Яна была — як лязо. Лязо вялікага мяча, нацэленага ў сэрца ненавіснай гітлераўскай дзяржавы.

Усе гэтыя дні няшчадна паліла сонца. Неба было высокае, агромністае, чыстае. Толькі зрэдку дзе-небудзь у недасяжнай вышыні бялелі лёгкія, як мярэжа, перыстыя воблачкі. Ды калі-нікалі белыя клубістыя ўзгоркі воблакаў млелі над небасхілам.

«Эх, каб дождж ык! — не раз думаў Аляксей, з надзеяй пазіраючы ўгару.— Вось было б добра!»

Ён здымаў танкашлем і выціраў далонню пот, што ручаямі цёк па твары, расшпільваў як мага каўнер камбінезона.

У машыне было душна. Браня, напаленая сонцам, пякла, гарачынёй дыхаў матор, што напружана гуў за баявым аддзяленнем.

Каб зменшыць гарачыню ў машыне, ехалі з адчыненымі люкамі. Плынь свежага паветра ўрывалася ў люк вадзіцеля, лілася ў баявое аддзяленне і выходзіла ў люкі камандзіра і зараджаючага. Паветра быццам абмывала твары танкістаў.

Шкада толькі, што ўдзень амаль заўсёды разам з паветрам упаўзалі хмары пылу. Ён лез у ноздры, у рот, запарушваў вочы вадзіцелям, плыў бруднымі ручаямі па потных тварах.

Калі здаралася, што вецер дзьмуў убок і пыл адносіла ад машын, танкістам было лягчэй. Можна было і падставіць твар свежаму, хоць кволаму, ветру і падыхаць чыстым паветрам.

— Добра, калі вецер дзьме збоку,— сказаў неяк Быстроў, звычайна нібы безуважны да розных непрыемнасцей. Ён лёгка пераносіў іх і, акрамя таго, не любіў паказваць у чым-небудзь сваю кволасць.

Быстроў памаўчаў, прыплюшчыў вострыя вочы.

— Гарачыню можна трываць. У нас у тайзе бывае так, што зварыцца можна. Але пыл — дрэнь. Наглытаешся, як палыну наясіся... А тут яшчэ вецер гоніць яго...

Спёка дзейнічала не толькі на людзей, а і на машыны. «Трыццацьчацвёркі» вымушаны былі стрымліваць хуткасць.

Сонцаў у гэтыя дні з трывогай пазіраў на круглы цыферблат тэрмометра, які паказваў тэмпературу вады. Стрэлка нярэдка пераходзіла за сто градусаў.

Вада кіпела ў сістэме.

Каля рэчак і калодзежаў старшы лейтэнант нярэдка спыняў машыны. Радыё разносіла па ўсіх экіпажах прывычнае:

— Заліць ваду!

Трывожныя спякотныя дні, бяссонныя клопатныя ночы вельмі стамлялі танкістаў.

Аляксей, хоць і цягавіты, але нямоцнага здароўя, адчуваў, што змора часта авалодвае і ім.

Танкісты адпачывалі і спалі, калі давядзецца і як давядзецца, найбольш проста «на хаду». Цяжэй тут было механікам-вадзіцелям, якія драмаць «на хаду» ніяк не маглі. Яны для гэтага выкарыстоўвалі розныя выпадковыя супынкі. Пры такім супынку вадзіцелі звычайна падганялі свае танкі шчыльна да пярэдніх, да самых малінавых кнопак задніх ліхтароў.

Ледзь у папярэднім танку матор пачынаў працаваць, павялічваць абароты, вадзіцель прачынаўся. Схамянуўшыся, ён таксама звыкла ўключаў «масу», даваў газ і, сочачы за малінавым агеньчыкам, які плыў наперадзе, вёў услед за ім сваю машыну...

Але нярэдка здаралася і так, што шум матора не мог ужо разбудзіць вадзіцеля.

Аднойчы пасля прыпынку камандзір батальёна загадаў роце рушыць наперад,— машыны, было чуваць, загурчалі і сталі аддаляцца. Але танк, які быў перад машынай Якавенкі, чамусьці не кранаўся.

Якавенка саскочыў на зямлю, прабег наперад даведацца, чаму марудзіць танк.

— Чаго стаіце?! — крыкнуў лейтэнант, заглядаючы ў люк вадзіцеля.

Яму адказалі не адразу. Разбуджаны вадзіцель — відаць, яшчэ пад уладаю сну — падобна, усё не мог уцяміць, што значыць гэтае пытанне і як на яго трэба адказаць.

— Наперадзе танк... стаіць...

— Дзе танк, бісова душа! — разгневаўся лейтэнант.

— Наперадзе...

— «Наперадзе»... Ты ў танку сядзіш ці, можа, у плацкартным вагоне? Спіш! Дэ камандзір?

— Малодшы лейтэнант прылёг на гадзінку... Ігнатаў за яго...

— А дэ Ігнатаў?

— Тут,— адгукнуўся танкіст зверху.— Вінават, таварыш камандзір, задрамаў нечакана.

— «Задрамаў»! Я тобі зараз падрэмлю! — Каб не траціць марна часу, Якавенка загадаў:

— Наперад!.. Догоняйтэ роту!

Астыўшы ад гневу, лейтэнант падумаў са спачуваннем: «Втоміліся людзі. Трэба було б паспаць, перадыхнуць крыху».

2

Палавіна вёскі была спалена,— спалена толькі дзень назад. Дзе-нідзе яшчэ курыўся дым. За спаленым краем вёскі адно ўцалела калгасная сіласная вежа...

Каля сіласнай вежы танкісты і ўбачылі гэта.

Шырокая яма была ўся напоўнена трупамі. На тварах забітых былі відаць застылыя выразы перадсмяротнай пакуты і страху. Некаторыя трупы былі жахліва пасечаны: мусіць, выбухамі гранат...

Усе стаялі моўчкі: танкісты і аўтаматчыкі былі, як ніколі, задуменнымі і хмурнымі. Толькі хтосьці прыгразіў:

— Ну, няхай цяпер літасці не просяць!

Да купкі танкістаў падышло некалькі ўзброеных чалавек у цывільнай вопратцы. Іх прапусцілі наперад; адзін з цывільных, хударлявы, з пасівелымі скронямі, са страхам стаў хутка шукаць вачыма кагосьці ў яме.

— Ну што, няма? Я ж кажу, выдумка ўсё... Ніхто не знае толкам,— спрабаваў супакоіць яго другі.

— Не бачу... Але яны, мусіць, тут... Мусіць, тут...— Той, які шукаў, гаварыў такім трывожным голасам, што ў Аляксея халадзела ў грудзях.

І раптам чалавек убачыў, каго шукаў, здранцвела падаўся наперад. Адхіліўшы труп, ён узняў на рукі дзіця. У малога не было твару,— чалавек, відаць, пазнаў яго па вопратцы. Як жывое, ён узняў дзіця на рукі і вынес з ямы, стараючыся не глядзець на твар...

Потым ён знайшоў і вынес жанчыну.

Адзенне яе было пашматана, у закарэлай крыві. На целе ў некалькіх месцах чарнелі жахлівыя рваныя раны, твар быў ссохлы, зняможаны — шчокі запалыя, вузкі, як у шкілета, падбародак. Уразілі Аляксея

вочы — адкрытыя, цьмяныя, мёртва застылыя, і выразам жаху.

— Ганначка! Ганну-у-лечка!! — урэзаўся ў цішыню раптам роспачны голас кагосьці з вясковых жанчын.

Старая жанчына кінулася ў яму, упала і без памяці закалацілася над трупам.

І ўраз жанчыны, што падышлі і падыходзілі, падбягалі сюды з вёскі, загаласілі, застагналі, залямантавалі.

У Аляксея, чулага да чужога болю, твар нервова перасмыкнуўся. Старшы лейтэнант рэзка адвярнуўся і пайшоў ад ямы. Яму было балюча і разам з тым чамусьці трывожна, хоць ён і не разумеў прычыны трывогі.

Услед за ім ішло страшнае галашэнне, што рвала душу.

Аляксей проста не мог трываць гэтага галашэння. Усё гэта нясцерпна пякло яго і таму, што ўжо да гэтага балела яго душа. Аляксея да гэтага моцна ўразіла неспадзяванае няшчасце. Менш за гадзіну назад, калі ўжо сціхаў бой, цяжка параніла камандзіра батальёна. Камбат быў адным з самых даўніх таварышаў Аляксея ў брыгадзе, і Аляксея ў сэрца ўдарыла вестка пра яго бяду, тым больш што сказалі — ранены ён быў страшна: асколкамі ў жывот і ў таз, жахліва пакутаваў. Адпраўлены ў санбат амаль без надзеі...

Танкі стаялі праз сотню-паўтары крокаў ад сіласнай вежы, прыкрытыя галлём маскіроўкі. Непадалёк на скрыжаванні вуліц ляжала на баку нямецкая зенітная гармата, каля якой валяліся ў пыле трупы, пэўна, яе прыслугі, гільзы ад снарадаў, скрынкі.

Крыху далей віднелася яшчэ адна нямецкая зенітка і цягач, кінутыя пры ўцёку. Побач з імі ў садку стаяла машына са штабной рацыяй брыгады і некалькі другіх машын, а таксама танк, напэўна, начальніка штаба.

— Ну, што — навін ніякіх? — панура запытаўся старшы лейтэнант у Быстрова, які стаяў каля танка.

Быстроў адказаў, што ўсё па-ранейшаму.

Наперадзе, кіламетраў праз чатыры, ішоў бой, і ўсе чакалі, што вось-вось і ім трэба будзе ўступіць у яго.

За ўзгоркам, на якім віднеліся варонкі ад бомб, часта гупалі гарматы танкаў і самаходак, уздымаўся густою чорнаю хмараю дым. Аляксей, слухаючы гэтыя гукі, стаў зноў вяртацца да трывожнага перадбаявага настрою.

Ён не заўважыў, калі да яго падышоў Рыбакоў. Казырнуўшы насцярожана, сержант паведаміў, што прыйшоў з просьбай.

— Гавары!

— Хачу ў экіпаж!

Аляксей абыякава зірнуў на яго.

— У экіпаж...

— Так! У экіпаж.

Рыбакоў гаварыў груба, з выклікам.

Аляксей не адказаў, нібы не чуў.

— Або дазвольце,— сказаў Рыбакоў мякчэй,— каб мяне перавялі ў другую роту...

Ён глядзеў на Аляксея патрабавальна, але той як бы не заўважаў ні тону яго гаворкі, ні самога яго.

— У другую роту... Не! — раптам сказаў Аляксей цвёрда.

— Чаму?

— Не пушчу — і ўсё.

Ён яўна не меў ахвоты весці размову далей, але Рыбакоў не адыходзіў.

— Чаму ж? — прамовіў ён ужо злосна.

— Таму.

— А-а... не хочаце збываць «ненадзейных»!

Аляксей улавіў у яго тоне насмешку.

— Угадалі,— адказаў ён таксама з выклікам.

Старшы лейтэнант сустрэўся з вачыма Рыбакова і ўбачыў у іх непрыхільнасць, нават нянавісць.

— Так,— знарок пацвердзіў жорстка.— Вы правільна здагадаліся...

І раптам ад гэтай непрыхільнасці Рыбакова Аляксею стала лягчэй: а ён, відаць, не такі бяздушны, як можна думаць. Што ж такое тады гэтая яго самаўпэўненасць, гэтая фанабэрыя?

Аляксей на хвіліну задумаўся: Рыбакоў, нядбайлівы і эгаістычны, быў пры ўсім гэтым добрым знаўцам сваёй справы, матор ён ведаў так, як мала хто ў роце, і гэта падабалася Аляксею.

У Рыбакова хапала таксама быццам бы і смеласці.

Дарэчы, прыгадаў Аляксей даўнюю размову Рыбакова з таварышамі, на нейкім перакуры: ён, выходзіла, быў адным з лепшых трактарыстаў у леспрамгасе на Архангельшчыне...

Можа быць, гэтаму прычынай было і тое, што душу тачыла такая вострая бяда, але Аляксей памякчэў.

— У экіпаж, значыцца?

Рыбакоў не адказаў: раззлаваны, ён, пэўна, палічыў гэта за здзек.

— Ну, што ж. Калі вы так просіце...— Аляксей задумаўся, разважаючы, куды яго лепш за ўсё паслаць. Адзначыў: Рыбакоў не глядзеў, не верыў яму.— Сёння вы будзеце вадзіцелем.

Рыбакоў зірнуў цяжка, недаверліва.

— Гэта — праўда?

Аляксей заклапочана рушыў. Рыбакоў падаўся за ім.

— Якавенка! — гукнуў Аляксей каля аднаго з танкаў.

Лейтэнант Якавенка абедаў у гуртку танкістаў. Явіўся, на хаду выціраючы рот, абцягваючы камбінезон.

— Ты прасіў вадзіцеля?

Якавенка адразу павёў позіркам на Рыбакова, няветліва, непрыхільна.

— Просыв...

Аляксей улавіў у яго позірку і ў яго слове: прасіў, толькі не такога. Не даючы Якавенку запярэчыць, загадаў:

— Вось табе вадзіцель.

## 3

У гэты час на дарозе, з таго боку, дзе ішоў бой, паявілася «трыццацьчацвёрка». Яна спынілася непадалёк,— перад акопчыкамі, каля якіх ляжала расплюшчаная гармата і валяліся скрынкі са снарадамі.

Аляксей пазнаў машыну Бяссонава. Праз хвіліну ён пачуў, што яго выклікаюць к камбрыгу, і ўподбег падаўся да палкоўніка. Гадаючы, чаго выклікае камбрыг, рашыў: прыйшоў час ісці ў бой...

Палкоўнік рабіў абход батальёна. Калі Аляксей

далажыў, што явіўся па яго загаду, Бяссонаў толькі прыпыніўся, нецярпліва выслухаў даклад і, даўшы знак следаваць за ім, рушыў далей. Кароткім позіркам акідваў танкістаў, рабіў заўвагі, кідаў пытанні, аглядваў машыны.

Убачыўшы Колышава, палкоўнік спыніўся.

— Як ваюеш?.. Лагуновіч,— зірнуў Бяссонаў на Аляксея,— як ён у цябе?

— Непагана, таварыш гвардыі палкоўнік... Толькі вось — машыну разбамбілі. Дык цяпер на броні, з аўтаматчыкамі...

— А ты што — недавольны? — Бяссонаў унізаў позірк у Колышава.

Колышаў збянтэжыўся. Не ведаў, што адказаць.

— Шкода, таварыш гвардыі палкоўнік.

— Чаго — шкода?

— Машыну шкода, таварыш гвардыі палкоўнік.

— «Шкода». Я пытаюся: недавольны — што аўтаматчыкам стаў?

— Чаму? — Ён не разумеў, чаго дабіваецца палкоўнік.— Я, таварыш палкоўнік,— сказаў ён злуючыся,— гатоў служыць... дзе трэба. Кім трэба...

— Вось гэта правільна,— грубавата ўхваліў палкоўнік.— Галоўнае, усюды быць салдатам. Добрым салдатам... Мне самому давялося ўсяго сербануць. А я давольны!

У мінулым годзе пераваліла за дваццаць гадоў з таго часу, як ён прыйшоў у армію, паваяваўшы перад гэтым яшчэ партызанам за далёкай ракой Том'ю. У арміі Бяссонаў доўга служыў і салдатам, і аддзялённым, і ўзводным, і ротным — усё ў пяхоце, у танкавую часць ён трапіў многа пазней. Рос ён нялёгка, па чарзе папрацаваў, здаецца, на ўсіх пасадах.

Мабыць, ад салдацкіх часоў засталася ў Бяссонава гэта звычка быць простым у абыходжанні, весці сябе з імі хоць і грубавата, рэзка, але як роўны з роўнымі...

— Я спадзяюся, што яшчэ пачую пра цябе,— сказаў Бяссонаў, нібы загадаў. Не развітваючыся, рушыў далей.

Абышоўшы яшчэ некалькі машын, палкоўнік спыніўся, хаваючы штосьці ў цяжкаватым позірку, здавалася, нядобра, іспытна глядзеў у вочы Аляксею. Аляксею стала нават трохі не па сабе.

— Прымеш батальён,— раптам прамовіў ён хмурна, нібы незадаволена.

Аляксей як бы не зразумеў. Менш за ўсё чакаў ён гэтага.

— Таварыш палкоўнік,— сказаў ён разгублена.

Бяссонаў перабіў яго:

— З гэтай хвіліны адказваеш за яго.

Ён гаварыў тонам, які не даваў пярэчыць.

— Слухаюся, таварыш гвардыі палкоўнік,— падначаліўся гэтаму тону Аляксей.

— Калі будуць якія-небудзь сумненні,— загаварыў зноў Бяссонаў, гледзячы ўсё іспытна,— пытайся, дапамагу. Я люблю, калі мяне непакояць... Толькі глядзі, каб батальён быў заўсёды — як спружына. Калі падвядзеш — не дарую!

Бяссонаў выклікаў камандзіраў рот і ўзводаў, прадставіў ім новага камбата. Навокал пачалі раскацiста ляскаць зеніткі, і танкісты паднялі галовы. Высока ў небе ішлі тры нямецкія бамбардзіроўшчыкі,— вакол іх успыхвалі белыя дымы выбухаў, што ўсё гусцей усейвалі блакіт.

Пачуўся даўкі візг бомб, усе замоўклі, чакаючы. Бомбы выбухнулі ў сярэдзіне вёскі.

Бяссонаў стаў заклапочаным.

— Ну, камандуй, камбат.

Палкоўнік зрабіў націск на слова «камбат», зноў паглядзеў Аляксею ў вочы. Праз хвіліну танк Бяссонава ўжо імчаў к сярэдзіне вёскі.

Да Аляксея падышоў Якавенка, па-прыяцельску абняўшы, павіншаваў яго. Старшы лейтэнант падзякаваў, але ніякава і стрымана. Хоць Аляксей і не паказваў гэтага Бяссонаву, новае назначэнне яго нямала занепакоіла. Як-ніяк, батальён гэта не рота,— яму цяпер трэба будзе весці тры роты...

— Ты, Олексій, справішся,— нібы адгадваючы думкі старшага лейтэнанта, прамовіў, як старшэйшы брат да малодшага, Якавенка.— Голова ў цябе розумная, сур'ёзная. Та і підготовка — і тэхнічная, і палітычная, і стратэгічная — вышчая, гвардзейская. Адным словам, усё ёсць, шчо трэба... Адну толькі параду запом-

ні ад мяне.— Ён усміхнуўся дабрадушна-хітравата.— Не задавайся і не забувай таварышаў...

— Ды як жа можна забыць,— няёмка запярэчыў Аляксей,— разам будзем ваяваць!..

Калі Якавенка адышоў, новы камбат са здзіўленнем падумаў: як гэта здарылася, што ён стаў камандзірам батальёна?

Гэтае назначэнне было для Аляксея нечаканым: Бяссонаў да сённяшняга дня па-ранейшаму не выказваў прыхільнасці да яго, больш сімпатызаваў, здавалася, двум другім ротным.

Разам з тым, давер'е Бяссонава радавала Аляксея. Хоць Аляксей і не любіў палкоўніка за грубасць і нячуласць, адносіўся да яго насцярожана і нават пабойваўся, ён усё ж цаніў Бяссонава як камандзіра, які ўсяго сябе аддае брыгадзе. Аляксей ведаў, што раўнівы і недаверлівы, ён ніколі не падвядзе брыгаду з-за нядбайства. У любой абстаноўцы зробіць для яе ўсё, што магчыма.

Нашто таіць, было ў Аляксея і пачуццё, якое ён ніякавата хаваў, як грэшнае: непаслухмяна-ганарлівае адчуванне, што вось ён нібы ўжо вышэй, чым гадзіну назад. Камандзір батальёна, падумаць толькі! Разуменне гэтага новага яго стану і востра хвалявала Аляксея і як бы яшчэ кепска даходзіла: здавалася ў гэтым нібы і штосьці нерэальнае, выдуманае. Больш са звычкай выконваць усе загады, глушыць непатрэбныя развагі і адчуванні, звычкай, што моцна ўсталявалася ўжо, Аляксей пачаў дзейнасць сваю ў новай якасці.

Найпершае пытанне было: з чаго пачынаць. З людзьмі пазнаёміцца? Большасць з іх, асабліва камандзіраў, ён ведаў, праўда, ведаў многіх здалёк. Так што, вядома, знаёміцца трэба...

Перш за ўсё, бадай, трэба ўмацаваць разведку: у ёй дні тры назад раніла камандзіра ўзвода, які цяпер ляжыць у шпіталі. Камандуе ёю часова малодшы лейтэнант, камандзір другой машыны, чалавек, можа, і нядрэнны, але ж марудлівы і бесклапотны. Хіба ў разведцы месца яму? Гэта ж праз яго фактычна пазаўчора страцілі машыну. Каб ён уважлівей глядзеў, хіба ён не заўважыў бы тыя нямецкія самаходкі, замаскіраваныя ў садку, што падпалілі «трыццаць-

чацвёрку»? Цяжка быць упэўненым у такім разведчыку.

Аляксей выказаў свае меркаванні падпалкоўніку Сяміжону, які прыехаў неўзабаве пасля Бяссонава. Падпалкоўнік згадзіўся: такому камандзіру ў разведцы давяраццa цяжка.

— А каго ты думаеш замест яго?

— Гогабярыдзе думаю,— адказаў Аляксей.

— А лепш будзе Гогабярыдзе? Гарачы не ў меру... Ды, бадай, і — легкадумны...

— Затое калі ён возьмецца за што-небудзь, то не пашкадуе нічога. Гэты не падвядзе — я ўпэўнены... А што гарачы, то можна астудзіць...

— Ну, калі абяцаеш астуджваць, то я — не супраць.

Гогабярыдзе, даведаўшыся, куды яго хоча паслаць Аляксей, з радасцю згадзіўся, але пачаў прасіць, каб туды перавялі і ўвесь яго ўзвод.

— Што тут дзіўнага, дарагі Аляксей? Я іх ведаю кожнага, як свайго брата! А мне якраз і патрэбны такія людзі: надзейныя, у якіх я не сумняваўся б! З такімі людзьмі я куды хочаш пайду ў разведку, хоць у самы Берлін! А без іх — я буду азірацца... Увесь час азірацца... Адпусці іх са мной, дай згоду!..

Сандро наогул вельмі ўмеў зжывацца з людзьмі. Але старшы лейтэнант не даў згоды...

Скончыўшы размову з Гогабярыдзе, Аляксей пакрочыў у другую роту. Кіруючы ў роту, што яшчэ нядаўна была нібы чужой, Аляксей поўніўся ўсё тым жа адчуваннем нязвыкласці новага свайго стану: ад прыроджанай далікатнасці ён чуў і няёмкасць і няўпэўненасць перад наступнай першай сустрэчай з новымі падначаленымі сваімі. Набліжаючыся да гэтай сустрэчы, ён важка думаў, як павінен будзе трымацца. Больш за ўсё не хацеў ён, каб там, у роце, заўважылі няўпэўненасць яго. Трэба, думаў ён, каб усе бачылі яго спакойным і цвёрдым. Каб з першага дня паверылі ў яго як камандзіра. Першыя крокі, пакуль да яго, як камбата, не прывыклі, разважаў ён,— асабліва важныя...

У вёсцы ўжо была пяхота, што пачала запаўняць вуліцы і двары. Асталёўваўся нейкі пяхотны штаб,— сувязісты ўскідвалі шастамі на галлё дрэваў, на платы правады.

Поблізу скрыжавання стаяў маленькі пехацінец — рэгуліроўшчык са сцяжкамі.

Пачынала вечарэць. Бой аддаляўся і заціхаў. Над вуліцаю ціхімі хмарамі вілася дробная, як пыл, машкара. Вецер раптам аднекуль прынёс млявы, як бы сумны, пах прывялай, скошанай травы. Хто яе скасіў, гэтую траву?

Экіпажы працавалі: танкісты аглядалі танкі, запраўлялі іх гаручым і маслам, рэгуліравалі механізмы, грузілі снарады і патроны. Як і ўвесь батальён, рыхтаваліся да маршу.

Ад гэтага знаёмага малюнка працавітай заклапочанасці Аляксею зрабілася спакайней... Аляксей адчуў сябе раптам больш упэўнена. Ён спыніўся каля двух танкістаў, што нацягвалі гусеніцу, стаў правяраць, ці правільна яны робяць.

Камандзір машыны, закасаўшы рукавы камбінезона, шчыраваў над нечым у трансмісійным аддзяленні. Калі адзін з танкістаў штурхнуў яго, кіўнуў на Аляксея, ён — шчупленькі, акуратны, рухавы — саскочыў на зямлю і далажыў, што робіць экіпаж.

Тут да Аляксея хапатліва падышоў камандзір роты, азербайджанец Аліеў; чарнявы, з пакляваным воспаю тварам. Нібы не былі зусім нядаўна роўнымі, старанна і з належнай пачцівасцю на твары далажыў пра роту.

Хаваючы ніякавасць, Аляксей дазволіў даць каманду «вольна», знарок заклапочаным тонам папрасіў пазнаёміць з людзьмі, паказаць сваю «армію». Танкісты сустракалі Аляксея ў новай ролі звонку нібы зусім звычайна, як даўняга камандзіра, нямала хто — з ветлівасцю. Але Аляксей амаль увесь час лавіў пільныя і, здавалася, спасцярожлівыя позіркі: пабачым, маўляў, як ты пакажаш сябе. Не азіраючыся, чуў, што ўслед пазіралі, як бы бачылі ўпершыню...

Абыходзячы экіпажы, Аляксей прыкмеціў двух камандзіраў машын, якія сядзелі на прызбе. Старшаму лейтэнанту не спадабалася, што яны кінулі экіпажы... Але ці варта гаварыць ім пра гэта цяпер, ледзь толькі ён тут з'явіўся? Можа, лепш іншы раз, а пакуль прайсці міма?..

Аднак прайсці міма, быццам не заўважаючы таго, што яму не спадабалася, Аляксей не мог.

— Дзе вашы людзі? — запытаўся ён, прывітаўшыся. Аляксей падышоў да іх адзін, бо Аліеў затрымаўся каля апошняга экіпажа.

— Людзі?.. Каля танка...

Аляксей адчуваў сябе няёмка, як заўсёды, калі трэба было гаварыць каму-небудзь непрыемнае.

— Што ж вы на адзіноце? Дзяжурыце?..

— А што, старшы лейтэнант? Хіба камандзіру адпачыць грэшна? — прыяцельскім тонам загаварыў лейтэнант, цёмна-загарэлы, з далікатнымі рысамі, у ссунутым набок шлеме.— Баец хоць у машыне можа паспаць...

— А якая табе справа? — перабіў яго другі, старшына.

— Гэта наш камбат! — сказаў Аліеў, які толькі падышоў.

Лейтэнант і старшына ўзняліся.

— А — камбат?.. Вось якое выйшла знаёмства...— лейтэнант чуў сябе яўна ніякава: — Ведаеш, камбат, не думай нічога кепскага: змарыўся. Так змарыўся, што, паверыш, галава, як чыгунны звон... У мяне цяпер, калі я гляджу, кожная дэталь двоіцца, троіцца ад бяссонніцы...

— А яны не змарыліся? — ціха, далікатна запытаўся Аляксей.— Але не просяцца пасядзець. І хто ведае, што думаюць пра сваіх камандзіраў, якія адпачываюць. Напэўна, не вельмі хваляць у думках...

Лейтэнант нахмурыўся вінавата. Старшыне гэтая размова, відаць, здавалася прыдзіркаю. Але ён змоўчаў.

У сваю роту Аляксей рашыў на гэты раз не вяртацца. Тут ён атрымаў загад выступаць. Выклікаў сваю машыну, загадаў батальёну заводзіць маторы. Ён ішоў да машыны, калі раптам блізка ўзнік пагрозны грукат.

Амаль у той жа момант з-за хаты, з-за саламянай, учарнелай ад дажджоў і даўнасці страхі, на шалёнай хуткасці вырваўся «месершміт».

Ён на міг чорным крыжам рассек блакіт неба, аглушыў ровам, здалося, прыціснуў усё.

Аляксей не паспеў зрабіць нічога, нават зразумець што-небудзь, як перад ім з жалезным скрыгатам, раз-

ломваючы свет вакол, важка, страшна грымнула, віхнула белае полымя...

Яго з вялікай сілай ударыла ў грудзі і кінула на зямлю.

## РАЗДЗЕЛ IV

### 1

Жыць з кожным днём станавілася цяжэй. Тое, што будзе заўтра, здавалася ўсё больш няясным і страшлівым. Нягоды, якія раней хоць і непакоілі, але былі ўсёткі менш грознымі, цяпер набліжаліся, сціскалі вакол яго свой безвыходны круг.

Ён упарта шукаў выхаду з гэтай небяспечнай няпэўнасці. Усе дні ён толькі і думаў пра тое, як адхіліць надыход жахлівай развязкі? Як выратавацца?

Але колькі ні думаў ён, нічога добрага адшукаць не ўдавалася. Нельга было, адчуваў ён, спадзявацца нават на якую-небудзь палёгку...

Ён не раз у думках вяртаўся да той мяжы, ад якой гэта ўсё пачыналася. Успамінаў, з якім адчуваннем ён уцякаў тады ад партызан і як пазней перабег да паліцаяў. Перабег. Бо як ты ні старайся давесці іншае, факт застаецца фактам — ён стаў працаваць у паліцыі.

Грэчка пачынаў шкадаваць, што ўцёк тады з атрада. Ён шкадаваў пра гэта не таму, што адчуваў віну перад таварышамі, якім здрадзіў, а таму, што, уцёкшы, урэшце трапіў у горшае становішча.

Не трэба было ісці да паліцаяў. Перасядзець ціха дзе-небудзь месяц-другі, перачакаць неспакойны час — вось што трэба было... Ён жа так і збіраўся зрабіць, але жыццё пагана перавярнула, перакруціла ўсё пасвойму. Няскладны лёс паставіў яго проста перад узброенымі аўтаматчыкамі, і яму ж нічога не заставалася, як згадзіцца на прапанову Тыталя. Бо, каб не згадзіўся, яго косці даўно згнілі б...

А калі згадзіўся, ужо нічога не мог змяніць. Прыходзілася ісці туды, куды кіравала павілястая сцежка. І вось прыйшоў — далей няма куды — думай, як быць?

Быццам у казцы, якую чуў некалі ў маленстве,

разыходзяцца перад ім дзве сцежкі: па адной пойдзеш, не вернешся, па другой — таксама загінеш. Адна сцежка тая, па якой ён цяпер ішоў, вось-вось скончыцца — хутка, ясна ўжо, прыйдуць сюды чырвоныя. Другая вядзе назад у лес. Па ёй можна вярнуцца да Тураўца і Ермакова... Не, не, нельга ўжо. Немагчыма ўжо Грэчку ступіць на яе. Немагчыма вярнуцца ў лес. Адразу, як толькі ён вернецца, Ермакоў прыставіць яго да дрэва і расстраляе.

— Што, галава, квінту павесіў? — спытаў яго неяк, пранізліва ўзіраючыся, Тыталь.

Грэчка затрывожыўся, але схаваў трывогу, запярэчыў:

— Нічога я не павесіў нос.

— Бачу ўсё. Баішся, што прыйдуць чырвоныя і ўзважаць на асіне! — Позірк у Тыталя востры і жорсткі.— Не бойся,— дыхаючы ў твар Грэчкі смуродам самагонкі, падчэпліваў, нібы хвалячыся смеласцю, Тыталь.— Нічога страшнага, ей-бог, накінуць на каўнерык вяроўку, выб'юць падстаўку з-пад ног, кірк — і гатова. Усё!..

Ен нават шчэрыўся ўсмешкаю, ад якой Грэчку працінаў мароз.

— Слухай, Якаў... Смешкі ў цябе, ей-бо!.. — дакараў яго Грэчка.

Але таго Грэчкавы просьбы яшчэ быццам падахвочвалі. Весялеў, нібы бачачы, як дапякаюць Грэчку яго заліхвацкія гаворкі!

— Нічога такога, ей-бо!.. Ну, канечне,— высалапіш язык.... яшчэ — нахіліш на адзін бок галоўку... далікатна, як якая-небудзь... ну шляхетная паненка... Проста, ей-бог... Гэ-гэ-гэ! І хутка! Кірк — і гатова!..

Тыталь неаднойчы забаўляўся такімі жартачкамі. Варушачы рукой чорны чуб, начэсаны на выбітае вока, шчэрачыся п'янай зяпаю, зводзіў Грэчку сваімі дурнымі кпінамі. Грэчку нязносна было чуць гэты страхотны рогат, бачыць агідны, ашчэраны рот з рэдкімі вострымі, як у пацука, зубамі.

Іншы раз, найбольш пасля пахмелкі, Тыталь вёў іншыя гаворкі.

— Ты толькі, дурань, не думай даваць цыгаля назад,— казаў ён панура, ненавідліва.

— Т-ты, што гэта... Што ты пляцеш, Якаў? — кляўся і папракаў Грэчка.

— Што, ведаю што! — Тыталь унізваўся ў Грэчку бязлітасным позіркам, нібы бачыў навылёт Грэчкаву душу, прарочыў упэўнена: — Там табе, галава, адразу каюк зробяць... У іх усё на ўліку,— працінаў нібы гарачым штыком Грэчку,— і як у паліцыю перабег, і што натварыў разам з паліцыяй. Як тую разведчыцу — Лагуновіч, ці што,— выдаў, усё... Яны табе прыпішуць яшчэ і такога, чаго ты ніколі і не рабіў.

— Слухай, Якаў, ей-бо... Ахвота табе плясці...

Але Тыталь быў няўмольны, нібы завязваў пятлю на Грэчкавай шыі.

— Хто там будзе дапытвацца, дзе ты быў з паліцыяй, а дзе не... Быў паліцаем — значыцца, усё, што рабілі іншыя, рабіў і ты. Кожнага з паліцэйскіх патрэбуюць адказваць за ўсю паліцыю...

Часам аднавокі мякчэў, тады дакараў, раіў нібы са спачуваннем:

— Ёлапень ты, ёлапень!.. Сам на ражон хочаш. Жыццё, відаць, надакучыла, што пагібелі сабе шукаеш... Яны, галава, даўно за табой палююць. Ды ўсё не ўдаецца. А ты хочаш ісці! Ну, хіба ж ты не ёлапень?..

— Ды хто хоча! Што ты, ей-бо! Ды я іх — ведаеш — як ты! Мне яны — цьфу!

Тыталь з упэўненасцю, што падтрымлівала, абнадзейвала Грэчку, аб'яўляў:

— Я такім дурнем не буду. Ёсць яшчэ галава на плячах, дзякуй богу! Не згубіў і не згублю! Шалоплю, што да чаго. Мяне не аблапошаць!

— І я не дурань, кемлю, што да чаго,— глушыў у сабе неспакой Грэчка.

— Як яны шукаюць мяне і казаць не прыходзіцца. Але я фігу ім пакажу, вось што! Рукі кароткія!..— Тыталь чорнымі, кручкаватымі пальцамі складваў фігу і зларадна тыцкаў некаму.— Наце, укусіце! Ухапілі! Вось! — спатоліўшы ахвоту такім чынам, Тыталь зноў павяртаў вока да Грэчкі.— Баішся, што бальшавікі прыйдуць? А скуль ты знаеш, што яны канешне прыйдуць? Га? То яшчэ віламі па вадзе пісана. Ясна?

— Ясна. Віламі па вадзе! Гэта — точна! — згаджаўся Грэчка.

— Немцы — вот прыпомні маё слова — не пусцяць іх сюды... Ясна?

— Не пусцяць. Ясна...

Паварушыўшы рукой начэсаны на вока чорны чуб, Тыталь аднойчы, са здзеклівай вычлівасцю, крыўляючыся, як блазен, параіў Грэчку:

— Ідзі к Тураўцу. Ідзі! Адпускаю!.. Ей-бог, не дзяржу!

— Сам ідзі,— знайшоўся, смела параіў яму Грэчка. Але Тыталь вёў сваю вяровачку. Нібы не чуў.

— Пропуск нават напішу! «Паліцай Грэчка, маўляў, дапяў, ці як гэта кажуць... сазнаў сваю памылку і ўсё такое. Прыміце яго, напішу, як блуднага».— Крывіўся ўсмешкаю, вось-вось загягеча дурным сваім рогатам: — Ідзі — там асіна, перадавалі, даўно сумуе па табе. Гэ-гэ-гэ-гэ!

Чорт аднавокі! Распалены адчаем, узлаваны на лёс і на здзекі Тыталя, Грэчка неаднойчы шкадаваў ад душы: чаму гэтаму гаду заадно не выбілі і другое вока? Нібы смяецца над яго, Грэчкавай, бядою, знарок стараецца дапячы як найбольш. Уцягнуў яго, Грэчку, у бяду, у процьму гэту, ды яшчэ здзекуецца!

Надакучыў ён Грэчку, але што ты зробіш? Давodзілася трываць усё: як ні кажы, хоць і малое, і паганае, а начальства.

Пасміхваючыся, Тыталь неяк напрарочыў:

— Нікуды ты не пойдзеш, дурань!.. Нам, пэўне, наканавана ўжо так — разам і жыць, і вісець!..

## 2

Не памыліўся. Разам папаліся.

Грэчка і яшчэ адзін паліцай ахоўвалі мост на рэчцы. Іх абступала шэрая і маўклівая летняя ноч. Толькі час ад часу недзе ў далёкай вёсцы сумна ні то брахалі, ні то вылі сабакі, ад гэтага брэху-выцця Грэчку станавілася моташна. «Няма на вас пагібелі. Каб было блізка, прыстрэліў бы вас, воўчае племя!» Паліцаі, ахоўваючы кожны свой бераг, некалькі разоў сыходзіліся на мосце, ціха перагаворваліся. Час цягнуўся вельмі марудна.

Грэчка адстаяў прыблізна палову свайго тэрміну, як пачуў непадалёк знаёмыя важкія крокі. Ён аклік-

нуў для прыліку чалавека, хоць і ведаў, што ідзе «Чубаты». Тыталь прыйшоў праверыць, як яны вартуюць мост.

— Ну, што — ціха? — спытаў, цяжка варочаючы языком.

«Нажлукціўся зноў»,— падумаў непрыязна Грэчка.

— Як у царкве ў часе абедні...— усё ж ахвотна адказаў. Выў рады таму, што можна пагаварыць. Вельмі ж ужо назалела стаянне. Ды і ноч нейкая нялюдская.

— Ты глядзі, галава, не пачні маліцца!..— зарагатаў Чубаты.— Хоць, яно, можна і маліцца... Толькі — на пляшку з гаручым! Зменішся з варты — я тваю малітву прыму!.. Дасталі самагонкі! Пяршак — агонь!..

Ён пайшоў да другога вартавога, потым вярнуўся.

— Нудзішся, пэўне?

— Дык жа, доўга. Надаела.

— Хутка прышлю змену...

— Давай.

Ледзь на нагах трымаўся. Сабраўся ісці, але перадумаў.

— А ты не с-скучай,— параіў Грэчку.— Пак-куры... Хочаш — дам?

Грэчка завагаўся.

— Дык не паложана — на пасту...

— Наогул не паложана. Але я — дазваляю.— Тыталь падняў голас.— Значыць, можна!

— Дык штоб потым не ругаў.

— Р-разрашаю. На адзін раз!

— Ну тады — іншая рэч. Давай.

— Толькі каб маўчок пра гэта. А то, выходзіць, начальства само парушае. Ясна?

— Ясна.

— Скруціць, можа?

— Скруці.

Чубаты стаў корпацца ў цемры. Цыгарка, падобна было, не выходзіла. Ён вылаяўся:

— Вот цемнішча! Ні храна не відаць!

— Хоць вока выкалі,— падтрымаў Грэчка.

Нарэшце Чубаты вялеў здаволена:— Вазьмі!

У цемры намацалі рукі. Грэчка ўзяў самакрутку.

— У рукаў куры,— загадаў Тыталь.— Каб ні агеньчыка. Ясна?

— Ясна.

— Давай бліжэй!

Тыталь шчоўкнуў запальніцай. Ледзь трымаўся на нагах, але агонь прытуліў адваротам шыняля.

Запальніцай Тыталь ганарыўся. Падарунак немцаў за старанні Тыталя ў блакаду.

— Пры-к-рывай агонь!.. Ну, вес-сялей?

— У-гу!

— Ну, вот!

Пахіснуўшыся, Тыталь ступіў ад Грэчкі. І ў гэты момант у цемры, зусім побач, раптам пачулася, ціхае, але строгае:

— Стой! Рукі ўгару!

Грэчка ўміг кінуў позірк на голас. У цемры значыліся нейкія дзве постаці. Падабраліся, пэўна,— пакуль яны з Тыталем цыгарку круцілі ды балбаталі. Можа, нават на галасы падабраліся.

Але Грэчка не думаў пра гэта, здагадка такая толькі далёка мільгнула недзе ў галаве. Грэчку раптам заліў страх.

Ногі нібы прыкіпелі да зямлі — не зрушыць з месца...

— Стой!..— загадалі пагрозна зноў.

Але Тыталь, як ні п'яны быў, знайшоўся адразу. Ударылі хапатліва, коратка стрэлы. Адзін, другі. Пісталет Тыталя.

Яму, аглушаючы, рэзка адказала аўтаматная чарга. Чубаты змоўк. Не страляў больш.

Стрэлы Тыталя вярнулі Грэчкавым нагам сілу. Прыгнуўшы галаву да грудзей, ён кінуўся наўцёк. Чарга з аўтамата, мусіць, пранізала Тыталя, Грэчка чуў ужо за сабой і падумаў, што гэта б'юць па ім.

— Стой, стой!..— гнаўся за Грэчкам страшны воклiч.

Але ён, не азіраючыся, утуліўшы галаву ў плечы, бег колькі духу. Воклічы, што даносіліся да Грэчкі, яго быццам падганялі. Уцячы, уцячы — часта калацілася, аж знемагаючы, сэрца. Гэта партызаны, яго пагібель. Далей, далей ад іх! Яму гэтыя людзі здаваліся цяпер страшней за ўсё.

Грэчка адбег ужо з сотню крокаў, як неспадзявана наперадзе акрэслілася яшчэ адна постаць. Яна стаяла

на шляху, які вёў да ратунку. Далей за ёй былі блізка відаць кусты. Цёмныя, ратоўныя кусты.

Грэчка прыпыніўся, пахапліва ўскінуў вінтоўку і, амаль не цэлячыся, стрэліў. Ён хацеў перазарадзіць вінтоўку і стрэліць яшчэ раз, але ў тую хвіліну да яго падскочыў другі партызан, што апынуўся з боку ад Грэчкі, замахнуўся аўтаматам і з усёй сілы ўдарыў паліцая прыкладам па галаве. Перад вачыма Грэчкі ўспыхнула полымя, і ён зваліўся.

— Ах ты, г-гад!.. Ну, п-праўда — г-гад!

Партызан — гэта быў Васіль Крайко — асвятліў паліцая кішанёвым ліхтарыкам. Святло ліхтарыка вылучыла з цемры нерухомае скурчанае тулава і вінтоўку, што валялася поблізу яго. Васіль хутчэй схапіў вінтоўку.

Ён ужо сабраўся бегчы да іншых, але яшчэ навёў ліхтарык на паліцая.

Убачыўшы твар, Васіль здрыгануўся.

3

Шашура ляжаў на шырокай высецы, за пнём.

Вядома, ззяў месяц. Перад насыпам была такая відната, хоць кніжкі чытай: кожная травінка бачна. Здалёк у вочы біў бляск і рэйкі — яны беглі праз лясок у адзін і другі бакі.

Шашура з-пад насунутай набакір кепкі глядзеў на насып, жмурыў вочы і нерваваўся: зіхцеў месяц, а па насыпе паволі цягнуліся, тырчалі перад вачыма патрульныя. Чуваць былі іх, здавалася, здзекліва спакойныя галасы. І самі яны былі, здавалася, абуральна спакойныя, упэўненыя ў сабе. Быццам знарок не спяшаліся.

Больш за ўсё прагнуў цяпер Шашура аднаго: каб яны сышлі куды-небудзь, не круціліся тут. Далі, нарэшце, яму ўзяцца за працу.

Ледзь яны аддаліліся, Шашура нецярпліва загадаў:

— На рэйкі!.. Дэтанатары не згубілі? — яго шэпт быў жорсткі і патрабавальны.

Ён з двума памочнікамі, уціскаючыся ў зямлю, хутка папоўз да насыпу — іншым было сказана прыкрываць іх. Але не адолелі трое і паловы шляху, як камандзір падрыўнікоў скамандаваў памочнікам:

— Стой!

Каб ён праваліўся, гэты патруль,— яны вяртаюцца.

— Замры,— загадаў падрыўнік сваім таварышам.— Не варушыся!

Шашура ляжаў, лаяў у думках патруля, месяц і чакаў. Гэты неспакойны чалавек, калі трэба, мог быць на дзіва цярплівым. Мог трываць любыя нягоды, каб не сапсаваць справу. Толькі калі патрульныя адышлі зноў, ён даў загад рушыць да пуці.

Яны ўжо ўзабраліся на насып і пачалі разграбаць жвір, калі раптам наводдаль прагучала чарга, за ёй другая. Стралялі па іх. Шашура, прыцісну ўшыся да зямлі, услухаўся, вызначыў: стралялі, падобна, з засады. Ён кінуў позірк на міну, якая ляжала каля рэйкі: закопваць ці не? Напэўна, прыйдуць і адкапаюць яе, а падрыўніку гэта рэч — скарб. Хоць і ўзялі яны ў дарогу не адну. А вось у яго ў сумцы яшчэ — супрацьпяхотная,— ён быў запаслівы на гэта,— такая тут вельмі можа спатрэбіцца. Скамандаваўшы, каб іншыя адыходзілі, Шашура хутка закапаў міну і адкаціўся ўніз. Адбег.

Сюды набліжаліся немцы. Яны яшчэ здалёк пачалі абстрэльваць лес, і над падрыўнікамі бзыкалі кулі. Але падысці да лесу і да рэек, дзе толькі што былі партызаны, патрульныя пабаяліся.

Усё сарвалася. Шашура хутка абдумаў становішча: трэба адыходзіць, пакуль не позна. А рэйкі?.. Што ж рэйкі? Нічога не зробіш: ахоўнікі цяпер увесь час будуць трымаць вуха востра...

Ён заўважыў, што злева ад вёскі на стрэлы бягуць паўз насып яшчэ дзесяткі два немцаў.

Шашура даў загад адыходзіць. Ён першы ўвайшоў у лясны зараснік і так наперадзе ступаў увесь час, толькі часам прыпыняўся, каб праверыць, ці не адстаў хто-небудзь. Хоць свяціў месяц, ісці ў лесе было нялёгка: месячнае святло толькі дзе-нідзе прабівалася да зямлі. Там, дзе блакітныя плямы клаліся на зямлю, лес размалёўвалі на свой лад цені дрэваў. Дрэвы і цені змешваліся, як бы спляталіся. Не проста было разглядзець усё як ёсць. Не раз падрыўнікі, што кіравалі за Шашурам, натыкаліся то на камель дрэва, то на дубец маладняку. Не раз білі іх па твары галіны. Толькі Шашура крочыў, нібыта нічога не было асаблівага.

Потым з паўгадзіны, а можа, і больш ішлі полем. Тады пачулі непадалёк постук і чыханне цягніка. Шашура, аказалася, вёў так, што не аддаляліся ад чыгункі.

Адышоўшы даволі ад месца, дзе іх планы сапсавала няўдача, Шашура зноў падвёў падрыўнікоў да «жалезкі». Зноў загадаў усім залегчы каля высекі і з-за дрэва стаўназіраць за тым, што дзеецца за высекай. На бяду, і тут зіхцеў месяц і ўвесь час перад вачыма снаўдалі патрулі. Можна было падумаць, уся ахова, што мелася ў немцаў, пасля трывогі, узнятай з-за Шашуры і яго падрыўнікоў, была сцягнута ў гэту ноч на дарогу... Давялося зноў адысці ад дарогі. Пашукаць больш надзейнага месца...

Ніхто, пэўна, не сказаў бы, колькі яшчэ адыйшлі яны, пакуль не сталі зноў. Адно было ясна: адшасталі многа, вельмі многа. Ноч сыходзіла. Блізілася світанне.

Вакол быў хмызняк, за ім пачыналася балота. Гэта было ўсё, што ведалі падрыўнікі ў перадранішнім поцемку. Змораныя ўшчэнт, яны адразу ж паваліліся спаць. Пакінулі адно варту з аднаго чалавека, што павінна была змяняцца праз паўгадзіны.

Шашура ўзняў усіх, ледзь пачало развідняцца. Падсілкаваўшыся крыху, пачалі абмазгоўваць становішча, меркаваць, як быць цяпер. Выказваліся развагі — што вось прыкрасць: не ўдалося, сарвалася. Што, канечне, непрыемна гэта, але — прычына ўважлівая.

— На вайне яно — так. Усяляк бывае...

— Як гэта — усяляк? — выбухнуў раптам Шашура.— Выдумаюць жа, каліна-маліна: усяляк бывае! Канечне — усяляк, у таго, хто думае: як будзе, так будзе. Адным словам, куды вецер падзьме... А ў мяне, чорт пабяры, не было такога, каб я хадзіў попусту! Вы бачылі калі-небудзь такое? Хто бачыў — скажы! — Адзін з бывалых падрыўнікоў варухнуўся, хацеў нешта сказаць, нагадаць, мусіць, але Шашура так люта зіркнуў на яго, што той ураз прыкусіў язык.— Не бачылі?.. То няўжо ж нам цяпер прыйдзецца вярнуцца ні з чым? Дажыць да такой ганьбы!..

Калі казаць праўду, было ў Шашуры, і неаднойчы, такое, што ён вяртаўся ні з чым. І ён помніў гэта, вядома, але ён не хацеў, каб іншыя помнілі ці чулі пра яго такое. І ён гаварыў так, нібы нічога такога і не бы-

ло. Трэба сказаць, рабіў гэта Шашура не проста з-за таго, што не цярпеў, каб прыніжалі яго, а з прытоеным, хітра разлічаным намерам: каб падняць, запаліць людзей. Адчуў, што настрой у яго хлопцаў зусім нягодны.

— Што ж, наступную ноч будзем чакаць?

— Калі трэба, будзем чакаць хоць дзесяць начэй! Але пакуль — паглядзім, які будзе дзень...

Неўзабаве яны зноў падышлі да чыгункі.

Размясціліся на ўзлеску, за лесам былі чараты і кусты лазняку. З узлесся відаць была ля высокага насыпу бязладная гарбатая груда. Валяліся пушчаныя пад адхон, пакарэжаныя вагоны, ад некаторых з якіх засталіся цяпер амаль адны шкілеты...

Быў, здавалася, самы мірны ранішні час. Ціш, спакой панавалі ў прыродзе.

Назіраючы здалёк, з лазняку, падрыўнікі бачылі, як пасля зняможнага начнога пільнавання пакіравалі да станцыі патрулі, як вылезлі са сховы — з засады — яшчэ некалькі «бобікаў»-ахоўнікаў. Пачынаўся дзень — палёгка стражам дарогі... Шашура і разлічваў, што пасля пільнай ночы ахоўнікі дадуць паслабленне сабе...

Камандзір падрыўнікоў пакінуў на ўзлессі і ў лазняку — метраў за дзвесце ад дарогі — групу прыкрыцця з вінтоўкамі і трафейным ручным кулямётам.

Стараючыся не хлюпаць у вадзе, асцярожна прадзіраючыся праз зараснік чароту, камандзір з памочнікамі падабраўся да аднаго з пакарэжаных вагонаў. Выбраўшы зручны куток сярод абломкаў вагона, падрыўнікі заселі ў ім, і Шашура ў шчылінку стаў уважліва назіраць за станцыяй, за дарогаю.

Участак дарогі Шашуру быў добра знаёмы. Многія ўчасткі знаёмы былі на гэтай дарозе яму. Як ён мог быць незнаёмы, цяперашні ўчастак, калі Шашура не першы раз з асаблівай увагай прыглядваўся да яго. Калі і вагоны, што грэліся тут, былі не кім іншым, а ім, Шашурам, у балота накіраваны.

Ён уважліва абглядваў станцыю. Яе спалены будынак чарнеў па другі бок насыпу прыкладна за паўтара кіламетра. Побач з панурай, пустой каробкай станцыі туліўся нядаўна пабудаваны барак, у якім, відаць, цяпер і былі начальства ды ахова. Перад станцыяй Ша-

шура разгледзеў замаскіраваную горку дзота... На станцыі было ціха. Спакойна...

Ціхай здавалася і дарога. Непадалёк паявіўся патруль. Не даходзячы да вагонаў, павярнулі, пачалі паволі аддаляцца. Хутка пачулася чыханне цягніка, што набліжаўся, потым ён паказаўся з-за павароту. Ішоў таварны, якраз у бок фронту. Нязносна доўга, здавалася Шашуры, прабягалі міма, стукочучы, вагоны. Вялікі састаў прабягаў каля самага падрыўніка міма...

Час ішоў ды ішоў, а камандзір падрыўнікоў усё ляжаў, чакаючы зручнага выпадку. Вылазіць на насып проста так, без адпаведнай абстаноўкі, лічыў Шашура, было б недаравальнай дурнотаю. Так можна было лёгка і справу сапсаваць, і галаву злажыць: вельмі ж добра відаць гэтая мясціна са станцыі. А абстаноўкі належнай пакуль усё не было...

Па насыпе блізка пратупаў абходчык, вярнуўся. Ужо стала добра ўграваць сонца, калі падрыўнік пачуў далёкі гул. Ён не адразу зразумеў, што гэта. Гул хутка, грозна мацнеў. Самалёты!

Шашура скіраваў позірк у неба і, нарэшце, убачыў шырокі строй самалётаў з чырвонымі зоркамі. Самалёты ішлі з захаду. Падобна было — кіравалі ў бок станцыі. Там узнялася бязладная страляніна.

Самы час! Немцы цяпер будуць больш глядзець у неба, чым на пуці...

Ён з двума памочнікамі выбраўся з абломкаў, палез на насып. Адхон насыпу быў круты, затравелы, боты слізгалі ў вільготнай траве. Шашура ўцінаў у траву край падэшваў. Засопся, пакуль ушчаперыўся... Прытуліўшыся да зямлі, сталі хутка раскопваць шчэбень. Прысыпалі дзве міны, разраўнялі... Шашура азірнуўся ў бок станцыі — здавалася, што заўважылі. Не, усё добра...

Зрабіўшы справу, хлопцы праворна пакаціліся з насыпу. Правільна зрабілі: марудзіць нельга. Шашура, аднак, затрымаўся: прыклаў вуха да рэйкі — ці не ідзе поезд. Не, не ідзе... Пластаючыся на зямлі, праверыў вачыма, ці добра замаскіравана, азірнуўся па баках, тады таксама скаціўся ўніз.

Адбег за вагоны. Убачыў: там, трывожна пагляддаючы на яго, ціснуліся да абломкаў вагона абодва

хлопцы. Чакалі яго. Ён махнуў рукою, загадаў адыходзіць у лазняк. У лазняку спыніў.

— Тут будзем?..

— А як жа, а раптам абходчык знойдзе міны?.. Хіба ж можна, каліна-маліна, так фармальна: падлажыў, і ўсё...

Па насыпе прайшла групка — патруль. Адзін штосьці апавядаў іншым... Нічога не заўважылі...» Шашура супакоена апусціў аўтамат.

Нарэшце пачуўся працяжны свіст паравоза, і хутка падрыўнік, углядаючыся ў той бок, убачыў белы дымок, які раз-пораз пругка пыхкаў угару і павалі набліжаўся...

Тады Шашура вылез з зараснікаў лазы і скочыў у ваду, у чарот. Трэба як мага далей адбегчы ад насыпу... Хлюпаючы ў вадзе, прадзіраючыся праз чарот, ён увесь час чуў ззаду нарастаючы перастук колаў і натужнае пыханне, было падобна, што сапе вялікі звер. Паравоз, не прыпыняючыся на станцыі, хутка падыходзіў бліжэй...

Шашура азірнуўся: састаў быў мяшаны — тры-чатыры платформы з гарматамі, таварныя вагоны і два пасажырскія, у якіх у вокнах былі вайскоўцы. Паравоз быў так блізка ад таго месца, дзе ляжалі міны, што падрыўнік мімаволі спыніўся, чакаючы напружана, што будзе далей.

Праз які міг ён убачыў, як успыхнула полымя, і тады ж першы таварны вагон палез угару...

Шашура прыгнуўся, колькі сілы пабег да сваіх. Ззаду, зусім блізка, не сціхаючы, суха лопаліся, выбухалі снарады. Калі ён ужо быў блізка да берага, з гары нешта пляснулася ў ваду. «Яшчэ прыб'е так!» — мільганула ў галаве. Ён наддаў ходу.

4

Шашура і сёння не мог прайсці міма Паплавоў. Не мог ён упусціць зручнага выпадку завітаць у іх. Нейкая невядомая сіла цягнула падрыўніка зазірнуць на селішча, дзе жыла Аксіння.

Праўда, бачыў ён тое селішча не надта даўно. За апошнія дні Шашура ўжо некалькі разоў, нібы выпадкова, заходзіў туды. Неяк так атрымлівалася, што яго

сцежка амаль пасля кожнай аперацыі абавязкова ці з аднаго, ці з другога боку вілася блізка ад Паплавоў...

Шашура з таварышамі нырнуў улева, у чорны зараснік алешын. Неўзабаве яны выйшлі на шэры вільготны луг, па якім бегла ледзь прымятая сцежачка. Шашура пачаў размахваць галінкай і паціху весела пасвістваць. Хоць далёкая і бяссонная дарога стаміла падрыўніка, яму было цяпер лёгка.

Яны прыйшлі ў вёску, калі сонца толькі пачало ўздымацца. На вуліцы, як звычайна ў ранні час, было пуста.

— Прызямляйся! — скамандаваў Шашура, спыніўшы хлопцаў на ўскрайку вёскі.— Гадзінку даю пара-драмаць...

Кіруючы на знаёмы двор, ён падумаў, што Аксіння яшчэ, напэўна, спіць,— прыйдзецца, відаць, чакаць у садку. Але ўвішная жанчына ўжо гаспадарыла. Прысеўшы на чурбачок, чысціла бульбу ножыкам, абгорнутым на месцы згарэлага тронка анучкай. Каля яе ног стаяў салдацкі кацялок, што падарыў Шашура.

Аксіння не заўважыла Шашуру. Той наводдалек абышоў яе на цыпках, стараючыся трымацца за спіной яе, з'явіцца знянацку. Але, калі ён стаў набліжацца, Аксіння пачула крокі і азірнулася.

На кончыках яе строгіх вуснаў затрапятала ўсмешка. Спакойны, яшчэ санлівы твар яе неяк памаладзеў і заясніўся. Аксіння была рада яму, і Шашура гэта адразу заўважыў.

— Які вецер у такі ранні час прынёс?

— Чаму ж ранні! — паказаў здзіўленне Шашура.— У нас, падрыўнікоў, гэта пара лічыцца позняй.

— Ну то ў вас, у падрыўнікоў!.. А я ж не падрыўнік, здаецца...

— Знаёмая падрыўніка!..

У кацялку, у вадзе, ужо бялела некалькі бульбін. Ён сеў поруч і выняў з кішэні складаны ножык са штопарам, адвёрткай, шылам і яшчэ нейкімі прыстасаваннямі. Расчыніўшы ножык, падрыўнік узяў з мяшочка дробную бульбінку, пакруціў у руках.

— Дзе ты знайшла гэты шрот?

— Дзе знайшла, там цяпер няма... Невядома, якая яшчэ ў цябе вырасце.

— У мяне, як гарбузы, будзе! Галаву даю...

— Паберажы яе, галаву... Не хваліся раней часу.
— Пабачыш!

Ён пачаў гаварыць з ёю, што прыходзіла ў галаву, так, нібы толькі што вярнуўся з поля.

За мінулыя дні ён стаў тут як бы сваім чалавекам. Шашура адчуваў, што, не зважаючы на прыкры разлад у тую ноч, Аксіння адносіцца да яго хоць і стрымана, але прыхільна. Праўда, глядзеў ён на гэту прыхільнасць, навучаны ўласным вопытам, з недавер'ем. Ліха на іх, гэтых жанчын, ніколі не зразумееш, што яны думаюць!

Трэба сказаць, Аксіння яму падабалася ўсё больш. Чым яна прысушыла сэрца падрыўніка, ён і сам не ведаў. Ці жаночай заварожлівай пяшчотнай стрыманасцю, за якой Шашура прыгадваў то абыякавасць, то заманлівую надзею, ці сталым асеннім спакоем, які застаецца ад перажытага гора ці, можа, трапяткой усмешкаю на пругкіх па-дзявочаму вуснах? Хто ведае... Але з кожным яго прыходам Аксіння станавілася ўсё больш прывабнай падрыўніку.

Яна ж, як і раней, была да Шашуры стрыманай, быццам не заўважала ў ім змены. Падрыўніка гэта не крыўдзіла: ён і не ўмеў крыўдаваць. Наадварот, чым больш Аксіння стрымлівала яго, тым, падобна, больш жаданай была яму...

Палюбіліся Шашуру і дзеці Аксінні, якія так прызвычаіліся бачыць яго каля сябе, што адносіліся да падрыўніка, як да бацькі. Ён таксама зваў хлопчыка «сынком», а малую «дачушкай».

Гэтай раніцай Шашура прымусіў Аксінню збянтэжыцца. Калі яны сядзелі каля вогнішча, на якім у кацялку варылася бульба, падрыўнік, ссунуўшы на адно вуха кепку і гарэзна пазіраючы на Аксінню, сказаў:

— Эх, відаць, такі мой лёс — парадніцца з табой!.. Напэўна, прыеду і капаць тую бульбу, якую садзіў.

— Прыязджай, дранікаў прынясу, як тады,— адказала Аксіння, сочачы за аксамітнымі вугольчыкамі, і ўсміхнулася; яна ці не зразумела, ці зрабіла выгляд, што не здагадваецца, да чаго ён вядзе.

Шашура раптам на нейкую хвіліну незвычайна пасур'ёзнеў.

— Ды як ты на тое, што я сказаў?
— Пра што ты?

— Ну, каб парадніцца...

— Ты што, жартуеш?..— яна ўзняла на яго свае строгія вочы. У зрэнках яе штосьці спакойна жаўцела: як восень.

— Чаму жартую?

— Не зразумець у цябе ніколі, дзе ты сур'ёзна, а дзе так, зубы паказаць.

— Вось як пажывём разам, тады будзеш разумець!..— Ён тут жа стрымаў сябе, стаў зноў надзвычай паважным.— Дык я цяпер сур'ёзна, Аксіння.

Яна нахмурылася, так што над пераноссем успухлі два гарбочкі. Доўга маўчала, штосьці разважаючы сама з сабою. І ён маўчаў, паглядваючы на яе востра, чакаючы.

— Калі ты сур'ёзна,— загаварыла яна не вельмі рашуча,— то я вось што скажу. У мяне дзеці — а я не ведаю, як ты да іх... Як будзеш абыходзіцца? Мне яны — родныя, а як ты з імі... табе яны чужыя...

— Чаму гэта чужыя?!.— Шашура здзівіўся, амаль абурыўся. Заявіў, як клятву: — Я іх буду любіць, як і ты.— Заявіў такім тонам, нібы і не дазваляў сумнявацца. І раптам зноў гарэзна ўсміхнуўся — натура брала сваё: — Акрамя таго, каліна-маліна, мы ж не безнадзейныя старыя,— будуць у нас і яшчэ. Калектыўныя — твае і мае! Быў бы каваль ды каваліха — набудзем гэтага ліха!.. Праўда?

Выказаўшы такую важную, рашучую заяву, Шашура палічыў, што займеў права на больш упэўненае абыходжанне з Аксінняй. Падрыўнік, не далікатнічаючы, уладна прыцягнуў Аксінню да сябе.

Яна таксама, пэўна, адчула сур'ёзную перамену ў іх дачыненнях. Бо не абурылася такім гаспадарскім абыходжаннем падрыўніка. Толькі пачырванела і нібы засаромелася. Хутчэй за ўсё — жартам яго.

— Не ведаю...— сказала яна яўна збянтэжана. Адказала, як зразумеў Шашура, не на жарт яго, а на ўсё тое ж, на прапанову яго. Вельмі ж сур'ёзная была.

Толькі цяпер яна схамянулася і, як бы толькі цяпер заўважыўшы, што ён трымае яе ў сваіх руках, варухнулася, загадала выпусціць. Стараючыся схаваць няёмкасць, папракнула нездаволена:

— Людзі яшчэ пабачаць, як ты тут... Бярэшся, нібы муж, аж косці занылі!.. Нібы твая!

— Не мая, дык будзеш мая! А што бяруся моцна, то ўжо ў мяне прывычка такая. Прывыкай!.. Яшчэ, прыйдзе час, і не так вазьму!

Пасля снедання падрыўнік палазіў па гнілой страсе, паўсюды зарослай зялёным мохам, залапіў саломай дзіркі, каб не цякло ў жыллё. Па ўсім было відаць, што ён адчувае сябе тут ужо як гаспадар.

Калі злез на зямлю і атрос з сябе саламяную труху, то стаў адразу збірацца. Аб сваіх намерах-марах адносна Аксінні ён больш не гаварыў.

Не дамовіўшыся канчаткова, пакінуўшы жанчыну з думкамі-неадчэпамі, ён неўзабаве ўжо выходзіў з двара.

5

Дарогай неспакойная галава выдумшчыка-падрыўніка, што крочыў з сябрамі ў лагер, была цалкам запоўнена развагамі аб незвычайнай аперацыі.

Гэтая аперацыя павінна была, як ніякая, праславіць Шашуру. Ён з заміраннем сэрца ўяўляў, як прабярэцца ў Мінск, як асталюецца ля аэрадрома. Многія гадзіны будзе высочваць ён самалёты, выглядзіць, на якіх адпраўляюць там важных «фюрэраў», пралезе да іх, пралезе ды прыладзіць дзе-небудзь у непрыкметных месцах па магнітцы... Яны ўздымуцца ў паветра, пакіруюць у свой дойчланд. І тады — магніткі ўзрываюцца, шматуючы самалёты ўшчэнт. І «фюрэры», куляючыся, ляцяць на зямлю!.. Ляцяць тады, калі ўжо думалі, што вырваліся! Які перапалох будзе на аэрадроме, калі там даведаюцца пра гэта! А можа, і ўбачаць самі. Лепш, каб яны ўбачылі, каб выбух адбыўся над аэрадромам!.. Шашура думаў пра гэта з такім захапленнем і так жыва бачыў кожную драбніцу сваёй аперацыі, што гатоў быў зараз жа падацца на яе.

Вярнуўшыся ў брыгаду, ён далажыў Ермакову пра вынікі аперацыі, пачуў адабрэнне і дазвол адпачыць.

Ён паваліўся спаць з пачуццём чалавека, які сумленна заслужыў гэта права, задаволенага ўдала зробленымі ім справамі. Спаў ён моцна, але яго разбудзілі галасы за зямлянкай, якія пра нешта спрачаліся. Слухаючы іх, ён пачаў успамінаць гаворку з Аксінняй. Згадаў пра думкі ў дарозе, пра свой план,— ускочыў,



Іван Мележ на пасяджэнні бюро секцыі прозы СП БССР.
З л е в а н а п р а в а: Мікола Лупсякоў, Іван Грамовіч, Рыгор Няхай, Іван Мележ, Тарас Хадкевіч, *1947 год*.



Іван Мележ, Янка Брыль, Усевалад Краўчанка, *1950 год.*

хутка прывёў сябе да ладу. Адразу рушыў да камісара. Спытаўшы таго дазволу зрабіць важнае паведамленне, Шашура аб'явіў чыстасардэчна, што прыдумаў геніяльны план.

— Няўжо — геніяльны? — не паверыў Туравец.

— Геніяльны, таварыш камісар! Усю дарогу думаў — аж зямлі пад сабой не чуў. Эх, прыгожа будзе, каліна-маліна, калі рванём яго! Можна расказаць?

— Абавязкова! Гавары.

Калі б падрыўнік менш быў захоплены сваёй ідэяй, ён хутка заўважыў бы скептычную ўсмешку ў вачах камісара. Паслухаўшы яго да канца, Туравец сказаў, што план цікавы, нават вельмі цікавы, але — занадта рызыкоўны. На аэрадроме,— сам ведаеш, разважаў Туравец, моцная ахова, і падрыўнікоў могуць лёгка заўважыць. Аэрадром — гэта не чыгунка, да якой многа розных падступаў. А калі заўважаць, то вырвацца наўрад ці ўдасца. Смерць? Для чаго? Для таго, каб забіць некалькі «фюрэраў»? Якіх можна адправіць на той свет іншым, больш пэўным метадам?..

— План твой, любы мой, нерэальны. Неабдуманы!..

Шашура стаў горача спрачацца, але спрачаўся нядоўга: раптам змоўк і, не шкадуючы, адступіў. Чаго тут шкадаваць, калі ён можа, хоць сёння, прыдумаць яшчэ дзесятак такіх, можа, і лепшых!

— Ну, што ж, таварыш камісар, значыцца, не ўхваляеце? Выходзіць, каліна-маліна, памылка?.. Ясна... Тады дазвольце ісці, таварыш камісар.

Ён выпрастаўся ў струнку і хвацка паднёс руку да ссунутай набок кепкі.

Пры камісару Шашура заўсёды стараўся трымацца статутных правіл.

Туравец нечакана спыніў яго.

— Пачакай,— ён падышоў да падрыўніка.— Ты дзе быў зараз?

— Быў на заданні, таварыш камісар. Як вам вядома: рабілі дыверсію на дарозе. Падарвалі эшалон.

— Гэта я ведаю. І больш нідзе не былі?

Шашура адразу востра, насцярожліва зірнуў на Тураўца, разважаючы — гаварыць ці не? «Вочы якія хітрыя ў яго! Напэўна, ведае пра ўсё сам»,— падумаў ён і сказаў:

— Больш? Нідзе не былі. Толькі — калі вярталі-

ся — прывал маленькі рабілі,— прамовіў ён знарок абыякава.

— Ага,— кіўнуў нібы з ухвалай Туравец. Шашура ўлавіў на сабе дзіўны, уважлівы позірк.— Прывал?

— Прыпынак маленькі. Па прычыне таго, што ўтаміліся.

— Утаміліся? Ясна. Пасядзелі трохі, пакурылі?

— Пакурылі... Я там, між іншым, зазірнуў да знаёмай адной,— Шашура па-прыяцельску ўсміхнуўся.

— Вось гэта іншая гаворка.— Туравец глядзеў нелагодна, без усмешкі.

— У цябе гэта сур'ёзна з ёю? Ці так проста — дурэеш?

— Сур'ёзна, здаецца, таварыш камісар.— Туравец узіраўся, як бы не верыў.— Не маню — намерыўся нават, каліна-маліна, жаніцца...

— Вунь што.— Туравец памаўчаў. Зноў зірнуў востра: — А дзе муж яе? Не цікавіўся? Не на фронце, а?

Шашура сумна і цвёрда адказаў:

— Няма ў яе мужа. Загінуў...

— Загінуў? Гэта дакладна?.. Ты, Шашура, глядзі,— нібы не верыў Туравец.— Каб хто-небудзь пасля на цябе не крыўдзіўся. І на ўсіх нас...

«І што яму да гэтага! Ва ўсё яму трэба ўмяшацца!» — нездаволена думаў Шашура. Але гневаўся не надта: разумеў — такі ўжо абавязак камісарскі, трымаць пад прыглядам, хто як жыве. Ды і падабалася, што камісар гаварыў таварыскім тонам.

Калі ішоў ад камісара дамоў, то, можа, упершыню пачаў абдумваць свае адносіны да Аксінні. Як гэта яно павярнулася так сур'ёзна! Ён жа заўсёды асцярожны да іх быў, да жаночага племя, баягогся сур'ёзна звязвацца. Ведаў добра, што гэта такое, помніў. І вось на табе, як бы забыў усё...

Дзіўна — учора быў халасцяком, а заўтра будзе мужам; і не проста мужам — бацькам дваіх дзяцей!..

Хлопцы, канечне, будуць падсмейвацца, але ён знойдзе, што сказаць!..

## 1

Яны сустракаліся цяпер па некалькі разоў на дзень. Здавалася, што Залеская без Наталлі Міхайлаўны не магла проста жыць.

Наталля Міхайлаўна таксама з нецярплівасцю чакала сваю сяброўку. Агульнае гора і надзеі вельмі здружылі абедзвюх жанчын за апошні год. Як жа ім не быць дружнымі, калі іх Валя і Ніна былі разам. І нібы падтрымліваючы прыклад дзяцей, яны таксама заўсёды стараліся трымацца разам, памагалі ў цяжкую хвіліну адна адной...

Але асабліва часта сталі яны сустракацца пасля таго, як Залеская перадала сяброўцы пра наступленне пад Оршай. З гэтага часу не было, мусіць, такога дня, каб Залеская не прыносіла якую-небудзь навіну. Адкуль толькі яна пра ўсё даведвалася! У яе была нейкая асаблівая здольнасць уведваць пра ўсё, што робіцца — і тут, у горадзе, і на фронце...

Вось і сёння, калі яна ўвайшла, Наталля Міхайлаўна адразу падумала: што яна скажа новага?

Наталля Міхайлаўна шыла на ручной швейнай машыне, што стаяла на століку, спыніла працу і запытальна зірнула на сяброўку.

— Усё шчыруеш! — ні то з папрокам, ні то з ухвалай прамовіла Залеская.— Калі ты, Наталька, хоць сядзіш спакойна? Мусіць, ніколі...

— На кірмаш трэба — прадаць што-небудзь ды падкарміць малую. Вось і мудрую, што можна людскае пашыць з гэтай драніны.

Залеская падышла да маленькай бялявай дзяўчынкі, якая гуляла з каляровымі абрэзкамі тканіны, раскладзенымі на табурэце.— А ты што робіш, Людачка?

— Шыць буду,— сур'ёзна адказала малая.

— О, таксама шыць? Якія ж вы абедзве працавітыя! — пахваліла Залеская, думаючы аб нечым сваім. Яна раптам, зірнуўшы скоса ў бок суседняга пакоя, ціха запыталася, дзе «кватарант».

«Кватарантам» яна называла чалавека з прозвішчам Кухта, які заняў усю хату Наталлі Міхайлаўны,

выжыў гаспадыню з унучкай у гэтую каморку. Наталля Міхайлаўна сказала, што ён пайшоў некуды, здаецца, у гэтую сваю — каб яна правалілася — Раду.

— Не пакуе яшчэ чамаданаў?

— Ужо складзена ўсё...

— А, значыцца, падрыхтаваўся. Ведае, што трэба спяшацца. Нашы ж ужо, Наталька ты мая, недалёка ад Крупак! Праўду кажу: да Крупак падыходзяць!

— Так хутка?! Аж не верыцца!

— Спяшаюцца, родныя, да нас!..

— Ведаюць, як нам тут прыходзіцца, як мы чакаем іх...

Залеская пачала расказваць пра тое, што робіцца цяпер на вакзале. Мітусня. Душаць проста адзін аднаго, стараючыся хутчэй праціснуцца да вагонаў. Учора адзін «эсэс» прыстрэліў нейкага паліцая, які хацеў прабрацца раней. Каля вакзала розныя фраў чапляюцца да кожнага афіцэра: вазьмі, уладзь у вагон — усё аддам, душу і цела. Ды афіцэрам нібы ні да таго, ні да другога... Вочы Залескай, калі яна расказвала пра гэта, свяціліся і насмешкай і радасцю.

Яна неўзабаве пайшла. Але Наталля Міхайлаўна ўсё згадвала яе весткі і поўнілася радасцю. Узяўшы на калені сінявокую ўнучку, песціла малую, гаварыла суцешліва:

— Нічога, Людачка. Нічога, дзяціначка! Ужо нядоўга нам пакутаваць засталося, званочак мой ясны. Хутка — хуценька-хуценька — прыйдзе да нас твой татка. Вось будзе нам радасць! І яму якая радасць. Як ён цябе ўзніме на рукі, як прыгорне! Ды як пацалуе! Ён жа яшчэ ні разу не бачыў цябе, а тут — адразу такая красуня!..

— Красуня,— засмяялася Людка, моршчачы носік.

Скончыўшы шытво, Наталля Міхайлаўна сабралася на рынак, узяла Люду за ручку і выйшла на вуліцу.

У Мінску быў голад. Наталлі Міхайлаўне даводзілася кожны дзень задумвацца над тым, як пракарміць сваю малую і сябе. Праўда, пра сябе старая амаль не трывожылася: сама яна цярпліва зносіла нястачу, чакала адно дня, калі ўсё гэта, нарэшце, згіне — і гаспадары нязваныя, і голад, і пакуты,— але бачыць, як галадае ўнучка, чуць, як яна просіць есці, Наталля Міхайлаўна не магла.

«Божа мой, якая ж ты кволенькая, мая сінічка»,— не раз думала, уздыхала старая.

— На які рынак мы пойдзем? На Суражскі, праўда, бабуню? — дзелавіта запыталася Люда.

— Не. На Чэрвеньскі.

Адсюль, ад вуліцы Талстога, да Чэрвеньскага можна прайсці каля Заходняга моста. А можна і цераз пераезд на чыгуначных пуцях, гэтак нават будзе бліжэй... Не, там, мусіць, цяпер стаіць варта.

Яны ціха патупалі паўз рады драўляных хат і платы да Заходняга моста. Наталля Міхайлаўна несла пад пахай загорнутыя ў газетны ліст дзіцячую сукеначку, перашытую са сваёй кофты, і мужчынскі касцюм. Гэта быў апошні, самы лепшы касцюм Аляксея. Гэты касцюм любіла Ніна, і Наталля Міхайлаўна ўсё берагла яго, шкадавала прадаваць. Але вось даводзіцца і яго аддаваць. Нічога іншага ўжо няма. Усе іншыя Аляксеевы рэчы давялося занесці на рынак раней. І амаль усе плацці Ніны прапалі там. І ўсе плацці самой Наталлі Міхайлаўны, і ўсе дамашнія рэчы...

Што ж, іншага выхаду не было. Эх, жыццё — толькі і вядзеш дзень ада дня, пражываючы тое, што было калісьці набыта. А колькі разоў прыходзілася перашываць старыя, заношаныя сукенкі ці сарочкі, каб можна было прадаць...

Паўз скверык, які цягнуўся радамі яшчэ маладых танканогіх таполяў, падышлі да прывакзальнай плошчы. Каля будынка вакзала, заляпанага брудна-зялёнай фарбай, і пры бараках, што былі з другога боку пыльнай запушчанай плошчы, варушыліся, шумелі натоўпы немцаў, віднеліся горкамі розныя клункі, скрынкі, чамаданы. Нават збоку было відаць, што немцы вельмі ўстрывожаны.

«А, дапякло, насланнё вы паганае! Забегалі...» — падумала радасна старая.

З гэтым настроем, ад якога сэрца поўнілася яснымі надзеямі ды чаканнем шчасця, ішла яна паволі да рынку, стрымліваючыся, каб не загаварыць пра ўсё гэта з малой.

— Бабуня, як гэта вуліца завецца?

— Вуліца Свярдлова.

— Гэта па-нашаму?

— Па-нашаму...

Вуліцы ў горадзе мелі афіцыйна дзве назвы: адну — нямецкую, другую — дадзеную гарадской управай, але людзі называлі вуліцы па-даваеннаму, «па-нашаму»...

На рынку людзей снавала менш як звычайна; зусім пуста было на горцы каля пажарнай вышкі, дзе ў другія дні стаялі фурманкі з бульбаю ці гароднінай.

— Мы купім хлебца, бабуня, праўда? — запыталася Люда, зазіраючы ў вочы старой.

— Купім, купім.

Беднасць, якую Наталля Міхайлаўна прывыкла бачыць гэтыя тры гады, сёння неяк асабліва рэзала яе вочы. Чаго толькі не прыходзілася мудрыць людзям, каб як-небудзь выбіцца з галадоўкі, купіць жменю мукі ці кацялок бульбы.

Вунь стаіць стары, згорблены чалавек, апрануты ў залатаны касцюм з чорнага бастону, з некалі модным гальштукам. Наталля Міхайлаўна ведае яго: калісьці ён выкладаў прыродазнаўства ў тэхнікуме; цяпер стаіць каля скрынкі, на якой раскладзены кавалачкі мыла, што сам прыгатаваў. Яго мыла ніхто не хоча купляць, яно кепска мыліцца, але ён стаіць, чакае. Стаіць, пануры ад няўдачы і прыніжэння...

А вунь, у адзін рад з ім, яшчэ некалькі старых і дзяцей. Чаго там толькі не прадаюць: парваныя жаночыя валёнкі, гарэлыя ржавыя цвікі, какетлівыя ўчарнелыя абцасы, адарваныя ад туфляў, якія, напэўна, даўно ўжо на сметніку. Розны друз...

«Да чаго давялі людзей, праклятыя!»

Задумалася Наталля Міхайлаўна і не адразу заўважыла, як падышоў да яе чалавек, яшчэ не стары, у капелюшы з маленькімі палямі, у фрэнчы нейкага цвілога колеру, з вузенькімі бартамі. Адсунуў сукеначку, узяў, не пытаючыся нічога, пінжак, абгледзеў як бы пагардліва, грэбліва.

Разгарнуў перад сабой, прымераў.

— Трэба перашываць!.. Колькі марак?

— Я мяняю на прадукты.

— Гм, на прадукты... А чаму не на маркі?

— Таму, што не на маркі...

Яна магла б дадаць: «выкіньце іх на сметнік»,— але Наталля Міхайлаўна добра ведала, чым гэта магло абысціся.

— Не, ты скажы, чаму не на маркі? — не адставаў «купец».— Ты ведаеш, што такое марка, якая ходзіць па ўсёй Германскай імперыі?

— Ведаю...— Наталля Міхайлаўна паспрабавала ўзяць пінжак з яго рук, але ён не аддаваў.

— А-а, ты, пэўна, хочаш, каб я заплаціў... бальшавіцкімі рублямі? — раптам яхідна скончыў ён.

— Аддайце пінжак зараз жа!

Ён усё не выпускаў пінжака, і Наталля Міхайлаўна, пазіраючы ў яго ненавісныя вострыя вочкі, адчула, што ён лёгка не адчэпіцца, што можа здарыцца скандал, які для яе невядома чым скончыцца. Але тут адразу ўмяшаліся, зашумелі з усіх бакоў людзі, што былі каля іх.

— Ну і што ж — яе тавар. Як яна хоча, так і прадае!

— Можа, вы яшчэ і цану самі ўстановіце?!

— Ды не — ён, відаць, зусім задарма хоча?..

— Бач, які разумнік!

Галасы чуліся з усіх бакоў, і чалавек у фрэнчы прыкметна пацішэў: ён разгублена азірнуўся, як бы шукаючы падмогі, але не знайшоў яе. Прамармытаўшы грэбліва, што пінжак вялікі, адразу падаўся адсюль.

Наталлі Міхайлаўне параілі хутчэй сысці з рынку, але яна засталася тут. Што яна, баіцца гэтага недабітага цвілога панка! Усё-ткі ёй было трывожна, і жанчына мімаволі не-не ды паглядвала, ці не цягнецца гэтая брыда зноў.

Час ішоў ды ішоў, а пакупнікоў ні на касцюм, ні на сукенку не знаходзілася.

— Ногі баляць, бабуня...— застагнала Людка, што ўвесь час ціха стаяла поруч. Наталля Міхайлаўна ўзяла яе на рукі.

Яна і стаяла, і хадзіла па рынку, аж пакуль не пачалі выганяць адсюль, але прадаць нічога не ўдалося: ні пінжака, ні сукеначкі.

— Не шанцуе нам, Людка: з чым прыйшлі, з тым і пайшлі. Хадзем дадому...

— Бабуня, а хлебца мы не купілі! — раптам напомніла ўнучка і тузанула яе за руку.— Купім хлебца.

— Заўтра, Людачка, заўтра...

2

Генерал-лейтэнант Баумволь ужо набліжаўся да Талачына, калі наперадзе, поблізу, нечакана ўзгарэлася страляніна. Па стрэлах гармат і кулямётаў ён адразу вызначыў — страляюць танкі. Ды і хто яшчэ мог страляць з гармат у тыле нямецкіх войск?

«Рускія!» — апаліла думка. Машына стала да таго, як ён загадаў. Усе глядзелі, слухалі, нібы не разумеючы, не цямячы.

На шасэ наперадзе, было відаць, узнялася, пачала хутка разыходзіцца мітусня, бязладдзе. Усё больш машын і фурманак збочвала з шасэ, паспешліва каціла ў поле.

Рэйзе першы вырваўся з разгубленасці, не трацячы часу, цвёрда загадаў звярнуць з шасэ.

На шчасце, адхон поблізу аказаўся невялікім і некрутым. За ім цямнеў хмызняк. Яны спусціліся з шасэ. Гэта была, лічыў генерал, разумная, неабходная перасцярога.

Калі яны ад'ехалі да хмызняку, генерал убачыў тое, чаму ўсё ж не хацелася верыць: наперадзе, ля гарадка, на шасэ, што ўздымалася на ўзгорак, узыходзілі танкі. Калі б генерал і яго ахова аказаліся крыху далей наперадзе, яны немінуча наскочылі б на рускіх, на іх танкі. Што было б, каб ён выехаў некалькімі хвілінамі раней.

Генерал пачуў, як над яго галавою прасвістаў снарад, адзін, другі.

Пастраляўшы, танкі сышлі з шасэ. Павярнулі да горада, хутка рушылі да яго. Неўзабаве страляніна ўзнялася там наводдаль. Але на шасэ поблізу выйшла яшчэ некалькі рускіх танкаў.

Трэба было, не марудзячы, ехаць адсюль. Хаваючыся за хмызняком, машыны генерала пакіравалі назад, далей ад танкаў. У лагчыне за хмызняком аказалася ўжо многа машын і салдат. Аб'ехаўшы іх, за лагчынаю знайшлі невялікую палявую дарогу. Рушылі —сярод грузавых і іншых машын — па ёй. Наперадзе — ахова, за ёй — машына генерала.

Глядзелі на ўсе вочы. Увесь час трымаліся напагатове. Бой ля Талачына ўсё не сціхаў. Тут, на дарозе, праўда, было ціха, але ўсе разумелі: у любы момант

можна было наткнуцца на танкі рускіх ці на партызан.

У гэтыя небяспечныя для яго жыцця хвіліны генерал мог належна ацаніць вытрымку і розум Рэйзе. Штурмбанфюрэр увесь час дакладна ацэньваў абстаноўку, распараджаўся разважна, папярэдліва.

Дарогі былі агідныя. На адной з іх заселі ў балоце. Рэйзе, шафёр і генеральскі ардынарац выцягнулі машыну, але неўзабаве яна зноў засела, і ўвесь час трэба было паўзці асцярожна, пільна. Сярод невядомасці — у невядомасць.

Небяспечны Талачын абышлі ўдала. Без прыкрасці выбраліся на больш надзейныя дарогі і яшчэ да вечара дабраліся да размяшчэння штаба камандуючага групы.

На ўскраіне горада, дзе асталяваўся камандуючы, было ціха, і генералу гэтая абстаноўка цішыні і спакою здалася неверагоднай, абураючай. Генерал Баумволь, што пачынаў усведамляць усю небяспечнасць перажытага ля Талачына, адчуў да гэтай цішыні, да фельдмаршала рэзкую непрыхільнасць.

Ад'ютант фельдмаршала, паўнацелы, прыгожы, абыходлівы, паспрабаваў затрымаць генерала: сказаў, што фельдмаршал заняты, але Баумволь, не скідаючы дарожнага плашча, з рашучым і ўпэўненым выглядам накіраваўся проста да дзвярэй.

Фельдмаршал штосьці пагрозліва гаварыў па тэлефоне. Пачуўшы, што ў пакой увайшлі, ён азірнуўся з раздражнёнасцю і, не мяняючы выразу, адказаў на прывітанне. Услед за гэтым ён зноў павярнуўся да тэлефона, адтапырыўшы ніжнюю, у дробных маршчынках, губу, стаў слухаць.

— Прарваліся? Абышлі?! Камунікацыі!..— ён пачырванеў, стаў нервова жаваць губамі. Кінуў непрыхільны позірк на карту, разасланую на стале, пашукаў на ёй быстрымі, неспакойнымі вачыма, мелькам прабег далёкім, чужаватым позіркам па твары Баумволя.

— Чорт пабяры! — ён напружана задумаўся.— Адыходзьце ў раён Чачэвічы — Чыгірынка. Правы бераг ракі Друць... Чачэвічы — Чыгірынка...

Ён кінуў трубку на вілку тэлефона. Не пазіраючы на генерала, выклікаў ад'ютанта, каротка запытаўся:

— Звязаліся?

— Сувязь яшчэ не адноўлена, пан генерал-фельдмаршал...

— Доўга мне яе чакаць?

Ад'ютант павёў плячыма, як бы гаворачы, што цяпер гэта невядома нават яму.

— Я чакаю,— сказаў фельдмаршал патрабавальна, нават пагрозна.

Калі ад'ютант выйшаў, ён павярнуўся да Баумволя. Вочы генерал-фельдмаршала пыталіся, што ад яго трэба, пыталіся і абыякава і натомлена, і ўпаўнаважаны не знайшоў, што сказаць. Яны маўчалі нейкі час. Гэтае маўчанне ішло не ад таго, што ім не было чаго казаць, а ад таго, што генерал-лейтэнант Баумволь і без слоў разумеў і стан, і настрой фельдмаршала, і ўвогуле становішча войск. Цішыня і спакой, што ўразілі спачатку тут, разумеў ён цяпер,— былі абманлівымі. Не, не ціха і не спакойна было ў камандуючага.

— Сувязь парушана? — запытаўся з прыкметным спачуваннем генерал-лейтэнант.

— Так.

Фельдмаршал амаль безуважна пашукаў вачыма штосьці на разасланай карце.

— Яны разразаюць нашы войскі, дробняць адзінае цела нашай групы на часткі. Яны разлічваюць, што такім спосабам, па частках, лягчэй будзе справіцца з намі... Наступленне ідзе адначасова з шасці напрамкаў. І на ўсіх напрамках — у іх вялікая перавага...

Фельдмаршал зірнуў на генерала, сочачы, як генерал адносіцца да яго слоў. Вочы ўпаўнаважанага былі закрыты халоднымі шкельцамі акуляраў.

— Салдаты не праяўляюць дастатковай упартасці ў абароне,— прамовіў Баумволь.— Ёсць адзнакі паяўлення нявер'я ў сябе...

— Толькі нямецкі салдат мог вытрымаць такі націск і не ўпасці духам,— нязгодна, сухавата адказаў фельдмаршал.— Нашы часці збераглі парадак, дысцыпліну. Гэта ў такіх акалічнасцях, дзе многія другія арміі немінуча загінулі б... Нельга не ўлічваць складанасць абстаноўкі.— Ён неспадзеўкі стомлена паведаміў: — Рускія прарваліся к Бабруйску.

— Калі?

— Сёння. Атакавалі. Але — адбіты.

Фельдмаршал апошнім словам, відаць, хацеў зрабіць сваё паведамленне не такім сумным, хацеў надаць яму выгляд абнадзейлівасці. Упаўнаважанага гэта не супакоіла.

— Бабруйск нельга здаваць ні ў якім разе! Мы не можам адступіць з Бабруйска!..

Генерал-лейтэнант узрушана падняўся. Ён глядзеў на фельдмаршала такімі вачыма, нібы лёс горада залежаў толькі ад камандуючага,— гэтыя вочы патрабавалі і чакалі.

Фельдмаршал згадзіўся:

— Бабруйск — ключ да ўсёй нашай бярэзінскай абароны...

— Калі страцім Бабруйск,— загаварыў зноў жорстка Баумволь,— мы паставім пад удар увесь бярэзінскі рубеж... Стаўка лічыць, генерал, што наша абарона па Бярэзіне дае нам вялікія шансы стрымаць ярасны націск рускіх, абяскровіць іх... Трэба толькі, каб нашы салдаты ўмацаваліся на Бярэзіне да падыходу рускіх. Рускія ж нярэдка ідуць наперадзе нас...

Фельдмаршал адчуў у гэтых словах папрок.

— Я клапачуся пра гэта.

Ён запытаўся, ці доўга намеран генерал-лейтэнант яшчэ прабыць на фронце, і генерал-лейтэнант пачуў у яго словах і сум і скрытую непрыязнасць, як яму здалося, за тое, што ён, Баумволь, можа паехаць у ціхую, ратоўную далеч.

— Я павінен азнаёміцца з падрыхтаванасцю нашай абароны на Бярэзіне, у Мінску. Акрамя таго, я маю даць некаторыя інструкцыі Готбергу... Аднак, дарагі генерал-фельдмаршал,— усміхнуўся ўпаўнаважаны,— я зусім не развітваюся з вамі. Я яшчэ магу вярнуцца да вас, калі гэта будзе патрэбна справе і фюрэру...

Развітваючыся, гаворачы гэта, генерал-лейтэнант не ўяўляў сабе, пры якіх акалічнасцях ён можа вярнуцца ў армію. Але ён вярнуўся, вярнуўся, каб убачыць, перажыць вялікую трагедыю.

## 3

У той дзень, калі генерал Баумволь развітваўся з камандуючым групы армій і кіраваў у Мінск, вызначыўся лёс маёра Вольфа.

Маёру далі часовае прызначэнне да палкоўніка Шульцэ, які кіраваў пабудовай абарончых умацаванняў у раёне Мінска.

Прызначэнне гэта маёру далі ў канцы рабочага дня, і явіцца да палкоўніка маёр Вольф змог толькі ў пачатку наступнага.

Калі ён увайшоў у кабінет свайго новага начальніка, палкоўнік штосьці заклапочана шукаў у стале. Ён неахвотна адарваўся ад гэтага занятку, рассеяна адказаў на прывітанне, амаль абыякава прабег вачыма прызначэнне.

Гэта быў яшчэ малады чалавек, гадоў сарака, рыхлым, цяжкім тварам.

— Вы фартыфікатар? — спытаў палкоўнік, не спыняючы шукаць у стале.

Маёр адказаў, што да арміі займаўся будаўніцтвам.

— А тут?

— Я камандаваў батальёнам, пан палкоўнік.

— Інжынерным?

— Не, пяхотным, пан палкоўнік.

— Так? — Палкоўнік зірнуў заклапочана. Раптам дзіўна спытаў: — Што, камандзіры пяхотных батальёнаў ужо непатрэбны на фронце?

Маёр трохі збянтэжыўся.

— Я са шпіталя, пан палкоўнік. Пасля ранення прызнаны годным толькі для работы ў тылавых часцях.

— А-а...— Палкоўнік рассеяна кіўнуў: зразумеў: — Вы можаце кіраваць салдатамі. Як камандзір.— Ён зірнуў вочы ў вочы, сказаў: — Вы позна прыбылі.

Маёр не зразумеў, што значыла гэтае «позна», ён чакаў, што палкоўнік растлумачыць думку. Але палкоўнік не палічыў патрэбным тлумачыць.

Ён нарэшце знайшоў тое, што шукаў: нейкую паперу. Паклаў у партфель. Пазваніў шафёру, загадаў падаць машыну. Стаў збірацца выходзіць.

— Я спяшаюся. Я павінен ехаць.— Гэтым ён, відаць, паказваў, што размова закончана.

Маёр ужо пакіраваў быў да дзвярэй, калі палкоўнік спыніў яго, прамовіў:

— Зрэшты — можаце паехаць і вы...

Маёру не спадабалася няўвага Шульцэ, але ён схаваў нездавальненне. Выпрастаўшыся, адразу ж адказаў, што гатовы следаваць за палкоўнікам.

Паслухмяна, хутка выйшаў за ім, па знаку яго рукі сеў на задняе скуранае сядзенне «мерсэдэс-бенца». Чакаў размовы, але палкоўнік не прамовіў ні слова больш.

Яны спыніліся каля будынка генеральнкамісарыята. Кагосьці чакалі. Паявіўся генерал у летнім плашчы, пры ім ішлі некалькі вайсковых, галоўным чынам эсэсаўцаў. Палкоўнік пачціва прывітаў генерала.

Шульцэ назваў маёра, аб'явіў яго як новапрызначанага свайго памочніка, спытаў дазволу суправаджаць іх. Вольф сустрэў уважлівы, пранізлівы позірк генерала.

Генерал стрымана кіўнуў галавой. Так на кароткі час выпадкова сышліся шляхі генерала Баумволя і амаль непрыкметнага пяхотнага маёра...

Нядобрае пачуццё да Шульцэ ў маёра памякчэла ад таго, што палкоўнік аб'явіў яго генералу як свайго памочніка, і ад таго, як упэўнена, п годнасцю трымаўся Шульцэ з высокім інспектарам.

Хутка машыны ўжо імчалі па вуліцах, усцяж якіх беглі нудныя, аднастайныя гарбы руін.

Генерал, яго ад'ютант і ахова ехалі ззаду.

Машыны мінулі мост над бруднай рэчкай, пыльную плошчу і між чорных драўляных халуп ускраіны выскачылі за горад. Палкоўнік, як і раней, быў нямы, высіўся наперадзе, побач шафёра, нерухома, прама, здавалася, увесь поўны быў разуменнем незвычайнага свайго значэння.

З шасэ збочылі на палявую дарогу, машыну пачало ківаць. Закруціўся пыл. Палкоўнік спыніў машыну, рушыў да машыны генерала. У «опель-адмірале» генерала праехаў наперад. «Мерсэдэс» пайшоў следам, у хмары пылу.

Спыніліся на пагорку ўскрай ельніку, за якім пачыналася поле, толькі дзе-нідзе засеянае, напалову зарослае пустазеллем.

У ельніку таіўся замаскаваны дот.

— Гэта нядрэнна,— стрымана сказаў генерал, агледзеўшы дот і пазіраючы ў амбразуру, за якой віднелася поле, кусты паводдаль.

Яны агледзелі яшчэ некалькі дотаў і дзотаў, хады злучэння. Паліла сонца, генерал зняў плашч, а Шульцэ ўвесь час выціраў хустачкай потны лоб, шыю. Але ішоў палкоўнік энергічна і быў захоплены справай.

Затрымаліся на пагорку, выдатным пагорку з шырокім аглядам. На вышыні ўсё было падрыхтавана, каб размясціць камандны пункт. Адсюль добра можна было агледзець сістэму абароны, і палкоўнік паказваў, якая яна прадуманая і дасканалая.

— Няма ні аднаго метра мёртвай прасторы. Кожны пункт пад скрыжаваным агнём з двух-трох кірункаў.

— Тут можна трымацца. Можна трымацца...— задуменна, нешта тоячы сваё, трывожнае, як бы пераконваючы сябе, і надзеяй сказаў генерал. З вышыні ён неспакойна глядзеў на пагоркі, на асмужаную далячынь.

— Аб гэты бастыён можна зламаць нават моцныя зубы,— запэўніў палкоўнік. Маёр Вольф, што крочыў сярод акружэння генерала, з усё большай павагай сачыў за сваім начальнікам: палкоўнік проста апаноўваў сваёй непахіснай, фанатычнай перакананасцю.

Баумволь, прыплюшчыўшы вочы, усё засяроджана і неспакойна глядзеў на блізкія і далёкія пагоркі, так, нібы бачыў тую бітву, якая павінна будзе тут разгарнуцца...

Шульцэ паказаў пляцоўкі, падрыхтаваныя для артылерыі. Яны былі таксама прадумана размешчаны, грунтоўна абсталяваны. На некалькіх, поблізу, праўда, яшчэ рупіліся салдаты, што маскіравалі нядаўна выкапаную зямлю травой і дзёрнам.

Генерал нездаволена сказаў:

— Позніцеся... Трэба спяшацца...

— Мы канчаем, пан генерал. За намі затрымкі не будзе.

Баумволь прыдзірліва праверыў, якога дыяметра кожная пляцоўка, адлегласць між іх, глыбіню раўкоў для разлікаў і многае іншае,— ён не выпускаў з-пад увагі, здавалася, ніякай дробязі...

— Калі рускія нават і прарвуцца сюды, ім прыйдзецца тут засесці,— пахваліў палкоўніка Вольф, калі яны вярталіся к машыне. Ні Баумволь, ні Шульцэ не

адказалі. Але маёр на няветлівасць Шульцэ не пакрыўдзіўся: ён пачынаў паважаць гэтага фанатыка-інжынера.

У Мінску яны агледзелі некалькі дотаў на ўзвышэнні, поблізу вялікага круглага будынка былога тэатра. Вышыня панавала над значнай часткай горада, якраз з усходняга боку. Агледзелі ўмацаванні на другой вышыні, за рэчкай, у самым цэнтры горада. Сярод гор бітага камення.

— Руіны вельмі зручныя для абароны...— гаварыў Шульцэ, паглядаючы ў амбразуру, праз якую ў змрок дота цадзілася святло.— Вялікая загана, што пытанне аб тым, як іх скарыстаць для абароны, мала вывучана... Я зрабіў у гэтай справе цэлы рад вельмі важных знаходак, якія маюць значэнне для ўсёй арміі. Я аб гэтым пішу вучоную працу...

Калі, правёўшы генерала і яго світу, яны вярнуліся ва ўпраўленне, палкоўнік Шульцэ явіўся перад маёрам як бы іншым чалавекам. Раптам кудысьці зніклі энергічнасць і бадзёрасць, палкоўнік уздымаўся ў будынак, стаяў за сталом у кабінеце стомлена, нявесела.

— Паабедайце і прыходзьце на працу,— прамовіў ён будзённа.

4

З гэтага дня маёр то прападаў цэлыя дні там, дзе капалі ўсё новыя траншэі ці цэментавалі доты, то ўдакладняў схемы абароны.

Толькі рэдкія гадзіны быў ён у горадзе.

Каля будынка гарадскога тэатра, што панура цямнеў на рагу цэнтральнага сквера, маёр нечакана спаткаў штурмбанфюрэра Рэйзе. Штурмбанфюрэр прывітаўся з ім, як сябра, запытаў, дзе ён прападае, чаму не відаць у «Афіцыргайме».

— А, мусіць, у Ані прападаеш? Яе спакуслівыя прынады, канечне, прыемней грубага мужчынскага сяброўства і п'янак...

Улавіўшы ў словах Рэйзе кпінку, маёр пачырванеў, але той як бы не заўважыў гэтага. Узяў Вольфа за локаць і павёў з сабою, гаворачы, што ўсё-ткі кеп-

ска адасабляцца, адрывацца ад мужчынскага таварыства.

Размаўляючы такім чынам з маёрам, Рэйзе падвёў яго да будынка, у якім да вайны была цэнтральная бібліятэка.

— Што гэта за сцяг? — перапыніўшы Рэйзе, кіўнуў угару Вольф.

Над паўкруглым выступам галоўнага ўвахода вісеў на дрэўку незнаёмы сцяг: чырвоная палоска пасярэдзіне была акаймавана з абодвух бакоў белымі.

— Што за сцяг? Дык ты, Вольф, не ведаеш!.. О, маёр, хіба можна не ведаць такіх рэчаў на гэтай зямлі. Гэта сцяг дзяржавы Вайсрутэнія. Ці па-руску — Белорус-сіа...

— Яна ўжо — дзяржава?

— Дзяржава.— Штурмбанфюрэр раптам штурхнуў яго ў спіну: — Не, відаць, ты павінен зараз пайсці са мной — нельга ж заставацца табе далей такім невукам у... нашых міжнародных справах.

Маёр паспрабаваў адгаварыцца, але Рэйзе, які наогул ніколі не меў звычкі далікатнічаць, павёў з сабою.

— Хадзем, дарагі. Трэба цікавіцца нашымі міжнароднымі справамі. Дзякуючы мне ты маеш магчымасць убачыць вельмі цікавую падзею. Надзвычайную падзею...

Хутка абодва сядзелі ў высокай, прасторнай зале з вялізнымі вокнамі, са сталом, прэзідыумам, трыбунай і нейкімі слухачамі.

Падзея, да якой далучылі маёра Вольфа, была сапраўды незвычайнай, «цікавай» у сваім гатунку. Тое, куды ён трапіў, было — растлумачыў штурмбанфюрэр — пасяджэнне «другога ўсебеларускага кангрэса», скліканага па ўказанню «генеральнакамісара ў Вайсрутэніі».

...«Кангрэс», сагнаны ў той час, калі савецкія войскі падыходзілі да Мінска, павінен быў абвясціць «незалежную» беларускую рэспубліку.

Спехам складваючы чамаданы, каб бегчы, такія ўзорна-пунктуальныя ў сваёй дзейнасці, гітлераўскія палітыкі раптам хапіліся, што да гэтай пары не паклапаціліся пра «самастойнасць» захопленай зямлі. Нельга ж, на самой справе, было пакідаць зямлю Саве-

там «несамастойнай». Запознены гэты «клопат» з-за ранейшай прамашкі давялося выяўляць у непаважнай хапатлівасці. На «кангрэс» давялося сабіраць, хто трапіцца пад руку, усякія пакідкі, паліцаяў і розных іншых прыслужнікаў. Давялося назваць усіх «дэлегатамі», заплюшчыўшы вочы на тое, што дэлегатаў гэтых ніхто не выбіраў...

Амаль адразу пасля таго, як яны селі, да іх, туляча галаву ў плечы, нячутна, хадою кошкі, падышоў з пярэдняга раду рухавы чалавечак, спосабам паводзіць сябе вельмі падобны да афіцыянта.

— Рад бачыць вас, гер штурмбанфюрэр,— схіліўся ён. Ён сачыў за тварам Рэйзе пільна, уважліва і падкрэслена пачціва.

Пан штурмбанфюрэр адкрыта выказваў нездавальненне.

— Чаму пуста ў зале, пан Кухта?

Пан Кухта мімаволі азірнуўся, хоць ведаў добра: зала сапраўды пустая. Амаль зусім пустая, вялізная, недарэчна вялізная зала. Скіраваўшы позірк да штурмбанфюрэра, што чакаў адказу, пан Кухта не здолеў адказаць нічога. Шукаў і не змог знайсці адказ на цяжкое пытанне.

— Мы паслалі многа запрашальных білетаў, гер штурмбанфюрэр. Але госці... прыходзяць неакуратна...

— Але тут, відаць, не ўсе і дэлегаты.

— Так, гер штурмбанфюрэр, на жаль, дэлегаты часткова таксама. Сярод дэлегатаў часткова таксама... хваляванне...

— Якое гэта хваляванне? — Штурмбанфюрэр Рэйзе выказваў крайняе нездавальненне.

У голасе яго нібы чулася зняважлівае: «што вы вярзеце!» Была як бы і пагарда нетактоўнасцю, глупствам пана Кухты. Пан Кухта хацеў, мабыць, паправіцца, растлумачыць, але пан штурмбанфюрэр нецярплівым рухам рукі перапыніў яго, загадаў вярнуцца на месца. Пан Кухта адразу ж асцярожнай хадою пакіраваў назад, а штурмбанфюрэр Рэйзе, слухаючы разам словы нейкага прамоўцы, паведаміў маёру, што быў— адзін з памочнікаў прэзідэнта...

Прамоўца — пажылы, азызлы — старанна, з ненатуральным пафасам вяшчаў пра тое, што беларуская зямля перажывае вялікі гістарычны момант. Не адводзячы вачэй ад трыбуны, ледзь схіліўшыся да маёра, штурмбанфюрэр пачаў з пятага на дзесятае перакладаць маёру.

Прамоўца казаў, што яму «выпала шчасце» на «зары жыцця» браць удзел у першай дзеі нараджэння «Беларускай дзяржавы»,— ён быў тады яшчэ маладым, поўным надзей чалавекам,— на першым кангрэсе ў «сумным снежні» семнаццатага года. І вось толькі цяпер, праз дваццаць шэсць год,— казаў прамоўца,— выпала яму і яго калегам шчасце сабрацца на свой другі кангрэс, каб ажыццявіць надзеі маладосці, прадоўжыць і афарміць тое, што не ўдалося тады. Нарэшце прыйшоў жаданы час, Германія і фюрэр аб'яўляюць Беларусь «самастойнай» дзяржавай і прызнаюць яе «незалежнасць»...

Словы гэтыя мёртва гучалі ў пустой зале, якая цішынёй і холадам нагадвала цяпер склеп з мерцвякамі...

— Пан Астроўкі, прэзідэнт,— Рэйзе кіўнуў на сцэну, дзе за сталом прэзідыума, як толькі скончыў прамоўца гаварыць, узняўся цяжкі пануры чалавек.

«Прэзідэнт» расчапіў сціснутыя губы, пазіраючы праз акуляры ў залу, загаварыў глуха, важка і цвёрда. Ледзь ён пачаў, Рэйзе насцярожыўся, стаў услухоўвацца з пільнай увагай. Ужо затым ён схамянуўся, узяўся перакладаць маёру, што кажа пан «прэзідэнт».

Астроўскі папярэдзіў, што хоча зараз сказаць толькі некалькі слоў, спецыяльна да дэлегатаў «кангрэса»...

— За апошні час сярод вас, шаноўныя супольнікі, якія сядзяць тут, пашыраецца трывога, якую пачалі распускаць бальшавіцкія агенты...— І — як ні сорамна мне гэта казаць — тыя-сія з вас падаліся ашуканцкім камуністыцкім плёткам: тыя-сія збаяліся і нават перасталі прыходзіць сюды... Я ўпаўнаважан, шаноўныя спадарове, сказаць, што ўсё, што даходзіць да вас ад бальшавіцкіх падпявалаў, ёсць чыстая мана. Праўда, расейцы паспрабавалі наступаць, але ў мяне ёсць дакладныя весткі, якія атрыманы ад вайсковага камандавання,— што нашы нямецкія заступнікі адбілі ўсе іх спробы. Бальшавіцкія атакі паўсюды, на ўсім

фронце заламаліся... маскоўцы пабеглі назад! — з уздымам абвясціў ён, чакаючы воплескаў.

Зала запляскала вяла, недаверліва.

— Не зважаючы на старанні бальшавіцкіх агентаў, мы павінны працаваць, як і раней, спакойна і ўпэўнена. Мы павінны паказаць, што ў гэту хвілю мы поўныя ўдзячнасці да вялікай германскай улады і да вялікага фюрэра Адольфа Гітлера, за іх давернасць да нас і клопат. І што мы на гэту давернасць і клопат адкажам сваёй вернасцю і годнымі дзеямі...

На гэты конт нямала хто з тых, што яшчэ сядзелі ў зале, падобна было, меў іншую думку. Штурмбанфюрэр у трывожным маўчанні нібы пачуў: як тут спакойна сядзець, калі ўночы ў Мінску чуваць водгулле франтавых гармат?

Пана Рэйзе апанавалі пагарда і злосць: пацукі, гатовы хутчэй кінуць усё ды пашыцца ў норы, абы толькі выратаваць сваю скуру... Потым ён, прыплюшчыўшы вочы, пачаў перабіраць у думках гісторыю «дзейнасці» Рады. І тады яго ўзлаванасць набыла іншы характар: пан штурмбанфюрэр думаў пра тых, хто з самага пачатку, як узнікла гэтае стварэнне, не падтрымліваў, падрываў яго. Іх было многа — усе тыя, каго яна павінна была б аблытаць, звязаць, ёю пагарджалі...

Як ні прыкра, даводзілася сам-насам прызнаваць: няўдалаю аказалася гэта прыдумка.

Узрушаны штурмбанфюрэр пачаў быў разважаць, якія пралікі перашкодзілі поспеху гэтага несумненна мэтазгоднага для рэйха мерапрыемства, але тут яго перапынілі. Ад дзвярэй да Рэйзе прабраўся эсэсавец-афіцэр і, дзелавіта схіліўшыся да штурмбанфюрэра, ціха папрасіў выйсці ў калідор. Штурмбанфюрэр, а следам за ім і маёр Вольф узняліся. У калідоры эсэсавец, выпрастаўшыся, з афіцыйнай строгасцю, якая паказвала асобую важнасць таго, што прывяло сюды, паведаміў Рэйзе, што яго выклікае генералькамісар групенфюрэр фон Готберг.

Штурмбанфюрэр Рэйзе, прадчуваючы, што яго чакае нешта вельмі сур'ёзнае, неадкладна рушыў да выхада. Маёр пакрочыў услед.

Калі спусціліся па ступеньках і выйшлі на вуліцу, маёр нечакана запытаў напрасткі:

— Для чаго гэта камедыя?

— Якая? — не зразумеў штурмбанфюрэр. Ён яўна ўжо быў далёка ад таго, што бачыў.— А-а... Яна, гэтая камедыя, дарагі маёр,— у голасе штурмбанфюрэра ў момант успыхнула раздражненне: — як я здагадваюся, пачата таму, што вашы доблесныя войскі ўжо не пад Масквой, і нават не пад Смаленскам...

Ён сказаў гэта так рэзка, што маёр зніякавеў. Ды і гнеў справядлівы быў: не было як запярэчыць.

Маўчанне маёра крыху прымірыла штурмбанфюрэра.

— Я табе, дарагі маёр,— загаварыў штурмбанфюрэр стрымана, але жорстка,— параіў бы ў далейшым больш сур'ёзна, гэта значыць: больш прадумана — фармуліраваць такія думкі. Гэтай, як ты кажаш, каме-дыяй кіруе сам генералькамісар. Па ўказанню Берліна...

— Можа быць, я сапраўды не разумею,— прамовіў маёр няёмка. Ён павёў позіркам: афіцэр СС, што явіўся па Рэйзе, стаяў непадалёк. Відаць, чуў усё.

— Так, ты сляпы. Ты многага не разумееш,— рэзка прамовіў Рэйзе.

Яму не хацелася больш гаварыць з гэтым, як ён лічыў, недалёкім, тупаватым пехацінцам.

## 5

Рэйзе пакрочыў да пад'езда вялізнага шасціпавярховага будынка. Над уваходнымі дзвярамі дома ўжо некалькі месяцаў шырока — на паўсцяны — злавесна чарнела: «Generalkomissariat für Weissruthenia».

Цагляная, барвова-чырвоная сцяна дома была абляпана бруднымі пісягамі камуфляжу; гэты колер — крыві і бруду — вельмі падыходзіў да ўстановы, якая кіравала ўсімі крывавымі справамі на заняволенай Беларусі.

Адразу пры ўваходзе ў Рэйзе праверылі дакументы. Ён мінуў тры пасты аховы, дзе тройчы запатрабавалі пасведчанне, тройчы абмацалі вачыма яго зацягнутую ў ваеннае сукно прамую постаць.

Такая насцярожанасць да яго, якога добра ведалі, не абражала Рэйзе: ён ведаў загад Готберга — правя-

раць усіх. Пасля забойства Кубэ яго заступнік усюды асцерагаўся партызан.

У прыёмнай Готберга сядзелі два генералы паліцыі. Калі ўвайшоў туды Рэйзе, абодва генералы ўзняліся і прывітальна ўскінулі ўперад рукі. Хайль Гітлер. Штурмбанфюрэр таксама ўскінуў руку, адказаў ім.

Быў тут і памочнік Готберга, добры знаёмы Рэйзе. Штурмбанфюрэр адразу адзначыў, што сёння памочнік сустрэў без звычайнай таварыскасці. Ледзь убачыў, устаў і пайшоў дакладваць групенфюрэру. І халоднасць, з якой сустрэў ён, і хуткасць, з якой пайшоў дакладваць, насцеражылі Рэйзе.

Памочнік хутка вярнуўся і з той жа афіцыйнай халоднасцю сказаў, што пан групенфюрэр зараз прыме.

Готберг прыняў Рэйзе вельмі хутка, незвычайна хутка, і з гэтага штурмбанфюрэр таксама зрабіў вывад: відаць, будзе сур'ёзная справа.

Готберг, які толькі што адпусціў начальніка паліцыі, падняў на штурмбанфюрэра халодны позірк і запытаўся, чаму той прымушае доўга чакаць, калі яго клічуць. Рэйзе, мімаволі трапечучы, адчуваючы вінаватасць, сказаў, што быў у Радзе.

— Я даручаю вам важную справу,— суха сказаў групенфюрэр.— Вы можаце або атрымаць новы чын, або згубіць усё.

Рэйзе гатоўна выструніўся.

— Я чакаю загаду, мой групенфюрэр!

— Справа патрабуе хуткасці, энергіі і — таленту. Я выбраў вас...

— Я дзякую вам, мой групенфюрэр.

Групенфюрэр фон Готберг хвіліну маўчаў, а калі загаварыў зноў, у голасе яго Рэйзе адчуў стрыманую ярасць і рашучасць.

— Армія адступае!.. Не, яна — бяжыць! Яна ганебна ўцякае, як статак! Нават не стрымліваючы наступлення камуністаў... Фронт коціцца сюды... Бальшавікі рвуцца да Мінска. Яны хочуць вы-ра-таваць Мінск!

Ён кінуў позірк, поўны нянавісці, у бок акна, за якім зелянелі клёны і вязы сквера.

— Мы ім можам пакінуць яго. Так, пакінуць!.. Але яны, уступіўшы сюды, адчуюць не радасць, не шчас-

це, а страх, жах. Яны не ўбачаць тут ніводнага дома. Мы зробім тут дзікую пустыню, пустыню смерці і крыві! Іх ніхто не выйдзе сустракаць, ніхто: ні адной душы тут не застанецца!..

У Рэйзе, хоць ён меў натуру стрыманую, ад гэтых слоў зацяло дых: які моцны, жорсткі і рашучы чалавек, якія вялікія планы — увесь горад, сотню тысяч людзей...

— Рускія спяшаюцца, пан штурмбанфюрэр, яны думаюць апярэдзіць нас. Але ім гэта не ўдасца!.. Я зараз жа пачынаю выконваць сваю акцыю, з якой і звязана заданне вам. Вы будзеце сачыць за лагерамі — яны павінны як мага хутчэй ачышчацца... Як мага хутчэй!

— Яволь, мой групенфюрэр. Як мага хутчэй!

— Да таго часу, калі мы пойдзем адсюль, усё павінна быць гатова,— тонам загаду растлумачыў Готберг.— Ні аднаго зняволенага не павінна заставацца ў лагерах.

— Яволь, мой групенфюрэр.

— Ні аднаго,— вылучыў генералькамісар. Важкі, бязлітасны позірк, якім ён глядзеў, таксама казаў, як гэтае патрабаванне важнае.— Акрамя таго,— тым жа тонам загаварыў генералькамісар пасля паўзы,— не павінна астацца ніякіх слядоў. Ніякіх слядоў,— падкрэсліў ён.

Вочы Готберга глядзелі таксама ж важка і таксама патрабавалі.

— Яволь. Ніякіх слядоў, мой групенфюрэр!

Адчуўшы, што штурмбанфюрэр галоўную задачу зразумеў, генералькамісар пачаў даваць практычныя парады.

## 6

Рэйзе яшчэ з будынка камісарыята выклікаў машыну. О, ён умеў, дзе трэба, быць і хуткім і рашучым.

Праз якую-небудзь чвэрць гадзіны яго машына падляцела да будынка камендатуры лагера каля вёскі Дразды.

Рэйзе яшчэ на хаду выскачыў з машыны, загадаў

зараз жа паклікаць шэфа лагера. Шэфа, аднак, у камендатуры не было, і некалькі салдат з аховы пабеглі шукаць яго.

Шэф з'явіўся расчырванелы, млявы, з сытай санлівасцю ў вачах: яго знайшлі ў сталовай.

— Дзе вы прападаеце? — хмурна і грозна спаткаў яго Рэйзе. Не чакаючы адказу, штурмбанфюрэр скамандаваў: — Хадзем!

Хуткай, рашучай хадой Рэйзе падаўся ў лагер. Выгляд у яго быў такі, што вартавы ля ўваходнай будкі не наважыўся спытаць пропуск, адразу ўзяў «наварту». Штурмбанфюрэр, не зірнуўшы на яго, адно казырнуў для прыліку.

Шырока ступаючы, строгі, непадступны, штурмбанфюрэр цераз запылены, вытаптаны пляц рушыў проста да бліжэйшага, доўгага і нізкага, барака. Увайшоў у яго, не прыпыняючыся, пракрочыў між двух радоў пустых, цесна збітых нар. Застукаў ботамі ў другі барак, у якім сядзела некалькі схуднелых, зняможаных хворых. Не сцішваючы хады, крочыў і крочыў ён па бараках, па дарозе, сярод людзей, што займаліся рознай работай, сядзелі і ляжалі ля баракаў. Ён нават чамусьці палічыў патрэбным зазірнуць на кухню.

Штурмбанфюрэр лавіў на сабе запытальныя позіркі шэфа, што спяшаўся пачціва крыху ззаду, але маўчаў, хаваў і прычыну свайго візіту і свае думкі. Шэф, якога маўчанне штурмбанфюрэра трывожыла ўсё больш, нарэшце не вытрываў, паскардзіўся, што каманда ў лагеры малаватая, але Рэйзе не адказаў яму.

Зрабіўшы агляд лагера, штурмбанфюрэр вярнуўся да будынка камендатуры, падаўся ў пакой шэфа і, калі той зачыніў за сабой дзверы, пазіраючы пільна ў вочы кругламу, потнаму шэфу, нелагодна спытаў, колькі яшчэ засталося ў лагеры.

Твар шэфа засвяціўся, з гатоўнасцю і надзеяй на разуменне шэф сказаў лічбу.

— Вы доўга яшчэ збіраецеся валаводзіцца? — прамовіў штурмбанфюрэр.

У голасе яго чутны былі злавесныя ноткі. На твар шэфа, што льсніўся тлушчам, нібы лёг цень. На лбе заблішчаў пот.

— Гер штурмбанфюрэр, каманда цэлыя ночы працуе! — Вочы шэфа малілі аб літасці.

Выцершы хустачкай лоб, шыю, шэф хацеў яшчэ штосьці сказаць у апраўданне, але Рэйзе перабіў:

— Вы працуеце вяла, марудна. Дзіўна марудна,— дадаў штурмбанфюрэр з нейкім пагрозным намёкам.

— Але, пан штурмбанфюрэр...

— Да прыходу рускіх вы не ўправіцеся ачысціць лагер нават напалову,— тонам суддзі, што выказвае ўжо бясспрэчнае, цяжкае абвінавачанне, прамовіў штурмбанфюрэр.

Выціраючы лоб і шыю, шэф, хапаючыся, з адчаем апраўдваўся. Але штурмбанфюрэр толькі нездаволена моршчыўся. Не хацеў верыць і слухаць.

Шэф змоўк. Настала цяжкае маўчанне. Штурмбанфюрэр нецярпліва пабарабаніў па стале. Паглядзеў на шэфа так пранізліва, жорстка, што таму стала не па сабе. Лоб зноў заблішчаў потам.

— Можа быць,— загаварыў злавесна штурмбанфюрэр,— вы рашылі перадаць іх... рускім?

Вочы шэфа на момант ашклянелі.

— О, пан штурмбанфюрэр! Як можна так жартаваць! — выціснуў ён.

Начальнік лагера выцер лоб дрыготкаю рукою.

Штурмбанфюрэр ▪ уцехаю назіраў за тым, як у вачах шэфа гарыць спалох, як дрыжыць яго рука. Наганяючы на шэфа страх, штурмбанфюрэр кіраваўся найбольш меркаваннямі справы: падагрэць шэфа, каб рабіў хутчэй. Але чыніў гэта Рэйзе і з ахвоты: ён употай ганарыўся здольнасцю сваёй наганяць страх.

— Я вам даю магчымасць даказаць, што мае падазрэнні не маюць падстаў,— жорстка прамовіў ён. Даючы надзею, штурмбанфюрэр разам і паказваў ясна: літасці не будзе: — Усё будзе залежыць ад таго, як вы справіцеся з далейшым.

— Пан штурмбанфюрэр, я гатовы зрабіць усё, што будзе загадана.

— За двое сутак трэба ўсё ачысціць.

Вочкі пад ілбом, што льсніўся тлушчам і потам, аддана абяцалі: усё будзе зроблена.

— Праз двое сутак у лагеры павінна быць пуста.

Шэф лагера пакляўся, што будзе пуста...

Пасля лагера ля Драздоў штурмбанфюрэр наведаў лагер, які размяшчаўся ў горадзе, на вуліцы Шыро-

кай. Адсюль, не заязджаючы ў сталовую паабедаць, ён рушыў на Магілёўскае шасэ. Меў намер да вечара пабыць яшчэ ў лагеры ў Трасцянцы, самым вялікім лагеры.

Тут дзейнасць Рэйзе мела крыху іншы характар. Ён правярыў, як працуюць печы, у якіх паляць трупы,— ніякіх слядоў не павінна заставацца.

Зняўшы пальчаткі, штурмбанфюрэр браў з цёплых пячэй попел і, расцярушваючы яго, разглядаў...

У адным хляве яшчэ дымелі трупы. Штурмбанфюрэр распарадзіўся працаваць без перадыху, усе ночы.

— Мы маем мала часу! Кожная гадзіна, якая марна прапала,— злачынства! Ні адной гадзіны прастою!..

У службовым бараку, які быў недалёка ад хлявоў, Рэйзе накармілі. Было ўжо блізка да вечара: на захадзе, за бярозамі, палала барвовае сонечнае зарыва.

## РАЗДЗЕЛ VI

### 1

Клава апрытомнела ў нейкай цемнаватай каморцы. Яна ляжала на ложку, накрытая да шыі коўдраю.

Калі Клава расплюшчыла вочы, яна ўбачыла перад сабою незнаёмую жанчыну,— перш за ўсё маршчыністыя рукі, якія папраўлялі падушку пад яе галавой,— старую, выцвілую кофту. Клава крыху павярнула галаву: у жанчыны з-пад хусткі выбілася пасма цёмнарусых, з сівізною, валасоў.

— Прачнулася, дачушка!.. — прамовіла пяшчотна тая, нахіліўшы галаву над дзяўчынаю, і дакранулася мяккаю рукою да Клавінага лба.— Не бойся, гаротніца. Мы свае...

Клава не баялася: яна цяпер нічога не баялася, была абыякавая да ўсяго. Нейкі няцямны позірк яе вачэй безуважна прайшоў па вопратцы жанчыны, утаропіўся ў бярвенні сцяны, на якой блізка вісела амаль пустая торба.

Жанчына павярнула Клаву на спіну. Клавін позірк на хвіліну прыпыніўся на маленькім акенцы, за якім

віднелася ціхае шэра-блакітнае неба. Набліжаўся вечар. Блакітны водбліск неба на міг успыхнуў у дзявочых вачах і згас.

Прачнулася яна ўжо ўраніцу. На рамцы і вушаку маленькага акенца цяпер ясна ружавела сонца, а ў куточку шыбкі звінела муха.

Дзяўчына ад яркага, прамяністага святла прыплюшчыла вочы, прыслухалася да звону мухі,— гэты гук здаўся ёй радаснай музыкай, і Клава, не варушачыся, нейкі час слухала яго. Калі ж з намаганнем павярнула галаву і ўбачыла на сцяне сонечны зайчык, шэрыя шчокі яе нібы пояснелі, а поўныя, без крывінкі губы кранула нясмелая ўсмешка.

Але ўсмешка хутка занямела, і твар спахмурнеў. Перастаўшы заўважаць усё вакол, яна доўга ляжала нерухома з выразам цяжкай засяроджанасці. Ажылая памяць раптам пачала вяртаць з забыцця разрозненыя з'явы перажытага. Спачатку гэта былі бязладныя гукі, разарваныя малюнкі, якія, аднак, абуджалі, трывожылі яе, прасвятлялі памяць. Потым, страшачыся, халадзеючы, яна стала згадваць апошняе світанне. Тады яе ўзяў такі жах, што яна хутчэй расплюшчыла вочы, каб адагнаць прывіды-ўспаміны. Няўжо ўсё гэта праўда было?

Сэрца халадзела, нямела, калі яна падумала: а што, калі тое зноў вернецца?! Гэта яе так узрушыла, напоўніла такім неспакоем, што зусім абудзіла Клаву, вярнула да жыцця. Тады ўпершыню затрывожыла яе пытанне: дзе яна?

Як яна сюды трапіла?

Яна прыслухалася, нібы чакаючы, што нехта адкажа. Пустая каморка маўчала. Гэтая маўклівасць не толькі не палохала, а спакваля супакойвала знясіленую дзяўчыну.

Яна была амаль зусім спакойнаю, калі дзверы ціха расчыніліся і ўвайшла жанчына. Жанчына была тая ж, якую яна бачыла ўчора. Але Клава не пазнала яе ці, можа, не помніла ўчарашняга. Зірнула насустрач ёй насцярожана і чакаючы.

— Прачнулася, дачушка? — дайшоў да Клавы голас, пяшчотны і спачувальны.

Клаве здалося, быццам яна ўжо недзе чула гэты голас, але дзе — не магла прыгадаць. Ён будзіў у Кла-

вы няясны ўспамін пра штосьці вельмі шчаслівае. Ах, вось дзе яна чула: так калісьці гаварыла маці, калі будзіла ісці ў школу...

Жанчына, як бы песцячы яе словамі, сказала з палёгкай:

— Я ўжо думала, што ты і не прачнешся... Баялася я вельмі за цябе, ой, як баялася... Такая ты кволая была... А ты вось, глядзі,— ажыла! Ажыла, мая ластаўка, гаротніца мая!..

## 2

На другі дзень жанчына села каля Клавы на ложак, разгаварылася.

Яна расказала, як знайшла Клаву ў тую раніцу ў жыце, схавала, а ўвечары прынесла дамоў. Потым пачала бедаваць пра сваё гора, пра тое, што жыве адна, баіцца дужа: дачку Зосю і сына малога, Паўліка, забралі ў Германію. Ёй прыйшлі адтуль тры кароценькія, з прытоенымі намёкамі лісты.

Яна прынесла гэтыя лісты Клаве, пажоўклыя, пацёртыя на загінках, і, калі тая стала моўчкі, аднымі вачыма, чытаць, тлумачыла:

— Пішуць: «Жывецца нам тут вельмі добра, аж хочацца скакаць, як удава Аляксеіха». А гэтая Аляксеіха скочыла летась у раку, утапілася! Знайшлі яе на другі дзень у чароце, каля «Гала»,— кіламетры чатыры адсюль. Каваль Сямён знайшоў... Яшчэ і жанчына была маладая. Не вытрымала, гаротніца, бяды: сына яе Пятра паліцаі павесілі. Партызанам быў яе хлопец, ну і, вядома, калі-нікалі заходзіў у сяло, а паліцаі неяк падсачылі яго ды і схапілі... А то яшчэ, як там? — «Уся надзея на нашага бацьку ды яго таварышаў». То ж ба на Чырвоную Армію, бо іх бацька ў арміі,— яшчэ ў першы год пайшоў...

Яна гэтыя лісты ведала ўжо, мусіць, на памяць.

Праз дзень Клава не ўтрывала, паспрабавала падняцца з ложка. Яна скінула з сябе коўдру і, перасільваючы нязвыклую слабасць ва ўсім целе, села на ложку, спусціла ногі.

Ёй неспадзявана вельмі захацелася пахадзіць! Яна спусціла ногі ніжэй, але, як толькі Клава ступіла на

падлогу, перад вачыма яе ўсё адразу захісталася, паплыло, аслабелыя ногі самі сабою падагнуліся. Яна ўпала.

З сянец, пачуўшы стук, трывожна ўбегла Кацярына. Яна спалохалася, убачыўшы, што дзяўчына ляжыць на падлозе, спрабуючы падняцца.

— Што з табой, дачушка? Як гэта ты ўпала, гаротніца? Ты ўставала? Чаму ты ўставала?

— Хацелася пахадзіць...

— Мала што хацелася,— табе няможна яшчэ гэтага!.. Трэба ляжаць, Клаўка! Ляжаць спакойна і не думаць ні пра што, калі хочаш паправіцца хутчэй.

Клава няўпэўнена абаперлася рукой аб падлогу і села. Кацярына, узяўшы дзяўчыну пад рукі, дапамагла ёй устаць. Падняўшыся, трымаючыся за плячо Кацярыны, Клава прайшла некалькі крокаў, потым нечакана папрасілася:

— А цяпер я адна паспрабую...

— Няможна, Клаўка. Не трэба высільвацца.

— Я трошкі! Зусім трошкі!..

Яна зняла сваю руку з пляча цёткі Кацярыны, ступіла яшчэ тры крокі, няцвёрда, хістаючыся, як травінка ад ветру. Спынілася каля акенца, якое было на вышыні яе вачэй, і, абапершыся аб сцяну, пачала ўзрушана пазіраць на двор. Убачыла куст бэзу, дарожку, акаймаваную зялёнаю-зялёнаю травою, далей — учарнелы зруб калодзежа; вочап ёй быў відаць толькі да сярэдзіны,— па траве цягнуўся даўгаваты цень ад яго. За калодзежам расло некалькі маладых яблынь...

— Ну, хопіць, хопіць ужо, Клаўка. Не высільвайся...

У Клавы перад вачыма зноў пачынала ўсё плыць, і, каб Кацярына не падтрымлівала яе, Клава ўпала б у другі раз. Абняўшы дзяўчыну, Кацярына давяла яе да ложка і накрыла коўдраю.

Клава, пазіраючы ў столь, задуменна слухала, як недзе ўгары нясціхна шчабечуць, капышацца ластаўкі.

Пасля перажытага яна прыкметна змянілася. Вясёлая, непаседлівая, гаваркая калісьці, Клава цяпер цэлымі гадзінамі ціха ляжала, думала і думала пра штосьці сваё, толькі ёй вядомае. На запытанні адказвала яна коратка і неахвотна; рухі яе, раней хуткія, парывістыя, сталі стрыманымі, нават павольнымі. Ней-

кі новы выраз з'явіўся і на яе твары, каля рота не сыходзілі дзве строгія складкі.

Увечары, праходзячы паўз каморку, цётка Кацярына пачула, як Клава хутка і аднастайна, звяртаючыся да кагосьці, гаварыла:

— Ты ляжы ціха... Моцна яны пабілі цябе!.. Але ты, Аленка, не паддавайся,— далей Клавін голас пацішэў, перайшоў у неразборлівы шэпт. Неўзабаве яна загаварыла зноў галасней: — Мяне ўжо чатыры разы цягалі, пячонкі, здаецца, адбілі, а я нічога! Не здаюся!

Яна дзіўна, нядобра засмяялася. Той смех яе быў падобны на стогн. Калі Кацярына слухала гэта, сэрца яе балела ад жалю, ёй хацелася спыніць страшнае трызненне, але яна шкадавала будзіць спакутаванае дзіця.

— Ты першы раз? Калі цябе ўкінулі сюды? Учора?.. А я тут ужо цэлых пяць дзён...— Потым загаварыла гнеўна: — Эх ты, атопак фашысцкі! Думаеш, баюся? Бі, бі, вылюдак!.. спяшайся!.. Нядоўга яшчэ засталося!.. Бі, бі, гад!..— і ўслед за гэтым лагодней: — Тут на мяне дзівяцца — кажуць, шчаслівы характар у мяне. Нібы мне менш як другім баліць... Проста я стараюся прыцішыць, адолець боль! — Клава зноў засмяялася.

Раптам з каморкі пачуўся прыдушаны, жахлівы стогн. Цётка Кацярына не магла больш трываць,— ірванула дзверы і падбегла да ложка. Схіліўшыся над дзяўчынай, Кацярына ўбачыла, што тая ўжо не спіць.

— Што з табой, пакутніца?.. Што, дачушка мая?

— Нічога... Рознае глупства чаўпецца. Прыснілася, нібы «Сонны» мяне б'е — наглядчык такі быў...

Цётка Кацярына дакранулася да Клавінага твару,— ён быў халодны і запатнелы...

— Набалела, ластаўка мая... Супакоіцца б табе трэба...

Жанчына, вобмацкам паправіўшы на Клаве коўдру, заклапочана затупала з каморкі ў хату. Адтуль прынесла шклянку з нейкім настоем:

— Выпі, дачушка,— гэта добра супакойвае. Я, калі ператрывожуся, заўсёды п'ю. Яно нібы трошкі непрыемнае, але ж лякарствы ўсе, пэўна, нясмачныя...

Клава выпіла. Цётка Кацярына да світання не адыходзіла ад Клавы, ціха размаўляла з ёю. Ужо калі

ў акенцы пачало спакваля шарэць, Клава нарэшце заснула, не даслухаўшы да канца нейкага апавядання.

## 3

Дзень адышоў. Неба ў пройме акна пазелянела, потым паступова пачарнела. Запалілася электрычная лямпачка.

Ноч цягнулася павольней. На падлозе драмалі, дзенідзе перагаворваліся людзі, поблізу Ніны трызніла і стагнала жанчына, якую гестапаўцы прывезлі з «апрацоўкі».

— Хутка прыйдуць зноў — «адпраўляць у дарогу»...— сказала Красуцкая.

Так, хутка прыйдуць браць: або ў лагер, або ў Трасцянец. Яны з'яўляюцца сюды звычайна ў гэты час.

— Дык не забудзьце ўгавор,— зашаптала Ніна Красуцкай.— Калі вы застанецеся жыць, раскажыце пра мяне Аляксею. Знайдзіце яго і раскажыце ўсё. І Тураўца знайдзіце,— ён будзе, мусіць, у Мінску. Скажыце, што я не ашукала яго... А калі мне пашанцуе... калі я застануся, я абяцаю вам...

— Добра, Ніна... Раскажы маім хлопцам, як я тут гаравала. Як гэтыя вылюдкі цягнулі з мяне жылы... Сэрца маё чуе, што ты выратуешся.

— Я не трачу надзеі! Але ўсяк можа быць... Вы тады толькі не гаварыце Аляксею жаласных слоў. Скажыце, што яна — я, значыцца,— была спакойная... Я, бачыце, такая і ёсць: спакойная. Я не баюся!.. Вы чуеце — не баюся!..

Ёй дзіўна хацелася гаварыць. Ці то ад таго, што маўчала доўга, ці ад таго, што не хацела заставацца сам-насам з думкамі. З тым страшным, што адчувала побач і чаго ў душы баялася. Што гнала ад сябе.

І таксама, можа, таму, што разумела: яшчэ трохі і расплачацца. Аддасца адчаю, безнадзейнасці. Пачне дачасна, доўга паміраць...

— Шкада вось дачкі, што застанецца без маці... Цяжка будзе ёй, мусіць... Мама старая ўжо... Хоць бы з Аляксеем было ўсё добра... Баюся за яе...— Яна сціхла заклапочана. Ледзь не заплакала, але адужала ся-

бе.— Я такая радая, што яна ёсць, дачушка мая!.. Я вось магу... не вярнуцца, а яна будзе!.. Мая крывінка, мая ўцеха!.. Калі б вы бачылі, якая яна!..— Ніна ўсміхнулася стрымана, горка. Зноў сціхла, зірнула трывожна: — Яна будзе помніць мяне? Праўда?

— Пра што кажаш! Ды хто ж, Нінка, можа забыць маці!

Успаміны пра дачку разварэдзілі самае чулае ў душы Ніны. Адчувала, што ў яе ўвесь час накіпаюць слёзы. Але яна стрымлівалася. Вось-вось, здаецца, заплача, але не, адольвала горыч, боль. Прыкусіўшы вусны, сціснуўшыся ўся, з пацямнелымі, анямелымі ад пакуты вачыма, сядзела адасоблена, як бы не бачачы нічога навокал.

І ўсё ж не вытрывала: упала на падлогу тварам і зарыдала — моўчкі, адчайна. Доўга, горка рыдала. Потым доўга ляжала ціха, нерухома, нібы стомленая, бяссільная. І калі, абцёршы твар, узнялася, доўга маўчала, упяўшы кудысьці быццам асляплыя вочы.

— Скажыце Аляксею,— сказала горача, не гледзячы на Красуцкую,— каб помніў мяне без гора, без слёз. І яе навучыў... Не люблю слёз!..— Зноў маўчала. Сказала спакойна: — Вось — цэлы наказ вам дала. І запомніць усё нялёгка... Гэта я так, на ўсякі выпадак...

І зноў сядзела сціснуўшыся, стаіўшыся ў сабе, цяжка, пакутліва адчувала, згадвала, думала...

— Не,— раптам зноў апаліла Красуцкую гарачым шэптам,— я яшчэ паспрабую!.. Як там ні будзе, паспрабую!.. Хоць на дрот электрычны кінуся!.. А паспрабую!..

Гестапаўцы ўвайшлі ў камеру пад поўнач. Пачалі выклікаць прозвішча за прозвішчам: так, як і ўчора, яны вельмі спяшаліся,— падганялі зняволеных лаянкай і кулакамі. «Мяне, мусіць, таксама возьмуць»,— чакала з трывогай Ніна. Але і на гэты раз яе не выклікалі.

Праз гадзіну прыблізна гестапаўцы зноў з'явіліся і вывелі яшчэ адну групу.

Пасля поўначы ўварваліся ў трэці раз: чатыры п'яныя ўзброеныя аўтаматамі эсэсаўцы. Адзін з іх, у

чорным бліскучым дажджавіку і ссунутай набок фуражцы, выняўшы паперку, крыкнуў:

— Лакуновіч...

Ніна не пазнала свайго прозвішча, яно ўпершыню здалося нібы чужым.

«Каго гэта? Мяне?.. Ну так, мяне». Як ні рыхтавалася загадзя да гэтага, да самага паганага, усё ж адчула, як усярэдзіне раптам пахаладзела, як раптам аслабела ўся. Ногі, рукі сталі недарэчы непаслухмянымі. Як падрыхтаванае загадзя, схіліўшыся да Красуцкай, вымавіла хрыпата, нібы не сваім голасам:

— Глядзіце ж, не забудзьце... угавор...

Адчуваючы дрыжэнне ва ўсім целе, з намаганнем узнялася. На час зноў свет вакол як бы апусцеў, і яна нібы сама не ішла, а хтосьці нёс яе. Хтосьці вёў яе на чужых нагах.

Гестапаўцы адразу схапілі яе, сталі штурхаць да выхада. Тады анямеласць раптам знікла, і яна зноў усё ўбачыла дзіўна востра, ярка: камеру, людзей. Камера была ціхая, людзі ўсе глядзелі на яе. Глядзелі з увагай, са спачуваннем, са страхам.

Яна нібы нанава зразумела ўсё, што адбываецца.

— Родныя... бывайце! — сказала яна.— Чакайце... Нашы ўжо блізка!..

Яна сказала ціха, хрыпла, але горача. Ёй вельмі хацелася сказаць, заявіць, можа, напаследак аб сабе. Гэта было як імкненне застацца ў людзях, не знікнуць бясследна...

Гестапавец злосна таўхануў яе ў калідор.

Услед за ёй [redacted] камеры вывелі яшчэ некалькі чалавек.

Па калідоры, груба лаючы і б'ючы, выгналі на двор. У твар Ніны ўдарыла халаднаватай свежасцю начнога паветра. Закружылася галава, і Ніне здалося, што яна задыхаецца ад гэтай свежасці: даўно-даўно яна не дыхала такім паветрам.

Тут стаяла грузавая машына [redacted] адкінутай задняй сценкай кузава. «Добра, што грузавік някрыты»,— падумала Ніна. Адзін з канваіраў кішанёвым ліхтарыкам асвятліў жалезную драбінку, што была падстаўлена да кузава, і загадаў па ёй падымацца:

— Шнэль... ауф!

Жанчына, якая ўзыходзіла трэцяй, раптам пахісну-



Абмеркаванне рамана «Мінскі напрамак»
у дні Дэкады беларускага мастацтва ў г. Маскве ў 1955 годзе.
Выступае В. Ажаеў. Справа — Іван Мележ.



Іван Мележ і Васіль Быкаў. *1960 год.*

лася і ўпала б, але да яе падскочыў адзін з турэмшчыкаў, падхапіў і падтрымаў, пакуль узнялася.

— Ты — руская свіння! Паўзеш!..

Ён узлавана піхнуў яе наперад. Жанчына ўпала на дно кузава...

## 4

Эсэсаўцы прымушалі ўзыходзіць па драбінцы амаль уподбег. Падганялі, білі і тых, хто марудзіў, і тых, хто слухаўся загадаў, спяшаўся. Ніну таксама, перад тым як яна ступіла на драбінку, нечым балюча вытнулі ў спіну.

Яна пастаралася ўзняцца адной з першых, каб сесці каля борта. Поруч з ёй апынуліся дзве жанчыны з той жа камеры.

Кузаў набілі поўна... Апошнімі ўзабраліся некалькі эсэсаўцаў з аўтаматамі. Яны селі ззаду...

— Генц, чаго марудзіш, як... ксёндз на імшы! — нецярпліва крыкнуў адзін з іх.

— Управіцеся!..

Той, хто адказаў, курыў. Зацягнуўшыся яшчэ некалькі разоў, ён кінуў цыгарэту і палез у кабінку. Матор загурчаў, то мацнеючы, то слабеючы, потым пачулася роўнае грукатанне.

Вось і настаў той час, пра які яна столькі думала ў камеры. Калі іх павязуць у лагер, то трэба пакуль пачакаць: там будзе час агледзецца, можа, удасца прыдумаць што-небудзь для ратунку. А калі ў Трасцянец, за горад,— трэба вырывацца цяпер. Інакш — будзе позна...

Грузавік выехаў з варот турмы. Па абодвух баках пабеглі назад знявечаныя шкілеты дамоў, горы ламачча, якія сумна чарнелі ў цемры. Навокал было пуста, мёртва. Нідзе ніводнага агеньчыку.

Машына павярнула ўправа, на Чэрвеньскі тракт. Яны едуць не ў лагер, бо лагер у іншым баку, на Шырокай вуліцы... Ну так, іх вязуць у бок Магілёўскага шасэ, да Трасцянца.

— У Трасцянец едзем...— шапнула яна знаёмай жанчыне, што была каля яе.

Яе апанавала туга, самота. «А можа, яшчэ не ў Трасцянец, можа, куды-небудзь у іншае месца»,— па-

спрабавала яна супакоіць сябе. Ад гэтай думкі палягчэла: і смерць, і вялікая рызыка, якую вяла спроба ўцячы, адыходзілі. Але, як ні супакойвала гэтая падманка, Ніна цешылася нядоўга... Не, вязуць у Трасцянец,— нашто ашукваць сябе, заплюшчваць вочы перад праўдай. Такою страшнаю, жахлівай, што аж халадзее ўсё, аж млосць бярэ, але — праўдай...

Значыцца, марудзіць нельга.

— Я ўцяку! З машыны... Скочу,— шапнула Ніна суседцы ціха. Раптам прамовіла да яе: — Хочаце — разам?

Жанчына некаторы час думала. Потым Ніна адчула поціск яе рукі. Разам! Не можа быць, што ні адной не ўдасца вырвацца.

Ніна зірнула ўперад, на чорнае, як невядомасць, неба: сярод важкай чарнаты гарэла далёкая адзінокая зорка. Ад яе дзіўна маркотнага і вясёлага бляску туга, трывога бралі мацней, але праз іх у Ніным сэрцы прабівалася, трапятала іскрачка, зорка, якая не хацела ні гаснуць, ні слабець. Яе надзея... Можа, гэта яе, Ніны, зорка?..

Насустрач ляцеў вецер, свежы, халаднаваты. Яна прагна ўдыхала яго, востра адчувала яго пругкія парывы. Ад ветру, ад свежасці, ад хвалявання ў яе нібы ўлівалася сіла...

Машына мінула горад. Па тым, што машыну перастала трэсці і колы мякка зашуршалі, Ніна здагадалася: скончыўся брук, пачаўся асфальт. Хутка поле. Вось ужо вецер памацнеў. Наперадзе будзе злева ельнік, ён падыходзіць да самага шасэ.

Там... Там трэба кінуцца...

Тое месца хутка набліжаецца. Як імчыць насустрач шасэ! Гэта добра — не адразу спыняцца. Толькі б скочыць удала, не разбіцца, не вывіхнуць нагу. Скочыць на зямлю і — адразу ў ельнік...

— Хутка скочу. Каля ельніку,— шапнула суседцы.

Няўжо ж пападуць яны! Цёмна. Але ў іх многа аўтаматаў. Як моцна стукае сэрца! Эх, чаго гадаць — пападуць, не пападуць. Смялей!..

Штосьці, імкліва насоўваючыся, зачарнела наперадзе. Яркае святло фар, што хутка беглі па асфальце, прабіваючы змрок, рабіла ноч цямнейшай, і абрысы гэтага чорнага, што ляцела насустрач, ледзь-ледзь зна-

чыліся, таямнічыя. Але яна ведала,— гэта мог быць толькі ён, яе надзея. Ельнік...

Ельнік!..

Як толькі цёмны абрыс наляцеў, пабег міма,— яна, нічога больш не думаючы, не разважаючы, чуючы незвычайную лёгкасць у целе, ускочыла, хутка павярнулася, ступіла на дошку борта. У той момант, калі яна, ускінуўшы рукі, адчула, што ўжо ляціць, да слыху яе дайшло ў віхурнай мешаніне раскіданых уражанняў — крык, пагрозны крык тых, што везлі на пагібель...

Крык гэты ў наступны міг прапаў з яе слыху. Яго змяніла новае: балюча ўдарыла ў рукі, у калені зямля, незвычайна цвёрдая, як камень.

Абапершыся колькі сілы на рукі, Ніна з намаганнем усхапілася, узбегла па травяністым адхоне за кюветам, задыхаючыся, кінулася ў ратоўную цемру ельніку.

Цяпер яна нічога не чула вакол — ні свісту ветру, ні стрэлаў, што загучалі ззаду, нават болю ад куль, што, здагнаўшы, упіліся, пранізалі яе. Не зразумела, чаму раптам аслабела, звяла без сілы...

Як горача, як цяжка становіцца ўсярэдзіне. А галава нібы напаўняецца змрокам, чорным, асеннім.

У грудзях палаў палючы, нязносны агонь. Праз змрок і агонь прабілася думка, поўная прагі жыцця і тугі. Апошняя думка яе.

Люда... Дачушка мая, уцеха мая мілая!..

І тут жа ўсё згасла — і агонь, і жыццё...

## РАЗДЗЕЛ VII

### 1

Недалёка ад Талачына лейтэнант Клямт і яго салдаты разам з усёй дывізіяй сышлі з шасэ на поўдзень.

Калона была даволі вялікая; гледзячы на яе, яшчэ можна было ўспомніць былую моц дывізіі. Але — толькі ўспомніць.

Хто-хто, а Клямт добра ведаў, як многа страціла яна: гэта была ўжо быццам іншая дывізія. Не было ў

ёй вельмі многіх ветэранаў-афіцэраў і вопытных салдат. Усе яны палеглі за Оршай.

Між грузавікоў можна бачыць яшчэ нямала гармат. Толькі якая з іх карысць, з гармат, калі ў большасці з іх няма снарадаў. Артылерысты ўсё спадзяюцца, што снарады падвязуць, але снарадаў тых няма ды няма. І калі будуць — невядома...

Не хапае гаручага. З-за нястачы яго кінулі ўжо некалькі аўтамашын, хоць яны былі не лішнія. Уцалелыя транспарцёры і грузавікі перапоўнены салдатамі і унтэр-афіцэрамі.

У роце Клямта — розны зброд, як і ў батальёне і ва ўсёй дывізіі. У кожным падраздзяленні можна сустрэць салдат з рознымі пагонамі, «прадстаўнікоў» усялякіх часцей. Усе перамяшаліся.

Настрой у большасці салдат неспакойны — увесь час ходзяць то абнадзейлівыя, то трывожныя чуткі:

— Рускія танкі... Наперадзе справа... Многа танкаў...

— З імі — «кацюшы». Дывізія «кацюш»... Напэўна, сталі ў засаду. Чакаюць, калі падыдзем...

— Батальён сапёраў ішоў справа ад нас... Учора наляцелі рускія танкі — раздавілі ўсіх...

— Палавіну ў палон забралі. Мне гаварыў Гофман з трэцяй роты...

— Гавораць, да нас ідзе корпус. На дапамогу. Фюрэр паслаў... Яны ўжо каля Барысава...

— Пад Барысавам многа войск. Чакаюць толькі, калі рускія падыдуць. Дадуць бальшавікам!..

— Кацёл рускім зробяць...

— Мне казалі, што фюрэр даў загад ужыць новую зброю. Сакрэтную... Першага ліпеня!

— Так? Гэта — каласальна! Усё зменіць адразу!..

Яны занепакоена паглядваюць у блакітнае высокае неба. Там амаль бесперапынна гудуць і звіняць чародкамі і вялікімі групамі савецкія самалёты. Праўда, яны звычайна ідуць на нейкія іншыя цэлі, але некаторыя з іх абстрэльваюць калону, кідаюць бомбы.

Учора адна бомба ўцэліла ў кузаў грузавіка, пашматала і машыну, і ўсіх, хто там быў...

Ад самалётаў няма нідзе ратунку.

«Адкуль у рускіх столькі самалётаў?! І чаму мала

відаць нашых? Куды яны падзеліся? Што з імі?..» — здзіўляўся Клямт.

Снарадаў так і не дачакаліся. Гаручае таксама не падвозілі, і таму амаль усе гарматы прыйшлося кінуць. Іх кінулі надвячоркам на ціхім узлессі. Некалькі гармат артылерысты ўзарвалі: зарадзілі ў апошні раз і, насыпаўшы ў ствалы пяску, стрэлілі.

— Што гэта? — запытаў хтосьці з салдат, пачуўшы выбухі.

Другі адказаў нервова:

— Гарматы ўзрываюць... Каб існці было лягчэй.

— Так, чаго добрага, станем хутка такімі лёгкімі, што і паляцець зможам...

— ...на неба!

Назаўтра калону абстралялі з ляска наводдаль: білі з кулямётаў і дробных мінамётаў. Міны выбухалі проста на дарозе. Ударылі так неспадзявана і дакладна, што вялікая ўзброеная калона разгубілася, кінулася з дарогі ў поле. Добра, што баявыя падраздзяленні хутка апаматаліся, залеглі. Арганізавалі абарону, сталі біць па лесе, у тым ліку з мінамётаў.

Відаць, там была група партызан. Калі адзін батальён, у якім быў і Клямт, перабежкамі рушыў да лесу, у контратаку, у лесе змоўклі. Зніклі.

Салдаты вярнуліся да машын прыкметна павесялелыя.

Рушылі далей. На дарогах, перасохлых ад гарачыні, уздымаліся хмары пылу. Ішлі ў гэтых хмарах, задыхаліся, кашлялі.

Недзе збоку, ззаду, як відаць было з тапаграфічных карт, засталіся Крупкі. Набліжаўся Барысаў. Ён быў цяпер ужо недзе на сярэдзіне паміж захадам і поўначчу.

На беразе невялікай рэчкі калона спынілася.

— Што там, пан лейтэнант? Чаму сталі?..— запытаўся ў Клямта руды даўгарукі салдат Трэйдэ.

— Прыпынак, відаць.

Лейтэнант рашуча пакрочыў наперад, каб даведацца, што здарылася. Наперадзе быў нізкі зялёны луг з мноствам купін, за ім між зараснікў кустоў і асакі віднелася вада. Рака. Пасярод лугу да ракі значыўся невысокі насып, па якім ішла да ракі дарога. Насып ля вады абрываўся. Моста не было.

Каля рэчкі лейтэнант Клямт убачыў групу афіцэраў і падышоў да іх. Наводдаль была яшчэ адна група, у якой Клямт пазнаў доўгага, запыленага, з перавязанай, падвешанай на хустачцы, рукой генерала, камандзіра дывізіі. Лейтэнант запытаў ціха ў знаёмага афіцэра, чаму стаіць калона.

— Не бачыш?.. Мост узарваны!

Два салдаты, не раздзеўшыся, хадзілі ў вадзе, якая дасягала ім шыі,— мерылі глыбіню.

— Пракляцце! Паўдня таптацца будзем, пакуль пераправімся праз гэты ручай,— сказаў адзін з афіцэраў.

Некалькі чалавек кіраваліся абследаваць берагі і рэчку па другі бок ад насыпу. Ідучы ўсцяж берага, яны штосьці абмяркоўвалі, азіралі. Здалёк было зразумела: выбіралі найбольш трывалы грунт. Лейтэнанту Клямту не цярпелася стаяць і гадаць здалёк, што там у іх выходзіць, і ён лугам па куп'і рушыў да іх. Яшчэ па дарозе да іх адзначыў: такога грунту, каб па ім маглі прайсці машыны, ля берага не было. Дзе-нідзе тут нават уздыхала пад нагамі дрыгва.

Выбралі проста больш сухое месца...

Адразу, як вызначылі яго, тры салдаты раздзеліся і, пакінуўшы адзенне на беразе, падаліся ў ваду. Рэчка тут аказалася акурат неглыбокай. Можна было б пераправіцца.

Уся закавыка была ў тым, ці вытрымае грузавікі гэты пракляты луг перад берагам.

— Ну што ж, паспрабуем! — рашыў маёр, які кіраваў пераправаю, і загадаў, каб падалі першую машыну. Яна прайшла амаль да рэчкі, але ля самага берага ўгрузла. Па камандзе маёра дзесяткі два ці тры салдат акружылі яе, выцягнулі на сваіх плячах і пераправілі на той бок... Другая таксама засела і яшчэ больш.

— Тут валтузні да раніцы! — сказаў хтосьці нявесела.

Сюды падышоў генерал, распарадзіўся рабіць грэблю.

Пачуліся каманды, і натоўп, што дасюль назіраў толькі, набыў мэтанакіраванае імкненне. Стаў праяўляцца ўзорны нямецкі парадак: пайшлі ў бой цесакі, затрашчалі кусты, дрэўцы на беразе. Салдаты з галлём

і дрэўцамі энергічна заснавалі па лузе, пачалі высцілаць дарогу цераз балота.

Нямецкая энергія і арганізаванасць хутка зрабілі б сваё, але на лузе, каля пераправы, між заклапочаных салдат раптам сталі выбухаць міны.

Узорная, мэтанакіраваная дзейнасць на беразе адразу разладзілася. Цесакі спыніліся, ссечаныя дрэўцы выпалі з рук. Салдаты, афіцэры стараліся зразумець, што адбылося.

— Рускія, рускія... Прарваліся...— пайшло трывожнае.

Загучалі хапатлівыя каманды: па месцах, падрыхтавацца да бою, і лейтэнант адразу заспяшаўся да сваіх.

Ледзь дабегшы да роты, ён пачаў арганізоўваць салдат, што, залёгшы ў жыце, бязладна стралялі. І тут, дзякуючы энергічным захадам, пачаў наладжвацца парадак.

Лейтэнант Клямт быў упэўнены, што напалі таксама партызаны, невялікая група, і іх хутка ўдасца адбіць. Але неўзабаве да рускіх мін далучыліся кулямёты, наводдаль адзначыліся ў руху бронетранспарцёры. Падобна было, што гэта — армія і што рускія канцэнтруюць сілы...

Мусіць, гэта ўжо зразумелі і іншыя. Не зважаючы на загад трымацца, адбіваць рускіх, узводы, хоць і страляючы, усё адыходзілі ад дарогі.

Стараючыся паправіць становішча, лейтэнант загадаў акапацца, спыніць адыход. Узводы залеглі, перасталі адступаць, пачалі рупліва завіхацца лапаткамі, але сітуацыя непакоіла лейтэнанта. Рускія канцэнтравалі сілы, а пераправы ззаду няма. І падтрымкі артылерыі таксама няма і не будзе...

Стоячы ў акопчыку, лейтэнант пачуў, што яго клічуць.

— Лейтэнант Клямт. Дзе лейтэнант?

— Я тут. Што там такое? — Да Клямта, прыгінаючыся, асцярожліва падбег сувязны ад капітана Штаме, камандзіра батальёна. Ён перадаў загад — перапраўляцца ўброд.

— Адным? А як жа машыны? — захваляваўся Клямт.

— Машыны падпаліць і кінуць.

## 2

Прыкрываючыся заслонам, які стрымліваў рускіх, пачалі перапраўляцца. Перапраўляліся хутка: час быў дарагі.

Усцяж берага зноў акапаліся, занялі абарону. Бачылі, як за рэчкай сумна дымяць кінутыя машыны.

Ледзь змерклася, зняліся з месца і рушылі далей, пешкі. Рухацца цяпер сталі марудна-марудна. Рух замаруджвала тое, што дарога была палявая, невядомая, цемра яшчэ больш затрымлівала.

У гэтай агіднай маруднасці сустрэлі і раніцу. Да якой-небудзь бярозы ці хвоі, што віднеліся наводдаль, даводзілася цягнуцца цэлую гадзіну. Салдаты і афіцэры за ноч стаміліся. Зброя, якую неслі на плячах, станавілася ўсё цяжэйшай. Каб даць адпачыць, зрабілі прыпынак на тры гадзіны ў лесе ля дарогі. Але і пасля прыпынку некаторыя зноў адставалі, калона ўсё расцягвалася.

Лейтэнанта Клямта абурала гэтая небяспечная расхлябанасць, ён энергічна дабіваўся парадку.

— Хто там паўзе ззаду, чорт вазьмі! Эй, Трэйдэ, хутчэй! І вы, астатнія,— падцягнуцца!

Лейтэнант паклікаў да сябе обер-яфрэйтара Келера, што выконваў абавязкі камандзіра ўзвода, строга наказаў яму за патуранне разбэшчанасці. Загадаў неадкладна прывесці ўзвод у належны стан.

Келер выслухаў вымову з абуральным спакоем, узяў загад амаль абыякава. Лейтэнант Клямт нават улавіў ледзяны выраз у яго вачах. Мімаволі ўзнікла ў галаве разважлівае: на гэтага яфрэйтара нельга спадзявацца. Угневаны агідным стаўленнем обер-яфрэйтара да абавязкаў, Клямт згадаў мінулыя спрэчкі з ім, зноў адчуў да Келера непрыхільнасць, нават варожасць.

«Трэба сачыць за ім,— падумаў пра Келера.— Першы зручны выпадак, і ён здрадзіць...» Калі б не такое няпэўнае становішча, ён неадменна зняў бы яфрэйтара з камандзіраў і далажыў бы пра яго паводзіны каму належыць. Ён пашкадаваў, што не зрабіў гэтага, калі можна было, у час блакады партызан, напрыклад. Ці пазней, да рускага наступлення. Ён папракнуў сябе за недаравальны, злачынны лібералізм. «Нічога,—

падумаў, супакойваючы сябе,— прыйдзе час, да гэтага можна будзе вярнуцца...»

Хутка лейтэнанту давялося затрывожыцца пра іншае: аказалася, што батальён адарваўся ад штаба палка.

Усім, што заставалася ад батальёна, камандаваў цяпер капітан Штаме, прысланы пасля смерці ранейшага камандзіра, яшчэ на другі дзень рускага наступлення. Штаме амаль заўсёды быў п'яны і пануры, ледзь што — кіпеў, крычаў, пагражаў пісталетам. Нават Клямт асцерагаўся яго, але лейтэнанта супакойвала думка, што круты чалавек гэты не падвядзе ў цяжкую хвіліну.

— Дзе гэты пракляты штаб! — падышоўшы да Клямта, сказаў злосна капітан. Ён глядзеў спадылба і з гневам: нібы лейтэнант быў вінаваты ў тым, што здарылася.

Было падобна, што ён чакае ад лейтэнанта адказу. Клямт збянтэжыўся.

— Не ведаю, пан капітан. Відаць, адарваўся.

— «Адарваўся»! — Капітан нядобра пажаваў губамі. Нібы з пагардай.— Гэтыя чысцюлі знарок адарваліся! Каб выбрацца сухімі! Ясна?

Вялікі, пануры, ён зноў чакаў адказу.

— Так, капітан.— Не захацеў лезці ў недарэчную спрэчку лейтэнант.

Лейтэнанту не падабаўся гэты непаважлівы тон гаворкі пра камандаванне і тым больш агіднае падазрэнне, на якое наводзіў Штаме. Ён з гаркотаю думаў пра тое, як нядобра заблытаўся лёс: у такі адказны момант батальён апынуўся ў руках нягоднага п'яніцы, і сувязь з камандаваннем перарвалася.

Горш за ўсё гняло тое, што абстаноўка ў цэлым была зусім невядомая. Многія лічаць, што трэба як хутчэй дабірацца да Барысава, але хто скажа, што чакае там, у Барысаве? Ці не чакаюць там ужо бальшавікі?

Настрой салдат надзвычай псавала тое, што амаль адразу ж, як давялося кінуць машыны, парушылася харчаванне. Раніцай, праўда, выдалі па пачку галет, але з таго часу быццам ніхто не клапаціўся пра салдацкі страўнік. Гэта асабліва дзейнічала: бо голад, акрамя таго, што ўводзіў у злосць салдат, разам з тым уводзіў у іх думкі пра бяссільнасць камандавання.

Лейтэнант арганізоўваў харчаванне салдат за кошт туземнага насельніцтва. Калі займалі ўцалелую вёску, ён рабіў невялікі прыпынак, каб прайсціся па хатах, па склепах. Гэта падмацоўвала роту, дапамагала падтрымліваць баяздольны настрой.

Трэба было б адпачыць, але ўсе, хто мог ісці, стараліся не спыняцца. Хацелася хутчэй прабіцца да сваіх.

Ужо блізка быў канец доўгаму дню, калі дарогу наперадзе перасеклі тры танкі. Спачатку ніхто не ведаў, чые гэта, спрачаліся: савецкія ці нямецкія.

Танкі спыніліся, таксама нейкі час як бы прыглядваліся.

Потым яны развярнуліся, навялі свае гарматы і ўдарылі па калоне. Салдаты — хто куды — рассяяліся па полі, па хмызняку. Да таго, як удалося што-небудзь зрабіць для абароны, танкі зноў узялі ранейшы кірунак і неўзабаве зніклі за пагоркам.

На дарозе стала ціха, рэшткі рот паступова пачалі збірацца зноў. Усе былі ўстрывожаны: чакалі, што за гэтымі танкамі прыйдуць іншыя, асноўныя сілы. Калі сабраліся, высветлілася, што той-сёй з салдат не вярнуўся і, што асабліва ўразіла Клямта,— прапаў капітан Штаме!

Клямт паслаў салдат шукаць, і яго хутка знайшлі каля варонкі пры дарозе. Выбух снарада вырваў бок, вываліў кішкі... Трэба ж здарыцца такому: амаль адзіная ахвяра і іменна — камандзір батальёна.

Лейтэнант загадаў годна пахаваць яго. Спехам выкапалі неглыбокую яму тут жа ля варонкі і засыпалі зямлёй...

Адарваны ад палка, батальён апынуўся без камандзіра. У такую цяжкую хвіліну, у няяснай, найнебяспечнай абстаноўцы.

Надышоў час цяжкага выпрабавання.

Абставіны патрабавалі рашучых дзеянняў. Лейтэнант зразумеў гэта адразу, як толькі знайшлі забітым капітана Штаме. Ён, лейтэнант Клямт, цяпер аказаўся ў батальёне адным са старшых па званні.

Зразумеўшы значэнне гэтых абставін, лейтэнант, не марудзячы і не вагаючыся, узяў камандаванне ба-

тальёнам на сябе. Якое ні цяжкае было становішча, тое, што ён прыняў такое важнае рашэнне і ўзначаліў батальён, надало яму энергіі і ўпэўненасці.

Прыцішанае трывогаю і клопатам, у ім таілася прадчуванне, што, можа быць, гэта яго шчаслівая хвіліна. Хвіліна, пачынаючы з якой лёс павядзе яго крута ўгару. Хвіліна, якая пакажа ўсю моц яго здаровага нямецкага духу, яго вайсковую годнасць, якая была столькі часу незаслужана непрыкмечанаю.

З разуменнем асаблівай значнасці місіі, якая выпала на яго долю, вывеў лейтэнант Клямт батальён у нялёгкую дарогу. Ён выбраў абходны шлях, каб абмінуць тое месца, адкуль білі танкі і куды яны пайшлі.

Ён умела правёў батальён міма танканебяспечных месц. Танкі больш не нападалі на іх.

Ужо ў вячэрнім змроку да Клямта, які ўсё ішоў наперад са сваім «батальёнам», пад'ехаў на кані афіцэр сувязі ад штаба палка.

— Дзе камандзір батальёна? — запытаўся сувязны. Ён сядзеў на кані і рабіў дзіўнае ўражанне: на гэтым нязвыклым сродку руху. У іншы час можна было б пажартаваць, але цяпер было не да жартаў.

Лейтэнант адказаў:

— Абавязкі камандзіра батальёна выконваю я.

— А што з капітанам Штаме?

— Капітан Штаме загінуў.

— Калі? — нібы не паверыў сувязны.

Лейтэнант адказаў цярпліва:

— У час атакі рускіх танкаў...

Сувязны нарэшце зразумеў усё. Зразумеўшы ўсё, ён пачаў абыходзіцца з лейтэнантам больш пачціва. Саскочыўшы з каня, з павагай выпрастаўшыся, перадаў лейтэнанту загад камандзіра палка: фарсіраваным тэмпам весці батальён да ракі. Паведаміў, што штаб палка — праз тры кіламетры. Паказаўшы на карце пункт, дзе трэба лейтэнанту быць, сувязны заспяшаўся назад...

Значыцца, усё папраўляецца. Усё наладжваецца, як ён і спадзяваўся. Усё будзе добра.

## 3

Лейтэнант са сваім батальёнам рыхтаваўся да бою. Салдаты капалі на беразе ракі акопчыкі, капалі неахвотна і лянiва, не інакш, лічылі, што робяць лішняе.

Калі яны, аднак, зрабілі ўсё як належыць, то ў гэтым заслуга лейтэнанта Клямта.

Абарону батальёна праверыў сам камандзір дывізіі. Генералу спадабаліся акопы і стараннасць цяперашняга батальённага камандзіра, і ён даў зразумець, што вельмі цэніць руплівасць лейтэнанта.

Клямт быў усцешаны генеральскай увагай. Нягледзячы на цяжкую абстаноўку, ён адчуваў у сабе ўздым духу. Лейтэнанта ўзрушала прадчуванне іншай будучыні: пасля таго як установіцца парадак,— а чакаць гэтага, ён быў упэўнены, не прыйдзецца доўга,— ён, лейтэнант Клямт, будзе камандаваць батальёнам. Яго, вядома, не здымуць з пасады, якую ён заняў у найцяжэйшы момант, якая даверана яму лёсам, на якой ён ужо цяпер працуе ды яшчэ з такім поспехам. Ён будзе камандзірам сапраўднага батальёна.

Лейтэнант — тады ён, пэўна, будзе ўжо не лейтэнантам — зможа з годнасцю гаварыць — у цяжкую хвіліну выпрабавання ён застаўся верным бацькаўшчыне і фюрэру. Ён не зганьбіў сябе і чэсці немца...

Аднак лёс не даў разгарнуцца як след таленту новага камандзіра батальёна: акопчыкі, старанна выкапаныя, давялося пакінуць без бою. На іх ніхто цяпер не наступаў. Лейтэнант Клямт чуў, што бальшавікі яшчэ ў тую ж ноч на поўдні прарваліся далёка ў тыл пазіцый дывізіі...

Пачалося зноў адступленне, якое паслабляла батальён горш за любы бой. Салдаты ўсё больш дэмаралізаваліся, адчайваліся, цэлымі групамі адставалі. Лейтэнант Клямт адчуваў, як сярод іх пашыраецца дух непаслушэнства і абыякавасці да камандзіраў. Яны, падобна, не хацелі прызнаваць лейтэнанта Клямта за камандзіра батальёна, здавалася, пазіралі на яго як на выскачку і нават самазванца...

Яснай чэрвеньскай раніцаю, калі ўсё навокал зіхцела ад сонца, на калону палка, што адступала цераз поле, зноў наскочылі савецкія танкі. Вялікая група,

больш за дзесятак танкаў. На машынах, вакол вежаў, сядзелі напагатове аўтаматчыкі.

Танкі так неспадзявана і імкліва атакавалі калону, што полк не мог ні арганізаваць супраціўлення, ні хоць бы адступіць у парадку. Салдаты і афіцэры, агаломшаныя неспадзяванай атакай, не здолелі што-небудзь зрабіць у адказ, вымушаны былі ратавацца хто як. На апусцелай дарозе засталося толькі некалькі павозак ды трупы...

На шчасце, поблізу быў лес, і лейтэнант Клямт, угнуўшы галаву ў плечы, што сілы пабег да яго. Ён чуў за сабой стрэлы з танкавых гармат і кулямётныя чэргі. То там, то тут лавілі яго востры свіст снарадаў і блізкія выбухі.

Яны падганялі лейтэнанта. Дабегчы, паспець! Хутчэй. Нельга збаўляць бегу. Хутчэй у лес: там адзіны ратунак...

Убегшы ў асіннік, ён адчуў, што задыхаецца, і пайшоў цішэй. У полі стрэлы сціхлі, чулася толькі фырканне матораў, ляскат гусеніц ды незразумелыя загадныя воклічы.

Ён знайшоў лагчынку, зарослую травою і маладымі дрэўцамі, між якіх было многа густалістага арэшніку. Лейтэнант упоўз пад гэтую навісь цяністай зеляніны і лёг, прыслухоўваючыся да гукаў з поля.

Ён заўважыў: па хмызняку навокал дзёрліся, хаваліся многія салдаты, што ўцяклі ад рускіх.

Неўзабаве Клямт пачуў, што рускія сталі прачэсваць лес.

Ён стаў шукаць больш надзейнай сховы. Калі прадзіраўся праз гушчар, лейтэнант наткнуўся на свайго салдата Трэйдэ, але зрабіў выгляд, што не пазнаў яго.

Лейтэнант Клямт зашыўся ў такі зараснік, што здавалася, быццам надышоў вечар. Было сыра, і моцна пахла прэллю.

Да лейтэнанта даносіліся галасы і чэргі рускіх аўтаматчыкаў. Яны ўсё набліжаліся. Лейтэнант уважліва прыслухоўваўся: яны станавіліся такімі блізкімі, што трэба было быць гатовым да ўсяго. Можна было трапіць проста пад сляпую чаргу.

Чым бліжэй, тым шырэй была пераклічка галасоў. Чуліся яны і справа, і злева і — убаку — нават нібы ўжо ззаду. Рускія падыходзілі ўжо амаль упрытык і

амаль не стралялі. Ён трохі ўзняўся і стаў пільна сачыць. Наколькі можна было праз лісце і галлё зараснікаў.

Раптам праз бязладную вязь галля лейтэнант убачыў рускіх. Іх было трое. Адзін з іх, наставіўшы аўтамат, па-нямецку скамандаваў камусьці ўстаць.

Падняўся салдат у нямецкім мундзіры. Гэта быў Трэйдэ. Калі ён сюды забраўся, Клямт не заўважыў. Мусіць, перапоўз.

Лейтэнант адшпіліў кабуру, выняў пісталет і паставіў на баявы ўзвод. Ён жывым не дасца. Перш чым памрэ, ён заб'е іх,— раней за ўсё чарнявага порсткага сержанта...

Клямт мімаволі стаў націскаць спускавы кручок пісталета — хацелася прадзіравіць жвавому рускаму галаву.

Але рускі сержант рэзка махнуў рукой.

— Усё! Пойдзем, хлопцы!

Гэта выратавала лейтэнанта і рускага.

Яны пайшлі.

# ЧАСТКА ПЯТАЯ

## РАЗДЗЕЛ I

### 1

Дарога, дарога.

Дрыжыць, млее ўдалечыні лёгкая, блакітная смуга. Яна вабіць, цягне да сябе. Смуга ахінае далёкія вёскі, узгоркі, палі, пералескі. Хочацца хутчэй дайсці да іх, убачыць усё вачыма так, як яно ёсць.

Дарога хутка прыводзіць да тых палян і пералескаў. Але — смуга зноў далей мігціць. І зноў далячынь наперадзе, якая вабіць і кліча.

Прырода расхіналася перад танкістамі вялікім прасторам, зменным, рухомым,— кожную хвіліну ішло насустрач, паўставала перад вачыма новае.

Лясы, лугі квітнелі, як ніколі, буйна, упарта. Ва ўсёй зялёнай красе стаялі дубы, раскідвалі шырока галлё з лапчастым рэзным лісцем, годна трымалі свае кучаравыя вяршыні з меднымі галінамі-жыламі сосны, ірвалася на святло, на дарогі ўпартая лясная драбната, ад якой было аж цёмна ў лесе,— рабіны, арэшнік, беразнячок.

Спела азіміна. Пачыналі выганяць вострыя трубкі яравая пшаніца, аўсы...

Калі танкі ішлі па лясной дарозе, то дрэвы галінкамі і лістамі-далонямі дакраналіся да брані, гладзілі запыленых аўтаматчыкаў і чорных танкістаў, што сядзелі на вежах. Пагладзіўшы, дрэвы потым доўга ківалі ім услед галінамі, быццам развітваліся.

Усюды былі бачны жорсткія знакі вайны, даўнія і новыя. Варонкі, пажарышчы, пустыры. Запусценне ў сёлах і на палях, дзе палоскі жытоў межавалі з шырокімі зараснікамі рознага пустазелля. Але прырода нібы старалася прыхаваць, сцерці гэтыя страшныя раны, упрыгожыла зямлю ўсім магчымым летнім харастat. Нібы праз гора і слёзы імкнулася ззяць, мужна і абнадзейліва.

— Глядзі, як прырода сустракае нас! — сказаў аднойчы Колышаву Гогабярыдзе.— Прыбралася, як дзяўчына.

— Не, таварыш лейтэнант. Лепш,— як маці, якая сустракае сыноў...

Сандро ўспамінаўся першы год вайны. Тады таксама буялі лясы, але ў той час бачыць усё гэта было горка. Горка было ведаць, што яно дастанецца заклятаму чужынцу...

А цяпер — як не радавацца цяпер гэтаму хараству, багаццю гэтаму: яно зноў нашае!..

У ціхай, амаль пустой вёсцы, дзе танкі прыпыніліся, да лейтэнанта Гогабярыдзе нясмела падышоў белабровы босы хлопчык у зрэбным.

— Дзядзечка, вы, кажуць, тут начальнік...

— Калі кажуць, то, відаць, так і ёсць,— адказаў Сандро, расчэсваючы каштанавыя валасы, падстрыжаныя пад «паўбокс».— Начальнік, хоць і малы... А што такое, герой?

Танкі толькі што, здаецца, спыніліся, але Сандро ўжо неяк управіўся памыцца, пагаліцца і нават крыху пачысціцца.

— Там,— хлопчык кіўнуў убок рукою,— лагер... Немцы людзей пасадзілі... Яны іх, дзядзечка, усіх пастраляюць...

— Лагер, кажаш? — камандзір стаў сур'ёзны.— А ты гэта добра ведаеш, што там — лагер? Добра?..

Хлопчык сказаў, што там у лагеры сядзіць Сцяпан, яго брат, і яшчэ сядзяць людзі з іх сяла. Туды хадзілі, насілі перадачы, але немцы не любяць, калі прыносяць перадачы. Забіраюць іх сабе. А часта і да лагера не падпускаюць, страляюць.

Словы хлопчыка пацвердзіла жанчына, у якой Сандро ўзяў вядро для вады. Лагер. Многа народу.

— Гэта нельга так аставіць...— згадзіўся Сандро, бачачы, з якой надзеяй глядзіць на яго хлопец.— Далёка ён?

Да лагера, сказала жанчына,— вёрст пяць-шэсць. Сандро стаў хапатліва зашпільваць гузікі, надзеў шлем. Па тым, як хутка ён рабіў усё, які бляск быў у

невялікіх карых вачах, было відаць, што Сандро рашыў дзейнічаць неадкладна.

Ён адразу ж рушыў да камандзіра роты. Ужо на хаду гукнуў хлопчыка з сабой.

Ледзь падышоў да Аляксея, горача перадаў, што паведаміў хлопец. Нібы, каб давесці лепш, падштурхнуў хлопчыка да Аляксея: вось, паслухай!

— Трэба памагчы, Аляксей! Зараз жа! — заявіў Сандро. Тое, што хлопчык пазіраў па-ранейшаму з надзеяй на яго, выклікала ў Сандро разуменне асаблівага абавязку яго ў гэтай справе.

Аляксей вестку пра лагер узяў таксама, было відаць, блізка да сэрца, але сказаў Сандро, што загадана вось-вось быць гатовымі выступаць.

— Ну і выступай! — адазваўся Сандро.— Тут трэба толькі адну машыну і аўтаматчыкаў! Падумаеш — лагер! Якая там ахова! Адну маю машыну і аўтаматчыкаў! Усё зраблю! Праз пятнаццаць мінут далажу!

Аляксей не падтрымаў ваяўнічага настрою Сандро: выдзеліў яшчэ машыну і папярэдзіў, каб былі асцярожнымі. Былі гатовымі да ўсяго. І загадаў не затрымлівацца.

Гогабярыдзе пакляўся, што ўсё будзе зроблена хутка і добра. Казырнуў і адразу пабег да машыны.

— Іду вызваляць лагер! Ты застанешся? — затрымаўся Сандро на момант ля Колышава. Той сядзеў з аўтаматчыкамі ў ценю плота.

Колышаў ускочыў:

— Не, паеду з вамі. Калі дазволіце...

— Давай.

Колышаў мог застацца. Як «бясконны», ён мог перасесці на іншую машыну. Але яго вабіла незвычайная, важная справа, якую даручылі Гогабярыдзе. Акрамя таго, Колышаў лічыў законам для сябе: нідзе не адставаць ад таварышаў. Асабліва тады, калі мог быць бой.

Гогабярыдзе даручыў яму камандаваць аўтаматчыкамі абедзвюх машын. Праўда, гэтага можна было б цяпер і не гаварыць: Колышаў ужо сам сабой як бы стаў іх камандзірам. Ён быў сярод іх старшы па званні, і ўсе, нават сяржант, камандзір аддзялення, чакалі яго каманд.

Гогабярыдзе ведаў гэта, але лічыў, што, папрасіў-

шы Колышава камандаваць аўтаматчыкамі, ён умацуе становішча яго на сваёй машыне і зробіць яму прыемнае... Праваднікам Гогабярыдзе рашыў узяць хлопца. Пасадзіў на машыну, дапамог спусціцца ў сярэдзіну яе. Быў задаволены, бачачы, як ззяюць вочы праваднікa.

І вось дзве «трыццацьчацвёркі» вылецелі з сяла. Колышаў стаяў на першай, ззаду вежы. Каля яго было яшчэ некалькі аўтаматчыкаў. Усе згорбіліся, учапіліся за скобы: машына ляціць, як толькі можа. Таго і глядзі, сарвешся!..

Раз, другі прытармажвалі: з дапамогай хлопца ўдакладнялі кірунак. Паварот, яшчэ паварот, і вось наперадзе, у полі — купа доўгіх, прыземістых будынкаў — ці то будынкі для жывёлы, ці то баракі. Падобна, былая калгасная ферма. Відаць, лагер...

Так, лагер. Агароджа, вышкі па краях, вартавыя...

Колышаў яшчэ зводдалеку адзначыў, што ў лагеры, падобна, мірны настрой. Вартавыя на вышках нерухомыя. Не трывожацца. За агароджай — ходзяць павольна.

Вось ужо танк збавіў хуткасць. Колышаў падрыхтаваўся да бою. Заварушыліся аўтаматчыкі, гатовыя кожны міг скочыць на зямлю. Але ў лагеры было папранейшаму ціха. Чаго ахова маўчыць? Што яны, рашылі не супраціўляцца? Ці не ведаюць яшчэ, што ў вёсцы нашы танкі? І што гэта не нямецкія машыны?..

Сказаўшы Колышаву, каб аўтаматчыкі не стралялі без яго сігналу, Гогабярыдзе падводзіў машыну да ўскрайку лесу, да дротавай загароджы.

Гогабярыдзе любіў рабіць усё, як ён казаў, «прыгожа». Ужо з «трыццацьчацвёркі» пачалі саскокваць аўтаматчыкі, саскочыў Колышаў, а Гогабярыдзе не страляў.

Спакойна, як бы мірна, падвёў танк да самага лагера і толькі тады, развярнуўшы вежу, даў стрэл з гарматы — адзін, другі — па варожых вышках. Задаволена ўбачыў, як раптам перапалохана замітусіліся вартавыя. З аднаго паста адазваўся кулямёт, Гогабярыдзе адказаў яму доўгай чаргой з «трыццацьчацвёркі». Лейтэнанта падтрымаў чаргою кулямёт з другой машыны.

Колышаў, хаваючыся за машынаю Гогабярыдзе, выглядваючы з-за яе, сачыў за ўсім цікаўна і насцярожана. Цікава было ўсё Колышаву: ніколі нічога падобнага не бачыў. Цікавасць да таго, што дзеялася, была такой вялікаю, што нават разуменне небяспекі не магло выжыць з яго гэтага пачуцця, якое ўсё ўбірала ў сябе і адзначала. З асаблівым хваляваннем лейтэнант глядзеў за тым, як у розных кутках двара замітусіліся купкі людзей. Людзей, што былі вязнямі гэтага пекла. Але глядзеў лейтэнант не толькі з незвычайнай цікаўнасцю, было ў лейтэнанта разам з цікаўнасцю і не менш моцнае разуменне абавязку. Ён помніў добра, што — камандзір, што пад яго начальствам аўтаматчыкі і што ён павінен распарадзіцца імі ўмела, з карысцю для танкаў, для агульнай з імі справы. Ён помніў гэта і чакаў належнага, зручнага моманту. Ледзь ахова на вышках сціхла, лейтэнант, раздзяліўшы аўтаматчыкаў на дзве групы, загадаў абяззброіць ахоўнікаў, што заставаліся ў лагеры. Пакінуўшы адну групу ля танкаў, лейтэнант другую павёў да варот, дзе стаяла кантрольная будка і нейкі невялікі дом, пэўна, кантора.

Лейтэнант лічыў, што абавязкова трэба зазірнуць у кантору, праверыць, ці няма там каго-небудзь з начальства лагера. Наогул жа лейтэнанта больш турбавала, дзе размешчана ахова. Казарма аховы. Пасля канторы ён намерваўся пакіраваць іменна да казармы, ачысціць яе, захапіць зброю, узяць тых, хто зашыўся ў ёй...

Ён першы прабег кантрольную будку і адразу за ёй наткнуўся на спалоханага ахоўніка, што спрабаваў, відаць, схавацца. Убачыўшы амаль тварам да твару рускага, ахоўнік, спалатнелы ад страху, разгублена ўзняў рукі. У адной руцэ ў яго яшчэ была вінтоўка. Колышаў выхапіў яе, перадаў ахоўніка байцу. У канторы аўтаматчыкі захапілі яшчэ двух. Адзін з гэтых двух аказаўся паліцаем, рускім: на пытанне лейтэнанта, дзе казарма, ён ахвотна, нават з радасцю, паказаў на барак непадалёк. Узяўся правесці да яго, паказаць там усё.

— Давай! — вялеў яму Колышаў, матнуўшы аўтаматам наперад.

Яны ўварваліся ў барак, але там ужо нікога не бы-

ло. Дзверы былі ўсе расхрыстаны. Былі засланы пасцелі, на вешалках віселі шынялі. У пірамідзе стаялі вінтоўкі... І ніводнага ахоўніка...

— Драпанулі! — паясніў лісліва паліцай. Ён са страхам глядзеў на Колышава, салдат, чакаў, што далей будзе яму...

Тым часам, разарваўшы дротавую агароджу, машыны проста праз агароджу ўвайшлі ў двор лагера.

Выкіраваўшы ў цэнтр пляца, Гогабярыдзе спыніў машыны. Загадаў усім быць на месцы, напагатове, узняўся з вежы. Уважліва агледзеўся, ацаніў абстаноўку.

Вакол былі купкі людзей, пільна сачылі за машынай, за ім. Шчыравалі, прачосвалі тэрыторыю аўтаматчыкі.

Сандро выбраўся з вежы. Фарсістым рухам адкінуў назад шлем, правёў тонкай смуглявай далонню па твары. Нібы сціраў пот. Лёгка, фарсіста саскочыў на зямлю.

За ім усё сачылі. З усіх бакоў. Дапытліва, спалохана, недаверліва. Сачылі зводдалек, не падыходзілі. Нібы чагосьці чакалі... Можа, іх бянтэжыў яго чорны камбінезон, чорны шлем...

— Ну, здраўствуйце! — шырока, белазуба засмяяўся Сандро.— Здраўствуйце, друзья!

— Нашы! — раптам крыкнуў хтосьці з дзяўчат, пранізліва, без меры шчасліва.— Дзяўчаты! Нашы! Праўда, нашы!

Да Сандро рынулі з усіх бакоў. Адны — безразважна, ашалела, другія — яшчэ нібы не верачы. Нібы асцерагаліся нейкага ашуканства. Але ўсё ж натоўп вакол хутка рос...

Ля другога танка таксама рос натоўп.

Тыя, хто быў больш смелы, упэўнены, абдымалі танкістаў, цалавалі. Цалавалі і плакалі. Плакалі многія ў натоўпе, сярод тых, хто ціснуліся вакол. Жанчына з запалымі жоўтымі шчокамі, прабраўшыся да Гогабярыдзе, не абняла яго, а беражліва, пяшчотна ўзяла руку Сандро і, пазіраючы заплаканымі вачыма, раптам пацалавала яе.

— Што вы робіце?! — сумеўся лейтэнант.— Не трэба руку!.. Нядобра.

Жанчына пакруціла галавою:

— Чаму нядобра? То ж не панская рука.— І яна зноў пацалавала.

Не слухаючыся больш загаду камандзіраў, з машын адзін за адным выбіраліся іншыя танкісты. Да натоўпу, што акружыў Гогабярыдзе, падышоў Колышаў з некалькімі аўтаматчыкамі. Іх таксама акружылі. Многа вачэй — вясёлых, журботных, радасных, са слязьмі — глядзелі на лейтэнанта, на яго байцоў, і Колышаў, што заўсёды чула адгукаўся на людскія шчасце і бяду, ад душы радаваўся за людзей, за сябе, за сваіх таварышаў. Ён адчуваў бязмерную нянавісць да тых, хто загнаў сюды, за агароджу, мардаваў іх, гэтых знясіленых, спакутаваных нявольнікаў.

Перабіваючы адно аднаго, дапаўняючы, у вялікім хваляванні, людзі расказвалі пра сваё жыццё ў лагеры. Сюды былі сагнаны сем'і партызан, захопленыя ў розных вёсках. Ахоўнікі казалі, быццам іх збіраюцца вывезці ў Германію, але гэта хлусня, усіх тут нішчылі голадам і хваробамі. Не злічыць, колькі тут адправілі на той свет. Людзі паміралі так часта, што іх не ўпраўляліся хаваць. Кідалі ў яму дзесяткамі адразу... Многія памерлі, загінулі б і астатнія...

Натоўп раптам расступіўся, і да Гогабярыдзе піхнулі даволі старога згорбленага чалавека з раскудлачанымі, рэдкімі валасамі, з сінякамі на твары.

Двое задыханых, расчырванелых хлопцаў, што трымалі яго за рукі, расказвалі, перабіваючы адзін аднаго:

— Хацеў уцячы! Як усе кінуліся сюды,— пабег да дроту! Думаў, што цяпер не да яго!..

— Пад шумок, спадзяваўся, уцяку. Ах ты, скаціна арыйская!..

— Але мы з Косцікам адразу хапіліся! Каб не даць яму вылузнуцца! Зразу кінуліся ў яго хаўз! А ён — гэты вось — ужо, бачым, сігае да агароджы!..

— Як гусак! Падбег, хацеў пералезці,— а яна вунь якая, агароджа! Ён і завіс! Сам жа будаваў, стараўся, каб як вышэй... Тут мы яго з Андрэем і спусцілі ўніз!..

— Гэта шэф,— растлумачыў Гогабярыдзе хтосьці з натоўпу,— пан Кальбе!.. Адным словам, самы галоўны...

Колышаў здзіўлена прыгледзеўся да немца: цяжка

было паверыць, што гэты з выгляду мірны, баязлівы стары здольны быў на такую жорсткасць...

Рослая, з вузкім тварам дзяўчына падскочыла да шэфа, вымавіла пагрозна:

— А-а, папаўся, гадзюка падкалодная! Папаўся! Ну, глядзі ж! Папамучыў ты, неданосак сучы, людзей нашых, дык — глядзі ж! Круціся цяпер уюном!.. Мы пакажам табе!..

Шэф, спалохана азіраючыся, замармытаў штосьці, з чаго многія зразумелі толькі два словы: «кіндэр», «арбайтэн». Відаць, гаварыў, што ў яго ёсць дзеці, і прасіў, каб далі магчымасць працаваць.

— Бач, працаваць захацеў!.. А якую ж ты працу хочаш? Можа, зноў такую, як тут?

У натоўпе злосна засмяяліся. Каб дазволіў лейтэнант, з шэфам тут бы расправіліся — столькі накіпела ва ўсіх супраць гэтага стварэння. Але Гогабярыдзе рашуча заявіў: без суда нельга. Патрэбен суд па закону. Жанчыны нездаволена зашумелі, але Гогабярыдзе быў непахісны.

Танкістам хацелі паказаць некалькі цесных, збітых спехам баракаў, у якіх людзі спалі і паміралі, пакой, дзе іх дапытвалі, але лейтэнант сказаў, што не можа затрымлівацца. Чакаюць у роце.

Яны і так позняцца! Адсталі ад роты.

Адчуваючы на сабе ўсеагульную ўвагу, Сандро выбраў з натоўпу дзесятак мужчын і жанчын, аб'явіў, што яны — канвой. Тут жа камандным тонам аддаў Колышаву распараджэнне перадаць арыштаваных канвою. Назначыўшы старшага, далікатна і строга загадаў узяць ахоўнікаў пад варту, перадаць першай жа пяхотнай часці арміі або партызанам. Для аддання суду па закону. Прасачыў патрабавальна, як рабілі перадачу.

У гэтым канвоі аказаўся і Сцяпан, брат хлопца, які прывёў сюды танкі. Сандро здагадаўся пра гэта, убачыўшы малога побач з дробным, ціхім чалавекам гадоў семнаццаці. У гэты момант Сандро ўспомніў і малога.

Ён запытаў, з кім хлопец падасца назад: з танкістамі ці з братам. Хлопчык яўна завагаўся, але абавязак перамог; хоць і няпроста, хлопец рашыў застацца з братам. Сандро, каб чулі ўсе, голасна аб'явіў ма-

лому падзяку ад камандавання — за дапамогу пры выратаванні зняволеных з лагера... Хлопец слухаў гэта чырвоны, збянтэжаны, але быў шчаслівы...

Аддаўшы чэсць старшаму канвою і ўсім вызваленым, выразным, прыгожым галасам Сандро загадаў, каб танкісты і аўтаматчыкі занялі свае месцы. Лёгка, спрытна ўзняўся на вежу, да пояса апусціўся ў яе. Развітваючыся, [redacted] урачыстым выглядам прыклаў выпрастаныя пальцы правай рукі да шлема. Узорна аддаваў чэсць, развітваўся [redacted] машыны.

Машына крута развярнулася на месцы, і разам з ёй павярнуўся паўкругам Сандро. Не апускаючы рукі. Не варухнуўшыся.

Калі маторы загрукаталі мацней, людзі пачалі адступацца. Адкрылі дарогу, ледзь танкі крануліся.

Колышаў ужо з дарогі азірнуўся на лагер, узрушана падумаў, колькі яшчэ чакае такіх людзей! Ён думаў пра гэта не ў першы раз, але цяпер, калі сам убачыў іх, калі нямала перажыў, даўняя думка здалася яму як новая. Можа, яна і сапраўды была новая, ён адчуваў яе інакш, чым раней, глыбей і мудрэй.

Для іх варта рызыкаваць жыццём,— не падумаў, а сэрцам адчуў Колышаў. Можа быць, упершыню тут ён як след зразумеў, што такое салдацкі абавязак...

Выходзіць, раней ён быў нібы сляпы, не бачыў нічога за сабой... «Напэўна, я не баязлівец. Я проста не ведаў усяго, што трэба...»

У твар Колышаву біў вецер.

## 2

Усцешаны, расчырванелы ад бегу Колышаў ступіў да Якавенкі, далажыў, што па загаду камбата прыбыў у распараджэнне лейтэнанта.

— Добрэ... Мэні камбат вжэ казаў, шчо прыйшле...

Колышаў павінен быў атрымаць машыну,— раней шага камандзіра паўгадзіны назад раніў нямецкі аўтаматчык, які прытаіўся на ўскраіне сяла.

Гэтае назначэнне, ад якога Колышаў адразу забыў сваю крыўду на лёс, было для лейтэнанта крыху нечаканым.

Пасля здарэння з Рыбаковым яму здавалася, што

камбат расчараваўся ў ім і наўрад ці даверыць яму экіпаж і танк.

— Ну, от, дам я тобі, прыміром, машыну,— загаварыў да Колышава Якавенка,— а ты не забуў, як догледжуваць іі, як кіруваць нэю?

— Так точна, таварыш гвардыі лейтэнант,— не забыў. Ды хіба ж можна забыць гэта?!. Можаце не сумнявацца!

Колышаў з надзеяй і просьбай глядзеў на Якавенку.

— А цэ вжэ я побачу. А до таго, як сісты ў машыну, слухай і помні. Па-першае, я не люблю людэй, каторыя гультуюць або абы-як адносяцца до дзіла...

Якавенка памаўчаў, нібы даваў Колышаву час адчуць усю важнасць таго, што паведаміў яму.

— Па-другое,— пайшоў далей,— я нэ знаю, шчо таке слово — «нэ могу». Для мэнэ такого слова нэма. Прошу цэ запомніць і выкінуць таке слово. Воно ў нашым дзілі нэпатрэбнае. Я знаю тольki такі слова — «есць», «будэ ісполнено»!.. Зрозуміў?

— Так точна.

— Нэ забудэш?

— Не забуду.

— Ну, як зрозуміў і нэ забудэш, ходзім до твоіх людэй.

Хутка рушылі далей. Калі Колышаў заняў сваё месца ў машыне, калі перадаў каманду рушыць, ён адчуў сябе самым шчаслівым чалавекам.

Вось ён зноў у машыне, у сваёй машыне. І гэтыя, яшчэ так нядаўна чужыя хлопцы, якія гатовы выканаць кожны яго загад,— яго экіпаж. Экіпаж лейтэнанта Колышава!

Абапал машыны беглі вузлаватыя дубы, шызыя танклявыя грабы, густыя спляценні арэшніку.

За лесам выхапілася поле, потым наблізіўся забалочаны луг, за ім раптам зажаўцелі пясчаныя зыбучыя гурбы. У пяску танк асеў і, грузнучы, замарудзіў рух. Пайшоў цяжка, зарычаў маторам...

А Колышаў услухоўваўся ў гукі, якія чуліся ў навушніках, і востра ўглядваўся ў прасцяг перад сабой. Колькі часу ён быў без машыны? Многа... Але хіба той час прапаў марна? Хіба Колышаў сеў у машыну такім, як тады?..

Многія не ведаюць гэтага. А камбат, відаць, ведае. Недарма ж камбат паслаў яго сюды...

«Я яшчэ пакажу сябе!»

3

Здарыўся прыпынак. Маторы «трыццацьчацвёрак» сціхлі, і стала чуваць, як чырлікаюць неўтаймаваныя нават спёкаю птушкі, як у ценю тонка і цягуча гудуць камары.

Пад'ехалі аўтамашыны з палівам. Ледзь толькі яны наблізіліся да першых машын, танкісты пачалі звыкла прыладжваць да паліўных бакаў шлангі, па якіх вось-вось пальецца газойль.

Якавенка папрасіў механіка:

— Паглядзі за машынаю! Запраў.

Лейтэнант лёг у цяньку, поўным халадку і свежасці. Ах, да чаго ж прыемна выпрастаць спіну, падыхаць чыстым паветрам! Ён пачуў знаёмы несціханы звон навокал: звінелі пчолы, нейкія казюлькі, сляпні. Так звінела калісьці на сенажаці або на полі, калі ў спякотны дзень ён зморана лажыўся на зямлю...

Пасля таго як Якавенка патросся ў машыне суткі, яму здавалася, што і зямля, да якой ён прыпаў, таксама гайдаецца.

Пад гэтае калыханне, чуючы ціхі, санлівы звон, ён заснуў. Перастала і спіну ламаць, і боль у галаве знік.

Ён праспаў якіх дзесяць хвілін, як яго прыйшлі будзіць. Ён усміхаўся праз сон: снілася, нібы ён ехаў на камбайне па неабсяжным стэпе, сярод ласкавай, пакорлівай пшаніцы. Калі яго сон перарвалі, ён не мог нічога ўспомніць больш, акрамя таго, што з ім стаяў поруч Мішка, сынок...

— Ротны выклікае, таварыш гвардыі лейтэнант.

Навокал па-ранейшаму не змаўкаў руплівы ціхі звон. Якавенка ўстаў і пайшоў да машыны,— камандзір роты загадаў вывесці ўзвод наперад, да вышыні.

Неўзабаве лейтэнант быў каля вышыні. Тут акрамя новага камандзіра роты, старшага лейтэнанта, ён убачыў Аляксея Лагуновіча і лейтэнанта, афіцэра сувязі брыгады. Недалёка ад іх стаяў брыгадны бранявік.

Аляксей расказаў Якавенку, што паветраная разведка корпуса знайшла справа нядаўна пабудаваны немцамі мост. Палкоўнік загадаў Аляксею зараз жа кінуць туды роту і захапіць гэты мост. Каля моста ёсць свежыя нямецкія акопы і дзве ці тры зеніткі. Гогабярыдзе, які з разведкай пайшоў у іншым кірунку, толькі вось перадаў, што пераправа там спалена.

— Ты будзеш у галаве роты... Галоўнае, Якавенка,— мост! Не даць ім узарваць ці спаліць — вось што галоўнае... Калі захопім мост, прарвёмся на той бок, калі не,— відаць, засядзем на гэтым беразе. Рэчку, хоць яе, здаецца, і пераплюнуць можна, без моста, разумееш, не фарсіраваць. Не падступіцца да яе — бераг забалочаны. Уброд не пяройдзеш.

— Розумію!

Калі рушылі, Якавенка падумаў задаволена — паспаў хвіліну, а так палягчэла. Ні стомы, ні болю ў галаве!

Быстроў бачыў, як амаль адразу ж за ўзводам Якавенкі наперад, пылячы, спяшаючыся, прайшлі яшчэ танкі — уся рота.

Хутка прымчаў у танку палкоўнік Бяссонаў, выклікаў да сябе старшага лейтэнанта. Штосьці меркавалі разам, звязваліся з некім па рацыі. Чакалі.

Хутка падцягваўся ўвесь батальён. Падобна было, рыхтаваўся новы скачок.

Быстроў і зараджаючы Касцючэнка, седзячы ля машыны, мірна гаманілі. Пра што прыйдзецца: як звычайна на прыпынку, які ў любы момант можа скончыцца.

— Вот, брат, малайчына — Сонцаў...— сказаў Касцючэнка Быстрову.— Не марнуе часу. Сапе... Сны бачыць...

— Набіраецца сілы для новых баёў.

Сонцаў сапраўды спаў, проста ля сваіх рычагоў. На маршы яму, вадзіцелю, даставалася больш за іншых: увесь час даводзілася працаваць, нельга было на хвіліну задрамаць, як кулямётчыку ці камандзіру гарматы. І днямі, і начамі, калі рота ішла, Сонцаў пільна сачыў за дарогаю, за кармой пярэдняй машыны. Але на прывале, ледзь машына спыніцца, ён у мо-

мант валіўся ў дрымоту. Галава падала на грудзі, Сонцаў драмаў.

Быстроў кпіў не раз з таварыша:

— Табе, брат, трэба лячыцца, па ўсіх прыкметах у цябе гэта з хваробы — санлівасць! Страшная гэта для вадзіцеля загана! У сто разоў горш за курыную слепату. Едзеш тут з табой, і страх бярэ, як бы не ўваліцца куды — у раку ці балота. Нырне з тваёй ласкі машына — успамінай, як звалі цэлы экіпаж! Прызнацца, я дык думаю на другую машыну папрасіцца. Ад бяды далей...

— Ну і прасіся. Шчасце якое!..

Спіць Сонцаў наўздзіў чуйна, і ледзь толькі хто клікне яго ці загуркоча поблізу матор, прачынаецца.

— А я не магу заснуць. Зайздрошчу проста такім,— прамовіў Касцючэнка, стомлена пазіраючы на Быстрова.

— Эх, гэта што,— прыплюшчыў спакойныя вочы Быстроў.— Вось пад Ленінградам было, помню. Зімою, якраз у самым пачатку сорак трэцяга. Батальён там наш прарваўся ў нямецкі тыл. А пяхоту немцы адрэзалі, не дапусцілі... Занялі мы лагчынку там адну, у кругавую абарону сталі, трымаемся... Загад маем — чакаць падыходу пяхоты. Вось мы і чакаем. Адны суткі чакаем — пяхоты няма, другія чакаем — няма, усё не можа прабіцца! А навокал — фрыцы. З усіх бакоў цікуюць. Зазявай, задрамай — дык у момант на той свет адправяць... Ну, мы, вядома, як ты здагадваешся, стараліся лепш іх саміх туды адпраўляць. Як толькі пачне высоўвацца там гарматка на ўзгорак,— адзін паварот, другі, тумблер — і няма яе. Проста да чарцей, на той свет, смалу вазіць!.. Бранябойшчык — чарга адна і — туды ж... Налаўчыліся біць, як снайперы. Тады я і сам навучыўся, як трэба з гарматкай абыходзіцца. Ліха без дабра не бывае... Адным словам, пяцёра сутак не спалі!

— Цягавітае стварэнне — чалавек. Прывыкае да ўсяго, проста аж дзіву даешся...— адгукнуўся разважліва Касцючэнка.

Касцючэнка тут жа запярэчыў сам сабе.

— Хіба толькі чалавек? — Ён, відаць, штосьці ўспомніў, пажвавеў: — У нас, калі мы стаялі ў Забалоцкім лесе, карову прывучылі ў равок хавацца...

— У які равок?

— А самы звычайны. Ад бомб і снарадаў. Адукаваная, скажу вам, была карова!.. Ледзь толькі пачуе блізкія выбухі, задзярэ хвост і ляціць з усіх сіл да свайго раўка. І ніколі не памылялася: заўсёды на сваё месца!.. Там да яе быў прыстаўлен даглядаць адзін партызан — Лабуцін па прозвішчу. Пажылы ўжо чалавек, жывёлаводам быў раней, здаецца. Ён тую карову пасвіў, чысціў і даіў. Мірнай прафесіяй, сказаць, займаўся... Яго ў нас жартам празвалі «Даярка і пастух», як у кіно. Дык гэты «даярка» аднойчы, калі напалі «юнкерсы», заляцеў у равок да дзяўчат са шпіталя, кіламетры за два ад свайго. А карова прыбегла ў свой...

— А можа, ён знарок памыліўся! Нешта ж вельмі выгадна — да дзяўчат са шпіталя...

Абодва засмяяліся.

У гэты час пачуліся прыглушаныя далечынёй выбухі. Быстроў сказаў, што страляюць з «трыццацьчацвёрак».

— Узвод Якавенкі...— як бы пацвердзіў яго словы Касцючэнка.

Яны моўчкі слухалі. Выбухі гучалі часта, часам зліваючыся. Было чуваць, што на стрэлы дзвюх-трох нашых машын б'юць некалькі варожых гармат. І дзіўнай здалася хвіліна цішыні, што наступіла там...

Раптам з далечыні данёсся новы, мацнейшы выбух. Гэта быў ужо не стрэл. Камандзір гарматы і зараджаючы трывожна пераглянуліся.

Што гэта?

4

Якавенка выскачыў з машынай з-за гушчыні алешніку і раптам непадалёк між зяленіва берагоў убачыў чыстую люстраную пройму вады і мост.

Гэта была рака. Рака і — мост.

Якавенка на міг прыпыніў танк. Ісці на мост адразу было рызыкоўна.

Ён угледзеў: там, на вышэйшым заходнім баку, адразу за мостам, уздымала ствол угару зенітка. Мільгнула перасцярожлівае: ці няма там і процітанкавых

гармат... Але самым галоўным, што стрымлівала Якавенку, было меркаванне, што мост можа быць мініраваны: ускочыш на яго і паляціш у неба. На гэтым баку, праўда, мутісіліся яшчэ постаці гітлераўцаў, craраліся дабегчы да моста і перабрацца на другі бераг. Можна было б прабіцца на мост разам з імі. Але на тым баку не пашкадуюць нічога, каб затрымаць танкі. Узарвуць і сваіх.

Па тым, як замітусіліся на другім баку, разбягаючыся па акопчыках, Якавенка здагадаўся, што танк з'явіўся для іх нечакана...

Гэта як бы падагнала Якавенку. Ён перастаў вагацца. Лейтэнант падумаў, як важна пераправіцца на той бок, учапіцца за другі бераг, уратаваць мост. З той хвіліны флегматычны, марудлівы Якавенка нібы пераіначыўся: думкі і рухі яго сталі на дзіва хуткімі.

Ён штурхнуў у плячо камандзіра гарматы, паказаў тры сагнутыя пальцы, што значыла «тры асколачныя», і, прыціснуўшы да горла ларынгафон, крыкнуў іншым камандзірам машын:

— Рабіць, як я!

Гармата, здрыгануўшыся, вогненна зіхнула. Гарачая, з залацістым водсветам гільза, што едка дымілася, паляцела ўніз. Зараджаючы, з круглымі ад непакою, трывожнымі вачыма, пахапліва падаў у патроннік новы снарад.

— Рыбакоў! На мост! — выдыхнуў Якавенка.

Машына рванулася так рэзка, што лейтэнанта з вялікай сілаю кінула назад, ён ледзь утрымаўся на сядзенні.

Рыбакоў вёў танк на мост. Дарога з ямамі, з каляінамі, з зелянінаю травы бегла ўсё хутчэй, ліхаманкава ляцела пад танк, пад гусеніцы, ляцела з такой хуткасцю, што неўзабаве ўсё на ёй поблізу злілося ў імклівую, імпэтную віхурнасць, якая біла і біла насустрач. У гэтай віхурнасці Рыбакоў на момант угадаў лазовыя кусты, што імчаліся, паслухмяна расступаліся абапал дарогі.

Збоку лязом востра бліснула паска вады і амаль у той жа момант знікла. Праз міг яна заяснела зноў ужо вялікім прасцягам.

Мост падбег, вырас, пашырэў...

На «трыццацьчацвёрцы» няспынна працавалі абод-

ва кулямёты: вежавы і лабавы. Усю сваю агнявую моц машына скіравала на той бок. Танкісты абстрэльвалі бераг, стараючыся падавіць супраціўленне гітлераўцаў і адрэзаць ад іх мост.

Немцы, якіх заспелі на гэтым беразе, адны кінуліся ўбок, ратуючыся ад куль, другія, ашалелыя ад жаху, пабеглі проста перад танкам да моста.

Рыбакоў, амаль не збаўляючы хуткасці, з лёту, узвёў машыну на драўляны насціл, бярвенні якога адразу затрэсліся і застуганелі. Мелькам заўважыўшы, як пабеглі па баках поручні, моцна сціскаючы пабялелымі рукамі рукаяткі рычагоў, ён трывожна падумаў: толькі б не сарвацца ў ваду! Праскочыць бы хутчэй!..

Вось і перастала грымець унізе. Бераг!..

Ні Рыбакоў, ні хто іншы з экіпажа яшчэ не ўправіўся адчуць хоць бы першай радасці ад гэтай удачы, калі справа, з хмызняку, ударыла адна, другая гармата.

Якавенка загадаў развярнуць машыну лобам да гармат, падавіць іх. Ён бачыў, як яго камандзір гарматы, горбячыся, прыпаў да гумавага наканечніка акуляра, ухапіўся за ручку паваротнага механізма. Амаль у тую ж хвіліну лейтэнанта штосьці моцна штурхнула, у вежы пачуўся моцны трэск. Вежавы з енкам жаху і болю схапіўся за плячо. Яно, заўважыў Якавенка, дымілася!

Баявое аддзяленне адразу напоўніла страшэнная гарачыня. Якавенка ўбачыў перад сабою іскрыстыя, сляпуча-белыя язычкі полымя, што прагна пабеглі па сценцы вежы. Ён заўважыў, што адусюль, збоку, знізу, спераду, на яго клубамі рыне, сціскае яго густы чорны дым, адчуў, што дым ірвецца ў рот, забівае дыханне, душыць.

«Тэрмітны снарад!..»

Якавенка рвануўся, каб стаць на сядзенне, выбрацца з вежы,— люк быў адчынены,— але ад дыму, ад гарачыні яго цела налілося такой неадольнай млоснасцю, што зрабілася непаслухмяным, бяссільным. Прыкрыўшы далонню твар, які жахліва пякло ад полымя, ён схапіўся другой рукой за край люка і з нечалавечым намаганнем стаў падымацца ўгару. Ён зняў руку з твару, ён ужо быццам не чуў болю ад апёку,

усе думкі, уся сіла, усё было цяпер для аднаго,— падняцца ў люк, вырвацца з гэтага жару, з гэтага дыму, з нясцерпнай пакуты. Ён падняўся і выбраўся б, напэўна. Але да ўсяго ў яго, аказалася, была перабіта нага, і рана гэтая знясільвала яго ўшчэнт. Ужо амаль выбраўшыся з люка, ён, аж скрыгочучы ад страшнай няўдачы, бяссіла аб'ехаў уніз.

Спрабуючы зноў падняцца, ён заўважыў, што на ім задымілася і ўспыхнула вопратка.

Поўнае няўтрымнай прагі вырвацца, збіраючы рэшткі сілы, не трацячы адзінай надзеі, упарта трымаючыся за яе, ніяк не хацела здацца, прымірыцца з непапраўнай бядою жыццё.

«Мішка, каласочак!.. Ганнуся!» — згадалася яму, згадалася такім жаданым, такім дарагім, што ён застагнаў ад болю, ад роспачы. «Мішук! Ганнуся!» — нібы клікаў ён нямымі, абпаленымі вуснамі, уставаў, браўся душою да іх, то з надзеяй, то з адчаем.

Ах, якімі любымі, якімі яснымі былі яны ў гэты момант, дзеці і жонка, як ірвалася да іх сэрца. І раз, і другі цягнуўся Якавенка да люка, спрабаваў выбрацца з дымнай гаркаты, з задухі, не верыў усё, што гэта — непапраўнае, канец,— цягнуўся і кожны раз бяссіла аб'язджаў уніз.

Ад спёкі, ад слабасці, ад адчування бездапаможнасці ў галаве яго туманілася і блыталася. Туман быў нясцерпна гарачы, такі пякучы, што думкі ў ім вялі, гінулі, гарачы туман адзін поўніў непаслухмяную, неадольна пацяжэлую галаву. Якавенка траціў прытомнасць.

У імгненным пробліску яснасці ва ўяве яго зноў паўстала жаданае: Мішка абдымае за шыю!.. Як ён цягне ўніз!.. Так важка, што не ўтрымацца!.. Потым на міг у вачах успыхнула ўбачаная здалёк істужка рэчкі, якая здалася цяпер чырвонай... Зноў мільгануў твар Мішкі... Гэта было апошняе.

Якавенка, што ляжаў грудзямі на сядзенні, ужо нічога не цямячы, курчачыся ад спёкі, варухнуўся і ўпаў у полымя.

Удалося выратавацца толькі Рыбакову. Зразумеўшы, што здарылася, ён спрытна вынырнуў з люка і пра-

бег згарача метраў пяцьдзесят да рэчкі. Тут, зачапіўшыся за штосьці, Рыбакоў спатыкнуўся і ўпаў.

Твар яго і асабліва рукі былі абпалены, вопратка на ім тлела, але Рыбакоў не заўважаў гэтага, ён глядзеў, як з вежы, круцячыся, валіць чорны дым.

Ля машыны нікога не было відаць. Выскачыў яшчэ хто-небудзь ці толькі ён адзін?

Можа, там дапамагчы трэба каму-небудзь? Рыбакоў напружана ўзняўся на руках. Не, таму, хто не выскачыў, дапамагчы цяпер нельга...

Зямлю ўраз страсянуў грымотны выбух. У паветра паляцелі важкія кавалкі разарванай брані, адзін з іх грымнуўся недалёка ад Рыбакова. Гэта ўзарваліся снарады — у машыне быў яшчэ амаль не пакарыстаны боекамплект.

Угару ўзнялося белае высокае воблака.

Выбухнулі па́ліўныя бакі...

Рыбакоў у роспачы азірнуўся назад і ўбачыў, як па захопленым мосце імчыць сюды танк. Яшчэ адзін танк і чалавек шэсць аўтаматчыкаў былі ўжо на гэтым баку. Танк сек з гарматы і кулямётаў у бок бяроз, што раслі непадалёк, за прыбярэжнымі кустамі. Некалькі «трыццацьчацвёрак» падтрымлівалі яго з таго боку. Рыбакоў пачуў, як свішчуць нізка іх балванкі і асколачныя... Гэта як бы абудзіла Рыбакова.

Ён зноў павярнуўся да машыны, над якой уздымаўся дым, і дзіўна квола, па-дзіцячы, захліпаў.

Так хутка, раптоўна...

5

Лейтэнанта Якавенку і іншых танкістаў, што загінулі ў часе бою за мост, хавалі на беразе рэчкі, непадалёк ад месца гібелі. Тут, каля пераправы, ішоў паўтары гадзіны гарачы бой. Нарэшце гітлераўцы ўсё ж вымушаны былі адысці, уступіць важны плацдарм.

На пахаванне забітых сабраліся таварышы: адна рота танкістаў і байцы з мотастралковага батальёна. Іншыя танкісты і аўтаматчыкі былі ўжо наперадзе — нельга затрымлівацца.

Усе тут яшчэ жывуць боем. Некаторыя як бы не вераць, што тых, з кім яны прыйшлі развітацца, сапраўды няма. Як жа няма, калі толькі гадзіны дзве

назад яны з намі абмяркоўвалі задачу бою, жартавалі. Не, напэўна, якая-небудзь памылка! Можа, пераблыталі — можа, загінуў хто-небудзь іншы.

З краю шырокай ямы льсніцца горкамі свежая, яшчэ вільготная зямля. Ляжаць побач на брызенце, на разасланых шынялях танкісты і аўтаматчыкі. На дошчачцы, якая прыбіта да яшчэ неўкапанага слупка, напісаны іх прозвішчы, званні — сержант Каранькоў, механік-вадзіцель Ціхаміраў. Разам ішлі ў баях, разам ляжаць перад апошнім шляхам...

Якавенкі і трох чалавек з яго экіпажа няма. Згарэлі ўсе. Застаўся жывым толькі абгарэлы Рыбакоў, якога яшчэ ў часе бою павезлі ў шпіталь... Ад іншых чатырох — толькі попел. Чорны попел, загорнуты ў брызент... У адзін згортак...

Непадалёк, уперамешку з вупражкамі, што цягнуць цяжкія мінамёты, праходзіць пяхота,— адтуль хмурна пазіраюць на ўзарваную машыну. Плынь войск на другім баку ўсё гусцее...

Маўкліва і панура стаіць лес, які бачыў выбух полымя над танкам Якавенкі. Не шумяць, не трапечуць лісцем дрэвы, не рыпяць галіны — усё замоўкла. Яны маўчаць не таму, што вецер сціх, яны, здаецца, таксама журацца над магіламі...

Над свежаю ямаю — тры пахілыя ціхія бярозы,— схіліліся, нібы ад цяжару ўтраты...

Аляксей ступіў на горку зямлі і акінуў позіркам прыгнечаныя, засяроджаныя твары танкістаў і матастралкоў. Губы, як заўсёды, калі ён непакоіўся, нервова ўздрыгвалі, і твар здаваўся хударлявейшым, больш выпіналіся сківіцы. Шлем ён трымаў у руцэ.

— Мы з ім былі разам... Разам пражылі многа дзён... Прайшлі па многіх дарогах...— Ад хвалявання гаварыць было цяжка, думкі блыталіся. Ён нейкі час не мог адужаць цяжар у сабе, маўчаў. Заявіў непахісна: — Але яны заўсёды будуць з намі. Мы іх ніколі не забудзем!.. І мы павінны паклапаціцца пра іх дзяцей і матак! І жонак, канечне!..

Позірк Аляксея затуманіўся. Успомніўся нядаўні жарт Якавенкі: «За мэне бабуся дома моліцца кожны вечар, таму і кулі не бэруць». Аляксей праглынуў горкі камяк, што стаў у горле, задумаўся панура:

— Вось — толькі што былі з намі жывыя... Ця-

пер — толькі жменька попелу. Усё, што засталося... А маглі б жыць!.. Калі б засталіся на тым беразе. Пачакалі... Але не сталі чакаць. Разумелі, што нельга траціць мамент... І яны — пайшлі на рызыку, ірванулі сюды. І — загінулі, згарэлі... Але захапілі мост. Захапілі бераг. Плацдарм... Загінулі, але збераглі жыццё многіх з нас... Наблізілі ўсіх нас да перамогі... Загінулі, але выканалі свой абавязак! Загінулі — як героі...— Ён аб'явіў рашуча: — Я буду хадайнічаць, каб усім ім прысвоілі званне Героя Савецкага Саюза!..

Танкісты зварухнуліся, падтрымалі яго.

Ён зноў маўчаў. Адчуваў, што трэба яшчэ штосьці сказаць, важнае, нейкі заклік, закончыць належным чынам. І ён сказаў тое, што казалі ўсе іншыя, укладваючы як і другія ў гэта асабістае, жаданае:

— За Радзіму! За Сталіна! Смерць нямецкім акупантам!

Услед за Аляксеем на свежы ўзгорак падняўся павольна Быстроў. Ён пазіраў хвіліну пад ногі, на пясок, перакатваючы жаўлакі важкіх сківіц.

— Адсюль мы пойдзем далей без іх. Яны застануцца тут, на гэтым беразе, назаўсёды. Ім не давялося дайсці да таго паганага фашысцкага гнязда, з якога прыйшла да нас вайна... Яны хацелі адпомсціць Гітлеру і ўсім гітлерам, але ім не ўдалося дажыць да перамогі... Яны не дайшлі.— У голасе Быстрова пачулася ўпартасць: — Але я хачу сказаць, што мы споўнім іх жаданне. Мы — дойдзем!

Быстроў хацеў яшчэ штосьці сказаць, але раптам ускінуў сціснуты кулак і грозна патрос ім у бок ворага...

Забітых загарнулі ў шынялі, у брызент і пачалі па адным апускаць у зямлю. Апусцілі ў магілу попел згарэлых...

Салдаты, афіцэры ўзнялі ўгару аўтаматы і пісталеты — прагучаў развітальны салют.

У магілу жменя за жменяй насыпаліся грудкі вільготнага пяску...

— Гвардыі лейтэнант Колышаў!

Колышаў хутка падышоў да Аляксея і, казырнуўшы, запытальна зірнуў на камбата, чакаючы загаду.

«Як ён пасталеў!» — заўважыў упершыню Аляксей.
— Камандзір узвода Якавенка загінуў... Пакуль прышлюць новага камандзіра, загадваю вам прыняць...— прамовіў Аляксей і на хвіліну запыніўся.
Яму раптам успомнілася зялёнае поле на Смаленшчыне, блакітны майскі дзень, калі на тактычных занятках гэты ружовашчокі юнак першы раз «замяніў» Якавенку. «Якое жорсткае супадзенне!»
Аляксея раптам апанаваў жаль. Ледзь не расплакаўся. Ледзь стрымаў сябе. Хто тады мог ведаць, што яно так здарыцца!
— Будзеце часова за камандзіра ўзвода...
Колышаў сумна адказаў:
— Ёсць!

## 6

Магільны ўзгорак знік за паваротам дарогі. Над ім цяпер хіліліся ў горы, журыліся адны ціхія бярозы.
Вось і Якавенкі няма. Колькі таварышаў пахаваў Аляксей за вайну. За снежным Донам, пад Курскам, на Смаленшчыне. І тут, на роднай зямлі, ёсць магілы сяброў...
Ён прыгадаў, як сам ледзь не загінуў учора,— як нечакана вынырнуў з-за страхі нахабны «месершміт», як раптам зіхнула перад вачыма, аглушыла, ударыла, кінула яго на зямлю.
Адкінуты на спіну, глухі, Аляксей адчуваў, што на яго ападаюць камякі зямлі.
Камбат паспрабаваў падняцца. З «трыццацьчацвёркі» саскочыў Быстроў, устрывожана падбег да яго:
— Што з вамі?
— Нічога, здаецца...— Аляксей адвёў руку сержанта, што хацеў падтрымаць яго, і, хістаючыся, ступіў да машыны. Каля каткоў — кінулася ў вочы — ляжала ссечаная асколкам бярозавая галіна...
Адганяючы яшчэ вострыя, даўкія ўспаміны пра ўчарашняе здарэнне, Аляксей сказаў сержанту, які сядзеў побач:
— Ты ведаеш, Быстроў, што гэта за зямля перад намі?..
Быстроў зірнуў на Аляксея, потым перавёў позірк туды, куды глядзеў старшы лейтэнант. Непадалёк па-

чынаўся невялічкі, звычайны лясок, да якога падступала такое ж звычайнае поле. Пры ўзлессі было некалькі кінутых немцамі аўтамашын.

— Вось думаю — колькі крыві праліта за яе? За нашу зямлю... За гэтую дарогу, за поле, за бярозу...

Быстроў адчуў, што камбат надзвычай узрушаны. «За Якавенку, відаць, перажывае»,— падумаў ён.

— Што там гаварыць пра кутузаўскіх салдат, гэта здаецца далёкім мінулым. Дваццаць чатыры гады назад тут біліся нашы бацькі з белапалякамі. Мой бацька ваяваў тут з імі! А яшчэ крыху раней — з кайзераўцамі... І вось цяпер — тры гады нашай вялікай бітвы!

— Распладзілася пошасці ўсякай! — панура выказаў Быстроў.— Увесь час лезуць, як саранча!

— І каго сюды ні прыносіла: Карл-Швед і той нават прыпёрся быў,— сказаў Аляксей.

— Ну, нічога. Погані такой цяпер, пэўна, паменшае. Думаю, што тут кроў больш не будзе ліцца. Адвучым хадзіць сюды!..

— Трэба б адвучыць.

Аляксей з нейкім асаблівым пачуццём любові і спачування пазіраў у гэты час на пыльную дарогу, на здзічэлыя палі, якія толькі зрэдку радавалі вока палоскамі жытоў, на невысокія адхонныя ўзгоркі, пералескі, зацягнутыя сіняватай смугой, што, мяняючыся, праходзілі абапал дарогі.

Беларусь ты мая, Беларусь!..

## РАЗДЗЕЛ II

### 1

Насустрач імчала шасэ.

Яно часта было забіта калонамі машын, павозкамі, і тады пярэдняму бронетранспарцёру прыходзілася сігналіць, каб расчысціць дарогу. Так было ўвесь час — то шлях вольны, і ўсюдыход, беручы разгон, ляціць наперад, то зноў на дарозе ўзнікне затор, і прыходзіцца прабівацца, паўзці з хуткасцю пешахода.

Ледзь абагналі некалькі важкіх грузавікоў і цыстэрн, як бронетранспарцёр, які ішоў наперадзе, пад-

каціўшы да групы машын, што сабраліся на дарозе, зусім спыніўся.

— Даведайся, чаго сталі? — павярнуўся незадаволены Чарняхоўскі к Камарову.

Даручэнец вылецеў з машыны і, прытрымліваючы планшэт, з выглядам рашучым і строгім, пабег туды. Чарняхоўскі нецярплівым позіркам сачыў за ім.

Камароў неўзабаве, бегам жа, вярнуўся і далажыў, што дарогу перасякае група немцаў.

— Вялікая?

— Не, з папярэдніх дадзеных, таварыш генерал, невялікая. Але дакладна пакуль цяжка сказаць.

— Вышлі два бронетраспарцёры, разведай, мабілізуй на дапамогу салдат з грузавікоў. Зараз жа расчысціць дарогу!

— Есць, таварыш камандуючы,— прывычна казырнуў Камароў, ён намерыўся бегчы, але прыпыніўся на міг у роздуме.— А вы пакуль... вярніцеся, таварыш камандуючы...

— Не затрымлівайся!

Камароў кінуўся зноў к бронетранспарцёру. Чарняхоўскі, выйшаўшы з машыны, бачыў, як дзве прыземістыя зялёныя машыны з салдатамі пачалі прабівацца праз затор.

Скора з Чарняхоўскім параўняліся тры грузавікі з супрацьтанкавымі гарматкамі на прычэпах, і ён загадаў ім ісці таксама наперад. Слухаючы гукі бою, сярод якіх ён пазнаваў знаёмую кулямётную скорагаворку бронетранспарцёраў, Чарняхоўскі адольваў у сабе звыклае імкненне кінуцца туды, узяцца кіраваць самому; ён помніў: не яго гэта быў бой, ён не меў на бой гэты ніякага права.

Яму аставалася адно: стаяць з генералам Макаравым, чакаць, калі наперадзе сціхне і можна будзе ехаць далей. Ледзь страляніна сціхла, ён сеў у машыну і загадаў ехаць.

Камароў, якога яны падабралі з бронетранспарцёра, што ішоў насустрач, седзячы ў машыне камандуючага, увесь час насцярожана азіраўся па баках,— непакоіўся, як бы немцы не паявіліся зноў.

Але да ВПУ дабраліся без новых прыгод. Сяло, у якім падрыхтавалі домік для камандуючага, здалося незвычайна ціхім і спакойным; яно ўсё зелянела сада-

мі, клёнамі і ліпамі. Дом стаяў недалёка ад ускраіны, блізка былі відаць палоскі бульбы, збажыны, дарога цераз поле.

Двор і ганак былі чыста падмецены.

— Сувязь наладжана? — запытаў Чарняхоўскі лейтэнанта, які выбег насустрач яму.

Лейтэнант радасна, зухавата выпрастаўся.

— Так точна, наладжана, таварыш генерал!

— Добра.— Чарняхоўскі, што ступіў на ганак, на момант прыпыніўся, папрасіў: — Загадайце вады халоднай прынесці. На двор. Памыцца.

У першым пакоі, справа, стаяла шырокая руская печ з адбітым на вуглу тынкам. Чарняхоўскі, не спыняючыся, увайшоў у другі пакой, які павінен быў на час стаць яго рабочым прыстанкам, хутка азірнуўся: чыста, светла, на вокнах кветкі ў гліняных гаршках.

Зняўшы трубку тэлефона, ён выклікаў генерала Іголкіна, папрасіў прыйсці праз дзесяць хвілін. Некалькі разоў прайшоўся па пакоі, паварушыў плячыма, стараючыся размяцца пасля доўгай язды. Тады зноў вярнуўся на двор. Зняў кіцель, аддаў патрымаць лейтэнанту, расставіўшы ногі, каб не запырскаць боты, у майцы нахіліўся, працягнуў рукі да бачка, які трымаў ардынарац. З асалодай адчуў халодную свежасць вады, поўныя прыгаршчы лінуў на запылены твар. Мыліў рукі, цёр твар, шыю, ахвоча, люта, пакуль не пачуў ва ўсім бадзёрлівую чысціню. Лёгкі, вясёлы, пачысціў ад пылу боты, сінія, прыкметна пасівелыя за дарогу штаны. Узяў пачышчаны лейтэнантам кіцель.

У тым, як ахвоча стараліся памагчы яму, як глядзелі на ўсё, што ён рабіў сам, адчувалася, што яго не проста паважаюць, а любяць: Героя, камандуючага, які зрабіў тое, што ніхто дасюль не мог. Чарняхоўскі ж трымаўся так, нібы не заўважаў гэтага, нібы ўсё яно было звычайным. Адразу, ледзь надзеў кіцель, на хаду зашпільваючыся, пайшоў да ганка.

Начальніка аператыўнага ўпраўлення ён сустрэў акуратна адзеты, сабраны, стрыманы. Чулы, добра ўжо знаёмы з камандуючым, генерал Іголкін усё ж у момант заўважыў за яго нібы звычайнай дзелавітасцю стрыманую вясёласць, ахвотна адазваўся на яе. Як не парадавацца, калі ёсць прычына: такое выдатнае завяршэнне дзвюх важных аперацый. Ён весела разгар-

нуў карту, якую прынёс, карту з апошнімі, самымі новымі адзнакамі, коратка, з той дакладнасцю, якую, ён ведаў, любіў камандуючы, стаў дакладваць абстаноўку.

Чарняхоўскі стаяў за сталом, схіліўся над разасланай аператыўнай картай, рабіў свае адзнакі, і генерал Іголкін раз-пораз прыпыняўся. Ён бачыў, як камандуючы адзначыў алоўкам, дзе знаходзіцца конна-механізаваная група Аслікоўскага,— група падыходзіла да Бярэзіны, у раёне возера Палік. Чарняхоўскі, адзначаючы месца групы, акуратна накрэсліў ромб: адзначыў танкавы корпус Абухава, які ўваходзіў у групу Аслікоўскага. Прыкметна прайшлі наперад і часці ўсёй 5-й арміі генерала Крылова,— пяхота перадавымі атрадамі таксама ўжо набліжалася да Бярэзіны. Параўнаўча мала прабіліся наперад войскі на поўдзень ад магістралі, дзе наступаў 2-гі гвардзейскі танкавы корпус генерала Бурдзейнага. Корпус яшчэ быў далёка ад вызначанага месца пераправы цераз Бярэзіну — каля вёскі Чарняўка. Асабліва запаволілася наступленне ў 5-й гвардзейскай арміі: 29-ты танкавы корпус акрамя ўпартага супраціўлення ворага затрымлівалі балоты і бездараж, 3-ці гвардзейскі танкавы корпус вёў упартыя баі ў раёне магістралі...

З таго, што паведаміў у гэты дзень начальнік аператыўнага ўпраўлення, найбольш узрушыла Чарняхоўскага зводка пра агульныя вынікі аперацый пад Оршай і Віцебскам, з пільнай увагай углядваўся ён у ліст, перададзены генералам. Ліст быў увесь запоўнены лічбамі, якія багата гаварылі: лічбы забітых, узятых у палон, знішчанай і захопленай тэхнікі ворага. Чарняхоўскі нялёгка адарваў позірк ад ліста, нагадаў, каб не запазніліся з сутачнай зводкай у Маскву, патрабавальна пазіраючы ў вочы генерала, сказаў:

— Пётр Іванавіч, наша самая важная задача цяпер — у тым, каб часці, якія ўдзельнічалі ў баях пад Оршай і Віцебскам, як мага хутчэй падцягваліся да войск, што вядуць наступленне. Я прашу, каб гэта ведалі ўсе, каму пра гэта трэба патурбавацца.

Іголкін адказаў, што ён разумее важнасць задачы і будзе рабіць усё, што ад яго залежыць.

Калі ён выйшаў, Чарняхоўскі пазваніў начальніку штаба генералу Пакроўскаму, папрасіў удакладніць і праверыць зводкі пра вынікі баёў пад Оршай і пад Ві-

цебскам, параіўся пра блізкія справы. Выклікаў некалькі начальнікаў упраўленняў, даў распараджэнні на заўтра. Звязаўся з Люднікавым, Галіцкім і Глаголевым, павіншаваў, падзякаваў за вялікія перамогі, якіх дабіліся іх войскі. Папрасіў хутка падрыхтаваць і прыслаць матэрыялы на ўзнагароды. Адразу за гэтым запытаў, як ідзе перадыслакацыя войск на новыя рубяжы; патрэбаваў весці войскі самым фарсіраваным маршам.

Захоплены неадкладнымі, патрабавальнымі клопатамі, ён не заўважаў, як на вуліцы стала цямнець. Краем увагі, як далёкае, адзначыў момант, калі ўспыхнула ўгары і на стале святло, калі Камароў апусціў на вокнах чорныя палотны штор. Спыніў бег клопатаў позна ўвечары, намерыўся паслухаць радыё, але зірнуў на гадзіннік і ўбачыў: спазніўся. Звыкла павёў вачыма на рог стала: Камароў і на гэты раз не забыў — зводка Інфармбюро бялела на заўсёдным месцы. Ён узяў лісткі, пільна паглыбіўся ў напісанае: войскі Першага Беларускага выйшлі да Бярэзіны з поўдня ад Бабруйска, фарсіравалі Пціч і вызвалілі Глуск... Варожая абарона прарвана на глыбіню да 40 кіламетраў... Войскі выйшлі на аператыўны прастор... Ён пашукаў на карце Глуск: далёка за Бярэзінай, за Бабруйскам — адчуў быццам заклік не таптацца, паспяшацца ўперад: Ракасоўскі выбіўся на прастор, рушыць на Мінск, на Баранавічы. З гэтым, калі глянуў на Бабруйск, мільганула ў памяці добрае, даўняе — у Бабруйску была яго курсанцкая стажыроўка. Там упершыню ён вучыўся фарсіраваць Бярэзіну...

## 2

Што ён ні рабіў, за ўсім адчуваў жыццё свайго фронту. Мнагастайнае, турботнае, яно так ці інакш адгукалася ў ім, жыло ў неразрыўным перапляценні клопатаў, жаданняў, імкненняў. Яно поўніла яго ўсяго. Яно было яго жыццём. Думкі яго ўвесь час то сягалі да Крылова, то ляцелі да Бурдзейнага, то былі з Ротмістравым, то перамаўляліся з Галіцкім і Глаголевым. Думкі пра Аслікоўскага і Крылова хвалявалі нецярплівым чаканнем — блізка Бярэзіна, вось-вось

падыдуць. Бурдзейны выклікаў складаныя адчуванні: і павагу за зробленае, за тое, што рабіў цяпер, і турботную заклапочанасць. Корпус рашаў нялёгкія задачы: частка яго танкаў — 25-я гвардзейская танкавая брыгада,— пасля таго як корпус прарваўся з поўначы на магістраль, павярнула па магістралі на ўсход і з усходу павяла наступленне на Оршу. Другім брыгадам корпуса даводзілася не толькі прабівацца на захад, да Бярэзіны, але і няспынна адбіваць атакі нямецкіх войск, што насядалі ззаду, збоку, адступаючы пад націскам армій Глаголева і Другога Беларускага фронту. Чарняхоўскага турбавала, што корпус павольна набліжаўся да вызначанай Чарняўкі на Бярэзіне.

Усе апошнія дні вельмі трывожыла 5-я гвардзейская танкавая армія. 29-ты корпус буксаваў на балотах, на бездаражы, а 3-ці гвардзейскі корпус, што ішоў у паласе магістралі, увесь час вёў упартыя баі. Немцы чапляліся тут за кожны рубеж. Выбітыя з Талачына, імкнуліся стрымаць наступленне танкаў Ротмістрава каля станцыі Бобр, на рацэ Бобр, цяпер упарта не хацелі аддаваць Крупкі. Дробны раённы гарадок Крупкі быў, відаць, важным іх фарпостам, які прыкрываў подступ да Барысава, да Бярэзіны.

Чарняхоўскага гэтымі днямі нязменна вярэдзіла памяць пра Бярэзіну. Атуленая лазнякамі ды сасоннікамі, ціхая рэчка, якая некалі міла ўспаміналася ў зіхценні сонечных дзён у Бабруйску, даўно ўжо бачылася яму і ў іншым вобліку. Як рубеж абароны праціўніка, які трэба будзе, з большымі ці меншымі намаганнямі, адолець. Яшчэ да пачатку наступлення Чарняхоўскі ведаў, што на Бярэзіне ў немцаў — другі рубеж абароны; цяпер гэты рубеж усё набліжаўся, усё акрэсліваўся, усё больш турбаваў. Звілістая, з балацянымі ўсходнімі берагамі, вельмі нязручная для пераправаў, рака перэразала ўсю шырыню фронту ўперадзе. Усе дарогі, якімі ішлі войскі фронту, упіраліся ў раку, за якой узвышаўся вельмі прыдатны да абароны правы бераг. Бераг, на якім немцы спадзяваліся ўтрымацца...

Сярод новых і звыклых турбот, што няспынна ішлі, патрабавалі, нязменна жыло пільнае адчуванне, што ў тыле пярэдніх войск, між войск другога эшалона рушаць групы немцаў. Дробныя і буйныя, разрозненыя і

арганізаваныя, яны рабілі фронт падобным на слоены пірог: немцы, нашы войскі, немцы, зноў нашы. Асабліва многа немцаў было на поўдзень ад магістралі, між магістраллю і войскамі Першага Беларускага, клін якога выцягваўся пад Бабруйск, за Бабруйск. Тут былі магутныя скапленні варожых войск — недабітая, небяспечная яшчэ 4-я армія, адрэзаная ад 3-й танкавай арміі. Многа іх ля паўднёвай мяжы яго фронту, у паласе фронту, кожны момант такая сіла можа абрынуць на яго часці з фланга, з тылу, нарабіць бяды. Хочаш — не хочаш, трэба сачыць, паглядваць і ўбок. Турбота гэта, аднак, не толькі не стрымлівала яго: ён і ў сорак першым не губляўся ў падобным выпадку,— але яшчэ як бы падганяла, ён ведаў: самы лепшы сродак, каб зламаць іх зусім — наступленне, імклівае наступленне ўперад. Туды, дзе валы двух франтоў сыдуцца разам, закрыюць шлях на захад варожым недабіткам. Туды, куды яны падыдуць яшчэ больш аслабленымі.

У гэты дзень яго асабліва цешыла нязвыклая радасць. Скончана бітва пад Оршай. Орша ўзята. Сціхлі баі пад Астраўно. Пяць нямецкіх дывізій, акружаных пад Віцебскам, кончылі жыць. У тылы краіны цягнуцца натоўпы палонных. У палоне закончылася ваенная кар'ера вопытнага гітлераўскага генерала Гольвітцэра. Зацята біліся, каб вырвацца. Але не вырваліся. Аперацыя, якая каштавала столькі клопату і сілы, завяршылася. І завяршылася як нельга лепш.

Абедзве аперацыі да сённяшняга дня, да канца іх, турбавалі Чарняхоўскага не толькі тым, што за імі трэба было сачыць, кіраваць імі, а і адчуваннем, як дорага яны абыходзяцца ўсяму фронту. Як патрэбны сілы, што скаваны тут, войскам, якія ідуць уперад. Таму Чарняхоўскі з нецярплівасцю чакаў, калі там усё скончыцца. І цяпер, калі скончылася, адчуваў, быццам парваў важкія путы, што стрымлівалі хаду.

Ён нібы ў сабе самім адчуваў гэтыя магутныя вызваленыя сілы трох армій — 39-й, 11-й гвардзейскай, 31-й. Гэтыя магутныя сілы вось-вось павінны былі ўліцца ў войскі, што імкнулі да Бярэзіны, за яе. Праўда, у адзінае адчуванне радасці і палёгкі цвяроза е прымешвалася нездавальненне: пяхота падыдзе не так хутка, як трэба было б. Не першы раз ён шкада-

ваў, што стралковыя часці не маюць належнай манеўранасці. Цягнуцца ў пешых калонах. Столькі траціць даводзіцца з-за гэтага.

## 3

Наступны дзень пачаўся з таго, што, ледзь ён абуўся, прайшоўся па пакоі, явіўся Камароў, урачыста павіншаваў з днём нараджэння. Важна ўручыў новыя пагоны — з чатырма зоркамі: два дні назад Чарняхоўскаму прысвоілі званне генерала арміі.

Чарняхоўскі па звычцы зрабіў некалькі гімнастычных практыкаванняў, падаўся на двор, пахадзіць: у галаве пасля недаспанай ночы пабольвала. Ён пастаяў на ганку, жмурачыся ад яркага святла, пацёр далонню лоб, ступіў уніз. Задуменна пахаджваючы, ён заўважыў след аўтамашыны, успомніў, што праз дрымоту чуў на двары шум матора. Кудысьці пайшла машына. Пайшла і дасюль не вярнулася.

Ён папрасіў ардынарца, што стаяў каля хаты, сачыў за ім, паклікаць падпалкоўніка Камарова. Камароў у момант выбег, вясёлы, гатоўны да любога загаду.

— Аляксей Іванавіч, дзе машына?

Даручэнец, заўважыў Чарняхоўскі, чакаў не гэтага. Запыніўся, але схаваў неспакой, бадзёра адрапартаваў:

— У раз'ездзе, таварыш камандуючы.

— Куды паслалі?

Камароў момант маўчаў. Зноў схаваў неспакой.

— Так што — у Маскву, таварыш камандуючы...

— У Маскву? Чаго?

— Так што...— Даручэнец думаў, мабыць, як лепей адказаць.— Дзяцішкам вашым тое-сёе, таварыш камандуючы... З трафеяў...

— Што адправілі?

— Дваццаць банак кансерваў, таварыш камандуючы. І дзесяць банак джэму... Дзяцішкам. З трафеяў,— ухапіўся Камароў за раптоўную зачэпку.— Не з ваенторга.

— Ну, валадзіў — з трафеяў!..— паморшчыўся Чарняхоўскі. Строга, з той афіцыйнасцю, якая не зычыла нічога добрага, патрабаваў: — Чаму без майго дазволу?

— Так што — таварыш камандуючы, не хацеў турбаваць. З-за такой дробязі...

Чарняхоўскі бачыў: даручэнец не зводзіць вачэй, просіць зразумець. Не судзіць строга. Чарняхоўскі не адчуў літасці.

— Вось што, таварыш Камароў,— сказаў ён пасля важкага маўчання. Цвёрда, неадменна: — Вярніце машыну. Зараз жа.

Камароў яшчэ выцягнуўся гатоўна, але не скрануўся.

— Вінават, таварыш камандуючы...

— Што яшчэ?

— Яна — далёка, таварыш камандуючы...

Чарняхоўскі прыпыніўся на момант.

— Паслаць «ПО-2». Дагнаць і вярнуць.

Ён, даючы знак, што размова скончана, рэзка павярнуўся, пайшоў прэч ад даручэнца.

Тады ж ён убачыў, што на двор уваходзіць начальнік разведаддзела фронту, генерал Алёшын. Уваходзіць так імкліва і так рашуча, што Чарняхоўскі адразу адчуў: здарылася штосьці важнае.

— Таварыш камандуючы,— важныя навіны! — ледзь толькі прывітаўся, спяшаючыся, далажыў генерал.

Тон голасу генерала быў узрушаны, занепакоены, і Чарняхоўскі адчуў: тое, што адбылося,— непрыемнае і патрабуе неадкладных мер. Ён загадаў:

— Зойдзем.

Адразу хутка рушыў да ганка. Як толькі ўвайшлі ў пакой, Чарняхоўскі запытальна павярнуўся да генерала. Начальнік разведаддзела, сабраны, дзелавіты, адказаў:

— Таварыш камандуючы, разведка выявіла: праз Барысаў у кірунку на ўсход ідзе моцная танкавая калона праціўніка.

Чарняхоўскі нецярпліва зірнуў.

— Што за калона?

— Па нашых меркаваннях — 5-я танкавая дывізія. З-пад Ковеля.

Чарняхоўскі нахіліўся над аператыўнай картай. Позірк строгіх, уважлівых вачэй адразу знайшоў разрэзаны звілістай істужкай ракі напалам Барысаў, хутка пабег па рысках Мінскага шасэ, цераз гарбінку ка-

ля невядомай Лошніцы, да вядомых Крупак, да сіняй істужкі рэчкі Бобр. Пакуль дабег позіркам, вылічыў адлегласць — каля сарака кіламетраў.

Адлегласць для танкаў, па асфальце шасэ,— проста нікчэмная. Вядома, дывізіі спатрэбіцца час, каб падцягнуцца, разгарнуцца, падрыхтавацца. І ўсё ж,— небяспека, якую нясе дывізія,— вельмі блізкая; яшчэ трохі — і яна ўрэжацца ў часці Ротмістрава.

Чарняхоўскі адразу адзначыў сілу небяспекі, што раптам узнікла. Ён ведаў, што ў цэлым дывізія нічога змяніць не зможа, як не змаглі змяніць тыя, якія праціўнік кідаў раней пад Оршу,— і ўсё-такі ён не настройваў сябе на бесклапотнасць. Ён разам з тым ведаў, што дывізія можа нарабіць і нямала бяды, таму бачыў свой абавязак у тым, каб за лічаны час, што заставаўся, падрыхтавацца і сустрэць нямецкія танкі як належыць.

У галаве ў момант узнік план таго, што неабходна было зараз жа, не марудзячы, зрабіць. Як і кожны раз, калі раптам узнікала небяспека, Чарняхоўскі ў гэтыя хвіліны дзейнічаў вельмі разважліва і хутка. Генерал Алёшын, пра якога Чарняхоўскі нібы забыў адразу, бачыў, якім цвёрдым крокам пайшоў камандуючы да стала, як уладна ўзяў трубку тэлефона, загадаў звязаць яго з маршалам Ротмістравым. Пачуўшы голас камандуючага 5-й гвардзейскай танкавай арміі, коратка, стрымана, тым тонам, у якім чулася моцная воля, сказаў:

— Павел Аляксеевіч, прыміце неадкладныя меры. Наша разведка выявіла: праз Барысаў у вашым кірунку ідзе танкавая дывізія праціўніка.

Кароткай, дакладнай была і яго размова з камандуючым паветранай арміі, якому ён загадаў зараз жа накіраваць насустрач танкавай дывізіі бамбардзіровачную і штурмавую авіяцыю. За камандуючым паветранай арміі Чарняхоўскі выклікаў камандуючага артылерыі фронту: генерала Барсукова ва ўпраўленні не было. Чарняхоўскі аддаў загад намесніку камандуючага: паслаць насустрач праціўніку супрацьтанкавы артылерыйскі полк, самаходныя гарматы, аўтамашыны з сапёрамі. За лічаныя хвіліны ён звязаўся, аддаў распараджэнні генералу Родзіну, камандуючаму бранятанкавых войск, генералу Баранаву, начальніку

інжынерных войск фронту. Пазваніў дзяжурнаму афіцэру пры Маршале Савецкага Саюза Васілеўскім...

Пад канец ён загадаў генералу Іголкіну сачыць і дакладваць, як будзе разгортвацца бой з дывізіяй. Тады, паспакайнелы, з выглядам чалавека, што зрабіў неадкладнае, важнае, павярнуўся да генерала Алёшына.

## 4

Размова з Алёшыным была нядоўгаю. Увайшоў падпалкоўнік Камароў і паведаміў, што явіўся афіцэр сувязі са Стаўкі. Чарняхоўскі скончыў размову з генералам, выйшаў насустрач невысокаму чарняваму маёру, што ступіў у пакой.

Маёр уручыў пакет, на якім ярка вылучаліся барвова-карычневыя сургучовыя пячаткі.

Чарняхоўскі распісаўся, што атрымаў пакет, запытаў маёра, як ляцелася, што новага ў Маскве, ці доўга будзе ў штабе фронту. Маёр сказаў, што зараз жа павінен ляцець назад; Чарняхоўскі выклікаў Камарова, загадаў паклапаціцца, каб госця накармілі, правесці на аэрадром.

Калі маёр выйшаў, Чарняхоўскі вярнуўся за стол, з нецярплівасцю перацяў нажом прошвачку на канверце, акуратна разрэзаў край пакета. Прадчуванне не ашукала яго: пакет быў надзвычай важны — дырэктыва Стаўкі на далейшае разгортванне аперацыі. Ён адразу з пільнай увагай нахіліўся над аркушам паперы з выразнымі, дакладнымі радкамі. Радкі гэтыя абавязвалі яго Трэці Беларускі фронт з ходу фарсіраваць Бярэзіну і весці наступленне: часцямі левай групы войск — на Мінск, а правым крылом — на Маладзечна. Дырэктыва загадвала заняць Мінск не пазней 7—8 ліпеня. На Мінск скіроўваліся войскі ўсіх трох Беларускіх франтоў, прычым асноўная роля ва ўзяцці Мінска адводзілася Другому Беларускаму фронту. Трэці ж Беларускі, як і Першы Беларускі, узаемадзейнічаючы з Другім, абавязаны былі нанесці па сутнасці дапаможныя ўдары. Заняўшы Мінск, тры франты павінны былі завяршыць акружэнне 4-й арміі праціўніка. Стаўка патрабавала таксама, каб войскі фронту — правае крыло — разам з войскамі Першага Прыбалтый-

скага і з часткай войск Першага Беларускага — імклі-ва рушылі на захад, знішчалі рэзервы праціўніка, што падыходзілі да фронту,— зрывалі спробы праціўніка стабілізаваць фронт...

Перачытаўшы некаторыя радкі, Чарняхоўскі ўстаў і ўзрушана захадзіў па пакоі. Яго хвалявалі супярэчлівыя адчуванні. Ён адчуваў палёгку ад таго, што цяпер, калі ёсць дырэктыва, скончылася няведанне, якое непакоіла апошнімі днямі; цяпер — былі ясныя ўказанні на далейшае наступленне. Разам з тым было ў ім нездавальненне, што ўказанні гэтыя прыйшлі толькі цяпер, калі войскі вось-вось пачнуць фарсіраваць раку. Выклікала роздум тое, што тэрмін узяцця Мінска назначан быў без дакладнага ўліку рэальнага становішча; Чарняхоўскі быў перакананы, што рэальнае становішча войск, рэальныя магчымасці войск, тэмп наступлення даюць падставы ўзяць Мінск раней.

Роздум выклікала і тое, што задача фронту зноў ставілася на невялікую глыбіню, гэта не давала магчымасці загадзя паклапаціцца пра далейшае забеспячэнне аперацыі. Ён гадаў: чаму наогул Стаўка дае ўказанні такімі кароткімі, прыватнымі дырэктывамі, якія абмяжоўваюць камандуючых, у планаванні на далейшае, скоўваюць іх? Што будзе далей, якія задачы будуць пасля ўзяцця Мінска, акружэння 4-й арміі немцаў — яго турбавала няведаннем. У гэтым няведанні занепакоіла не надта прыемнае прадчуванне: можа здарыцца, пасля Мінска Другі Беларускі фронт адцісне яго фронт на поўнач, з асноўнага напрамку.

Але гэта глухая развага адступіла перад патрабавальным клопатам: трэба было адразу ж, не марудзячы, пачаць рабіць усё, што неабходна, каб выканаць распараджэнні Стаўкі. Праца чакала вялікая і важная, а часу — у абрэз. Чарняхоўскі рашуча адагнаў марнае думанне, цвёрдым крокам пайшоў да тэлефона. Звязаўся з членам Ваеннага Савета фронту генералам Макаравым, потым з начальнікам штаба фронту генералам Пакроўскім. Папрасіў абодвух зараз жа прыйсці да яго.

Генералы прыйшлі амаль адначасова і вельмі хутка. Чарняхоўскі запрасіў іх падсесці да стала, выняў са стала і паклаў перад імі аркушы з дырэктываю Стаўкі. Сам пакрочыў у суседні пакой, загадаў Кама-

рову нікога не пускаць да яго і не звязваць нікога з ім па тэлефоне. За выключэннем надзвычайнай патрэбы. Тады вярнуўся ў свой пакой, але не пайшоў за стол, а стаў наводдалек. Адтуль, разважаючы сваё, паглядваў, як генералы чытаюць, мімаволі спрабаваў адгадаць, што яны думаюць. Генерал Макараў чытаў, узлёгшы грудзямі на рукі, складзеныя на стале, увабраўшы шыю, увесь, здавалася, аддаўшыся чытанню, поўны імкнення ўсё спасцігнуць, дайсці да самых глыбінь. У добрым, паўнаватым, з гладка зачасанымі назад валасамі Макараве было штосьці юначае, курсанцкае. Генерал Пакроўскі, з голай, бліскучай галавой, сухаваты, толькі крыху сутуліўся, глядзеў у паперы востра і, было прыкметна, крытычна. Вузкія, з тонкімі куточкамі губы былі сабраны ў маршчынкі, твар выдаваў строгую праніклівасць.

Калі яны скончылі чытаць, Чарняхоўскі зайшоў за стол, сеў, падцягнуў аркушы дырэктывы да сябе. Глянуў на аднаго, другога, дзелавіта запытаў:

— Якія ёсць меркаванні?

Быў момант маўчання. Макараў, што сядзеў ужо выпрастаўшыся, варухнуўся, коса павёў дабрадушным позіркам на начальніка штаба. Шыя, крыху павярнуўшыся ў цесным каўняры, пачырванела.

— Першае меркаванне такое,— загаварыў ён паблажліва,— што часу на падрыхтоўку — з гулькін нос. Што штабу,— ён зноў крыху павярнуў шыю, скоса зірнуў на генерала Пакроўскага,— трэба адразу закасваць рукавы. І работаць, работаць...

— Так, часу — мала,— згадзіўся стрымана начальнік штаба. Чарняхоўскі ўлавіў у тоне яго голасу нездавальненне.

— Другое меркаванне такое,— зноў з той жа паблажлівасцю загаварыў пасля хвілінкі роздуму генерал Макараў,— што, здаецца, трэба добра паламаць галаву, каб абдумаць, як арганізаваць узаемадзеянне з Другім Беларускім. Які на столькі адстае...

Ён глядзеў на Чарняхоўскага так, нібы чакаў яго згоды. Чарняхоўскі стрымана кіўнуў: гэта — правільна.

— Трэба таксама, па-мойму, добра памаракаваць пра тое, як аберагчы левы фланг фронту. Пры такім становішчы. Адставанні суседа злева...

Чарняхоўскі згодна кіўнуў. Ён перавёў уважлівы позірк на начальніка штаба: загаварыў генерал Пакроўскі.

— У фронта на вызначаную глыбіню,— Пакроўскі гаварыў выразна, роўна, нібы дакладваў,— на мой погляд, ёсць два найбольш важныя і адказныя этапы. Першы — фарсіраванне Бярэзіны і ўзяцце Барысава. Другі — узяцце Мінска і завяршэнне акружэння 4-й арміі праціўніка. Я мяркую, што пры распрацоўцы аперацыі на гэтыя дзве задачы трэба звярнуць асаблівую ўвагу. І адпаведна нацэліць на гэта камандаванне войск. Фарсіраванне ракі на першым этапе, на маю думку, мае надзвычайнае значэнне таму, што, як нам вядома, Бярэзіна — рубеж, на якім праціўнік спадзяецца стабілізаваць фронт. У гэтым плане праціўнік, бясспрэчна, асобае значэнне надае Барысаву, які займае, па сутнасці, ключавую пазіцыю на магістралі. На рашэнне гэтых дзвюх задач, па маіх меркаваннях, і трэба звярнуць асноўную ўвагу на першым этапе...

— Я згодны з Аляксандрам Пятровічам,— падтрымаў Пакроўскага Макараў.— Барысаў будзе самым моцным арэшкам перад Мінскам, і яму трэба добры малаточак. Ударыць на ўсю сілу, разламаць і — выйсці на Мінск!..

— На другім этапе,— працягваў генерал Пакроўскі,— асаблівае значэнне маюць, вядома, узяцце Мінска і завяршэнне акружэння 4-й арміі праціўніка. Я мяркую, што для ўдару на Мінск,— начальнік штаба фронту глянуў на Чарняхоўскага, вока ў вока, сказаў пераканана: — трэба выкарыстаць моцныя рухомыя групы, якія належыць падтрымаць моцнымі сіламі пяхоты і авіяцыяй... Пільную ўвагу, як паказвае вопыт, неабходна звярнуць на задачу акружэння 4-й арміі. Мяркуючы па цяперашнім становішчы, трэба думаць, што задача гэта, відавочна, будзе рашацца ў асноўным нашым фронтам разам з Першым Беларускім... Ва ўсякім разе, на першай пары,— разважліва дадаў ён. Як бы падсумаваў: — Яна патрабуе выдзялення для яе буйных сіл войск...

— Усё гэта вельмі правільна,— варухнуўся неспакойны Макараў. Па тым, як варухнуўся, як казаў, адчувалася: яго занепакоіла нейкая думка.— Мне толькі здаецца: гледзячы на левае крыло, як бы не забыць

пра правае,— намякнуў ён пра войскі правай групы.— Яно таксама варта ўвагі.

Чарняхоўскі згодна кіўнуў на яго словы. Ён увесь час уважліва, з павагай слухаў. Не перабіваў ні разу. У яго было нязменнае правіла: даваць волю выказацца другім, даваць усім адчуць сябе неабходнымі ўдзельнікамі, уключыць усіх у агульны клопат.

— Я згодны ў цэлым з меркаваннямі і прапановамі, якія вы выказалі,— загаварыў Чарняхоўскі, калі выслухаў Макарава і Пакроўскага.— Бясспрэчна, асаблівае значэнне трэба звярнуць на фарсіраванне Бярэзіны і ўзяцце Барысава. І, на другім этапе — на ўзяцце Мінска і акружэнне войск праціўніка пад Мінскам... Мне асабліва важным і — цяжкім здаецца другі этап... Асабліва — акружэнне. Нам трэба будзе акружыць і знішчыць вельмі вялікую групу войск, прычым — акружыць сіламі трох франтоў. Гэта патрэбуе ад нас надзвычай пільнай падрыхтоўкі, дакладнага ўзаемадзеяння — у маштабе трох франтоў... Асаблівасць і складанасць гэтай аперацыі яшчэ ў тым, што мы павінны акружыць групу ў ходзе развіцця наступлення, тэмп і сілу якога нельга зніжаць і аслабляць... Робячы ўсё, каб завяршыць як належыць акружэнне, мы павінны помніць увесь час, што галоўная наша задача — развіваць наша наступленне далей... Клапаціцца пра далейшае наступленне...

— Якое астаецца пакуль загадкай...— зазначыў Пакроўскі.

Чарняхоўскі зразумеў яго намёк, але не падтрымаў. Нібы не пачуў. Увесь паглыблены ў вялікі клопат, ён не хацеў размоў, якія маглі б адвесці ад галоўнага. І ад якіх нельга было чакаць якой-небудзь карысці.

— Я згодны таксама з тым, што задача наша ўскладняецца адставаннем суседа злева...— сабрана давяршаў ён пачатую думку.— Неабходнасцю выдзеліць частку сіл для прыкрыцця левага фланга. Неабходнасцю мець у гэтым раёне значныя рэзервы, на ўсякі выпадак...— Чарняхоўскі павярнуўся да начальніка штаба: — Усё гэта, Аляксандр Пятровіч, нам трэба распрацаваць з самай вялікай стараннасцю, прадбачлівасцю. З улікам магчымых неспадзевак.

Яму, мабыць, надакучыла сядзець, ён устаў. Па-

стаяў хвіліну задумліва. Прайшоў позіркам па разасланай на стале карце, загаварыў зноў, як бы разважаючы ўголас:

— Разам з тым я лічу вельмі важнай заўвагу, якую зрабіў Васіль Емельянавіч... Так: як ні важна тое, што належыць зрабіць у раёне магістралі і Мінска, мы ні ў якім разе не маем права недаацэньваць значэнне дзеянняў на правым крыле. Мы павінны ўсямерна развіваць наступленне ў кірунку Вілейка — Краснае — Маладзечна.— Чарняхоўскі звыкла акрэсліў раён на карце.— Поспех тут дасць нам магчымасць выйсці на шасэ і чыгунку Мінск — Вільнюс.— Аловак зноў бегла адзначыў лінію на карце.— Выхадам сюды мы перарэжам важнейшую камунікацыю праціўніка, акажам вялікую дапамогу нашым войскам у раёне Мінска. Але, акрамя таго, што мы паможам войскам у раёне Мінска, мы — што не менш важна — выйдзем на рубяжы, неабходныя для далейшага развіцця наступлення... Значэнне гэтага поспеху будзе асабліва відавочна, калі мець на ўвазе, што войскі Першага Беларускага імкнуцца да другой важнай камунікацыі праціўніка — шасэ і чыгункі Мінск — Брэст. Захоп гэтых дзвюх камунікацый нашымі франтамі паставіць акружаныя пад Мінскам войскі ў сітуацыю, пры якой яны акажуцца без якой-небудзь падтрымкі зне. Такім чынам, будуць створаны ўмовы для таго, каб разграміць і знішчыць акружаныя войскі ў самы кароткі тэрмін!

Рослы, зграбны, са смаляной чупрынай і ўдумлівым позіркам праніклівых вачэй, у дасканала падагнаным кіцелі, пад якім адчувалася дужая, трэніраваная постаць, з залатой зоркай на кіцелі, з дасканалай выпраўкай, ён быў у гэты час вельмі прыгожы, мужна прыгожы, самы малады камандуючы фронту, малады генерал арміі. Упэўнены, з уладнасцю, годнасцю ва ўсёй паставе, у тоне голасу, рухах,— той годнасцю, у якой было і адчуванне нядаўніх перамог і славы, якая ўжо ішла па фронце,— ён быў цяпер у многім непадобны на таго, якім маглі яго бачыць на КНП пад Оршай, у першыя гадзіны наступлення. У даўнія, цягучыя хвіліны няпэўнасці становішча...

Ён прайшоў крыху, стаў каля акна, наводдалек, кі-

нуў на генералаў нецярплівы позірк. Усхваляваны нечым.

— Цяпер я хацеў бы сказаць — пра тэрміны. Мне здаецца: мы можам скараціць некаторыя...— Захоплена, рашуча аб'явіў: — Я лічу, што Мінск мы можам узяць... Максімальна — да 4 ліпеня... Мінімальна — да канца 2-га.

Чарняхоўскі дапытліва сачыў: што яны думаюць, яго баявыя паплечнікі?

Першы загаварыў член Ваеннага Савета.

— Кожны выйграны ў ворага дзень — гэта ратунак тысячам людзей. І чым больш дзён мы выйграем, тым больш людзей вырвем ад гэтай нечысці... Я думаю, гэта трэба ўвесці ў сэрца кожнага салдата і камандзіра... Наогул вызваленне Мінска будзе мець асаблівае палітычнае значэнне. І трэба гэту аперацыю правесці асабліва арганізавана і ў найкарацейшы тэрмін...

— Тэрмін, безумоўна, можна скараціць,— згадзіўся і стрыманы, асцярожны ў разліках генерал Пакроўскі.— Я думаю: найбольш рэальны тэрмін — 4—5 ліпеня.

— Добра, галоўнае ясна: задача — рэальная і неабходная. І ясна: тэрмін трэба скараціць да мінімуму. Канкрэтна тэрмін — удакладнім! — коратка закончыў камандуючы.

Чарняхоўскі хуткім крокам пайшоў да стала. Нахіліўшыся над ім, над картай, запрасіў:

— Давайце параімся пра задачы войск. Пра канкрэтных выканаўцаў задач.— Ён адразу, без паўзы, акрэсліў: задачу 39-й арміі генерала Люднікава, якая пасля завяршэння разгрому віцебскай групы ворага падцягвалася да пярэдніх рубяжоў. Звыкла водзячы алоўкам, выказаў задачы 5-й арміі генерала Крылова і конна-механізаванай групы.— Асабліва цяжкай, складанай задачай у бліжэйшы час, па ўсіх адзнаках — відаць, будзе авалоданне Барысавам.— Аловак Чарняхоўскага акрэсліў значок горада і важка спыніўся.— Я маю намер гэту задачу даручыць 11-й гвардзейскай і 31-й арміям, ва ўзаемадзеянні з 5-й гвардзейскай танкавай арміяй...— Адразу, як Чарняхоўскі скончыў тлумачыць задачу на вызваленне Барысава, аловак яго ўсцяж істужкі ракі пераскочыў уніз.—

2-гі гвардзейскі танкавы корпус, фарсіраваўшы Бярэзіну ў раёне Чарняўкі, часткай сіл садзейнічае войскам, якія наступаюць на Барысаў, асноўнымі сіламі ідзе з поўдня магістралі ў кірунку на Мінск.— Аловак камандуючага спыніўся на купе значкоў, што абазначалі Мінск.— Задачу вызвалення Мінска я мяркую разам з корпусам Бурдзейнага ўскласці на частку войск Ротмістрава і на армію Глаголева...

У тым, як Чарняхоўскі гаварыў, непаспешліва, дзелавіта, адчувалася, што ён усё гэта абдумаў ужо не толькі ў асноўных рысах, а і ў дэталях.

— Такія мае меркаванні,— сказаў ён, скончыўшы, і паклаў аловак. Позірк перайшоў на Макарава, на Пакроўскага: — Якія будуць думкі?

Генералы ўжо сабраліся ісці ад камандуючага, калі ў пакой хутка, усхвалявана ўвайшоў Іголкін.

— Радыёграма ад Абухава, таварыш камандуючы! — сказаў ён, працягнуў Чарняхоўскаму лісток.— Толькі што атрымалі. Абухаў — за Бярэзінай.

Чарняхоўскі ўзяў радыёграму, хутка прабег позіркам. Так, абухаўцы — танкавы корпус Абухава, які наступаў у конна-механізаванай групе АсліКоўскага,— былі ўжо на другім баку Бярэзіны, вялі баі за ракой. Пераправіліся з поўначы ад возера Палік, па мосце, які зберагли партызаны.

— Вось і пераскочылі! — сказаў Чарняхоўскі, як бы запрашаючы і іншых парадавацца.

Гэтаму нельга было не радавацца: пераскочылі з ходу такі рубеж. Няхай толькі ў краёчку, амаль на правым фланзе, але — пераскочылі. У задавальненні, што нарадзіла вестка пра поспех Абухава, была ўдзячная думка пра добрых памочнікаў — партызан: зберaглі мост, памаглі!

Думаў такое ўжо не раз — адсюль ішло да яго: праводзілі часці цераз балоты, праз гушчары, у абход немцаў; папярэджвалі пра засады, зберагалі масты...

Радыёграма ішла па руках генералаў. Генерал-лейтэнант Пакроўскі, вяртаючы яе камандуючаму, сказаў нібы з намёкам:

— Можна лічыць: новая дырэктыва ўжо рэалізуецца!..

## 5

Адразу пасля нарады з членамі Ваеннага Савета ён вярнуўся да бягучых клопатаў. На стол леглі прынесеныя Камаровым лісткі радыёграм, тэлеграмы, прарваліся патрабавальныя званкі тэлефона. Ён найперш адабраў тыя данясенні, якія расказвалі пра танкавую нямецкую дывізію, што ішла цераз Барысаў. Пасля першага данясення пра тое, што авіяцыя знайшла цэль і пачала штурмаваць і бамбіць нямецкія танкі, ён з пільнай увагай адзначыў, што супрацьтанкавы полк выйшаў у намечаны раён і займае пазіцыі. Радыёграма з войск маршала Ротмістрава дакладвала, што танкі 5-й гвардзейскай арміі занялі рубеж для сустрэчнага бою.

Данясенні з многіх участкаў паведамлялі, што і ў паласе арміі Крылова, і ў паласе 29-га танкавага корпуса арміі Ротмістрава, і на поўдзень ад магістралі, дзе наступаў 2-гі гвардзейскі танкавы корпус, ішлі цяжкія, упартыя баі. Асабліва ўпарта супраціўляліся немцы ў паласе магістралі, там, куды спяшалася на падмогу ім танкавая дывізія. Да ўсіх турбот і трывог дадалося нездавальненне: войскі з-пад Оршы і Астраўно падцягваліся далёка не ў тэмпе, якога патрабавала абстаноўка, які неабходны быў для належнага разгортвання наступлення.

Перагледзеўшы данясенні, Чарняхоўскі павярнуўся да тэлефона, нецярпліва папрасіў звязаць яго з камандуючым 5-й арміі генералам Крыловым. Пяхота Крылова падыходзіла да Бярэзіны ў тым жа раёне, дзе прарваліся танкі Абухава. Паслухаўшы ад Крылова даклад пра становішча ў яго войсках, Чарняхоўскі ўладным тонам загадаў паскорыць тэмп наступлення,— прабіцца хутчэй да ракі і з ходу фарсіраваць яе. Развіваць наступленне на заходнім беразе. Трэба было, не трацячы зручнага моманту, замацаваць тое, чаго дабіліся танкісты.

Камандуючы 5-й паабяцаў, што зробіць усё, каб армія як найхутчэй падышла да Бярэзіны і фарсіравала яе. Поспех Абухава і надзея на Крылова хвалявалі Чарняхоўскага прадчуваннем новай, яшчэ большай удачы: калі пойдзе добра і далей, войскі хутка могуць прарвацца на дарогу Мінск — Вільнюс. Адрэзаць ня-

мецкую групоўку ў Мінску ад тылоў — з поўначы і паўночнага захаду...

Неўзабаве Чарняхоўскі склікаў нараду камандуючых радоў войск. Як і ранейшая, гэтая нарада не перапынялася ні званкамі, ні з'яўленнем камандзіраў: Камароў цвёрда стаяў на дарозе ўсіх, хто хацеў пранікнуць у пакой камандуючага. Усіх спыняла нязменнае: камандуючы заняты. За надзейна зачыненымі дзвярамі Чарняхоўскі сабрана, праніклівa абмяркоўваў, што належыць зрабіць камандуючым і іх радам войск для новай дырэктывы. У той час усе яго думкі былі абмежаваны толькі гэтым клопатам, іншага нібы і не магло быць. На час ён нібы адасобіў сябе ад усяго, чым жыў фронт.

Гэта было не першы раз: калі трэба было, Чарняхоўскі знарок імкнуўся абмяжоўваць сябе самым важным, неадкладным: такім неадкладным цяпер было тое, што ішло ад новай дырэктывы. Ад таго, як удасца выканаць патрабаванні дырэктывы, помніў ён, фактычна залежала ўсё заўтрашняе жыццё шматлікіх яго войск. З таго часу, як ён прачытаў дырэктыву, у яго не знікала турботнае разуменне: за лічаныя дні, гадзіны трэба вельмі багата зрабіць. Гэтае разуменне цяпер, можна сказаць, кіравала ім: патрабавала ад яго асаблівай сабранасці, энергічнасці. І ён дзейнічаў як мог сабрана, энергічна.

Увесь дзень жывое жыццё фронту зноў і зноў вяртала яго да сябе. Званкі тэлефонаў, тэксты радыёграм, тэлеграмы ўрываліся ў яго кабінет, ледзь наступала змога заняцца бягучымі клопатамі. Як ні стрымлівалі націск гэтых клопатаў неспакойныя думкі пра будучае, Чарняхоўскі амаль увесь час адчуваў заклік жывога, бягучага жыцця войск. Што б там ні належала зрабіць на заўтрашняе, ён, камандуючы, быў абавязаны займацца і сённяшнім, і Чарняхоўскі, стараючыся не выпускаць з-пад увагі нічога важнага, імкнучыся ў час умешвацца, папраўляць, накіроўваць, аддаваў частку сябе сюды.

Як блізкае і важнае, пачуў ён данясенне, што на магістралі пачаўся бой з нямецкімі танкамі. І як потым ні быў заняты іншымі турботамі, сярод многага іншага не выпускаў з-пад увагі, як гэты бой разгортваўся.

Пасля ўдараў авіяцыі, пасля кароткага, але моцнага артылерыйскага налёту далажылі яму: 3-ці гвардзейскі корпус арміі Ротмістрава рынуўся на перадавы атрад дывізіі і спыніў яго. У імклівым баі танкісты разграмілі атрад, не толькі ўтрымалі пазіцыі, але і прабіліся ўперад. Чарняхоўскі быў рад, калі даведаўся, што танкі Ротмістрава нарэшце занялі Крупкі, моцны вузел нямецкай абароны на дарозе да Барысава...

Некалькі разоў добрымі весткамі радаваў Крылоў. Камандуючы арміі спраўдзіў абяцанне: армія неўзабаве дасягнула Бярэзіны і адразу з боем пачала перапраўляцца цераз яе. За дзень пяхота Крылова падышла да Бярэзіны ўсцяж на шэсцьдзесят кіламетраў. Захапіла плацдармы на тым, заходнім, беразе ракі...

У клопатах пра сённяшняе, пра будучае, якое ўсё набліжалася, разгортвалася, рабілася рэальным, якое поўніла Чарняхоўскага ўсё больш нецярплівай імклівасцю, сыходзіў гэты нялёгкі дзень. На познюю вячэру камандуючага з'явіўся член Ваеннага Савета Макараў; убачыўшы Чарняхоўскага за сталом са звычайнай вячэрай, узняў здзіўлена бровы над пукатымі вачыма, развёў рукі.

— Па ўсім відаць, імяніннік так-такі рашыў не адзначаць свой дзень! — Ён намякнуў на ранейшую размову, калі Чарняхоўскі не дазволіў нават нагадваць пра дзень нараджэння.

— Так і рашыў імяніннік,— пацвердзіў стрымана жартаўліва, сур'ёзным тонам Чарняхоўскі. Ён дапытліва зірнуў на генерала, задумаўся на момант і рашуча адлажыў відэлец. Устаў, пайшоў да ложка, выцягнуў з-пад яго чамадан. З загадкавым выглядам, паглядваючы на Макарава, дастаў бутэльку каньяку, што быў прыхаваны на ўсякі выпадак. Знарок з годнасцю паставіў на стол, весела запрасіў генерала:

— Паколькі імяніннік не хоча, каб пра яго кепска думалі блізкія, давайце ўшануем славянскі закон. Толькі ціха, без шуму.

Ён не захацеў клікаць ардынарца, пасылаць па чаркі, наліў патрохі ў шклянкі.

Уся гаворка за сталом потым ішла пра справы. Калі яны абмеркавалі тое, што трэба было абгаварыць разам, на думку камандуючага, генерал Макараў адчуў,

што Чарняхоўскі адасобіўся, паглыбіўся ў нейкія свае развагі. Генерал чула заўважыў, як, думаючы штосьці, камандуючы нецярпліва глянуў да рабочага стала, ледзь не ўстаў, але схамянуўся. Генерал зразумеў, што час развітвацца.

Чарняхоўскі не стаў затрымліваць яго. Як толькі правёў генерала, выклікаў ардынарца, каб прыбраў рэшткі вячэры, вярнуўся да рабочага стала. Апанаваны рознымі справамі, якіх звычайна большала пад канец дня, ён, аднак, праз нейкі час пазваў Камарова і загадаў звязаць яго з Масквою, з кватэраю.

Ён нецярпліва хадзіў, пакуль наладжвалі сувязь, з хваляваннем падышоў да тэлефона.

— Тася? — вымавіў ён імя жонкі ў плыўкі шум, што быў у трубцы.— Добры вечар усім! — У шуме ў трубцы ўзнік нейкі свіст, чуваць было вельмі кепска, ён загаварыў голасна, узрушана.— Што там у вас? Здаровыя ўсе? Дзякую...— Далёкі-далёкі, ледзь чутна даходзіў голас жонкі.— Мы? Мы што ж, ваюем! Ідуць справы! Добра ідуць...— Жонка пыталася, як ён адчувае сябе.— Усё вельмі добра... Што? — не разабраў ён. Жонка турбавалася, ці добра з харчаваннем. Ён зразумеў: непакоіцца з-за яго гастрыту, паўтарыў цвёрда: — Усё вельмі добра... Вы, вы — як? — настойліва дабіваўся ён.— Як Ніла, Алік?..— Тады, калі жонка расказвала, як яны жывуць, праз шум прабілася патрабавальнае, сынава: «Мама, ну, мама, мне». Калі ж яму далі трубку, сказаў толькі: «Тата», маўчаў, маўчаў і загадаў нарэшце: «Прыязджай!» Тады ў трубцы пачуў голас дачкі.— Ніла, як твае поспехі?.. Давай дамовімся так: я буду тут ваяваць добра, каб табе не сорам было. А ты — вучыся добра. Каб я не чырванеў тут. Дамовіліся?.. Прыеду, праверу!

Усю рэшту вечара светлы настрой, што прыйшоў з гэтай размовай, не пакідаў яго.

У гэты позні вечар думкі яго амаль увесь час беглі наперад. Калі схіляўся над картай, позірк вельмі часта трапляў на значкі, што паказвалі Мінск, або кружыў поблізу іх. Мінск, мінскае наваколле былі, як ніколі дасюль, блізкія. Такія блізкія, быццам ён ужо быў там.

У клопатных думках пра Мінск цеплілася ў душы жывое адчуванне горада: памяць удзячна беpагла, якім бачыў горад перад вайной, прыязджаючы з Гомеля ў штаб акругі. Ціхія, гасцінныя вуліцы, зялёныя пагоркі, ветлівыя твары прахожых. У гэтае даўно ўжо ўпляталася шчымліва тое, што потым прыйшло ад здымка, які неяк убачыў у газеце. Страшны то быў здымак, зроблены з самалёта, з невялікай вышыні: як у разрэзе, аднастайныя лабірынты сцен, між якіх мёртвая пустэча былых пакояў; вялізныя, пачварныя пустыры. Толькі дзе-нідзе спаленыя будынкі...

У практычныя развагі пра блізкую аперацыю, як ні гнаў, непаслухмяныя зноў лезлі думкі, што дырэктыва Стаўкі прыпазнілася, не змагла ўлічыць рэальную абстаноўку. Канечне, загадзя цяжка, проста немагчыма было прадбачыць, як пойдуць справы,— але нашто тады было даваць такія блізкія, прыватныя задачы? Як ні думай, ясна цяпер: планаваць трэба было ўсё ж на большую глыбіню і больш шырока. І наогул для карысці агульнай — добра было б менш апякаць. Даваць больш ініцыятывы камандуючым. Залішняя цэнтралізацыя скоўвае, нараджае няўпэўненасць.

Ясны розум, падмацаваны вопытам, цвяроза меркаваў: не на карысць, гэта відаць — і такое, залішняе драбленне франтоў, якое таксама абмяжоўвае, звужае поле дзейнасці камандуючых. Нашто было драбніць, дзяліць на два франты былы Заходні, якую карысць гэта дало? Дало толькі тое, што замест аднаго цэлага стварылі дзве палавінкі, да таго ж — слаба звязаныя. Якім, тым не менш, належыць рашаць адну задачу: разам браць Мінск і завяршаць акружэнне. Ён падумаў, што ў Стаўцы, вядома, разумелі мінусы такой дробнасці франтоў; недарэмна ж сюды прысланы прадстаўнікі Стаўкі для каардынацыі дзеянняў. Але ж калі гэта памагло звязаць Першы Прыбалтыйскі з Трэцім Беларускім, а Першы Беларускі з Другім Беларускім,— за што можна сказаць «дзякуй» абодвум прадстаўнікам Стаўкі,— то Другі Беларускі і Трэці Беларускі як былі кепска звязаны, так і засталіся. Суседнія франты, якім належыць рашаць адну задачу, якім трэба дзейнічаць як адно-адзінае, па-ранейшаму раздзелены. Іх дзеянні ўзгадняюць двое розных упаўнаважа-

ных. І гэтая адасобленасць — у такой складанай і зменнай абстаноўцы, пры тым, што адзін фронт так адстае!..

За гэтым непакоіла іншае, яшчэ няпэўнае: падобна, што яго фронт паварочваецца да поўначы. Гэта — часовае, ці ў гэтым — асаблівасць, што падказвае будучае становішча фронту? Што Трэцяму Беларускаму давядзецца сысці з запаветнага напрамку: на Варшаву, на Берлін? Ён супакойваў сябе развагаю: гэты напрамак не павінны аслабляць, не павінны адводзіць убок такі моцны фронт. Але поўнай упэўненасці не было: не знікала прадчуванне, што на цэнтральны кірунак выйдуць Першы і Другі Беларускія.

Нездаволены гэтым непрыемным думаннем, ён нелагодна спыніў сябе: а, усё роўна! Дзе прыйдзецца, там прыйдзецца! Дзе трэба справе! Там і быць!..

Перад тым як легчы, ён паклікаў да сябе Камарова, хмурна запытаў:

— Аляксей Іванавіч, вярнулі машыну?

— Так што — вярнулі, таварыш камандуючы! — адрапартаваў Камароў, пазіраючы на Чарняхоўскага з трывожным чаканнем.

Ён бачыў, як патрабавальны позірк камандуючага мякчэе.

— Эх, Аляксей Іванавіч,— сказаў камандуючы з дакорам,— як жа гэта? Столькі гадоў разам! А ты такое!..

— Дык жа, таварыш камандуючы... з трафеяў...

— Зноў старая песня!.. Шчасце тваё, што вярнуў!

6

На другі дзень, пры падтрымцы авіяцыі, якая ўвесь час бамбіла нямецкую танкавую дывізію, танкі Ротмістрава рушылі на галоўныя сілы дывізіі, разбілі іх і пагналі сярод іншых войск па шасэ ў кірунку Барысава. Танкі Ротмістрава дасягнулі Бярэзіны так хутка, што да іх падыходу немцы не ўправіліся нават узарваць замініраваны бетонны мост цераз раку.

Выбух абваліў мост у раку ўжо тады, калі на той бераг прарваўся першы наш танк. Гэта была «трыццацьчацвёрка» лейтэнанта Рака з 3-га гвардзейскага танкавага корпуса. Адрэзаны ад сваіх, гвардзейскі экі-

паж трапіў у смяротную пастку, але не разгубіўся. Пазней ужо стала вядома, што танкісты, прарваўшыся ў цэнтр горада, шаснаццаць гадзін вялі бой у поўным акружэнні. Усе трое загінулі ў спаленым танку...

30 чэрвеня, услед за танкістамі маршала Ротмістрава, да Барысава падышлі перадавыя часці генералаў Галіцкага і Глаголева. У гэты ж дзень, з поўдня ад Барысава, за трыццаць кіламетраў ад яго, адбылася яшчэ адна важная падзея: да Бярэзіны прабіўся і з ходу пачаў фарсіраваць яе 2-гі гвардзейскі танкавы корпус генерала Бурдзейнага.

Наступіла чарга Барысава. 11-я гвардзейская і 31-я арміі разам з 5-й гвардзейскай танкавай арміяй атрымалі задачу камбінíраваным ударам танкаў і пяхоты да раніцы ачысціць горад ад ворага...

У той дзень Чарняхоўскі выехаў да Бярэзіны, у раён дзеянняў 5-й гвардзейскай танкавай арміі. Тут ён сустрэўся з упаўнаважаным Стаўкі маршалам Васілеўскім і камандуючым танкавай арміяй Ротмістравым. Чарняхоўскі і Васілеўскі азнаёміліся са становішчам арміі, разам з камандуючым арміі абмеркавалі задачы арміі ў бліжэйшых баях. Утраіх з узлеску блізка ад магістралі глядзелі на зарэчную частку горада, над якой неба чарнілі дымы пажараў, назіралі, як пад агнём нямецкай артылерыі на плытах, на надуўных лодках на той бок пераправляюцца войскі.

На рацэ ўвесь час ускідваліся слупы вады, выбухі амаль няспынна шматавалі абчэплены там і тут лазою бераг, а сапёры ўсё завіхаліся ў вадзе, хапатліва ладзілі пантонны мост для танкаў. Бой ішоў на зямлі, бой ішоў і ў небе: нямецкія бамбардзіроўшчыкі і знішчальнікі ўпарта рваліся да ракі, да пераправ,— неба і ў высокай высі, і нізка, амаль над зямлёю, кружылася, звінела, раўло, траашчала гарматамі і кулямётамі...

Знаёмае гэтае відовішча нібы вяртала Чарняхоўскага назад, набліжала, аднаўляла ў памяці асенні сцюдзёны Дняпро, хмарны Дымер на другім, на высокім, парэзаным глыбокімі раўчакамі беразе. Памяць на момант нагадала таксама хмарны, без меры шчаслівы Кіеў, натоўпы на зруйнаваным, жахлівым Крашчаціку.

## 7

Ён яшчэ наведаў дывізію, што пераправлялася з боем на поўдзень ад магістралі, і вяртаўся да ВПУ ўжо недалёка ад вечара.

Сярод многіх думак, што ішлі праз яго, найбольш цяпер хвалявалі тыя, якія прывяло ўбачанае на пераправах. Не першы раз вярэдзілі яго гэтыя думкі, пра пераправы, і вось зноў ішлі, насядалі, трывожылі. Колькі клопату кожны раз з пераправамі, колькі бяды. Самыя вялікія беды, можна сказаць, заўсёды з пераправамі. Малая рэчка і тая нярэдка колькі прымушае важдацца з ёю, класці людзей на берагах, траціць у яе вадзе. А што казаць — пра вялікія рэкі, такія, як Днепро ці хоць бы — Бярэзіна. І гэта пры тым, што на шляху амаль кожнага наступлення — рака за ракой. Асабліва тут, у Беларусі...

І пры ўсім гэтым — пераправачных сродкаў так мала. І мала, і — што не менш кепска — тыя якія ёсць, у большасці важкія, непаваротлівыя, неэфектыўныя. Вось і руш наперад, фарсіруй,— калі што ні рэчка, спыніся, ламай галаву, як перабрацца! Кланяйся ледзь што не кожнаму ручаю!.. Як сумны вынік думання лёг на душу камандуючага невясёлы вывад: недахват і неэфектыўнасць пераправачных сродкаў — адзін з самых вялікіх бічоў сучаснай арміі. Які ніколі не дасць разгарнуцца яе манеўравасці!..

Вядома — прыйшло зразу разважліва,— ратунак тут не толькі ў тым, каб больш нарабіць сродкаў для пераправаў. Ратунак не ў адных спецыяльных сродках, якія б дасканалыя яны ні былі. Трэба, каб самі машыны, баявыя машыны, умелі пераадольваць водныя перашкоды. Трэба танкі, якія б маглі хадзіць па дне рэк, плаваць па рэках. Танкі-амфібіі... І машыны-амфібіі— для пяхоты. З добрай хуткасцю і добрым узбраеннем. І добрай манеўравасцю...

Ледзь з пыльных палявых дарог выбраліся на магістраль, трапілі ў плынь войск, што рушылі ў кірунку Барысава. Чарняхоўскі падаўся ўперад да ветравога шкла, стаў цікаўна, пільна ўглядацца. То там, то тут шырокае шасэ было запоўнена войскамі на ўсю шырыню, і бронетранспарцёр, што ішоў наперадзе, нялёгка пракладваў дарогу машыне камандуючага фрон-

ту; яна ішла ціха. Але і калі палавіна палатна шасэ была вольная, Чарняхоўскі кранаў рукою локаць вадзіцеля, загадваў прыцішыць хуткасць.

Насустрач рушылі пехацінцы, падводы, грузавікі, гарматы розных калібраў, санітарныя машыны — усё, што меў фронт, здавалася, ішло, кацілася, абганяла,— рушыла насустрач, да Бярэзіны. Пяхота ішла групамі і нястройнымі калонамі. Чарняхоўскі ўглядваўся і ўглядваўся ў твары, загарэлыя, запыленыя, прытомленыя. Ішлі ў выгаралых пілотках і гімнасцёрках, з вінтоўкамі, з аўтаматамі, з рэчавымі мяшкамі, з кацялкамі, што ў таго-сяго матляліся прывязаныя да пояса. Над нястройным калыханнем радоў узвышаліся, пакалыхваліся чорныя ствалы бранябоек, наканечнікі-конусы ручных кулямётаў, і Чарняхоўскі на міг адчуў іх цяжар нібы на сабе, мулкі пасля доўгай, зморанай дарогі! Цягнуліся ў некалькі радоў падводы, безліч падвод, нагружаных скрынкамі з патронамі, са снарадамі, рэчавымі мяшкамі, мяшкамі з хлебам, з мукой, нярэдка — аблепленыя густа людзьмі. Падводы, падводы — колькі іх яшчэ служыць старую, векавечную сваю службу. Сярод падвод грузавікі, што нецярпліва стараліся праравацца наперад, часта — пабітыя, памятыя, латаныя, працаўнікі-грузавікі, цешылі вочы як нязрадлівыя, помныя сябры, надзейныя памагатыя. Каціліся за конямі, што памахвалі цярпліва галовамі, лёгкія гарматы, з годнасцю сунуліся за цягачамі заслужаныя, слаўныя 152-міліметровыя пушкі-гаўбіцы, уладзіўшы на сваіх станінах абпыленых артылерыстаў... За гарматамі — зноў падводы, пяхота, групкі коннікаў, нечым затрыманы ў дарозе танк, што спрабуе абагнаць калону краем поля. Калона нецярплівых грузавікоў, што гоніць левай стараной... Зноў фурманкі, пехацінцы...

Падумаў з уцехай: добра, што ўдалося разасярodзіць, паслаць танкі трыма кірункамі. Няхай цераз балоты, праз лясы, па бездаражы. Гэта калісьці гняло сумненнем, цяпер кожнаму відаць: правільна. Шасэ скавала б войскі, затрымала б. А так — рухомыя часці ўзялі прастор для шырокіх манеўраў. Правільна. Пра гэта гаворыць і вопыт Абухава, і Бурдзейнага вопыт. А калісьці з гэтым былі такія сумненні!..

У думкі зноў увайшло нездавальненне, народжанае

бачаным. Ідуць, павольна ідуць. Рушаць на старадаўнім сваім, «адзінаццатым». Па зямлі грымяць арміі танкаў, неба заваявала авіяцыя. Сталі даўно звыклымі новыя хуткасці. А пяхота і большасць артылерыі,— пры старадаўніх, чарапахавых хуткасцях! З поўнай выкладкай на спіне! Матухна-пяхота... Пакутніца-пяхота!.. Хутчэй, хутчэй трэба, дарагая! Ці не бачыш, як ты затрымліваеш! Як ты тармозіш! Як не даеш выкарыстаць усё, што можа даць імклівы, умелы манеўр!.. Хуткасць, патрэбна хуткасць — не першы раз захвалявала нецярплівае. Хуткасць, адпаведная хуткасці танкаў і авіяцыі. Патрабаванням сучаснай, манеўранай вайны... Хуткі, магутны транспарт. Здольны падымаць, перакідваць дывізіі, карпусы, арміі. Транспарт, здольны ісці па бездаражы. Па балотах. Здольны перапраўляць цераз рэкі...

Матухна-пяхота, царыца-пяхота. Пакутніца-пяхота... На машыны, на машыны трэба...

Вечар на ВПУ быў, як звычайна, поўны клопату і імкненняў. Данясенні з усіх участкаў фронту, з усіх армій увесь час трымалі Чарняхоўскага ў самым неспакоі вялікага мнагастайнага жыцця войск. Увесь фронт напружана, не аслабляючы націску, вёў наступленне. Вячэрнія данясенні дапісвалі апошнія рысы ў шырокім малюнку таго, што было зроблена ў гэты дзень. Абухаў і Аслікоўскі падыходзілі да шасэ Мінск — Вільнюс. Крылоў займаў за Бярэзінай ужо вялізную тэрыторыю. Бурдзейны фарсіраваў Бярэзіну і адной брыгадай ішоў у кірунку Барысава, другімі вёў наступленне ў бок Мінска. Кіраваў проста на Мінск.

У Барысаве ішлі моцныя баі: нямецкія танкавыя часці, эсэсаўцы і ахоўнікі ўпарта супраціўляліся. Але Чарняхоўскі ведаў: гадзіны іх злічаны. У гэты вечар больш за ўсё ён думаў пра Мінск. Абмяркоўваў з Макаравым, Пакроўскім, Іголкіным акалічнасці блізкай бітвы, аддаваў распараджэнні, звязаныя з ёй. Тэрмін быў назначан мінімальны: узяць да канца 2 ліпеня.

Ноччу, застаўшыся адзін, ён папрасіў да тэлефона начальніка інжынерных войск генерала Баранава. Загадаў выдзеліць некалькі спецыяльных падраздзяленняў сапёраў, з задачай — размініраваць будынкі.

— Для работы ў Мінску. Зрабіце гэта сёння ж.

— Зараз жа зраблю, таварыш генерал,— пачуў ён адказ Баранава.

Чарняхоўскі дадаў:

— Сапёры павінны ўвайсці ў горад разам з першымі салдатамі...

— Зраблю ўсё, таварыш камандуючы.

## РАЗДЗЕЛ III

### 1

28 чэрвеня адгрымелі бai ў Магілёве, на высокім, перакапаным снарадамі і бомбамі, дняпроўскім беразе. Натоўпы магілячан, выбраўшыся са сховішчаў, абдымалі на дымных вуліцах родных салдат. Войскі ішлі і ішлі з боку Лупалава, па пантонах на Дняпры, міма вежы старажытнай ратушы, па зялёнай Першамайскай, з сярэдзіны якой зварочвалі на Мінскае шасэ, на Мінск!

Віравалі ў той жа дзень радасцю перамогі, шчасцем вызвалення Асіповічы, Шклоў, Быхаў, Клічаў і многія — ужо не дзесяткі, а сотні пасёлкаў і вёсак.

Завязаліся бai ў Бабруйску. Гэта былі цяжкія бai. У горадзе сабралася восем варожых дывізій і некалькі асобных батальёнаў,— да таго ж фашысты мелі па ўсіх ускраінах і ў цэнтры горада шматлікія ўмацаванні.

Пасля поўдня 27 чэрвеня нашы танкі і пехацінцы першы раз атакавалі нямецкія часці, што абараняліся ў Бабруйску, але прабіцца ў горад не здолелі.

Баі на ўскраінах не сціхалі і ўсю першую ноч, а на наступную ноч нашы разведчыкі заўважылі, што гітлераўцы на паўночнай ускраіне сабралі многа пяхоты і артылерыі. Амаль у той жа час удалося захапіць палоннага, які даў разгадку гэтаму,— ён сказаў, што камендант горада загадаў гарнізону ўночы пакінуць Бабруйск і прарывацца на паўночны захад.

Наша камандаванне прыняло свае захады,— на гэту ўскраіну перавялі некалькі артылерыйскіх і мінамётных палкоў.

Пасля поўначы гітлераўцы пачалі артпадрыхтоўку.

Ледзь гарматы сціхлі, на нашы пазіцыі ў начным змроку пасунуліся танкі і рады салдат; наперадзе пехацінцаў, як потым казалі палонныя, ішлі ўдарныя батальёны з афіцэраў.

Нашы артылерысты і мінамётчыкі, якія чакалі гэтага, далі па гітлераўцах такі агонь, што ланцугі фашысцкай пяхоты былі нашчэнт выкашаны. Усе, хто застаўся жыць, адступілі назад...

Праз паўгадзіны гітлераўцы зрабілі новую атаку...

На світанні танкісты генерала Батава зноў атакавалі ўскраіны Бабруйска і, прарваўшыся праз нямецкія ўмацаванні, пачалі вулічныя баі. Каля 10 гадзін 29 чэрвеня Бабруйск быў поўнасцю вызвален.

У гэты ж дзень быў закончан і разгром усёй бабруйскай групіроўкі. Спроба супраціўляцца абышлася гітлераўцам і цяпер, як ужо многа разоў раней, дорага: яны бясслаўна загубілі ў лясах і на палях пад горадам тысячы сваіх салдат і афіцэраў. Тысячы іншых, якім пашанцавала ўцалець, прызналі сябе параможанымі і здаліся ў палон.

2

Недалёка ад Бярэзіны ўзвод Праворнага, які ехаў у галаве роты і ўсяго батальёна, ▪ разведкай, нагнаў натоўп, што паволі брыў па дарозе.

Ззаду натоўпу каціліся дзве падводы, у якіх сядзелі салдаты. Некалькі ўзброеных салдат крочылі збоку ад натоўпу. Некаторыя вялі сабак.

Яшчэ здалёк Праворны выглядзеў, што немцы кагосьці канваіруюць. Калі машыны наблізіліся, ён убачыў, што не памыліўся. У натоўпе цягнуліся людзі ў цывільнай вопратцы, больш за ўсё, падобна, жанчыны і дзеці.

Яшчэ зводдаль адзначыўшы, што ахова невялікая, ён загадаў усім, хто быў у грузавіку, падрыхтавацца да бою. Загадаў шафёру прыцішыць хуткасць, так, каб у любы момант можна было спыніцца. Даць байцам саскочыць на зямлю.

Ён пільна сачыў за немцамі. Бачыў: канваіры заўважылі грузавікі і час ад часу азіраліся на іх, але рушылі па-ранейшаму. Відаць, былі перакананы, што едуць свае. Толькі калі грузавікі падышлі амаль упры-

тык, там прыкметна захваляваліся. Салдаты пачалі саскокваць з павозак, азірацца неспакойна. Падобна было: чакалі, што будзе... Адна фурманка раптам заспяшалася, збочыла ў абход натоўпу. Ездавы ашалела сцябаў коней...

Машыны спыніліся, з іх адразу паляцелі, уздымаючы рукі, як крылы, запыленыя пехацінцы. Завязалася кароткая перастрэлка з канвойнымі, што паспрабавалі адбівацца.

Праворны таксама саскочыў на зямлю і кінуўся ўслед за байцамі...

Малодшы лейтэнант бачыў, як два канвойныя ўсталі і зарасляў свірэпкі і ўзнялі рукі.

Раптам Праворны пачуў дзіцячы крык, такі жахлівы, што ўзводны адразу азірнуўся спалохана. На хлапчука-падлетка, які адбег за кювет, ляцеў руды люты звер. Ваўкадаў! Хлапчук, спыніўшыся і з жахам пазіраючы на яго, толькі выставіў перад сабой рукі...

Праворны забыўся на ўсё,— мігам кінуўся да сабакі. Узводны ўправіўся прабегчы толькі некалькі крокаў, як хлопчык ужо ўпаў. Ваўкадаў ускочыў на яго...

Праворны стрэліў у сабаку з аўтамата, аднак ад таго, што баяўся параніць хлапчука, уцэліў няўдала. Ваўкадаў адразу кінуў ахвяру і адскочыў назад. Па баку яго густа і, здалося, чорна ішла кроў.

Сабака натапырыў поўсць, зарычаў, потым, прысеўшы, злосна ашчэрыўшыся, скачком ірвануўся на лейтэнанта, але Праворны стрэліў зноў.

Ваўкадаў віскнуў і нібы спаткнуўся на пярэднія лапы. Учапіўся ашчэранаю зяпаю ў зямлю. Ашалела грыз яе, потым абвяў, падрыгваючы заднімі лапамі, выпрастаўся. І замёр.

Хлопчык, што ўжо крыху адбег, трывожна сачыў то за ваўкадавам, то за лейтэнантам. Праворны парывіста кінуў аўтамат за плячо і, махнуўшы малому рукой, каб падышоў, прамовіў супакойліва:

— Не бойся! Больш не падымецца! Капут!..

Стрэлы навокал ужо сціхлі,— большасць канвайраў кінула зброю, падняла рукі...

Хлопчык нясмела наблізіўся да Праворнага. Ён яшчэ калаціўся ад перажытага жаху.

— Ой, дзядзечка, як я напужаўся! Ён жа, гад, па-

заўчора разарваў на дарозе адну жанчыну. А цяпер да мяне прычапіўся. Ён мне кроку не даваў ступіць убок. Толькі я ступлю,— дык ён: гыр-р... А тут стралянiна. Я і не ўтрываў, адбег,— тады ён як кінецца! Як кінецца!..

— Нічога! Больш не кінецца. Супакойся!..

Тым часам байцоў і сержантаў ужо акружылі жанчыны, хлапчукі, дзяўчаты, яшчэ разгубленыя і нясмелыя. Яны былі без меры ўзрушаны раптоўным ратункам, асляплены шчасцем. Ці праўда ўсё гэта? Няўжо гэта не сон, а ява? Паверыць адразу цяжка!.. Праўда гэта?

Людзі абдымалі і цалавалі байцоў.

Былі чуваць непаўторныя ўзрушаныя воклічы — уся душа, увесь боль і ўсё шчасце ў гэтых воклічах. Ашаломленыя тым, што здарылася знянацку, людзі першыя хвіліны або маўчалі, або гаварылі толькі гэтымі воклічамі ды вачыма, што ззялі радасцю ці слязамі перажытага гора.

— Куды гэта вы накіраваліся, зямлячкі? — запытаўся сержант Туравец у дзвюх пажылых жанчын, якія толькі што цалавалі яго.

— А ліха яго ведае, куды ён гнаў! Каб яму пячонкі адсохлі! — Выціраючы пачырванелыя ад слёз вочы, жанчына гнеўна зірнула ў той бок, куды вяла дарога, як бы пыталася ад яе адказу.— Сарваў з месца і гоніць, гоніць усё туды... Мусіць, у Нямеччыну хацеў загнаць...

— Гэта ж, брацянік,— перабіла яе другая, у мятай світцы, з клуначкам за спіною,— калі нашы пачалі падыходзіць, прыехалі хрыцы ў сяло, выгналі ўсіх на вуліцу... І загадалі, хочаш не хочаш, ісці. Куды, чаго? Невядома... Антон, сусед мой, заўпарціўся, сказаў: не пайду! — дык адзін жандар выняў адразу наган і — пац-пац — застрэліў!..

— Усё роўна, Ганна, многія пасля палеглі! — прамовіла першая.

— Аге ж, палеглі... Змагліся людзі ад голаду, падаюць, валяцца на зямлю. Дзіва што! А сеў на зямлю — значыцца, канец: або застрэляць, або яшчэ сабакамі зацкуюць... Жанчына ішла пры нас — з-пад Ржэва самага,— Алена яе таксама ведае,— кіўнула яна на таварышку.— Накульгвала тая ўсё на адну

нагу, казала, што праткнула на цвік... Дык сабакі разарвалі жывую на маіх вачах.

Юрый спакойна, але так цвёрда, што нельга было сумнявацца ў яго словах, заявіў:

— Не хвалюйцеся, дарагія, мы з імі за ўсё разлічымся... І гэтую жанчыну з-пад Ржэва таксама прыпомнім.

— Адкуль вы, здалёку? — пытаўся ў іншым гуртку Шарыфутдзінаў, жылісты, з мангольскімі дапытлівымі вачыма.

— Ды з розных куткоў,— адказала адна з жанчын, што акружылі аўтаматчыка.— Я вось, да прыкладу, з-пад Воршы, можа, былі там? А ёсць некаторыя, кажуць, аж з-за Смаленска...

Хлапчук, якога выратаваў Праворны, адгукнуўся:

— Я, дзядзечка, пачынкаўскі. Са станцыі Пачынак.

— Калі ж вас забралі?

— Яшчэ ў тую восень...

Хлапчук сказаў, што яны спачатку жылі на балоце, недалёка ад нейкага Замошша, капалі торф — усю восень, і зіму, і вясну, а потым, як толькі пачалося наступленне, іх пагналі па дарозе.

— Я спачатку быў не адзін — з мамаю і сястрою Надзькаю, але яны памерлі на балоце...— спакойна, са сталай стрыманасцю, гаварыў ён.— Яшчэ зімою... Я цяпер адзін жыву. Вось як дадому вярнуся, тады буду не адзін. Дома ў мяне ў Пачынку-та яшчэ засталася Волька...

Але тут размова перарвалася, Праворны загадаў сядаць у машыны.

Нельга было затрымлівацца.

## 3

У гэты дзень два палкі дывізіі генерал-маёра Шчарбацюка ўвайшлі ў лес, які другім краем падступаў да ракі.

Выконваючы загад генерала, палкі ляснымі дарогамі імкліва падышлі да ракі і паспрабавалі з ходу фарсіраваць яе. Але спроба гэта ў цэлым не ўдалася: немцы аказалі моцнае супраціўленне. Толькі адзін узвод на левым фланзе зачапіўся за другі бераг.

Генерал-маёр з ад'ютантам і двума аўтаматчыкамі на «газіку» рушыў да Бярэзіны.

Пры ўездзе ў лес стаяў рэгуліроўшчык, ён параіў, каб генерал асцерагаўся, бо ў лесе яшчэ нямала гітлераўцаў. Каля скрыжавання было многа дарожных указак, сярод каторых камандзір дывізіі ўбачыў і сваю: «Гаспадарка Шчарбацюка».

Усцяж дарогі на дрэвах вісеў тэлефонны провад, што ішоў да ракі.

У трох ці чатырох месцах на заценёнай дарозе ляжалі, перагароджваючы яе, зваленыя немцамі дрэвы, і Шчарбацюк зварочваў у гушчар у прагалы, што праціснулі танкавыя гусеніцы. Наперадзе былі чуваць гукі бою. Але час ад часу снарады выбухалі і ззаду. Немцы білі па тылах дывізіі, па дарогах.

Не даязджаючы да краю лесу, генерал-маёр убачыў свае перадавыя падраздзяленні. Сяржант, якога ён падазваў, сказаў яму, што тут полк Сібірака. Ад сустрэчнага лейтэнанта генерал даведаўся, што камандзір палка наперадзе. Шчарбацюк вылез з «газіка» і пайшоў далей пешкі.

Тутваўсю гаварылі кулямётныя чэргі, ірваліся снарады, міны. Лес быў поўны траскатні і грукату.

Камандзіра палка генерал знайшоў на ўзлессі, у нядаўна выкапаным акопчыку. З Сібіраком быў камандзір батальёна Паўлоўскі, камандзір узвода разведкі. Сібірак і Паўлоўскі стаялі каля стэрэатрубы, разглядвалі супрацьлеглы бераг.

Схіліўшыся да генерала, ловячы імгненні цішыні, Сібірак далажыў, што спрабаваў фарсіраваць раку, але не змог. Што рыхтуе новую спробу.

Генерал няспешліва, нібы нехаця, агледзеўся. Заўсёды меў звычай па-гаспадарску агледзецца, убачыць сваімі вачыма. Наперадзе — да ракі — была нізкая зялёная раўніна з хмызняком, больш за ўсё лазняком. У прамежкі між хмызняку там і тут паблісквала вада. Рака.

Супрацьлеглы бераг, як вялося, быў вышэйшы. Не высокі, але ўсё ж вышэйшы. Выгадны для абароны. Адтуль нядрэнна праглядваецца гэты бераг. Можна ўсю даліну трымаць пад прыцэльным агнём...

Генерал бачыў усюды наперадзе, прыкрытыя кустамі, хапатлівыя акопчыкі. Дзе-нідзе іх спяшаліся

паглыбіць. У розных баках шмякалі міны, плямілі зяляніва нізіны дымкамі... Даліна прастрэльвалася кулямётамі. Кулі пасвіствалі на КП палка... Праціўнік пільна сачыў, лавіў кожны рух тут. Быў гатовы...

У такой сітуацыі рабіць зноў спробу перапраўляцца... Але і таптацца... Нельга таптацца... Даць немцам сабрацца з сілаю... Армія рушыць. Нельга спыняцца. Камандуючы арміі чакае...

— Артылерыі мала,— паскардзіўся Сібірак.

Так, артылерыі мала. Працуюць у асноўным мінамётчыкі, што ўкапаліся на ўзлессі, ды палкавая артылерыя.

Генерал распытаў разведчыка, што выявілі на тым беразе. Запытаў Паўлоўскага, як ацэньвае абстаноўку. Які стан батальёна. Усё нехапатліва, як бы стомлена. Сам схіліўся да акуляру стэрэатрубы, паназіраў за тым берагам. Папрасіў звязаць яго з «чацвёртым» — начальнікам артылерыі, строга наказаў яму, што нельга марудзіць — позніцца.

— Як загадаеце, таварыш генерал, ■ перапраўай? — напомніў яму Сібірак, што ўвесь час чакаў ад яго ўказанняў.

— З перапраўай? — Генерал паглядзеў на падпалкоўніка, рудаватага, з вялікімі рысамі.— Пачакай пакуль з перапраўай.— Ён павёў позіркам на камандзіра батальёна, сказаў, што той можа быць вольны.

Папрасіў Сібірака правесці трохі. Калі засталіся адны, вычакаўшы хвіліну цішыні, выказаў тое, што не мог пры падначаленым:

— Спяшайся, але — ■ розумам. Спяшацца без разліку можна толькі пры адным занятку. А тут — справа сур'ёзная... Людзі...

Загадаў пільна весці разведку, рыхтаваць сродкі для пераправы, забяспечыць падраздзяленні боепрыпасамі. Прывесці ўсё ў парадак.

Агледзеў пазіцыі на іншых участках. Міны і снарады па-ранейшаму рваліся і на беразе, і далей, у лесе. У лесе, дзе ён ішоў у суправаджэнні камандзіраў і аўтаматчыкаў аховы, у акопчыках КП, адкуль ён назіраў, было таксама небяспечна, але генерал, здавалася, не адчуваў небяспекі, рабіў сваю справу з гаспадарскім спакоем.

Дабраўся нарэшце да батальёна, узвод якога зачапіўся за супрацьлеглы бераг.

— Ну, што там у цябе? — спытаў капітана, русявага, з пачырванелымі вачыма, з перавязанай рукой.

— Трымаюцца. Але вельмі ж контратакуе, таварыш генерал.

— Контратакуе...

Камандзір дывізіі прыслухаўся: на другім беразе ішла зацятая страляніна. Так, адчувалася: немцы моцна біліся, спрабуючы ачысціць бераг.

— Што ж, гэта нармальна: што — контратакуе,— прамовіў знарок спакойна.

Высветліў, колькі людзей на тым баку, якая зброя. Якія страты. Даў загад камандзіру палка аказаць усямерную падтрымку артылерыяй. Перавёў позірк п камандзіра палка на камандзіра батальёна, выказаў мірным, але цвёрдым тонам:

— Трымацца. Што б там ні было.

Пабачыўшы ўсё сваімі вачыма, з адчуваннем, што выканаў неадменны абавязак, накіраваўся на свой КП. Тут звязаўся з начальнікам артылерыі, распарадзіўся падтрымліваць узвод на тым беразе. Выклікаў начальніка разведаддзела, уважліва выслухаў, што ім удалося выявіць. Пазваніў у корпус, папрасіў ад разведкі корпуса вынікі авіяразведкі на ўчастку дывізіі.

Высветліў, як падцягваюцца падраздзяленні, што адсталі, як сканцэнтроўваюцца прыдадзеныя часці, другі эшалон. Быў вельмі нездаволены, што затрымалася пантоннае падраздзяленне.

Чым далей, тым больш упэўнена вылучаў ён план нялёгкай пераправы цераз раку. План гэты быў просты і цвярозы, яго вызначала сама абстаноўка. Генерал рашыў пераправу рабіць на ўчастку палка Сібірака, але, каб адвесці ўвагу немцаў, рашыў найперш паказаць яшчэ адну, несапраўдную. Іменна там, дзе біўся ўзвод, што пераправіўся. Дзе немцы найбольш чакалі.

Пераправу генерал намеціў пачаць ноччу, перад світаннем.

Вяртаючыся ў штаб дывізіі, генерал-маёр адзначыў, што войскі ўжо больш абжылі лес. Ён бачыў, як між дрэваў уладкоўваюцца купкі пяхоты, што толькі

падышла, бачыў, як тыя, што прыйшлі раней, ядзяць, кураць, пра штосьці гамоняць.

Блізка ад дарогі салдаты пілавалі дрэвы, ссякалі з іх сучча. Шчарбацюк загадаў шафёру спыніцца, выйшаў з машыны.

— Што збіраецеся майстраваць? — запытаў у пажылога салдата.

— Плыты, таварыш генерал-маёр...

Крыху далей, на паляне, артылерысты ўстанаўлівалі гарматы, расчышчалі сектары абстрэлу, капалі раўкі. На траве ля раўкоў шарэла горкамі свежая зямля. Група афіцэраў рабіла нейкія запісы ў кніжках і сшытках.

Побач з «кацюшамі» ціснуліся пад галлём танкі, да якіх падыходзіла некалькі новых. Ля дарогі пад ялінамі дамавіта дымілі дзве кухні. Кухар ссыпаў у кацёл белыя бульбіны.

Чапляючыся за галіны, з-за павароту выплылі няўклюдныя машыны з пантонамі... Войскі прыбывалі.

Назіраючы за ўсім гэтым, генерал няспынна думаў пра пераправу. Усё склалася ўжо ў няпростую карціну. Тое, што карціна гэтая вызначылася, што была яснаю абстаноўка, давала яму адчуванне як бы паспакайнеласці і выклікала ў ім жаданне дзейнічаць.

У штабе ён адразу выказаў свой план начальніку штаба, свайму намесніку, абмеркаваў з імі дэталі. З начальнікам артылерыі дывізіі вызначыў задачы артылерыйскіх сродкаў. Паставіў задачы камандзірам прыдадзеных часцей.

Правёў нараду з камандзірамі палкоў. Калі выйшаў з імі, вечарэла. Напал бітвы не толькі не паслабеў, а нават нібы ўзмацніўся. Гукі бою ў вячэрнім паветры былі тут, у глыбіні лесу, чуваць таксама ясна, як на беразе. Лясное рэха множыла іх і нават як бы рабіла галаснейшымі.

— Ну, грымім!..— сказаў генерал. Ён пачуў, як у раптоўным, на секунду, зацішку прашалясцела ўгары некалькі снарадаў,— у наступны міг злосна і — здавалася — блізка задыркаў нямецкі кулямёт. Потым на тым баку сталі выбухаць снарады.— Цяпер да гэтага грому прыслухоўваецца ўвесь свет...

— Што кажаце, таварыш генерал? — схіліўся да

камандзіра дывізіі падпалкоўнік Сібірак, думаючы, што генерал дае распараджэнне.

— Кажу, што... за нашай бітвай сочаць усе... Увесь свет... Спачатку — за Сталінградам... потым за Курскай дугой... за пераправай цераз Дняпро... А цяпер за намі, за беларускай бітвай.... За вось гэтай Бярэзінай...

— Гэта точна. Толькі ім не ў навіну — сачыць...

— Не ў навіну?.. Так, не ў навіну. Даўно слухаюць — ад першага стрэлу з «Аўроры»... Даўно сочаць. Адны — з надзеяй, другія — са страхам...

Ён зірнуў на камандзіраў палкоў, што чакалі дазволу ісці. Нібы наказаў на дарогу:

— Ну што ж, тварцы сусветнай гісторыі, рыхтуйцеся! Падвядзеце — літасці не прасіце.

4

Калі генерал-маёр перадаваў распараджэнні назаўтра, ардынарац прынёс вячэру.

Яфрэйтар дачакаўся канца размовы, пачаў выкладваць, што прынёс, з судкоў на талерачкі. Падаў на стол.

Генерал рассеяна агледзеў вячэру і ўзняў позірк на ардынарца.

— Чаго тут не хапае?

Пажылы, марудлівы яфрэйтар выцягнуўся, казырнуў:

— Вам не паложана, таварыш генерал!

— Ты гэта кінь! Чуеш!

Генерал не першы раз выказваў нездавальненне. Часам ён з гэтай прычыны проста дабрадушна бурчаў, часам злаваў на сябе, на хваробу. Але было і іншае нездавальненне. Сёння было якраз яно: генерал быў абураны.

— Усім паложана, а мне не!..

— Самі ведаеце, таварыш генерал!

— Нічога я не ведаю! — адрэзаў камандзір дывізіі.

Шчарбацюку даводзілася пакутаваць ад дыэты — у яго быў парок сэрца. Жонка ў кожным лісце пыталася, ці трымаецца ён дыэты, наказвала не свавольнічаць, слухацца ардынарца...

Убачыўшы, што генерал сёння жартаваць не збі-

раецца, і ведаючы, што з камандзірам у такім стане яго лепш не спрачацца, яфрэйтар палез у чамадан. З выглядам чалавека вымушанага: воля ваша,— паставіў на стол бутэльку.

— Губіце вы сябе, таварыш генерал. Ні сябе, ні дзяцей не шкадуеце...

Ён нямала паслужыў ужо з генераламі, зжыўся з ім: са строгім асуджэннем старэйшага глядзеў, як камандзір дывізіі наліваў у чарачку. «Нібы жыць без гэтага яму нельга. Як дзіця».

Выпіўшы павольна, смакуючы, чарачку, Шчарбацюк, павесялелы, накінуўся на вячэру. Чорт пабяры, як ён прагаладаўся!

— Не судзі строга, дарагі,— паблажліва ўжо сказаў ён.— Заўтра справа важная — пры такім выпадку грэх не выпіць...

З ахвотай павячэраўшы, ён загадаў ардынарцу разбудзіць у тры гадзіны. Сцягнуўшы толькі боты, загарнуўся ў бурку і паваліўся на ложак.

Заснуў ён уміг. Ардынарац яшчэ прыбіраў са стала, а ад ложка ўжо ішоў салодкі, моцны храп.

Генерал любіў паспаць. Ён казаў, што перад справай вельмі карысна паспаць,— без сну чалавек тупее.

Спаў ён мірна, бесклапотна, як дома, і нялёгка абудзіўся, калі ардынарац пачаў тармусіць: «Пара, таварыш генерал!»

На світанні завязаў бой батальён на поўдні, і крыху пазней два палкі — Сібірака і Скорабагатага — пачалі пераправу.

Стоячы на беразе ў накінутай на плечы бурцы, Шчарбацюк бачыў, як у ранішнім поцемку салдаты моўчкі цягнулі плыты і бярвенні да вады. Над ракой, на шчасце, пластаўся туман: амаль адразу ж усё знікала ў ім...

Пераправа пачалася ўдала. Мяркуючы па гуках на поўдні і з паведамленняў, немцы клюнулі на падман: моцна ўцягнуліся ў бой з батальёнам. Тут жа першыя падраздзяленні дасягнулі супрацьлеглага берага без адзінага стрэлу. Ужо калі яны высадзіліся, учапіліся ў бераг, немцы заўважылі, што пераправа пачалася і тут,— сталі шалёна абстрэльваць раку і бераг.

Ракеты і агонь асвятлялі туман, бераг, дрэвы, хмызняк, постаці людзей, якія беглі да ракі. Туман хаваў тое, што дзеялася на рацэ і на тым баку, ён адно няпэўна і чырванавата адсвечваў.

Наша артылерыя амаль безупынна біла па варожых гарматах і кулямётах. Туман хутка радзеў, ірваўся, і праз яго, і ў разрывах яго стала відаць: на тым баку наводдалек і блізка ўзніклі пажары. Штосьці гарэла каля самага берага.

— Акопы гарацъ...— здагадаўся генерал-маёр.— Прыпякае фрыцам...

Выдумалі, вынаходлівыя арыйцы, дубцамі апляtаць акопы, думаў насмешліва і здаволена камандзір дывізіі.

Дубцы высахлі і цяпер лёгка загараліся.

Неўзабаве полк Сібірака пашырыў плацдарм,— страляніна стала адыходзіць ад берага. Пераправа пайшла хутчэй, але праціўнік яшчэ абстрэльваў з гармат берагі і раку.

Абстрэл гэты чыніў то там, то тут замінкі. Час быў неспакойны: нельга было марудзіць, трэба было як мага хутчэй узмацняць сілу ка тым беразе. Дзейны, нецярплівы Сібірак нерваваўся, то аднаго, то другога зваў афіцэраў, было відаць: пагражаў, лаяўся.

Разумеючы яго хваляванне і спачуваючы яму, камандзір дывізіі ўсё ж паслаў ад'ютанта да яго: каб неадкладна явіўся.

— Ты што, друг мой, нервознасць разводзіш! — сказаў камандзіру палка нездаволена і па-бацькоўску строга.— Гэта не работа. Так працаваць нельга.

Падпалкоўнік Сібірак, распалены неспакоем, першы момант нібы не разумеў яго. Узяў заўвагу, падобна было,— ужо не першы раз,— як недарэчнае арыгінальнічанне. Але не выказаў, схаваў.

— Вінават, таварыш генерал... Але як тут інакш: час, час прападае!

— А ты ўсё ж спакайней, спакайней.— Шчарбацюк гаварыў роўна, але тонам загаду.— І без лаянкі! За ласку табе кожны зробіць у сто разоў больш, чым за мацюкі. Страху ім і без цябе досыць, а добрае, разумнае слова — у сэрца!.. Аж ахрып! — з дакорам паківаў галавой камандзір дывізіі.

У сонечным святле туман растаў зусім, і з КП ка-

мандзіра дывізіі было добра бачна ўсё, што рабілася на рацэ. Галоўнае, што цяпер непакоіла Шчарбацюка: пантонны мост. Далейшы поспех цяпер залежаў ад моста. Ад таго, як хутка яго навядуць. Камандзір дывізіі бачыў: пантанёры разумелі гэта, завіхаліся шчыра...

Яны ўжо дайшлі да сярэдзіны ракі, калі наляцелі нямецкія бамбардзіроўшчыкі і знішчальнікі.

У рацэ ўскінуліся стаўбуры вады. Некалькі бомб узарвалася на беразе, побач з КП Шчарбацюка. На акоп, у якім быў камандзір дывізіі, абрынула хмару зямлі.

Па самалётах білі зeніткі і кулямёты, але «юнкерсы» і «месершміты» ўсё кружыліся над пераправай.

Шчарбацюк з трывогай убачыў, што адна бомба выбухнула каля самага моста...

Генерал-маёр выклікаў прадстаўніка ад авіячасці, жорстка прабраў яго, загадаў звязаць з камандзірам часці.

— Што ж гэта, дарагі, выходзіць,— пачаў ён адразу абурана.— Немцы пасуцца над намі, на галаву нам садзяцца, а вы спакойна сабе назіраеце.— Лётчык адказаў вінавата, што самалёты ў гэты момант вядуць бой, але Шчарбацюк не ўзяў тлумачэння.— Мост мне разбамбілі, разумееш? Пераправу ўгробілі, даходзіць да цябе? На галаву садзяцца!

У голасе яго была страшная разгневанасць. Камандзір авіячасці нарэшце зразумеў усё: паабяцаў зараз жа памагчы.

Сапраўды, неўзабаве прыляцелі знішчальнікі. У небе завязаўся бой: кружыліся, раўлі знішчальнікі, скрыжоўваліся лініі трасіруючых куль, час ад часу скрозь роў матораў прарываўся зацяты трэск кулямётаў.

Раптам адзін з самалётаў выпаў з гэтага люта-вірлівага, поўнага рову, клубка і, бязладна перавальваючыся то на крыло, то на нос, стаў падаць. Шчарбацюк з крыўдай пазнаў: наш.

Самалёт упаў за ляском, на тым баку.

Прасачыўшы за гэтым боем, які ішоў, здалося яму, бясконца доўга і за час якога было збіта яшчэ два нямецкія і два нашыя самалёты, Шчарбацюк выклікаў намесніка па тылу і папрасіў далажыць, дзе яго ма-

шына і абозы. Аказалася, адзін абоз наткнуўся на праціўніка, і той захапіў некалькі павозак...

Генерал-маёр пры гэтай вестцы барвова пачырванеў, вены на яго твары набухлі. Ён кіпеў ад гневу,— вось-вось мог здарыцца «выбух».

— Шляпы! — вылаяўся генерал-маёр. Рэзка прайшоўшы туды-назад па беразе, ён загадаў: — Усе тылы падцягнуць да моста і да дванаццаці трыццаці пераправіць.

— Ёсць, таварыш генерал.

Панура маўклівы, цяжка стрымліваючы гнеў, генерал рушыў да ракі. Ён сеў у рыбацкую лодку,— салдаты адразу ўзмахнулі вёсламі.

## 5

Калі дывізія пераправілася цераз Бярэзіну і прарвала ўмацаванні праціўніка, Шчарбацюк павярнуў яе на поўнач і павёў усцяж ракі. Такі быў загад камандуючага арміі: дывізія павінна была як мага хутчэй прабівацца да Барысава.

Ад камандуючага арміі Шчарбацюк даведаўся, што з поўначы да Барысава падыходзяць танкі і пяхота.

— Познішся! Пыліш, як з кірмашу! — далікатным, але ўнізлівым голасам зазначыў камандуючы.— Наогул назіраюцца сімптомы...

Камандзір дывізіі пакрыўджана, гнеўна пачырванеў: «Зноў «пыліш»!.. Зноў — «сімптомы», вечна — «сімптомы»! Адна песня...»

— Пасняшайся, Шчарбацюк! — наказаў суха камандуючы.— А то паспееш — к шапачнаму разбору!..

— Не спазнюся,— заявіў генерал-маёр.

Дывізія рушыла да Барысава. З ходу збіла некалькі варожых заслонаў. Стомленыя цяжкім днём, няспынным рухам, байцы пад вечар пераправіліся з боем цераз рэчку Плісу, што блізка ад горада ўліваецца ў Бярэзіну, а ў прыцемку падышлі да Барысава.

У горадзе ўжо ішоў бой. Ён ішоў і ў старой частцы горада і ў Новым Барысаве, якія падзяляла Бярэзіна. Дывізіі Шчарбацюка выпала вызваліць паўднёвую частку Нова-Барысава, раён вакзала.

Дывізія пачала бой без перадышкі, адразу, як толькі падышла да першых хат. Гітлераўцы, што заселі ў

прывакзальных пабудовах, дотах, руінах, спаткалі пехацінцаў вельмі моцным агнём.

У сасняку, дзе выбраў генерал-маёр камандны пункт, раз-пораз іrваліся снарады і міны, але камандзір дывізіі не звяртаў на гэта ўвагі,— яго непакоіла тое, што батальёны, штурмавыя групы запыніліся.

Стоячы з групай афіцэраў ускрай сасняку, генерал-маёр пазіраў на горад, у якім уздымалася некалькі пажараў. За цёмнымі будынкамі чуліся страляніна, выбухі, гурчанне машын. Страляніна даходзіла і здалёку, з другога боку горада.

За Бярэзінай таксама не сціхаў бой.

— Нашы падышлі да ракі...— прамовіў, як бы адгадваючы думкі генерала, ад'ютант.— Эх, шкада,— управіліся ўзарваць мост...

— Так... шкада...

Шчарбацюк сказаў гэта такім тонам, што адчувалася — камандзір дывізіі думае пра іншае, вельмі занепакоены. Ад'ютант раптам заўважыў, што генерал штосьці мармыча. Ён прыслухаўся і разабраў:

А канагона маладога
Вязуць з разбітай галавой...

Генерал яшчэ прамармытаў-праспяваў некалькі слоў, потым плюнуў, нібы хацеў адагнаць назойлівую мелодыю.

Ён быў нездаволены, і ад'ютант добра ведаў чаму: даводзіцца таптацца на месцы.

А тут якраз пазваніў камандуючы арміі, просячы паведаміць, як справы ў дывізіі. Шчарбацюк далажыў, што пачаў бой за горад, але пакуль дзейнічае на подступах да станцыі, дзе праціўнік трымаецца асабліва моцна. Камандуючы не сказаў ні слова нездавальнення за тое, што дывізія затрымліваецца,— нават пахваліў, што хутка адолелі Плісу і падышлі да горада.

Але ў тым, што ён пахваліў за ранейшае, за мінулае, генерал-маёр улавіў нібы намёк: вось тое, мінулае, добра зрабілі, а цяпер — падвялі. Але ён, маўляў, пакуль памаўчыць, пачакае. А тады ўжо спытае...

Шчарбацюк загадаў выклікаць да тэлефона Сібірака.

— Ну што ў цябе? Усё па-ранейшаму?

Камандзір палка адказаў, што праціўнік трымаецца.

— І што ты думаеш, сэрца маё, рабіць? Страляць датуль, пакуль адступяць?

Ласкавасць зараз у яго была такая, што ўсе, хто ведаў натуру генерала, адчувалі, што вось-вось можа зноў пачацца выбух гневу.

— Хачу паспрабаваць абысці іх злева...— адказаў падпалкоўнік.

— Ты ўсё спрабуеш! — Камандзір дывізіі нездаволена соп у трубку.

Падпалкоўнік сказаў вінавата, апраўдваючыся:

— Там у мяне ўжо дзейнічае штурмавая група.

— Падварушы. Ды хутчэй. Не марудзь!

Задачу гэту камандзір палка даў штурмавой групе Праворнага.

Малодшы лейтэнант з чатырнаццаццю байцамі, сярод якіх быў і сержант Туравец, зайшоўшы на левы фланг палка, паўзком прабіраўся цераз насып, цераз рэйкі. Не вельмі далёка палаў пажар, але святло яго закрывала нейкая разбураная сцяна, ад якой на насыпе ляжаў шырокі цень.

Праворны сказаў, каб усе трымаліся ў ценю.

Перапаўзалі па адным. Тыя, што туліліся перад насыпам, стаіўшы дыханне, сачылі за таварышамі, якія перапаўзалі па насыпе.

Усё-ткі ў гэтым ценю змрок быў рэдкі.

Над насыпам раптам прайшлася чарга з кулямёта. Усе насцеражыліся: няўжо іх заўважылі? Праворны пачакаў крыху і загадаў паўзці наступнаму. Гітлераўцы не стралялі,— значыць, не заўважылі.

Падабраўшыся да сцяны, Праворны ўзняўся на коленцы і ўважліва аглядзеўся, выбіраючы шлях. Тут камандзір пачуў, як непадалёк зноў коратка ўдарыў кулямёт. Ён быў у руінах. Малодшы лейтэнант загадаў Тураўцу і Шарыфутдзінаву прабрацца туды і «зрабіць цішыню».

Шарыфутдзінаў поўз наперадзе. Ён амаль зліваўся з зямлёй, так што нават зблізку яго цяжка было адрозніць ад камення і травы. Кулямёт цяпер страляў часта, і месца яго было добра прыкметна.

Калі падабраліся даволі блізка, Шарыфутдзінаў папрасіў:

— Чакай...

Ён папоўз між каменне; Юрый сачыў за ім, гатовы ў кожную хвіліну дапамагчы, падтрымаць. Але падтрымка яго не спатрэбілася. Шарыфутдзінаў, улучыўшы зручны момант,— калі кулямёт затутукаў,— націснуў спускавы кручок аўтамата...

Ён вярнуўся назад, трымаючы ў руках нямецкі кулямёт.

Адсюль штурмавая група прабралася да будынка, што затрымліваў батальён. Ірвануўшы дзверы, Юрый проста перад сабой убачыў спіну ў шэрым мундзіры. Не ўправіўся кулямётчык азірнуцца, як сяржант ударыў яго аўтаматам па галаве. Той асунуўся на падлогу.

Праворны абагнаў Юрыя, штурхнуў нагою другія дзверы і кінуў наперад гранату. У чаканні выбуху адхіснуўся ад дзвярэй, стаіўся ля сцяны. Калі ён убег, у пакоі слаўся дым...

За чвэрць гадзіны дом быў ачышчан.

— Ну, можна даць зялёную ракету!

Расшпіліўшы запацелую гімнасцёрку, цяжка дыхаючы, Праворны нервова выхапіў з сумкі ракетніцу, уклаў у яе патрон.

Хутка тут быў амаль увесь батальён.

Хвілін праз дваццаць генерал-маёру даладжылі, што батальён, ударыўшы з левага фланга, уварваўся на станцыю і што там вядзе рукапашныя бойкі.

Генерал-маёр, ціха мармычучы неадступную песню пра канагона, прыслухоўваўся да страляніны, якая даходзіла адтуль, углядваўся ў праймы між будынкаў. Ён убачыў у тым баку ў святле пажару некалькі постацей, што прабеглі і схаваліся за домам...

У той час, як ён чакаў данясення ад Сібірака, з палка, што наступаў правей, прывялі дзесяткі два палонных. Шчарбацюк загадаў іх дапытаць.

— Адкуль яны пажалавалі сюды, даведайцеся,— сказаў ён капітану-перакладчыку.

Аказалася — з эсэсаўскага батальёна, пераведзенага два дні назад з Гродна. Яны паведамілі, што ў Барысаве б'юцца рэшткі танкавай дывізіі і эсэсаўскія ахоўныя часткі, спешна перакінутыя з розных месц.

Неўзабаве генерал-маёр, сваёй звычайнай цяжкаватай і павольнай хадой, ішоў ужо цераз чыгуначныя пуці, што цьмяна паблісквалі. Каля спаленага будынка ляжала і сядзела некалькі параненых байцоў, аднаго з якіх перавязвала поўная рослая санітарка.

— Ну, што, тварцы гісторыі, арэшак моцны дастаўся?

— Нічога, мы прывыклыя...— адказаў той, якога перавязвалі.— Не такія трушчылі...

— Што тут у вас? Што здарылася? — пацікавіўся камандзір дывізіі.

— Ды вось адпраўляцца трэба. З паўдарогі,— сказаў адзін з раненых.

— Чаму з паўдарогі?

— Ды — у шпіталь, гаворыць.

— А вы не гаруйце, другі мае, да часу. Дарога няблізкая... Яшчэ, можа, і дагоніце...

Хрупаючы бітым шклом, генерал пайшоў далей. Шкла насыпана тут было вельмі многа, ад бляску пажараў яно зыркала. Насустрач генералу зноў правялі вялікі гурт палонных.

Тут жа камандзір дывізіі і яго афіцэры спаткалі некалькі жанчын і дзяцей, якія кінуліся іх абдымаць.

Адна з жанчын расказала пра страшныя расправы гітлераўцаў з вязнямі ў канцлагеры на лесапільным заводзе.

— А пазаўчора адзін, калі павялі на расстрэл, схапіў цагліну і кінуўся на салдат. І іншыя людзі кінуліся, ды так, што салдаты ад іх — наўцёк...

— Што ж, ВЫраТаВаліся нашы?

— Некаторыя выратаваліся. А другіх дагналі і пастралялі...

Распытваючы, генерал спачувальна ківаў галавою,— Шчарбацюк быў жаласлівы. Вінавата моргаючы вачыма і ўздыхнуўшы, супакоіў жанчыну:

— Нічога, любая мая, нічога!.. Расплоцяцца за ўсё! Мы ў іх за ўсё спытаем, будзь пэўна!

Бой не сціхаў. Гітлераўцы біліся за кожную вуліцу і завулак. Асабліва ўпарта яны трымаліся ў каменных будынках, страляючы з вокан, з дахаў. З-за будынкаў часта выпаўзалі нямецкія танкі, таксама спрабавалі затрымаць нашу пяхоту.

Некаторыя з гэтых танкаў неўзабаве змаўкалі, прабітыя навылет або ахутаныя агнём.

Увесь час сочачы за боем, за тым, як прабіваюцца часці, генерал-маёр заўважыў, што полк Сібірака зноў прыпыніўся.

— Чаму затрымліваешся? — нездаволена запытаў Шчарбацюк камандзіра палка.

Падпалкоўнік адказаў: затрымлівае батальён Паўлоўскага, вядзе бой з немцамі, што заселі ў вялікім доме.

— Дом добры...— нечакана пачуў генерал.—Паўлоўскі шкадуе разбіваць яго снарадамі...

Шчарбацюк хвіліну маўчаў. Потым папрасіў, каб яго звязалі з Паўлоўскім.

— Ну, што там у цябе? — прамовіў ён строга. Ледзь пачуў камбата: Паўлоўскі пачаў дакладваць, як ідзе бой батальёна. Генерал перабіў яго: — Што там за дом у цябе? Добры!.. Што ў ім добрага? Вялікі... Колькі паверхаў? Тры паверхі... Школа была... Адкуль ведаеш? Па выгляду... Які такі выгляд у яго?.. Вокны шырокія...

У твары Шчарбацюка паявілася штосьці дзіцячае, цікаўнае.

— Значыць, дом добры і школа...

Ён задумаўся. Хвіліну цяжка соп у трубку. Нездаволена, строга прамовіў:

— А не загубіш ты мне людзей дарэмна? Клапоцячыся пра дом свой!

Паўлоўскі адказаў, што спадзяецца ўзяць дом без страт.

Генерал-маёр спытаў, колькі на гэта спатрэбіцца часу, і дазволіў браць дом пяхотаю. Але прыгразіўся, што, калі Паўлоўскі загубіць хоць чалавека — галаву здыме. І загадаў, каб не марудзілі.

Прайшло, мусіць, з паўгадзіны, як генерал-маёру далажылі, што дом выратавалі, што забітых у штурмавой групе няма. Байцы, сказаў Сібірак, узлезлі па вадасцёкавай трубе на трэці паверх і адтуль пачалі спускацца ўніз, ачышчаючы паверх за паверхам.

— Хто там з іх асабліва?..— спытаў Шчарбацюк стрымана.— Павіншуй ад мяне са «Славаю», а камандзіра са «Звёздачкай».

Яшчэ ішоў бой, а генерал-маёр, выклікаўшы да

тэлефона намесніка па тыле і камандзіраў палкоў, загадаў падрыхтавацца да дарогі.

— Адразу, як толькі скончым, выступаем. Без затрымкі!..

## 6

Паўдня біліся з нямецкай часцю, што спрабавала затрымаць наступленне. Потым прыводзілі сябе да ладу, абедалі.

Увесь вечар, зрэдку спыняючыся, хутка ішлі. Толькі пад поўнач, калі дацягліся да вялікай маўклівай вёскі, ім дазволілі зрабіць прыпынак, адпачыць.

Юрый нялёгка выпрастаў налітае стомаю цела. Нарэшце ён можа паспаць. Паспаць спакойна, ды яшчэ на саломе ў хаце.

Сержант узбег на ганак, адчыніў дзверы. Пасвяціўшы запальнічкаю, акінуў позіркам пакой. Было пуста і няўтульна, але Юрыю вельмі хацелася спаць. Ён ведаў, што і камандзір, і байцы хочуць толькі аднаго — хутчэй паваліцца спаць. Што ім да ўтульнасці!

Сержант загадаў салдатам пашукаць саломы ці сена:

— Хутка. Куляю!

Праз хвіліну салдаты ўнеслі ў хату сена: яно было ў хляве.

Сержант запаліў бляшаначку з гаручым рэчывам, якая цьмяна асвятліла пакой, і, падгарнуўшы пад галаву больш сена, разаслаў шынель.

Праворны, які ўвайшоў неўзабаве, быў таксама зморany і, ступіўшы ў пакой, не здымаючы ботаў, адразу зваліўся на сена.

— Пабудзі, Шарыфутдзінаў, праз гадзіну,— сказаў ён яфрэйтару, прызначанаму ў варту.— Ды глядзі, каб на пасту не драмалі! Эх, ногі гудуць!..— ён соладка пазяхнуў і прыкрыўся шынялём.

У гэтую хвіліну ў пакой ускочыў салдат.

Ён кінуўся да Шарыфутдзінава, спалохана выдыхнуў:

— Немцы!..

— Дзе?! — ціха, але ўстрывожана запытаўся яфрэйтар.

— Тут — у суседнім пакоі...
— За сцяной?
— За сцяной. З двара ўваход...
— Што яны... робяць?
— Спяць.
— Дык чаго ж ты палохаеш? — нездаволена прамовіў яфрэйтар.— Чалавек — галава, два вухі!
Ён спакойна зняў з пляча аўтамат і, рашуча бліснуўшы вузкімі вачыма, рушыў да дзвярэй; салдат падаўся за ім. Але на парозе прыпыніўся, азірнуўся да Праворнага. Падумаў, відаць, што трэба папярэдзіць камандзіра ўзвода.
Малодшы лейтэнант ужо ўстаў.
Пачуўшы хуткія, неспакойныя крокі салдата, Праворны, адольваючы санлівасць, мімаволі прыслухаўся: ці не да яго? Можа, распараджэнне якое? Ён улавіў словы: «Немцы!.. Тут...»
За лейтэнантам, улавіўшы, што нешта здарылася, ускочыў Юрый.
Праворны парывіста ступіў да салдата:
— Дай аўтамат! Скажы Шарыфутдзінаву, каб не спяшаўся!..
— Вы б не ішлі, таварыш малодшы лейтэнант... Мы самі!
Праворны не адказаў. У хвіліны, калі пагражала небяспека, ён станавіўся негаваркім і хуткім.
— Колькі іх? — коратка спытаў аўтаматчыка.
— Не разгледзеў... Чалавек, думаю, сем...
Праворны і Юрый выйшлі на двор, дзе іх чакаў Шарыфутдзінаў. Навокал, як і раней, панавалі цішыня і цемра, але цяпер яны быццам таілі ў сабе пагрознае. Усе мімаволі насцеражыліся. Каля дзвярэй стаяў яшчэ адзін салдат. Праворны запытаў шэптам, ці не заўважылі поблізу нямецкіх вартавых, першым ступіў у цёмныя сенцы, левай рукой звыкла вымаючы з кішэні ліхтарык.
Белы прамень ліхтарыка пабег па падлозе, пераляцеў на бочку, абмацаў куты. У сенцах было пуста.
Праворны рвануў дзверы ў хату. Ліхтарык зноў пабег па падлозе, выхапіў з цемры лаўку, стол, ложак.
Немцы спалі на ложку і на падлозе, падаслаўшы сена, мусіць, з таго ж самага хлява, з якога прынеслі і для нашых. Іх было шасцёра.

— Спакойна заваёўнікі размясціліся! Як дома! А ну, Шарыфутдзінаў, падбяры зброю іх ды пабудзі...

Яфрэйтар стаў будзіць. Наском бота штурхнуў аднаго, другога з тых, што былі на падлозе. Немцы прачыналіся неахвотна. Праворны раззлаваўся:

— Гэй вы,— устаць! — скамандаваў ён рэзкім голасам.

Усе, хто яшчэ спалі, заварушыліся, паслухмяна ўсталі, выцягнуліся, сонна лыпаючы вачыма. Салдат у світэры кінуўся было да месца, дзе стаяла зброя, але Юрый так даў яму, што той адразу застыў...

На іншых не было відаць ні перапалоху, ні здзіўлення.

— Мы слышаль ноч какой-то танкі...— загаварыў адзін з іх, цяжка падбіраючы рускія словы.

Аказалася, некаторыя з іх чулі, як увайшлі ў сяло, прайшлі міма танкі, але не ведалі, чые гэта. Супакойвалі сябе, што — свае, нямецкія. Нікому не хацелася ўставаць, усе вельмі змарыліся, цэлы дзень ішлі пеша. Рашылі перачакаць да раніцы, махнулі на ўсё і леглі спаць.

Праворны загадаў аўтаматчыку пакуль павартаваць іх, а Юрыю — выклікаць канваіраў.

Малодшы лейтэнант вярнуўся ў свой пакой, лёг на разасланы шынель і праз хвіліну ўжо спаў.

## 7

Побач са штабнымі машынамі было відаць некалькі непрыкметных гарбкоў — зямлянак, амаль схаваных густым купчастым зелянівам агародаў. Сярод іх самотна тырчалі сухія, не па-летняму голыя, абпаленыя ігрушы і яблыні. Яны, здавалася, стаялі сярод поля.

На карце, што ляжала на стале ў крытай штабной машыне камандзіра дывізіі, гэтыя агароды і зямлянкі называліся вёскай Паплавы.

Ехаць далей нельга было: за суседняй вёскай, кіламетры праз чатыры, два палкі наткнуліся на адступаючую нямецкую часць і цяпер вялі бой. Трэці полк з боем перапраўляўся цераз балота...

— Прыйдзецца пастаяць... Высветліце, як там справы ў Скорабагатага,— сказаў камандзір дывізіі падпалкоўніку са штаба,— а я выйду. Стаміўся.

Машына генерал-маёра стала каля зямлянкі. Грузна і мякка спусціўшыся са ступенькі машыны, Шчарбацюк убачыў на двары двое дзяцей. Дзяўчынка год адзінаццаці, трымаючы за руку малое хлапчанё, пазірала на машыну. Шчарбацюку, які даўно не бачыўся са сваімі дзецьмі, што жылі цяпер у Казані, захацелася падысці да малых. Ён ступіў на двор.

— Як цябе зваць, дзяўчынка?

— Воля.— Гэта была Волька, дачка Шабуніхі.

— А дзе твая мама?

— На агародзе...— А ты хто? — вырвалася ў Волькі.— Чырвонаармеец?

— Чырвонаармеец,— усміхнуўся генерал-маёр.

— А тут ужо былі чырвонаармейцы. Толькі яны адразу паехалі...

Волька азірнулася ў той бок, дзе быў агарод, і, убачыўшы, што маці ўжо ідзе да іх, шчаслівая кінулася насустрач.

— Ма-а-мка!

Шабуніха, у выцвілай хустцы, абшарпаным андараку, апусціла падаткнуты край фартуха, заспяшалася. Даўно-даўно не ступала яна так лёгка, радасна, як у гэты дзень,— нібы памаладзела адразу.

— Браток ты мой! — голас Аўдоцці, нізкі, глыбокі, уздрыгнуў і абарваўся. Яна пяшчотна абняла Шчарбацюка.

— Усё-ткі і я шчаслівая! — з нейкай урачыстасцю ў голасе вымавіла яна.— Прыйшло і да мяне шчасце! Не абмінула!..

І неспадзеўкі на яе нахлынуў такі нядаўні, не перажыты яшчэ трывожны настрой. Колькі перайшло ўсяго за гэтыя суткі! Ці праўда, што яно было ўсё, што мінулася? Яшчэ ўночы і ўранку тут былі немцы, і яна хавалася ў хмызняку за агародамі, тулячы да сябе ператрывожаных малых. Уранку яна чула непадалёк вялікую страляніну...

А праз паўгадзіны Аксіння, суседка яе, сказала, што ў сяле ўжо нашы, і яна, ускінуўшы на плечы лёгенькі клунак з акрайцам хлеба, са жменяй круп і

цыбуляй, узяўшы на рукі малога Валодзьку, і Волькай пайшла ў Паплавы...

Шабуніха схамянулася, выцерла рукі аб фартух.

— Божа мой, чаго ж я стаю! Завітаў такі чалавек, а я... Мо ў каморку зайшлі б! Ці тут пасядзіце? — абвяла вачыма двор, які зелянеў дробным падарожнікам, крапівою і травой, развяла рукі.— Няма дзе... Была хата, дык спалілі... Цяпер вось дзе гнёмся, як краты ў нары. Ліхадзеі ўсё папалілі, усё, што было, каб яны свету не бачылі... Заходзь, браток, хіба ў каморку.

Шчарбацюк зняў фуражку і, сагнуўшыся, асцярожна, па земляных сходках спусціўся ў цёмны паграбок, у якім ён пасля яркага святла спачатку нічога не бачыў. Дзеці падаліся следам за ім.

— Пасядзі, браток, тут... на лаўцы... Ай, які дзень! Які дзень!..— загаманіла яна. Стала штосьці шукаць каля печкі.

Генерал-маёр сеў і тады змог выпрастаць галаву. Шабуніха неспадзявана паставіла на стол пляшку, сказала Вольцы, што сядзела на сходках, каб нарвала радыскі. Волька ахвотна ўскочыла.

— Не трэба, сястра, я зараз павінен ісці...

— Управішся,— сказала Аўдоцця ўпэўнена.— Без пачастунку — нягожа...

Волька выбегла. У каморцы трохі пашарэла ад святла, што прабівалася ў пройму дзвярэй. Генерал-маёр мог цяпер разглядзець каморку. Печ так-сяк зляпіў нейкі дамашні майстар. Каля стала былі палаці з розным рыззём, яны, відаць, замянялі і ўслоны.

— Паглядзі, паглядзі, браток, на нашу дамоўку. І то яшчэ дзякуй, што пагрkörbok быў,— нябожчык-чалавек выкапаў...

Волька прынесла жменю радыскі. Шабуніха выцерла старанна ручніком карэц з кансервавай банкі, наліла з бутэлькі. Дзеці ад палацей нязводна сачылі за госцем.

— Чым багаты, тым рады: лепшага ў мяне няма. Не пагневайся.

У Шчарбацюка зацяло дых — самагонка была вельмі моцная. Волька, убачыўшы, як госць заплюшчыў вочы ад гарэлкі, радасна засмяялася.

— Пякучая? Мамка з самай зімы беражэ яе. Аж з Азяранаў прынесла.

— Ат, якая гэта гарэлка — слёзы! І то, можа, нішто б, каб закуска. Не было ў нас яшчэ такой нішчымніцы... Бывала, гасцей наедзе са ўсяго свету — у нас радня багатая. Каб хто калі пакрыўдзіўся! Змітро мой вельмі быў гасцінны — каб усім хапіла і піць і есці. Каб не то што сказаць, але і падумаць ніхто кепскага не мог...

Твар яе спахмурнеў, як ад болю, а вочы часта-часта заміргалі.

— Плакаць чагосьці захацелася...— прамовіла яна, нібы прасіла прабачыць.— Не з гарэлкі, а з радасці. І ад думак... Што мы тут пражылі, перацярпелі за гэтыя гады! Ніколі зроду не было ліхалецця, як гэта... Пабачыла я такое, што не думала, не гадала, і нікому не жадаю бачыць — ні брату, ні свату.

— Так, сястрыца, гора паспыталі вы многа...

Памаўчаўшы хвіліну, Аўдоцця не ўтрывала, загаварыла зноў.

— Бяда, праўду кажуць, адна не ходзіць. У блакадзе чалавек мой — Змітро — загінуў. Партызанскі камандзір быў... Гаравала я страшэнна, як даведалася. А тут яшчэ як вярнулася я на селішча — з лесу, з партызан,— дык і следу не знайшла ад хаты сваёй, адзін попел ад усяго. Заламала я рукі, павалілася, як непрытомная, на зямлю... Ой, нацярпеліся! А пазалетась і самі ледзь не загінулі ад праклятых. Я тады ўжо думала, што смерць будзе майму Андрэю. Сама з малымі была акурат на полі, то нам нішто, удалося ўцячы... А Андрэю толькі шчасце дало выбрацца, не інакш.

— Андрэй наш тады ў хаце быў,— загаварыла Волька.— І дзед Хвёдар таксама. Як немец стрэліў у дзеда, дык Андрэйка адразу скочыў за грубку. Тады гэты кінуў услед гранату,— толькі наш Андрэйка паспеў схавацца. Граната як бухне, дык на Андрэйку як пасыплецца каменне... ён адразу ўпаў, перапужаўся — страх... дым па хаце круціцца, дыхнуць няможна... Выбег наш Андрэйка, скочыў з акна — ды ў агарод. А тут за ім — тр-тр з аўтамата ўслед. Убачыў, зараза! Тады Андрэйка ўпаў, нібы нежывы, а сам паўзкомпаўзком хутчэй. Праз гарбузнік хутчэй у поле. Уцёк ад яго! Проста з-пад носа ўцёк. Ён смелы ў нас, Андрэйка! Такі смелы!..

— Адлей нась смелі,— адгукнуўся Валодзька.

— Вялікае сяло было. Тут над нашымі Паплавамі і сёл не было большых... А з усіх Паплавоў толькі чалавек пяцьдзесят, можа, засталося...

Шчарбацюк быў чалавек уражлівы. Ён добра ўявіў ясны летні дзень і дым, што чорнай хмарай уецца над хатамі, постаці гітлераўцаў, якія ганяюцца за перапалоханымі жанкамі, за старымі і дзецьмі.

Аўдоцця зноў наліла ў карэц. Генерал-маёр убачыў у цьмяным святле яе худую, але моцную, з напятымі жыламі руку, што дрыжала. Такая рука, звыклая да працы, была калісьці ў яго маці,— і такія ж чорныя драпіны на пальцах...

Шабуніха папрасіла выпіць яшчэ, але Шчарбацюк не дакрануўся да карца. Нізкая столь зямлянкі пачынала гнясці, гарэлка пякла ўсярэдзіне. Угадаўшы, што яна можа пакрыўдзіцца за тое, што ён адмаўляецца, Шчарбацюк мякка сказаў:

— Не магу. Нельга мне...

Яна зірнула на яго недаверліва.

— Нельга.— Сказаў болесна: — Словы вашы, дарагая, паляць у мяне ўсярэдзіне горш за агонь...

— А ты не думай, браток, лішняе! — перабіла яна ўладна.— Бяда — яна бяда. Цяжкая яна. А толькі калі думаеш пра яе, дык яшчэ цяжэе. Жыць нібы няміла... Жыццё яно і само па сабе — не салодкае... А трэба жыць. І трэба пра жывое думаць... Я вось таксама было па Змітру свайму гаравала страх, а што з таго?.. Хоць яно, праўда, сэрца не слухаецца, не выходзіць у мяне з душы Змітро... Але не трэба бедаваць попусту, не трэба...

## 8

Аўдоцця хацела яшчэ штосьці сказаць, аднак замест слоў пачуўся глухі, прыдушаны ўсхліп. Шчарбацюк падумаў, што яна зараз пачне ўспамінаць свайго мужа і будзе плакаць. Гэта яму было не ў навіну. Але ён памыліўся: Аўдоцця ні слова не прамовіла больш пра сваё гора.

— Аж не верыцца, што сагналі ліхадзея. Не дай бог, вернецца зноў. Загубіць тады ўсіх... Скажы, родны, ты чалавек вучоны і, відаць, з камандзіраў — будзе яшчэ яна тут, вайна?

Генерала апошнія словы жанчыны не здзівілі, ён не раз чуў такое пытанне ад байцоў.

— Не будзе.

Яна паківала галавою.

— На маім вяку тут ужо трэці раз...

— Не будзе! — сказаў ён цвёрда, з упартай ноткай у голасе.

— Каб жа не было... Каб сынкі былі дужыя. У мяне цяпер толькі і думак, што пра іх. Кожную ноч яны сняцца. У мяне ж два ваююць — Андрэй у партызанах, а другі — Лявон — той на фронце. Сённачы бачыла ў сне яго, Лявона. Нібы ішоў ён па зялёным полі ў белай доўгай сарочцы... Гэта на добрае, кажуць, радасць нейкая будзе: можа, вестачка ад яго. Каб хоць даведацца, што жывы ён!.. А можа, сам зазірне, дай бог, дадому.

— От было б добра! — вырвалася ў Волькі.

— Былё б добля.

Генерал падзякаваў за пачастунак.

Яркае святло летняга сонечнага дня ўдарыла ў вочы, асляпіла яго, і Шчарбацюк заплюшчыўся на хвіліну. Расплюшчыўшы вочы, ён убачыў перад сабою некалькі дручкоў, па якіх, абвіваючыся, паўзлі ўгару ніткі фасолі, убачыў дзесятак зялёных кіяхоў, далей — сінявагы лясок і над ім спакойнае, з высокімі клубістымі воблакамі неба.

Шабуніха праводзіла яго да вуліцы, трымаючы на руках Валодзьку.

Па вуліцы, поўнячы яе, ішлі кавалерыя і процітанкавая часць, прыданая дывізіі Шчарбацюка. Шабуніха пільна ўзіралася ў твары тых, што праходзілі.

— От, каб Лявон быў жывы. Каб прыйшоў дадому. Мо прыйдзецца часам дзе спаткаць — Шабуня па прозвішчу,— то перадай яму паклон. І скажы яму, калі, значыцца, убачыш часам, каб напісаў, ці дужы. Ці што здарылася. Як ёсць, усю праўду. Так і скажы.

— Так і сказі! — паўтарыў Валодзька.

— Перадам.

Вярнуўшыся ў машыну, генерал-маёр нейкі час сядзеў задумлівы і ўзрушаны. Тое, што ён пабачыў і пачуў, не адыходзіла з сэрца, гняло, пякло. Не адыходзіла з памяці пытанне яе: «Ці будзе зноў тут?..», трывожны, недаверлівы позірк яе. «На маім вяку ўжо

трэці раз...» Адчуваў сябе па-ранейшаму вінаватым, разам з усімі такімі, як сам, цяжка вінаватым перад ёю. Не ўпершыню адчуваў гэта, але боль усё не адпускаў яго.

Стаў думаць пра дзяцей, з якімі ўжо больш за год не бачыўся. Люся ў гэтым годзе скончыла дзесяты клас. Як яна здала экзамены? Ну, за сыноў, асабліва за Валодзю, можна быць спакойным — выдатнік усе гады... Успомнілася Саша, Аляксандра Сяргееўна,— жонка. Недзе чакае яго, хвалюецца за яго, а ён так рэдка радуе яе лістамі.

Трэба будзе сёння ж напісаць ёй яшчэ ліст. Так даўно не пісаў ім,— сухар, бюракрат!..

Ён рэзка змяніў кірунак думак.

— Што з палкоў? — запытаўся ён у падпалкоўніка, які моўчкі паглядваў на яго.

## РАЗДЗЕЛ IV

### 1

Ужо каля дзвюх гадзін кіпеў бой у пасёлку, а немцы не здаваліся.

Пахмурны і ўзлаваны, Ермакоў, слухаючы частую перастрэлку, якая не толькі не сціхала, а яшчэ мацнела, нецярпліва кінуў Габдуліну:

— Ну, ліха, колькі з гэтым сялом валаводзіцца!.. На што яны, гэтыя недабіткі, спадзяюцца?! Думаюць адсядзецца ці баяцца здацца?

— Здадуцца, нідзе не дзенуцца,— спакойна адказаў Габдулін.

— Важдацца колькі даводзіцца! — спакой Габдуліна нібы яшчэ падагрэў злосць Ермакова.

Габдулін адгукнуўся непарушна:

— Гэта ім не красавік — не блакада.

Ермакоў прамаўчаў.

Ермакоў з Габдуліным стаялі ў гарбузніку, каля нейкай драўлянай пабудовы. Недалёка палаў дом, падпалены нямецкімі мінамётчыкамі, і сюды, ледзь Ермакоў высоўваўся з-за будынка, патыхала гарачынёй.

— Перадай камандзіру атрада, хай зноў атакуе,— сказаў камбрыг сувязному.

Сувязным быў Андрэй Шабунёк, які здаваўся сабе адным з віднейшых воінаў у гэтым баі,— вядома, пасля камбрыга, Тураўца і Васі Крайко. Андрэй быў бязмерна горды сваёй роляю і шчаслівы.

Ён адразу кінуўся выконваць загад камбрыга.

То там, то тут, наперадзе і з бакоў, успыхвалі чэргі аўтаматаў, выбухалі гранаты... Ермакоў, які быў амаль у самым пекле бою, бачыў, як поблізу паўзком пачалі прабірацца цераз грады і гарбузнік, паўз будынкі яго людзі. Яны зніклі па той бок пабудоў, адкуль цяпер ужо даносіліся выбухі гранат і стрэлы.

Прыбег сувязны з «Радзімы» і далажыў, што нямецкі кулямёт падавіць не ўдаецца і што роты залеглі. Камандзір атрада просіць дапамогі — мінамётчыкаў...

— Скажы, мінамётаў не дам. І наогул — хай пакуль не атакуе. Не трэба... Хай толькі так, для выгляду, шуміць, каб пабойваліся... Пачакай! — затрымаў Ермакоў сувязнога.

Ён з палявой сумкі выхапіў блакнот, вырваў лісток. Прытуліўшыся да сцяны, хапатліва напісаў на лістку некалькі слоў. Сувязны свяціў яму.

Ледзь сувязны знік за плотам, Габдулін перадаў узрадавана:

— Школу ўзялі, Ярмак!

Гэта школа непакоіла камбрыга. Адтуль быў добры абгляд навокал для назіральнага нямецкага пункта. Перад домам быў кулямёт; ён цяпер маўчаў...

Ермакоў перайшоў з Габдуліным і трыма сувязнымі наперад. Яшчэ некалькі дамоў узялі — дом за домам. Марудна...

Але нічога, Ермакоў выкіне, абавязкова выкіне гэту погань адсюль. Праўда, іх сюды нашылася ў апошнія дні многа, але ён выб'е іх. Павінен выбіць, што б там ні стала! Пасёлак невялікі, напалову разбураны, аднак стаіць на шляху. Калі брыгада зойме яго, яна адбярэ ў гітлераўцаў важную дарогу.

Ермакоў загадаў перанесці мінамёты да школы, павярнуць у бок парку, каб падавіць там кулямёт і аўтаматчыкаў.

Ён сам сачыў, куды трапляюць міны. Сэрца артылерыста не вытрымала, калі ён пабачыў, як мінамётчыкі прамахнуліся.

Зноў злева рвуцца. Куды яны садзяць?.. Правей, правей трэба!..

Ён стаў камандаваць сам. Перабраўся праз некалькі двароў наперад, бліжэй да парку.

Кулямёт хутка сціх, але праз некалькі хвілін ён абазваўся з другога месца. Каля мінамётчыкаў пачалі рвацца варожыя міны. Ермакоў загадаў змяніць пазіцыю, даў новы прыцэл і вугламер.

Камбрыг увесь захапіўся стральбою,— ён страляў да таго часу, пакуль кулямёт не сціх.

Калі Ермакоў вярнуўся да Габдуліна, прыбег задаволены сувязны і перадаў — нашы ў парку!..

Стрэлы сціхалі. Над хатамі, садамі, вогнішчамі павolі раставалі дым і ранішняя шэрань.

На перавязачным пункце, што асталяваўся ў хаце з разбітымі шыбамі, па-ранейшаму быў заклапочаны настрой.

Марыя Андрэеўна, абвязаўшы марляй чорныя валасы, нос і малы, лагодны рот, аперыравала маладзенькага русявага хлопца. У яго была куляй разбіта косць крыху ніжэй каленнага сустава.

Марыя Андрэеўна, нахіліўшыся, вымала пінцэтам з раны, якую ўвесь час залівала кроў, белыя абломкі косткі. На твары хлопца, побач з крапінкамі вяснянак, уздрыгвалі мутныя каплі поту. Ён час ад часу стагнаў.

— Пацярпі яшчэ крыху, любы, харошы мой... Ужо небагата засталося... Хутка ўжо, зусім мала...— шаптала яна пяшчотна і зноў схілялася з пінцэтам у тонкіх пальцах.

У прытоеных цёмных вачах яе, між броваў, былі то непадступная ўвага, то спачувальная, мацярынская ласкавасць.

— Ну, вось, бачыш, не страшна, як здавалася!..

У такія хвіліны асабліва выяўлялася тое, што так падабалася ў ёй Тураўцу,— цудоўная жаночая мяккасць, чуласць, якія віднеліся, здаецца, у кожным яе руху.

Марыі Андрэеўне дапамагала Валя Залеская. Яна рабіла ўсё, што трэба было, з нейкім ганарлівым выглядам, быццам абы-як, але на дзіва спрытна. Нібы загадзя адгадвала загады доктара.

Да раненых Валя адносілася інакш, чым Марыя Андрэеўна: яна была, можна сказаць, сваявольнай і нават дэспатычнай. Валя магла загадаць раненаму, каб ён зараз жа сціх, а не стагнаў, як баба, магла строга, грубавата адрэзаць, калі хто прасіў аб недазволеным,— і яе слухаліся. І не толькі слухаліся, а любілі і паважалі,— мусіць, за тое, што яна дзяўчына, прыгожая, спрытная, такая маладая.

Яна добра адчувала гэтую сваю ўладу і сілу і камандавала як хацела.

Ледзь Марыя Андрэеўна скончыла бінтаваць нагу, дзяўчына, не чакаючы просьбы, паднесла ёй шыну.

Марыя Андрэеўна стала прыладжваць шыну да забінтаванай нагі,— Валя звыкла дапамагала ёй, усё з тым жа ганарлівым выглядам.

— Ну-ну, застагні! — строга зірнула яна на хлопца, які паморшчыўся ад болю.

Марыя Андрэеўна кінула ёй дакорлівы позірк. Прыматваючы шыну, сказала хлопцу, лагодна, суцешліва:

— Пацярпі, харошы мой... Ужо канчаем!..

Скончыўшы нарэшце перавязку, яна стомлена выпрасталася, адышла ад стала, з якога толькі што знялі хлопца, пачала павольна скідаць абпырсканы крывёй фартух.

Павяла позіркам у пустыя вокны. Прыслухалася да шуму, што ўрываўся праз іх.

На невялікай брукаванай плошчы, пасярэдзіне якой, задраўшы ствол, стаяла зенітка, вакол якой чарнелі сцены і печы спаленых дамоў, віравалі шумлівыя, гаваркія групкі — жыхары і партызаны дзвюх брыгад, што бралі пасёлак. Узносіліся над плошчай вясёлыя прыпеўкі. Хтосьці гарэзна, скорагаворкаю вывеў:

У пасёлку ля варот
Сабіраецца народ.
Пруць фашысты ў наступленне,
Толькі... задам напярод!..

## 2

Ермакоў не адчуваў поўнай радасці. Як ні цешыла яго перамога, ён разумеў добра, што ўсё, чаго дабіліся яны, пакуль вельмі ненадзейнае.

Ён прадбачыў, што немцы не прымірацца з тым, што важная дарога перарэзана. Прадбачыў, што ўтрымаць пасёлак у сваіх руках, відаць, будзе цяжэй, чым было ўзяць. Ермакоў быў амаль упэўнены, што трэба чакаць бою, і бою нялёгкага.

Адразу ж, у той час, калі пасёлак яшчэ карагодзіў весялосцю, камбрыг пачаў рыхтавацца да новага бою.

Большасць сваіх рот і амаль усе мінамёты і трафейныя гарматкі ён паставіў на ўскраіну, збоку якой да пасёлка падыходзіла шырокая істужка шляху. Тут, меркаваў ён, давядзецца цяжэй за ўсё, бо гітлераўцы колькі змогі будуць ірвацца вярнуць дарогу... Другая брыгада мелася абараняць пасёлак з паўночнага боку і з процілеглай ускраіны, дзе шлях выходзіў у поле.

Камандны пункт Ермакоў зрабіў у каменным пакойчыку нейкага напаўразбуранага магазіна.

Праз якіх паўгадзіны пасля таго як Марыя Андрэеўна бачыла вірлівы натоўп, камбрыг і Туравец на новым КП, прысеўшы на пустыя скрынкі, падсілкоўваліся. Перад імі на скрынцы, акурат такой жа, як і тыя, на якіх сядзелі, была банка трафейных кансерваў.

Адсюль у пралом акна віднеўся шлях, што бег дугою да ляска, ён цьмяна шарэў між зялёных лапін бульбы і жоўта-шызых палосак жыта.

Удалечыні была яшчэ чуваць мінамётная страляніна. Гэта вёў бой заслон, якім камандаваў Дрозд і ў якім быў са сваім узводам Васіль Крайко. Ад самай поўначы, калі пачаўся наступ на пасёлак, яны біліся пры шляху з гітлераўцамі, што стараліся прарвацца да пасёлка.

— Горача Дразду! — прамовіў Ермакоў, дастаючы лыжкай мяса з кансервавай банкі.

За час ад блакады Ермакоў прыкметна папаўнеў, і на твары яго з'явіўся неўласцівы яму раней выраз нейкай мяккасці.

Туравец хмурыў бровы над цыганскімі вачыма так, нібы хацеў штосьці зразумець, але не мог.

— ЦісНуць іх моцна... І, ведаеш, мне здаецца, абыходзяць нашых. Акружыць, відаць, хочуць...

— Не акружацьǃ — але ў голасе Ермакова, хоць камбрыг і глушыў гэта, чулася трывога.

— Не акружаць? Ты ўпэўнены?

Перапытаўшы, Туравец, як звычайна, угледзеўся ў Ермакова, нібы ацэньваючы яго словы.

— Можа, і не акружаць, а можа?.. Крута ім будзе, калі акружацьǃ Там у немцаў можа падабрацца вельмі многа рознага зброду. «Мяшок» зробяць Дразду... Трэба вывесці «старшыню», пакуль не позна... Што ж гэта...

Тут у пакой убег Ляхора, хапаючыся адрапартаваў, што яго прыслаў Дрозд.

— Вось добраǃ Якраз успамянулі вашага камандзіра. Ну, што там у вас?

Ляхора адказаў, што немцы стараюцца акружыць роту, што стрымліваць больш іх адной роце немагчыма.

— Хай будзе па-твойму, камісар...— Ермакоў зашпіліў гузікі на тугім каўняры, зноў павярнуўся да Ляхоры, рашучы, хуткі: — Ляці туды і перадай: няхай адыходзяць, зараз жа адыходзяцьǃ А фрыцаў — прапусціць. Я іх сустрэнуǃ.. Зразумеў? Паўтарыǃ Правільна...

Ляхора выбег з пакоя. Ермакоў у акно бачыў, як ён ляціць на кані па мосце, потым па зялёным выгане за рэчкай назад да лесу.

Ермакоў акінуў позіркам свае пазіцыі, дапаўняючы ўяваю тое, чаго не бачыў.

Партызаны былі абапал шляху ў акопах пры ўскраіне. За крайнімі пабудовамі тут вілася вузкая рачулка, каля якой у прыбярэжных кустах і на дварах маўчалі тры замаскіраваныя гарматкі. Яны стаялі на прамой наводцы. Непадалёк, на двары, уздымалі свае трубы нявідныя адсюль мінамёты, добрыя памочнікі камбрыга.

Ермакоў крыкнуў сувязных.

— Перадайце камандзірам, зараз будуць «госці»... Няхай падрыхтуюцца прымаць. Сустракаць, перадайце, па ўсіх законах, не шкадуючы дабраǃ Няхай чакаюць хуткага сігналу. Сігнал яны ведаюць — стрэл з гарматы. Вось усёǃ Ідзіцеǃ..

Ермакоў упіўся вачыма ўдалеч. Нарэшце камбрыг убачыў, як з-за дрэваў паявіліся на дарозе некалькі

машын. Яны пачалі прыкметна набліжацца... Хутка можна было ўжо разабраць бронетранспарцёры, грузавыя машыны...

Ермакоў узяў трубку адзінага тэлефона, які звязваў яго з мінамётчыкамі і гарматамі. Калі пярэднія машыны наблізіліся метраў на дзвесце да рэчкі, ён скамандаваў коратка:

— Давайце! Агонь!..

Непадалёк адразу разложыста грымнула гармата. Яе падтрымала другая, трэцяя...

Пачалося!

3

— Усе вярнуліся? — запытаўся Туравец у Дразда.

Яны былі на двары, абсаджаным старымі клёнамі, непадалёк ад брыгаднага КП. Каля хаты і пад клёнамі сядзелі і ляжалі дзесятка паўтара партызан, якія займаліся рознымі справамі. Гаварылі, курылі, прыслухоўваліся да страляніны, аглядалі зброю. Адзін з іх, пажылы чалавек з малінавым загарэлым каркам, драмаў. Група толькі што пераправілася ў зацішным месцы ўброд цераз рэчку і далучылася да сваіх. Камбрыг трымаў яе да пары ў рэзерве.

— Забітых няма...— Дрозд папраўіўся: — Пакуль не было. Не магу дакладна сказаць, не ўсе яшчэ вярнуліся.

Дрозд незадаволена павёў позіркам на Ляхору, што стаяў непадалёк, прыслухоўваючыся да іх гаворкі.

— Хто не вярнуўся?

— Крайко і тры байцы,— адказаў за Дразда панура Ляхора. Умяшаўшыся ў размову, ён схамянуўся і казырнуў вінавата: — Прабачце...

— Чаму? Што з імі?

— Засталіся... прыкрываць...

Дрозд расказаў, што, каб вырвацца ім з ледзь не поўнага акружэння, трэба было пакінуць заслон, які б адцягваў увагу гітлераўцаў на сябе. Кіраваць гэтым заслонам папрасіўся Крайко. З ім засталіся яшчэ тры хлопцы.

Дрозд растлумачыў ім, колькі трэба трымацца, дзе адыходзіць і перапраўляцца цераз рэчку. Яму шкада

было даручаць гэтую небяспечную ролю хлопцу, аднак ён супакойваў сябе тым, што Крайко можа справіцца лепш за іншых.

Адыходзячы, Дрозд чуў там, дзе застаўся Васіль, страляніну... Потым, ужо калі яны пераправіліся на гэты бераг, іх дагнаў адзін партызан з таго заслону. А Васіль і два другія не прыйшлі. Вось і ўсё, што можа сказаць Дрозд. Дзе Васіль і дзе іншыя два, што з імі,— невядома.

— Шкада, калі прападуць хлопцы,— прамовіў Туравец. Яму чамусьці згадалася, як некалькі дзён таму Крайко перадаў спраўную рацыю. Хлопец прызнаўся, што біўся амаль месяц, пакуль не разабраўся ва ўсім, знайшоў патрэбныя дэталі...

— Як толькі будзе можна, пашлі на пошукі іх... Можа, паранены...

Ляхора нібы чакаў гэтага:

— Дазвольце мне з аддзяленнем, таварыш камісар!..— Яму нядаўна далі аддзяленне.

Ляхора трымаў руку ля казырка, чакаючы з такім выглядам, нібы гатоў быў зараз жа кінуцца туды.

Туравец ведаў, што гэта не рысоўка: Ляхора паказаў сябе вельмі смелым у баі, да таго ж яны з Васілём былі добрымі прыяцелямі.

Туравец не адказаў. Ён з непакоем заўважыў, што да двара падыходзіць Валя Залеская. «Ведае яна, што з Васілём, ці не?» — мільганула ў галаве камісара.

Валя, прыціскаючы да грудзей кулачок, амаль бегла, белая хусцінка з галавы збілася на шыю, і вецер калмаціў валасы. Туравец здагадаўся, што яна вельмі ўстрывожана.

Валя падбегла да Дразда, узрушана паправіла хусцінку.

— Гэта праўда... Што пра Васю кажуць?

— А што пра яго кажуць? — запытаўся спакойна Дрозд. Было прыкметна: знарок спакойна.

— Быццам ён застаўся ў лесе!

— Праўда.

Валя прыкусіла губы і з роспаччу зірнула на Тураўца. У яе запалых вочках відзеліся такі непакой і гора, што Тураўцу стала шкада яе.

— Як жа гэта, таварыш камісар, яго аднаго пакінулі?

Дрозд адказаў першы, стомлена прыплюшчыўшы вочы:

— Не аднаго, а з групай партызан... Трэба было, дык пакінулі.

— Трэба было! Пакінулі! — Валя да болю сціснула кулачок.— Загубілі!

— Чаму загубілі? Гэта ж няпраўда, Валя! — коса зірнуўшы на Drазда, мякка сказаў камісар.— Нашто ты выдумляеш такое? Ну, няхай, яшчэ нічога невядома. Але я ўпэўнены, што ён жывы. Вось адчуваю, упэўнены — ён жывы! Такі хлопец, Валя, не можа прапасці!

— «Не можа»!.. Кулі не разбіраюць!..

— Кулі не разбіраюць. Затое чалавек разбірае... Там і пакінулі такога чалавека, які ўмее перахітрыць кулі. Смелага і разважлівага...

— Які ж ён разважлівы! Ён часам такі неасцярожлівы, ну аж страх! Як загарыцца, нічога не асцерагаецца...

— Неразважлівы?! Ты не ведаеш яго, Валя... Ён у баі вельмі разважлівы! З галавой хлопец! Вось пабачыш, вернецца,— камісар гаварыў так упэўнена і сардэчна, што дзяўчына мімаволі паддавалася яго перакананню.— Вася не вернецца? Выдумаеш жа!

Валя трохі паспакайнела. Але калі яна ішла назад да медпункта, трывога зноў пачала агортваць дзяўчыну. Няўжо цяпер, калі ўсе блізка адчуваюць найвялікшае шчасце, да яе прыйдзе такое гора? Няўжо ён, адчайны, раўнівы і самы любы, загіне?! У гэтыя апошнія дні!

Не, не павінен ён загінуць! Яна ж так любіць яго. Хіба можа сонца ўзыходзіць, калі яго не будзе. Хіба можа дзень быць светлым, калі з Васем станецца няшчасце: усё пацямнее навокал для яе. Не, яму трэба жыць! Яна ж гэтак любіць яго. Хіба яшчэ хто любіць так, як яна Васіля,— ніхто ў свеце. І, мусіць, нікому не баліць так сэрца па ім, як ёй...

На медпункце трывога не пакідала яе. Валя не магла нічога рабіць, за што б ні бралася, думала пра Васіля. Ён увесь час быў з ёю, як ніхто, блізкі; увесь час не выходзіла з галавы: што з ім? дзе ён? як яму?

Згадалася, яшчэ толькі ж пазаўчора ішлі па ціхай ляснай дарозе, плячо каля пляча, і Васіль, пазіраючы на каляіны, апавядаў, як туляўся ў лесе, калі ўцёк

з нямецкага лагера. Як дзіка было аднаму сярод чорнага зарасніку, як збіраў і еў жалуды, як потым выбраў недагарэлую галузу з кінутага вогнішча ля лесу, бярог агонь у мокрым гушчары. Застылы, вымаклы на дажджы, ледзь саграваўся каля цяпла. Капаў употай у полі за лесам бульбу, пёк. Душыўся бядою, згалелы, здзічэлы зусім...

Чаго толькі не перабыў, колькі жахлівых, смяротных небяспек абмінуў, і вось у апошнія дні — такая недарэчнасць, такая няўдача!

Валя не ўтрывала: яна пойдзе шукаць яго. Можа, яму якраз патрэбна дапамога — ці ён б'ецца ў лесе, ці ранены ляжыць... Яна распытае партызан, дзе ён застаўся,— і пойдзе!

— Марыя Андрэеўна, пусціце! — папрасілася Валя ва ўрача.— Можа, ён там ранены... Яго трэба хутчэй знайсці...

— Куды ты пойдзеш, Валюша? Ты сама загінеш...

— Не загіну... Марыя Андрэеўна! Адпусціце! Не бойцеся за мяне! Усё будзе добра.

— Не магу, Валюша...

## 4

Валя недарэмна трывожылася. Нібы чула яе сэрца, як цяжка даводзіцца любаму хлопцу.

Адразу пасля таго як Дрозд са сваёй ротай адышоў, гітлераўцы адрэзалі невялічкі заслон, які яшчэ біўся з імі, і сталі акружаць яго. Партызаны паступова адступалі, перабягаючы ад дрэва да дрэва, збочваючы,— спрабавалі вырвацца з пятлі, якая ўсё сціскалася. Лес поўніў трэск аўтаматаў.

Лясное рэха падвойвала, разносіла гукі стрэлаў.

Слухаючы гэтыя гукі, можна было падумаць, што тут б'ецца не адзін узвод. Васіль ледзь не наткнуўся на аўтаматчыка, які забраўся ў тыл ім, але хлопец у час заўважыў яго і адскочыў за дрэва: чарга аўтамата прайшлася вельмі блізка. На траву пасыпалася кара. Праз міг аўтаматчык сам валяўся на траве, лямантуючы на ўвесь лес ад болю...

Пазней чаргой быў забіт адзін з заслону.

Цяпер яны адбіваліся ўтраіх. Але ў альховым гушчарніку іх неяк раздзялілі, і Крайко застаўся адзін.

Перад Васілёвымі вачыма з-за алешніку неспадзеўкі выбліснула чыстая палоска. Вада. Ён здагадаўся: гэта — рэчка! Хлопец прагна агледзеўся: за рэчкай слаўся голы куп'істы выган, на якім віднелася толькі некалькі чэзлых кусточкаў.

Куды ж цяпер адыходзіць? Туды — да рэчкі, на выган?.. Не, туды не трэба. Нельга туды. Там пагібель... Калі і не застрэляць, пакуль ён будзе перабірацца цераз гэтую праклятую рачулку, то куля здагоніць яго на тым куп'і.

Эх, ліха, што ж рабіць? Ён зноў азірнуўся — улева кінуцца, можа? Але там, ён добра ведаў, гітлераўцы. Направа? Там ён чуў аўтаматныя стрэлы. Чаго ж ён стаіць марна? Хутчэй трэба рашаць!

Быццам падганяючы Васіля, зблізку, з-за лазняку, дайшлі да яго нямецкія воклічы.

Хлопец нацэліўся ў гэты бок з аўтамата і націснуў спускавы кручок. Воклічы сціхлі. Адтуль адказалі дзвюма чэргамі. З вяршынкі куста пасыпалася на Васіля, на вільготную траву лісце...

Патронаў ужо мала. Хлопец з тугою паглядзеў на свой трафейны аўтамат.

Васіль неадступна шукаў выхад, але прыдумаць нічога не ўдавалася. Няўжо ж няма выхаду?.. Толькі адно: страляць, пакуль ёсць лічаныя патроны? А потым ляжаць тут на траве, не бачачы ні яе, ні блакітнага неба. Не спаткацца ніколі з сябрамі, з Валяю...

З гэтым Васіль ніяк не мог пагадзіцца. Яму нават думаць не хацелася аб смерці. Небяспека выклікала ў ім такую прагу жыць, што ён гатовы быў на любы ўчынак...

І раптам ён знайшоў выхад. Гэта быў нечаканы і рызыкоўны план, але Васіль ухапіўся за яго. Што ж, яму не было чаго іншага выбіраць. Хлопец акінуў вачыма чужы шэра-блакітны мундзір, які насіў на сабе. Зняў пілотку з вішнёва-чырвонаю зоркаю, згарнуў і паклаў у кішэню.

Ён яшчэ паспрабуе вырвацца! Вось калі не ўдасца гэта, тады не застанецца ніякай надзеі — тады апошні патрон у аўтамаце — сабе...

Хлопец, прыгінаючыся, кінуўся ўсцяж берага. Ад-

бегшы крокаў пяцьдзесят, ён спыніўся і выглянуў з лазняку.

Проста ў кірунку яго ішоў салдат. Салдат быў блізка.

Далей, у баку ад яго, Васіль заўважыў яшчэ дзве постаці.

Гітлеравец, убачыўшы Васіля, насцярожана ўзняў аўтамат.

Васіль адразу выпрастаўся. «Не трывожыцца, не трывожыцца... Спакайней, спакайней!..» — стукала ў грудзях сэрца.

І ён стараўся быць спакойным, непаспешлівым. Цяпер, калі яму было добра вядома, што рабіць, ён дзейнічаў з незвычайнай развагай. Ён добра адчуваў, чым зараз рызыкуе. Блакітныя вочы яго былі незвычайна халодныя.

Немец, гатовы крыкнуць — «хальт!», убачыўшы перад сабой шэра-блакітны мундзір, завагаўся. Але яшчэ больш падзейнічала на салдата тое, што гэты загарэлы, без пілоткі, бялявы незнаёмы быў зусім спакойны. На яго твары няма нават адзнакі непакою ці спалоху. Так упэўнена можа ісці толькі свой.

Салдат, аднак, штосьці запытаў. З усяго, што ён сказаў, Васіль зразумеў толькі адно слова: «warum».

Не гаворачы нічога, хлопец па-ранейшаму набліжаўся да немца. Салдат адступіў крок назад, пагрозна крыкнуў:

— Wer ist du?!.. Halt! [1]

— Іх бін...— стукнуў сабе ў грудзі хлопец, але што далей сказаць, ён не ведаў.

Гітлеравец быў поруч: стомленыя, злыя вочы, аброслы, няголены падбародак, раскрыты, ашчэраны ад крыку рот.

Больш марудзіць нельга было. Васіль, які да гэтага здаваўся бесклапотна-спакойны, ураз перамяніўся. Ірвануўся да гітлераўца, з усёй сілы ўдарыў па руках, што трымалі аўтамат.

Адным стрэлам прыкончыў салдата.

Цяпер — уцякаць. Схапіў аўтамат забітага і колькі змогі, прыгнуўшыся, пятляючы, памчаў далей, у ля-

---

[1] Хто ты?!. Стой!

сок. Ён, як праз сон, чуў ззаду страляніну, крыкі, адчуваў, што гэта гоняцца за ім.

«Толькі б не паранілі ў нагу»,— праплыло ў галаве. Ён на момант прыпыніўся і пусціў насустрач гітлераўцам чаргу.

Яму хутка прыйшлося збочыць. Наперадзе ў прагалінах завіднелася дарога, а па ёй паўзлі фурманкі. Немцы. Нічога не заставалася, як пабегчы ўсцяж дарогі.

Але і тут ён неўзабаве вымушан быў спыніцца: угледзеў некалькі грузавых машын, між дубоў і дробнага ляснога хмызнячку.

Каля грузавікоў тупалі, перагаворваліся немцы.

Васіль адразу стаў.

Адчуваючы, як тужліва сціскаецца сэрца, ён кінуў позіркам управа, улева. Справа лясок канчаўся, віднелася запусцелае, зарослае свірэпкай поле... Наводдаль ішла дарога... Уцякаць няма куды.

Васіль прытуліўся да шурпатай кары дуба. Нарыхтаваў аўтамат.

## РАЗДЗЕЛ V

### 1

Абапал дарогі ішлі палоскі жыта. Калі набягалі павевы ветру, па верхавінні жыта хадзілі шызыя хвалі, нібы на вадзе.

За гусеніцамі віхурыўся бялесы надакучлівы пыл, уздымаўся хмараю над дарогай. Асядаў на браню машын, што ішлі следам, забіваў танкістам і аўтаматчыкам вочы і вушы.

Аляксей, выбіраючы чысцейшае месца на хусцінцы, зрэдку выціраў ёю павекі, што ад тоўстага пласту пылу рабіліся цяжкімі. Хусцінка была шэраю ад пяску і пылу.

Да гарадка, у якім напярэдадні авіяразведка знайшла многа нямецкіх танкаў і артылерыі, заставалася не больш пятнаццаці кіламетраў. Калі б усё было добра, батальён праз паўгадзіны падышоў бы да ўскраіны. Але кожнаму цяпер было зразумела, што бой, і, мусіць, нялёгкі,— немінучы.

Аляксею прыгадалася размова з Гогабярыдзе, той учора сказаў старшаму лейтэнанту:

— Цяпер, Аляксей, да Мінска рушым, як па асфальце з гары. Без прыпынкаў, і ўсё — хутчэй, хутчэй!.. Ведаеш, як ехаць уніз па асфальце, калі вецер свішча ў вушах? І шыны свішчуць. Цудоўна! — Вочы Сандро заблішчалі ад захаплення.

— Кажуць, тады трэба добра сачыць за дарогай і... трымаць тармазы.

— Канечне! — не зразумеў Сандро.— А-а, гэта каменьчык у разведку?! Не захапляцца?! Сачыць і быць напагатове? Будзь спакойны, дарагі Аляксей, буду сачыць усімі вачыма майго ўзвода!

— Во-во! Сачы!.. Бо каб не прыйшлося тут тармазы ўключаць...

Наперадзе, там, дзе ішла галаўная паходная застава, загучалі частыя выбухі. Аляксей адразу прыслухаўся, і гукаў выбухаў ён пазнаў, што страляюць палявыя гарматы.

— «Навальніца»! — пачуў ён у шлемафоне паспешлівы голас.— Я — Гогабярыдзе!.. З ляска б'юць гарматы. Пакуль выявіў чатыры гарматы. Спыняюся... «Навальніца», які будзе далейшы загад? Які будзе загад?

Аляксей загадаў яму заняць зручны рубеж і разведаць праціўніка боем.

Іншыя роты па камандзе старшага лейтэнанта адразу пачалі перастройвацца ў баявы парадак і прадаўжалі, не спыняючыся, набліжацца да галаўной паходнай заставы.

Кіламетра праз паўтара Аляксей прыпыніў і іх...

Трэба было перад тым як рынуцца ў бой, добра выведаць, якая ў праціўніка наперадзе сіла. Аляксей і цяпер, пасля ўсіх поспехаў, дзейнічаў асцярожна. Ён прадчуваў, што тут, на подступах да Мінска, немцы, відаць, яшчэ раз паспрабуюць прыпыніць нашы войскі.

Ён выклікаў па рацыі Гогабярыдзе:

— «Маланка», «Маланка»... Далажы, што там у цябе?

Гогабярыдзе паведаміў, што на ўзлессі ён ужо выявіў каля дзесятка гармат, некалькі танкаў; у немцаў ёсць тут і пехацінцы, не менш роты; праціўнік заняў падрыхтаваныя загадзя акопы...

Аляксей намерыўся паехаць да Гогабярыдзе, паба-

чыць усё сваімі вачыма, каб потым рашыць, як наступаць далей. Перад ад'ездам ён далажыў абстаноўку Бяссонаву.

— Пачакай,— раптам загадаў камандзір брыгады.— Хутка буду сам у цябе! — Ён дадаў іншым тонам: — Дарэчы, навіна ёсць для цябе.

Аляксей не ўтрываў:

— Якая навіна, таварыш гвардыі палкоўнік?

— Пачуеш. Прыеду — скажу...— нелагодна і коратка адрэзаў Бяссонаў.

Што за навіна? Па тоне гаворкі Бяссонава Аляксей усё ж адчуў, што навіна, відаць, добрая. Хоць Бяссонаў і паведаміў пра яе стрымана, нават нібы нездаволена. Аляксей улавіў у тоне яго рэдкую лагоднасць. Нездаволенасць — гэта ў палкоўніка ўжо звыклая манера гаварыць... Паведамленне палкоўніка распаліла ў Аляксея цікаўнасць. Але ён пастараўся адагнаць прыемныя разгадкі, баючыся расчаравацца потым...

З таго, што камбрыг перад боем едзе не да іншых камбатаў, а да яго, старшы лейтэнант зрабіў вывад, што яго батальён, напэўна, будзе наносіць асноўны ўдар.

Поблізу недзе закукавала зязюля: «Ку-ку, ку-ку». Касцючэнка пачаў лічыць:

— Адзін, два... пяць...

Аляксей успомніў, як сам калісьці маленькім хлапчуком з захапленнем і бояззю лічыў гэтыя загадкавыя «ку-ку».

Калі на «трыццацьчацвёрцы» пад'ехаў камандзір брыгады, зязюля яшчэ лічыла Касцючэнку гады — бач ты, якая шчодрая! Невядома, колькі яна напрарочыла Касцючэнку жыцця, але ў тым баку, дзе яна лічыла, у лесе раптам гупнула некалькі моцных выбухаў.

Тады ж падляцела машына, і камандзір брыгады, што саскочыў з яе, жвава, дапытліва прыслухаўся да выбухаў, павярнуў да танкістаў вясёлы твар:

— Што за шум без бойкі, гвардыя?

— Есць шум, відаць, будзе і бойка,— адказаў Аляксей.

— Так, падобна, не мінуць гэтага! Хоць нам, здаецца, не прывыкаць!.. Так, сёння тут можа быць горача. Спякотна! Авіяцыя выявіла многа танкаў і артылерыі.

Ён кінуў на Аляксея востры, праніклівы позірк:

— Нябось, навіну чакаеш? — нібы нездаволена спытаў.— Магарыч з цябе. Загад атрымалі. Прысвоілі капітана. Віншую!

Ён сціснуў Аляксею руку, моцна, цвёрда. І твар, чырвоны, з шырокім носам і важкім падбародкам, абветраны твар быў строгі.

— Дзякую, таварыш гвардыі палкоўнік!

— У цябе сёння, выходзіць, свята!.. Ды вот — святкаваць няма калі! — Ён кіўнуў Аляксею на яго машыну: — Сядай, паглядзім бліжэй, што там робіцца...

Бяссонаў і Аляксей на танках падаліся наперад.

Праехаўшы кіламетр-паўтара, спынілі «трыццацьчацвёркі» ў невялікай лагчынцы каля дарогі. Тут трапятала на ветры некалькі тоненькіх вастраверхіх бярозак з бліскучым лісцем, над вясёлай, багатай травою ўсюды ўздымаліся кістачкі метлюку.

Бяссонаў павёў позіркам па полі,— над палоскамі жыта ў розных месцах купчасціліся кусты, маладыя дрэўцы. Раптам сказаў заклапочана:

— Зарастае поле. Дзічэе...

— Гаспадароў няма...

Бяссонаў прыслухаўся. Блізка, крыху ўбаку і наперадзе, вялі перастрэлку з немцамі танкі брыгады.

З ад'ютантам і аўтаматчыкамі Бяссонаў і Аляксей узышлі на ўзгорак. Аўтаматчык зняў са зброі перасцярожнік — на той выпадак, калі раптам, чаго добрага, здарыцца наткнуцца ў жыце на фашыста; пільна азіраў поле, аберагаючы камандзіра брыгады, які ішоў спакойна і ўпэўнена.

Аляксей добра ведаў адвагу Бяссонава. Аднойчы, калі на полі ў самы разгар бою пехацінцы пачалі адставаць ад танкаў і ліпнуць да зямлі, Бяссонаў вылез са сваёй камандзірскай машыны і, размахваючы пісталетам, узяўся ўздымаць салдат:

— Устаць!.. Устаць!.. Наперад! За мной!

Пехацінцы, падбадзёраныя яго смеласцю, засаромленыя, па адным адрываліся ад зямлі. Пакуль не ўварваліся ў нямецкія траншэі, палкоўнік бег між салдат.

Кулі яго міналі, нібы заварожанага. За ўсю вайну ён быў толькі раз паранены, яшчэ пад Масквой.

Смеласць Бяссонаў лічыў першай якасцю ў салдата: баязліўцамі ён пагарджаў больш за ўсё на свеце, адважных любіў і цаніў. Наогул Бяссонаў цаніў лю-

дзей па тым, якія яны салдаты. Яму — як бацьку — у гэтым, можна сказаць, не пашанцавала: усе яго шасцёра дзяцей былі дочкі. Аляксей чуў, як Бяссонаў, расказваючы пра іх, паскардзіўся: «Ніводнага салдата! Заб'юць — і замяніць няма кім!..»

З узгорка быў відаць наводдаль лес. За няпэўнай, плыўкай смугою лес здаваўся сінявата-чорным.

Палкоўнік, стоячы ў жыце, што даходзіла яму да пояса, маўкліва і хмурна ўнізваўся позіркам у лес, нібы стараўся ўгадаць, што ён тоіць. Аглядваў палоскі жыта і бульбы, якія падыходзілі да ўзлесся. Адсюль да лесу было менш за тры кіламетры.

Аляксей таксама ўглядваўся ў лес, вывучаў позіркам прасцяг перад лесам. Мімаволі звыкла адзначыў, дзе і як трэба будзе весці машыны, калі прыйдзецца тут наступаць...

Угары пачуўся, хутка набліжаючыся і мацнеючы, свіст снарада.

— І-і-і-в-ва-а! в-ва-а!..— выбухнула поблізу два разы амаль адначасова.

Ад'ютант Бяссонава азірнуўся: каля таго месца, дзе яны нядаўна праходзілі, кусціліся два сінявятыя дымы, паволі паўзлі ўбок і радзелі. Ад'ютант занепакоіўся, ці не заўважылі немцы іх на ўзгорку, хацеў параіць Бяссонаву, каб той адышоў з такога віднага месца, але стрымаўся. Ведаў: палкоўнік усё роўна не паслухаецца.

— Значыцца, тваё разведваюць тут, злева,— прамовіў сабрана Бяссонаў, не пазіраючы на камбата. Палкоўнік загадаў ад'ютанту падаць карту, разгарнуў яе, пачаў вывучаць.— Перадай Блізняцу,— кінуў ён ад'ютанту,— няхай абмацае шляхі ў абход лесу — справа...

Блізнец быў камандзірам разведкі брыгады.

Ад'ютант кінуўся да «трыццацьчацвёркі» палкоўніка.

Бяссонаў усім дужым целам павярнуўся да Аляксея. Позірк мутнаватых, як асеннія хмары, вачэй быў халодны, цяжкі.

— Я думаю, у іх тут абарончы рубеж. У лоб на іх лезці бязглузда, трэба ўдарыць збоку ці з тылу. Сілы ў іх, здаецца, не так многа, каб добра ўмацаваць флангі... Калі гэта так, то я, можа быць, цябе і пашлю ту-

ды ў абход. Ну, што ж, пачакаем — што разведка скажа.

Ён сарваў яшчэ недаспелы каласок, пачаў мяць яго на шурпатай далоні. Паспрабаваў выцерусіць — зярняты былі вадзяністыя.

— У сорак першым багаты хлеб быў,— сказаў ён раптам.— На таках цэлыя горы, а вывозіць няма як... І ў полі — сцяной... Не бачыў, як гарыць хлеб?

— Бачыў, таварыш гвардыі палкоўнік...

— Самі палілі...

Бяссонаў, нібы схамянуўшыся, што гаворыць не тое, нахмурыўся нездаволена.

— А Саркісяна з самаходкамі я пастаўлю там...— Ён павярнуў чырвоны, з цяжкім падбародкам, твар да поля, што было на другі бок дарогі, дзе зелянела некалькі палосак бульбы і жоўтым возерам красавала свірэпа.

Саркісян быў камандзірам дывізіёна самаходак, прыданага брыгадзе.

Палкоўнік стаў спускацца ў лагчынку да «трыццацьчацвёркі». Тут цяпер была яшчэ адна машына, напэўна, штабная, і дзесятак аўтаматчыкаў.

— А ну, давай Саркісяна!..— папрасіў Бяссонаў радыста.

Аляксей вярнуўся да свайго танка, запытаў, што новае перадалі разведчыкі. Быстроў, які стаяў каля люка вадзіцеля, сказаў, што выявілі ў лагчыне ля лесу моцны танкавы заслон. Гогабярыдзе заўважыў у бінокль некалькі машын, стаяць замаскіраваныя і пакуль не адказваюць на агонь з нашых танкаў...

— Ну, што ў тваіх разведчыкаў? — падышоў Бяссонаў.

Пачуўшы адказ, ён загадаў Аляксею прадаўжаць разведку:

— Загадай Гогабярыдзе, няхай возьме лявей ад дарогі. Трэба абмацаць подступы на Слабаду. Паглядзець, як яны сябе там адчуваюць. А батальён збяры ў кулак,— будзь напагатове...

Хвілін праз пяць Аляксей убачыў — полем сунуліся прыземістыя, з квадратнымі вежамі і важкімі стваламі самаходкі. Саркісян выходзіў на агнявы рубеж.

Неўзабаве Аляксей пачуў блізкую страляніну —

самаходкі завязалі з нямецкімі батарэямі, што стаялі на ўзлессі, перастрэлку.

Бой мацнеў.

## 2

Дзень выдаўся ясны, сонечны. Аляксей нechпадзявана пачуў, што над жытам недзе спявае жаваранак. Ён не паверыў, прыслухаўся: у прамежкі між выбухаў у вышыні рассыпаўся серабрысты званок...

Бач ты, які смелы!

У небе стаялі белыя ватныя воблакі. Сонца, якое пачало сыходзіць на захад, яшчэ моцна паліла. Вакол Аляксея нядружна ўздымаліся белаватыя сцяблы жыта, між іх вілася дзе-нідзе павітуха, лезла з зямлі рознае драбнатраўе. Пад нагамі адчувалася пульхная, падатная, высушаная сонцам глеба.

Гэтая мяккая зямля, паўзучая павітуха, белаватыя вусатыя сцяблы, песня ўпартага жаваранка былі яму бязмежна любыя і родныя. Ён весела запытаўся ў Касцючэнкі, колькі таму накукавала зязюля гадоў.

— Ды нешта каля сотні,— уставіў Быстроў.

— Ого, праправўнукі будуць на руках насіць,— Аляксей усміхнуўся.

На душы яго было светла. Нават калі ён думаў пра Мінск, то трывога, наперакор звычайнаму, не гняла сэрца,— ён чамусьці быў упэўнены, што ўсё будзе добра.

Як ён цяпер блізка да Мінска. Здаецца, што абрысы роднага горада схаваны адразу там за ляском, які заваблівa сінее перад вачыма. Толькі мінеш яго, той лясок, здаецца — адразу ўбачыш такія знаёмыя вуліцы і дамы. Пры Маскоўскім шасэ, пад Мінскам, ёсць якраз такі сасновы лясок, як родны брат, падобны да гэтага.

Камбат увесь час сачыў за сваёй разведкай, трымаў сувязь з ротамі, што напагатове стаялі ззаду.

Вось-вось Бяссонаў можа даць загад — пайсці ў атаку. Пачнецца бойка. Яна, напэўна, будзе нялёгкай...

Гэта будзе першы бой, у які капітан павядзе не адну роту, а цэлы батальён. Аляксей кіраваў батальё-

нам на маршы, але весці бой батальёнам яму яшчэ не даводзілася.

А бой — гэта выпрабаванне. Экзамен. Цяжкі экзамен.

Ці справіцца ён, Аляксей? Ці хопіць у яго ўмельства і вопыту? Галоўнае — трымаць пад прыглядам усе роты, сачыць за ўсімі, накіроўваць іх... Правільна выбраць месца для асноўнага ўдару...

Каб не памыліцца ў чым-небудзь, зберагчы людзей і не загубіць машын!..

Было вельмі млосна і душна,— думкі варушыліся важка, непаслухмяна...

Ад спёкі ў горле перасохла. Аляксей азірнуўся на Сонцава, той з санлівым выглядам сядзеў поблізу на броўцы дарогі, абыякава аглядваў, як трымаецца падэшва на боце.

— Дастань бачок з вадою.

Вадзіцель залез да пояса ў люк, выцягнуў пляскаты, з падрапанай афарбоўкай бачок і падаў капітану.

Аляксей паднёс бачок да рота,— вада была непрыемная, цёплая і, здавалася, пахла фарбай. Выпіўшы два глыткі, Аляксей стаў закручваць корак.

У гэтую хвіліну радыст крыкнуў яму:

— «Бура» выклікае, таварыш камбат!..

Бяссонаў загадаў адвесці батальён назад, да развілкі дарог, дзе ён пакажа далейшы маршрут...

На скрыжаванні Аляксей зноў убачыў камандзіра брыгады. Тут стаялі крыты грузавік з брыгаднай рацыяй, два танкі і «газік» камбрыга. Поруч з Бяссонавым быў другі палкоўнік, начальнік штаба, высокі, стройны, з прыгожай чорнай барадой.

— Адсюль адразу павернеш крута ўправа,— пачаў Бяссонаў, ледзь толькі Аляксей падышоў да яго.— Дастань карту. Вось твой маршрут...— Ён тоўстым пальцам паказаў, дзе трэба весці Аляксею танкі, скупа, дакладна паведаміў пра вынікі разведкі.

Неўзабаве танкі Аляксея імчалі па вузенькім прасёлку, па полі. Аляксей вёў іх амаль усцяж лесу, якога з-за пагорка не было відаць. Вёў на трэцяй скорасці. Трэба было абысці пазіцыі, дзе ўмацаваўся праціўнік, хутка і непрыкметна...

Першай пачала бой трэцяя рота. Некалькі танкаў роты наскочылі на варожых пехацінцаў, што сядзелі

ў траншэях, прыхаваных маладзенькім сасоннікам-пасадкаю. Хоць танкі з'явіліся неспадзявана для немцаў, тыя не разгубіліся. Паспрабавалі адбіць атаку.

Але танкі не далі ім сабрацца з сілаю. Не трацячы ні хвіліны, атакавалі так напорліва і смела, што немцы ў сасняку не вытрывалі.

Траншэі пачалі хутка сціхаць...

Калі танкі ўвайшлі ў сасоннік, у акопах і траншэях валяліся адно трупы і параненыя ды тырчалі кінутыя мінамёты.

Аляксей адразу паслаў машыны далей, каб не даваць праціўніку перадышкі. Неўзабаве камандзір трэцяй перадаў, што ён атакаваў батарэю гаўбіц і што заспеў яе знянацку. Немцы, вядома, чулі стрэлы, якія ўзніклі блізка збоку, у пасадцы, але, мусіць, не ведалі, што там робіцца; як і раней, працягвалі біць па нявіднай дарозе. Калі танкі наскочылі на іх, жарластыя, кароценькія гаўбіцы глядзелі ствааламі не насустрач, а ўбок.

Камандзір трэцяй гаварыў, што немцы не паспелі нават развярнуць гаўбіцы, калі танкі, што высунуліся з зарасніку на паляну, усутыч секанулі з кулямётаў. Кінуўшы гаўбіцы, пачалі разбягацца хто куды, некаторыя ўзнялі рукі...

3

Аляксей ішоў з ротаю Аліева, што наступала лявей ад трэцяй.

Тут бой быў цяжэйшы. Праціўніку тут не толькі ўдалося ўтрымацца на сваіх месцах, але ён ледзь не прымусіў роту адысці назад.

Калі адзін узвод наблізіўся да варожай пазіцыі, узгарэлася такая страляніна, што ў ёй амаль няможна было разабраць стрэлаў танкаў. Між рухавых машын то тут, то там ускідваліся дымы выбухаў. Паветра празвалі трасіруючыя снарады...

У першыя хвіліны бою адна з «трыццацьчацвёрак» замерла і задымілася...

Аляксей бачыў, як з верхняга люка на зямлю хапаючыся выкаўзнуліся тры чорныя постаці, яшчэ адна

выбегла з-за танка. Яны кінуліся назад, то ўскакваючы, то падаючы...

Іншыя два танкі прыпыніліся. Яны, праўда, часта білі па нямецкіх гарматах і манеўравалі, але наперад не ішлі.

— Чаго ж яны стаяць, Аліеў?! — крыкнуў амаль гнеўна Аляксей.— Чаго яны топчуцца! Трэба атакаваць! Атакаваць трэба!!! Зразумеў? Прыём.— Не даслухаўшы слоў апраўдання, пераключыўшы рацыю зноў на перадачу, загадаў Аліеву: — «Шторм», «Шторм»! Не марудзь! Уперад усе «каробкі»... Не марудзь! Крышы іх, гадаў!..

Так, нельга марудзіць, трэба рушыць, як мага хутчэй, на ўсю сілу туды, адкуль равуць небяспечна гарматы,— біць, крышыць трэба, пакуль там не сціхнуць, пакуль не пачнуць, молячы аб літасці, падымаць рукі!

Страляючы пры кароткіх супынках і без супынкаў, «трыццацьчацвёркі» смела, моцна рушылі наперад.

Машына Аляксея ішла разам з усімі.

Аляксей у перыскоп бачыў, як насустрач хутка, ківаючыся, ідзе лес. Проста наперадзе — дзве разлатыя хвоі — вялікая і меншая. Ля лесу ўспыхвалі стрэлы, завіхаліся постаці. Ён сачыў за ўспышкамі, за постацямі — адтуль гразілася яму, усім небяспека. Смяротная небяспека.

Сочачы за гэтым, галоўным, ён разам дзіўна бачыў і лес, тыя дзве хвоі.

Ён амаль увесь час паварочваў перыскоп, сачыў, як ідуць іншыя машыны. І пры тым упраўляўся, падказваў Быстрову цэлі.

Быстроў, прыпадаючы вачыма да акуляра прыцэла, амаль не адымаў рук ад паваротнага і пад'ёмнага механізмаў. Ляцелі ўніз, цьмяна паблісквaючы, дымныя гільзы. Пахла востра газамі. Па твары зараджаючага ручаём ліўся пот...

Быстроў быў увесь захоплен сваім клопатам, не заўважаў нічога іншага. То паварочваў вежу, то хапатліва круціў ручкі механізмаў. Улучыўшы зручны момант, націскаў педаль гарматы. Зноў цэліўся, круціў ручкі, страляў. Ён быццам зліўся з гарматай. Стрэл. Стрэл.

Аляксей адзначыў: агонь з таго боку пачынаў сла-

бецъ. Некалькі гармат там ужо змоўклі. Праўда, і танкістам дасталося: яшчэ дзве машыны замерлі.

Аляксей, аднак, ужо адчуваў: яшчэ трохі — і супраціўленне немцаў будзе зламана...

Быстроў усё завіхаўся. Стрэл. Яшчэ стрэл...

І раптам — вежу страсянула. Моцны ўдар. Перад вачыма Аляксея зіхнуў россып іскр.

Аляксей трывожна азірнуўся. У той жа момант улавіў: патхнула дымам.

Што такое? Падбілі?!

Убачыў, як зараджаючы Касцючэнка, схапіўшыся рукою за бок, ціснучыся спіною да брані, бяссільна асядаў на касеты.

Твар яго, кінулася Аляксею, шпарка бялеў, рабіўся бяскроўным. Каля яго ног Аляксей убачыў невялікую, гладка адпаліраваную балванку. Вось што трапіла сюды!..

Быстроў, распалены боем, стрэліў яшчэ раз. Толькі тады ён азірнуўся на зараджаючага, яшчэ трымаючыся за ручку пад'ёмнага механізма.

Аляксей рухам рукі паказаў Быстрову: — Дапамажы!

Тут Аляксей заўважыў, што і сам ранены, у правую руку, вышэй локця, відаць асколкам брані. Руку пачало неадольна цягнуць уніз, нібы да яе прывязалі груз. Рукаў напаўняўся ліпкай, пякучай крывёю.

— Сонцаў, жывы? — трывожна запытаўся ён. Той, не гаворачы пра сябе, сказаў, што забіты радыст...

«Утраіх засталіся».

Трэба было зараз жа перавязаць рану, але, ён чуў, здарылася бяда большая, чым свая рана. Што з машынай?!

Ён акінуў позіркам вежу — ці не гарыць што-небудзь. Не, машына не падпалена. Чаму ж яна стаіць? Сапсаван матор? Ці гусеніцы?

— Сонцаў, чаму спыніўся?

— Усе сталі... Адыходзіць, ці што, хочуць?

— Хто?!

Аляксей прынік вокам да перыскопа. Гарматы былі блізка. Іх аддзяляла ад Аляксея, напэўна, менш за трыста метраў. На шчасце, бліжэйшая гармата, якая, пэўна, і прабіла танк Аляксея, змоўкла.

Прыслуга яе разбеглася. Каля гарматы віднелася

толькі адна постаць, размахвала рукамі. Падобна было: штосьці крычала. Мусіць, склікала салдат.

Аляксей павярнуў перыскоп і ўбачыў, што танкі спыніліся; адна машына, відаць, была падбіта, дзве, падпаленыя, густа дымілі. Іншыя тырчалі на месцы. Абстрэльвалі варожых артылерыстаў і не наважваліся рушыць далей.

Тры машыны, непадалёк ад Аляксея, пачалі нават асцярожна адпаўзаць назад.

«Вось як, на задняй перадачы наступаем!» — мільганула ў галаве Аляксея крыўднае.

Ён адчуў, што рота ў гэту цяжкую хвіліну, калі перамога была такою блізкаю, раптам не вытрымала напружання. Страціла ўпэўненасць, усумнілася ў поспеху...

Што ж гэта? Яны адыходзяць?! Нельга адыходзіць. І таптацца нельга! Трэба напорней прабівацца наперад, зараз жа наперад! Яшчэ міг, і будзе страчан зручны момант. Нельга марудзіць!.. Дзе камандзір роты?

Камбат паспрабаваў выклікаць яго.

— «Шторм»! «Шторм»! «Шторм»!

Камандзір роты не адгукнуўся. Што з ім? Машыну спалілі ці забіты?

Зірнуўшы ў бок немцаў, Аляксей заўважыў, што два-тры варожыя артылерысты, якія кінулі былі гармату, пачалі нясмела вяртацца. Яны, відаць, улавілі замяшанне ў танкістаў. Той немец, што заставаўся ля гарматы, размахваючы рукамі, штосьці загадвае ім...

Калі яшчэ крыху прамарудзіць, яны зусім апамятаюцца...

Аляксей цяпер помніў і адчуваў толькі адно — нельга марудзіць! Ад гэтай думкі, якая захапіла яго, сцішыўся раптам боль у руцэ, забылася асцярожлівасць, што стрымлівае чалавека ў небяспецы.

— Я «Навальніца», я «Навальніца»! Хто там топчацца?! — гнеўна крыкнуў капітан да ўсёй роты.— Наперад, наперад!

Ён даў Быстрову знак зарадзіць гармату, тады, прыпаўшы да гумавага наканечніка прыцэла, здаровай рукой павярнуў вежу. Хутка прыцэліўся і стрэліў па гармаце. І тады ж адкрыў агонь з кулямёта. Першы ж снарад трапіў у шчыт гарматкі — недарма Аляксей быў некалі добрым вежавым стралком! Абслуга гар-

маткі прыпала да зямлі... Адзін ускочыў,— кінуўся бегчы...

— Рабі, як я! — скамандаваў Аляксей усім экіпажам.

Пераключыўшы рацыю на ўнутраную сувязь, ён загадаў Сонцаву весці машыну на гармату.

«Трыццацьчацвёрка» рванула так, што камбата кінула назад. Сонцаў па голасе Аляксея адчуў, што цяпер, як жыццё, дарагі кожны міг...

Аляксей, сашчапіўшы зубы, адольваючы боль і слабасць, стаў зноў разварочваць вежу, нацэльваючыся на другую гармату.

Машына ляцела цераз ямы, падмінала кусты, яе вельмі кідала з боку на бок. Прыцэліцца добра было немагчыма: у прыцэле паяўлялася то зямля, то неба. Аляксей злавіў больш зручны міг. Націснуў на педаль.

Гухнуў стрэл...

Аляксей цяпер нічога не адчуваў, акрамя жадання дасягнуць, дапасці да гарматы. На гэтай гармаце сканцэнтравалася ўся яго воля.

У нейкі момант ён убачыў, што гармата разварочваецца... Каля яе завіхаліся постаці... Няўжо яна паспее стрэліць? Няўжо апярэдзіць яго?

Час пачаў вымервацца долямі секунды. Але гэтыя долі секунды здаваліся доўгімі,— усе падзеі адбываліся з віхурнай імклівасцю. Секунды рашалі зыход бою, лёс жыцця.

Уся воля Аляксея была да канца напружана. Самая маленькая маруда, спазненне, ён ведаў, былі яму цяпер — як смерць...

Апярэдзіць, разбіць, сцерці! Інакш — смерць.

Колькі сілы націснуў ён правай нагой другі педаль — усё, што было ў дыску кулямёта, выпусціў на гармату...

І вось гармата проста перад танкам... Яна знікла недзе ўнізе, яе Аляксею больш не відаць...

Сонцаў яшчэ ўбачыў, як ад яе кінулася апошняя постаць. Позна!..

У наступны міг Аляксей адчуў рывок. Танк падскочыў, як раз'ятраны звер, і асеў. Аляксей ледзь утрымаўся на сядзенні, раненая рука аб нешта моцна ўдарылася.

Ён паглядзеў у перыскоп. Перад вачыма ішлі кру-

гам кусты, сцяна блізкага сасняку, якая была ўжо не ўперадзе, а збоку. Сонцаў разварочваў машыну.

Салдаты ў шэрых мундзірах — і без мундзіраў — у паніцы ўцякалі. Следам за імі на акопы, да гармат урываліся, равучы, танкі. Дабівалі тых, хто спрабаваў яшчэ супраціўляцца, секлі з кулямётаў...

Аляксей загадаў Сонцаву весці танк далей, за пазіцыі,— не даць уцячы іншым. Дазволіў спыніцца толькі праз некалькі кіламетраў, у ціхай вёсцы. Цяпер пакуль, здаецца, усё. Парадак.

Сэрца Аляксея білася часта і ўзрушана. Ён усё не мог астыць ад перажытага ўзрушэння. Так, гарачая, грозная выпала хвіліна. Цяпер, калі небяспека адышла, яго зноў, моцна і востра, праняла трывога за сваё жыццё.

— Вы ж ранены, таварыш камбат! — заўважыў упершыню пануры Быстроў, які толькі што схіляўся над зараджаючым.— Дайце перавяжу!

— Што з ім? — Аляксей кіўнуў на зараджаючага. Той быў непрытомны.

Выціраючы спатнелы, у чорных плямах твар, Аляксей па рацыі зноў выклікаў Аліева:

— «Шторм»! «Шторм»!

Аліеў адгукнуўся.

— Што ў цябе? — Аліеў адказаў: спалілі машыну.— Ты ў якой?.. Вядзі роту. Не адставай,— гані далей! Ясна?

Ён даў Быстрову перавязаць руку. Выклікаў фельчара да зараджаючага; потым звязаўся з другой, трэцяй ротамі, даведаўся пра абстаноўку. Далажыў Бясонаву аб выніках бою, змаўчаў, што сам паранены.

Калі фельчар падышоў і Быстроў узяўся выцягваць зараджаючага праз пярэдні люк, Аляксей устаў, каб дапамагчы сержанту. Але сценка баявога аддзялення, прыцэл, замок гарматы раптам пачалі ў вачах яго плыць і засцілацца туманам. Ён абапёрся левай рукою аб сценку, ледзь устаяў на нагах.

— Сонцаў, на дарогу!.. За Аліевым...— выціснуў ён, апусціўшыся зноў на сядзенне. Эх, як хіліць убок, як слабее цела...

«Што гэта? Няўжо — у шпіталь! З карабля прэч? А Мінск?.. А заўтрашні бой за Мінск? Без мяне?»

*Колькі разоў, зямля наша, палі і дарогі твае таптаді чужыя важкія боты. Колькі разоў паўзлі на цябе чорныя хмары з захаду. Скрыгаталі мячы, грымелі выбухі... Дым пажараў засцілаў неба... Цягнуліся па гарачых дарогах паланянкі... Брылі з торбамі сіроты...*

*Мы так прагнем, маці наша, каб бяда гэта была апошні раз, каб не паўтарылася ніколі! Мы ідзём на бітву з верай, што так і будзе! Мы зробім усё для гэтага цяпер, мы будзем берагчы цябе ўсё жыццё! Мы любім цябе, і мы — моцныя!*

# ЧАСТКА ШОСТАЯ

## РАЗДЗЕЛ I

### 1

Усю ноч Клава то трызніла, то цяжка абуджалася. Раніцай яна ляжала стомленая, сумная. Здавалася, адасобленая ад усяго.

Днём, калі акенца поўніла блакітам, яна адолела сябе. Узнялася, з намаганнем прайшла па каморцы. Стала ля акенца, прытуліўшыся да сценкі, пачала глядзець на двор.

Дарожка, трава, куст бэзу — усё на дворы ззяла ў сонечным бляску. Але бляск гэты нібы не адбіваўся ў яе вачах, Клава глядзела на ззянне гэта быццам не верачы. На круглаватым ілбе яе хмурылася ўжо звыклая клопатная маршчынка,— быў такі выраз, нібы яна хацела штосьці зразумець і не магла...

Тут ля акна захапіла яе Кацярына, спалохана кінулася да яе.

— Зноў! Божа мой! Нельга, казала ж!..

— Прынясіце мне, цётка Кацярына, галінку бэзу,— ціха папрасіла Клава.

— Прынясу. Толькі ты ляж...

Кацярына давяла яе да ложка, памагла легчы. Выйшла з пакоя, прынесла некалькі галінак. Бэз ужо адцвіў, нічога, здаецца, прывабнага не было цяпер у ім. Але калі Клава ўзяла галінкі, твар яе радасна заяснеў. Маршчынка на лбе разышлася.

Клава глядзела на галінкі так, быццам гэта было нешта незвычайнае, вельмі дарагое, і Кацярына здзіўлена падумала: што яна знайшла ў тых галінках? Праўда, Клава і сама добра не ведала гэтага, не думала пра гэта. Мусіць, яны былі такімі дарагімі таму, што такі ж бэз быў там, ля яе роднага дому, у тым, далёкім яе жыцці. Дзе было столькі добрага, дзе была мама, быў Сярожа. Мілы дом, мілая мама, родны Сярожа...

Мама, мама, Сярожа. Дзе яны, што з імі?..

Яна так і заснула з галінкамі на грудзях. З дзіўнай — сумнай і пяшчотнай усмешкай.

Чым мацней яна адчувала сябе, тым больш хацелася ёй выйсці з каморкі, на двор, на волю. Вырвацца са страшных успамінаў-прывідаў, што даймалі, трывожылі яе і нібы пагражалі тут, у гэтай, здавалася, ненадзейнай схове. Ёй думалася, што яна адаб'ецца ад неадчэпных відовішчаў адразу, як толькі выйдзе адсюль.

Марачы аб тым, каб вырвацца адсюль, яна вельмі шкадавала, што не можа выбавіцца цяпер, што яе моцна трымае тут слабасць. Не было цяпер у Клавы больш нецярплівага жадання, чым — пачуць зноў дужасць у нагах, у руках. Як гэта, аказваецца, добра быць дужай, хадзіць колькі хочаш! Рабіць тое, што трэба!

Яна проста ненавідзела сваю кволасць, што рабіла яе пакорлівай абставінам, няздатнай ні на што. Ненавідзячы гэта, яна з даўняй сваёй упартасцю збірала ўсе свае слабыя сілы, каб адужаць кволасць.

Ёй прыкрым было ляжаць, і яна радавалася без меры ўжо тады, калі асцярожна — але сама! адна! — ступала сваімі нагамі, адольвала шлях ад аднаго кутка каморкі, дзе стаялі дзежкі, да другога, да акенца. Хадзіць было нялёгка, але яна хадзіла! І не такая ўжо бяда, што дрыжалі калені, што кружылася галава. Усё ж яна хадзіла! Яна ўжо не была ні на што няздатнай! Тое, што яна хадзіла, давала ёй думаць, што заўтра-паслязаўтра яна будзе хадзіць лепей, зусім добра! Што яна хутка здолее выйсці на волю, да жыцця!

— Ну чаго ты сябе мучыш? — папракнула яе цётка Кацярына.— Чаго? Спяшаешся куды-небудзь, ці што? На цягнік баішся не паспець?.. Усяму свая чарга, дачушка. Прыйдзе час, паправішся.— Находзішся яшчэ.

— Я ўжо амаль паправілася, цётка Кацярына...

— Ну, сказала, то ж ба — паправілася! Табе ляжаць і ляжаць яшчэ! Спакойна ляжаць, не марнуючы сябе попусту.

Клава ціха, але настойліва запярэчыла:

— Ляжаць мне, цётачка. няма калі. І ні да чаго! І я не буду ляжаць. Я буду хадзіць, цётачка. Сёння —

пагана, а заўтра — лепей! Пабачыце, цётачка. А там і зусім добра хадзіць буду! А там — змагу хоць танцаваць!..

На круглых яе шчоках, у кутках крыху шырокіх губ неспадзявана, упершыню за ўсе гэтыя дні, з'явіліся, гарэзна задрыжалі дзве смяшлівыя ямачкі. Клава раптам стала такой, якой была раней: гарэзнай, вясёлай і ўпартай.

Цётка Кацярына, пазіраючы на Клаву, з дакорам паківала галавой — такая непаседа; ужо і засмяялася — нібы забыла ўсе свае пакуты. Але гарэзны бляск у вачах дзяўчыны амаль адразу ж і згас; на лоб легла маршчынка,— Клава зноў задумалася, насцеражылася...

Настрой у Клавы быў увесь час няроўны,— то яна хмурылася, так горка штосьці перажывала, што Кацярыне аж шкада станавілася яе, то раптам весялела, пачынала смяяцца.

Жыццялюбная, не схільная да смутку, натура яе ўсё мацней брала ўладу над прыгнечанасцю. Клава зноў станавілася сама сабой.

З кожным днём яна хадзіла ўсё дужэй і смялей. Цяпер яна стамлялася ўжо менш, як у першыя дні,— і гэта яе вельмі радавала.

Ей хацелася хутчэй вярнуцца ў Мінск, даведацца, што з маці, любай маці, з Сяргеем, зноў спаткацца з таварышамі. Ей усё больш цесна станавілася ў каморцы.

Калі Кацярына з вуліцы вярталася дамоў, Клава звычайна пыталася:

— Што там кажуць, цётачка? Можа, што новае пачулі? Якую-небудзь добрую вестку?

— Нічога, Клаўка...

— Ці праўда, цётачка,— так і нічога?

— Вось якая ты, то ж ба, недаверлівая ды нецярплівая. Хіба ж я, дзівачка ты мая, стала б утойваць ад цябе, каб што-небудзь было добрае? Калі б толькі пачула, адразу прыбегла б і пераказала б слова ў слова. Толькі ж нічога асаблівага не чуваць.

Ціхай ноччу праз сон Клава пачула дзіўнае, глухое пагрукванне. Падобна было ці то на бамбёжку, ці то на далёкі гром, нібы дзесьці ішла навальніца. Клава, абудзіўшыся зусім, нейкі час пільна ўслухоўвала-

ся, старалася зразумець, што гэта. Ад таго, што грымела амаль без упынку, доўга, яна падумала, што ідзе навальніца. Яна так і заснула, не высветліўшы... А раніцай у каморку прыбегла цётка Кацярына, шумлівая, узрушаная, і, цешачыся, нібы прынесла найлепшы падарунак, аб'явіла, што нашы занялі горад Віцебск.

Цётка Кацярына, відаць, не надта ведала, што гэта за горад і дзе ён, але з чутак дазналася, што горад вялікі і здарылася вялікая падзея. Клава ж без падказак чужых адразу скеміла, што за вестку прынесла цётка.

— Віцебск?! Адкуль вы даведаліся?

— Хлопец наш адзін прыходзіў, партызан, казаў, што па радыё перадавалі. Яшчэ дзён чатыры, ці што, таму...

Клава саскочыла з ложка, падбегла да цёткі і, абняўшы яе парывіста, пацалавала.

— Ой, цётачка, якая ж вы добрая і мілая!..

Яна весела,ззяючы шчасцем, бліснула белымі роўнымі радкамі зубоў. Бачачы, як яна ажыла, яшчэ павесялела і цётка Кацярына,— цешылася так, нібы гэта радавалася яе дачка.

Увесь дзень Клава не знаходзіла сабе месца. Проста не магла ўлежаць на ложку, усё ўставала, бадзялася па каморцы, падыходзіла да акенца. І ўвесь час, амаль не сціхаючы, паціху спявала.

То песню пра Маскву, пра родную Маскву: «...Масква мая, ты самая любімая...» То павольную, шчырую: «Ой, рэчанька, рэчанька, чаму ж ты няпоўная, чаму ж ты няпоўная, з беражком няроўная...»

Шчырая, журлівая песня, мілая песня Клавінай маці, выходзіла сёння незвычайна вясёлай, поўная была радасці.

Многа песень успомніла, пераспявала Клава ў гэты дзень!

Пад вечар, як ніколі раней, яна разгаварылася, стала з неспадзяванай ахвотаю расказваць пра сваё жыццё ў Мінску. Смешным і вясёлым усё выглядала цяпер у яе,— цётка Кацярына то смяялася ўслед за Клавай, то ўздыхала. Нарэшце з матчыным папрокам сказала дзяўчыне:

— І што гэта ты, дачка, над усім смяешся?

— Хіба ж я вінавата,— гарэзна адказала Клава.—

У мяне і маці такая — што ні прыкмеціць, усё ёй смешна!..— Раптам вясёласць яе проста ўвачавідкі сціхла. Яна ўжо нібы хавала смутак. Ужо без гарэзнасці, з цяжкім роздумам казала: — І ў вайну як нам было, а ніколі не ныла. Усё на смешнае паказвала нам. Ніколі не ныла сама і нас вучыла весялей глядзець! Ды і як жа іначай: тут і без думак ды слоў сумных — іншы раз на свет глядзець не хацелася!.. А як яна спявала!.. Які голас у яе, цётачка, паслухалі б вы! За душу хапала, як заспявае! Нашто ўжо я бервяно нячулае, а і то, і мяне, хапала за душу! Я ад яе і сама да песень прывучылася! Гуду, як самавар, што кіпіць, а тое ж — спяваю нібы!.. Мабыць — такі праўда — «якая маці малася, такая і я ўдалася». Толькі я песні спяваю рэдка — хіба тады, калі надыдзе такое, як сёння. А вось пасмяшыць ці сама пасмяяцца вельмі люблю...

Амаль увесь час, калі Клава гаварыла пра маці, прыдавалася цётцы Кацярыне, нібы тоіць Клава нейкі смутак. Хацела спытаць, але не наважвалася цётка Кацярына: баялася крануць балючае. Павярэдзіць душу пакутніцы.

— Ды хіба яно, цётачка, кепска? Калі б мы не ўмелі смяяцца, мы даўно б ужо, мабыць, ссохлі б ад гора і суму... А так — пажурымся, пажурымся ды і засмяёмся. І самім весялей, і другім...

У той вечар Клава сказала заклапочана:

— Здаецца, хопіць ужо адлежваць бакі. Дамоў трэба...

Цётка Кацярына з мудрай разважнасцю, паблажліва павучыла:

— Папраўціца спачатку трэба! Падужэць хоць бы трохі!..

— Падужэла ўжо! Ведаеце, так дадому хочацца! Так хочацца! Цярпення няма!

І зноў цётка Кацярына ўлавіла ў голасе Клавы прытоены сум, трывогу. І зноў пашкадавала яе, не стала вярэдзіць пакутніцу напамінкам пра немцаў, пра небяспеку там. Нарэшце мірна супакоіла.

— Управішся!.. Нікуды твая дамоўка не ўцячэ.

Цётка Кацярына не адчула тады ўсёй цвёрдасці намеру Клавы — ці мала каму хочацца хутчэй дамоў. Няхай пакуль ляжыць ды ачуньвае.

## 2

Днём у вёску прыехаў нейкі нямецкі атрад. Вёска стаяла ў баку ад шумлівага шасэ, і сюды ў апошнія дні немцы наязджалі не часта. Прыезд гэтых «гасцей» вельмі ўстрывожыў Кацярыну,— калі ўбегла ў каморку, спалохана зірнула ў акенца, забедавала:

— От нагнала! Каб іх зямля не насіла!

Твар яе быў белы, як крэйда. Клава запытала, што здарылася. Вестка, якую пачула, яе таксама ўстрывожыла. Але яна стрымала сябе. Падбегшы да акенца, за якім яна ўбачыла, як звычайна, ціхую вуліцу, Клава стала хапатліва, разважна абдумваць, што значыць гэты неспадзяваны наезд немцаў, што рабіць.

Няўжо з-за яе гэта? Даведаліся, што яе хаваюць тут? Хто-небудзь данёс?.. Непадобна было на такое: каб прыкацілі па яе, адразу кінуліся б сюды. А яны круцяцца недзе ля іншых хат, не спяшаюцца... Але калі яны і не ведаюць пра яе, то Клаве ўсё роўна трэба хавацца — яна чужая ў гэтай хаце, параненая куляй. Могуць западозрыць, што яна партызанка, расстраляць...

— Божа мой, яны ўжо тут!

На вуліцы яшчэ нікога не было відаць, але ўжо добра даходзіла галосная незразумелая гамонка. Цётка Кацярына заспяшалася, кінулася адсоўваць вялікую дзежку і, паспешліва ўзняўшы века патайной схованкі пад падлогай, загадала:

— Лезь сюды, скарэй!

Калі Клава спусцілася па драбінцы ў пограб, цётка Кацярына зноў паклала крышку. Заставіла века схованкі дзежкай. Ледзь управілася гэта зрабіць, як на ганку затупалі важкія крокі. Яна выйшла насустрач.

— Курка, матка, ёсць? — запытаў практычна малады немец, і Кацярына адчула палёгку. Дзякуй богу, не па Клаву.

— Няма...

— Не-ма?! — не паверыў салдат.— Шпэк? Сала?..

Ах, як Кацярыне не хацелася звязвацца з ім. Усё б аддала, што трэба яму, толькі б адчапіўся, сышоў з вачэй. Але дзе яна возьме той шпэк? Зжэрлі ўсё... Кавалачак хіба толькі апошні. Абы адчапіцца...

— Ёсць кавалачак толькі... Хадзем, аддам ужо...— няласкава адказала жанчына.

Праз хвіліну гітлеравец, жуючы сала і лаючыся, выйшаў з хаты ў сенцы. Чарнявы, з чырвонай шыяй, тоўсты, ён у сенцах, павёўшы вачыма з кутка ў куток, раптам ступіў да дзвярэй у каморку. Але жанчына не пусціла яго, засланіла сабой дзверы.

— Няма, кажу... Усё, што ёсць, аддала, праўду сказала!..

Немец, сілаю адпіхнуўшы Кацярыну, адчыніў дзверы і ступіў у каморку.

— Няма, кажу...— Жанчына схапіла яго за руку, пацягнула з каморкі.— Ідзі, ідзі!..

Клава добра чула гэту спрэчку, дзівілася смеласці цёткі Кацярыны, якая толькі што здавалася такой спалоханай і разгубленай.

— А тут хто спіць? — неспадзявана запытаў немец, і Клава мімаволі стаіла дыханне.

— Хто, ведама хто — я!..

— Ты? Няпраўда!..— прамовіў пагрозна немец.

Невядома, чым скончылася б гэта размова, але тут пачуўся загадны голас: — Курт, ком!..— За дзвярыма, у сенцах, аказаўся яшчэ немец: відаць, зайшоў пазней. Кацярына не заўважыла калі. Курт нездаволена азірнуўся, дапытліва паглядзеў, нібы не разумеючы. Той, другі, матнуў да дзвярэй галавою, загадаў выйсці. Бурклiва прамармытаўшы штосьці ў бок Кацярыны, Курт падаўся з каморкі.

Немец, другі, пайшоў за Куртам, але з ганка нечакана вярнуўся ў каморку. Гатовая было паспакайнець, Кацярына насцярожылася: што гэтаму яшчэ трэба? Улавіла ў позірку немца штосьці сур'ёзнае, пагрозлівае.

— Кроў! — сказаў ён па-руску, кіўнуўшы на пасцель.

Кацярына азірнулася туды, куды ён указваў, і пахаладзела: на падушцы — у кутку, амаль не бачным, чарнела пляма засохлай крыві.

Як яна не заўважыла гэтага, не схавала! Прапалі...

— Не бойся, матка,— раптам супакойліва прамовіў немец. Ён быў паважны ў рухах, немалады. На яго твары з рэзкімі рысамі і ўважлівымі сіняватымі вачыма жыццё спляло ўжо нямала маршчын.— Не бойся...

Курта бойся, але ён не замеціў. А я не хачу табе рабіць плохо... Бацька ці дочка? — кіўнуў ён на кроў.

Кацярына маўчала. Яна не разумела, чаго ён затрымаўся тут. Канечне, не на добрае! А немец раптам, нібы для таго, каб развеяць яе страх, супакоіць, сказаў зычліва, што рускія ўжо каля Барысава.

Але Кацярына нібы не зразумела нічога. Усё глядзела, чакала.

— Я калісь рабіў у вас... — стаў тлумачыць немец,— на шахта, Донбас... Як нямецкі спецыяліст... У мяне тожэ есць жонка, сын,— ён выняў з нагруднай кішэні фотакартку, на якой быў зняты бялявы хлопец, паказаў Кацярыне.— Вось!.. Хутка буду разам! У шахта вярнуся работаць. Буду вугаль дзелал! Как раньшэ!..

— У мяне пляменнік быў у Данбасе...— адгукнулася нарэшце Кацярына, думаючы ўсё, чым гэта скончыцца.

— О, Донбас, Донбас!.. Паўтара лет работал там. Многа знакомых был... Потым — дамой...— Ён памаўчаў, раптам назваўся: — Рур... Эсен. Пауль...— Прыклаў далонь да грудзей. «Паўлам зваць»,— здагадалася Кацярына.

На двары зноў пачуліся крокі. Пауль загадаў Кацярыне, каб яна схавала падушку, а сам падаўся да дзвярэй. Пра што ён гаварыў з тымі, хто ішоў, Кацярына не зразумела, але яны, не заходзячы ў хату, падаліся назад.

Пауль зноў вярнуўся і сказаў, што яны хутка паедуць, хвілін праз дзесяць.

— З фронту, матка, едзем. А куды — наверно, сам бог не скажэт. Хоць ён і должэн усё знаць.

Пауль развітаўся, выйшаў, але Кацярына яшчэ не пакоілася, ці няма тут якога падману.

Толькі калі атрад выехаў з сяла, Кацярына ўзняла века, выпусціла Клаву са схованкі.

— Ну, ператрывожылася я,— прызналася яна Клаве, усё яшчэ не вольная ад нядаўняга страху.— Асабліва, калі гэты першы вытрашчыўся: «хто тут ляжыць!» Добра, што ён хоць крыві на падушцы не пабачыў! Ды і Паўла, або як яго, баялася... А ён, бачыш, мусіць, не паганы чалавек!..

— Хто іх разбярэ! А чулі вы, цётачка,— сказала

Клава, захопленая іншым, шчаслівая,— ён сказаў: нашы ўжо каля Барысава? Ці гэта мне здалося? Я нібы чула, ён сказаў: каля Барысава? Вы чулі пра Барысаў?

— А як жа, чула, дачушка. Каля Барысава, сказаў...

— Значыцца, хутка тут будуць, цётачка!

— Хутка могуць...

Ад перажытага ўтрапення цётка Кацярына нібы не магла адчуць вялікі сэнс весткі пра тое, што нашы ўжо так блізка.

— Можа, толькі дзень-два засталося! — радавалася Клава.

— Нядоўга хавацца...

«Ну, цяпер ты, непаседа, нікуды не будзеш ірвацца,— падумала раптам Кацярына, разам прыгадаўшы ўчарашнія словы Клавы.— Куды табе хапацца, калі так скора тут будуць нашы».

Але Клава інакш паглядзела на гэта.

— Вось бачыце, цётка Кацярына, мне ўжо няможна больш ляжаць... Трэба дадому!..

— Дык жа скора ўжо! Сама ж чула!.. Як толькі прыйдуць нашы — пойдзеш! На машыне паедзеш!..

Кацярына лічыла, што развагі яе такія разумныя, што і казаць больш ні да чаго, і асабліва ўдалым, пераконлівым здалося ёй апошняе прываблівае: на машыне з нашымі паедзеш!

Нібы паказваючы, што гаварыць больш ні да чога, весела сказала:

— Давай паабедаем!

Кацярына прынесла з хаты гліняную місачку, у якой быў незабелены боршч са шчаўя, выняла з кубла ў кутку прыхаваны акраец хлеба. Падпёршы рукой падбародак, усцешаная, глядзела, як дзяўчына есць. Так раней яна любіла паглядаць на сваіх дзяцей.

Калі з'ела боршч, Клава падзякавала, аддала цётцы пустую міску. Кацярына прыкмеціла: позірк у дзяўчыны быў заклапочаны, строгі.

— Ну от, пад'ела. Падужэла... Хоць проста ў дарогу!..

— Ты ўсё смяешся,— нязгодна пакруціла галавой, папракнула жанчына.

— Я, цётачка, сур'ёзна гэта. Я надумалася.

— Куды ж ты пойдзеш, такая слабая. Ты ж да Мінска і не дойдзеш!

— Дайду, цётачка. Я добра ўжо, зусім добра чую сябе...

— Можа, ты баішся, што гэтыя зноў прыйдуць сюды? То можна захаваць у іншым месцы. Ніхто не знойдзе...

— Не, я гэтага не баюся. Проста я ўжо, яй-богу, ачуняла. Чаго ж мне тут валяцца на ложку? І так колькі праляжала!..

— Колькі! Усяго ж тыдзень, здаецца, мінуўся...

— Ой, цётачка, добрая, мілая, не ўгаворвайце! Усё роўна не адумаюся. Мне так хочацца дамоў! Зразумейце ж: так хочацца!..

— Дык жа ўжо мала зусім засталося!.. Ну калі б доўга, тады я разумею. А то ж зусім мала! А ты ідзеш на такую рызыку.

Клава не глядзела на яе, але цётка Кацярына бачыла: позірк быў цвёрды, твар рашучы. Не пераменіць, відаць, што надумала. Адчуваючы ўпартасць Клавы, загаварыла больш настойліва.

— На рызыку ж, на рызыку такую ідзеш! У іх жа і раней колькі ўсялякай аховы кругом горада было, а цяпер... Цяпер — за кожным кустом, за кожным домам, не інакш... А пападзешся ім цяпер — зразу...

Клава як не чула яе, такіх разумных, пераконлівых, парад.

— Не магу я больш ляжаць тут! — сказала ўparта.— Не магу, ну проста — не магу застацца! — Ужо мякчэй, як бы просячы дараваць, дадала: — Ці хаджу я, ці ляжу — сэрца маё ляціць дамоў, да сваіх...

Увечары жанчыны выйшлі з хаты. На дварэ было цёпла і парка, сагрэтае за дзень паветра яшчэ патыхала цеплынёю; на поўначы, ля захаду, тлела, патухаючы, блеклая жаўтаватая палоска. Клава і Кацярына ціха дайшлі да хляўца, пералезлі цераз невысокі, амаль разламаны плот і апынуліся на агародзе. Шаргаючы нагамі, паволі ішлі сярод гарбузніку, між кустоў бульбы. Сцяблiны, бацвінне часта чапляліся за ногі.

За агародам Кацярына расказала — не ў першы раз,— як Клаве лепш дабрацца да горада.

— А можа б, ты ўсё-ткі засталася? — не магла ні-

як прымірыцца Кацярына з тым, што Клава пойдзе.— Небяспечна ж там дужа, чуеш?..

— Я ўжо казала, цётачка... Нашто нам паўтараць казку пра белага бычка?..

Кацярына зноў балесна ўлавіла ў яе голасе затоеныя сум і трывогу. І рашучасць адчула, рашучасць чалавека, які ведае, што робіць, на што ідзе. Клава раптам уткнулася галавою ў грудзі Кацярыны, парывіста абхапіла за шыю і, уся аддаўшыся пачуццю, пацалавала.

Кацярына расчулена, з трывогай і дакорам сказала:

— Ах ты, рагатуха непаслухмяная!..

— Калі прыйдуць нашы, прыязджайце да нас. Добра, цётачка? — голас Клавы задрыжаў ад хвалявання.— Я проста і не ведаю, як аддзячыць вам! Каб не вы, дык я, можа ж, і цяпер ляжала б на полі...

— Няма за што дзякаваць,— Кацярына дадала тонам перасцярогі: — Глядзі, сцеражыся, дачушка!..

— Цяпер не пападуся! Цяпер я — стрэлены верабей!..

Яна пайшла ў цемру. Кацярына, не варушачыся, пазірала ўслед дзяўчыне. Там, куды ішла яна, святлела палоска неба, і Клавіна постаць — галава і плечы — доўга значылася на ёй, паступова змяншаючыся. Кацярына пазірала туды, і на сэрцы яе было сумна і трывожна.

«Толькі б усё добра абышлося!..»

## 3

Клава дабралася да Мінска перад досвіткам.

Горад гарэў. Клаву браў жах, калі яна глядзела на пажары, што лютавалі ў розных месцах Мінска. Асабліва страшныя пажары былі каля Акадэміі навук,— там палала адразу некалькі вялікіх будынкаў. Агромністае барвовае полымя трапятала і каля Дома ўрада. Яна спрабавала вызначыць: што гэта, якія-небудзь будынкі на Савецкай? Не, то ж гарыць, мабыць, універсітэцкі гарадок!

«Што яны, нелюдзі, робяць з Мінскам!» — у нямым гневе глядзела Клава.

Па Чэрвеньскім тракце ўбок касцёла, равучы, ру-

шыла некалькі машын з патушанымі фарамі. Падобна, цяжкія грузавікі! «Уцякаюць, гады!» — падумала Клава і пашкадавала, што нельга іх спыніць.

Яшчэ калі ляжала ў Кацярынінай каморцы, думаючы пра зварот у Мінск, Клава разважыла, што пойдзе не дамоў, дзе цяпер, мусіць, нічога няма, а да цёткі Залескай. Валіна маці здавалася Клаве найбольш надзейным чалавекам. Клава выбрала Залескую яшчэ і таму, што ў яе можна было хутчэй, як у каго іншага, даведацца, дзе маці і Сяргей.

Яна пералезла цераз плот і, нарэшце, апынулася на тым двары, да якога прабіралася. Вось яны, знаёмыя кусты вяргінь, на якія Клава часта любіла пазіраць з акна,— здаецца, зусім нядаўна была яна тут, а колькі перажыта за гэты час! Аж не верыцца, што перажыла ўсё сама. Нібы прыснілася.

Прытуліўшыся зморана да плота, аддыхваючыся, яна дзіўна, бесклапотна засмяялася. Як жа добра, што яна ўсё-ткі вярнулася, нягледзячы ні на што, прыйшла!

Азірнуўшыся навокал, яна асцярожна наблізілася да акна і стала ўзірацца праз цёмную шыбу ў сярэдзіну. Ці ёсць хто там? У цемры, што поўніла пакой, нічога нельга было разабраць.

Яна пачала лёгка стукаць у шкло, як стукала раней, калі заходзіла сюды ноччу, але ніхто не адгукаўся. Неспадзявана яна пачула ззаду ціхі, падкрадлівы шорах і хутка азірнулася.

— Хто тут? — пазнала Клава голас Валінай маці.

Клава ўзрадавана ступіла насустрач.

— Я, Клава...

Залескую было добра відаць між кустоў. Яна не выходзіла з іх чамусьці.

— Клава?.. Якая... Клава?

У голасе Залескай чулася дзіўнае неразуменне.

— Ну вось жа! Пытаецеся! Нібы забылі...

Залеская маўчала.

— Гэта — я, цётачка!

— Божа! — пачула Клава не так радаснае, як разгубленае.

Залеская нарэшце выйшла з кустоў і, не пытаючыся больш нічога, нічога не гаворачы, пацягнула Клаву за руку. Клава пайшла за ёю. Яны прабраліся праз гарбузнік, і, калі Залеская стала, Клава апусцілася

ў разору. Яна так знясілела за дарогу, што ногі самі сабой падагнуліся...

Залеская таксама села.

— Мы цяпер — тут, у вішаннік перабраліся. Удваіх тут, з Наталляй,— ты яе не ведаеш... Страшна ў хаце — яшчэ падпаляць... ці гранату шыбнуць...

Пасля хвіліны маўчання Залеская зноў сказала разгублена:

— Божа мой! Клаўка, гэта ты?

Яна абмацала Клавіны плечы, як бы не давала веры голасу.

— Тут жа аб'явілі, што расстралялі цябе. Значыцца, няпраўда?

— Праўда, цётачка,— спахмурнела Клава.— Расстралялі.

— Як жа праўда?.. Ты цішэй гавары...

— З таго свету, з магілы прыйшла я, цётачка...

— Божа! — толькі і сказала Залеская.

Клава раптам сціснула руку цёткі гарачай далоняй, нецярпліва, трывожна зашаптала:

— Што з мамкай маёй, цётачка?

Цётка хвіліну маўчала.

— Хто ж яго ведае...— сказала неяк асцярожна, няўпэўнена. Потым, відаць, падумала, што хаваць не трэба, выказала ўсё: — Арыштавалі маму тваю, дачушка. І дзе цяпер — невядома...

У грудзях Клавы штосьці запякло, забалела так моцна, што захацелася застагнаць.

— Прапала мамка! Загубілі мамку!..— забедавала Клава.

— Невядома яшчэ нічога, кажу,— няўпэўнена паспрабавала супакоіць яе Залеская. Але Клава стрымамалася сама, трывожна запытала:

— А што з Сярожам?

— Што? Жывы Сярожа! — Залеская гаварыла з такой радасцю, што адчувалася: хацела гэтым усцешыць занепакоеную Клаву.— Жывы і здаровы!..

— Значыцца, не папаўся?..

— Выскачыў у час!.. Жывы твой Сярожа! І такі ж непаседлівы, як быў!..

— Жывы! Хоць Сярожка жывы!.. А мамачкі... Мамачкі, можа, ужо няма!..

— Не кажы! Яшчэ ж, сказала, невядома нічога...

— Ой, я ведаю, цётачка, што там робяць з людзьмі!.. Баліць маё сэрца, нядобрае чуе! — Клава са стогнам забедавала зноў: — Мамачка, мамачка мая!

— У цяжкі час ты прыйшла, дачушка,— сказала цётка.— Гэта нечысць задумала перад смерцю сваёй яшчэ адну бяду. Божа мой, што ж гэта будзе?! Калі ж ужо скончыцца гэта! Ім мала спаліць горад, ім хочацца яшчэ і смерці, крыві людзей. Учора тут перад вечарам наляпілі загадаў, каб усім сабрацца ў адно месца. Сабяруць і — пад кулямёт! Усіх!..

На ціхай вуліцы затупала некалькі ботаў, пачуліся незразумелыя нямецкія воклічы. Залеская, адразу перапыніўшы гаворку, моўчкі слухала, аж пакуль крокі не сціхлі. Потым, уздыхнуўшы, паднялася, памагла падняцца Клаве, у якой кружылася галава. Увяла Клаву ў вішаннік.

У вішанніку было цямней, чым на агародзе, на якім ужо змрок пачынаў шарэць і святлець, але Клава адразу ўбачыла жанчыну. Седзячы ўскрай ямы, жанчына трымала на руках дзіцяя.

— Гэта Клава, пляменніца мая,— сказала ёй Залеская. Паспачувала: — Не заснула яшчэ Людачка?

— Не... Здаецца, пачало развідняцца...

У голасе яе была трывога.

— Світае...— пашкадавала Залеская.

За горадам, на ўсходнім баку, пачало часта бухаць. Ці то выбухі, ці то стрэлы гармат.

Усе слухалі: бухала ўсё часцей і вельмі блізка.

## РАЗДЗЕЛ II

### 1

Мінск дажываў апошнія дні няволі.

Адна за адной знікалі нямецкія ўстановы — розныя камендатуры, управы, упраўленні, аддзелы. Зачыняліся магазіны, рэстараны, майстэрні. Зусім апусцелі фабрычныя двары, куды яшчэ нядаўна гналі людзей прымус і голад.

Толькі вакзал з кожным днём усё больш перапаўняўся. Каля пакояў ваеннага і цывільнага камендантаў хваляваліся неспакойныя натоўпы. Сюды збягаўся

гітлераўскі зброд, учорашнія «чыны» — з Оршы, з Магілёва, з Лепеля — адусюль. Кожны хацеў хутчэй прабіцца да каменданта, амаль усе спрачаліся, тыцкалі ў твар суседзям нейкімі даведкамі,— шчэрылі азвярэла зубы, пагражалі, лаяліся.

Касы былі зачынены, і, хоць пры іх акуратна віселі абвесткі, што білеты не прадаюцца, тут таксама было тлумна. Многія тоўпіліся на пероне: як і ўсюды, тут былі і чыны ў ваенных мундзірах, і цывільныя. З чамаданамі ды з клункамі і без чамаданаў і без клункаў — хто як здолеў выбрацца.

Увесь час хадзілі чуткі пра тое, дзе цяпер рускія, Саветы. З кожным днём чуткі гэтыя былі ўсё больш грозныя: рускія набліжаліся, як нястрымны акіянскі вал. У небе над Мінскам часта гулі савецкія самалёты...

Выязджалі розныя тылавыя арганізацыі, ехалі групкі, сем'і, адзіночкі. Гестапаўскія каты, шпіёны, здраднікі, наёмныя забойцы. Паязды, што адыходзілі ад вакзала, былі аблеплены імі, як падла мухамі...

Сюды прыгнала і зграю прывозных дзеячаў Рады разам з «прэзідэнтам» і двума намеснікамі. Апошняе пасяджэнне «кангрэса» не давялося скончыць — трэба было хутчэй збіраць манаткі. «Дэлегатам» сказалі, каб выбіраліся з Мінска так, як удасца: гітлераўцам ужо не былі патрэбны гэтыя адонкі. А аб «прэзідэнце» і яго «міністрах» пан генеральнкамісар фон Готберг усё ж паклапаціўся, дазволіў, каб далі месца ў вагонах. Ён яшчэ спадзяваўся, што «прэзідэнт» і яго «ўрад» могуць спатрэбіцца: пан фон Готберг стараўся заглядваць наперад...

Правесці радаўцаў на вакзал пан фон Готберг даручыў штурмбанфюрэру Рэйзе. Штурмбанфюрэру заданне прыйшлося не вельмі даспадобы,— вялікі гонар праводзіць гэтых бяздомных, нікому цяпер не патрэбных дзялкоў, але загад ёсць загад.

Па знаку Рэйзе двое яфрэйтараў, што былі каля ўвахода на перон, прапусцілі іх да вагонаў.

Астроўскі ішоў сутулячыся, увагнуўшы галаву ў плечы. Ён хутка ўбачыў нумар вагона, які значыўся на яго білеце, і, як бы за ім хтосьці гнаўся, паспешліва ўзняўся па ступеньках, увайшоў у дзверы. У праходзе было цесна ад рэчаў, ад немцаў, што завіхаліся, кры-

чалі,— ён нецярпліва ціснуўся праз гэты тлум, пакуль не прабіўся да купэ, выдзеленага яму і яго паплечнікам. Уладкаваўшы з дапамогай Кухты свае чамаданы, ён ужо трохі спакайней вярнуўся ўслед за Рэйзе на перон.

— Я вельмі ўдзячны вам, пан штурмбанфюрэр,— пачціва, па-нямецку сказаў ён Рэйзе.— І я, і ўсе мае супрацоўнікі, усе мы цэнім выключную клапатлівасць пана генеральнага камісара, які ў такія неспакойныя дні, сярод усіх дзяржаўных клопатаў, знайшоў час, каб патурбавацца пра нас. Мы гэта цэнім як вялікі клопат пра наш народ, і мы поўныя жадання, калі настане час, адказаць на гэты клопат шчырымі справамі...— Тут пан «прэзідэнт» заўважыў, што штурмбанфюрэр Рэйзе нецярпліва чакае, калі ён скончыць, і заспяшаўся: — Я прашу вас, пан штурмбанфюрэр, перадаць пану генералькамісару нашу адданую падзяку.

Пан штурмбанфюрэр кіўнуў: выканае просьбу, перадасць. Пан «прэзідэнт», прыспешваючыся, аднак жа стараючыся трымацца з належнай яго ўзроўню годнасцю, загаварыў пра справу:

— Часова, на час нашага ад'езду...— Ён разумеў, што ад'езд гэты зусім не часовы, але не хацеў яшчэ траціць надзеі і не хацеў з удзячнасці гневаць гаспадароў.— Часова я пакідаю тут маім даручэнцам шаноўнага пана Кухту.

Пан Астроўскі, як бы для таго, каб штурмбанфюрэр пабачыў навочна, што паўнамоцтвы перададзены, узяў пана Кухту пад локаць. Пан Кухта з гатоўнасцю, чакаючы згоды, ухвалы яго адданасці, глянуў на Рэйзе.

Пан штурмбанфюрэр згодна кіўнуў. Потым казырнуў пану «прэзідэнту», збіраючыся ісці назад. Пан Кухта ўлавіў момант, папрасіў з надзеяй:

— З вашага дазволу, пан штурмбанфюрэр, я хацеў бы мець гонар правесці...

Пан штурмбанфюрэр не пярэчыў. Ён адразу ж заклапочана, цвёрдым крокам, пакіраваў у горад. Пан Кухта застаўся пры вагоне, да адыходу цягніка.

Каля будынка генералькамісарыята штурмбанфюрэр Рэйзе спаткаў генерала Баумволя. Генерал ішоў насустрач машыне, што пад'язджала да яго.

— Віллі! — Генерал затрымаўся, падаў руку. Паведаміў стомлена: — Еду.

Можна было не пытаць, але Рэйзе адчуў, што генерал чакае пытання.

— Куды, мой генерал?

Генерал, сабраны, паглыблены ў сябе, махнуў рукою на ўсход. Паведаміў незадаволена:

— Вельмі кепска.

Штурмбанфюрэр зразумеў: вельмі кепска ідуць справы на фронце. Баумволь падзяліўся шчыра:

— Фюрэр добра зрабіў, што зняў гэтага бяздарнага Буша. Але, на жаль, Буш вельмі сапсаваў справы.— Генерал пашкадаваў: — Я папярэджваў Кейтэля. Кейтэль не паверыў...

— Можа быць, фельдмаршал Модэль паправіць становішча,— хацеў супакоіць генерала Рэйзе.

— Будзем спадзявацца! — з надзеяй прамовіў Баумволь. Ён падаў руку Рэйзе, моцна паціснуў.

Рэйзе, усхваляваны яго шчырасцю, сказаў услед:

— Жадаю ўдачы, мой генерал!

У горадзе пачалі паяўляцца салдаты з фронту. З кожным днём іх станавілася ўсё больш. Яны былі абарваныя, стомленыя і злыя.

Адзін гурт з такіх салдат трапілася ўбачыць Вольфу. Гэта было каля Заходняга моста: яны цягнуліся пасярод вуліцы не як салдаты, а як статак жывёлы — панурыя, абыякавыя да ўсяго, брудныя. Адзін з іх быў нават без мундзіра.

Некалькі мінчан, што ішлі па вуліцы, прыпыніліся, сталі з цікавасцю назіраць за гэтым збродам, і Вольф заўважыў у іх вачах задавальненне, злую радасць...

Да салдат рынуўся нейкі абураны эсэсавец, стаў крычаць і пагражаць:

— Свінні... Пад суд!.. Расстраляць!

Маёр хацеў падацца на дапамогу яму, але тут здарылася неймавернае: коратка трэснула чарга з аўтамата, і эсэсавец, пахіснуўшыся, як лазіна, асеў.

Маёр мімаволі прыпыніўся, адшпіліў кабуру. Азірнуўся, шукаючы, каго б паклікаць для падтрымкі. Але салдаты, зразумеўшы, што можа быць далей, з нечаканай для іх порсткасцю кінуліся хто куды.

Калі маёр схіліўся над эсэсаўцам, той быў мёртвы. Гэты выпадак уразіў маёра. Ён упершыню бачыў такое злое непаслушэнства...

## 2

Маёру ў гэтыя дні выпала важдацца на Таварнай. Яго паслалі сюды памагчы арганізаваць эвакуацыю маёмасці па ведамству інжынернага ўпраўлення.

Афіцэр, што займаўся гэтым раней, быў забіты. Маёмасць была даўно падрыхтавана да адпраўкі, ёй належала ўжо быць у дарозе, але яна ляжала на станцыі без руху. Маёру трэба было тэрмінова адправіць яе.

Задача гэтая аказалася куды цяжэйшай, чым здавалася спачатку маёру. Па некалькі разоў на дзень налятаді на станцыю савецкія самалёты. Яны ішлі ў блакітным чэрвеньскім небе ўпэўнена, як вестуны таго паграознага фронту, што хутка набліжаўся. Ужо ў першыя прылёты бамбардзіроўшчыкі разбілі зенітныя батарэі вакол станцыі, і цяпер самалёты амаль вольна гаспадарылі ў небе. Са свістам падалі бомбы, карэжылі вагоны, разварочвалі пуці, наводзілі страх на чыгуначнікаў.

Яшчэ горш было ўночы. Самалёты ляцелі група за групай, амаль няспынна кружылі над станцыяй, над горадам.

Калі існавала пекла на зямлі, то яно было тут. І ў гэтым пекле маёр Вольф спрабаваў выканаць ускладзены на яго абавязак. І ў пекле турбаваліся таксама прадстаўнікі розных ведамстваў і ўстаноў, імкнуліся працiснуць свае грузы.

Усе разумелі, што дарагая кожная гадзіна, што гэта апошнія дні, калі можна выратаваць каштоўнасці. Усё рабілі магчымае і немагчымае, каб пагрузіць, адправіць. Не адзін, спрабуючы прабіцца раней, імкнуўся парушыць парадак, абысці зацверджаны графік. Камендант станцыі, худы, шэры аб бяссоння і стомы капітан, упарта стараўся вытрымліваць парадак, графік, але гэта амаль не ўдавалася. Маёр, сам абаронца парадку, тут таксама гатоў быў абысці графік, з якога яму належала яшчэ чакаць, уступаць дарогу іншым. Раней стараліся адправіць станкі з завода па рамонту

танкаў, некаторае іншае, на думку другіх, больш каштоўнае, чым яго, маёра, абсталяванне.

Тое, што рабілася на станцыі, ламала парадак, спрыяла хаосу.

Нарэшце маёру ўдалося пагрузіць некалькі каштоўных станкоў і нямала рознага абсталявання. Увечары, калі ўвесь састаў ужо быў гатовы да адпраўкі, пачалі гудзець савецкія бамбардзіроўшчыкі. Іх сустрэў агонь зенітных гармат, перакінутых да станцыі, але ён быў надта слабы. Потым і зусім спыніўся. Самалёты скінулі некалькі ракет на парашутах, залілі святлом усю Таварную станцыю і сталі бамбіць.

Калі Вольф вылез з бліндажа, накрытага рэйкамі і бярвеннем у некалькі накатаў, на станцыі ў многіх месцах лютавалі пажары. Увесь яго састаў гарэў. Адна платформа была разнесена ўшчэнт,— відаць, ад прамога пападання бомбы, а з двух вагонаў выбуховай хваляй сарвала дахі. Паравоз быў увесь пасечаны асколкамі — каля яго ад водсветаў агню блішчала лужа вады.

Цэлую ноч, у перапынкі між бамбёжкамі, рупіўся маёр з камандай салдат і чыгуначнікамі, выгружаў тое, што ўцалела, і адцягваў з пуці разбітыя платформы.

Раніцай падалі ім дзве цэлыя платформы, але рабіць было амаль немагчыма: салдаты і чыгуначнікі ўвесь час сачылі за небам, разбягаліся па раўках, выкапаных поблізу. Рускія самалёты — бамбардзіроўшчыкі, штурмавікі — проста пасліся ў небе. У групцы салдат некалькі чалавек забіла і параніла. Загінуў машыніст, што падаваў платформы.

Турботы былі амаль марныя, але маёр настойліва спраўляў свой абавязак. Рабіў усё, каб прарвацца са станцыі. Але прарваліся толькі два эшалоны аднекуль з Асіповіч, прабеглі за станцыю.

Уночы рускія самалёты прыляталі так часта, што ніхто ўжо не аб'яўляў трывогі.

Давялося амаль усю ноч прасядзець у бамбасховішчы.

На наступны дзень стала вядома, што тое, што ўдалося адправіць, застрала ў дарозе. Пуці паміж Мінскам і Баранавічамі ўзарваны партызанамі. І аднавіць іх не ўдаецца.

Арганізоўваць эвакуацыю, тым больш пад бамбёжкамі, ужо не мела сэнсу. Практычны маёр Вольф хутка гэта зразумеў з бязлітаснай яснасцю.

Камендант станцыі параіў яму вярнуцца на ранейшае месца.

## 3

Першага ліпеня маёр вярнуўся да палкоўніка Шульца.

Палкоўнік якраз корпаўся ў вялікай жалезнай шафе, пераглядваў паперы. Адны адбіраў, засоўваў у партфель, іншыя паліў тут жа, проста на падлозе. У кабінеце смярдзела гарэлым.

Калі маёр далажыў, што вярнуўся ў яго распараджэнне, палкоўнік зірнуў на яго з дзіўным неразуменнем.

— Распараджэнне... Распараджэнне...— непрыхільна адгукнуўся Шульцэ.— Нашто вы мне?

Вольф не забыў першага знаёмства з ім, ды і помніў пра абстаноўку,— прамаўчаў. Але палкоўніка гэта, здаецца, таксама ўзлавала. Ён кінуў нейкую паперу ў агонь, кальнуў нядобрым позіркам.

— Нашто?!. — паўтарыў палкоўнік.— Нашто, адкажыце?

Маёр збянтэжана прамаўчаў.

Палкоўнік адарваўся ад шафы. Нервовы, з гарачымі вачыма павярнуўся да маёра.

— Я нават не ведаю, для чаго тут я! Так, так, не ведаю. І нашто я будаваў, галаву ламаў — таксама не разумею.

— Як — не разумееце?

— А так — не разумею. Рускія ўжо занялі Барысаў. Яны каля Мінска, абыходзяць Мінск, а нашы салдаты — асноўныя сілы — яшчэ па той бок Бярэзіны. Яны адсталі! Рускія апярэдзілі іх! — Палкоўнік не хаваў адчаю і расчаравання.— Камуністы падступяць першымі да амаль пустых траншэй!.. Іх спаткаюць у горадзе — пустыя доты!.. Вы разумееце, што гэта, чорт вазьмі?

— Так, пан палкоўнік! Гэта — зблытала ўсё.

— Зблытала?! Гэта — ганьба. Ганьба для ўсёй германскай арміі.— Ён стрымаў сябе. Пасля маўчання

запытаў ціха, стомлена: — Вось я і пытаюся: для чаго вы вярнуліся да мяне, для чаго?

— Дазвольце быць вольным?

— Так, так — выбірайцеся. І ад мяне, і наогул з горада... пакуль не позна.

Маёр сабраўся ісці. Апанаваны адчаем палкоўнік, вядома, меў рацыю,— сапраўды, трэба спяшацца, рускія вось-вось могуць перарэзаць дарогі на захад.

Але калі маёр пакіраваў да дзвярэй, Шульцэ раптам спытаў:

— Машына ў вас ёсць? — Ён, канечне, ведаў, што машыны ў маёра няма, не чакаючы адказу, загадаў: — Паедзеце са мной. Адпраўляйцеся ў гасцініцу на маёй. Забярыце сваё — і неадкладна назад!..

Тут жа павярнуўся да незгаральнай шафы, стаў разбіраць паперы.

У гасцініцы было пуста. Заставаўся яшчэ толькі адміністратар, што таксама, было відаць, збіраўся ехаць. Ён узрадавана ўручыў маёру ключ ад нумара, а калі той вярнуўся з чамаданам, запытаў, што рабіць. Маёр параіў не затрымлівацца доўга.

Вярнуўшыся ва ўпраўленне, Вольф застаў палкоўніка ўжо гатовым у дарогу. З дапамогай ад'ютанта палкоўнік хутка пагрузіў сваё: рэчаў у яго амаль не было — два чамаданы, пузаты партфель, скураная папка. Партфель і папку ён трымаў увесь час пры сабе. Калі сеў наперадзе ў машыну, паставіў іх на калені.

Адразу ж выехалі. Не заязджаючы на кватэру. Вуліца за горад была поўная руху. Але дамы, цёмныя, пустыя, здаваліся мёртвымі. І штосьці як быццам таілі ў сабе, злое, пагрозлівае.

Маёр адчуваў сябе няёмка і трывожна ад таго, што ўсё гэта было падобна на ўцёкі і нават на дэзерцірства. Трызнілася маёру небяспека пакарання: ганебны суд, бясчэсце. Даўнія пяхотныя звычкі моцна трымалі яшчэ маёра.

Ён супакойваў сябе тым, што не парушыў абавязку: прызнаны непрыгодным да баявой службы, ён, вядома ж, мае цяпер законнае права адступаць вось так, з тылавымі часцямі. Але пачуццё няёмкасці ўсё ж не пакідала яго, які заўсёды выконваў абавязак свой у цяжкі час.

І ўсё ж з гэтым маёр адчуваў радасць, што едзе,

аддаляецца ад небяспекі, якая пагражае жыццю. І была ў ім удзячнасць да палкоўніка, што бескарысліва працягнуў руку дапамогі.

Як бы там ні было, дарога, што імчалася насустрач, радавала надзеяй на жыццё.

Ён не ведаў, што дарога гэта была перарэзана ўжо. І шляху да ратунку больш не было.

## 4

З кожнай гадзінай у Мінску станавілася ўсё трывожней. Чым бліжэй падступаў фронт, тым больш звярэлі акупанты.

Яшчэ да таго як быў вызвален Барысаў, гітлераўцы пачалі паспешліва мініраваць важныя пабудовы горада. Яны рыхтавалі да падрыву не толькі прадпрыемствы, якія здолелі так-сяк наладзіць, але і амаль ўсе ўцалелыя вялікія жылыя будынкі. Мініравалі Дом урада, Дом афіцэраў, карпусы Інстытута народнай гаспадаркі, Міністэрства лясной прамысловасці...

Пачынаючы з раніцы першага ліпеня — то ў адным квартале, то ў другім,— удзень і ўночы, аглушаючы, грукалі моцныя выбухі, пакутліва ўздрыгвала зямля. То над адным, то над другім будынкам ускідвалася чорная хмара дыму і попелу, і асядалі, абвальваліся сцены, рушыліся столі... Фашысты быццам помсцілі гораду за свае няўдачы на фронце, за паражэнні. З садысцкай лютасцю яны наносілі знявечанаму гораду новыя раны.

Многія будынкі падпальвалі. Усе тры апошнія ночы з вечара да світанку неба над Мінскам і вуліцы крываваліся зарывамі пажараў. Днём над горадам, уздымаючыся высока ў блакіт, віселі, плылі жахлівыя чорныя хмары. І гэтыя зарывы, і хмары былі відаць на дзесяткі кіламетраў вакол...

— Эх, звяры! — шаптала з нянавісцю Наталля Міхайлаўна, пазіраючы на лютае полымя, якое толькі што ўзнялося поблізу.— Нічога чалавечага... ні крыхоткі чалавечага... Звяры сапраўдныя.

— Звяры праклятыя! — адгукнулася Залеская.

Яны былі ў тым жа маладым, падобным на хмызняк, вішанніку, што рос ускрай агарода за хатай Залескай. У вішанніку, дзе было гусцейшае галлё, у яме

яны цяпер і сядзелі. Было ўжо блізка апаўночы, але Людка, якая прымасцілася на каленях у бабулі, усё яшчэ не спала. Наталля Міхайлаўна паправіла накінутую на плечы ўнучкі хустку і лёгенька прыгарнула дзіця да сябе.

— Не спіць? — Залеская ўздыхнула.— Малая, і то, здаецца, усё разумее. Мусіць, ёй таксама страшна...

— А то вы думаеце, не страшна?.. Другі дзень — заўважаю — яна нейкая асаблівая ціхая. І цяпер за ўвесь вечар слова не сказала... Трывожыцца...

— З самага маленства!..— зноў уздыхнула Залеская.— Ды яшчэ каб ведаць, чым гэта ўсё скончыцца!..

Наталля Міхайлаўна нічога не сказала. «Каб ведаць!» У тым і гора, што невядома, як далей будзе. Трываць ужо, мабыць, мала,— яшчэ, можа, некалькі дзён,— але ці пашчасціць дажыць да лепшых.

Недалёка, лявей вакзала, пачало займацца яшчэ адно зарыва.

— Гэта, мусіць, зноў ва Універсітэцкім гарадку... Божа мой, божа, ды яны ж, праклятыя, нідаць, ніводнага дома не мінуць!

Залеская загаварыла пра іншае:

— Эх, Наталька, як я шкадую, што не ўдалося выбрацца з горада... І трэба ж было наткнуцца на нелюдзяў!

Наталля Міхайлаўна з Залескай і Людкай хацелі сёння ўдзень выйсці з Мінска, перабыць гэтыя страшныя дні ў Лошыцы. Яны ішлі быццам бы прадаць тое-сёе ды купіць хлеба, але іх затрымаў патруль з эсэсаўцаў, загадаў вярнуцца. Аказалася, што вакол Мінска ўсюды на выхадах стаіць варта.

А потым, калі яны ўжо вярнуліся, Залеская ад суседкі пачула, што эсэсаўцы пачалі акружаць горад. Што яны яшчэ задумалі? Мабыць, нейкую новую бяду, можа, горшую за тое, што было раней. Добрага ад іх чакаць не прыходзіцца.

— Каласочак ты мой...— прашаптала Наталля Міхайлаўна, з пяшчотай і болем прытульваючы да сябе Люду.

Сяргей у гэты час быў на «працы». Каля яго, тоячыся ў рэдкім чырванаватым змроку, ляжалі і сядзелі

яшчэ некалькі хлопцаў, а вакол чарнелі, як помнікі, нейкія абгарэлыя каменныя слупы, гарбаціліся горы бітай цэглы. Між цэглы ўжо густа буяў палын.

— Чаму яны не ідуць? — нецярпліва зашаптаў адзін з хлопцаў.— А можа, Сяргей, яны прайшлі дзе-небудзь у другім месцы...

— Нідзе не пройдуць,— супакоіў Сяргей.— Толькі тут...

Час поўз вельмі марудна. А немцы ўсё не паяўляліся. Ніхто, вядома, не прагнуў бачыць іх тут, але ўсе ведалі, што яны абавязкова явяцца сюды, і таму іх чакалі і здзіўляліся, чаму дасюль няма. Сяргей непакоіўся, каб яны не прыкацілі сюды вялікай групай, скажам, цэлым узводам, тады іх, можа здарыцца, і не ўдасца адбіць, і ўся гэтая справа, для якой Сяргей сабраў сюды сваіх хлопцаў, сваю падпольную групу, скончыцца сумна...

Наперадзе за плотам то ярчэй, то цьмяна чырванелі маўклівыя цагляныя карпусы, у іх вялікіх, густа пераплеценых чорных вокнах бегалі неспакойныя водбліскі пажараў. Гэту фабрыку гарком даручыў Сяргею: фабрыку і яшчэ школу, якая ўзвышаецца вунь за хатамі. Іх даручылі выратаваць Сяргею і яго баявым таварышам... Там, каля школы, ёсць таксама яго людзі: два надзейныя хлопцы...

Недзе ў сярэдзіне горада, прымусіўшы зямлю здрыгануцца, грымнуў выбух.

— Гэта на вуліцы Карла Маркса... Мусіць — гарадская ўправа.

Толькі пасля паўночы з'явіліся тры салдаты, адзін з якіх нёс каністру, а другі мяшок за спіной. Сяргей, прыўзняўшыся на каленях, адразу пачаў уважліва сачыць за імі...

Хутка стала відаць, што яны ідуць не куды-небудзь, а якраз да прахадных варот. Яны спяшаліся.

— Факельшчыкі!..— шапнуў Сяргей. Ён цяпер ужо не сумняваўся, што гэта яны, подлыя падпальшчыкі.

Хлопец ускінуў аўтамат, прыцэліўся, адчуваючы, як лёгка, вольна зрабілася ў грудзях. Амаль разам з чаргой аўтамата гулка ляснулі два вінтовачныя стрэлы. Той, які быў з каністрай, адразу паваліўся, а два другія, ледзь толькі зразумелі, што здарылася, кінуліся назад. Але адбегчы ім удалося недалёка...

— Ляжаць! — прамовіў Сяргей. У гэтую хвіліну ён быў такі шчаслівы, як, мусіць, ніколі за ўсю вайну. Сяргей прыслухаўся: навокал усё здавалася такім, як і да стрэлаў. Было быццам бы спакойна,— відаць, немцаў не ўстрывожылі гэтыя некалькі стрэлаў...

Упэўніўшыся, што поблізу ўсё ціха, Сяргей, паставіўшы дазорных, каб сачылі за вуліцай, з двума хлопцамі сцягнуў трупы з дарогі, схаваў у руінах.

— Так будзе лепш: ніякага знаку... Ну, што на вуліцы, ціха? — запытаўся ён, стараючыся быць спакойным, у дазорнага, што падпоўз сюды.

— Ды пакуль ціха...

— Ну, то добра...

Адзін хлопец выказаў меркаванне, што цяпер, бадай, можна ісці дамоў. Але Сяргей не дазволіў.

— Пачакаем... Як бы яны сюды не паслалі яшчэ каго. А то, чаго добрага, заўважаць страту... Адным словам, радавацца рана!..— А сам усё ж поўніўся радасцю.— Трэба быць напагатове.

Яны не адыходзілі адсюль да раніцы. І днём тут былі. Толькі не ўпяцёх, а ўдвух і не каля слупоў, а ў кустах маліннiку, на апусцелым агародзе. Назіралі...

## 5

Рэйзе спяшаўся. Ён меў весткі, што рускія ўжо абыходзяць горад і што апошнія шляхі з Мінска хутка, мусіць, будуць перарэзаны.

Штурмбанфюрэр выцягнуў з-пад ложка тры напакаваныя чамаданы. Азірнуўся, ці не забыў чаго каштоўнага, забег у другі пакой, у якім каля століка паранейшаму вісеў фотаздымак — Готберг у параднай форме. Хутка акінуўшы вачыма раскіданыя рэчы, Рэйзе сарваў з цвіка гумавы плашч і вярнуўся назад.

У пакой забег шафёр. Рэйзе загадаў яму ўзяць два чамаданы — ён паказаў якія. На хвіліну задумаўся, ці не прыйдзецца яму адказваць заўтра як панікёру і баязліўцу, які дачасна кідае горад?

Не, ён не застанецца. Ён не будзе сядзець тут да таго часу, калі ўжо не стане куды ўцякаць. Праз дзеньдва чырвоныя тут зробяць, мусіць, тое ж, што было ў

Віцебску. «Кацёл»... А яму зусім ні да чога пападаць у «кацёл». «Кацёл» непатрэбны для яго клопат. Занадта небяспечны клопат для чалавека з яго званнем і справамі. Чаго ж ён стаіць, раздумвае?

Раздумваць, праўда, былі падставы: пану штурмбанфюрэру належала ісці з горада з апошнімі часцямі. У процілеглым выпадку магло пагражаць абвінавачанне ў невыкананні свяшчэннага абавязку перад фюрэрам і айчынаю, ганебнае пакаранне. Але хто мог сказаць, ці змогуць гэтыя апошнія часці не тое што ў парадку адступіць, а хоць бы выбрацца адсюль. Толькі цуд можа выратаваць іх ад «катла», што ўжо добра акрэсліўся. Але ці здарыцца гэты цуд? Цуды — рэч рэдкая...

Патрабавальна зазваніў тэлефон. Рэйзе падышоў.

— Гер штурмбанфюрэр Рэйзе? Гэта вы, гер штурмбанфюрэр? Вы?!

— Я, Рэйзе.

— Гер штурмбанфюрэр! — без меры ўзрадаваўся голас у трубцы тэлефона. Адразу ж назваўся: маёр Эк, начальнік шпіталя. Яшчэ нібы захлынаючыся ад радасці, паведаміў: — У мяне ляжаць раненыя... Сто дваццаць чалавек раненых!..

— Чаму не эвакуіравалі?

Голас сказаў, што гэта — новыя, толькі сёння прывезеныя,— што яму параілі пазваніць Рэйзе. Гер штурмбанфюрэр быццам бы можа дабіцца для іх двух вагонаў ці хоць бы аднаго.

Вядома: групенфюрэр фон Готберг даў пану штурмбанфюрэру надзвычайныя правы. Акрамя таго, у пана штурмбанфюрэра — вядома — ёсць машыны ў канцлагерах.

Штурмбанфюрэр раздражнёна падумаў: чорт пацягнуў яго ўзяць трубку! Стрымана і цвёрда адказаў:

— Нічога ў мяне няма. І я нічым не магу памагчы.

Нібы баючыся, што ён кіне трубку, голас хутчэй ухапіўся:

— Раненыя, гер штурмбанфюрэр! Сто дваццаць чалавек!

Ён маліў, гэты голас, у ім былі і надзея і страх, і штурмбанфюрэр разумеў яго. Але пан штурмбанфюрэр разумеў і тое, што зрабіць ужо нічога немагчыма. І трэба спяшацца.

— Званіце каму трэба,— параіў ён супакойліва.

— Нідзе нікога не даклічашся. Я вас прашу. Сто дваццаць чалавек — салдаты, афіцэры... Адзін — палкоўнік...

— Я сказаў усё!..

Рэйзе паклаў трубку.

Ён схапіў чамадан і збег па сходках на двор. Шафёр ужо сядзеў за рулём «мерседэса». Рэйзе запаліў ліхтарык, праверыў, дзе пакладзены чамаданы. Усё ў парадку. Штурмбанфюрэр ускочыў у машыну, паставіў трэці чамадан, самы важны, каля ног.

Шафёр, уключыўшы фары, пачаў ужо разварочваць машыну, калі на святло з цемры выскачыла постаць. Рэйзе хапіўся за пісталет.

— Гер штурмбанфюрэр! Адзін момант! Гер штурмбанфюрэр, гэта—я, Кухта... Памочнік «прэзідэнта»...— хапаючыся загаварыў чалавек.

— Што трэба? — нецярпліва перабіў Рэйзе.

— Прашу вас, гер штурмбанфюрэр, адно месца!.. Адно месца!..

— Якое месца?

— У машыне, гер штурмбанфюрэр! Падвязіце хоць бы да Баранавіч!

— Дзе ваша машына?

— Адабралі. Вашы салдаты адабралі.— Памочнік усё не мог аддыхацца.— Буду дзякаваць век! Век не забуду!

Штурмбанфюрэр не адказаў. Ён крыкнуў шафёру «ехаць», і машына адразу рушыла.

Памочнік «прэзідэнта» момант стаяў разгублены, потым раптам у адчаі кінуўся да машыны, учапіўся за край адчыненага акенца. Не выпускаючы яго, не адстаючы ад машыны, стаў маліць зноў:

— Гер штурмбанфюрэр!.. Гер штурмбанфюрэр!..

Машына, раўнуўшы, ірванулася ўперад, і Кухта, што ўсё драбніў нагамі, спатыкнуўся. Але ён не выпусціў машыны, пацягнуўся побач.

— Прэч! — загадаў Рэйзе.

— Гер Рэйзе! Гер штурм...— не паслухаўся той.

Рэйзе раззлаваўся.

— А, дрэнь!

Ён успомніў пра кішанёвы ліхтарык, што трымаў у

руцэ, разгневана выцяў Кухту па пальцах. Той не расшчапіў пальцаў, і Рэйзе біў па іх усё зласней. Нарэшце пальцы выпусцілі машыну.

Насустрач пану штурмбанфюрэру ляцела асветленая пажарам вуліца.

## РАЗДЗЕЛ III

### 1

Шабуніха амаль не дала ўвагі легкавым машынам, што спыніліся непадалёк. Столькі машын прайшло перад ёй за гэты дзень, за гэтую гадзіну, пакуль яна стаіць тут каля свайго селішча. Але яна раптам пачула незнаёмую, нібы нямецкую, гаворку і насцеражылася: «Хто гэта?»

Шарсцяныя фрэнчы колеру хакі, з адваротамі, з гальштукамі, кароценькія куртачкі, фуражкі з не бачанымі раней кукардамі — каронамі, берэты, ссунутыя набок.

Шабуніха павяла позіркам па незнаёмых тварах, чакаючы, што будзе далей.

— Ма-ам, немці...— спалохана заныў Валодзька, якога Аўдоцця трымала на руках. Ён шчыльна прыціснуўся да яе грудзей.

«Няўжо?.. Але чаго з імі нашы камандзіры, ды яшчэ такія ветлівыя?» Яна кінула трывожны запытальны позірк на юнага русявага лейтэнанта, які быў пры іх: «Хто гэта?»

— Не бойся, малыш, мы не немцы.

Адзін з незнаёмых, з поўным, крыху бледнаватым тварам, з паголенай галавой, выняў з кішэні шакаладку і паказаў Валодзьку:

— Вазьмі, гэта вельмі смачна,— афіцэр пры гэтым прыцмокнуў: — Вельмі смачна!..

Але малы глядзеў на яго нахмурана, з-пад ілба, нібы не разумеючы.

— Вазьмі, сыночак,— лагодна сказала маці, і Валодзька, не зусім упэўнена, узяў. Незнаёмы даў шакаладку і Вольцы. Тады, пазіраючы то на Аўдоццю, то на Аксінню, што падышла да іх, зрабіўшы на твары прасцяцкую ўсмешку, растлумачыў:

— Мы вашы саюзнікі. Вялікабрытанія...

— А-а?! Англічане,— сказала Аўдоцці Аксіння.

— Англічане! Англічане!.. Ваша армія ваюе з немцамі на ўсходзе, а мы — на захадзе. Нармандыя... Другі фронт — чулі?

— Чулі,— адказала Аксіння,— як не чуць?

— Другі фронт! Разам!

Каб наглядна паказаць жанчынам сэнс гэтага факта, ён ўзяў свае рука ў руку, сціснуў іх. З сяброўскай усмешкай сціснутыя рукі патрос перад Аўдоццяй і Аксінняй. Разам, вось так!

— Разам,— сказала Шабуніха. Але, чулася: не дагаварыла, стаіла штосьці. Нейкі час думала, разважала: гаварыць ці не гаварыць. Дадала, гледзячы ў вочы генералу: — Чакалі мы яго. Доўга чакалі...

— Дачакаліся! — аптымістычна ўсміхнуўся генерал.

Яна павяла позіркам па тварах: усе глядзелі на яе. Некалькі чалавек, з іх адзін — наш, відаць, пераказвалі яе словы на чужую мову. Англічане ўважліва слухалі.

Пад позіркам англічан і нашых яна адчула, як важна тое, што і як яна скажа. І ёй стала як бы страшнавата: не памыліцца б, не зганьбіць сябе, не сказаць бы чаго недарэчнага. Толькі тое, што трэба. І разам забруілася добрае, гонар за сябе: вунь як глядзяць на яе, чакаюць!

— Дачакаліся,— згадзілася яна паважна. Далікатна, але цвёрда выказала сваё: — Дачакаліся. Толькі трохі позна...

Яна зірнула на аднаго з нашых, як здалося — старшага. Той стаяў побач з генералам. Улавіла ў вачах яго вясёлую іскрачку: ухвалу.

— Позна? Чаму?

Яна адчувала: генерал зразумеў яе. Здзіўляўся няшчыра, паказваў здзіўленне для іншых. Нібы гуляў.

— Чаму? Ды як вам сказаць, дарагі... пан ці як... не ведаю, як вас зваць...

— Можаце зваць — пан генерал... Дык я вас слухаю.

Яна адчувала сябе больш упэўнена. І нягледзячы на нашага старшага, адчувала, што ён, як і іншыя нашы, ухваляе яе. З годнасцю адказала:

— У нас кажуць: дарагая лыжка ў абед.

— Дык яны ж, цётка Аўдоцця, з лыжкай якраз і прыйшлі ў абед! — горача, звонка падхапіла Аксіння.

— Што праўда, то праўда — у абед,— задуменна паківала Шабуніха.

Генерал прыязна ўсміхнуўся. Прыязна і паблажліва: маўляў, чаго крыўдаваць на яе, простую сялянку.

— Вы, місіс, рана сабраліся... святкаваць...— Ён з усмешкай зірнуў на сваіх, нібы запрашаючы тых пацвердзіць яго заўвагу. Тыя заўсміхаліся, заківалі згодна, позіркамі падавалі адзін аднаму: добра сказаў генерал.

Яна ледзь не загарэлася. У такія моманты сярод сваіх Шабуніха станавілася рэзкай, нават грубай, не далікатнічала. Але тут былі не свае. І тут трэба было інакш. З толкам трэба было.

— Вы не крыўдуйце...— папрасіла яна, як бы тлумачыла: не яе віна, што мусіць казаць непрыемнае госцям.— Мы, жанчыны, такія: што ў галаве, тое і на языку... Ляцяць вунь гэтыя, каторыя заваяваць усё хацелі. Ляцяць назад... Ні Масквы ўжо ім не трэба, гэтага...— Аксіння падказала ей: Парыжа, Аўдоцця кіўнула: — ні Парыжа, нічога. Абы толькі душу голую данесці... Тут, як той казаў, і першы ім фронт, і пяты. Насыпалі гароху паганаму Атроху!

Генерал, нібы ад душы, зарагатаў. Іншыя яго таварышы, зацікаўленыя, услухоўваліся, што ім пераказвалі, і таксама смяяліся.

— Хвалю, місіс,— вы, аказваецца, не толькі маці, але і — палітык! — Генерал нават прыставіў далоньку да далонькі, як бы пляскаючы ёй.

— Які я палітык,— хітнуўшы галавой, цвёрда адказала яна.— Вось мая палітыка,— яна кіўком паказала на Валодзьку, павярнулася да агарода,—і вунь.

І нашы, і англічане засмяяліся. Паголены таксама засмяяўся, шырока, прыязна, ледзь не склаў зноў далонькі. Калі ўсе сціхлі, азірнуўся навокал і сказаў тонам спачування:

— Відаць, вашы палітычныя справы, місіс, ідуць без поспеху. Бедна жывеце, місіс... Кепска.

— Адкуль жа яму, багаццю, быць? Папалілі фашысты ўсё...

Генерал зірнуў на нядаўна складзены на папяліш-

чы падмурак хаты і свежаачышчаныя бярвенні, што яшчэ ляжалі на зямлі. Абышоў вакол паграбка, асцярожна спусціўся на некалькі ступенек уніз, зазірнуў у сярэдзіну яго, але ўвайсці не адважыўся. Падняўшыся ўгару, выцер хусцінкай рукі, нібы яны запэцкаліся, бегла акінуў позіркам новенькі выпрасаваны касцюмчык.

— Кепска, вельмі кепска жывеце...

Шабуніха прамаўчала.

— Але не трэба вешаць галавы, місіс. Ёсць многа людзей, якія схіляюцца з павагаю перад вашымі пакутамі і моляць неба пра шчасце для вас... Помніце, што вы не адзінокія,— супакоіў ён, па-дружбацку ўсміхаючыся.— Уся Вялікабрытанія, якая паслала нас сюды, шчыра спачувае вам і падзяляе ваша гора. Я ведаю, што яна хутка працягне руку мірнай дапамогі. Так-так, мы дапаможам... Верце майму слову.

— Дзякуй вам на добрым слове...

— Гэта, місіс, не толькі словы.

Шабуніха ўздыхнула, сказала, нібы разважаючы сама з сабой:

— Бедна жывём, кажаце?.. Куды ж горш?..— яна сумна павяла позіркам па селішчы.— Нашчэнт вымеў, ірад!

— Нашчэнт. І не адну нашу вёску...— падтрымала яе шчыра Аксіння.— Не адну. Тысячы, мусіць. І гарады многія...

Генерал кінуў позірк на Аксінню. Шабуніха прыкмеціла: задаволены позірк.

— Усе гарады — ад заходняй граніцы да Масквы,— падхапіў ён словы Аксінні.— Амаль палову Расіі. Самую развітую частку.— Шабунісе падалося: што ён нібы рады гэтаму. Генерал, пэўна, зразумеў яе востры позірк, сумна, вельмі сумна звесіў галаву: спачувае ўсёй душой.— Становішча ваша, сапраўды — вельмі цяжкае. Можа, нават больш цяжкае, чым мы думаем.

Аўдоцця панура ўгледзелася ў яго. Нібы не разумела нечага.

— Чаму гэта?

Генерал глядзеў па-сяброўску, журліва. На твары было: як вы не разумееце такія простыя рэчы?

— Чаму? Я павінен прызнацца, што не гэтакі ап-

тыміст, як вы. Я са смуткам думаю, місіс, пра тое,— колькі спатрэбіцца часу і сілы, каб зноў падняцца, вярнуць усё тое, што знішчыла вайна...

Штосьці ёй не падабалася, не так у словах, колькі ў думках генерала, якія яна ўгадвала. Яна толкам не магла б сказаць, што іменна не падабалася, але ўсё ж — не падабалася. І яна слухала хмурна, і ёй хацелася пярэчыць.

— Цяжка будзе — праўда,— нядобра сказала яна.— Але — што ж. Ці ж гэта — першы раз.

— Так-так, не першы раз. Грамадзянская вайна. Потым — разруха... Але гэта вайна — асабліва цяжкая. Разрушыцельная...

— Куды ж горш. Але — адужаем неяк.

— Так-так, адолееце. Але — цяжка будзе... Такое бальшое разрушэнне! Паўкраіны — разрушэнне...

— Дзе разбурылі, а дзе набудавалі новага. За Масквой і ў Сібіры, кажуць, многа новых заводаў набудавалі. Сёлы — не папаленыя.

— Казала ліха, што не быць дабру,— падтрымала яе Аксіння.— Эх, чаго плакаць! Пераб'ёмся як-небудзь! Не можа ж быць, каб не адужалі! Не калекі ж і не паны, рукі ёсць, дзякуй богу!

Аксіння глядзела на Аўдоццю, нібы чакала ўхвалы яе словам. Але Шабуніха зрабіла выгляд, што не бачыць гэтага. Упарта сказала:

— Няхай не адразу, а адужаем. Быць не можа, каб не адужалі...

— Усё, як было, зробім! Адбудуемся! Праўда, цётачка?

Шабуніха перамаўчала.

— Дай бог,— пажадаў дружалюбна генерал і, зірнуўшы на старшага з нашых, што быў побач, з пашанай дадаў: — Мне вельмі падабаецца гэты... аптымізм вашага народа, іх дзіўная, амаль фанатычная вера...

— Цяпер аб адным трывога,— сказала з роздумам Шабуніха,— каб нелюдзі гэтыя не вярнуліся...

— Не прыйдуць, будзьце спакойны,— адказаў англічанін так, быццам лёс Шабунісі залежаў ад яго.

Генерал развітаўся з Шабуніхай і Аксінняю і рушыў з усёй світай на суседні двор.

## 2

Гасцей чакаў Шчарбацюк. Ён быў неспакойны: хацелася ехаць наперад, куды пайшла дывізія, а прыходзілася сядзець. Сядзець і чакаць, калі ў яго столькі клопатаў!

Разам з гэтым Шчарбацюк не быў абыякавы зусім і да будучай сустрэчы. Гэта сустрэча хвалявала і выклікала цікаўнасць у камандзіра дывізіі: як-ніяк чакала не звычайная справа, а дыпламатычная. Такімі справамі яму яшчэ не даводзілася займацца.

Трэба сказаць, што справа гэта нямала і трывожыла генерала. Як ні гнаў, была ў баявога генерала, вярэдзіла яго і як бы боязь перад гэтай незнаёмай справай, апаска, што не здолее зрабіць усё, як належыць. Ад гэтага генерал загадзя настройваў сябе на скептычны лад. «Дыпламат? — думаў ён, як бы пакеплiваючы з сябе.— Які з мяне дыпламат? Я народжаны для таго, каб рубіць вугалёк ці рамяством салдацкім займацца...» Генерал з цвярозай самакрытычнасцю адзначаў, што заўсёды слабаваты быў па часці этыкету, бачыць не мог якога б там ні было лоску ці цырымоній у адносінах між людзьмі. Усё жыццё Шчарбацюк крочыў нібы знарок насуперак усяму таму, што лічыў дыпламатыяй, і вось жа — выпала стаць дыпламатам, няхай на момант. І трэба было выканаць гэту цяжкую місію належным, найлепшым чынам. Як баявую задачу.

Дывізія рушыла наперад, вяла сутычкі і баі, і генерал увесь час трымаў сувязь з палкамі, сачыў за іх дзеяннямі, даваў указанні. Тая акалічнасць, што ён быў у штабной машыне не адзін, што за ім назіралі, абавязвала яго рабіць усё са звычайным спакоем, і генерал усяляк паказваў, што спакойны, што заняты адной справаю. Але ён чакаў, хваляваўся, непакоіўся тым, як яно будзе з часцямі, з гэтай незнаёмай яму дыпламатыяй. І не шкадаваў дужа, што іх усё няма, позняцца...

Нарэшце яму сказалі, што едуць, напэўна, англічане. Шчарбацюк нехапатліва ўзняўся, ступіў да расчыненых дзвярэй машыны. Разглядзеў: пад'язджала некалькі «вілісаў» з афіцэрамі ў англійскай форме і англійскімі сцяжкамі на радыятарах.

Генерал па прыстаўной драбінцы спусціўся на зямлю. Чакаючы гасцей, акінуў пільным, гаспадарскім вокам групку сваіх афіцэраў, што стаялі побач, нездаволена кінуў аднаму з іх:

— Чаго сутулішся, Братчанка?..

Калі першая машына, віскнуўшы тармазамі, спынілася, Шчарбацюк ступіў да яе. «Каторы?» — запытаўся ён вачыма ў савецкага капітана, што быў у першай машыне з двума англічанамі. Той выскачыў з «віліса», кіўнуў на наступную машыну. Шчарбацюк убачыў: з «віліса» стомлена ступіў паўнатвары, пешчаны чалавек. Камандзір дывізіі заўважыў на выгнутым палявым пагоне англічаніна генеральскую зорку, важна рушыў насустрач.

Англічанін на момант прыпыніўся, пачакаў, да яго ступіў з машыны малады, прыгожы наш генерал, са штаба арміі ці з Масквы. Шчарбацюк мімаволі замарудзіў крок, затрымаўся з загадкай: каму першаму назвацца. Генерал, што праводзіў гасцей, чула ўлавіў яго сумненне, вачыма паказаў на англічаніна.

— Генерал-маёр Шчарбацюк,— назваў сябе камандзір дывізіі.

Англічанін на чыстай рускай мове назваў сябе, і Шчарбацюк сваёй вялікай шахцёрскай рукой пацісНуў кволую руку госця.

— Паважаны пан генерал... Дазвольце мне... а таксама маім салдатам і афіцэрам... вітаць вас...— цяжка выціскаючы словы, сказаў Шчарбацюк,— ...а таксама ваш народ, які змагаецца разам з намі... за адну, вялікую справу...

Англічанін, па-сяброўску ўсміхаючыся, выслухаў яго прывітанне, прыязна адказаў. Так, ён таксама рады,— рады, што можа асабіста засведчыць найглыбейшую пашану да слаўных савецкіх воінаў, што мае гонар бачыць гераічных салдат рускіх саюзнікаў.

Шчарбацюк па чарзе прадставіў англічаніну сваіх афіцэраў, назваўшы званне і прозвішча кожнага, госць пазнаёміў яго са сваімі.

Камандзір дывізіі запрасіў англічан да сябе. Увёў іх на двор дома, каля якога стаяла яго машына.

У двары іх сустрэлі дзяўчаты з медсанбата, ветлівыя, зычлівыя. Запрасілі гасцей памыцца з дарогі. Да плота быў прыбіты бляшаны ўмывальнік, на засланым

прасціраддам стале ляжалі бялюткія ручнікі. Шчарбацюк адзначыў, што генерал, які суправаджаў гасцей — ён, аказалася, ехаў з Масквы,— ухваліў яго арганізацыю справы на гэтай стадыі. Весела перагаворваючыся, генерал стаў мыцца побач з англічанінам.

Адсюль камандзір дывізіі запрасіў павесялелых гасцей у сад. У садзе між дзвюх немаладых яблынь было накрыта новымі прасціраддамі некалькі састаўленых у рад сялянскіх сталоў, на якіх цяпер узвышаліся густым слоем пляшкі гарэлкі. Закуска была простая, салдацкая — амаль усё кансервы, і гэты недахоп гаспадары спрабавалі, відаць, згладзіць, выставіўшы шчодра гарэлкі.

Шчарбацюк, паказаўшы месцы генералам, важка апусціўся побач з англічанінам. Англічанін, калі сеў, зняў фуражку, трымаючы яе ў адной руцэ, другой выцер хустачкай голую, бліскучую галаву.

Маскоўскі генерал вачыма намякнуў, што трэба б узяць галаўны ўбор у англічаніна. Злавіўшы гэты позірк, Шчарбацюк кіўнуў ардынарцу ў бок генеральскай фуражкі, і той, малайчына, ураз скеміў, падбег, схіліўся да англічаніна: дайце, маўляў, вызваліце руку сваю...

Задаволены праворнасцю ардынарца, Шчарбацюк, аднак, тут жа адчуў, што стаў перад складанай праблемай: ці то весці гасцінную бяседу з генералам, ці то паклапаціцца пра астатніх, пра ўсіх.

Падумаў, што генерала ўладзіў на першы момант, што аб ім можа паклапаціцца госць з Масквы, рашуча ўзняўся, каб узяць у рукі агульнае кіраўніцтва.

Афіцэры канчалі сядаць. Англічане ўжо ўсе сядзелі, уперамежку з яго афіцэрамі і тымі, што суправаджалі. Займалі месцы апошнія з яго дывізіі. Шчарбацюк гаспадарліва агледзеў, як усе ўладкаваліся: ці ўсім хапіла месца, ці ва ўсіх ёсць належная для гэтай аперацыі «зброя». Упэўніўшыся, што гэтая частка аперацыі забяспечана, генерал уладным голасам аддаў загад напоўніць шклянкі.

Афіцэры гвардзейскай дывізіі, запрошаныя на сустрэчу, ахвотна выканалі загад камандзіра. Той-сёй з англічан прытрымліваў бутэлькі, не даваў поўна наліць шклянкі. Афіцэры Шчарбацюка спрачаліся, даводзілі, што шклянкі павінны быць поўныя.

За сталамі была вясёлая заклапочанасць. Шчарбацюк сам наліў генералу-госцю, стоячы, агледзеў сталы, дачакаўся цішыні.

Урачыста, значна выказаў яшчэ да сустрэчы ўважліва прадуманы тост: за дружбу савецкага і англійскага народаў. Англічанін-генерал, а за ім і ўсе астатнія ўзняліся.

Англічанін наблізіў шклянку да шклянкі Шчарбацюка, па-братняму ўсміхаючыся, голасна папрасіў усіх падтрымаць яго:

— За магутную Савецкую Расію. За Чырвоную Армію!

— За Саюзную Англію!

— За дружбу!

Усе набліжалі шклянкі адзін да аднаго, звінела шкло.

Хутка Шчарбацюк адчуў, што за сталамі запанаваў дух узаемнай сяброўскай прыязнасці, і сэрца яго, спачатку насцярожанае і недаверлівае, раптам памякчэла, падабрэла. Ён сачыў за ўсім ужо амаль расчулена.

З кожным тостам, што ішлі адзін за адным, гамонка і воклічы за сталом усё ажыўляліся і мацнелі. Узрушаны тостам і віном, малады капітан-пехацінец насупраць Шчарбацюка па-сяброўску абняў англічаніна і, усміхаючыся, пачаў штосьці яму гаварыць.

У тым, як дзейнічаў цяпер Шчарбацюк у ролі гаспадара, яму не было прымусу. Ён адчуваў нават неспадзяваную радасць ад таго, што гэту незвычайную і адказную ролю вядзе так добра. А пра тое, што ролю ён вядзе добра, можна было меркаваць і па вясёлым, задаволеным твары генерала з Масквы. Як гаспадар, які ведае свой абавязак, і як чалавек, поўны дружалюбнасці да высокага госця побач, са шчырай душой папрасіў камандзір дывізіі англічаніна прабачыць за тое, што пачастунак такі сціплы. Вельмі хацелася яму, каб генерал-англічанін разумеў, што пачастунак сціплы не таму, што пашкадавалі чаго-небудзь, а не змаглі сабраць лепшага. Не маглі.

— Цяжка арганізаваць што-небудзь асаблівае. Увесь час на нагах ды на калёсах. Нават спаць даводзіцца ў машыне...

— Усё цудоўна, генерал! — усміхнуўся англічанін.— Цудоўна! Цудоўна, што стол строгі! Мужчынскі, франтавы! І выдатная ідэя — проста пад небам! І акрамя ўсяго — водка! Руская водка!..

Нібы паказваючы, як ён задаволены ўсім, англійскі генерал устаў і энергічным, узрушаным голасам аб'явіў тост за выдатнага савецкага камандзіра дывізіі Шчарбацюка. Трэба сказаць, што генерал не адчуў незадаволенасці, калі чуў хвалу сабе, але азначэнне «выдатны» ўсё ж збянтэжыла крыху яго. Пачырванеўшы, ён коса зірнуў на генерала з Масквы, як бы хацеў убачыць: што ён пра ўсё гэта падумаў. Генерал з Масквы ўсміхаўся, шчыра ўздымаў шклянку. Шчарбацюк з радасцю ўзняў сваю.

— Я не выпадкова, калега, сказаў: за выдатнага,— загаварыў пасля тосту да Шчарбацюка англічанін, схіляючыся бліжэй, датыкаючыся плячом.— Кожны, хто ўдзельнічае ў гэтай аперацыі, мае права на самую вялікую чэсць,— ён праслаўляе сябе не толькі перад адным сваім народам, а перад чалавецтвам. Ваша перамога здзівіла і ўразіла ўвесь свет. Яна настолькі бліскучая, што мы, сучаснікі і саюзнікі, усёй душой захапляемся і ганарымся вамі...

Словы англічаніна ліліся лёгка, журчалі, нібы лагодны ручаёк,— яны прыемна хвалявалі добрае, цяпер такое чулае да хвалы генеральскае сэрца. Гэта было тым больш натуральна, што генерал быў сам захоплены веліччу аперацыі, у якой удзельнічаў. Што англічанін, ва ўсякім разе пра аперацыю, не хлусіў. Праўду казаў. «Скажы ты, як вядзе, нібы вершы чытае»,— з прыхільнасцю падумаў Шчарбацюк.

Але як ні быў захоплены незвычайнай сустрэчай, роллю гаспадара, як ні настройвалі на паблажлівасць застолле і хмель у галаве, у Шчарбацюка амаль увесь час прарываліся неспакойныя думкі пра дывізію. Ён пакінуў яе ў такім складаным становішчы! Асабліва хвалявалі яго справы ў Сібірака. Калі ён гаварыў з Сібіраком перад гэтым абедам, там ішоў цяжкі бой. На іх валіла вялікая група немцаў. Адно за адным прабіваліся ў галаву камандзіра дывізіі пытанні: што ў Сібірака? Што ў іншых?

Была ніякавасць у душы ад таго, што ён, няхай

для справы таксама, сядзіць тут, п'е. Выпусціў з рук дывізію. П'е, калі там ваююць...

Тады ж, калі гаварыў з англічанінам, сачыў за сталом, ён раз-пораз паглядваў на сваю машыну з рацыяй, усё не мог адолець адчування, што адарваўся ад палкоў, што павінен ехаць да сваіх. Што вінаваты перад імі: пакінуў без кіраўніцтва ў такую хвіліну!

Разам з тым лагоднасць, расчуленасць, хоць і захмараныя патрабавальнымі, клопатнымі думкамі, усё ж не пакідалі яго.

«Здаецца, атрымліваецца добра,— думаў ён з уцехаю.— Няхай ведаюць, як умеюць рускія сустракаць...»

Ён паглядваў на генерала, што суправаджаў з Масквы, і пераконваўся: не памыляецца ў сваім меркаванні, што ідзе ўсё непагана. Што ў гэтым выпадку і камандуючы арміі павінен будзе прызнаць: дыпламатычны экзамен Шчарбацюк вытрымаў.

Яго супярэчлівыя развагі перабілі. Англійскі генерал папрасіў расказаць пра Барысаўскую аперацыю...

Калі Шчарбацюк, апісаўшы аперацыю, адказваў на пытанні, добра захмялелы ўжо капітан-англічанін, чарнявы, з вусікамі, ні то запытаў, ні то заявіў:

— Кажуць, тут у немцаў зусім невялікія сілы...

— Гледзячы, хто кажа...— адразу ўлавіў сэнс намёку Шчарбацюк.

— Палонныя, напрыклад.

— Палонныя?.. — Шчарбацюк усміхнуўся саркастычна. Ён быў пакрыўджаны, абражаны. Ён адчуваў, што трэба адказаць моцна.

— Калі немцы кажуць, то яны — з яшчэ большым правам — могуць тое ж сказаць і пра ваш фронт...

— Так?! — здзівіўся капітан.

— Вам гэта здаецца дзіўным?

— Гэта — цікава.

У камандзіра дывізіі зусім знікла паблажлівасць. Быў поўны абурэння, баявога запалу.

— У Нармандыі ў іх усяго трыццаць дывізій — супраць армій дзвюх дзяржаў! А тут, у адной Беларусі, яны маюць пяцьдзесят!.. ці, лепш сказаць — мелі, у пачатку нашага наступлення!.. Пяцьдзесят — нязначныя?! Яны скромнічаюць!..

Ветліва, прымірэнча ўсміхаючыся, загаварыў англійскі генерал:

— Я не магу запярэчыць вам: даныя аб колькасці войск, вядома, няпоўныя і... недастаткова правераныя... Але мне таксама, прызнаюся, даводзілася чуць ад палонных — паўтараю: чуць,— бо мая думка пра майстэрства вашых войск самая высокая... Даводзілася чуць, што вы іх раздавілі колькаснай перавагай.

«Здаецца, ён трошкі сказаў з таго, што ў яго на душы»,— мільгнула ў Шчарбацюка. Камандзір дывізіі вылаяў сябе ў думках: дарэмна пагарачыўся, ні да чога — пеўнем кідацца, як хлапчуку. Ды і з пункту гледжання дыпламатыі — ляпсус, яўна. Зіркнуў мелькам на генерала з Масквы: той з цікавасцю чакаў працягу. Шчарбацюк памаўчаў і, нібы ў роздуме, нібы звялы, згадзіўся:

— Ясна, перавага і колькасная і матэрыяльная была...

— Брава! Гэта шчыра! Шчыра па-руску! — пахваліў адзін з англічан.

— Так. Перавага была, інакш не было б чаго і сунуцца ў наступленне. Але адной колькаснай перавагі, як паказваюць факты, мала...

Шчарбацюк правёў позіркам па тварах гасцей, яны чакалі яго. Памаўчаў, пакуль перакладуць яго словы, уразумеюць. У яго вачах раптам з'явілася штосьці гарэзнае, насмешлівае.

— Гэта добра відаць, напрыклад, з вашага вопыту...— Ён зноў памаўчаў: няхай перакладуць і ўразумеюць. За сталом зрабілася вельмі ціха.— Возьмем хоць бы Касіно [1]. Нядаўняе...— Ён ужо адчуваў сябе ў становішчы камандзіра, які выдатна ведае, што ўдар будзе дакладны, моцны.— Там у вас было, як я ведаю, дзве арміі. Амерыканская і англійская. А немцаў у некалькі разоў менш. Ну, а як ішлі там справы?

— Гэта адна з нашых ваенных няўдач,— запярэчыў у адказ англічанін-генерал. Запярэчыў мякка, далікатна, нібы нагадваючы, што трэба трымацца правіл гульні. Правіл этыкету.

— Даруйце, генерал, што я зачапіў гэта. Мяне гэта

---

[1] Касіно — горад у Італіі, у раёне якога англа-амерыканцы ў 1944 годзе вялі баі з немцамі.

аперацыя зацікавіла толькі як прыклад. Як прыклад да размовы, што такое колькасная перавага...

Шчарбацюк прыкмеціў: у вачах генерала, які суправаджаў англічан, скакалі вясёлыя чорцікі. Тоячы ўсмешку, ухваляў камандзіра дывізіі.

Спрэчку, аднак, не варта было распальваць. Англічане, пачаўшы звадку першымі, першымі ж і пайшлі мірыцца. Даў знак ім да гэтага разумны англійскі генерал. Шчарбацюк гасцінна наблізіў да яго сваю шклянку. Шклянкі пастуквалі над усімі сталамі.

Тады Шчарбацюку прынеслі некалькі радыёграм. Адна была ад Сібірака: націск немцаў стрымалі і нават пацяснулі іх... Але бой не скончыўся...

«Трэба ехаць. Пакіну за сябе начальніка палітаддзела і паеду. Хвіліна якраз зручная...»

Камандзір дывізіі вылез з-за стала, схіліўся да генерала з Масквы, сказаў пра свой намер. Генерал не пярэчыў. Шчарбацюк вярнуўся на месца і, для прыліку сказаўшы яшчэ тост, устаў, каб развітацца.

— Вельмі прашу прабачыць, сябры,— ён заклапочана зірнуў спачатку на кіраўніка гасцей, потым на іншых англічан.— Але я павінен неадкладна ехаць... Чакаюць неадкладныя справы.

— Разумею, перш за ўсё — вайна,— усміхнуўся англійскі генерал. Ён па-сяброўску падаў руку.

## РАЗДЗЕЛ IV

### 1

Васіль стаяў каля дрэва, сціскаў у руках аўтамат і чакаў. Ён жывым не дасца. Няхай паткнуцца сюды, ён сустрэне іх. Шкада толькі, што ў аўтамаце адзін дыск, ды і той не поўны. Эх, і ніводнай гранаты не засталося! Непадалёк раптам спляліся частыя гулкія выбухі гармат і стралянiна з кулямётаў. Хто гэта страляе? Ермакоў?.. Не, не трэба прыслухоўвацца да гэтага. Вось-вось паявяцца з-за дрэў аўтаматчыкі, трэба сачыць за імі. Але што гэта яны марудзяць? Яны маглі ўжо быць тут. Можа, абыходзяць? Не, здаецца...

Нямецкія грузавікі загурчалі маторамі. Пачалі кіравацца з ляска. Васіль у прагаліны між дрэў бачыў:

на дарозе была дзіўная мітусня. Павозкі спяшаліся абагнаць адна адну, салдаты з усіх сіл лупцавалі коней. Там і тут грузавікі і павозкі зварочвалі з дарогі і гналі проста па полі.

Неўзабаве аднекуль вылецела, страляючы з кулямётаў, некалькі танкаў. Немцы пачалі кідаць павозкі і грузавікі, беглі куды глядзяць вочы. Дзе-нідзе салдаты ўздымалі рукі.

«Што гэта яны?.. Здаюцца?.. Што там за танкі? Нашы?.. Не, не можа быць. Яны ж учора былі далёка... А чые ж? Бач, што робіцца з немцамі?.. Няўжо нашы?!»

Васіль, забыўшыся на ўсё, кінуўся да ўскраю лесу, упіўся вачыма, як зачараваны, у гэтыя страшныя для немцаў машыны. Цяпер было ясна — нашы танкі!

Але танкаў было няшмат: усяго пяць машын. Яны, амаль не спыняючыся, прайшлі наперад, і Васіль зноў астаўся адзін. Навокал, як і раней, былі немцы.

«Эх, чаму я не падбег адразу да танкістаў,— няхай бы ўзялі мяне! Правароніў, разявака!» Адчуваючы, што зрабіў памылку, якая можа дорага абысціся, ён, азіраючыся, пачаў асцярожліва адыходзіць ад небяспечнай мясціны — ад зарасніку да зарасніку.

Неўзабаве Васіль быў ужо ў полі. Ісці адсюль проста да пасёлка нельга было: перад пасёлкам, ён ведаў, сабралася многа немцаў. Ён нават бачыў у тым баку групы салдат і машыны. Там можна было наткнуцца на іх...

Ён рашыў абысці немцаў, зайсці ў пасёлак з іншага кірунку, збоку.

Ішоў полем, сярод жыта. Прыгінаючыся, пільна азіраючыся, час ад часу, калі была небяспека, прысядаючы, так, што зусім хаваўся сярод сцяблін. Прысеўшы на зямлю, ён прыслухоўваўся да галасоў немцаў, асцярожна высоўваючыся, сачыў, дзе яны, куды кіруюць. Калі бачыў, што небяспекі не было, ішоў далей.

Каля лесу ён раптам убачыў непадалёк людзей у чырвонаармейскім адзенні. Яны ішлі па дарозе з аўтаматамі, савецкімі аўтаматамі. Паглядвалі наперад, сачылі насцярожана за дарогай, за полем.

Пілоткі, гімнасцёркі, аўтаматы, сам выгляд людзей, стомленых і насцярожаных,— усё паказвала, што гэта — чырвонаармейцы. У іншы час Васіль усё ж, ад

перасцярогі, можа быць, яшчэ пачакаў бы, каб не памыліцца, не наткнуцца, скажам, на пераапранутых уласаўцаў ці немцаў, але цяпер ён чакаць не мог. Ён баяўся, што і гэтыя байцы, як і танкі, знікнуць, калі ён прамарудзіць, празявае.

Васіль напрасткі праз палосы бульбы і жыта пакіраваў да іх.

Яго заўважылі, спыніліся. Нібыта нават узнялі аўтаматы. Чакалі яго. Чакалі, бачыў, не вельмі прыхільна, насцярожана. І ў ім раптам зноў ажыў, памацнеў страх: ці не памыліўся, ці не пераапранутыя? І ногі Васіля самі сабой запаволілі бег, і холад пайшоў па яго спіне.

Няўжо ж памыліўся? Калі памыліўся, прапаў. Так недарэчна. Глупа. Ён выхапіў з групы чарнявага, з мангольскімі вачыма, і падумаў: свае, мабыць. Адзначыў сабе: зоркі на фуражках, медаль у аднаго...

Усё, усё ў іх, і адзенне, і зброя,— наша, савецкая. І твары, твары нашы, родныя... Чаму ж яны так глядзяць...

Халодныя, нават варожыя позіркі іх трывожылі. Няцвёрда, усё марудней, набліжаўся Васіль да іх...

— Хэндэ гок! — скамандаваў адзін з іх. Той, з мангольскімі вачыма.

Усяго мог чакаць Васіль, толькі не гэтага. Сумеўся ад нечаканасці.

— Д-ды што гэта ты?!

— Хэндэ гок! Ясна? — паўтарыў чырвонаармеец, пагрозна цэлячы зброю. Сцерагучы пільнымі вачыма, загадаў:

— Аўтамат — сюды!

Васіль не слухаўся.

— Аўтамат — сюды!

Нічога не разумеючы, разгублены, Васіль аддаў аўтамат.

Вось дык сустрэча! Ніколі не думаў, не гадаў, што можа такое быць. Ніяк не мог зразумець: чаго ён, гэты пехацінец, так варожа абыходзіцца? Няўжо такі — пераапранутыя? Не падобна. Заўважыў, як непрыхільна акінуў яфрэйтар яго вопратку, і раптам здагадаўся: вунь яно што! Мундзір, відаць, ва ўсім вінаваты,— палічылі за немца ці паліцая!

— Я — партызан,— паспрабаваў устанавіць спра-

[illegible]

— Нашто ім такія бровы?

Поблізу таварыш Рыбакоў — [illegible]

[illegible] І тут я схапіўся адну кнігу, перакусіць, захапела [illegible] перагортваю другую [illegible] капейкі [illegible] Што рабіць? Ды ты думаеш, што я ра[illegible]

[illegible] кансерваў, адразу [illegible] суседу. Той — «Колькі?» — «Пяцьдзесят». Ён і вы[illegible] паперку.

— Лоўка. Знайшоўся,— пахваліў хтосьці Рыбакова.

Быстроў праз дрымоту прыслухаўся, пра што га[ворыць] у другім баку Сонцаў: — Ну, дырэктар МТС у мяне і пытаецца: «Чаму стаіць твой «націк»?» — «Пад[шыпнікі] выплавіліся»...

«Зноў тую ж самую гісторыю — Бранскі летапі[сец]»,— варухнулася ў галаве Быстрова. Ён пазяхнуў і сказаў голасна да таварыша:

— У прыемнай кампаніі — прыемна пазяхнуць!..

Сонцаў зрабіў выгляд, што не звяртае на яго ўвагі.

— І праўда, чаму б не падрамаць? А, Касцючэн[ка]? Яшчэ ніводзін салдат, кажуць, не памёр на вайне ад сна...

Але заснуць Быстроў не мог,— вельмі ж неспакой[ная] ў яго была натура. Неўзабаве ён пачуў, што раз[мова] набывае цікавы змест. Другі фронт.

— Сіла ў іх, канешне, немалая,— сказаў Касцю[чэнка].— Гэтую высадку яны зрабілі здорава. Вось толькі што ідуць марудна: колькі часу ў Італіі тапта[ліся], зноў жа ў Францыі нешта туга ў іх. Хто іх ведае, чаму. Ну, у Італіі, там, напэўна, горы пера[шкаджаюць].

— А ў Францыі — раўніны,— падхапіў Быстроў. Заўсёды што-небудзь знойдзецца. Затое тут — абрусам дарога. Ідзем па асфальтах, фрыцы самі рукі пады[маюць] угару, бягуць хутчэй у палон.

Пачуўся смяшок.

— Ну, чаго ж яны тады марудзяць?

327

Фотакопія рукапісу рамана «Мінскі напрамак».



Партрэт Івана Мележа пяцідзесятых гадоў.

вядлівасць Васіль.— Я — не немец... Ну, праўда — п-партызан. З брыгады Ермакова. Разумееш?

У доказ Васіль выняў з кішэні пілотку з зоркаю, надзеў на галаву, ясна-блакітнымі вачыма даверліва паглядзеў на яфрэйтара.

— Ну, бачыш?

— Нічога не ведаем,— заявіў баец.— Камандзір разбярэцца.

Паклікалі камандзіра. Невысокі, чарнабровы сержант, кальнуўшы Васіля строгім позіркам, загадаў паказаць які-небудзь дакумент.

Які мог Васіль даць яму дакумент? Усяго і было дакументаў, што старая, парудзелая даведка, якую толькі разы два за вайну паказваў цёткам у вёсках. Дастаў з кішэні на грудзях, разгарнуў цэлафанавую абгортку.

Сержант з годнасцю ўзяў паперку. Прачытаў уголас прозвішча і імя Васіля. І раптам падняў здзіўлены, чамусьці ўсхваляваны позірк. Вусны яго дзіўна дрыжалі:

— Бацька?!

— Што? — не зразумеў Васіль.

— Бацька тут...

Ён паказваў даведку.

Васіль не разумеў. Ніхто не разумеў нічога. Было відаць толькі: сержант штосьці ўбачыў незвычайнае.

— Подпіс...

Сержант, вельмі ўзрушаны, даў руку, назваўся:

— Туравец... Юрый...

Гэта было так неспадзявана, што Васіль не адразу ўцяміў, што ён сказаў.

— Вы — Юрка?.. Юрка Туравец?! — нібы не паверыў ён.

— Юрый.

Васіль збянтэжана ўглядваўся ў сержанта. Нібы ўсё не мог даць веры. Вунь да каго, аказваецца, папаў ён у «палон»! Вакол іх сабралася цяпер купка салдат, зацікаўлена сачылі за размовай.

— Вы яго даўно бачылі?

— Не, нядаўна. Учора! Перад самым боем!..— Рады, што можа паведаміць такую добрую вестку, што прыкрая недарэчнасць так скончылася, Васіль, ззяючы, сказаў: — Ён у тым пасёлку, адразу вось за гэтым

узгоркам. Як уздымецеся на ўзгорак, адразу будзе пасёлак. Бацька там... Вы яго ну, праўда, хутка пабачыце!

Смуглы, не па гадах цвёрды, твар сержанта засвяціўся радасцю.— У пасёлку?! У гэтым пасёлку? Тут, за ўзгоркам?

...Юрый раптам успомніў, здавалася, такую даўнюю ростань з бацькам. Бацька праводзіў яго за горад, на Магілёўскае шасэ. У грузавіку, поўным жанчын, старых і дзяцей. Каля апошніх дамоў спыніў машыну, абняў Юрыя. Помніцца, Юрый заўважыў, што ён вельмі пастарэў у тыя дні.

Такім ён і застаўся ў памяці. Пастарэлы, нейкі прыціхлы. Адразу, як толькі машына кранулася, ён павярнуўся і пайшоў назад у горад, над якім лютавалі пажары.

Толькі праз паўтара года бацька неяк адшукаў яго ў далёкім башкірскім гарадку. Юрка стаў атрымліваць ад яго весткі. З далёкіх лясоў, з незнаёмага, цяжкага і — цудоўнага жыцця. Як Юрка рваўся ў той час туды, дзе быў бацька, як трызніў роднымі лясамі, партызанскімі паходамі... Ледзь толькі дзевяты клас застаўся ззаду, папрасіўся ў армію...

І вось яны хутка ўбачацца... І трэба ж, каб іх шляхі так добра, так шчасліва сышліся!..

Сержанта паклікалі да малодшага лейтэнанта Праворнага. Васіль застаўся цяпер адзін сярод салдат, што частавалі яго махоркай, распытвалі аб партызанскім жыцці. Той, хто затрымаў Васіля,— Шарыфутдзінаў — аддаў яму аўтамат:

— Вазьмі назад сабе. Не трэба крыўдзіцца — сам вінаваты. Носіш гэты фрыцаўскі мундзір!

Неўзабаве Юрый вярнуўся і, задыханы ад бегу, папрасіў Васіля пайсці з ім, да малодшага лейтэнанта.

Камандзіры — афіцэры і сержанты — сядзелі ўскрай дарогі, пры кювеце і на сцежцы. Вакол іх чырванела і бялела прыцярушаная пылам канюшына, уздымаў сцяблы-хвосцікі над лапчатымі лістамі трыпутнік. Над камандзірамі весела паблісквалі варухлівымі лісточкамі тры маладыя бярозкі.

Вывеўшы Васіля наперад, Юрый Туравец сказаў камандзірам, што гэта ён і ёсць, Васіль Крайко, і камандзіры пачалі ўставаць, знаёміцца з ім. Акрамя

шчуплага малодшага лейтэнанта быў тут і камандзір батальёна капітан Паўлоўскі.

Высокі, вялікі камбат, спусціўшы ногі ў кювет, сказаў, што батальён адсюль павінен павярнуць на поўнач.

— Ці не можаце вы правесці нас? — Паўлоўскі назваў сяло, куды, відаць, трэба было ісці батальёну.

— Ч-чаму ж не магу?! Я тут усе дарогі ведаю. Як свае боты...— узрадаваўся Васіль.

— Значыцца, можаце. І згодны? Вось і цудоўна!.. Ну, калі так, будзеце правадніком!

Паўлоўскі падняўся, атрос зямлю са штаноў. Падняўся і Праворны, аб'явіў, што грузавікі будуць хутка, загадаў, каб усе былі напагатове,— і камандзіры пачалі разыходзіцца.

Васіль пайшоў з Юрыем. Крочыў побач з маўклівым і задумліва засяроджаным сяржантам. Не вытрываў, спытаў спагадліва:

— А як жа вы, з бацькам?

Юрый паглядзеў доўгім позіркам усцяж дарогі, што бегла ў бок пасёлка. Не адразу, сумна сказаў:

— Сустрэчы, як бачыш, пакуль не будзе. Давядзецца адкласці...

## 2

Шашура ў гэты дзень ішоў на працу з асаблівым настроем. Як яму было не мець такога настрою: вельмі ж можа быць, што гэтая аперацыя — апошняя.

Тыя аперацыі бачыліся Шашуру цяпер звычайнымі, як праца ў будзённы дзень. Сёння ж, адчуваў ён, належала зрабіць асаблівае. Заўсёды ахвочы да эфектных учынкаў, ён бачыў гэту завяршальную аперацыю як бы апошняй гастроллю, спектаклем «на развітанне». Ён памятаў, што акцёры, перад тым як выехаць з горада, выступалі звычайна з развітальнымі спектаклямі. Яго нязменна заварожвалі словы — апошнія, развітальныя спектаклі. Шашура амаль заўсёды хадзіў на гэтыя спектаклі. Дарэчы, ён вельмі любіў і паважаў артыстаў, лічыў іх людзьмі незвычайнымі.

Для такой важнай справы Шашура выбраў ціхую, мала аб'езджаную пасёлачную дарогу, кіламетраў так

■ адзінаццаць ад пасёлка, дзе білася брыгада. Ён быў непахісна ўпэўнены, што немцы, стараючыся абмінуць заняты Ермаковым пасёлак, павернуць не інакш як сюды.

Калі Шашура дабраўся да месца працы, ледзь пачало днець. Вось яно, месца яго, можа быць, апошняй працы — дарога ўрэзваецца ў яловы лес. Зручны ўкрыты куточак: густы і цёмны малады ельнік падступае да самых пясчаных каляін. Выдатныя подступы да дарогі. Подступы, пра якія можна толькі марыць.

— Як спецыяльна, каліна-маліна, нарасло для нас!..

— Добрая мясцінка! — падтрымаў яго адзін з памочнікаў.

— Тут мы і прызямлімся!.. Ну, хлопцы, паварочвайся жвавей ды — асцярожней... Каб... птушак лясных часам не патрывожыць.

Выглядваючы ■ ельнічку, Шашура акінуў позіркам абодва бакі дарогі. У ранішнім прыцемку яна нагадвала рэчышча, а рады чорных дрэваў здаваліся падобнымі на скалы. На дарозе было пуста.

Шашура толькі сабраўся выйсці на дарогу, як наводдаль паказаліся машыны.

— Ш-ш! — зашыпеў ён на таварышаў.— Едуць!.. Гэтых, хлопчыкі, пакуль прапусцім...

Прамчалі два грузавікі. Кузаў аднаго з іх быў адкрыты, і было добра відаць, як там, звесіўшы сонна галовы, дрэмлюць немцы; другая машына была крытая.

— Гэта — першыя птушкі,— супакойваў не так другіх, як сам сябе, Шашура.— Чарада яшчэ будзе... Не шкадуй, хлопцы!..

Ён выбраўся на дарогу і з дапамогай двух асістэнтаў у тым баку, куды пайшлі машыны, метраў праз сто, закапаў у сыпучай, пясчанай зямлі цяжкую націскную міну. Ён выбраў такую адлегласць, каб не зачапіла выбухам, а месца выбраў там, наперадзе, з разлікам, што тыя, хто будзе ў машыне і ўцалее, пасля выбуху не інакш кінуцца назад, сюды, дзе засада. Машына, можна не сумнявацца, будзе ісці не адна, трэба, каб у пастцы знайшлося месца і іншым. Як толькі пярэдняя падарвецца, гэтыя іншыя, наступныя, стануць вельмі зручная будзе мішэнь. А для тых, хто захоча

ратавацца ў лесе, Шашура акаймаваў дарогу дробнымі пяхотнымі «хлапушкамі».

Падрыўнікі, вопытныя ў такіх турботах людзі, вышкаленыя Шашурам, трымаліся правіл найстрогай маскіроўкі. Не высоўваліся з ельніку, перагаворваліся шэптам ці знакамі.

Зрабілі ўсё, што трэба было для бою, усталявалі два кулямёты, расклалі дыскі з патронамі, гранаты. Ляжалі пры кулямётах, трымалі гатовымі да бою аўтаматы. Шашура, вярнуўшыся да іх, пад ахову елак, нецярпліва ўпіўся прыплюшчанымі кашачымі вачыма ў пасвятлелую дарожную далеч, стаў услухоўвацца.

Усё далей адкрывалася дарога, яна была пустая, ціхая. Ніякіх машын, ні адной, нават адзінокай, постаці.

Мінула паўгадзіны. Гадзіна, дзве. Усё было па-ранейшаму. Сонная пустэча і ціш. Толькі нябачны дзяцел недзе наводдаль рупіўся, тукаў. Нібы ў насмешку.

— Эх, каліна-маліна, няўжо я схібіў? Няўжо не там выбраў? Быць не можа!

Побач хтосьці з хлопцаў узлавана вылаяўся:

— Чаму яны, госпада бога, не едуць!

Яшчэ сочачы за дарогай, падрыўнікі пачалі паціху размаўляць, асцярожна курыць. Доўгае, нуднае чаканне ўсім надакучвала.

Мінула тры, чатыры гадзіны! Недалёка, у баку пасёлка, узгарэлася моцная страляніна. Яна то спадала, то зноў узгаралася, а на дарозе, бы знарок, было пуста і ціха!..

Раптам Шашура перасцярожліва зашыпеў: «ш-ш!» Люта зіркнуў на таварышаў, рашучым рухам рукі даў знак замерці.

Усе адразу змоўклі. Камандзір падрыўнікоў, углядваючыся ў дарогу, нават узняўся на локцях. Напружана, востра ўглядваўся. Калі павярнуўся да ўсіх, у вачах быў ліхаманкавы, зіхотна-радасны бляск:

— Едуць!.. Едуць усё-ткі «заваёўнікі свету»!

Па дарозе ішлі машыны. Хутка можна было ўжо разгледзець іх. Наперадзе — адкрытая легкавая машына, за ёй, крыху ззаду — грузавікі. Дарога наводдаль рабіла дугу, і, дзякуючы гэтаму, можна было бачыць усю калону, усе грузавікі. Адзін, другі, трэці...

Машыны ўсё набліжаліся. Ужо добра было відаць,

што і ў легкавой, і ў адкрытых кузавах грузавікоў, што рушылі за ёй, поўна салдат.

Шашура, азірнуўшыся на таварышаў, убачыў, як адны [redacted] іх застылі, цэлячыся на дарогу, другія варушыліся, стараліся прыладзіцца ямчэй. Ну, быць бою!

Шашура з непакоем падумаў: толькі б вытрывалі ва ўсіх нервы. Каб не ўдарыў хто-небудзь раней часу, да выбуху. Трэба даць, абавязкова даць улезці ім у лес. Ударыць ім ззаду, тады, калі яны, ачмурэлыя ад неспадзяванага выбуху, замітусяцца, не ведаючы, што рабіць...

Ён таксама ўзяў на руку аўтамат.

Але што гэта?! Шашура няўпэўнена апусціў аўтамат і, узняўшыся на калені, да болю ў вачах стаў узірацца: не нямецкі гэты ўсюдыход! І форма ў салдат не шэра-блакітная. А галоўнае — маленькі чырвоны сцяжок на пярэдняй машыне... А можа, ён памыляецца? Ці, можа, гэта правакацыя, ашуканства?!

Тады салдаты з грузавікоў самнуць, пераб'юць жменьку партызан і самога яго, Шашуру, праніжуць чаргой. Ці для таго ён біўся столькі, каб загінуць так бязглузда! Хто ж гэта, нарэшце? Як ні ўзірайся, не разбярэш нічога!.. На нядаўна рашучым твары падрыўніка была пакутлівая разгубленасць.

— Чакайце, хлопцы!..

Шашура ўстаў: трэба высветліць, хто гэта.

Калі гэта заваёўнікі, тады — адна чарга з машыны, і яму канец, і многім таварышам смерць. Але гэта могуць быць і нашы, іх трэба спыніць, папярэдзіць! Адным словам, неабходна высветліць.

— Калі дам чаргу — значыцца: каўбаснікі. Тады — па ўсіх машынах! З усіх ствалоў! Ясна?

Трымаючы ў руцэ аўтамат, Шашура вылез з ельніку, выйшаў на дарогу і нехапатліва, як бы спакойна, рушыў насустрач машынам. Падрыўнікі са сваёй сховы нацята сачылі за ім.

Бачылі: шыракаплечы, камлюкаваты, з кавалерыйскай партупеяй, ён рашуча ўзняў руку, загадаў машынам спыніцца.

Пад'ехаўшы бліжэй, легкавічок павольна затармазіў. І тут падрыўнік, пастаяўшы нерухома нейкі кароткі і цяжкі час, раптам ірвануўся з месца і кінуўся да машыны.

— Адставіць! Не страляць!!! — прыпыніўся ён на міг, павярнуўшыся да партызан. Аб'явіў, рады без меры: — Свае-е!!

Шашура крыкнуў так, што па лесе пакацілася: «э-э-э!»

У першай машыне, у легкавічку, побач з шафёрам, важны і шчаслівы, вольна сядзеў не хто іншы, а таварыш, лясны брат Шашуры — Васіль Крайко, апрануты ў салдацкую гімнасцёрку. Васіль памог адразу рашыць цяжкія сумненні Шашуры, дазнацца, хто следуе ў машыне.

— Вася?! Каліна-маліна, ці ты гэта? Адкуль ты? Як ты сюды зваліўся?

— Прыехаў в-вызваляць вас! — засмяяўся Васіль.

— Ну, калі так, то дзякую, таварыш ба-ец...— і Шашура, парывіста адкінуўшы кепку на макаўку, так сціснуў «вызваліцеля», што ў таго костачкі затрашчалі. Ашалелы ад радасці, камандзір падрыўнікоў абхапіў бліжняга, што выскачыў ужо з машыны, смуглявага сержанта Юрыя Тураўца.

Тым часам спыніліся грузавікі, што ішлі ўслед. З ельніку вылезлі, кінуліся да машын іншыя партызаны. З грузавікоў пасаскоквалі салдаты ў выгаралых гімнасцёрках. Усе сышліся, зліліся ў купах, шумлівых, усхваляваных.

Падрыўнікі кожны па-свойму выказвалі радасць. Некалькі хлопцаў падхапілі пажылога вусатага байца і ўскінулі на руках; іншыя хто ціснулі, трэслі па-сяброўску рукі, хто, як браты, абдымаліся. Амаль усе радасна крычалі. Адзін рослы партызан, абдымаючы маладзенькага яфрэйтара, неспадзявана для сябе заплакаў ад шчасця, як дзіця.

Шашура перацалаваў усіх, хто быў у пярэдняй машыне, весела ссунуў кепку на лоб і пачухаў патыліцу.

— Эх, каліна-маліна, і не снілася — пад сваіх міны падлажыў! Яшчэ б крыху, і вы паляцелі б на той свет. І — ад маёй міны, няхай мне рукі адсохнуць!..

## 3

— Разміні-і-ррваць! — схамянуўся раптам ён. Ашалелы ад шчасця, Шашура скамандаваў так, што рэха пайшло па лесе.

Сам рынуўся з усімі: відаць, камандаваў падрыўнік не толькі іншым, а і сабе.

Усе кінуліся разграбаць пясок вакол мін, выкручваць запалы. Рабілі з небывалым імпэтам і весялосцю.

Хутка дарога была вольная, яна цяпер была перакапана мелкімі, як воспінкі, ямкамі, ля якіх жаўцеў сыпучы пясок. Выкапаныя міны мірна ляжалі з боку дарогі, ускрай ельніку...

— Шлях вольны! — хвацка казырнуўшы, далажыў Шашура малодшаму лейтэнанту Праворнаму.— Але далей мы вас, прасіце не прасіце,— не прапусцім. Не можам прапусціць! Трэба, каб вы абавязкова пагасцілі ў нас.

— Дзе гэта?

— У пасёлку...

— Ну, там цяпер і без нас даволі гасцей! — Праворны заклапочана азірнуўся ў бок грузавікоў.— Туды, ні мала ні многа, два нашыя палкі пайшло!..

— Нельга,— строга прамовіў сержант.— Мы маем заданне...

— Я і забыў вас пазнаёміць,— схамянуўся раптам Васіль.— Гэта Юрый, камісараў сын.

— Юрый? Вось гэта факт! — Шашура зноў абхапіў сержанта. Адпусціўшы, заявіў пераканана: — Ну, тады, каліна-маліна, і гаварыць няма чаго! Абавязкова заедзем. Не пабачыцца з бацькам пры такой сітуацыі? Гэта ж злачынства. Адказнасць перад вашым начальствам, калі на тое пайшло, бяру на аднаго сябе. Скажу, я вінават, толькі адзін я!.. Дамовіліся, таварыш камандзір? Едзем!

— Не магу. Спяшаемся!.. — і Праворны, павярнуўшыся да байцоў, што стаялі на дарозе, скамандаваў: — Па машы-ы-нах!

На твары Шашуры было бязмежнае шкадаванне.

— Значыць, канец, і няможна?! — не верыў ён.— Але тут жа шкадаванне змянілася мужнай дзелавітасцю: — Ну, у такой сітуацыі — адзначым, каліна-маліна, на хаду! Як, гэта кажуць — экспромтам!

Шашура спрытна адкруціў ад фляжкі алюмініевую чарачку і, наліўшы да верху спірту, шырокім жэстам падаў лейтэнанту. Здабыў з палявой сумкі, дзе ляжалі і запалы, загорнуты ў некалькі ліасткоў з кнігі кавалак тоўстага, яшчэ свежага сала, парэзанага на скрылёчкі,

і акуратна паклаў на пярэдняе сядзенне. Потым наліў з фляжкі Юрыю, Васілю, выпіў, задаволена крэкнуўшы, сам і стаў хапатліва, як прагаладалы, закусваць салам.

— Эх, размінаемся з бацькам! — не вытрымаў, шчыра пашкадаваў Юрый.— Вы яму хоць прывітанне!..

Шашура запэўніў: перадасць, канечне, пра што казаць. Адразу, як толькі вернецца, пабачыць. Але лепш бы — Юрый сам заявіўся. Шашура знарок зірнуў на лейтэнанта: як узяў намёк. Разумець павінен. Лейтэнант быццам не чуў.

— Нічога, можа, у Мінску сустрэнемся...— супакоіў сябе Юрый.

— Гэт-та факт! — падтрымаў яго Шашура.

Праворны, адчувалася ўвесь час, спяшаўся: не даўшы закусіць па-людску, загадаў заводзіць машыны. Шашура, Праворны, Юрый, усе іншыя сталі развітвацца, па-сяброўску, нібы даўнія знаёмыя.

— А ты, Вася, друг мой юны, як жа? Не вернешся ўжо? — пацікавіўся гарэзна Шашура.

— Вярнуся — п-пазней! Толькі правяду — б-бліжэй да Мінска!.. Ведаеш што,— голас Васіля пацішэў і памякчэў.— Пабач...

— Валю, вядома,— падмігнуў здагадлівы падрыўнік.

— К-канечна. Скажы ёй, што са мной усё ў парадку. А то яна, мусіць, перажывае...

— Ёсць за каго перажываць!

— Не крыўляйся. Перадай!

Машына ўжо кранулася. За ёй паўз Шашуру і яго хлопцаў, набіраючы хуткасць, прабеглі грузавікі.

Вяртаючыся да сваіх, падрыўнік пашкадаваў ні то жартам, ні то сур'ёзна:

— Сарвалася, каліна-маліна, мая апошняя аперацыя!..

## 1

Праворны не памыліўся — у пасёлку было поўна байцоў.

Па галоўнай, брукаванай, вуліцы рушыла артылерыя. На ўвесь пасёлак разносіўся рэзкі лязгат, скрыгат цягачоў, востра пахла перагарам гаручага. На двара́х стаялі машыны са снарадамі і нейкімі мяшкамі, а ў некалькіх месцах грузавікі з зенітнымі кулямётамі, у чахлах і без чахлоў — нацэленымі ў неба.

Пасёлак віраваў, як у свята. Усюды на вуліцах відзеліся салдаты і партызаны — нібы адно войска; сярод цывільных і ваенных фуражак і кепак часта бялелі, цвілі кветкамі, рознымі колерамі вясёлыя хусткі жанчын. Між дарослых усюды круціліся неспакойныя цікаўныя дзеці. Усе былі яшчэ ахмялелыя першай радасцю сустрэчы, пачыналіся роспыты, апавяданні. Бясконцыя роспыты!

Хоць цікаўнаму Шашуру вельмі хацелася пастаяць у якім-небудзь гурце, паслухаць, пра што гавораць людзі, ён, апынуўшыся тут, на вуліцы, адразу нацэліўся шукаць Тураўца. «Вось узрадуецца, калі скажу, што носам да носа сустрэў — каго б вы думалі? — Юрку!.. Вось як вас цяпер, бачыў, скажу!..— Шашура не мог проста спакойна ўявіць, як ён будзе казаць усё гэта, як будзе слухаць Туравец. Але як ні захапляла гэта незвычайная сустрэча з камісарам, у нейкі момант Шашура ўбачыў, што ў ёй можа быць і іншы лад: — Каб, чаго добрага, не забедаваў ён,— засумняваўся раптам падрыўнік,— што не ўдалося пабачыцца з сынам. Гм, гэта можа быць, вельмі можа быць!..— Шашура ад такога адкрыцця нават прыкметна стрымаў тэмп хады. Рашыў, аднак: — Усё роўна трэба расказаць яму».

Камісар і Ермакоў, калі Шашура ўбачыў іх, якраз меркавалі нешта з незнаёмым армейскім генералам. Генерал, пажылы, даволі грузны, з бялявымі запыленымі брывамі, з шырокім крутым ілбом, стаяў каля машыны і, відаць, збіраўся ад'язджаць.

Ермакоў быў у афіцэрскай форме, у хромавых ботах, з партупеяй і бліскучай афіцэрскай пражкай. Тры-

маўся з генералам камбрыг паважна і неяк інтымна, нібы паказваў, што ён таксама не абы-хто, не лыкам шыты, а ваенны, кадравы.

— Дык я спадзяюся, другі мае! — пачуў Шашура.

Стукнуўшы шпорамі, Ермакоў адказаў-адрапартаваў супакойліва:

— Можаце быць упэўнены, таварыш генерал! Усё будзе зроблена! Усе сцяжкі знаёмы! А пра дарогі і казаць няма чаго! Зробім! Правядзём!

Генерал падзякаваў, па-таварыску пацісну ў камісару і камбрыгу рукі і важка сеў побач з шафёрам у машыну.

— Шчаслівай дарогі, таварыш генерал! — трымаючы далонь ля казырка фуражкі, пажадаў Ермакоў.

Ледзь машына, кінуўшы хмарку сіняга дыму, рушыла па вуліцы, Шашура падышоў да Тураўца.

— Таварыш камісар, дазвольце далажыць. Вестачка добрая ёсць, асабіста вам!

Шашура знарок недагаварыў, ззяючы, чакаў пытання. Туравец зірнуў нібы нездаволена, думаў, мусіць, пра гаворку з генералам.

— Якая вестка? — У позірку быў, падобна, папрок: чаго гаворыш гулліва, загадкамі? Але амаль адразу ж у позірку яго мільгнула і хваляванне, трывожнае чаканне. Здагадаўся, чакаў. Але не верыў. Стрымаў сябе.

— Ад сына вашага! — урачыста аб'явіў Шашура.

— Ад сына? Ад Юркі? — Туравец, падобна было, усё не верыў.— Дзе ён?!

— Блізка!

Падрыўнік парывіста, то кпліва, то ў захапленні, узяўся расказваць пра сустрэчу. Пачынаючы ад таго, як ён закапаў міну для немцаў, але як, пабачыўшы машыны, скеміў у час...

Камісар нібы ўсё не верыў Шашуры, і глядзеў, і слухаў, ловячы кожнае слова і быццам яшчэ не разумеючы ўсяго.

— Дык дзе ж ён? — раптам нецярпліва перабіў ён падрыўніка. Гатоў быў, здавалася, рынуцца насустрач.

— Развіталіся! — сціпла і спачувальна прамовіў падрыўнік. Выказаў спачуванне, як толькі мог. Разумеў жа ўсё.

— Як — развіталіся?

— Загад прыйшоў адразу — далей.

— Дык што ён — паехаў?

— Так што — паехаў, таварыш камісар!..

— Паехаў! Што ж ты...— Туравец ледзь не мацюкнуўся ад шкадавання. Зазлаваў на недарэчную балбатлівасць падрыўніка.

— Я затрымліваў яго, таварыш камісар,— хацеў паправіцца Шашура.— Не мог ён. Заданне.

— Куды ён паехаў?

— У бок Кавалёў, таварыш камісар.

— Ён, відаць, у Шчарбацюка служыць,— уступіў Ермакоў, які ўвесь час з цікавасцю слухаў, што гаварыў Шашура.— Трэба папрасіць генерала, каб адпусціў пабачыцца. А? Хочаш, я звяжуся, пагавару?

— Паспрабуй! — Туравец узрадаваўся, адразу ўхапіўся за надзею, што паявілася ад слоў камбрыга.

Яны ўдвух кінуліся шукаць які-небудзь штаб, з якога можна было б звязацца з камандзірам дывізіі. Знайшлі штаб аднаго з палкоў. Мяркуючы па тым, што ў машыну ля штаба грузілі маёмасць, штаб таксама збіраўся выпраўляцца з пасёлка. Камбрыг з годнасцю аб'явіўся, спасылаючыся на асабістае знаёмства з камандзірам дывізіі, папрасіў звязаць з генералам.

— Пачакай, можа, ён тут, у гэтым палку,— перапыніў Ермакова Туравец. Ён запытаў маёра, з якім гаварыў Ермакоў, ці няма ў асабістым складзе палка сержанта па прозвішчу Туравец. Маёр задумаўся, пацерабіў руды вус, пакруціў галавою — не прыпамінае. Ён загадаў паклікаць нейкага Цімошкіна і, калі паявіўся хударлявы, з жоўтымі вачыма лейтэнант, запытаў таго, ці няма ў іх палку сержанта Тураўца, загадаў праверыць па спісах.

Неўзабаве Цімошкін вярнуўся і сказаў, што ў спісах сержанта Тураўца няма. У гэтым штабным клопаце Туравец адчуў няёмкасць за тое, што турбуе людзей па асабістай справе. Але так хацелася пабачыць хоць на момант сына, што ён не толькі не стрымліваў Ермакова, які прасіў звязаць з камандзірам дывізіі, але і нецярпліва чакаў, чым усё скончыцца. Не хацеў так проста траціць надзею.

Генерала Шчарбацюка ў штабе дывізіі не аказалася. Чакаць не было як, штабісты палка, склаўшы маёмасць у машыны, чакалі ўжо каманды рушыць.

— Размінуліся! — Туравец з такім жалем вымавіў

гэтае слова, што Шашура, які дачакаўся камісара і камбрыга на вуліцы, пачуў быццам папрок сабе.

— Тры гады чакаў, вось ён падышоў, і — на табе!— Туравец дапытліва зірнуў на Шашуру: — Які хоць, скажы, ён? Рослы, а?

— Ды не, не вельмі...— Шашура загаварыў ахвотна. Хацеў неяк суцешыць бацьку, ды і сваю прамашку згладзіць.— Невысокі зусім, можна сказаць...

— Невысокі? Няўжо не вырас?.. Бацька вінаваты... Ну, а так, з выгляду? Дарослы, сталы?

— А як жа, сталы! Салдат па ўсёй форме!

— Салдат!.. Вось як, брат, мы, Тураўцы,— сказаў камісар дзіўна-задуменна. Стаіў шкадаванне аб размінцы з сынам.— І на фронце, і ў тыле. З двух бакоў Гітлера, каб ён згніў зажыва, ціснем!.. Ды, кажаш, салдат — па форме?

— Па форме!

Шашура бачыў: камісар усё не мог супакоіцца, што размінуўся з сынам.

2

У той жа дзень, пад вечар, камісару прыйшоў загад здаць справы ў брыгадзе і падрыхтавацца да ад'езду ў Мінск.

Мінск яшчэ не быў вызвалены, а Туравец ужо толькі і думаў, што аб горадзе, дзе яму належала працаваць сакратаром аднаго з райкомаў партыі.

Пачыналася новае, мірнае жыццё, заяўлялі пра сябе зусім іншыя, як дагэтуль, клопаты. З заўтрашняга — ці, на горшы выпадак, з паслязаўтрашняга дня — ён будзе знаёміцца з невядомымі сёння людзьмі, шукаць сцежкі да іх сэрцаў, згуртоўваць вакол райкома, вучыць. Партыя пасылае яго на новае месца, дае новую справу,— справу, якая так блізка яго душы, аб якой ён так многа марыў усе тры ваенныя гады...

Яму ўспомніўся пачатак партызанскага жыцця, пануры, маўклівы лес, які абступаў яго і тых, хто быў з ім, калі яны сядзелі на палянцы ў першы вечар. І першая, амаль без сну, ноч, у якую ён думаў, як будзе рыхтаваць людзей да баёў. Тады многае было незразумелым, няясным,— не тое, што цяпер. Цяпер, хоць і чакалі нялёгкія справы, ён глядзеў наперад ба-

гата смялей: Туравец добра бачыў мірную будучыню, бачыў у канкрэтных дэталях,— яна была падобнай на тое, што ён ведаў з даваеннай работы. Вядома, у тым, што яго чакае, будзе і многа непадобнага,— ён пра гэта не забывае. Ён падумаў пра гэта. Чаго толькі не абдумаў ён ў марах за доўгія лясныя ночы і дні.

Ён ідзе на новую працу не адзін, а з групаю дзейсных, талковых людзей, і гэта Тураўца асабліва абнадзейвала. З ім пойдзе нямала памочнікаў і дарадчыкаў, на якіх можна будзе напачатку, ды і пазней, абаперціся...

Ермакоў пакуль заставаўся па-ранейшаму камандаваць брыгадай, якой было загадана дапамагаць ваенным часцям другога эшалона, забяспечваць парадак у вызваленым раёне. Камбрыг вельмі шкадаваў, што брыгадзе не прыйдзецца ўдзельнічаць у вызваленні Мінска: такую важную падзею зробяць без яго! Нездаволены быў, што даводзілася быць толькі, як ён гаварыў, «вартаўніком», «правадніком».

Ермакоў ужо таксама ў думках развітваўся з брыгадай. Туравец гэта адчуў, калі яны селі ўдвух, каб вырашыць некаторыя справы да ад'езду камісара.

— Пайду па старой спецыяльнасці — у «пушкары»...— загаварыў да Тураўца камбрыг, ссоўваючы набок сваю артылерыйскую фуражку. Раптам выпрастаўся, строга ўскінуў галаву.— Па цэлі нумар чатыры! Гранатаю, узрывацель фугасны! Зарад першы!.. Вугламер — трыццаць чатыры! Узровень — трыццаць нуль!.. — голасна скамандаваў ён, нібы для таго, каб давесці, што не забыўся.

— Ты цішэй, Ярмак. А то — чаго добрага — мінамётчыкі ўздымуць трывогу.

— Ну, і няхай уздымуць!.. Развітальны салют зробім!..

Яны сышліся ў драўляным доме, побач з тым, дзе нядаўна быў камандны пункт; вокны былі расчынены, і з вуліцы ішлі сюды грукат калёс па бруку і разнастайны гоман. Дом быў пусты, у ім, з вестак жыхароў, жыў нейкі немец, які знік у самы апошні момант,— уцякаць, пэўна, давялося хапаючыся, у доме было прыбрана і чыста. На Тураўца і Ермакова глядзелі са сцен нейкія фраў з хітрымі прычоскамі,— глядзелі і, здавалася, дзівіліся.

Ермакоў раптам заклапочана задумаўся:

— Добра табе, Нічыпар,— усё ў цябе ясна. Вось і месца тваё табе ўжо вядома.

— Ну што ў мяне добрага? — запярэчыў няшчыра, задаволены ў душы, Туравец.— Гэта ж мне, можа, часова...

— Не хітруй. Не прыбядняйся... І наогул ты, Нічыпар,— мужык! Хоць і камісар, а [redacted] мужыкоўскай жылкай,— крыўдуй не крыўдуй!

Туравец не пакрыўдзіўся.

— Можа быць, можа. Збоку перажыткі відней,— ён яўна пасмейваўся.

— А я вось не ведаю, дзе буду праз некалькі дзён... Цікава, што мне цяпер дадуць — батарэю ці на дывізіён паставяць, а, як ты думаеш?

Туравец адказаў, што могуць паставіць камандаваць дывізіёнам ці назначыць начальнікам штаба палка.

— На штаб-то наўрад. Са штабной работай я, мусіць, не спраўлюся. Ды і нешта не вабіць яна мяне. Лепш камандаваць бы. А на дывізіён не паставяць — званне малаватае...— Туравец улавіў у яго словах затоеную нецярплівасць, паспачуваў яму. Месяцы тры назад, амаль адразу пасля таго як ён стаў камандаваць брыгадай, Ермакова прадставілі да «маёра», а загаду з Масквы ўсё не было...

— Прыйдзе званне, Мікалай. А не застане тут, дык у арміі здагоніць. У такіх справах, брат, парадак строгі,— супакоіў яго Туравец.

Ён папрасіў пачаць перагляд спісаў,— на працу ў горад абком партыі вырашыў накіраваць адначасова [redacted] Тураўцом неабходных там людзей.

Спісы гэтых людзей былі складзены даўно і нават зацверджаны абкомам. Тут былі перш за ўсё вопытныя партыйныя работнікі, асабліва камісары атрадаў, палітрукі, розныя спецыялісты-інжынеры, урачы, настаўнікі, чыгуначнікі. Праўда, частку з іх камандаванне злучэння дазволіла пакуль затрымаць у брыгадзе, бо абстаноўка давала падставы меркаваць, што брыгадзе, падобна, давядзецца яшчэ ваяваць з гітлераўцамі, ачышчаць лясы. Вызначыць, каго зараз паслаць у горад, а каго пакінуць тут, якраз і павінны былі Туравец і Ермакоў.

Калі абодва, седзячы плячо каля пляча, сталі чытаць спісы, то ўзгарэліся раптам спрэчкі. Нярэдка аказвалася, што адзін і той чалавек быў да зарэзу патрэбны і Тураўцу, і Ермакову.

— Ну, гэта чорт ведае што!.. Усіх лепшых людзей забіраеш! — не ўтрываў нарэшце камбрыг.— З кім я ваяваць буду?

Туравец, пасміхваючыся цыганскімі вачыма, спакойна, ласкава,— з той ласкавасцю, за якой Ермакоў чуў хітрасць,— адказаў:

— Э-э, камбрыг, якая тут цяпер вайна! Скончылася тут, лічы, вайна!..

— Каму скончылася, а каму — не...— Ермакоў, здавалася, не заўважаў, што камісар жартуе. Ён нецярпліва ўстаў з-за століка.— Слухай, Нічыпар Паўлавіч, гэтага трэба пакінуць! Камандзір жа. Рота разлезецца без яго! На ім усё там!

— Каб ты, камбрыг, ведаў, які гэта да вайны быў інжынер! Па яго справе другога такога майстра ва ўсім Мінску не было,— акадэмік, а не інжынер! Талент.

Камісар, лагодна пасміхваючыся, запісваў прозвішча інжынера ў свой блакнот. Ермакоў жа яшчэ спрабаваў адваяваць камандзіра:

— Слухай, камісар, сумленне май! Абыдзешся пакуль без яго!

— Ну і дзівак ты, Мікалай! Як жа я абыдуся,— мякка, ужо без усмешкі, загаварыў Туравец.— Апрача ж яго, фактычна, ні аднаго спецыяліста на заводзе! Ні аднаго, разумееш?! Падумаў, як можна без яго там нешта зрабіць?..

Яшчэ праз тры прозвішчы камісар назваў Шашуру.

— Шашуру?! А гэты нашто табе? Па якой спецыяльнасці? Ну, то ўсе, як ты кажаш, спецыялісты. Адзіныя, незаменныя, неабходныя! А Шашура які спецыяліст? Які?

— Шашура — які? — нібы здзівіўся яго пытанню Туравец. Сказаў так, быццам папракаў: як можна такое пытацца: — Шашура, сам ведаеш, спецыяліст на ўсе рукі. Патрэбны вельмі ў наш час спецыяліст! Для яго будучай працы, брат, не толькі навуку, але і прыродны талент трэба мець! Нам цяпер такія да зарэзу патрэбны!..

І пакрыўдзіўся за многае на Тураўца, і расчара-

ваўся моцна ў былым сваім камісары Ермакоў. Увесь час, хоць і стрымліваўся, нездаволена адчуваў, што Туравец, які частку людзей узяў справядліва, усё ж дамагаўся большага, чым трэба было для яго справы. Думаў камбрыг раней, што Туравец такі патрыёт брыгады, як і сам ён. Быў час, калі камісар дбаў пра брыгаду, як самы пільны гаспадар, калі, здавалася, нічога даражэй няма яму за партызанскую сям'ю. А наступіла іншая пара, усё забыў.

3

Уранку з лагера прыйшла фурманка, нагружаная торбамі, чамаданамі, скрынкамі. Яе адразу акружылі, пачалі разбіраць кожны сваё. Ардынарац камісара ўзяў з фурманкі рэчавы мяшок, стрэльбу, кажух і падаўся ў дом камісара. Тут ён паставіў стрэльбу ў кут, а мяшок і кажух паклаў на лаўку.

— Я ўсе рэчы склаў сюды ў мяшок...

— Добра. Усім, хто едзе, прывезлі рэчы?

— Усім...

Туравец стаў збірацца ў дарогу. Ён перабраў, што было ў рэчавым мяшку: ношаную-пераношаную бялізну, новае верхняе абмундзіраванне, канспекты лекцый, планы гутарак — на асобных лістках, у сшытках, у блакнотах, пацёртыя, пажоўклыя ад часу выразкі з газет, карту, зрысаваную знакамі пра становішча на франтах, томік В. К. Арсеньева «По Уссурийскому краю»...

Узяў у руку стрэльбу, пераламаў, паглядзеў у ствол,— нібы збіраўся на паляванне. Гэта была стрэльба «франкот», захопленая аднойчы разам з палкоўнікам СС. Хлопцы, што захапілі стрэльбу, прынеслі яе Дразду, а той падарыў Тураўцу, заядламу паляўнічаму.

«Цудоўная штучка!» — Туравец пагладзіў адпаліраваную бліскучую ложу. Ён ужо не раз страляў з гэтай «штукі»: бой быў вельмі добры...»

— Вось і ўсё...— Камісар зірнуў на кажух: што з ім рабіць? Кінуць, ці што? Не, можа, будзе патрэбны.— Пятро, а кажух прывязеш мне ў Мінск. Глядзі, каб не прапаў.

— Не прападзе, таварыш камісар...

Туравец вырашыў ехаць сёння ж, не марнуючы часу, хоць немцы, можа, яшчэ былі ў Мінску. Ён разлічваў, што пакуль удасца дабрацца, родны горад, напэўна, вызваляць. Нястрымна хацелася хутчэй у горад, пабачыць, што там...

З учарашняга дня Тураўца, акрамя даўняга імкнення хутчэй убачыць горад, турбавала яшчэ адно, нецярплівае, гарачае: сэрца бацькі ніяк не хацела кінуць надзею сустрэць у горадзе Юрку...

Трэба было вось яшчэ зазірнуць у шпіталь. Зазірнуць, перш за ўсё як тлумачыў сабе Туравец, каб развітацца з раненымі. Зрабіць гэта загадвалі яму яго жаданне і яго абавязак. Але вяло яго ў шпіталь, вядома, не толькі гэта. Не, не мог ён паехаць адсюль, не пабачыўшы Марыю.

Шпіталь быў недалёка, у невялічкім парку, дзе магутна высіліся стагоднія ліпы і вязы. Калі Туравец турботна крочыў па дарожцы да парку, яму спаткалася Валя, што несла нейкую каструлю. Калі сышліся, яна ветліва прывіталася. Але зірнула так, што Тураўцу стала няёмка. Не па-дзявочы пранікліва і нібы з насмешачкай.

— А Марыі Андрэеўны няма,— паведаміла яна. І зноў зіркнула позіркам, ад якога Тураўцу стала зноў нядобра.— Павезла раненых у вайсковы шпіталь. Там ім будуць рабіць аперацыю... У іх, казала Марыя Андрэеўна, ёсць добры хірург.

— Дзякуй за паведамленне,— сказаў Туравец таксама нібы з насмешкай. З камісарскай заклапочанасцю спытаў, каго павезлі да хірурга, які стан раненых, каторых павезлі. Паказаў занадта ўпэўненай дзяўчушцы, з кім яна гаворыць. З афіцыйным выглядам перадаў прывітанне Марыі Андрэеўне. А астатніх паабяцаў пабачыць асабіста, асабіста развітацца. Далажыў, што спадзяецца зараз зрабіць гэта...

Ён вяртаўся са шпіталя расчулены гаворкай з людзьмі, сагрэты цяплом іх любві, зажураны ад шчымлівага разумення таго, што сустрэча гэта — развітальная. Што як там ні будзе потым, нешта ў звыклым і дарагім яднанні з гэтымі людзьмі рвалася.

Дзіўна зроблена чалавечае сэрца: вось жа, марыў пра гэту хвіліну, бачыў толькі радаснае ў ёй, а ў ёй, аказваецца, і свая журба. Журба, канечне, мацней вя-

рэдзіла таму, што не ўдалося пабачыцца з Марыяй Андрэеўнай. Трэба ж было іменна ў гэтую гадзіну паехаць ёй!

Ля сваёй хаты Туравец напаткаў Шашуру, загадаў:

— Збірай людзей! Зараз выступаем!..

Выйшаўшы з хаты з рэчавым мяшком за плячыма, ён убачыў вакол групкі, што ішла з ім у горад, ледзь не ўсю брыгаду. Ледзь не ўсе, хто быў у лагеры, выйшлі іх праводзіць, і Туравец амаль з кожным развітаўся за руку. Апошнім ён падышоў да Ермакова. Шчаслівы камісар крыху вінавата зірнуў на Ермакова, потым моцна-моцна, як лепшага сябра, абняў.

— Ну, бывай, Коля!.. Толькі — не сярдуй. Усяму, дарагі, свая пара...

— Лёгка казаць табе...

— Будзеш у Мінску — заходзь! Адрас просты — райком. А дзе яго шукаць, я і сам пакуль не ведаю...

— Знайду.

4

І хто б мог падумаць, што ёй, Аўдоцці Шабунісе, зноў прыйдзецца ўцякаць з роднага селішча ды хавацца.

Цэлы дзень ішлі цераз Паплавы нашы: і пехацінцы, і гарматы, і абозы. І здавалася, што ўжо — усё, што цяпер можна жыць сабе ў спакоі, жыць — нічога не баяцца. Але павярнулася па-іншаму. На другі дзень, апоўдні, у Паплавы зноў прыкацілі нямецкія машыны.

Аўдоцця была тады ў полі. Яна палола з жанкамі бульбу і бачыла гэтыя машыны і пыл, які віўся за імі, аднак ёй не прыходзіла ў галаву, што гэта могуць быць не нашы.

Хутка прыбегла перапалоханая, задыханая дзяўчынка і крыкнула:

— Ой, немцы!

Аўдоцця жахнулася: там жа, у сяле, Валодзя і Волька. Не думаючы ні пра што, нічога не страшачыся, яна пабегла туды, дзе стаялі цяпер ненавісныя машыны. Аўдоцця толькі адно ведала, адно помніла: там Валодзька і Волька.

Божа мой, чаму яна іх не ўзяла з сабою. Як магла

яна забыцца на тое, што было толькі ўчора ўранку, як магла яна не асцерагацца, што вецер можа раптам перамяніцца, што яны, гэта варожае насланне, раптам зноў прыйдуць. Яны ж яшчэ ўсюды тут бадзяюцца, па розных закутках, сцежках. Як жа яна так кінула дзяцей адных у сяле?!

Адчуваючы, як халадзее ў грудзях, Шабуніха ўбегла на роднае селічша. Спусцілася ў зямлянку па сходках — там было пуста. І на селішчы іх яна не бачыла. Яна кінулася да суседкі, да Аксінні, спадзеючыся, што, можа, тая што-небудзь ведае?

Але Аксінні дома не было.

Тут да Аўдоцці падступіла некалькі салдат і сталі штосьці патрабаваць на сваёй незразумелай мове. Яна здагадалася: загадваюць даць яек, малака, хлеба.

— Дзе я вам іх вазьму? — адказала яна са злосцю.— Дзе? Усё падмялі, як на таку, няма на вас зводу...

Яе прымусілі правесці на сваё селішча.

— Вось, усё тут, у гэтым склепе. Бярыце, што знойдзеце,— няхай яно вам бокам вылезе!..

Адзін з салдат наставіў на яе аўтамат, штосьці яшчэ загадваючы. Але яна так без страху трымала сябе, што ён вылаяўся і апусціў аўтамат. У яе вялікай трывозе ёй цяпер нічога не было страшным.

— Дзе ж дзеці?!

Яна абышла ўсё сяло, шукала дзяцей, шукала, у каго б можна было даведацца пра іх. Нібы ў сне, яна бачыла блізка ад сябе сіне-шызыя машыны і постаці ў чужых мундзірах. Гэтыя паганцы, прыблуды нярэдка падыходзілі да яе, патрабавалі, пагражалі.

Не знайшла ні Валодзькі, ні Волькі. Людзей у сяле было мала,— амаль усе хаваліся недзе ў лесе ці на балоце. Аўдоцця старалася супакоіць сябе, што там жа, можа быць, і яе дзеці, але трывога не сыходзіла.

Шабуніха ледзь дачакалася ночы. Увесь час у ёй білася толькі адно жаданне: знайсці, знайсці дзяцей!..

Пад вечар у сяле немцаў яшчэ пабольшала. Яны атабарыліся і на яе двары, паставілі пад грушкамі дзве машыны. Выйсці з селішча было цяжка і небяспечна, але Шабуніха не вагалася. Як толькі ў сяле і на двары прыціхла, немцы пакладіся спаць, яна, прыгнуўшыся, пачала прабірацца цераз агароды да хмызняку.

Ускрай агарода яна ледзь не наткнулася на немцаў, але ў свой час прыкмеціла, як мільгнуў у цемры непадалёк агеньчык схаванай цыгаркі. У хмызняку, дзе Аўдоцця бачыла ўжо свой прыстанак, яна неспадзеўкі пачула нямецкую гаворку. Значыць, немцы і тут.

І яна падалася далей, але не ў лес, збочыла ў балота.

На світанку, дабраўшыся да лазняку, у якім ёй даводзілася ўжо калісьці хавацца, яна знайшла нарэшце сваіх знаёмых. Адной з першых ёй трапілася Аксіння.

Аксіння сказала, што Валодзька і Волька тут, каля яе, спяць. Але Волечка з-пад лазовага куста запярэчыла звонка, шчаслівa:

— Не, мамачка, я не сплю!..

І кінулася са слязьмі да Аўдоцці.

— Дзяцінaчка ты мая,— прытуліла яе да сябе Шабуніха шурпатай далонню. Выцерла яе слёзы чысцейшым ражком хусткі.

Прысеўшы стомлена на пасланае Аксінняй завялае спрасаванае вецце, падумала заклапочана: колькі ж гэта бадзяцца яшчэ?

## РАЗДЗЕЛ VI

### 1

Гітлераўцы мелі на абарону ў раёне Мінска вялікую надзею. Яны спадзяваліся ўчапіцца за абарончыя збудаванні як у горадзе, так і на падыходзе да яго, і спыніць наступленне.

Але ўмелая тактыка нашых камандзіраў і хуткі, нявідана хуткі рух нашага войска зводзілі ўсе гітлераўскія намеры і спробы на нішто.

Дывізіі генерал-палкоўніка Глаголева, што наступалі па Мінскай магістралі, грамілі варожыя часці і збівалі іх з магістралі на поўдзень. Нашы войскі ішлі наперад так хутка, што гітлераўцы, якім даводзілася адступаць па вузкіх, звілістых дарогах, цераз балоты і лясы, не маглі наладзіць якія-небудзь захады абароны.

Немцы не ўпраўляліся не толькі арганізаваць контрудары, але адставалі ад нашых часцей на сорак — пяцьдзесят кіламетраў!

Стварылася вельмі арыгінальнае становішча, надзвычай выгаднае нашым войскам. Для таго каб затрымліваць адступаючых яшчэ больш, было нават вылучана спецыяльнае злучэнне, якім камандаваў генерал-маёр Олешаў.

У ноч на 3 ліпеня, калі нашы войскі падыходзілі да Мінска, перадавыя падраздзяленні рэштак 4-й нямецкай арміі пад камандаваннем генерал-лейтэнанта Мюлера былі яшчэ кіламетраў за пяцьдзесят ад Мінска. А ім, па разліках нямецкага камандавання, трэба было абараняць горад!

Нястрымная плынь наступлення набліжалася да Мінска, абцякала яго з усіх бакоў. Ужо 2 ліпеня пехацінцы генерал-палкоўніка Галіцкага і танкісты маршала Ротмістрава, што наступалі на поўнач ад Мінска, перахапілі дарогі на Вільнюс і Ліду, а часці, што рушылі з поўдня, занялі Стоўбцы, Нясвіж і Гарадзею. Галоўныя шляхі, якімі звязвалі гітлераўцы горад са сваім тылам, былі перарэзаны.

Вялікія сілы двух франтоў — Трэцяга Беларускага і Першага Беларускага — кіраваліся проста на Мінск.

З усходу, разбіўшы нямецкія заслоны пад Смалявічамі, падыходзілі танкавыя брыгады і пяхотныя дывізіі Чарняхоўскага.

З поўдня, ад Асіповіч, спяшаліся перадавыя часці Ракасоўскага, якія 2 ліпеня занялі Пухавічы. Яны ішлі і ўночы, і ўдзень, амаль без прывалаў, каб ў час паспець да штурму.

Усе ішлі — на Мінск. Усё рушыла — на Мінск. Танкісты, пехацінцы, сапёры, палявыя гарматы і «кацюшы», мінамёты і зенітныя ўстаноўкі. Падыходзілі з розных бакоў партызанскія брыгады і атрады...

Камандуючы Трэцяга Беларускага фронту Чарняхоўскі паставіў на трэцяе ліпеня злучэнню генерал-палкоўніка Глаголева і танкістам Тацынскага корпуса генерала Бурдзейнага задачу — узаемадзейнічаючы з танкавым злучэннем маршала Ротмістрава, узяць Мінск.

## 2

Вечарам Аляксей быў ужо недалёка ад Мінска.

Перавязаўшы сяк-так рану, ён па-ранейшаму ехаў са сваімі танкамі. Цярпеў моцны боль, што амаль не ўціхаў у правай руцэ. Рана гарэла, але гэты агонь не так даймаў Аляксея, як боль. Увесь час у руцэ штосьці балюча тузала, прычым больш за ўсё тузала не ў тым месцы, дзе была рана, а каля локця. Ад кожнага штуршка машыны боль узмацняўся.

Аляксей стараўся не паказваць, што пакутуе. Калі Гогабярыдзе запытаў, як камбат адчувае сябе, ён адказаў:

— Парадак. Амаль нармальна, Сандро!

Больш за ўсё непакоіла і нават, можна сказаць, палохала Аляксея тое, што ён з кожнай гадзінай слабеў, цела рабілася нейкім знясіленым, непаслухмяным. Пачынала кружыцца галава, хацелася легчы, заплюшчыць вочы...

Ён стараўся перамагаць прыкрую слабасць, трымаўся, як мог. У гэты нялёгкі вечар яму прыдавала дужасці неспакойна-радаснае адчуванне, што ён ужо так блізка да роднага горада: застаюцца лічаныя кіламетры, і з кожнай гадзінай іх усё менш і менш.

Калі ён думаў, што хутка, вельмі хутка будзе ў Мінску, што яго аддзяляюць ад роднага горада не месяц, не тыдзень і нават не суткі, а ўсяго якія-небудзь некалькі гадзін, то і рана, здавалася, уціхала, супакойвалася.

Увечары ён сядзеў толькі на вежы. Знадворку ж, дзе твар песціў ветрык, хоць і слабы і цёплы, не было так млосна, як у сярэдзіне машыны. Аляксей адчуваў сябе нібы дужэй.

У невялікім лесе батальён спыніўся.

Лясок быў амаль увесь высечаны. Высокія гонкія дрэвы стаялі тут рэдка, іх тонкія галіны і вершаліны добра акрэсліваліся на глыбокім зорным небе. Збоку ад гэтых дрэваў чарнеў ледзь бачны ў прыцемку нізкі густы ельнік, над якім дзе-нідзе ўздымаліся вострыя зубы вышэйшых дрэваў. Адсюль горад быў зусім блізка. Аляксей думаў, што гэта, відаць, апошні прыпынак перад штурмам Мінска.

Адразу, як толькі даведаўся, колькі прыблізна

прыйдзецца тут стаяць, Аляксей папрасіў Быстрова паклікаць ваенфельчара. Трэба было агледзець і ачысціць рану і як належыць перавязаць. Вяртаючыся назад, Быстроў упоцемку не адразу знайшоў машыну. «Чорт ведае — заблудзіўся я, ці што,— пачуў Аляксей яго голас.— Ну, вось тут яна, здаецца, была...»

— Давай сюды, Быстроў! — гукнуў яго капітан, углядваючыся ў прагалы між дрэваў.— Вядзеш?

— Точна так, капітан, удвух!

Ваенфельчар, падышоўшы да камбата, не пытаючыся нічога, загадаў Быстрову, каб пасвяціў кішанёвым ліхтарыкам.

Вакол Аляксея амаль адразу сабраліся танкісты, ён расчулена заўважыў, што ўсе спачуваюць і трывожацца за яго. Адзін з іх штосьці сказаў Быстрову, і фельчар строга вялеў або разысціся, або маўчаць. Ніхто не адышоў адсюль, але ўсе сціхлі.

Аляксей стомлена пазіраў, як пад жаўтаватым святлом спрытна ходзяць рукі і кароткія жоўтыя пальцы, раскручваючы павязку. Потым фельчар вымыў рукі спіртам, востры пах якога раптам пачуўся сярод паху газойля і хвоі. Пінцэтам абарваў прышэрхлую да раны падушачку.

— Гм, н-да... Справы! Што ж вы, камбат, не выклікалі адразу?..— Не чакаючы, што Аляксей скажа ў адказ, аб'явіў: — Пашкоджаны мышцы, капітан...

Ён падняў сумку да святла бліжэй, дастаў флакон, зірнуўшы на ўсякі выпадак на этыкетку, асцярожна абмыў рану і старанна яе перавязаў. За ўвесь гэты час ён не прамовіў ні слова, і Аляксею здалося, што навокал наступіла бальнічная цішыня, хоць недзе блізка гурчаў танк.

— Давядзецца, капітан, пакіраваць у санбат. Такія справы. Пакуль стаім, здайце камандаванне.— Фельчар гаварыў будзённа і нават нібы абыякава, тым часам звыкла закрываючы сумку. Быстроў па-ранейшаму свяціў на яго рукі, і твара фельчара Аляксею не было відаць.

— Здаць? З-за гэтай дробязі?! Ты што, жартуеш, Вітошка?

— Нам няма калі жартаваць, камбат. Гэта — не дробязь, трэба рабіць аперацыю. Патрэбен шпітальны рэжым... Так што, пакуль час — у санбат!

— Так адразу і ў санбат? — Недавер'е Аляксея было наўмыснае.

— На пачатак...

— А калі я не хачу?

— У санбат ідуць не па хаценню.

Тон гаворкі фельчара быў цвёрды. Аляксей зразумеў, што спрачацца з фельчарам неразумна. Схітраваў.

— Ладна, санбат дык санбат. Зазірну дамоў — і лягу!..

— Куды — дамоў? — не зразумеў фельчар.

— У дом свой. У Мінску.

— Трэба лажыцца, камбат, зараз жа!

— Лягу, лягу, сказаў. У Мінску і лягу.

— Зараз жа трэба, камбат! Можа пачацца гангрэна, не выключана гэта. Гангрэна, заражэнне, разумееш?.. Адным словам — неадкладна!

— Я ж сказаў, Вітошка. У Мінску зразу і лягу.

— Дома хутчэй зажыве!..— уступіўся за Аляксея з цемры голас Колышава.— Ад аднаго дамашняга паветра паправіцца!

Фельчар, звычайна, здавалася, мяккі, лагодны хлопец, упарта настойваў на сваім. Аляксей жа па-ранейшаму не здаваўся.

— Слухай, чалавек ты ці не чалавек? — не вытрымаў Быстроў.— Ты разумееш чалавечую мову?

Фельчар, не слухаючы яго, запытаў Аляксея:

— Значыцца, адмаўляецеся ехаць у санбат?

— Так, не хачу.

— Ясна,— злавесна сказаў фельчар.— Так і даложым...

У голасе фельчара чулася пагроза. Аляксей затрывожыўся, ведаў: калі ў спрэчку ўступіць Бяссонаў, лёс яго крута павернецца. Бяссонаў угаворваць не будзе...

3

За некалькі хвілін перад гэтым не заўважаная нікім поблізу спынілася легкавая машына. З машыны выйшаў чалавек, запытаўся, як знайсці капітана Лагуновіча.

Убачыўшы каля чорнага абрысу «трыццацьчацвёркі» групку танкістаў, што спрачаліся, і пазнаўшы сярод іншых галасоў капітанаў голас, прыезджы прыпы-

ніўся і стаў моўчкі слухаць. Ён вельмі хутка зразумеў прычыну спрэчкі.

— Хто тут і каму грозіцца? — раптам пачуўся яго басок.— Бач, расшумеліся — на ўвесь лес!

Гоман адразу сціх.

Бяссонаў заехаў сюды, каб праверыць, як батальён рыхтуецца, даць распараджэнні да бою і даведацца, як паранены капітан, як адчувае сябе. Але, падышоўшы да камбата, палкоўнік загаварыў не з ім, а запытаў у фельчара: якая рана, ці не перабіта косць. Ручным электрычным ліхтарыкам асвятліў руку капітана, мелькам — твар. Твар капітана ад страты крыві і электрычнага святла ліхтарыка здаўся белым. Позірк быў хмурны, упарты.

Бяссонаў патушыў ліхтарык, спытаў фельчара:

— Адправіць, значыцца, трэба?

«Усё. Загадае зараз рушыць у шпіталь, сухая душа...» — падумаў нядобра Аляксей.

— Небяспека гангрэны, таварыш гвардыі палкоўнік!

— А ён — не хоча?.. Не хочаш, капітан, назад?..

— Не хачу.

— Дарэмна...

Было маўчанне.

— Не хочаш, значыцца? — Бяссонаў момант яшчэ разважаў.— Ну, што ж, калі жыццё сабе не дарагое — заставайся. Да Мінска! Паваюй суткі... Твая дапамога будзе, відаць, нялішняю.

— Хочацца пабачыць, таварыш гвардыі палкоўнік, што там у горадзе. Праз тры гады...— Аляксей адчуваў сябе вінаватым.— Сям'ю не церпіцца хутчэй знайсці. Ды адтуль — і на фронт дабірацца будзе лягчэй: бліжэй!

Палкоўнік паслухаў, не адказаў нічога. Коратка, цвёрда загадаў фельчару:

— Сачы за ранай, ды — уважліва!..

У лясочку было цемнавата і вельмі цёпла, нібы ў куране. Нагрэтыя за дзень зямля, дрэвы і паветра ніяк не маглі астыць, патыхалі цяплом, лагоднай цішынёю, спакоем. Стаяў такі сухмень, што на траву не лажылася раса.

У такую ночку добра спіцца ў лесе, асабліва пасля трывожнага гарачага дня. Але амаль ніхто не спаў, бо

ўсе ведалі, што блізка, амаль побач Мінск, што вось-вось пачнецца бой за яго, рыхтаваліся да бою. Камандзіры, якіх Аляксей сабраў на нараду, вывучалі падыходы да горада, маршруты па вуліцах, абмяркоўвалі ўсё, што належала высветліць да блізкага бою. Папаўнялі машыны снарадамі, гаручым, правяралі маторы, нацяжэнне гусеніц.

Панавала бадзёрая ўзрушанасць — ва ўсіх толькі і было размоў, што пра Мінск, пра штурм...

Амаль перад самым выступленнем, калі танкісты Лагуновіча чакалі, што вось-вось будзе загад рушыць, прыехаў на танку падпалкоўнік Сяміжон.

— Як рука, капітан? — запытаў ён у Аляксея.

Поблізу сталі часта біць гарматы. Аляксей перачакаў страляніну.

— Рука?.. Можна цярпець.

— Душа баліць? Апошнія хвіліны заўсёды доўгія.— Сяміжон загадаў сабраць усіх. Танкісты сыходзіліся, перагаворваючыся, смеючыся, зыркаючы іскрачкамі цыгарак. Былі відаць толькі блізкія, але па гомане, па агеньчыках адчувалася, як багата людзей стаяла тут, пад дрэвамі. Па тым, як задорна гаварылі, як смяяліся, адчувалася, што настрой у большасці найлепшы.

Ледзь падпалкоўнік ціхім, сіплаватым голасам загаварыў, усе сціхлі.

Сяміжон, як ён гэта цяпер часта рабіў, пачаў з таго, што расказаў апошнія паведамленні з франтоў. Перадаў, што суседзі справа ўжо занялі Вілейку, перарэзалі чыгунку Мінск — Вільнюс.

З'явіўся новы напрамак — Баранавіцкі! На гэтым напрамку ўжо вызвалены Нясвіж, Гарадзея і Стоўбцы.— Сяміжон гаварыў радасна-ўсхвалявана, адчувалася, што гэтая ж радасць поўніць сэрцы і яго слухачоў.

Гогабярыдзе, выказаўшы агульны настрой, крыкнуў:

— Эх, мама родная! Ім цяпер, выходзіць, з Мінска драпаць некуды!

Аляксей падумаў: Мінск яшчэ не вызвален, а ўжо становіцца як бы тылавым горадам. Яшчэ не скончан Мінскі напрамак, а ўжо ёсць Баранавіцкі...

— Таварышы! — узвысіў голас Сяміжон.— Наста-

ла і наша чарга парадаваць Радзіму. Нам выпала чэсць, вялікая чэсць вызваліць адзін з важнейшых гарадоў нашай краіны, сталіцу Беларусі, гераічны Мінск!.. Радзіма, якая паслала нас сюды, даручыла нам гэтую вялікую справу, верыць, што мы апраўдаем яе надзею. Не толькі армія, але і ўся краіна, мільёны людзей глядзяць на нас — з Урала, з Каўказа, з Паволжа, чакаюць ад нас — вярніце Мінск!.. Нас чакаюць нецярпліва, як самых дарагіх людзей, там, у блізкім Мінску, які гітлераўская погань паліць і падрывае, дзе пакутуюць тры гады ў няволі — тры доўгія гады! — нашы маткі, дзеці, сёстры, нашы родныя!.. Крывавыя каты акружылі горад і збіраюцца заўтра ўчыніць расправу над усімі, хто дажыў да сённяшняй ночы. У горадзе вывешаны аб'явы, у якіх эсэсаўцы загадваюць сабірацца людзям на спецыяльныя зборныя пункты, сабірацца на смерць. Не дадзім на пагібель нашых людзей!

— Не дадзім! — горача падтрымаў Колышаў.

— Смерць фашысцкай погані!

— За наш Мінск, за перамогу! За нашу вялікую Радзіму!

Пры апошніх словах падпалкоўніка выбухнула нецярплівае, напорыстае «ўра», якое рэхам пакацілася па лясу. Усе, было відаць, як і Аляксей, імкнуліся ў горад, на штурм.

Пасля мітынгу Сяміжон застаўся ў батальёне Аляксея. Ён далучыўся да роты Аліева і з гэтай ротай, якая павінна была падысці да Мінска адной з першых, чакаў, калі танкі рушаць...

Аляксей, што няспынна трымаў сувязь з Бяссонавым, перагнаўшы іншыя падраздзяленні, пакіраваў на машыне да разведчыкаў. Ён зрабіў гэта як бы толькі для таго, каб перадаць Гогабярыдзе новыя весткі пра абстаноўку, але напраўду яму хацелася асабіста, самому расказаць пра тыя мясціны, дзе зараз прыйдзецца дзейнічаць разведчыкам. Эх, калі б Аляксей мог, меў права ісці ў горад разам з разведчыкамі, так, як і яны, першым ісці!.. Не прызнаючыся сабе, камбат зайздросціў Гогабярыдзе і іншым разведчыкам.

— Пакажы мне, Аляксей, калі ласка, дзе твой дом стаіць? — загаварыў Сандро, ледзь выслухаў парады і весткі Аляксея.— Каб не разбіць мне часам яго сваёй

гарматай. А то — твой друг яшчэ стане тваім ворагам! Нашто мне гэта? — сказаў ён з жартаўлівай трывогай.

Гогабярыдзе абняў Аляксея па-сяброўску, папрасіў:

— Аляксей, будзь другам — пазнаёміш мяне з Нінаю? Я хачу пабачыць, якая яна прыгажуня ў цябе!

— Пазнаёмлю, Сандро... Калі можна будзе...

— А чаму нельга будзе?

— Яны, Сандро, таксама на вайне. Тры гады... Баюся я штосьці... Ну, давай, вядзі сваіх!

Загадаўшы выступаць, Аляксей пачакаў, пакуль падыдуць іншыя «трыццацьчацвёркі», і далей ішоў разам з імі. Танкі ўсё набліжаліся да горада. Аляксей наперадзе бачыў крывава-барвовыя зарывы ад пажараў, што расцягнуліся па небасхіле. Яны то ўспыхвалі, уздымаючы высока ў неба варушлівыя водсветы, то спадалі, і неба тады як бы зніжалася і станавілася чарнейшым. Страшныя зарывы былі так блізка, што, здавалася, чуўся подых гарачыні ад іх.

Ён столькі марыў пра гэтую хвіліну, і вось яна надышла — блізка, як ніколі...

Гледзячы на зарывы, што трапяталі над дарогаю і ўзгоркам, Аляксей адчуў, як яго апаноўваюць усё большая нецярплівасць і трывога. Мусіць, ніколі ён так не трывожыўся, як цяпер.

Што там яго чакае?

## 4

Недалёка ад горада батальён збіў варожы заслон, павярнуў на магістраль і па асфальце рушыў проста на Мінск.

Аляксей увесь час бачыў наперадзе вялікія зарывы.

Калі пачало развідняцца, выслізганыя гусеніцы, ляскочучы, лічылі апошнія кіламетры магістралі.

Першымі да ўскраіны падыходзілі тры машыны, якімі камандаваў лейтэнант Гогабярыдзе. Большасць машын батальёна напагатове стаяла ззаду, на шасэ і ўзбочынах, каля палосак спеючай збажыны. Аляксей, як і раней, сядзеў на вежы, нецярпліва прыслу-

хоўваўся да гукаў у шлемафоне. Ён чакаў вестак ад разведкі.

Усё, што ён бачыў навокал, было яму знаёма. І лагчынка, у якой цяпер было некалькі танкаў, і лес злева, і пляскаты роўны верх будынка метэастанцыі, што ўздымаўся з-за абрысу ўзгорка наперадзе. Ускраіну і сасняк гарадскога парку адсюль не было відаць, але Аляксей адчуваў іх побач.

Яго думкі былі разам з Гогабярыдзе, на гарадской ускраіне, і далей у горадзе, які ён ведаў, можа, больш, як сябе самога. Ён чакаў хвіліны, калі можна будзе са сваімі танкістамі рушыць туды — услед за думкамі, за жаданнем.

Аляксей узняў адзін навушнік і прыслухаўся, ці не чуваць гукаў бою наперадзе.

— Чаму ён маўчыць? — Быстроў, што сядзеў поруч з Аляксеем, спасцярожліва пазіраў наперад.

— Рана яшчэ...

Танкі Гогабярыдзе ішлі абапал магістралі, адзін з левага боку, а два з правага. Прайшлі шырокую лагчыну, мінулі метэастанцыю і паволі па адным пачалі падымацца на пагорак, на якім віднелася некалькі драўляных хатак. «Трыццацьчацвёрка» Гогабярыдзе ішла побач з шасэ, якое, выпінаючыся, імкліва бегла ўгару, прападаючы непадалёк за грэбнем пагорка. Асфальт, мокры ад ранішняй вільгаці, цьмяна блішчаў.

У гэты час па пярэдняй машыне, якая ўжо сышла за пагорак, ударылі раз, другі гарматы. Танкісты адказалі некалькімі стрэламі. Камандзір машыны перадаў, што гарматы б'юць здалёк. Гогабярыдзе загадаў весці з імі бой, а сам з другога боку шасэ ўсё ішоў наперад...

Узгорак, што хаваў ад вачэй горад, з кожнай хвілінай апускаўся ніжэй. І раптам у перыскопе перад вачыма з'явіўся малюнак горада — справа недабудаваны вялікі барвова-чырвоны будынак, каля яго — некалькі драбнейшых, злева — цёмны, строгі сасняк. «Мінск!» — мільгнула ў галаве. Гогабярыдзе хутка, але пільна акінуў сцены будынкаў, асабліва бліжэйшага чырвонага дома, шырокае рэчышча шасэ, якое ўваходзіла ў вуліцу. «Можна праскочыць туды да чырвонага» — загарэўся Сандро.

— Наперад, проста да чырвонага!..— крыкнуў ён вадзіцелю.

Танк ірвануўся і памчаў па ўзбочыне. Гогабярыдзе ўпіўся вачыма ў перыскоп — насустрач бегла пустая брукаваная вуліца, будынак набліжаўся, рос.

«Ужо зусім развіднела!..»

У той жа міг лейтэнанта моцна кінула ўгару, ударыла аб браню. Удару ён не пачуў, як не пачуў і болю. Толькі, нібы рэха, зноў празвінела ў галаве «развіднела»,— цяпер нейкае вострае, гарачае. І ў той жа міг усё згасла — і трывога, і гарачы звон...

Ахутаны хмарай зямлі і дыму, танк нахіліўся на правы бок і нерухома застыў. Пакарэжаныя каткі ўехалі ў зямлю, побач з імі выцягнуўся абрывак сарванай гусеніцы, валяліся раскіданыя тракі. На абпаленую траву, на машыну ападалі камякі зямлі, асыпаўся пясок.

— Міны. Гогабярыдзе падарваўся...— пачуў Аляксей усхваляваны голас.

5

Камбат загадаў разведчыкам павярнуць правей, на тэрыторыю Пушкінскага пасёлка. Паслаў туды ў падмогу ўзвод Колышава.

Прыкрываючыся ўзгоркам, машыны Колышава хутка папраставалі праз поле. Яны без аднаго стрэлу дайшлі да ўскраіны і ўпаўзлі ў крывую вуліцу. Тут аўтаматчыкі саскочылі з машын і пайшлі ўслед за імі, прыціскаючыся да сцен і платоў.

Колышаў мінуў першыя будынкі ўскраіны. Драўляныя хаты стаялі адна пры адной нядружна, як прыйшлося. На вуліцы было ціха і пуста, аўтаматчыкі забеглі ў адзін двор, у другі — нікога. Як вымерла вуліца...

І ўсё ж разуменне таго, што гэта Мінск, радавала Колышава. Ён быў бы зусім шчаслівы, што ўваходзіць сюды з першымі, калі б не бяда Гогабярыдзе.

Эх, як не пашанцавала Сандро! І трэба ж было так здарыцца — скласці галаву пад самым горадам...

На фугас, мабыць, наскочыў... На фугас, канечне!.. Такой неймавернай, недарэчнай была гэта смерць, што Колышаў не хацеў верыць у яе. А можа — ён не за-

біты. Толькі паранены ці кантужаны... Думкі гэтыя прайшлі і зніклі. Не было калі думаць пра пабочнае. Трэба было рабіць сваё, неабходнае. Сачыць, сцерагчы...

Так, не пашанцавала Гогабярыдзе...

У той час, калі Колышаў бедаваў аб ім, лейтэнант ужо апрытомнеў. Яго толькі аглушыла выбухам. Цяпер у яго ў галаве, у вушах было нібы поўна вады. Штосьці балюча ламіла скроні.

Моршчачыся, Сандро агледзеўся навокал. Позірк яго быў яшчэ няцямны. Сандро амаль не разумеў нічога. Абыякава ўбачыў ён камандзіра гарматы, які чамусьці падтрымліваў яго. Убачыў: побач, на замку гарматы, ляжаў Саша Бурлак, зараджаючы.

Тое, што зараджаючы ляжаў, выклікала ў Сандро першую думку: што з Сашкам? Сандро, яшчэ не разумеючы нічога, угледзеўся. Цяжка прабілася ў свядомасць: ранены? Углядваючыся, ён зразумеў, нарэшце: забіты, падобна. Але праз цяжар у галаве не адчуў страху ці жалю. Прабілася неразуменне: куды цягне яго камандзір гарматы? Вынесці хоча?..

Сандро варухнуў плячыма, вызваліўся.

Абапіраючыся рукой аб сценку, высільваючыся над меру, узняўся і зірнуў у перыскоп. У акуляры віднелася вуліца. Яна была пустая. Зусім пустая. Яна напомніла яму: такую ён бачыў. Калі — даўно ці нядаўна — ён не ведаў. І не спрабаваў уведаць. Яму прыйшло іншае: «Я, здаецца, на міну наскочыў...» — не здзівіўся, не сумеўся, проста адзначыў сабе. Павярнуўся перыскоп — танкаў ззаду не было. Але Сандро ўбачыў іх лявей, наводдаль — яны падыходзілі да будынкаў, хаваліся за будынкамі, выглядвалі і зноў знікалі за іншымі...

«Яны пайшлі адны? Адны, без мяне?» — не паверыў сваім вачам Сандро. У яго адразу, невядома адкуль, прыбавілася сілы.

Ён павярнуў Сашку: той дыхаў. Сандро падцягнуў яго к люку, паклаў, выбраўся праз другі люк і разам з камандзірам гарматы вынес з машыны. Тут да іх падбег кулямётчык.

— Бяры,— скамандаваў Гогабярыдзе. Утраіх, прыгінаючыся, у кювеце, панеслі зараджаючага да сваіх.

...Тым часам Колышаў са сваімі «трыццацьчацвёр-



Пятрусь Броўка, Васіль Барысенка, Іван Мележ. *1960 год.*



Авяр'ян Дзеружынскі, Іван Мележ і Алесь Пальчэўскі
на сустрэчы з чытачамі ў цэнтральнай кнігарні г. Мінска.
*13 снежня 1961 года.*

камі» ўсё паглыбляўся ў горад. Абышоў, па дварах, па ямах, некалькі двухпавярховых драўляных дамоў, злева ад якіх курэў, дагараючы, вялікі будынак з шырокімі пустымі вокнамі. Павярнуў у завулак і неспадзявана наскочыў на дзве групкі немцаў, што хапатліва кацілі насустрач процітанкавыя гарматы. Немцы, ледзь убачылі, як ірвануўся да іх танк, кінуліся ўроссып. Злёту абедзве гарматы былі раздушаны.

Праз квартал перад Колышавым разгарнулася вялікая вуліца...

На ўскраіне ўжо гурчалі іншыя машыны батальёна. Аляксей прагна глядзеў на знаёмыя, як жывыя, гмахі і хаты, поўніўся адным адчуваннем — ён ідзе па мінскай вуліцы! Гэта рэальнасць успрымалася яшчэ нібы сон. Але і сон той хваляваў незвычайна.

Увесь час Мінск быў недзе далёка, у думках, а цяпер ён — вось, перад вачыма. І Аляксееў батальён ідзе па ім адным з першых.

Бяжыць насустрач мінская вуліца... Аляксею здавалася, што ён не сядзіць на машыне, прытрымліваючы раненую руку, а плыве, лунае ў паветры — шчаслівы, нецярплівы...

Колышаў ужо рушыў па вялікай вуліцы. Ён ішоў і ішоў, а яна, роўная, шырокая, усё маўчала. Не паказвала ніводнай постаці. Здавалася, таіла нешта ў сабе, невядомае, небяспечнае. Гатовае любы момант абрынуцца на танк. Ён увайшоў ужо нямала, калі раптам шуганула некалькі снарадаў і ззаду, блізка, выламваючы брук, грымнулі выбухі.

Выбухі гэтыя перарвалі цяжкае, насцярожанае чаканне бяды, што трымала лейтэнанта ў моцным напружанні. Ён загадаў зрабіць рывок наперад, каб выйсці з-пад абстрэлу. Танк ірвануў так, што Колышава кінула назад і ўдарыла галавой. Схаваўшы танк за домам, Колышаў спыніў машыну, агледзеўся. Выбухі лажыліся ўсё на тым жа месцы, было відаць, немцы білі з палявых гармат і здалёк... Можна было ісці далей, і трэба было ісці. Не марудзячы, не даючы праціўніку кінуць сюды сваіх людзей і тэхніку.

Ён і загадаў рушыць далей. Неўзабаве падышоў да павароту вуліцы, агледзеў новы яе адрэзак.

Вуліца ішла між адных руін. Толькі дзе-нідзе тырчалі абломкі сцен. Метраў трыста яна ішла роўна, а

потым спадала ўніз. Была нявіднаю зусім. Далей адкрывалася нібы прагаліна. За гэтай прагалінай віднеўся ўзгорак і на ім абрысы шматпавярховых будынкаў.

Колышаў ведаў: там, дзе прагаліна,— лагчына, рэчка, якую яму трэба будзе перайсці.

Вуліца і тут была ціхая, пустая. Колышаў загадаў рушыць наперад.

Ледзь выскачылі на вуліцу, на вачах Колышава ў перыскопе ўсё заяснела, зазіхацела. Усё перамянілася так хутка і так неспадзявана, што Колышаў здзівіўся: ад чаго гэта?

Гэта ж — узышло сонца!

Глядзі ты, якім радасным зрабілася ўсё навокал.

Зранены, скалечаны, са страшнымі знявечанымі сценамі, горад увесь праменіўся, нібы хацеў, каб тым, хто ішоў сюды, не было сумна ад яго ран...

Праскочылі бачны адрэзак вуліцы, у канцы якога зверху пачала адкрывацца лагчына наперадзе. Там, перад высокім берагам з дамамі, шырэла прагаліна. Вуліца спадала ўніз. Абапал яе да прагаліны было па адным, два будынкі.

Шырокая прагаліна, рэчка, высокі бераг за ёй — усё было зручна для немцаў, для іх абароны... Мусіць, тут рашылі ўчапіцца... Мусіць, чакаюць тут...

Колышаў падвёў танк да апошняга перад прагалінай дома. Асцярожна выглянуў з вежы, акінуў позіркам лагчыну. У лагчыне, на якой, амаль у цэнтры горада, зелянелі палосы бульбы, агароджаныя не платамі, а спінкамі спаленых паржавелых ложкаў, выгіналася нешырокая рэчка. Яна перараэала вуліцу. Першае, што адзначыў лейтэнант на вуліцы і рэчцы, было тое, што найбольш карцела,— мост. Мост быў узарваны,— Колышаў бачыў: сярэдзіна моста апала ў ваду... Блізка за мостам дзесяткі два немцаў, азіраючыся, перабягалі вуліцу. Злева, куды яны беглі, відfestнеліся будынкі з заводскай трубой і на ўзгорку купчастыя моцныя дрэвы. Між дрэваў таксама мітусіліся постаці.

Раптам Колышаву ўдарыла ў твар каменным крупіннем. Ён мімаволі прыгнуўся. Над галавой па камяні прайшлася наўскася кулямётная чарга...

— Асколачны! — Колышаў, упаўшы на сядзенне, скамандаваў арыенціры цэлі. Камандзір гарматы адра-

зу падаў ручку рэастата ўлева. Вежа павярнулася да дрэваў.

Гармата адскочыла назад, бліснула кідкім белым полымем, і на травяністым адхоне, ля дрэваў, выскачыў сінявата-шызы куст. За ім услед вырас другі. Немцы рассыпаліся, прыпалі да зямлі. Да іх, страляючы на хаду, ужо беглі нашы пехацінцы...

## 6

Колышаў павёў танкі да дзіўнай, падобнай на вялізны бітон, будыніны — опернага тэатра. Адтуль павярнуў па спаленай вуліцы ўніз да Свіслачы, дзе, як гаварыў яму камбат, быў яшчэ адзін мост, прыдатны для танкаў.

Ледзь Колышаў намерыўся паслаць да моста сапёраў — агледзець яго,— з двара, наперарэз ім, выскачыла пажылая жанчына ў хустцы, якая збілася на шыю, з ускалмачаныміваласамі,— спалохана замахала рукамі. Танк спыніўся. Адзін з аўтаматчыкаў, якія сядзелі на «трыццацьчацвёрцы», падбег да жанчыны.

— Стойце! Стойце... Куды вы, родненькія,— яна кінула рукой у бок моста.— Там немцы чагосьці!..

— Дзе?

— Пад мостам... Учора палажылі...

Колышаў спыніў танк ля чорнай, задымленай сцяны спаленага дома, выбраўся з вежы. Агледзеўшы супрацьлеглы бераг, паслаўшы туды аўтаматчыкаў з некалькімі сапёрамі, наблізіўся да рэчкі. Насцярожана паглядваючы на мост і на бераг насупраць, дзе пачалі ўжо гаспадарыць аўтаматчыкі, спусціўся ўніз да масляністай вады. Убачыў: пад верхам моста, на драўляных скрыжаваннях пад ім — мяшочкі з толам. Адзначыў разам: рэчка была неглыбокая, добра відаць было цёмнае дно, блізка, наверсе, плавала, варушылася купка водарасцяў з выцягнутымі ўсцяж плыні расчэсанымі зялёнымі косамі.

Сапёры на другім беразе ўжо турбаваліся ля моста. Ён загадаў тым, якія сышлі да рэчкі ўслед за ім, каб таксама ўзяліся размініраваць. Адзін сапёр, пажылы, з падстрыжанымі вусамі, адразу дзелавіта палез пад мост, другі пайшоў на мост, пачаў аглядаць уздоўж-

ныя масніцы і парэнчы. Неўзабаве ён перарэзаў і асцярожна выцягнуў абрывак провада. Жанчына стаяла каля моста і са страхам пазірала то на іх, то на танкістаў.

— Божа мой, як жа гэта яны так? Яны ж зараз падарвуцца!.. Скажыце, каб беглі назад. Каб хутчэй! Пакуль тое!..

— Нічога кепскага не здарыцца,— супакоіў яе Колышаў.

Калі мост быў размініраваны, Колышаў загадаў перапраўляцца. Ён не вельмі ўпэўнены быў, што мост вытрымае танкі, і калі першая машына ўз'ехала на мост, сачыў за ёй неспакойна. Мост дрыжаў, грымацеў, але аказаўся на дзіва трывалым. Не чакаючы, пакуль пераправіцца апошняя машына, лейтэнант з радасцю далажыў камандзіру батальёна, што пераправа ёсць.

Калі да моста падышоў са сваімі машынамі Аляксей, тут ужо быў цэлы натоўп. Людзі, што стаялі абапал бруку і па дарозе,— жанчыны, дзеці, старыя, падлеткі, хлопцы,— гледзячы на машыны, што набліжаліся, не толькі не сыходзілі з дарогі, а беглі насустрач танкам. Падступаючы да самых гусеніц, штосьці радасна крычалі, размахвалі рукамі, ускідвалі шапкі. Прыйшлося знізіць хуткасць, потым і зусім спыніцца. Ледзь машыны сталі, натоўп падступіў яшчэ бліжэй. Усутыч абхапілі з усіх бакоў. На танкі паляцелі жмуты кветак. Жмут іх упаў ля Аляксея, рассыпаўся на вежы.

Аляксей саскочыў з машыны. Не паспеў ён прывітацца, як яго схапілі, сціснулі ў моцным абдымку. Ён убачыў перад сабою шчаслівыя, бліскучыя вочы пажылой жанчыны, пачуў гарачы шэпт. Яго запылены твар апаліў пацалунак.

Ён саскочыў няўдала. Ці яму наогул нельга было саскокваць: рана раптам заявіла пра сябе моцным болем. Стрымліваючы боль, аберагаючы раненую руку, ён папрасіў:

— Асцярожна... Пачакайце!.. Пачакайце...

Але яны не слухаліся. Яны нібы не разумелі. Нібы не чулі. Яны не маглі чакаць! І так колькі чакалі!..

Ён апынуўся ў другім абдымку, трэцім, пятым. Усе цягнуліся, усе, колькі поблізу было, ірваліся да яго.

Адна маленькая бялявая жанчына як абняла яго за шыю, дык усё цалавала і цалавала,— нібы забыўшы на ўсіх, ніяк не хацела адпускаць. Другая, што стаяла каля яе, не ўтрывала:

— Ну, хопіць, хопіць ужо! Дай і другім падступіцца!.. Вось жа ўчапілася — як у свайго мужа!

— А што! Ён мне, можа, даражэй за мужа...

Вакол засмяяліся. Засмяяўся і Аляксей. Пад гэты смех яна пацалавала Аляксея яшчэ раз і выпусціла, сказаўшы штосьці жартаўліва-незадаволенае суседцы, узялася папраўляць бялявыя валасы, што выбіліся на лоб. Радасць сустрэчы, якой жылі людзі, перапаўняла і Аляксея. Ён з захапленнем глядзеў у твары незнаёмых людзей, якіх, здавалася, усіх ведаў даўно, помніў, чакаў бачыць. Вось яны, мінчане, землякі дарагія!

Сам таго не заўважаючы, ён шукаў вачыма ў натоўпе. Нецярпліва, з надзеяй шукаў. Каго? Тых, каго больш за ўсіх чакаў. Ніну, сына свайго, маці Ніны. Ён неяк забыў раптам ці перастаў верыць, што Ніна не тут, а недзе ў лесе. Што яна ніяк не можа быць між гэтых людзей. Забыў, не верыў ён, што не можа сустрэць тут і сына, і маці Ніны. Хоць помніў, што дом, дзе ён жыў да вайны, далёка ад гэтага месца.

— Каго вы выглядваеце? — прыкмеціла яго позіркі адна жанчына.

— Пра што вы? А-а, каго шукаю? Сына свайго... Ці дачку.

— Як сына ці дачку?

— Я ж таксама з Мінска. Я — дома!..

— Дома? Вось шчасце будзе малым! — пазайздросціла і парадавалася не адна яна.

Рушылі далей. Турботна слухаючы галасы ў шлемафоне, ловячы ўвагаю, як падыходзяць чорныя, сляпыя сцены, горы камення, друзу, страшэнныя — на цэлыя кварталы, ужо зарослыя — пустыры, ён з усё большаю надзеяй і трывогаю зазіраў наперад: ці ўдасца пабачыцца з Нінаю? Раптам яна затрымаецца ў атрадзе? Ды і наогул ён не ведае, што з ёю. Чаму ад яе не прыйшло ніводнай весткі? Хоць бы з ёю ўсё добра было!

Хутка ён пра ўсё даведаецца... Вось ужо злева пайшлі першыя камяніцы Нямігі, што помнілі многа вякоў і многа войн, аселі ад гадоў і бачанага ў зямлю.

З Нямігі Аляксей павярнуў на вуліцу Астроўскага. Танкі пачалі ўзбірацца ўгару, на Юбілейны пляц.

...На пляцы Аляксея дагнаў хуткі «газік», з якога раптам саскочыў апрануты ў камбінезон чарнявы танкіст, дзіўна падобны да Гогабярыдзе. Хапатліва махаючы рукой — спыніся,— кульгаючы, танкіст подбегам пакіраваў да Аляксеевага танка.

— Ты? Сандро? — здзівіўся і ўзрадаваўся Аляксей, падаўшы Гогабярыдзе здаровую руку і дапамагаючы ўзабрацца на машыну.— Значыцца, жывы?

— Эх! Не пашанцавала,— расчаравана выпаліў Сандро.— Перад самым горадам — трах! Узарваўся!.. Скажы, куды пайшлі разведчыкі? І загадай, каб мяне туды хутчэй падкінулі.

Праз хвіліну ён ужо ляцеў да сваіх.

## РАЗДЗЕЛ VII

### 1

Неўзабаве пасля таго як танкісты і пехацінцы ўварваліся ў горад з боку Маскоўскай магістралі, падышлі да Мінска нашы войскі і з поўначы.

На паўночнай ускраіне таксама пачаліся баі. Выбіваючы ворага з дотаў і дамоў, нашы салдаты пачалі ачышчаць і гэтыя кварталы горада.

З поўначы ж, за горадам, танкавае злучэнне маршала Ротмістрава, што заняло Лагойск, абыходзіла нямецкія пазіцыі, пераразаючы ворагу апошнія шляхі адыходу з Мінска.

Амаль тады ж танкі ўвайшлі і на паўднёва-ўсходнюю ўскраіну. Разам з пехацінцамі яны рушылі па вузкіх вуліцах, расстрэльваючы нямецкія заслоны і агнявыя кропкі.

Пад ударамі з трох кірункаў нямецкі гарнізон вымушан быў кідаць адну пазіцыю за другой. Варожыя салдаты разбягаліся або здаваліся ў палон. Многія з іх спрабавалі хавацца ў руінах і сутарэннях.

Не зважаючы на страляніну немцаў з парку, Юрый Туравец разам з іншымі пехацінцамі з батальёна Паўлоўскага пераправіўся ўброд цераз Свіслач.

Узняўся на круты, высокі адхон...

Нібы сустрэўшы добрага знаёмага, падышоў ён да гмаху — цэлага, некранутага — Дома афіцэраў. Абышоўшы яго, убачыў сквер. Таксама — неймаверна знаёмы і цэлы! Але ў баку ад сквера, справа — дзе былі дамы... дзе была вуліца...

Тут быў цэнтр. Цэнтр горада і Савецкай. Калісьці самае прыгожае, люднае месца горада... Цяпер — жахлівыя горы камення і пустыя шкілеты дамоў.

Юрый мімаволі сціснуўся. Мімаволі нібы зноў убачыў далёкі чэрвеньскі дзень. Сіні дзень, калі першы раз бамбілі горад. Бамбёжка застала Юрыя ў Лёні Козыра, прыяцеля. У Лёні чакаў, калі скончаць бамбіць. Назад — бег. Выскачыўшы з-за рогу вуліцы, здранцвеў знянацку. Там, дзе чакаў убачыць свой дом, не было дома. На месцы дома была высокая, дзікая строма сцяны і навал камення. Жахлівы навал...

Адтуль, з-пад камення, адкапалі нежывую, раздушаную маці. Тое, што было нядаўна яго маці...

Адсюль зусім блізка тое месца. Толькі квартал за скверам. Рог вуліцы Карла Маркса і Леніна. Нейкі час ішоў нібы ў трызненні. Амаль не бачыў ні аддзялення, ні ўзвода. Прабег прамежак перад скверам, рушыў між дрэваў сквера. Апрытомнеў толькі тады, калі аднекуль спераду ўдарыла кулямётная чарга.

Прынікшы да дрэва, Юрый стаў узірацца ў прагаліну; праз яе відаць былі руіны дома на рагу Энгельса і Савецкай і крыху далей — прамавугольныя абрысы кінатэатра «Чырвоная зорка».

Кулямёт біў, відаць, адтуль, ад кінатэатра.

Пяхоты ішло многа, ледзь здарылася затрымка, увесь скверык стаў хутка запаўняцца байцамі. Падышоў сюды і Паўлоўскі, вялікі, шыракаплечы, пачаў з Праворным высвятляць, што робіцца. Кулямёт трымаў пад абстрэлам даволі шырокі прасцяг, абодва бакі вуліцы. Спыніў рух наперад на галоўным кірунку...

Трэба было неадкладна падавіць кулямёт. Разважаючы, як гэта зрабіць, каму даручыць, Паўлоўскі нібы знарок унікаў сустракацца позіркам з Юрыем, што ўпарта сачыў за ім і Праворным. Але Юрый быў пераканаты: камбат робіць гэта з-за звычайнай сваёй дыпламатыі. А сам, вядома ж, думае, што гэта яго, Юрыя, справа. Родны горад, знаёмыя месцы, вось няхай і вы-

ручае. А не гаворыць проста знарок, правяраючы, яго, Юрыя, сумленне. Маўляў, сам разумець павінен...

Юрый разумеў і сумленне сваё не хацеў запляміць. Так, ён разумеў: гэта яго справа зняць кулямёт. І калі адчуў, што наступіў момант, заявіў, што кулямёт бярэ на сябе. Ведае падыходы і — справіцца, вядома.

— Ну, калі ёсць такое добраахвотнае жаданне, не пярэчу,— сказаў камбат Праворнаму. Потым ужо — Юрыю: — З богам, як кажуць.

...Хутка Юрый з Шарыфутдзінавым і іншымі прабіраўся сярод гор камення, паўз абломкі сцен. На няшчасце сваё, ён амаль нічога не пазнаваў, такім усё цяпер было непадобным на тое, што ён помніў.

Усё ж да кінатэатра ён падвёў удала. З тылу, непрыкметна.

Будынак «Чырвонай зоркі» быў спалены, уздымаліся адно мутна-шэрыя, даўно задымленыя сцены. У пустых праймах шырокіх вокан таілася небяспека, і Юрый пільна агледзеў іх перш, чым рушыць да будынка. У вокнах ён нічога не прыкмеціў, але рушыў наперад асцярожна, прыгінаючыся, перабежкамі. Гатовы да ўсяго.

Вось, нарэшце, і будынак. Аддыхваючыся, ён агледзеўся: угару ішла лесвіца, бетонная, там і тут закіданая абломкамі тынку. Заўважыў між іншага: бетонныя столі, хоць і прагнуліся, усё ж уцалелі...

Трэба было дзейнічаць хутка. І поспех, і жыццё залежалі ад імгнення. Ён гэта ведаў і не марудзіў. Рушыў па лесвіцы. Услухоўваючыся, сочачы, ступаў чамусьці наскамі ботаў, нацята чакаў. Гатоў быў кожны момант націснуць спускавы кручок аўтамата.

Не азіраючыся, адчуваў за сабой Шарыфутдзінава і іншых. Падняўся на пляцоўку, адкуль лесвіца паварочвала, прыпыніўся. Ацаніў абстаноўку і, тулячыся да сценкі, рушыў далей.

Вось і пляцоўка, другі паверх. Задудукаў кулямёт — вышэй недзе. Трэба ўздымацца яшчэ. Рушылі па лесвіцы, ужо амаль адолелі ўсю, калі раптам насустрач выскачылі двое. Ад нечаканасці момант застылі разгублена. Адзін, доўгі, з нейкай каробкай у руцэ, пачаў уздымаць руку: здаюся. Але другі, ззаду, збоку, раптам варухнуўся, рэзка зрушыў аўтамат, што вісеў на жываце.

Яго апярэдзіла чарга з-за спіны Юрыя — ударыў, відаць, хуткі Шарыфутдзінаў. Той, з аўтаматам, сагнуўся і асеў. Услед — доўгі ўзняў рукі, штосьці мыляючы губамі. Юрый махнуў рукою: забраць, адвесці абодвух, а сам, абышоўшы палонных, кінуўся ўгару.

Праскочыў пляцоўку. Стрымаў сябе, асцярожна выглянуў у калідор. Калідор, шырокі, перагароджаны ў адным месцы абваленай столлю, быў пусты.

Зноў ударыла чарга. Праз адкрытыя праймы гук разыходзіўся па будынку гулка, множыўся. Усё ж кірунак, дзе кулямёт, Юрыю было няцяжка вызначыць. Тут Юрыя апярэдзіў Пятых — уцягнуўшы галаву ў плечы, з рэчмяшком, што матляўся за спіною, сігануў да пустой праймы. Аднак не ўправіўся ён дабегчы, з праймы вытыркнуўся немец; убачыўшы Пятых, штосьці загарлаў на ўвесь голас і нырнуў назад. Амаль адразу ж з праймы секанула аўтаматная чарга.

Пятых стаў. Усе ціснуліся да сцяны. Кулямёт сціх, немцы, відаць, чакалі. Падрыхтаваліся. Юрый зазірнуў у суседнюю пройму, ці няма подступу адтуль, збоку. Подступу не было, глухая сцяна. Пятых крыкнуў немцам, каб здаваліся. Прыгразіўся: інакш — капут. Адтуль адказалі чаргою. Услед за ёй паляцела граната. Ледзь управіліся адскочыць. Але Шарыфутдзінава зачапіла — у левую руку. Бачачы, як працінаецца кроў праз рукаў, ён злосна штосьці сказаў на сваёй мове, падобна — вылаяўся. Штосьці хутка, злосна гаворачы, уставіў запал у процітанкавую гранату, відаць, руку зачапіла лёгка,— намерыўся кінуцца ў пройму, але Юрый стрымаў яго. Адтуль зноў далі чаргу. І зноў кінулі гранату. Кінулі гранату нашы, але няўдала: граната пракацілася далей праймы і не памагла ні трохі. Нейкі час ішла такая валтузня, разам з лаянкай, з пагрозамі. Нарэшце Шарыфутдзінаў ухапіў момант, падскочыў да праймы і шпурнуў сваю процітанкавую. Гэтая зрабіла сваё.

Калі Пятых зазірнуў у пройму, адтуль ужо не адгукнуліся. Там аказалася пяцёра: трое былі забіты, адзін, руды смаркач, сядзеў белы, прыціскаў руку да боку. Спалохана чакаў. Пяты, у расшпіленым мундзіры, лысаваты, з нежывым позіркам, ціснуўся ў кутку.

Шарыфутдзінаў люта кінуўся да гэтага, у кутку, учапіўся здаровай рукою, але яго стрымалі.

— У, ш-шакал! — Шарыфутдзінаў штосьці зноў гаварыў злое, падобнае на лаянку.

На патрэсканай бетоннай падлозе было мноства расстраляных гільз.

Дым ад выбуху радзеў, Юрый мімаволі заўважыў праз пройму акна: у баку ад сквера далеч праглядвалася шырока... Усё пачварныя абломкі сцен, руіны. Убачыў наводдаль ланцужок танкаў...

Тут жа перавязаў Шарыфутдзінаву рану: асколак, на шчасце, толькі зверху прарэзаў тканку, як нажом...

Трэба было выбірацца адсюль, каб не адстаць ад сваіх. Справа і злева вуліцы мноства пехацінцаў ішлі ўжо наперад.

...На Ленінскай вуліцы Юрый убачыў тую сцяну, што засталася ад дома, дзе была калісьці іх кватэра.

Сцяна стаяла, як і тады, тры гады назад. Як яна выстаяла? Што гэта там, на другім паверсе, на іх балкончыку? Вазон! Той, які маці вынесла з пакоя ў свой апошні дзень? Няўжо той самы?!

У ім яшчэ жыло напружанне толькі што скончанай бойкі. Была яшчэ нервовая, ліхаманкавая ўзрушанасць ад яе. Але ў гэту ліхаманкавасць увесь час унізваліся новыя ўражанні, сярод якіх асабліва хвалявала тое, што нагадвала пра былое.

Кожны куток тут што-небудзь прыгадваў яму. Але сярод усяго гэтага наплыву ўспамінаў самым моцным, пакутным быў — успамін пра гібель маці. Быццам яна загінула толькі некалькі хвілін таму...

Па вуліцы, па руінах ланцужкамі, россыпам рушыла многа пехацінцаў. Яны ішлі і тут, па Савецкай, па Ленінскай і па пляцы Волі, які быў дзіўна відаць адсюль сярод руін. Адтуль, з пляца Волі, на Савецкую выпаўзлі дзве «трыццацьчацвёркі», упэўнена і непаспешліва пасунуліся ў бок Дома ўрада.

Каля універмага Юрый перавёў аддзяленне на другі бок Савецкай. Тут ля высокага, сіняватага будынка універмага да іх далучылася некалькі незнаёмых. У іх былі чорныя пагоны. Па мінашукальніках у руках некаторых Юрый здагадаўся, што гэта сапёры.

Аказалася, у іх было спецыяльнае заданне — Дом урада. З-за гэтага яны перайшлі з другой роты, якой, аказалася, давядзецца наступаць лявей.

Неўзабаве падышлі да вастраверхай цаглянай бу-

дыніны касцёла. Абабегшы паўз агароджу, паўз капітаны, касцёл і драўляную хатку, што стаяла побач з касцёлам на ўзвышшы, Юрый і Праворны з двума байцамі апынуліся перад Домам урада.

Ад самага Цэнтральнага сквера па ўсёй Савецкай бачылі адны руіны. Гмах Дома ўрада, зусім цэлы, такі знаёмы, здаўся Юрыю нібы нерэальным, як той даўні час, назаўсёды разбураны вайной, перажытым. З захапленнем і разам з тугою ўбачыў Юрый дарагі будынак, што пра столькае нагадваў...

«Цэлы!»

Салдаты са здзіўленнем разглядвалі яго з-за касцёла. Хтосьці свіснуў захоплена, хтосьці лічыў паверхі. Нехта практычна сказаў, што немцы не проста так пакінулі яго. Падрыхтавалі які-небудзь сюрпрыз. Размовы гэтыя, аднак, хутка сціхлі.

Насупраць Дома ўрада, цераз вуліцу, гарэў дом, таксама даволі вялікі. З вокан ніжняга паверха, дзе, помніў Юрый, раней былі магазіны, клубамі шыбаў дым. Але Юрыю, як і яго салдатам, не было калі разглядваць гэта. Юрыю, салдатам, усяму ўзводу Праворнага трэба было думаць пра Дом урада. Браць яго.

На ўсякі выпадак трымаючыся бліжэй да сцяны хаткі, не вытыркаючыся вельмі, Юрый з Праворным аглядвалі прасцяг, што трэба было ім зараз перабегчы: на іх дарозе, перад домам цягнулася высокая дротавая агароджа.

Лязгаючы па бруку, пыхкаючы сінім дымком, наперад прайшлі танкі. Адзін, потым яшчэ два. Іх не кранулі.

Але як толькі некалькі пехацінцаў выткнулася на плошчу, насустрач разанула кулямётная чарга. Не з Дома ўрада, а з каменных баракаў ля яго.

Байцы адбеглі назад.

2

Каб не губіць марна людзей, Праворны рашыў абысці Дом урада з тыльнага боку, з двара.

На шчасце, з боку ад касцёла было многа розных платоў, пабудоў. Яны падступалі амаль да самага Дома ўрада з тыльнага яго боку. Вельмі зручныя платы і пабудовы, каб падступіцца да Дома. Прыхоўваючыся

імі, пяхота і падабралася неўпрыкметку да дротавай агароджы, а потым і да высокіх стромкіх сцен.

Усе чакалі стрэлаў, але з Дома не стралялі. Дом дзіўна маўчаў. Нібы вымер.

Разам з пяхотай да Дома падышлі і сапёры са старшыной на чале. Старшына і адзін сапёр узбеглі на круты ганак прыбудовы. Пачалі аглядаць дзверы, правяраць, мусіць, ці не мініраваны.

Следам за імі ўзняўся дужы рабаваты Пятых. Прыкладам аўтамата ён высадзіў аконную раму побач з дзвярамі і кінуўся ў сярэдзіну пакоя. За ім ускочылі ў акно яшчэ некалькі чалавек, між якіх быў і Юрый.

Ён падаўся ў дзверы, сарваныя з верхніх петляў, гатовыя, здаецца, упасці, і апынуўся на вузкай лесвіцы, што падымалася ўгару. Некалькі байцоў кінуліся па лесвіцы, але Юрый спыніў іх. Загадаў павярнуць у дзверы, што былі насупраць на пляцоўцы. Дзверы былі прыадчынены.

Перад Юрыем адкрылася вялікая паўкруглая зала з мармуровымі калонамі і радамі драўляных крэслаў, якія стаялі таксама паўкругам. Было відаць: зала пасяджэнняў.

Мінуўшы ружовыя калоны,— там, дзе ідуць лесвіцы ўгару і ўніз, неспадзеўкі наткнуліся на чалавека ў цывільнай вопратцы, які бег насустрач з цокальнага паверха.

Пагрозна ўзнялі аўтаматы. Чалавек жа невядома чаму не толькі не спалохаўся, а, падобна, нібы ўзрадаваўся. Хударлявы, жаўтаваты твар неспадзявана, незразумела заяснеў усмешкаю. Як бы сустрэў даўночаканых сяброў.

— Нарэшце!

— Вы хто?

— Я? — Ён здзівіўся, павёў вачыма па ўсіх.— Электраманцёр...

— Які электраманцёр?

Усмешку шчасця змяніла збянтэжанасць. Здагадаўся, стаў тлумачыць: падпольшчык, прабраўся сюды па заданню камандзіра партызанскага злучэння.

— Адным словам, маю загад ахоўваць Дом...

— Дом мініраваны? — коратка кінуў старшынасапёр больш тонам загаду, чым запытання.

— Мініраваны.

— Чым?

— Авіябомбы. Тол.

— Ведаеце сістэму праводкі?

— Так, але, мусіць, не ўсю. Частку правадоў я толькі што перарэзаў.

— Пакажыце, дзе яны,— сапёр, махнуўшы сваім, каб ішлі следам, падаўся разам з манцёрам. На хвілінку затрымаўся:— Лейтэнант, загадай ачысціць паверхі!.. Можа, немцы дзе зашыліся. Ды скажы сваім, каб хадзілі асцярожна, калі хочуць быць цэлымі!

Ціха, мёртва было на лесвіцах і ў калідорах, па якіх з апаскай, услухоўваючыся, углядваючыся, ступалі з некалькімі сапёрамі незвычайна маўклівыя пехацінцы. Тачыў страх: а раптам не ўдасца размініраваць? І зараз, праз момант... Стараліся не думаць пра гэта. Стараліся спадзявацца, што ўдасца. Удасца. Але спакою не было.

Гулка тупаюць боты па дубовым паркеце, у пустых калідорах. Важкаю, даўкай здавалася гэтая цішыня! Нібы ішлі не па калідоры, а па мінным полі.

Доўга ішлі яны так, правяралі пустыя калідоры, лесвіцы, аглядалі незлічоныя пакоі, то са сталамі, з канторскімі шафамі, то з радамі нар і ложкаў. З надзеяй і трывогай сачылі за ўсім, што рабілі сапёры, за кожным іх крокам, рухам. Па-ранейшаму панавала цішыня, і па-ранейшаму не адыходзіла ад людзей трывога.

Толькі на сёмым ці восьмым паверсе паспакайнелі: прыбег знізу сапёр і сказаў, што ўсё зроблена, правады ўсе перарэзаны. Міны не ўзарвуцца...

Сапёр быў дробны, маладзенькі, амаль хлопчык, з дзіцячым рабаціннем ля носа, але сустрэлі яго як ратаўніка. Як героя. Незвычайна ўзрадаваліся яго вестцы! Адразу засвяціліся ўсмешкамі, завіравала вясёлая гаворка. Сапёра сталі частаваць тытунём

— Абскакалі, значыць, фрыца!

— Хітрэц: уваходзьце, маўляў, займайце! Пабачыце!

— Абскакалі!

— Ну, цяпер стаяць яму, стаяць. Мільён гадоў!

— Выжыў, прыгажун!..

Агледзеўшы іншыя пакоі, апынуліся на даху будынка.

Тут, убачыўшы перад сабою вялікае, неабсяжнае мора нябеснага блакіту, лагоднага, празрыстага, з рэдкімі, лёгкімі воблачкамі, Юрый спыніўся, зачараваны.

Горад ляжаў унізе, быццам на рэльефнай карце. Дзе-нідзе ўзнімаліся ўгару дымы — адны заспакоена, на зыходзе, другія густымі панурымі вірамі. За горадам віднеліся зялёныя і жаўтаватыя ўзгорчатыя палі, сіні лес, далёкая воданапорная вежа, агорнутая гарачай смугою.

Грудзі захлыналіся ад шырыні, ад прастору.

«Нашае!..» — падумаў Юрый, поўнячыся шчасцем, дужасцю.

Пазіраючы адсюль на горад, ён, можа, упершыню ў гэты дзень адчуў радасць новай, вялікай перамогі. Радасць яго была шырокая, як гэтая залітая сонцам неаглядная пространь, што адбірае вочы.

Побач загаварылі аўтаматы, ён азірнуўся,— убачыў узрушаных салдат з узнятымі ў руках аўтаматамі.

«За Мінск!» — сказаў, гарэзна паблісківаючы вузкімі вочкамі, Шарыфутдзінаў. Юрый таксама ўзняў аўтамат.

На плошчу паміж Домам урада і домам насупраць увайшлі самаходкі.

Яны ішлі адна за адной на адлегласці, спакойна і ўпэўнена...

3

Калі больш за палову горада было ўжо ў нашых руках, да Мінска падыходзіла група немцаў, чалавек трыста. Яны ішлі не па шасэ, а цераз поле — па дарожцы, абапал якой ціха варушылася жыта.

У іх быў загад заняць акопы і падрыхтавацца да абароны горада.

Немцы ішлі спакойна. То адзін, то другі паглядаў на сонца, якое пачынала паліць усё мацней, і думаў, напэўна, аб адным: каб хутчэй дабрацца да месца!

Плялі спакойную гаворку... Толькі, падышоўшы блізка да Мінска, з якога ўсё ясней даходзілі гукі бою, пачалі насцярожвацца; убачылі на шасэ, што было ўжо недалёка, войска, якое таксама рушыла да горада.

Обер-лейтэнант, камандзір групы, зацікавіўся, хто там, загадаў паслаць разведку...

Калі разведчыкі падаліся жытамі да шасэ, обер-лейтэнант загадаў групе спыніцца. Стоячы на дарозе, немцы сачылі за невядомым войскам; той-сёй з салдат зморана садзіўся на гарачую зямлю.

Там, на шасэ, раптам пачулася страляніна. Потым адтуль са свістам прыляцеў снарад і выбухнуў за дарогай. За ім — другі, бліжэй.

— Рускія, рускія! — усе адразу захваляваліся, замітусіліся, забегалі. Над ціхімі жытамі загаркалі каманды,— сталі хапатліва займаць абарону...

Ад шасэ павярнулі сюды чатыры бронетранспарцёры і тры грузавыя машыны з рускімі. Падышоўшы бліжэй, грузавікі проста сярод поля спыніліся, і з іх пачалі саскокваць байцы. Адзін бронетранспарцёр, на якім было, пэўна, не менш за дзесятак савецкіх, пачаў абыходзіць левы фланг. За бронетранспарцёрам падскаквала нізкая, доўгая гарматка. Другая група з трыма бронетранспарцёрамі пайшла проста на тых, што заселі ў жыце.

Ударылі некалькі кулямётаў, і бронетранспарцёры спыніліся.

Рускія сталі махаць сцяжкамі, рабіць нейкія знакі. Страляніна на час сціхла.

— А-а-я... ы-ы...— ішло неразборлівае ад бронетранспарцёраў. Потым павеў гарачага ветру данёс: — Здавайцеся-а-а!.. Здава-айся, фрыцы!

Зноў заляскаталі стрэлы. Савецкія жвава заходзіліся ля бронетранспарцёраў, адчапілі гарматы і сталі біць прамой наводкай. Між тым правей іх, подбегам, прыгінаючыся, набліжаліся пехацінцы...

Бой быў няроўны і нядоўгі: даволі скора аўтаматы і кулямёты сціхлі, але цяпер было чуваць, як у жыце стогнуць раненыя. Тыя з гітлераўцаў, што засталіся жывыя, уставалі і, кідаючы зброю, мармычучы — «Гітлер капут!», здаваліся; іх зводзілі разам на дарогу, блізка ад месца, дзе быў бой.

— Што гэта — засляпіла ім: мы занялі горад, а яны — ідуць, быццам дадому...— прамовіў адзін з байцоў, што ахоўвалі палонных, малы, белабровы, з наіўнымі вачыма.

— Куды павядзём? — памаўчаўшы, запытаў ён у камандзіра роты.

— Куды яны хацелі,— у Мінск.

Салдат засмяяўся:

— Усё-ткі пападуць у Мінск, хоць палоннымі!..

Калі гэты натоўп палонных прывялі да гарадской ускраіны, у Мінску было ўжо ціха. Разрозненыя групкі варожых аўтаматчыкаў, кулямётчыкаў, артылерыстаў, страціўшы сувязь, надзеі, здаваліся...

Нашы пехацінцы выцягвалі з сутарэнняў, з розных сховішчаў тых, хто спрабаваў схавацца.

Тым часам да Мінска падыходзілі войскі Першага Беларускага фронту. Наперадзе былі танкісты Бахарава і Панова, што напярэдадні занялі Пухавічы.

Трэцяга ліпеня яны ўвайшлі ў паўднёвую ўскраіну Мінска. Тут на высокай вуліцы, з якой быў добра бачны амаль увесь горад, генерал-маёр Шчарбацюк спаткаўся з чарнявым пажылым палкоўнікам-танкістам, што з вежы танка ўзіраўся кудысьці ў заходнюю частку горада.

— Адкуль? — запытаў генерал-маёр, калі палкоўнік саскочыў з вежы, падбег да яго «віліса».

— Ад Пухавіч, простым кірункам...

— Першы Беларускі...— генерал-маёр парывіста, моцна абняў танкіста.

—А мы — ад Барысава.

Байцы і камандзіры з многіх палкоў, брыгад і дывізій Трэцяга Беларускага спаткаліся ў гэты дзень з войскамі Ракасоўскага.

Гэта была вялікая падзея. Два франты счапілі круг вакол нямецкіх часцей, што былі на ўсход ад Мінска, адрэзалі ім апошнія шляхі адступлення...

Так утварыўся «мінскі кацёл».

4

Дзень гэты быў адным з самых значных у жыцці Чарняхоўскага.

Ён пачаўся важнай весткай: пазваніў Глаголеў і далажыў, што перадавы атрад 4-й танкавай брыгады з корпуса Бурдзейнага ўварваўся з боку магістралі ў Мінск.

— Дзе Ротмістраў? — усхваляваны і нецярплівы, запытаў Чарняхоўскі. Ён быў поўны адчуваннем: вось яно, збываецца самае галоўнае, самае чаканае.

Глаголеў адказаў, што танкі Ротмістрава таксама

ўваходзяць у Мінск, у паўночную і паўночна-заходнюю ўскраіну.

— З часцямі Першага Беларускага ёсць сувязь?

— Ёсць,— адказаў здалёк Глаголеў.— Перадавыя часці Першага Беларускага падыходзяць да паўднёвай ускраіны. У раён — Краснае Урочышча.

Чарняхоўскі адзначыў мімаволі: апошняе — назву Краснае Урочышча — камандарм назваў спецыяльна для яго: ведаў, яму гэта назва павінна быць знаёмая. Глаголеў не памыліўся: ён помніў гэты раён...

— Глядзіце, не сутыкніцеся! — папярэдзіў, стараючыся не траціць патрабавальнага тону, Чарняхоўскі.

Камандуючы арміі супакойліва запэўніў, што ніякіх непаразуменняў з суседам не будзе, сувязь надзейная...

Неўзабаве Глаголеў пазваніў зноў і, вясёлы, звонкагалосы, паведаміў, што часці арміі з ходу перабраліся цераз раку Свіслач і занялі цэнтральныя раёны горада.

— З НП бачу на Доме ўрада чырвоны сцяг,— сказаў ён. Чарняхоўскі зразумеў яго пачуцці, калі ён, забыўшыся на сваю звычайную стрыманасць у дачыненнях з камандуючым фронту, амаль з таварыскай вольнасцю паведаміў: — Хутка перанясу НП на Дом урада. Запрашаю вас.

— Дзякую...— Чарняхоўскі насцярожліва нагадаў: — Не забывайце, што на вас адказнасць за левы фланг фронту. Сачыце за праціўнікам, асабліва з боку Волмы!

Хоць Чарняхоўскі і стрымліваўся, ведаючы, як небяспечна неасцярожнае захапленне ў баі і якія нялёгкія задачы наперадзе, яго ўсё ж вельмі радавалі гэтыя весткі: акрамя таго, што войскі так удала, багата раней за прызначаны Стаўкай тэрмін, вызвалялі самы важны на разняволенай зямлі горад, сталіцу рэспублікі, падзея гэта мела і іншае значэнне, якое нельга было пераацаніць: яна значыла, што круг вакол немцаў замыкаўся ўсё больш надзейна. У клопатныя думкі пра тое, як бы апярэдзіць спробы немцаў вырвацца з мяшка, раз-пораз ішлі, цешылі душу ўспаміны пра Мінск, добрыя ўспаміны, якіх не мог апанаваць ніякі клопат. Мімаволі па-маладому светла ўспаміналіся шчаслівыя

перадваенныя дні, калі столькі разоў даводзілася быць у гэтым горадзе, які не раз добра распараджаўся яго лёсам і лёс якога цяпер залежыць ужо ад яго. Не цярпелася: хутчэй бы пабачыць Мінск самому. Уехаць у яго спакутаваныя вуліцы, пад яго абпаленыя вайной каштаны і ліпы...

З'явіўся на даклад акуратны нястомны генерал Іголкін, імклівай скорагаворкай далажыў, што танкісты Ротмістрава вызвалілі на паўночным захадзе ад Мінска Ракаў, а на ўсходзе — Волму, што мехкорпус Абухава заняў раён Нарачы і ідзе ў кірунку на Смаргонь.

Адпусціўшы начальніка аператыўнага ўпраўлення, Чарняхоўскі звязаўся з членам Ваеннага Савета, весела гледзячы на заліты сонцам агародчык, на вуліцу, што нібы чакала, звала, загаварыў:

— Васіль Емяльянавіч, ёсць магчымасць зірнуць на Мінск і заехаць да Крылова, як вы да гэтай магчымасці? — Генерал Макараў адказаў, што такой магчымасцю трэба пакарыстацца.— Ну, вельмі добра! Тады я чакаю!

Калі член Ваеннага Савета ўвайшоў, Чарняхоўскі ўжо стаяў на дварэ, гатовы ехаць. Каля машыны і бронетранспарцёра завіхаўся, аддаваў апошнія распараджэнні пільны, недаверлівы Камароў. І тут паявіўся ўсхваляваны хапатлівы шыфравальшчык з лістком у руцэ.

— Таварыш камандуючы!..

— Што? — ступіў насустрач яму Чарняхоўскі.

— Тэлеграма. Са Стаўкі.

Чарняхоўскі хуткім рухам узяў тэлеграму, прабег нецярплівым позіркам. Член Ваеннага Савета бачыў, як, ледзь камандуючы пачаў чытаць, змяніўся твар яго, увесь ён. Падабраўся, засяродзіўся, пастражэў.

— Зойдземце,— кінуў коратка генералу і рашучым крокам пайшоў на ганак, у хату. У хаце спыніўся, улавіўшы запытальны позірк члена Ваеннага Савета, паведаміў: — Дырэктыва на Вільнюскую аперацыю.— Ён перадаў тэлеграму генералу Макараву.— Так што паездку ў Мінск і да Крылова прыйдзецца адкласці...

Ён пазваў даручэнца і, калі Камароў ускочыў у пакой, запытаў клопатна:

— Высветлілі гатоўнасць новага ВПУ?

— Так точна, таварыш камандуючы,— адрапартаваў Камароў, па выгляду камандуючага, па голасу яго разумеючы, што зноў настаў важны, дзейны момант.— ВПУ гатова.

— Паедзем на ВПУ,— тонам загаду сказаў Чарняхоўскі.— Выклічце зараз жа генерала Іголкіна.

Неўзабаве машына імчала іх па шасэ. Чарняхоўскі сядзеў разам з членам Ваеннага Савета на заднім сядзенні. Камароў быў поруч з шафёрам; па-арлінаму трымаючы галаву, сачыў за дарогаю.

Дзень зіхацеў яркім святлом, дыхаў летняю спёкаю.

Ехалі моўчкі. Генерал Макараў увесь час паглядваў у акно, на дарогу, на машыны, якія яны абганялі, на групы салдат, што ішлі ўзбоч. Ён жыў радасным хваляваннем, яму хацелася гаварыць пра гэту радасць, але ён бачыў: Чарняхоўскі сядзіць засяроджаны, паглыблены ў сябе, нешта думае. На твары нават быццам нейкае незадавальненне. Гэта бянтэжыла члена Ваеннага Савета і стрымлівала.

— Супадзенне якое,— загаварыў ён нарэшце асцярожна.— Вярнуліся амаль у той жа час, калі і пакідалі. Роўна праз тры гады... Такое ж, здаецца, лета, такая ж спякота. А на душы зусім іншае!

— Іншае...— адгукнуўся, нібы не разумеючы, Чарняхоўскі.

Член Ваеннага Савета зірнуў на яго, ледзь павёўшы дапытлівымі пукатымі вачыма, зноў убачыў: камандуючы недзе далёка са сваімі думкамі. Зразумеў: Чарняхоўскі, можа, і не чуў, што ён казаў.

Зноў доўга маўчалі. Макараў бачыў, што Чарняхоўскі па-ранейшаму штосьці думае, па-ранейшаму як бы незадаволены нечым, і ўжо не спрабаваў загаварыць. Чарняхоўскі раптам сам загаварыў. Зірнуў на дарогу, не адводзячы вачэй ад яе, нібы разважаючы сам з сабой, сказаў:

— Вось так. Вільнюс, Каўнас. Упрэмся ў Фрышгаф ці Курышгаф. І — стоп. І фронту — канец.

Член Ваеннага Савета зразумеў незадавальненне: Чарняхоўскі, як і многія на іх фронце, як і сам Макараў, спадзяваўся, што Трэці Беларускі будзе наступаць

не куды-небудзь, а на самы цэнтр Германіі. Самім ваенным лёсам Трэці Беларускі быў пастаўлены проста перад цэнтрам рэйха. Дарога з Оршы на Мінск выводзіла потым проста на Варшаву, на Берлін. Дырэктыва Стаўкі, што скіроўвала фронт на Вільнюс, на Прусію, бурыла гэтыя спадзяванні...

— Мы першыя можам падысці да граніц Германіі,— як бы паспрабаваў супакоіць генерал Макараў.

— Так, гэта можа быць,— згадзіўся Чарняхоўскі.— Усё ідзе к таму.— Нявесела, не тоячы шкадавання, сказаў: — Прыцэліўся я, прымерыўся. Тое-сёе прыпас на будучае. Прывык думаць... А тут усё павярнулася. Што ж,— ён усё не мог адолець шкадавання,— павернем тварам да мора! Такі наш лёс.— Дзелавіта, засяроджана прамовіў: — Работкі нам прываліла, Васіль Емяльянавіч. Сумаваць не прыйдзецца...

— Не прыйдзецца!

Чарняхоўскі глядзеў наперад, дзе цісануліся машыны, гарматы,— дарога была забіта. Шафёр увесь час сігналіў.

Яны пад'ехалі да павароту на Лагойск.

## РАЗДЗЕЛ VIII

### 1

Пасля таго як батальён Аляксея выбіў немцаў з Кальварыі, брыгада зрабіла прыпынак. Горад ляжаў ззаду. Стрэлы і выбухі заціхлі, але чорныя, злавесныя хмары дыму віселі над кварталамі.

Вуліцы, нядаўна пустыя, цяпер віравалі, шумелі, спявалі.

Па Пушкінскай, па Савецкай, праз плошчу Леніна, па Маскоўскай безупынна рушылі войскі. У кузавах зялёных машын плылі па гораду загарэлыя пехацінцы з аўтаматамі і букетамі кветак. За машынамі, падскакваючы, каціліся прыземістыя доўгія процітанкавыя гарматкі. Праходзілі крытыя брызентам славутыя гвардзейскія мінамёты — «кацюшы», якія, як заўсёды, вабілі да сябе асаблівую ўвагу. Ішлі «ЗІСы» з завялым галлём маскіроўкі, нагружаныя боепрыпа-

самі і мяшкамі з мукою. Важка несучы выносістыя ствалы з тоўстымі надульнікамі, грымелі самаходкі...

Мінчане, што стракатымі радамі тоўпіліся ўсцяж тратуараў, з абодвух бакоў гэтай плыні, глядзелі на ўсё з гордасцю і захапленнем.

Дзяўчаты выбягалі да машын, працягвалі байцам кветкі, кідалі ў кузавы ці на вежы,— салдаты на ляту лавілі іх... Кабінкі многіх грузавікоў і гарматы былі цяпер упрыгожаны гваздзікамі і ружамі. Кветкі трымалі ў руках байцы, кветкі чырванелі на кішэнях гімнасцёрак, каля ордэнаў, кветкі віднеліся ўсюды. Нельга было не здзівіцца, як у гэтым знявечаным горадзе магла знайсціся такая безліч кветак,— напэўна, усе кветкі, што раслі на дворыках, на агародчыках, у той дзень былі сарваны і раздораны...

Усе, хто застаўся ў Мінску, хто дажыў да гэтага дня, былі цяпер у кіпучым, захмялелым ад шчасця людскім віры. Радыёрупары з ваенных агітмашын разносілі перадачы з Масквы,— каля іх збіраліся цэлыя натоўпы, прагна лавілі кожнае слова, кожную мелодыю.

На адной з вуліц, абняўшыся, брылі трое падвыпілых смуглявых маладых мужчын. Іх прывезлі сюды здалёк, з Італіі, салдатамі. Пасля капітуляцыі Італіі большасць іх сяброў, з якімі яны папалі ў нямецкія лагеры смерці, загінулі. А гэтым тром пашанцавала: нашы пехацінцы іх вызвалілі.

Яны ішлі, хістаючыся з боку на бок, у абшарпанай адзежы, схуднелыя, змарнелыя, але таксама без меры шчаслівыя. Яны спявалі,— старанна вымаўляючы словы, заўзята, на ўвесь голас:

Смьело ми в бой пойдьём
За власть Совьетов
И как один умрём
В борьбье за это!

Дзе і калі яны пераймалі гэту песню? Хто навучыў іх спяваць яе? З таго, як яны спявалі, было відаць, што песня ім вельмі падабалася...

Танкі Вяссонава стаялі каля агародчыкаў і хатак ускраіны, прыцісну ўшыся да платоў, выстаўляючы гарматы, выглядвалі з-пад цёмнага запыленага галля вішанніку і клёнаў. Многія танкісты корпаліся каля «трыццацьчацвёрак» — чысцілі машыны, перацягва-

лі гусеніцы, запраўлялі бакі гаручым з бензацыстэрн. Бяссонаў загадзя наказаў камандзірам, што хутка будзе загад выступаць.

Нямала каго з танкістаў можна было бачыць і каля хат, ля веснічак, з дзяўчатамі. Тут размова ішла вясёлая, з жартамі, звінеў малады смех. Некаторыя паважна гаманілі з пажылымі людзьмі, слухалі іх горкія апавяданні аб трох страшных гадах няволі, расказвалі самі — пра Маскву, пра свае ваенныя прыгоды.

Было ўжо каля поўдня. Сонца зіхцела, здавалася, проста над горадам. Высока ўздымалася яснае блакітнае неба, на якім толькі дзе-нідзе бялелі воблачкі.

2

Аляксей увайшоў у светлы, з пафарбаванымі охраю аканіцамі дамок, у якім прыпыніўся камандзір брыгады. Палкоўнік быў без кіцеля, у нябеснага колеру шаўковай сподняй сарочцы з кароткімі рукавамі, якая шчыльна абліпала поўныя моцныя плечы, круглыя, крутыя грудзі. У выразе сарочкі віднелася белая, кволая, як у жанчыны, скура. Яна рэзка адрознівалася ад цвёрдай, загарэлай і абветранай скуры твару.

— Заходзь, заходзь, капітан,— сказаў Бяссонаў Аляксею, калі той, казырнуўшы, запыніўся на парозе. Палкоўнік крыкнуў у бок акна:

— Гатовы?

— Гатовы, таварыш гвардыі палкоўнік,— пачуўся за адчыненым акном голас ардынарца.

Бяссонаў зняў сарочку, узяў салдацкі вафельны ручнік, што ляжаў на стале, закінуў яго на плячо і выйшаў. На двары ён доўга мыўся, ахвотна, са смакам крактаў, пырхаў. Калі вярнуўся, выціраў ручніком грудзі. Скура яго цела паружавела. Дужы, без гімнасцёркі, з ручніком, ён здаваўся ў тую хвіліну падобным да барца ці цяжкаатлета, што рыхтуецца да блізкага выступлення.

— Свеж-жа! Вада — што лёд! Як нанава на свет радзіўся! — прагурчаў ён нязвыкла лагодна.

Усцягнуўшы на поўнае цела сарочку нябеснага колеру, запытаў строга:

— Як рана?

— Цярпець можна, таварыш гвардыі палкоўнік...

— Не падабаецца мне,— сказаў ён нездаволена,— яшчэ адзін камбат выходзіць са строю. У мяне камбатаў лішніх няма! Глядзі, хутчэй папраўляйся! Ваяваць трэба!— ён сказаў так, нібы рабіў вымову.

Аляксей выпрастаўся.

— Колькі будзеш лячыцца?

— Тыдзень, думаю...

— Тыдзень...— ён сеў за стол.

Ардынарац, жвавы, праворны хлопец з Чарнігаўшчыны, унёс на талерцы закуску, алюмініевы корчык і фляжку ў чахле.

— У санбаце колькі далі? Тры тыдні? Ну, вот, так бы і казаў. Пакажы заключэнне, што яны там намарочылі?.. М-да-а, менш чым трыма тыднямі, відаць, не абыдзецца. А пападзешся ў рукі якому-небудзь фармалісту, ён цябе і на два месяцы да ложка прытарочыць. Глядзі, падрамантуйся, але не буксуй там попусту! Ясна?..

Палкоўнік загадаў ардынарцу:

— Яшчэ шклянку прынясі.— Заўважыў, што Аляксей зноў ціснецца ля дзвярэй, кінуў без далікацтва:— Сядай! Чаго стаіш там? Бліжэй давай.

Ардынарац шмыгнуў у дзверы. Аляксей паслухмяна сеў да стала.

Бяссонаў наліў у шклянку сабе, потым яму, чокнуўся.

— За Мінск! За тваю блізкую сустрэчу з жонкай — таксама!

Нейкі час маўчалі, закусвалі.

— Я тут пад Мінскам хрысціўся,— начапіўшы на відэлец кавалак тушонкі, сказаў Бяссонаў.— У сорак першым. Толькі што з-пад Смаленска, з лагераў прывёў батальён. Землякі нібы...

Аляксей, заўсёды нецярплівы, быў думкаю далёка. Палкоўнік хутка адчуў, што яму не сядзіцца.

— Ну што ж, капітан, не затрымліваю. Батальён перадай Аліеву. У штабе скажы — няхай афармяць усё. Ідзі! Пачакай,— успомніў ён раптам. Выйшаў з пакоя і неўзабаве вярнуўся з пакункам, загорнутым у газету.— Вот, жонцы ад мяне. Калі быў у Маскве, купіў на плацце — думаў Ірыне, дачцэ... Вазьмі.

— Дзякую. Перадам...

Бяссонаў працягнуў шырокую шурпатую далонь.

На вуліцы Аляксей спаткаў Гогабярыдзе, які чакаў капітана каля веснічак. Гогабярыдзе быў чыста паголены, у новай, недзе ўжо выпрасаванай чысценькай гімнасцёрцы.

— Значыцца, развітанне? Ах, Аляксей, як я рады, што ты будзеш дома! Дома, пасля такіх баёў, пасля такой вялікай дарогі!.. Помніш, як ты чакаў пісьмо ад Ніны, а яго ўсё не было. А цяпер яго і не трэба... Шкадую, што мне не прыйдзецца ўбачыць такую сустрэчу...

— Я — каб ты не шкадаваў — пастараюся ўявіць тады, быццам ты стаіш поруч з намі. Добра?

— Ты, Аляксей, забудзеш пра гэта... Ты, як усе шчаслівыя людзі, станеш на гэты час эгаістам. Я толькі адно папрашу — не забудзь перадаць ад мяне прывітанне Ніне і малому. Не забудзеш? І наогул пра нас усіх не забывай!..

— Буду помніць, Сандро,— жартаўліва-ўрачыста пакляўся Аляксей.

## 3

Здаўшы камандаванне, развітаўшыся з людзьмі, Аляксей адразу падаўся дадому.

Дом, у якім некалі ён жыў, быў зусім недалёка ад вуліц, дзе спыніліся танкі.

Гогабярыдзе праводзіў яго да канца вуліцы, штосьці гаварыў, але ўсё, што ён казаў, амаль не даходзіла да Аляксея. Ён і слухаў, і нешта адказваў, але не ведаў і не помніў што. Ён цяпер жыў адным — будучаю сустрэчаю,— пачуццём, у якім былі разам чаканне шчасця і халодная трывога, няўрымслівая нецярплівасць і стрыманасць. Думкі блыталіся і былі нібы агорнуты туманам.

— Я разумею цябе, Аляксей. Табе не да таго, каб слухаць маю пустую балбатню,— схамянуўся Гогабярыдзе.— Калі ў сэрцы поўна, хочацца маўчаць... Не буду перашкаджаць табе. Мы будзем цябе, дружа, помніць і чакаць! Дамовіліся? Бывай, Аляксей!.. Жадаю, каб дома ўсё добра было!..

Ён па-братэрску абняў капітана.

Аляксей амаль не бачыў, што акружала яго. Дамы,

узрушаныя, гаманкія людзі, аўтамашыны, панурыя натоўпы палонных — усё гэта праходзіла перад ім, нібы ў сне...

Ён не заўважаў, што ўвесь час паскарае хаду. Павярнуўшы на сваю вуліцу, пайшоў амаль уподбег. «Цэлая»,— бліснула заспакойлівая думка, калі перад вачыма ўзніклі два рады дамочкаў. Ён нецярпліва глядзеў наперад, дзе з-за павароту павінен вось-вось з'явіцца знаёмы абрыс яго дома.

Дом быў таксама цэлы! Аляксей убачыў гэта здалёк, ледзь выйшаў з-за павароту. Амаль адразу ж ён адзначыў, што плот і веснічкі зламаны, ляжаць на зямлі. Больш ён ужо нічога не думаў, нічога не заўважаў. Адно глядзеў на дом нязводна, пільна і ляцеў, нібы баяўся, што ўсё гэта прападзе раптам.

Толькі ля дома стрымаў лёт.

Ступіў па дошках зваленых веснічак, зірнуў на дзверы і — разгублена спыніўся. На дзвярах вісеў замок! Як бы не верачы, Аляксей падышоў да дзвярэй і пакратаў яго. Замок быў замкнуты.

Рушыў да акна. Паставіўшы ля ног чамаданчык, скінуўшы фуражку, прыціснуўся тонкім, з гарбінкаю носам да шыбы, зірнуў усярэдзіну. Там не было нікога. Было дзіўна пуста. У адным пакоі стаяў голы знаёмы стол, з меднай жоўтай клямкаю на скрынцы, бялелі на падлозе шматкі газет, у другім цьмяна пабліскваў нікелевымі бакавінкамі ложак, таксама голы. У кутку ля акна зелянеў высокі шыракалісты фікус. Аляксей успомніў, што Ніна любіла, каб у яе пакоі былі фікусы...

Пабелка на сценах пацямнела ад даўнасці. Пакоі мелі нежылы выгляд, нібы іх даўно-даўно пакінулі. Яны здаліся чужымі,— такімі незнаёмымі былі запусценне і бязладдзе ў гэтых рупліва прыбраных калісьці пакоях. Толькі ў кухні на століку ляжаў нейкі клунак, і па ім Аляксей здагадаўся, што тут нехта ўсё ж быў. «І замок, мабыць, нядаўна павешаны, інакш ён дасюль не вісеў бы».

Ён выйшаў на вуліцу. Чамаданчык так і застаўся ля акна, забыў яго ўзяць. Куды б пайсці, каго спытацца?

На вуліцы наводдалек стаялі тры ваенныя грузавікі, каля аднаго з якіх былі салдаты,— выгружалі ней-

кія скрынкі. Ішоў у гэты бок пажылы кульгавы чалавек з рыдлёўкаю — невядомы. Аляксей, агледзеўшыся навокал, рашыў пайсці да суседзяў: хто-хто, а яны могуць што-небудзь ведаць пра Ніну ці Наталлю Міхайлаўну.

Да вайны ў доме побач жыў стары вагонны майстар з чыгуначнага дэпо. Майстар быў дабрадушным, гаваркім старым і любіў выпіць. Калісьці ён часта заходзіў да Аляксея, расказваў пра дэпо, доўга гаманіў з маці Ніны.

Аляксей успомніў пра чамаданчык, забраў яго і падаўся да дому старога. Вокны ў доме былі выбіты, дзверы выламаны. Каля дзвярэй ляжала распораная падушка, вакол якой на ступеньках і на ўсім двары бялела пер'е. На навалачцы віднеўся брудны след бота.

Аляксей пастаяў моўчкі і павярнуў да другіх колішніх знаёмых — Карповічаў. Жонка бухгалтара Карповіча калісьці сябравала з Наталляй Міхайлаўнай. У доме Карповічаў цяпер жыла нейкая невядомая сям'я. На двары Аляксей спаткаў маладую жанчыну, якая сядзела на ганку і штосьці з дакорам гаварыла бяляваму хлопчыку гадоў чатырох. Заўважыўшы Аляксея, яна ўзрушана ўзнялася, у вачах яе мільгнулі цікаўнасць і надзея. Але калі Аляксей спытаўся пра Карповічаў, яна адразу змянілася, затаілася...

Карповіч, аказалася, з пачатку вайны ў арміі, а жонка яго недзе ў эвакуацыі,— пасля іх тут жыла сястра Карповіча, але яе з паўгода таму арыштавалі гестапаўцы. Новыя жыхары толькі некалькі месяцаў у гэтым доме.

— У мяне да вас просьба. Скажыце... Ці не ведаеце вы што-небудзь пра сям'ю Лагуновічаў? — запытаўся Аляксей.

— Лагуновічы? А ў якім яны доме?

Аляксей паказаў.

— Там?.. Хто ж гэта там? А-а! Бачыла я там, каб не зманіць, нейкую старую жанчыну...

— А пра маладую нічога не чулі? У старой ёсць дачка,— Аляксей кіўнуў на яе нецярплівы пільны позірк.

— Не, не чула... І не бачыла там маладой, ні разу не бачыла. Яшчэ, здаецца, там дзіця жыве. Гадоў трох,— сказала раптам жанчына.

— Дзіця? — перапытаў узрушана Аляксей.— Даўно вы бачылі?

— Ды не, колькі дзён таму...

— Дзяўчынка ці хлопчык?

— Дзяўчынка.

«Дзяўчынка, тры гады»,— праплыла ў грудзях Аляксея цёплая, радасная хваля. На стомленым, знямоажаным твары заяснела ўсмешка. Жанчына мімаволі зірнула на свайго малога, які сачыў за кожным рухам вайсковага чалавека з перавязанай рукой, уздыхнула.

Але трывога замуціла Аляксею светлую хвалю радасці. Чаму ж іх цяпер няма дома? Ужо развітаўшыся з жанчынай, Аляксей затрымаўся, запытаў:

— Дык вы сёння ці ўчора не бачылі іх?

— Не бачыла... Тут такі жах быў, што, здаецца, свету белага не бачылі. Думалі, што і выжыць не давядзецца. І цяпер страшна падумаць...

Апошнія словы жанчыны яшчэ больш затрывожылі Аляксея: ці шчасліва Наталля Міхайлаўна з дзіцем перабылі гэтыя дні?

Ён вярнуўся дадому, сеў на ганку, паставіў побач чамаданчык, выняў з партабака сігарэтку. Прыкурыў ад запальнічкі. З-пад цёмных ламаных броваў акінуў адрэзак вуліцы, які віднеўся адсюль. Ці не ідзе хто-небудзь.

Ён паспрабаваў разабрацца ва ўсім тым, што давялося пачуць. Ніна, мусіць, яшчэ ў партызанах,— яна не магла вярнуцца так хутка,— але дзе Наталля Міхайлаўна і дачка? Ці былі яны дома ўчора і пазаўчора? Можа, гэты замок вісіць на дзвярах ужо двое сутак?

Дзе яны? Чаму іх няма дома?

4

Ён узяў чамадан, падаўся на вуліцу, агледзеў яе ў адзін бок, у другі. Не мог сядзець больш, цярпліва чакаць. «Пагляджу, што робіцца вакол... Ды і час хутчэй пойдзе...»

За рогам вуліцы Аляксей убачыў мужчыну з нямецкім аўтаматам за плячом. Чалавек з аўтаматам раскідзіста, наўкась, як рэзалюцыю, пісаў вугалем на дзвярах будынка: «Занята пад магазін».

«Глядзі ты, які порсткі!» — не так здзівіўся, як пахваліў у думках Аляксей.

— Эй, каапаратар! — крыкнуў весела рослы, з тоўстымі шчокамі пехацінец, што праходзіў міма.— Што ж ты, душа з цябе, пішаш — «занята», тавару ж няма. Чым ты будзеш займаць яе, гэтую сваю «магазею»?

«Каапаратар» азірнуўся — у яго быў малады, гладка паголены твар — аптымістычна супакоіў салдата:

— Тавар будзе! Было б месца...

— «Будзе, будзе»! Калі гэта будзе, праз месяц? Ці праз год?

Аляксей, прайшоўшы некалькі кварталаў, яшчэ заўважыў два ці тры такія надпісы. Яму карцела вярнуцца дахаты. Але калі ён увайшоў на двор, там па-ранейшаму нікога не было. Каб чым-небудзь заняцца, ён, знайшоўшы цагліну, прысеў на ганку і ўзяўся прыбіваць да слупкоў адной ступенькі адарваную дошку. Праз некаторы час ён заўважыў, што з вуліцы да яго збочыла чарнявая жанчына.

— Аляксей! — ускрыкнула раптам яна, падбегла, абняла капітана і тройчы пацалавала.— А я думаю, хто гэта тут сагнуўся ды майструе, што за гаспадар такі знайшоўся. Аж і праўда, гаспадар.— Твар яе быў капітану знаёмы — гэту жанчыну ён да вайны бачыў не раз, але не мог прыпомніць, хто яна такая.

Аляксей усё ж вельмі ўзрадаваўся спатканню з ёю: як-ніяк, гэта знаёмы чалавек, першы знаёмы.

— Ну, які я гаспадар?.. Дзе Наталля Міхайлаўна — вы не ведаеце?..

— Яны тут... Толькі што былі тут... Вы, значыцца, размінуліся! Яны ж начавалі ў мяне, мы разам хаваліся. Вельмі ўсё баяліся, што гэтыя ірады пачнуць усіх забіваць... І дачушка твая жывая!

— Жывая?! — перапытаў Аляксей, быццам не верыў. Твар яго заззяў радасцю.— Як жа яе... зваць?

— Люда... Такі дачакаліся! Вось жа будзе радасць... Мы з Наталляй больш за ўсё і непакоіліся пра яе, Людачку. Сядзім з Наталляй у вішанніку, каля ямы, чуем, як грымяць выбухі. Наталля папраўіла хустачку на дачушцы тваёй, каб не стыла, і кажа: «Божа, колькі пакуты дзіцяці, ніводнага дня спакойнага не ведае за сваё жыццё!»

— Так,— Аляксей насунуў бровы на вочы.— Паспытала гора больш, як трэба...

Капітан запытаўся, ці не ведае яна, што з Нінаю.

— Ніна ў партызанах. Яна ўжо даўно пайшла... І Валька мая — ты, пэўна, яе помніш — там таксама...— жанчына раптам азірнулася.— Чаго ж мы стаім тут? Хадзем да мяне, пасядзім.

Неўзабаве Аляксей быў у яе хаце, што стаяла недалёка ад таго месца, дзе жыла Наталля Міхайлаўна, але на другой вуліцы. Нарэшце ён успомніў прозвішча жанчыны — Залеская; гэта была маці Валі Залескай. Аляксей прыгадаў і Валю, яе дачку, худую, смуглявую дзяўчынку, што калісьці паўз яго вокны хадзіла з партфелікам у школу.

Старая Залеская пачала была рыхтаваць яму абед, аднак Аляксей папрасіў яе:

— Не турбуйцеся, калі ласка. Я паабедаў, а вячэраць нешта не хочацца...

Надыходзіў вечар. Сонца, вялікае, вогненна-барвовае, хавалася за дах бліжняга будынка, падпаліўшы яго край. Здавалася, што дах вось-вось воймецца агнём. Водсвет сонца лёг чырвонымі квадратамі на сцяну, абклееную старымі квяцістымі шпалерамі. Залеская сказала: Наталля пайшла пашукаць каго-небудзь з таварышаў Ніны, даведацца, калі яна прыйдзе. Ведама, матчына сэрца неспакойнае.

— Я і сама хадзіла на Маскоўскую — думала, можа, у каго-небудзь з партызан выпытаю пра маю Вальку... Як пабачу партызана, падыду ды — адно: «Ці не ведаеце Валю Залескую?» — «Не, не ведаю». Ніхто не бачыў яе... А так хочацца даведацца хутчэй, што з ёй...

Тое, што Валі таксама пакуль няма дома, супакойвала Аляксея. Ён, вядома, шкадаваў, што Ніна не вярнулася яшчэ, але ў з'яве гэтай не бачылася яму нічога ненармальнага, што давала б якія-небудзь падставы для трывогі. Давала добрую надзею тое, што ён ужо знайшоў тыя яе сляды, якія раней былі нябачныя зусім яму. Ён, як ніколі дасюль, здаваўся, быў блізкі да яе. У гэты час ён, можна сказаць, больш непакоіўся пра Люду і Наталлю Міхайлаўну: пра тое, дзе яны, калі яны, нарэшце, прыйдуць?

Ён падумаў, што, можа быць, Наталля Міхайлаўна

ўжо вярнулася ў хату? Зрэшты, калі яна нават яшчэ не прыйшла, лепш за ўсё чакаць яе там,— як толькі яна вернецца, Аляксей сустрэне яе. Акрамя таго, седзячы тут, ён увесь час будзе думаць, што яны, мусіць, ужо дома...

Аляксей падняўся. Залеская адразу ж здагадалася пра яго намер, сказала:

— Ды вы не бойцеся. Яна не абміне мяне. У мяне ключ ад іх замка: яна прасіла, каб я назірала за хатай. Каб сустрэла, калі раптам зойдзе хто з вас... Асабліва спадзявалася, што Ніна прыйдзе. А можа, і праўда прыйдзе. Ды каб удзвюх з Валяю! Вось было б добра!..

Ён мімаволі прыслухоўваўся да крокаў, да галасоў, што чуліся звонку. За акном, па вуліцы, увесь час праходзілі, гаманілі людзі, галасы іх то набліжаліся і мацнелі, то пачыналі сціхаць, зноў набліжаліся і зноў адыходзілі. Аляксей не пераставаў прыслухоўвацца.

Калі на двор нехта ўвайшоў, ён адразу насцярожыўся. Залеская была ў суседнім, далейшым ад двара пакоі; седзячы адзін, ён добра чуў, як затупалі крокі па ступеньках ганка, як бразнула клямка ў сянечных дзвярах. Ён чуў усё, але не ўставаў. Не мог устаць. Адно нецярпліва глядзеў на дзверы. У пакоі было ўжо даволі цёмна. Але ён убачыў, як адчыніліся дзверы і паявілася, ступіла ў пакой жанчына з дзіцем на руках. Аляксей упоцемку пазнаў — яна, Наталля Міхайлаўна! Моцна хвалюючыся, узняўся насустрач.

— Божа мой! Хто тут? — сказала Наталля Міхайлаўна трывожна, нейкім здушаным ґоласам; здалося, што яна ўжо здагадалася, пазнала, хто ён.

Позірк яго вачэй памкнула да маленькай маўклівай дзяўчынкі, якую яна паставіла на падлогу. Дзіця, ледзь толькі пачула пад ножкамі падлогу, ступіла крок, другі. У гэты момант увайшла Залеская з запаленым каганцом, у святле яго малая ўбачыла раптам незнаёмага. Ураз спынілася, здзіўленымі, шырока адкрытымі вачыма ўглядзелася ў яго. Аляксея працяла: Люда. Гэта Люда!..

Маці Ніны дрыготнай рукой дакранулася да шыі, пацягнула ўніз вузел збітай з галавы хусткі, як бы ціснула горла. Нібы не верачы сабе, паглядзела на Залескую, потым на Аляксея, на яго раненую руку.

— Ты? Аляксей!

У гэты міг Аляксей востра, пранізліва-сумна заўважыў, як моцна яна змянілася, пастарэла.

Ён пайшоў насустрач ёй, парыўна абняў левай рукой, прыціснуў яе пабялелую галаву да сваіх грудзей. Нічога, нічога не сказаў. Дачка сачыла за імі пільным няўцямным позіркам, ціхая і, падобна, напалоханая.

— Колькі мы чакалі, Аляксей...— сказала горка старая, узняўшы галаву. У гэтых простых словах было столькі пачуцця, столькі гаркаты, што Аляксея, як агнём, апаліла.

— Добра, што гэта скончылася! — уздыхнула яна з палёгкай. Кінула трывожны позірк на нерухомую Аляксееву руку, на марлевую касынку.

— Што з рукою?!

— Так сабе — дробязь.

Наталля Міхайлаўна раптам схамянулася, узняла дзіця і з гонарам, з любоўю, як найдаражэйшы ў свеце падарунак, паднесла да яго.

— Вось дачушка твая... Люда.

Яна падала Аляксею дзяўчынку. Ён нязграбна ўзяў дзяўчынку на руку і стаў цікаўна, прагна ўзірацца ў яе тварык. Усё гэта было яму незвычайнае — і словы «вось твая дачушка», і сама яна, дачушка, бялявая, маўклівая, насцярожаная. Люда трывожна і даверліва чакала далейшага.

А ў яго на змену першай простай цікаўнасці прыйшло ўжо новае пачуццё — пяшчоты і нейкага болеснага, бацькоўскага жалю да гэтага роднага, такога кволага стварэння. Аляксей бачыў цяпер у ёй самага блізкага чалавека, усё ласкавей, пяшчотней туліў да сваіх грудзей.

Ён узняў яе вышэй і пацалаваў шчочкі. Яна паморшчылася, варухнулася недавольна, даючы знак, што хоча на волю, аб'явіла:

— Колецца...

— Патрывай, дачушка,— засмяяўся Аляксей і пацалаваў у другі раз.

Грудзі яго поўніла любоў да гэтай незнаёмай істоты, якую ён упершыню ўбачыў, але да якой доўга ішоў. Колькі дзён ён марыў пра гэту хвіліну!

Вось і спаткаліся!

# ЧАСТКА СЁМАЯ

## РАЗДЗЕЛ I

### 1

Аказалася, дабрацца да Мінска — задача нялёгкая. Не праехалі і паўгадзіны, як іх — яны ехалі на папутнай машыне з дывізіі Шчарбацюка — абстралялі з мінамётаў. Каб абмінуць небяспечнае месца, прыйшлося звярнуць з дарогі і прабірацца немалы час полем, па каляінах, толькі што выціснутых машынамі, цераз разоры і ямы.

Выбраўшыся зноў на торны шлях, яны пад'ехалі да рэгуліровачнага паста. Дзяўчына ў вайсковым адзенні, што стаяла сярод дарогі з карабінам за плячыма, узняўшы руку, загадала спыніцца.

Шафёр затармазіў. Ён зірнуў на грузавікі, якія ўжо тоўпіліся нерухома тут, і незадаволена кіўнуў галавою. Туравец, што сядзеў поруч, не зразумеў, чаго іх затрымліваюць,— напэўна, будуць дакументы правяраць. Да машыны, ляніва перавальваючыся з боку на бок, ішоў яфрэйтар.

— Эй, начальнік, ты чаму гэта семафор закрыў? — запытаўся шафёр у яфрэйтара, выскачыўшы з кабіны і вымаючы з кішэні штаноў капшук.

— Таму, што трэба! Часовая затрымка! Наперадзе перарэзана дарога.

— Дарога перарэзана...— шафёр спакойна насыпаў махоркі на цыгарку.— Эх ты, семафоршчык!

Значыцца, гэтыя грузавікі чакаюць, калі будзе вольны шлях. Туравец падышоў да яфрэйтара:

— Ну, а можа, ёсць які другі, вольны шлях... Скажам — у аб'езд?..

— Няма.

— Эх, каліна-маліна!.. А калі ж яна, гэта дарога, будзе свабодна? — пацікавіўся Шашура, які, вядома, не мог не ўмяшацца ў такую падзею. Цікаўны і зда-

гадлівы падрыўнік адразу, як толькі спынілі машыну, адчуў, што тут здарылася нядобрае.

— Калі адгоняць фрыцаў.

— А хутка іх адгоняць? — не адставаў Шашура.

— Пабачым...

Яфрэйтар абыякава адышоў убок, паказваючы сваім выглядам, што такія пытанні чуе не ўпершыню і што яму ўжо гэта надакучыла.

— Эй, браты-мсціўцы, прыйшоў загад — загарацьі — крыкнуў Шашура таварышам, што яшчэ сядзелі ў кузаве.— Можна прызямляцца!..

Ён расшпіліў пояс і лёг у прыдарожную канаву, у якой расла высокая запыленая трава; цяпер яго амаль не было відаць у траве. Туравец прысеў на жытнім узмежку, спусціўшы ногі ў баразну. Жыта пры дарозе было змятае, збэрсанае: па краі яго, відаць, робячы аб'езд, прайшла машына. На зямлі віднеліся глыбокія каляіны, у іх былі ўціснуты калоссе і сцяблiны. Сагнутыя ў прамежку між каляін сцяблiны ўпарта напружваліся, прагнулі выпрастацца. Цягнуліся ўгару, да блакітнага неба.

Жыта даспявала. Яно жаўцела мноствам пругкіх сцяблін, між якіх дзе-нідзе зелянелі павітуха і гарошак. Зямля была белая, прыбітая і абмытая дажджамі, высушаная сонцам.

Ад лёгкіх павеваў цёплага ветру жыта ледзь прыкметна шархацела. Шорхат гэты быў ясны, сухі, не такі зусім, як раней, калі жыта стаяла зялёнае,— у ім цяпер адчуваліся спёка і зморанасць...

Пад гэты знаёмы шорхат, мірны і велічны, слухаць які было асалодай, Туравец думаў пра сына, пра тое, як добра было б, каб удалося пабачыцца. Выпадкова пабачыцца — справа, канечне, амаль неймаверная, але Юрку ж вялікага розуму не трэба здагадацца пашукаць бацьку праз гарком. Як здорава было б пабачыцца, хоць бы на хвіліну! Думаў пра першыя справы ў вызваленым Мінску... Але думаць сёння пра гэта не хацелася. Чаго думаць? Усё даўно абдумана. Трэба пачынаць справу рабіць. Трэба брацца за працу, а ён вымушан сядзець. Сядзець,— калі Мінск зноў наш, калі ён, нарэшце, зноў вольны! Эх, бяда.

Што там цяпер робіцца ў Мінску? Толькі ён уявіў, як віруюць па-святочнаму мінскія вуліцы, як ідуць па

Савецкай войскі, уявіў тое, пра што столькі марыў і што мог бы ўжо сёння ўбачыць,— сэрца яго зашчымела ад крыўды. Тураўцу, калі ён у былыя часы думаў пра вызваленне Мінска, чамусьці заўсёды здавалася, што ён будзе ў гэты дзень у родным горадзе. А ён, як знарок, у такі дзень павінен загараць па дарозе ў горад, тырчаць тут, на гэтай нуднай, санлівай дарозе... Ён аж сціснуў зубы. І трэба ж, каб гэтак не пашанцавала.

Час цягнуўся марудна. Паліла моцна сонца. Туравец расшпіліў каўнер гімнасцёркі і лёг на спіну, накрыўшы твар, каб сонца не біла ў вочы, фуражкай. Спераду, куды бегла дарога, была чуваць нядружная страляніна.

Непадалёк у кювеце ляжаў Шашура. Каб не марнаваць час, ён скінуў пінжак і сарочку, падставіў палючаму сонцу сваю шырокую спіну. Лежачы поруч з шафёрам, апавядаў нейкую гісторыю з баявога лясного жыцця. Шашура пры гэтым даволі многа прыпляўтаў,— але выходзіла ўсё ў яго так складна, што Туравец, які звычайна не любіў хлусні, падумаў захоплена: «Як брэша, нягоднік!»

Туравец праляжаў з гадзіну. Потым не ўтрываў, зноў рушыў да рэгуліроўшчыка. Той сядзеў на ўзбочыне, па другі бок дарогі, і з нуды нешта вырэзваў на зялёным дручку складаным ножыкам.

— Ну, што новага, таварыш яфрэйтар? Не ачысцілі яшчэ дарогу?

— Пакуль усё па-ранейшаму...

— Эх, якая чартаўшчына! Колькі ж яшчэ тут валяцца!.. Да ночы, ці што?..— Туравец перайшоў на сяброўскі тон: — А можа, у аб'езд можна прабіцца? А?

— У аб'езд,— рызыкоўна...

— А ўсё-ткі можна?

Рэгуліроўшчык з прыкрасцю паклаў дручок, нядобра зіркнуў на Тураўца, але стрымаўся. Хоць Туравец гаварыў ветліва, па яго паводзінах, па голасу, у якім былі ўладныя ноткі, яфрэйтар, відаць, адчуў, што чалавек перад ім — не з радавых.

— Гадзіны дзве таму праскочыла адна група...— сказаў ён, на ўсякі выпадак узняўшыся. Але гаварыў і стаяў ляніва, атрэсваў штаны.— Як ім удалося — не

ведаю. Немцы там, хоць і не пры самай дарозе, ды вельмі прыстраляліся... Адным словам — рызыка, загадзей кажу...

— Рызыка, але, значыць — можна? Адна група прабілася, кажаш? А чаму ж другая не можа? Чаму ёй хоць бы не паспрабаваць, а?

2

Туравец усё ж нейкі час вагаўся: ехаць, не ехаць. Не мог рашыць, ці мае права рызыкаваць людзьмі. Але вялікая была нецярплівасць і была вера ў свой партызанскі вопыт. І бачыў нешта нягоднае іх у гэтым бяздзейным сядзенні тут.

Шафёр згадзіўся ехаць. Ён таксама спяшаўся дабрацца да Мінска, каб далучыцца да іншых машын дывізіі. Хлопец падружыўся з партызанамі, асабліва з жартаўлівым, вясёлым Шашурам, які нібыта цішком ад Тураўца пачаставаў яго «партызанскім зверабоем». Гэты «зверабой» аказаўся звычайнай самагонкай, але дружба Шашуры з шафёрам была замацавана. Да Тураўца, якога яшчэ ўсе звалі па прывычцы то камісарам, то падпалкоўнікам, які ведаў генерала Шчарбацюка, шафёр адносіўся нібы да свайго камандзіра.

Туравец вярнуўся да рэгуліроўшчыка, распытаўся пра дарогу, пра небяспечнае месца. Перад тым як выкіраваць у дарогу, паведаміў усім абстаноўку, загадаў быць напагатове. Мог бы пахваліць сябе за прадбачлівасць: ва ўсіх, хто ехаў з ім, была зброя.

Калі сеў у кабіну, аўтамат паклаў на калені. Грузавік крануўся і павольна пабег па дарозе. Туравец праз шум матора прыслухоўваўся да гукаў навокал, пільна ўзіраўся ў дарогу, у поле наперадзе і па баках.

Раптам грымнулі два блізкія выбухі. Снарады ці міны разарваліся на палосцы бульбянішча, за хмызняком, які бег поруч з дарогай,— там падняліся дзве хмаркі дыму. Мінула секунда — і снарад выбухнуў ужо на дарозе, зіхнуўшы агнём, што ўскінуўся зусім блізка наперадзе грузавіка. Машына, як бы наскочыўшы неспадзеўкі на сцяну, адразу стала. Туравец і шафёр выскачылі з кабіны, з кузава мігам пасыпаліся іншыя. Прыгінаючыся, аглядваліся, чакалі, што будзе далей.

Туравец загадаў залегчы ўсім пры дарозе, падрыхтавацца да бою.

Стралялі аднекуль зводдалек і, як цяпер было ўжо відаць,— мінамі. Яны са скрыгатам лажыліся наперадзе, пры самай дарозе; адна міна ўпала метраў праз восем у кювет,— асколкі з фырканнем праляцелі недзе вельмі блізка. Страляніну вялі, мабыць, з ляска, што віднеўся справа, кіламетры са два адсюль.

— Дарогі, здаецца, яму не відаць за кустамі. Пабачыў, мабыць, пыл ад машыны,— пачуў Туравец побач з сабою разважлівы голас Шашуры.— Тут такую хмару круціць за намі, што не толькі ў Мінску, а і ў Лепелі відаць. Ну і сухмень!

— Адным словам, павяртай аглоблі,— адгукнуўся скупы на словы шафёр, акідваючы вачыма поле пры дарозе, мусіць, глядзеў, дзе тут зручней развярнуцца.

«Няўжо і праўда, прыйдзецца вярнуцца? — думаў Туравец.— Эх, сілы ў нас тут мала — не могуць вытурыць фрыцаў з ляска. Вось бы сюды брыгаду ці хоць бы адзін атрад!»

А немцы, відаць, трымаюць дарогу пад абстрэлам толькі тут,— далей шлях, не інакш, вольны. Але ж бяда — аб'ехаць гэтае месца на машыне нельга, бо злева да самай дарогі падступае забалочаны луг... Шкада, машыну прыйдзецца адправіць назад...

— Будзем прабівацца пеша,— аб'явіў Туравец. Ён зірнуў на шафёра.— А табе, крыўдуй не крыўдуй, прыйдзецца, браток, паехаць назад...

— А можа, таварыш камісар, паспрабаваць яшчэ раз...— нечакана запярэчыў шафёр.— Няўжо так і нельга прарвацца? Быць не можа!

— Прарвёмся, таварыш камісар,— горача падтрымаў шафёра Шашура.— Яны гэта толькі тут! Выбраць момант ды — ірвануць! І схамянуцца не ўправяцца! Праскочым, каліна-маліна, клянуся!.. Дазвольце мне, таварыш камісар,— з шафёрам разам, а?

Шашура быў хуткі ў рашэннях, як заўсёды, калі ішоў насустрач небяспецы. Туравец не адразу рашыў.

— Добра, паспрабуйце. Толькі для пачатку трэба праверыць дарогу.— Туравец сказаў, што пройдзе з групай наперад, і, калі можна ехаць, дасць знак.

Яны прайшлі ўбаку ад дарогі кіламетр-паўтара, калі ад сустрэчных байцоў даведаліся, што далей да-

рога вольная. Туравец стаў махаць Шашуры шапкаю, што можна ехаць.

Шафёр ускочыў у машыну, націснуў нагой на старцёр:

— Ну, трымайся, друг!..

Немцы на час спынілі абстрэл. Але як толькі машына ўзняла пыл, міны зноў пачалі выбухваць на дарозе. Аднак шафёр вёў і вёў машыну праз грымотны заслон... Прыгнуўшыся да руля, упіўся вачыма ў дарогу, што ляцела насустрач,— загадзя ўзіраўся, ці няма варонкі, калдобіны на шляху.

Вось і свае! Машына прабегла яшчэ метраў сто, віскнула тармазамі і стала,— на яе паплыла, асядаючы, хмара пылу. Партызаны ўслед за Тураўцом пабеглі да грузавіка, палезлі ў кузаў.

Праехаўшы яшчэ некалькі кіламетраў, Туравец убачыў у бярозавых прысадах грузавікі, ля якіх сядзелі байцы.

Наперадзе, вельмі блізка, за ўзгоркам, па якім цягнуліся палосы жыта, гухала, ляскатала бойка. Шафёр спыніў машыну.

— Што, на Мінск? — запытаў Тураўца, які падышоў, каб даведацца пра абстаноўку, адзін з байцоў, што сядзелі пры машынах. — Эге, яшчэ адзін таварыш па няшчасці! Прыбывае нашых! Няможна на Мінск: дарога тут закрытая... Чуеце, як немцы трымаюць яе?

Ён кіўнуў у той бок, дзе чулася страляніна.

— Не шанцуе нам сёння, Шашура,— сказаў Туравец, нявесела ўсміхаючыся падрыўніку.

Пазіраючы на ўзброеных цывільных людзей, што ішлі ад машын, баец суцешыў:

— Ачысцяць... Да вечара будзе вольна...

## 3

— Ты Аляксей, так? — запыталася Люда.

— Аляксей...

Яна ўвесь час, спачатку крыху насцярожана, потым з цікаўнасцю пазірала сінімі вочкамі на свайго не бачанага ніколі раней бацьку. Найбольш вабіла яе белая марлевая касынка, на якой ляжала перавязаная рука,

ды бліскучыя зоркі на яго плячах. Да гэтых зорак ёй вельмі хацелася дакрануцца рукой, але яна не адважвалася.

— Не Аляксей, а — тата,— папраўляла яе бабуля.— Гэта яна чула, што я цябе называла Аляксеем... Татка твой, Людачка.

— Татка...— прамовіла Люда ўслед.

Аляксей узяў яе на рукі, пяшчотна прытуліў і асцярожна, каб не дакрануцца калючай шчакой, пацалаваў.

— Ух ты, маленькая мая, дачушка ты мая!

Заглядзеўся, якія светлячкі вясёлыя ў вачах дачушкі паблісківаюць, пераліваюцца. У гэты час яна засмяялася, кірпаты носік ля вачэй узяўся вясёлымі маршчынкамі. У смешных маршчынках Аляксей улавіў рысу Ніны. У той таксама нос браўся маршчынкамі, калі яна смяялася.

— Дачушка...— вымавіла Люда і засмяялася зноў.

Але ўсмешка хутка сышла з яе твару, маршчынкі ля вачэй разгладзіліся, і яна, нецярпліва варухнуўшы ручкамі і ножкамі, заявіла рашуча:

— Хачу да бабулі.

Люда зноў пясцілася на каленях у бабулі, тулілася шчочкаю да старой або церлася аб яе руку, як кацяня, і амаль нязводна сачыла за Аляксеем. Ён заўважыў, што ў гэтым позірку не было ні любові, ні пяшчотнасці, адно дзіцячая цікаўнасць і часам насцярожанасць. Не такімі вачыма яна глядзела на Наталлю Міхайлаўну.

— Дзічыцца... Не прывыкла да цябе... І да таго ж яшчэ напалоханая. А так яна вясёленькая і гаваркая таксама. У Ніну, напэўна, удалася.

Старая прытуліла да сябе бялявую Людчыну галоўку.

Аляксей паклаў партабак на стол, узяў з яго папяросу. Пстрыкнуў запальнічкай, але не закурыў,— нельга тут, дым папяросы зашкодзіць Людзе.

Ён выйшаў на ганак. Тут яго агарнула лагоднай цеплынёй пагодлай летняй ночы. Акінуўшы позіркам знаёмыя, паўзабытыя абрысы дамоў, дрэваў на вуліцы, зірнуўшы цяпер на слупы веснічак, каля якіх ён упершыню абняў Ніну, Аляксей падумаў радасна і нібы недаверліва:

«Няўжо я дома? У Мінску?» Ён прыгадаў сваіх таварышаў, і таксама дзіўным здалося, што сёння яны недзе без яго...

## 4

Ён прачнуўся і звыкла намерыўся адразу ўскочыць, але ўспомніў, што сёння спяшацца няма куды. Можна крыху паляжаць. Сонца было яшчэ невысока, аднак Наталля Міхайлаўна ўжо гаспадарыла ў кухні, адтуль чуўся трэск палаючых дроў. Аляксей не ведаў, калі яна легла і калі ўстала,— як бы яна і наогул не лажылася.

Ён спаў у сваім і Ніны пакоі. У пакоі, у якім яны да вайны жылі. Ляжаў на даўнім іх ложку. Ад таго, што навокал усё нагадвала пра светлае, даваеннае, Аляксея нейкі час поўніла светлае, бестурботнае адчуванне. Да гэтага вяло яго і тое, што ён пасля моцнага сну добра адпачыў, падужэў, што перад вачыма яго зіхцела шчодрае святло сонечнай раніцы. Абудзіўшыся, бесклапотны, шчаслівы, ён першыя хвіліны чуў сябе, як у тыя, здавалася, зусім недалёкія мірныя гады. Быў прывід, што вайна сышла, што ўсё вярнулася, усё стала, як у тыя гады. Вось толькі — Ніна прыйдзе. А яна — прыйдзе, і прыйдзе хутка...

Адсюль са свайго пакоя ён праз не зусім зачыненыя дзверы бачыў, як у суседні пакой увайшла Наталля Міхайлаўна, дастала аднекуль плацце. Стала ўважліва і пяшчотна разглядваць яго. Плацце было памятае: мусіць, хавала недзе ў патайной схоўцы. Можа, таму так і разглядвала яго: ці не папсавалася. Аляксей пазнаў: плацце было Нініна. Успомніў: гэтае светла-зялёнае плацце, на якім, нібы вясною ў садзе, весела цвілі бялюткія кветачкі, Ніна асабліва любіла. Ён расчулена, з пашанай падумаў: зберагла праз усю вайну, як дарагі скарб. Дачакалася, калі Ніна зможа надзець зноў...

Маці пяшчотна разгладзіла тканіну маршчыністаю рукою, уздыхнула і павесіла плацце ў шафу.

Раптам яна штосьці ўбачыла ў акно на вуліцу. Хапатліва падалася ў пярэднюю. Хутка Аляксей пачуў з пярэдняй голас Залескай. Залеская прывіталася, па-

добна, зазірнула ў суседні з Аляксеем пакой. Спытала трывожна:

— Ніны яшчэ няма?..

Даведаўшыся, што Ніна не вярнулася, Залеская паспакайнела.

— І Валькі маёй таксама няма! — У голасе яе дзіўна чулася радасць.— Відаць, пакуль не адпускаюць! У іх цяпер там начальства,— як скажуць ім, так яны і робяць! Хоць і партызаны, а парадкі — ваенныя...

— Няхай бы жанчын ужо не затрымлівалі! Мужчыны — тыя яшчэ могуць застацца, а нашто жанчын трымаць?.. Асабліва тых, у каторых дзеці дома... Ды і дзяўчат таксама! — паправілася Наталля Міхайлаўна, падумаўшы пра Валю.

— Ох, мая Валька, мабыць, засумавала па мне! Яна ж яшчэ дзіця, не раўня з тваёй...

Пагаманіўшы абы пра што, перш як развітацца, папрасіла:

— Наталля, калі прыйдзе твая, перадай мне адразу...

— Добра. Перадам...

Наталля Міхайлаўна выйшла разам з ёй на двор Аляксей ускочыў, падцягнуў да ложка боты, каб абуцца, але аказалася, што анучы некуды зніклі. Ён надзеў боты на голыя ногі, падаўся шукаць іх.

— Што ж так рана ўстаў — спытала, вярнуўшыся, Наталля Міхайлаўна.— Мусіць, я разбудзіла?..

— Не, я ўжо выспаўся...

— Анучы шукаеш? Я іх узяла памыць.— Аляксей, стараючыся не грукаць ботамі, пайшоў за ёй на кухню. Яна зняла з вяровачкі, што вісела ад сцяны да сцяны, пабялелыя, чыстыя анучы.— На вось, вазьмі!.. Я табе тут такую-сякую бялізну сабрала. На акне вось. Пераадзенься. А я тваю памыю.

Аляксей убачыў на акне старую, але чыстую бялізну. Ён успомніў, што Наталля Міхайлаўна, колькі ён ведаў, толькі тым і жыла, што клапацілася пра ўсіх, перш за ўсё пра Ніну і яго. Без гэтых клопатаў нельга было ўявіць яе жыцця.

Неўзабаве яна прынесла ў агульны пакой снеданне, запрасіла Аляксея за стол.

— От толькі Ніны не хапае...— сказала яна, пазіраючы на Аляксея.

Аляксей таксама ўвесь час чакаў Ніну. Ён, праўда, думаў, што Ніна, можа, і не прыйдзе сёння, на другі дзень пасля вызвалення: яна чалавек амаль ваенны, могуць затрымаць у атрадзе.

Калі паснедалі, Аляксей заўважыў, што старая пакінула частку снедання ў каструлі. Каструлю паставіла ў печ, прыгарнула жарам.

Раз-пораз старая пазірала ў акно, у якое было відаць багата вуліцы. Яе позірк быццам магнітам прыцягвала да шыб. Калі на дашчаным тратуары чуўся блізка стук крокаў, яна насцярожвалася.

Дзяўчынка рэзка павярнулася і скінула з сябе коўдру, палажыла на яе маленькую ножку. Аляксей яшчэ раней заўважыў, што спіць яна вельмі неспакойна. Ён схіліўся над ложкам, паправіў коўдру. Паправіў далікатна, баючыся неасцярожным рухам разбудзіць.

Дачушка спала на баку, выставіўшы наперад круглы падбародачак і кірпаты носік; твар яе з паўадкрытымі пухлымі губкамі быў бесклапотна-спакойны. Аляксей заўважыў цяпер, што шчочкі яе нездаровабляклыя, быццам не ведалі сонца і свежага паветра. Рука, што ляжала каля шчакі, была худзенькая, локцік завостраны, пальчыкі тонкія.

«Трэба падправіць дзяўчынку»,— падумаў ён з пяшчотаю і з жалем.

Люда ў гэты час пачала прачынацца. Павярнуўшыся, яна паспрабавала адкрыць вочы, але ад яркага святла адразу прыйшлося заплюшчыцца. Мабыць, яна ўсё ж заўважыла побач Аляксея, бо даверліва, шчасліва ўсміхнулася. Вейкі ледзь прыкметна затрапяталі.

Аляксей расчулена дакрануўся да яе бялявай галоўкі рукою. Быў бязмерна ўсцешаны яе ўсмешкаю. А Люда павярнулася на другі бок, потым на спіну, рашуча адкінула нагою коўдру і, нарэшце, прачнулася. Пацёрла кулачком павекі і стала глядзець на Аляксея, але цяпер ужо нездаволена, хмурачы ледзь прыкметныя залацістыя броўкі. Паклікала амаль са страхам:

— Баб...

Наталля Міхайлаўна была на двары. Аляксей нахіліўся да дачкі.

— Што табе, Люда?

— Баб! — паклікала дачка мацней, і Аляксей заўважыў, што яна глядзіць на яго спалохана, недаверліва. Як на незнаёмага чалавека. «Забыла»,— пашкадаваў Аляксей.

— Што з табою, унучачка?! — убегла ў пакой Наталля Міхайлаўна.

Ледзь яна, схіліўшыся над ложкам, пяшчотна прыгарнула малую да сябе, Люда супакоілася.

— Нічога,— адказала яна і строгімі, няласкавымі вачыма зірнула коса на бацьку.

— Не прывыкла яшчэ...

Старая сказала Аляксею такім голасам, нібы прасіла ў яго прабачэння.

Аляксей і не думаў крыўдзіцца: як жа інакш малая павінна адносіцца да невядомага чалавека? А ён пакуль для яе невядомы...

5

Неўзабаве ён выйшаў з дому: хацелася паглядзець, якім стаў цяпер цэнтр Мінска.

Калі ішоў па вуліцах, кінулася ў вочы: тут і там шчыравалі старанныя сапёры. Хадзілі з мінашукальнікамі, выносілі з дамоў, з сутарэнняў міны, скрынкі з толам.

Перад Домам урада, што быў агароджаны калючым дротам, ляжаў цэлы штабель толу і гара бомб, выцягнутых з будынка. Каля гэтага страшнага складу тоўпіліся ўзрушаныя мінчане,— адзін з іх сказаў, што вынеслі ўжо сто восемдзесят бомб і шэсцьсот пяцьдзесят кілаграмаў толу.

Аляксей пачуў, што ў горадзе ўзарвалася за гэтыя суткі некалькі дамоў, замініраваных мінамі замаруджанага дзеяння. У вялікіх дамах — гаварылі — баяцца людзі сяліцца.

Амаль на кожным пакінутым фашыстамі будынку чарнелі перасцярожлівыя надпісы сапёраў: «Увага! Мініраваны», «Мінны каранцін».

Тое, што Аляксей убачыў за гэтым, уразіла яго без меры. Ён прайшоў праз многія разбітыя, знявечаныя гарады, пабачыў даволі руін, але руіны Мінска здаліся страшней за ўсё, што ён бачыў. Такіх разбурэнняў Аляксей, здавалася, нідзе не бачыў. Хіба што ў Сма-

ленску. Малюнак, які адкрыўся, здаўся яму неймаверна жахлівым. Учора з батальёнам ён ішоў не ў самым цэнтры горада, па вуліцах, што былі больш-менш цэлыя. Ва ўсякім разе, падобны былі на вуліцы, тут жа ён убачыў такое, што ўявіць проста было немагчыма. Неймавернае гэта відовішча ўразіла яго тым больш, што ён ведаў, помніў, якім тут было ўсё раней. Ён усё ж спадзяваўся ўбачыць хоць бы нейкае падабенства таму, ранейшаму. Яго ж вачам адкрылася такое, чаму ён — проста не мог верыць.

Увесь цэнтр горада, вуліцы Камсамольская, Леніна, Энгельса, уся Савецкая, калісьці самая жывая, прыгожая, святочная, на якой амаль без перапынку зіхцелі з абодвух бакоў шырокія вітрыны і шыльды, цяпер быў адной агромністай, жахлівай руінай. Колькі бачылі вочы, абступалі яго вакол глыбы, горы бітага камення, запляснелыя, пароснлыя бур'янам, тырчалі абгарэлыя каміны, абломкі сцен. Нават пустых, мёртвых каробак будынкаў было мала.

На ўсёй даўжыні вуліцы Савецкай, акрамя Дома ўрада, быў яшчэ толькі адзін вялікі будынак — Дом Чырвонай Арміі.

Усярэдзіне цэнтральнага універмага праз пустыя вялізныя праёмы вокан віднеліся жалезабетонныя столі, што прагнуліся і абвіслі важкімі глыбамі і былі гатовы вось-вось рынуць уніз.

Чым больш Аляксей глядзеў на гэтыя страшныя могілкі, тым мацней гняла яго туга, гарачэй паліў гнеў. Гады, нелюдзі, што яны зрабілі з дамамі, з вуліцамі, з горадам! Што яны зрабілі з людзьмі, якія жылі ў гэтых дамах, на гэтых вуліцах, у горадзе! Але і гэтага ім было мала,— што ж яшчэ гэтае звяр'ё намервалася зрабіць?.. Гады, гады,— кляўся ў думках Аляксей,— я вам не дарую гэтага. Я вам прыпомню кожную вуліцу скалечаную, кожны разбіты дом, кожны каменьчык руін. Усё прыпомню. Вось толькі вярнуся ў брыгаду.

Усюды яшчэ былі відаць чужыя надпісы і шыльды; Аляксею хацелася ўхапіць якую-небудзь бляху ды пачаць саскрабаць гэтыя ненавісныя надпісы, зрываць і кідаць шыльды.

Адзіным, што ажыўляла вуліцы, былі ўзрушаныя, неспакойныя натоўпы людзей ды вайсковыя машыны, што каціліся па бруку, амаль усе на захад...

На вуліцах грымелі гучнагаварыцелі,— транслíравалася перадача з Масквы пра баі за Мінск.

Аляксей прыглядаўся да твараў сустрэчных, спадзеючыся ўбачыць каго-небудзь са знаёмых. Але яму пападаліся толькі незнаёмыя. Раней у Мінску ў яго было многа сяброў і знаёмых, адных ён добра ведаў, з другімі часам сустракаўся — на сходзе, на спектаклі ці проста на вуліцы. У такім горадзе, як Мінск, сустрэць знаёмага калісьці было лёгка. Цяпер жа ніхто з іх не трапляўся на вочы!

Дзе яны цяпер? Адны, канечне, так, як і ён, на фронце,— на розных франтах, іншыя ў эвакуацыі, многія, як і Ніна, не інакш у лясах. Нямала хто з тых, што вымушаны былі застацца тут, мусіць, загінулі як падпольшчыкі...

Многае-многае ў горадзе наводзіла на сум і горыч. Часам радасць у Аляксея амаль зусім сціхала, такое гора пякло. І ўсё ж агеньчык яе не тух нават у такія хвіліны. Сум, тура нават у гэтыя хвіліны не маглі зусім задушыць радасці ў душы: усё ж галоўнае — горад вольны! Ён будзе жыць! Яго ніхто не будзе больш катаваць. Ніколі. Гэты горад абяцаў пачатак іншага, шчаслівага жыцця. Абяцаў спраўдзіць самае дарагое — сустрэчу з Нінай.

Аляксей увесь час чуў у сабе яву гэтай хвіліны...

## РАЗДЗЕЛ II

### 1

Да бярозавых прысад пачалі раптам каціць машыны. Яны рушылі не па адной, а адразу цэлым патокам, і Туравец здагадаўся, што дарога ззаду цяпер вольная...

— Выгналі фрыцаў з лесу! — праз момант аб'явіў Шашура, што ўжо ўправіўся пагаварыць з шафёрам аднаго грузавіка.— Надвор'е праясняецца, таварыш камісар!..

— Мабыць, хутка і сюды падашлюць пяхоту,— сказаў Туравец.

— Факт! — падтрымаў Шашура.— Хіба ж можа

быць, каліна-маліна, каб дарога на Мінск была закрыта?!

Але мінула гадзіна, дзве, а пяхоты ўсё не было. Прагрымела адно некалькі гармат вялікай магутнасці — на гусенічным ходу, з кароткімі тоўстымі ствадамі. Толькі ўночы, пад самы золак, праехала каля дзесятка грузавікоў з пехацінцамі, боепрыпасамі і некалькі дзіўных крытых машын. Паявіліся нашы танкі, не спяшаючыся, прайшлі наперад, да размяшчэння немцаў.

Бой пачаўся ўранку. Абуджаны недалёкай страляніпай, Туравец раптам убачыў, як у сіняватае неба ўскінулася чарга нейкіх зыркіх, вогненных палос. Рассякаючы сінечу, вогненныя палосы крэслілі высокую дугу, імкліва, зацята ішлі ў невядомую далеч. Здавалася, што вогненныя струмені стараюцца перагнаць адзін аднаго. «Што гэта?» — здзіўлена і зачаравана глядзеў у неба Туравец. Ён упершыню бачыў гэта, але, помнячы даўнія расказы, здагадаўся: «кацюшы»! Вось вы якія, казачныя «кацюшы»! Ён з захапленнем слухаў, як недзе наперадзе часта і моцна грукаталі выбухі...

— Вось дык галасочак, каліна-маліна! Ад такога жаночага голасу проста душа ў пяткі просіцца!.. Скажы ты, аж тут зямля захадзіла.

— Жанчынка аўтарытэтная! — падтрымаў Шашуру Туравец.— Нічога не скажаш!

Сонца ўжо ўзнялося на вышыню бяроз, калі шафёры і вайсковыя, што стаялі каля машын і сядзелі на ўзбочынах, заварушыліся, забегалі, пачалі перадаваць каманды.

— Сядайце, мінчане! Едзем! — крыкнуў Туравец сваім.

Першыя грузавікі крануліся. Мінаючы белатварыя бярозы, пайшлі па дарозе. Следам за імі рушыла і ўся плынь машын. Наперад прамчаліся, падскокваючы на калдзінах, два легкавыя «газікі».

Хутка Туравец убачыў поле бою. Усюды былі відаць неглыбокія варонкі, акаймаваныя камякамі суглінку і супесі, і ўсюды ў перамятым жаўцеючым жыце, у кюветах, на сцежках за імі, а то і проста на дарозе — трупы, трупы, у мундзірах і без мундзіраў, часам густа, усутыч, навалам. Каля адной варонкі ў кювеце ляжалі мінамётная пліта без ствала і адарваная нага з запыленым ботам. Было раскідана многа роз-

нага ваеннага снараджэння — ранцы, кацялкі, шынялі, каскі. На павозках, кінутых каля купы алешніку, прысамай дарозе, ляжалі мяшкі, падобна — з мукой, цынкавыя патронныя скрынкі. Каля мяшкоў гаспадарылі некалькі пехацінцаў, зносілі іх на свой грузавік...

Мінуўшы гэтую мясціну, машына пайшла хутчэй. Цяпер ужо не было відаць ні трупаў, ні варонак, ні кінутых снарадаў,— насустрач бегла звычайная каляіністая дарога. Туравец узрушана ўзіраўся ўдалеч, чакаючы, калі з'явяцца знаёмыя абрысы горада, хоць і ведаў, што да Мінска яшчэ не менш як два дзесяткі кіламетраў.

Каля Абчака грузавік уз'ехаў на асфальт Магілёўскага шасэ, прыстроіўся між іншых грузавікоў, якія ішлі ў Мінск.

На ўскраіне горада, дзе пачынаўся брук, машына спынілася, таму што сталі пярэднія. Насустрач ішло некалькі грузавікоў, у кузавах якіх сядзелі салдаты. Туравец расчыніў дзверцы і, стоячы на падножцы сваёй машыны, стаў углядацца ў твары пехацінцаў, што хутка набліжаліся, міналі яго і аддаляліся. Групка за групкай, кузаў за кузавам...

Знянацку ў адным кузаве ён убачыў чалавека, які здаўся яму вельмі падобным да сына.

«Юрка?!»

Туравец ад нечаканасці не паверыў адразу, завагаўся, а калі памкнуўся гукнуць, машына ўжо адышла ад яго.

«Няўжо Юрка?!» Туравец верыў і не верыў. Пехацінец вельмі нагадваў сына, але хіба гэта не мог быць хто-небудзь іншы, падобны да яго,— бачыць жа хлопца давялося толькі міг. Да таго ж ён не ведаў Юрку ў вайсковым адзенні...

Ад сумненняў сваіх Туравец не заўважыў, як грузавік затросся на бруку.

2

Як ні гатовы быў, здавалася, Туравец да сустрэчы з цяперашнім Мінскам, усё адгукалася ў ім цяжэй, чым ён думаў загадзя.

За сялянскага ўзору хатамі ўскраіны, над якімі

вайна нібы злітавалася, пайшлі відовішчы, на якія немагчыма было глядзець спакойна. Пустыя, чорныя выгары, пачвары руін, здані спаленых будынкаў. Абапал вуліцы Свярдлова ішлі толькі задымленыя мёртвыя сцены ды горы цэглы. Горы цэглы ды шкілеты дамоў... Ніводнага жывога дома...

Тут ішоў шлях з Гомеля, з поўдня, на Брэст, і па вуліцы рушыла даволі многа войск. Іх мэтанакіраваны рух, разнастайныя праявы жывога руху войск нібыта давалі подых жыцця і вуліцы. Але ўсё ж выгляд пачварных гарбоў камення, з мёртвых шкілетаў будынкаў, гнёў, паліў. Гэта бяда была в няўцішным шкадаваннем, што, можа быць, размінуўся з сынам.

Будынак гаркома знайшлі даволі скора. Між некалькіх спыненых сустрэчных адзін і сказаў, дзе цяпер гарком. Ля будынка гаркома Туравец паціснуў руку салдату, які так багата зрабіў для яго і ўсёй групы. Шашура, як друг, абняў шафёра, загадаў пісаць. Людзі Тураўца, радуючыся, што дабраліся, нарэшце, разміналіся, голасна гаварылі, азіраліся навокал. Разглядвалі ўцалелы дом. Ледзь не адзін цэлы дом на ўсёй вуліцы...

Яшчэ да таго як увайшоў у будынак, Туравец адзначыў: тут працавалі ўжо. Вокны, большасць іх, былі расчынены, у вокнах былі, штосьці рабілі людзі. У калідоры Туравец, хвалюючыся, агледзеўся: ці не чакае хлопец у вайсковай форме, які паважна і збянтэжана ступіць насустрач. «Вось і я, тата!..» Хлопца не было відаць...

Першым са знаёмых, каго Туравец убачыў, была пажылая жанчына, з шырокім тварам і маленькім кірпатым носам, з прыгожымі бялявымі валасамі.

Яна да вайны працавала інструктарам аднаго з мінскіх райкомаў, і, хоць калісьці яны ведалі адзін аднаго мала, Туравец узрадаваўся сустрэчы з ёй так, быццам спаткаў дарагога друга.

Туравец ад яе даведаўся, што гарком пачаў працаваць сёння, што Рогаў ужо тут, што прыехаў ён яшчэ ўчора, прарваўся з армейскімі часцямі.

Яна прыехала з Нова-Беліцы са спецгрупай. На трох машынах, на чацвёртай везлі розныя рэчы і харчы. Увесь час былі разам з войскамі. Дабірацца было цяжка: на пераправах амаль усюды даўжэзныя чэргі, на дарогах цэлае разводдзе машын, вайсковай тэхнікі.

Яна сказала, дзе Рогаў. Убачыўшы Тураўца, Рогаў, зашпільваючы верхнія кручкі генеральскага кіцеля, падышоў да яго і моцна, па-сяброўску абняў.

— Даўно мы не бачыліся, Нічыпар! — ён выпусціў Тураўца з абдымкаў, і ў стомленых вачах пад густымі чорнымі бровамі заблішчала радасць: — Вось добра, што прыехаў! Работа тут цябе чакае! З самай раніцы... Дарэчы — я не мог папярэдзіць,— бюро рашыла даць табе аддзел кадраў гаркома. Загадчыкам аддзела — рашылі...

— Прызнацца, не чакаў,— здзівіўся Туравец.— І, канечне, адразу ж — за справы?

— А калі ж? Неадкладна. Запазніўся ж. Чакалі ж цябе ўчора, таварыш загадчык аддзела кадраў...

І Рогаў папрасіў Тураўца расказаць, якія людзі прыехалі з ім, дзе могуць працаваць з карысцю.

— Сядай тут поруч і давай спіс. Возьмемся за справу!..

І тут прытоеная нецярплівасць штурхнула Тураўца спытаць: ці не заходзіў выпадкам сын. Гаворачы з Рогавым, ён мімаволі чакаў, што той вось-вось зірне цёпла, па-братняму і аб'явіць: «Аг-га! А ведаеш, тут толькі што быў... Ага! Чакае!..» Але Рогаў не казаў гэтага...

Прысеўшы за стол, накрыты сіняй маскіровачнай паперай, папярэдне памеркавалі, каго з партызан куды трэба паслаць.

— Як будзем, па адным выклікаць ці... усіх адразу?

— Кліч усіх... Гэта ж іх і твая апошняя партызанская сустрэча. І першая мірная нарада! Да таго ж няхай паглядзяць, колькі для нас, камуністаў, тут працы. Хай паглядзяць на сваё месца адсюль, з гэтага КП...

— Так, ім карысна будзе пабыць тут разам... Зараз паклічу.

Партызаны набліжаліся да дзвярэй гаварлівым натоўпам, але, уваходзячы ў пакой, прыціхалі. Вітаючыся з Рогавым, часцей за ўсё — па пачыну Шашуры — спачатку па-ваеннаму казыралі і толькі пасля таго як сакратар працягваў руку, паціскалі яе «па-цывільнаму».

— Прашу сядаць, таварышы. Ды бліжэй! — Рогаў пазіраў, як партызаны, стукаючы, шоргаючы стуламі і табурэтамі, уладжваліся перад яго сталом і крыху да-

лей, каля сцяны.— Усім хапіла месца, здаецца?.. Тады, каб не марнаваць часу, пачнём...

Так, гэта была яшчэ як бы партызанская сустрэча, што збоку амаль нічым не адрознівалася ад якой-небудзь нарады перад баявой аперацыяй. Партызаны яшчэ звычайна, калі іх пытаў Рогаў, станавіліся смірна, адказвалі чотка, залішне голасна. Але самі людзі і нават Туравец гэтага не заўважалі,— іх хвалявала і радавала іншае, нязвычнае, што прымушала ўсіх, хто сядзеў у гэтым кабінеце, адчуваць сябе па-асабліваму, па-святочнаму, нават урачыста.

Рогаў кожнага распытваў пра даўнія мірныя спецыяльнасці, пра тое, што звычайна было толькі ў памяці, у мінулым або хіба ў марах... А самае хвалюючае падыходзіла тады, калі сакратар гаркома гаварыў:

— Гарком рашыў накіраваць вас на працу...

І тады людзі неймаверна, дзівосна перайначваліся: хто станавіўся дырэктарам электрастанцыі ці — школы, хто — начальнікам пашпартнага стала, хто — загадчыкам аддзела камунальнай гаспадаркі. Уставалі, калі сакратар гаркома выклікаў іх, партызанамі, а сядалі зноў на свае месца мірнымі начальнікамі...

«Загадчык аддзела! — здзіўляўся Шашура.— Быў разведчыкам, а цяпер загадчык аддзела камунальнай гаспадаркі. І трэба ж, каб такую пасаду далі разведчыку!.. Э, дарэчы,— схамянуўся падрыўнік,— трэба заўтра забегчы да яго, папрасіць хоць пакой! Дасць ці не дасць? Ліха яго ведае, якім ён сябе пакажа на гэтай новай пасадзе... Павінен даць, душа з яго!» — падрыўнік прыгадаў Аксінню, уявіў сябе з ёю ў гэтым будучым пакоі,— і ў грудзях яго прыемна пацяплела.

Не першы раз, але цяпер асабліва моцна неспакойнага падрыўніка захапіла праблема: а куды ж яго пашлюць! У арцель да слесараў ці сталяроў? На начальніка пашпартнага стала ён, напрыклад, не падыдзе — вельмі вёрткі. Там трэба сядзець многа... Шашура такім спосабам перабраў некалькі пасад, як паклікалі да стала яго.

— Табе, Шашура, прыйдзецца заняцца арганізацыяй харчавання,— сказаў яму Туравец, што памагаў сакратару гаркома.— Будзеш дырэктарам сталоўкі. На заводзе «Ударнік». Якая твая галоўная задача? Даць

харчаванне рабочым, служачым. Справа вельмі пачэсная!.. Памяшканне...

Туравец зірнуў на сакратара гаркома. Той устаў з-за стала і загаварыў да Шашуры:

— Памяшканне ёсць. Праўда, таварыш Шашура, трэба будзе яго падрамантаваць... Шыб ні адной. Тынк абваліўся... Трэба будзе знайсці мэблю, посуд. Мэблю, дарэчы, можна ўзяць у забягалаўках, якія тут працавалі... У кінутых кватэрах... Там і посуду нямала... Вы, канечне, добра ведаеце, што поспех найперш залежыць ад людзей. Пашукайце добрых кухараў, падбярыце праворных афіцыянтак... Прадукты дадзім, але першымі днямі, пакуль не наладзім падвоз, вы атрымаеце іх вельмі мала. З тых складаў, што ўдалося захапіць... Адным словам, патрэбна добрая гаспадарлівасць, ініцыятыва. Ну, вядома, і знаходлівасць партызанская!.. Так, так — знаходлівасць! Не здымайце яе з узбраення... Ну, вось усё. Задача, па-мойму, ясная? Ясная. Тады — астаноўка за вамі.

— Калі можна што-небудзь зрабіць, таварыш сакратар, за мной астаноўкі не будзе...

— Пабачым...

Так былы падрыўнік атрымаў першае мірнае заданне.

## 3

Калі партызаны разышліся, Рогаў правёў Тураўца і паказаў загадчыку аддзела кадраў яго «кабінет». Гэта быў даўгаваты пакойчык з адным акном, ля акна стаяў стол і два табурэты, а ля сцяны — зеленаватая нямецкая шафа. Пакойчык быў чыста вымецены і нават памыты. Застаўшыся адзін, Туравец выйшаў і хутка вярнуўся з рэчавым мяшком і курткаю.

Павесіўшы куртку на цвічок, а мяшок тыцнуўшы ў куток, ён падышоў да акна, паглядзеў на асветленую сонцам вуліцу, на пустыры з абодвух бакоў яе. Расчыніў акно...

Трэба пачынаць. З чаго? Ён ведаў, з чаго: гораду патрэбны і дырэктары заводаў, і інжынеры па электрычнасці, і добрыя фінансісты, і старшыні арцеляў, і

клубныя работнікі. Дзесяткі важных устаноў і прадпрыемстваў чакаюць людзей...

Чакаюць. Але людзей гэтых пакуль — на бяду — мала. Вельмі мала. Амаль няма...

Туравец пачуў, што ззаду расчыніліся дзверы, і азірнуўся. Азірнуўся хапатліва, з надзеяй. Не думаючы яшчэ, чакаў: хлопец у вайсковым адзенні. «Вось я, тата!..»

— Выбачайце,— сказаў, уваходзячы, хударлявы, прыгожы, немалады чалавек.— Думаў, што нікога няма. Не пастукаў... Голуб, урач...

— Помню вас, таварыш Голуб. Добры дзень! Вы ў мяне — першы, значыць, самы пачэсны госць...

Туравец не толькі не таіў, але ўсяляк паказваў, як ён рады «самаму пачэснаму госцю». Абняў за плечы, хутчэй падаў крэсла, пасадзіў. Ззяючы, глядзеў: як здорава, што сустрэліся!

Пацікавіўшыся, дзе ўрач рабіў у вайну,— аказалася, у партызанскім шпіталі,— ахвотна, па-братняму падзяліўся ўспамінамі. Пазней ужо, многа пазней, запытаў, чым думае пачэсны госць заняцца цяпер. Аказалася, Голуб думае заняцца практыкай: лячыць вушныя хваробы. І пісаць дысертацыю.

Туравец з ухвалай ківаў галавою.

— Дысертацыю?

— Так-так, дысертацыю. Абавязкова. Мне ўжо даўно трэба было напісаць яе, ды, ведаеце самі — вайна...

— Так, дысертацыя — добрая справа,— падтрымаў Голуба Туравец.— Матэрыял цікавы, праўда?

— Многа цікавага накапілася. Тры гады як-ніяк...

— Вопыт, не інакш, найбагацейшы!

— Багаты!

— Гэта добра, вельмі добра! — пахваліў Туравец.

І такім жа лагодным, зачараваным тонам раптам запытаўся:

— А ці не ўзяліся б вы, таварыш Голуб,— часова, канечне,— за такую справу: загадваць аддзелам аховы здароўя, а? Часова, паўтараю, пакуль не знойдзем другога. Вельмі патрэбная справа! А?

— Патрэбная,— згадзіўся ўрач.

— Вельмі патрэбная! — падхапіў Туравец, тым прыяцельскім тонам, у якім былі і давер'е, і ўпэўне-

насць у падтрымцы, і пры якім субяседніку, ведаў Туравец, цяжка станавілася адмаўляцца.— Нават — неабходная!

Голуб спахмурнеў, задумаўся і адказаў, як бы просячы выбачэння, што не можа ўзяцца за гэтую справу.

— Чаму?

— Не магу. Не справулюся.

— Вы не справіцеся? Я, прызнаюся, не веру ў гэта.

— Як гэта не верыце?

— Не веру, што вы не справіцеся! Адзінае, што я адчуваю з вашага адказу, будзем гаварыць шчыра: вы не хочаце мяняць сваіх планаў... так? — Туравец узняўся.— Я, Ціхан Сяргеевіч, разумею ваш настрой! Пісаць дысертацыю, аб якой столькі год марылі... Больш таго, я лічу, што вы маеце на гэта поўнае права! Але,— загаварыў адкрыта, сардэчна Туравец,— гораду, людзям патрэбны работнікі, асабліва на некаторых, вельмі важных участках. Горад, не вам казаць, абрабаваны, скатаваны. Ён як ранены, небяспечна ранены чалавек! Як арганізм, у якога паралізаваны важныя органы. Іх трэба хутчэй ажывіць, вярнуць ім сілу! Вы ведаеце гэта! Таму патрэбны людзі. Вельмі патрэбны, да зарэзу! У тым ліку і там, куды мы хочам вас паслаць. Там сёння-заўтра павінен быць належны чалавек, інакш сарвецца жыццёва важная справа... Мне проста няёмка казаць вам, што наладзіць медабслугоўванне трэба як мага хутчэй! Чым раней, тым лепш!.. У Мінску цяпер тысячы хворых і скалечаных, вы разумееце?..

Туравец неспакойна прайшоўся. Голуб маўчаў. Цяжка, збянтэжана прамовіў:

— Вы так гаворыце, быццам я абавязаны пайсці.

— Так, вы не памыліліся. Я лічу, што вы, Ціхан Сяргеевіч, абавязаны пайсці,— пераканана сказаў Туравец.— Калі вы адчуваеце, у якім становішчы горад — а вы адчуваеце гэта,— і калі вы ведаеце важнасць вашай працы, вы павінны пайсці!..

Голуб доўга апраўдваўся, спрачаўся, тлумачыў свае намеры. Калі ён нарэшце згадзіўся, Туравец правёў Голуба на гутарку да Рогава. Рогаў, аказалася, таксама добра ведаў Голуба, і з першых хвілін Туравец адчуў, што сакратар гаркома ўхваляе яго выбар. Пасля гутаркі з Рогавым Туравец расказаў Голубу, як

знайсці старшыню гарсавета, каб з'явіцца да яго, дамовіцца пра ўсё, што датычыць працы. Падаўшы руку, развітваючыся, Туравец загаварыў інакш, і падбадзёрваючы, і вінавацячыся:

— Прыйдзе час — будзеце пісаць! Што ж зробіш,— давядзецца пакуль пачакаць! А падшукаем іншага чалавека — годнага! — адпусцім!.. З гонарам!.. Калі, канечне, вы потым захочаце! — пажартаваў Туравец.— Толькі ўмова, Ціхан Сяргеевіч,— да той пары працаваць па-сапраўднаму. Ніякай скідкі на тое, што мала вопыту ў кіраванні, не будзе. Не дадзім спуску!

— Ну, ды ўжо, калі ўзяўся... то спуску не трэба!

У гэты час у пакой ступіў чалавек у вайсковай форме, але без пагонаў. Адзенне яго было моцна запылена,— відаць, чалавек прыйшоў сюды проста з дарогі, і з дарогі няблізкай. Падарожны адразу пакіраваў да Тураўца.

— Міхалап,— адрэкамендаваўся ён, сочачы за выразам твару Тураўца: помніць ці не?

Туравец успомніў, узрадавана, ад душы паціснуў руку.

— Які вецер занёс сюды? З партызан? Не, ты нешта больш нібыта на ваеннага падобны...

— Ваенны! Са шпіталя выклікалі ў распараджэнне ЦК КП(б) Беларусі. А адтуль — сюды... За наступаючымі войскамі. Можна сказаць, з другіх эшалонам. А ты?

— А я? Ат, што я! У лесе ўсё быў...

— Ну-ну, па-ранейшаму ўсё любіш скромнічаць?.. Ага,— успомніў Міхалап,— дарэчы, кіламетраў восемдзесят падвёз твой сын...

— Юрка?!

— Юрый Туравец. Сержант.

Туравец накінуўся на Міхалапа з пытаннямі, дзе гэта было і як ён, сын, цяпер, ці казаў што-небудзь. Як трымаецца, якім здаўся ў ваеннай абстаноўцы. Туравец быў шчаслівы, пачуўшы, што сын дзейнічае, як трэба, годны сын. Таварышы паважаюць.

Стрымаў сябе: запытаў, дзе давялося быць Міхалапу за гады вайны. Ён слухаў расказ пра гэта з захапленнем — слаўны шлях прайшоў зямляк: абараняў Севастопаль і Сталінград, вызваляў многія гарады.

Біяграфія яго, Тураўца, у гады вайны куды бяднейшая...

Так, недарэмна ў ЦК даручылі Міхалапу кіраваць станказаводам. Туравец са спачуваннем паведаміў, што завод, адзін з самых вялікіх некалі ў горадзе, амаль поўнасцю разбураны. Міхалап, аказалася, ужо ведаў: у ЦК сказалі. Ведаў ужо, куды пасылаюць. Па тым, як ён ставіўся да гэтага, Туравец адчуў: Міхалап гатовы на ўсё, моцны чалавек. Такі, можна спадзявацца, наладзіць справу... Ён зайшоў да Рогава, сказаў пра прыход Міхалапа, пра размову з ім. Сакратар гаркома захацеў сам пагутарыць.

Аб чым гаварыў Рогаў з Міхалапам, Туравец не чуў, яго чакалі наведвальнікі, і ён адразу вярнуўся ў свой пакой.

Жанчына год трыццаці,— яна да вайны была настаўніцай біялогіі,— камечачы ў руках даўно паблеклы капялюшык, гаварыла няўпэўнена:

— Я да вас, таварыш, за парадай: што рабіць? Хутка верасень, а ў нас у школе ніводнай парты, ніводнага падручніка.

Тураўца цешыла, што настаўніца непакоіцца пра тое ж, што і ён. Відаць, насумавалася па любімай справе, зачакалася!

— Так, верасень ужо блізка... Праляціць паўтара месяца — і зноў малыя натоўпамі, з кніжкамі, са сшыткамі паплывуць, як ручайкі ў рэкі, да школ. Зазвіняць званкі... Даўно, даўно я не чуў школьных званкоў! Прыйду першага верасня да школы, спецыяльна прыйду, стану і буду слухаць званок!..

— Дык, значыцца, першага верасня... пачнецца?

— Абавязкова! Гарком зробіць усё, каб пачаць у час. Перадайце гэта ўсім настаўнікам... Скажыце, што нам — і дзецям — патрэбна ваша дапамога, настаўнікаў. Якая? Зараз скажу... У школах пакуль, ясна, цяжка будзе з падручнікамі: каб надрукаваць іх, патрэбен час. Адразу не надрукаваць тысячы, праўда?

— Праўда,— кіўнула настаўніца.

— Таму трэба абысці ўсіх вучняў, сабраць даваенныя падручнікі, што ўцалелі... У хуткім часе будзем рабіць улік дзяцей школьнага ўзросту. Тут мы таксама будзем прасіць настаўнікаў памагчы...

— Ды я... ды мы — хоць сёння! — не ўтрывала на-

стаўніца. Голас яе задрыжаў: — Мы столькі чакалі гэтага! Аж не верыцца... што зноў усё...

Яна ледзь не заплакала. Стрымалася. Раптам устала і захапалася развітвацца, быццам некуды спяшалася.

Пасля яе ўвайшоў стары мужчына, спытаўся, куды пісаць, каб даведацца пра лёс сваіх сыноў... З якімі толькі пытаннямі не прыходзілі ў гэтыя дні ў гарком!

4

Наведальнікаў больш не было. І хлопца ў вайсковай форме не было. Так і не паявіўся Юрка. Няўжо там, на дарозе, быў-такі ён? І размінуліся так недарэчна?

Туравец прайшоўся па пакойчыку, заўважыў у кутку свой мяшок з рэчамі. Адчыніўшы пустую нямецкую шафу, паклаў туды.

Акно было адчынена, і ў пакой плыў цёплы летні вецер, часу ад часу ўрываўся то стук капыт, то гурчанне вайсковага грузавіка.

Прыйшла знаёмая, якую ён спаткаў тут першай. Пасміхваючыся па-дзіцячаму шырока, напомніла Тураўцу:

— Нічыпар Паўлавіч, пра масы ты не забыўся? Не трэба адрывацца ад мас! Масы чакаюць вашага слова!..

— Гэта я з прыемнасцю. Хоць зараз,— адказаў Туравец.— Толькі скажы куды? Вядома, не на фабрыку і не ва ўстанову?.. Здагадваюся: мусіць, проста — на вуліцы?

— Ты адгадаў — проста там, дзе збярэцца дзесятак-два мінчан...

— Як у першыя дні рэвалюцыі! Ажывае гісторыя...

Перад тым як пачаць выступленне, Туравец захацеў лепш пабачыць горад. Ён жа бачыў яго пакуль зусім мала. Не бачыў дасюль, можа быць, самага неабходнага, таго, пра што столькі разоў думаў у лесе. Куды зваў яго абавязак, неадменны і сардэчны. Дом, дзе загінула жонка, Зося. Дзе абарвалася ўсё тое, даваеннае...

Перш за ўсё ён пайшоў туды, на Ленінскую — дзе, побач з будынкам Камунбанка, што адной сцяной вы-

ходзіў на вуліцу Карла Маркса, жыў да вайны. Вось ён, дом яго, сем месяцаў даваеннага яго жыцця. Уцалелая скалечаная сцяна і балкончык,— балкончык з вазонам. Дома няма, абваленая, зляжалая цэгла. Пачварны горб цэглы, з-пад якога з цяжкасцю адкапалі мёртвую, раздушаную яе. Дома няма, дом абрынуўся. А сцяна стаіць, востра ўрэзваецца ў неба. Як страшны помнік жонцы. Сцяна і балкончык. І — вазон. Усё гэта раптам так ярка нагадала няшчасны, далёкі дзень і яе аблічча, што грудзі Тураўца апаліла пякучым, нясцерпным болем. Эх, Зося, Зося!

Доўга ішоў ён, прыгорблены, невідушчы, з пякучым гэтым болем і тугою, з бурай нахлынулых успамінаў. Адзінай уцехай было яму тое, што вось ён, побач з ёй. Што зямля, дзе яна жыла і дзе пахавана, ужо вольная.

Ён ішоў і ішоў у моцным тужліва-нервовым узрушэнні. Абломы сцен, пустыя, мёртвыя праймы вокан, высачэнныя, дзікія каміны. І горы бітай цэглы, пазелянелыя, учарнелыя, на многія кварталы. Усё, што траплялася на вочы, бачылася яму праз тугу, што важка лягла на сэрца там, ля былога яго дома.

На вуліцах было ціха і амаль пуста. Ён нібы праз завалоку пазіраў на сустрэчных. Раз-пораз дзіўна чакаў: ці няма знаёмых? Знаёмых не было.

У горы сваім ён, як бы прарываючыся з пакуты, важка глядзеў на тое, што праходзіла перад вачыма. Горад быў страшэнна брудны, завалены розным пакіддзем. Абрыўкі паперы, бітае шкло, бутэлькі, розная дыхляціна, дрот — чаго толькі няма на бруку! Ледзь не на кожным кроку выбоіны, ямы. А калі толькі варухнецца вецер,— хмары пяску і пылу... Да чаго давялі, гады!

Ён прайшоў па Савецкай, спусціўся па Камсамольскай на Нямігу, дзе было бруду яшчэ больш, падаўся па вуліцы Мяснікова. Убачыў каля помпы, што стаяла там, дзе пачыналася вуліца Розы Люксембург, доўгую чаргу людзей. У горадзе не працаваў водаправод...

А чаму яму не пачаць «размову з масамі» якраз тут? Тут — салдацкія маткі, заўтрашнія работніцы, служачыя, прадаўцы магазінаў, чыгуначнікі. Ён падышоў да чаргі.

— Ці няможна ў вас напіцца?

— Ды чаму ж! Калі ласка...— яму падалі карэц з

вадою; у тыя дні каля кожнай калонкі можна было знайсці корчык: часта падыходзілі напіцца байцы.

— Папіў — нібы паздаравеў...— ён атрос з гімнасцёркі некалькі пацерак — кропель вады.— Цэлая праблема — вады напіцца! Хто б падумаў... Не ведаю ўжо, як таму, каму на сям'ю патрэбна некалькі вёдраў у дзень?

Жанчына, што была праз два чалавекі ад Тураўца, махнула рукою.

— Як? Вось так і стаім... Цэлымі гадзінамі стаяць прыходзіцца...

Другая панура адгукнулася:

— Гэта што, тут хоць дастаішся. А хлеба дзе, дзе дастанеш? Чацвёрты месяц хлеба амаль не бачу...

— Нічога, нашы прыйшлі — хлеб будзе.

Сівы чалавек, у старой салдацкай гімнасцёрцы, з чырвоным вядром, сказаў, што ўсё адразу не адновіцца — вунь якія руіны. Амаль усё прыйдзецца пачынаць спачатку.

— Хутка многае зменіцца! — цвёрда заявіў Туравец. Ён сказаў, што ўжо сёння пачынае працаваць хлебазавод «Аўтамат».

— Хлебазавод? Дык яго ж, мусіць, узарвалі?

— Спаліць хацелі. Ды не выйшла ў іх... Факельную каманду каля завода сустрэлі такім агнём, што яны — хто куды... Падпольшчыкі выратавалі, Валодзя Нядзельцаў з сябрамі.

— Вось малайцы!.. Дык, значыцца, цэлы. І хлеб будзе?

— Будзе.

Гэтая вестка адразу ж пайшла па чарзе, людзі захваляваліся.

— Хто гэта гаворыць? Адкуль ён тое ведае?

— Значыць, ведае.

Людзі пачалі акружаць Тураўца. Неўзабаве нехта пазнаў у гэтым нізенькім шчуплым чалавеку з плецівам чорных валасоў, з цыганскімі вачыма былога сакратара суседняга райкома.

Усе аж сцінал дыханне, калі слухалі пра тое, што будзе зроблена ў горадзе бліжэйшымі днямі. Перабівалі нецярпліва:

— А ці хутка пачне працаваць пошта... Ці можа ўжо дяпер дайсці сюды, скажам, з фронту пісьмо?..

— А ці зусім ужо размініравалі Дом урада? І што — не ведаеце — рабіць з мінамі, якія валяюцца на агародзе? Як бы дзеці не падарваліся!..

— А дзе цяпер немцы? Ці далёка ад Мінска?

— Ці будзе можна дзе-небудзь купіць абутак? Босыя ходзім, аж сорам...

— А ці не ведаеце, дзе знайсці дзіцячага доктара?..

— Няўжо не злавілі гэтага гада Готберга? От, каб злавілі ды прывезлі сюды!

Некалькі чалавек пыталіся пра становішча на фронце. Адказаўшы тым, хто цікавіўся зменамі ў Мінску, Туравец пачаў гаварыць пра самае хвалюючае — фронт. Там, на фронце, сыны, бацькі, браты, якіх чакаюць ужо тры гады. Весткі пра падзеі на фронце слухалі са слязамі радасці, як весткі ад блізкіх і як падтрымку надзеі, што праклятыя фашыст больш не вернецца.

— Многа працы наперадзе ў нас,— раптам перамяніў кірунак гаворкі Туравец,— многа. І ўсё прыйдзецца рабіць усім нам разам... Усё залежыць ад нас, ад усіх.

— Ясна, што за нас ніхто не зробіць...

— Ды ці ж мы не хочам працаваць? Рукі просяцца самі да працы...

І пачаліся тут роспыты — куды ісці, што рабіць? Што рабіць швейніцы, якая да вайны на фабрыцы працавала? А куды пайсці трамвайшчыку? Ці хутка будзе адноўлены трамвай? А ці ёсць ужо работы слесару-сантэхніку? А што таму, у каго няма спецыяльнасці? «Я да вайны вучылася ў восьмым класе». Туравец, адказваючы людзям, адчуваў, што ім сапраўды хочацца, вельмі хочацца працаваць...

З ім развіталіся, як з добрым другам.

— Дзякуй вам вялікае. Не забывайце, зноў заходзьце сюды... Сцежка знаёмая!

— Проста сюды, да помпы!

— Дзякуй, зайду...

Туравец правёў яшчэ адну такую гутарку ля лістоўкі з загадам Вярхоўнага Галоўнакамандуючага пра вызваленне Мінска, дзе сабралася дзесяткі два чалавек. Лістоўка была прыклеена на сцяну, што ўцалела ад падарванага дома. Тут ля сцяны ён і гутарыў з людзьмі.

Ішоў ён назад стомлены. Столькі падзей перажыў ён за адзін дзень, з той хвіліны, як ускінуліся залпы «кацюш». Добрае і горкае жыло ў ім, радавала, засмучала, трывожыла. Зося, Зося, сцяна ў неба, балкончык з вазонам. Юрый у ваеннай гімнасцёрцы, у грузавіку, што ідзе міма. Малюнкі гэтыя ўвесь час трымала яго памяць. І разам з імі відовішчы страшэннага разбурэння горада.

Ва ўсё гэта ўнізваліся, сплятаrange з гэтым новыя клопаты, што ўзніклі ў кабінеце Рогава, ад сустрэч з людзьмі...

Ён быў узрушаны тым, як многа трэба зрабіць, каб горад зноў зажыў. Каб разабраць, сцерці з вачэй гэтыя горы цэглы, пабудаваць новыя дамы, вуліцы, новае жыццё. Якое ён у гэты дзень бачыў вельмі цьмяна, як амаль неймавернае...

У яго пакуль не было кватэры, але ішоў ён у гарком і з другой прычыны. Усё спадзяваўся: раптам там чакае хлопец у вайсковым адзенні...

Ён не думаў пра тое, што вось і пачалося мілае сэрцу мірнае жыццё. Ён вельмі ж быў поўны гэтым жыццём, і вельмі ж многа было ў гэтага жыцця горкага...

## РАЗДЗЕЛ III

### 1

Лейтэнант Клямт яшчэ па той бок Бярэзіны прыстаў да часці, што адступала пасля моцных баёў.

Часць была невялікая, вельмі парадзелая, хутчэй нагадвала натоўп, чым баявую адзінку.

Трэба сказаць, што такіх часцей у немцаў тады было ўжо нямала. Зняверанья, дэмаралізаваныя, салдаты часта адставалі ад сваіх падраздзяленняў, стыхійна далучаліся да першага вайсковага натоўпу або паходнай кухні. Такія групы ўвесь час абрасталі новымі спадарожнікамі і гублялі іх у кожным баі. Склад гэтых натоўпаў увесь час змяняўся, і цяпер у дывізіях часта былі не толькі салдаты, а і афіцэры з самых розных часцей, розных родаў войск.

Але сярод іх былі яшчэ і вельмі моцныя часці, доб-

ра ўзброеныя і дысцыплінаваныя. Па дарогах рушылі часамі цэлыя дывізіі амаль у поўным складзе.

Група, у якой ішоў лейтэнант Клямт, складалася з выпадковых людзей, і лейтэнант адносіўся да сваіх спадарожнікаў без упэўненага давер'я. Хоць ён і трымаўся разам з групай, яму нярэдка даводзілася душыць у сабе спакусу кінуць усіх і прабівацца аднаму.

Яму ў гэтыя дні пашанцавала. Тады, калі ён ужо не мог ісці далей — былі да крыві сцёрты ногі,— пашчасціла выпадкова на ўзлессі натрапіць на вандроўнага каня. Хаваючыся за дрэвамі, лейтэнант непрыкметна падабраўся да яго і ўчапіўся ў рудую грыву.

Праехаўшы некалькі кіламетраў, лейтэнант напаткаў схуднелага, з павязкай на галаве афіцэра, што знясілена сядзеў ля дарогі. Афіцэр-капітан папрасіў узяць яго з сабой. Лейтэнант без асаблівай ахвоты, але ўсё ж выканаў свой вайсковы абавязак. Злез, падсадзіў на каня капітана, сеў сам ззаду. Прытрымліваючы капітана, пакіраваў далей...

На ўскраіне адной вёскі іх спынілі. Тут стваралі новую часць. Лейтэнант, патупаўшы, пацёршыся сярод незнаёмых, каторых затрымалі тут раней, нечакана спаткаў яфрэйтара Келера, пра якога ўжо даўно, мусіць, дзён пяць, нічога не ведаў. Ён узрадаваўся спатканню з Келерам і, калі лейтэнанту далі ўзвод, пакламаціўся, каб яфрэйтара накіравалі да яго. Як-ніяк Келер быў смелы ваяка і, што там ні кажы, хоць і з грашкамі, але ўсё ж свой. Акрамя яго, ва ўзводзе не было ні аднаго знаёмага салдата.

Камандаваў часцю аднавокі, магутнага складу маёр. Сабраўшы афіцэраў у садзе, ён люта гаварыў, што трэба зараз жа, хоць бы самымі бязлітаснымі сродкамі, устанавіць парадак і дысцыпліну. Ён здаўся Клямту вельмі моцным і рашучым чалавекам.

Пад вечар маёр загадаў пастроіць часць. Калі рады выраўняліся, да строю вывелі нейкага салдата. Як аб'явілі — недзе схопленага дэзерціра. Салдат быў доўгі, сутулы і брудны, стаяў нерухома, са здранцвелым выглядам. Не глядзеў ні на кога, як сляпы. Маёр сам выступіў перад строем, назваў салдата здраднікам і трусам, які зганьбіў салдацкі абавязак, без загаду пакінуў пазіцыю, хацеў уцячы.

Салдаты слухалі панура. Скончыўшы прамову, ма-

ёр навёў сваё адзінае вока на лейтэнанта Клямта і, гледзячы цвёрда ў вочы яго, загадаў расстраляць уцекача. Лейтэнант казырнуў, пакрочыў да салдата, на хаду вымаючы з кабуры пісталет. Стаў за некалькі крокаў ад асуджанага, павольна падрыхтаваў пісталет, прыцэліўся ў грудзі. Стрэліў. Салдат тузануўся, але не ўпаў, нейкі час як бы здзіўлена глядзеў на лейтэнанта. Паваліўся тварам у зямлю. Лейтэнант пад позіркамі цяжка знямелай роты грэбліва схіліўся, памацаў пульс: дэзерцір быў мёртвы. Другой кулі не спатрэбілася. Адтавокі павярнуў сваё вялізнае цела да салдат і сказаў:

— Так будзе з кожным, хто парушыць салдацкі абавязак. Хто не выканае загаду.

Але падзея гэта, як заўважыў потым Клямт, не зрабіла таго ўражання, якога чакаў і на якое разлічваў маёр. Салдаты сталі толькі больш маўклівымі і панурымі.

Увечары, кладучыся спаць у траве за агародамі, дзе яго ўзвод заняў пазіцыю, лейтэнант пачуў абрывак нечай гаворкі пра тое, што салдата, мусіць, дарэмна загубілі.

— Можа, ён зусім і невінаваты.

Лейтэнант здзівіўся, як гэта можна так разважаць і шкадаваць баязліўца.

Келер, што сядзеў побач, здымаючы нанач боты, адгукнуўся стомлена:

— Салдацкае таварыства, лейтэнант... Агульнасць лёсу.

Лейтэнант у апошніх словах яфрэйтара ўлавіў прытоены, нядобры сэнс. Спытаў, як гэта разумець: агульнасць лёсу — адзін канец усім?

— Не, я не меў гэтага на ўвазе,— Келер ладзіў ранец пад галаву.— Я бадзёра гляджу наперад...

Ён яўна ўхіляўся ад шчырай размовы, і лейтэнант не стаў дапытвацца. Але і з гэтых скупых слоў, па тым, як панура Келер гаварыў, як ён наогул паводзіў, цяпер лейтэнант як належыць зразумеў яго стан. Прыгнечаны, нават — безнадзейны стан.

«Вось дзе бяда! — падумаў ён.— У кволасці, у заняпадзе духу. Нездаровым, гнілым, не нямецкім духу. Гніль гэта смярдзючая, як іржа, раз'ядае армію... Дысцыпліна трэба, цвёрдасць!..»

«Зразу трэба рваць з коранем!..»

Але зрабіць гэта лейтэнанту не ўдалося...

На другі дзень, ледзь толькі развіднела, на роту, у якой быў Клямт з узводам і якая ішла займаць новы рубеж абароны, наляцелі савецкія кавалерысты. Рота, бязладна страляючы, бачачы, як хутка імчыць на іх, разрастаючыся, шырэючы, хваля коннікаў, пачала разбягацца. Лейтэнант спрабаваў камандаваць, але яго ніхто не слухаў. Седзячы ў жыце, у якое ён управіўся ўбегчы, прыхавацца, лейтэнант бачыў, як некалькі кавалерыстаў, не злазячы з коней, вялі натоўп палонных.

Яму ўдалося выратавацца.

2

З гэтага дня ён прабіваўся адзін.

Ён ішоў без дарог, проста цераз палі, па ўзлессях, цераз лугі, стараючыся, каб яго не прыкмецілі. З асаблівай апаскай пільнуючыся, абыходзіў ён вёскі.

Ісці было цяжка. Даводзілася ўсяго аберагацца, быць гатовым да ўсяго. Ён не мог нідзе адчуваць сябе ў спакоі. Лясы, здавалася, у сваёй маўклівасці нязменна таілі штосьці пагрознае. За лясамі цягнуліся палі — таксама чужыя і варожыя. Але больш за ўсё лейтэнанта непакоіў выгляд вёсак — асабліва небяспечных, ненавідзячых...

Ён пакутаваў ад тупога неадступнага болю ў жываце: амаль за двое сутак лейтэнант не з'еў і маленькага кавалачка хлеба. Прыходзілася спажываць толькі ягады, якія ён шукаў на ўзлесках і палянах, ды няспелыя зерні, адным словам, жыць «на падножным корме».

Надвячоркам ён пераплыў Бярэзіну і, пасядзеўшы гадзіны тры на беразе, пайшоў далей.

Ад цягучага адчування голаду, ад болю ў жываце ён звярэў, напаўняўся шалёнай злосцю. Ад гэтага ён часам пераставаў асцерагацца, кідаў тулянне па сцежках, па палях і неберажліва падбіраўся да дарогі. Прысеўшы дзе-небудзь у скрытным месцы, прагным позіркам сачыў за дарогаю, чакаў падарожных, спадзеючыся пажывіцца. Ён цяпер і сваім выглядам нагадваў разбойніка: твар яго аброс рудаватаю шчацінай, вопратка і рукі былі брудныя. На адзенні віднеліся плямы

закарэлай гліны, тарфяной гразі і рознага іншага бруду — знакі бадзяжнага тулянни.

На поплаве каля рэчкі ён убачыў хлопчыка, што пасвіў карову. «У яго ёсць, напэўна, хлеб». Хаваючыся за кустамі, лейтэнант непрыкметна падкраўся. Ён ужо намерыўся быў схапіць хлапчука за плячо, калі той угледзеў яго, спалохана ўскочыў і кінуўся наўцёк. Некалькімі скачкамі лейтэнант дагнаў яго і, ірвануўшы за плячо, паваліў на зямлю. Тады, абхапіўшы закарэлымі рукамі тонкую, мяккую, цёплую шыю, пачаў душыць, адчуваючы зларадную асалоду. Ён збоку быў падобны на драпежнага звера, што распраўляецца са слабай ахвярай.

Калі хлапчук перастаў выпінацца і сціх, звер разняў цвёрдыя пальцы з доўгімі пазногцямі і пачаў прагна абшукваць кішэні. У іх не было ні крыхоткі!

Ён, стоячы на каленях, выпрастаўся і адчуў, як кружыцца галава. Азірнуўся, спадзеючыся ўбачыць поблізу торбу з харчамі, але ніякай торбы не было відаць.

Нечакана ён заўважыў, што да поплаву ідзе жанчына. У мутных вачах звера бліснула занепакоенасць,— ён ускочыў і хутчэй адбег у кусты. Жанчына кінулася да хлапчука і, убачыўшы мёртвага, закрычала:

— Сыночак! Сыночак!

Яна пачала будзіць яго, уздымаць, не верачы таму, што здарылася. Прыпала да яго, стала цалаваць і лямантаваць. Лейтэнант пачуў роспачнае галашэнне:

— Звяры, нелюдзі! За што яны цябе, сыночак?! Сонейка ты маё яснае, зорачка ты мая адзінокая!..

На гэты лямант падышло яшчэ трое жанчын і адзін мужчына. Яны аб нечым пачалі раіцца, паказваючы ў той бок, дзе схаваўся Клямт. Тады ж адна жанчына пабегла некуды, напэўна, у вёску, можа, склікаць людзей. Падышло яшчэ некалькі сялян. Асцярожна падаліся да кустоў, сталі абшукваць іх.

Лейтэнант адчуў, што становішча яго робіцца небяспечным, і, выскачыўшы з кустоў, пабег да лесу. Яго заўважылі, сталі крычаць услед пагрозы. Азіраючыся, лейтэнант бачыў, што трое мужчын, размахваючы дручкамі, кінуліся наўздагон. Аднак калі лейтэнант спыніўся і выняў пісталет, яны замерлі.

Лейтэнант некалькі разоў стрэліў. Стрэліў, амаль не цэлячыся, рука, што трымала пісталет, дрыжала ад слабасці.

Увайшоўшы ў лес, лейтэнант пастараўся як мага хутчэй адысці ад небяспечнага месца.

Яму ўдалося выратавацца. Але з цягам часу становішча яго ўсё пагаршалася,— ён быў так знясілены ад голаду і стомы, што амаль страціў здольнасць хавацца і баяцца. Ім апаноўвала абыякавасць да ўсяго.

Адзін раз, разумеючы, што няма іншага выхаду, як пайсці ў палон, ён наблізіўся да вёскі, намерваючыся аддацца на волю пераможцы, але яму насустрач папаліся жанчыны. Клямт у гэтыя дні больш за ўсё баяўся жанчын. Лейтэнанту здавалася, што ад іх яму няма чаго іншага чакаць, акрамя смерці.

На трэці дзень уранні ён натрапіў на поле бою. На полі, перакапаным выбухамі мін, між пасечанага і дзе-нідзе патаптанага бацвіння бульбы, валяліся трупы немцаў. Яго гэта спачатку прымусіла ўстрывожыцца, але трывогу хутка заглушыла радасць.

Ён падумаў: тут можна знайсці што-небудзь з яды! І праўда, аблазіўшы трупы, абшукаўшы кішэні і ранцы, ён знайшоў некалькі яшчэ не чэрствых кавалкаў хлеба і дзве банкі кансерваў. Па прывычцы зняў з нейкага яфрэйтара залаты пярсцёнак. Калі ён трымаў у руцэ гэту бліскучую рэч, у яго галаве праплыла цьмяная думка, што золата цяпер ужо не мае ніякай каштоўнасці. Якая карысць з яго?

Гэта нікчэмная рэч напомніла пра тое, што ён увесь час імкнуўся да золата, да багацця. Багацце?! Мары разбагацець у Расіі! Усё — глупства, дрэнь. Усё руйнуецца, ідзе к д'яблу!.. Ён, вылаяўшыся, размахнуўся злосна, каб кінуць пярсцёнак, але стрымаўся. Хоць без радасці, няўпэўнена, паклаў у кішэню.

Падсілкаваўшыся, ён адчуў сябе мацнейшым і пайшоў прутчэй.

Каля нейкай дарогі ён убачыў падрыхтаваныя да бою нямецкія кулямёты і гарматы з абслугай, а далей на ўзлеску — пад галлём — грузавікі. У лесе хадзіла многа нямецкіх салдат. Спрактыкаваным вокам ён адзначыў, што перад ім — сапраўдная, дысцыплінаваная часць.

«Фронт!? Няўжо я выйшаў з акружэння?» Лейтэ-

нант узняўся са схоўкі і заспяшаўся да салдат. Здалёк памахаў рукамі, крыкнуў, каб не стралялі. Скора прыйшлося расчаравацца: першы ж афіцэр, да якога прывялі яго, сказаў, што лінія фронту недзе далей. Дзе, яму невядома...

І ўсё ж выгляд сапраўднай баявой часці падбадзёрыў яго. Ён даведаўся, што перад ім салдаты грознай 78-й штурмавой дывізіі. Лейтэнант многа чуў пра камандзіра дывізіі генерала Траута, які лічыўся адным з самых умелых нямецкіх генералаў. Лейтэнант ажыў,— цяпер ён, напэўна, праб'ецца-такі да сваіх.

## 3

Чацвёртага ліпеня рэшткі некалькіх гітлераўскіх дывізій 78-й штурмавой, 25-й механізаванай, 260-й пяхотнай,— а таксама штаб 27-га армейскага корпуса сабраліся ў адным месцы, у двух дзесятках кіламетраў ад Мінска. У гэтай групе апынуўся і генерал Баумволь.

Часці гэтыя былі моцна пабіты ў нядаўніх баях. Нават у 78-й штурмавой дывізіі заставалася цяпер толькі каля чатырох тысяч чалавек разам з прыданым ёй разбітым палком з іншай часці. Ва ўсёй дывізіі мелася крыху больш за сто машын і толькі чатыры гарматы. Амаль усю артылерыю, у тым ліку і самаходную, дывізія страціла.

Усё-ткі гэтыя тры дывізіі, сабраныя ў адно, мелі немалую сілу — у іх было разам больш за пятнаццаць тысяч салдат і афіцэраў. Праўда, становішча дывізій пагоршвала тое, што ў іх бракавала гаручага і боепрыпасаў. Два дні назад нямецкія транспартныя самалёты скінулі ў раён размяшчэння корпуса некалькі бочак з гаручым, але яго не хапіла і для паловы тых машын, што яшчэ былі ў часцях.

Штаб корпуса слёзна маліў аб дапамозе. Камандаванне групы войск абяцала даць дапамогу, але гэта пакуль былі толькі абяцанкі. З кожным днём надзеі на дапамогу нават з паветра слабелі.

Трэба сказаць, што гэтая група была толькі часткай нямецкіх войск, якія сышліся пад Мінскам. Акружаныя тут войскі займалі вялікі абшар, ад Волмы аж да Бярэзіны,— яго цяпер называлі «мінскім катлом». У «катле» апынулася не толькі 4-я армія, але і рэшткі

яшчэ дзвюх нямецкіх армій. Колькасць акружаных войск дасягала амаль ста тысяч чалавек.

Гітлер перадаў па радыё акружаным спецыяльны загад. Ён загадваў навесці строгі парадак, устанавіць дысцыпліну і рашучымі дзеяннямі прабівацца на паўднёвы захад. Гэты загад і спрабаваў ажыццявіць Баумволь.

Пад Мінскам кіпелі лютыя баі. Акружаныя не шкадавалі ні салдат, ні снарадаў, прагнучы, што б ні было, вырвацца з смяротнага круга. Але ўсе іх спробы вырвацца былі дарэмнымі,— атакі за атакамі, у якія кідаліся немцы, не маглі зрушыць савецкія войскі...

Па загаду Баумволя быў зроблены новы план вываду з акружэння нямецкіх войск. Дывізіі павінны былі абысці Мінск з паўднёвага ўсходу, за дваццаць — дваццаць пяць кіламетраў ад горада, і рушыць далей на Баранавічы, дзе, як гаварылася ў апошніх зводках, ішлі цяпер баі.

Аднак вырвацца Баумволю з усімі войскамі не ўдалося. Тады на наступны дзень, пятага ліпеня, Баумволь змяніў ранейшую задуму, вырашыў прабівацца з невялікай групай.

Ён выклікаў камандзіра корпуса і паведаміў пра сваё рашэнне. Заявіў пры гэтым:

— Дывізіі павінны па-ранейшаму абараняць свае пазіцыі...

— Яволь [1]. Я зраблю ўсё, што магу, каб мае дывізіі выканалі гэты... пачэсны абавязак,— адказаў яму камандзір корпуса.

У 11 гадзін вечара Баумволь сабраў генералаў, старшых афіцэраў і даў загад — абараняцца да таго часу, пакуль толькі будзе магчыма.

— Наш любімы фюрэр і наша вялікая айчына ў гэты час цяжкага выпрабавання глядзяць на вас, адважныя воіны, з надзеяй і верай. Яны спадзяюцца, што вы з гонарам выканаеце свой салдацкі абавязак...

Адразу пасля нарады Баумволь з групай, у якой было каля ста дваццаці афіцэраў і салдат, пачаў выпраўляцца ў дарогу. Даведаўшыся пра намер генерала, да яго хацелі далучыцца многія іншыя афіцэры і салдаты, але Баумволь ім не дазволіў:

---

[1] Так.

— Я не магу ўзяць з сабою больш. Хто застанецца ў дывізіях, калі я ўсіх вазьму...

Перад выступленнем генерал прадбачліва зрэзаў з плеч пагоны, а са штаноў генеральскія лампасы.

Спачатку Баумволь вёў групу на поўдзень з тым, каб, прайшоўшы кіламетраў дванаццаць, павярнуць на захад.

Ішлі ціха, выбіраючы глухія дарогі. Пакінуўшы войскі, генерал адчуваў сябе крыху лягчэй,— не трэба было думаць, што рабіць з тымі, што засталіся, многімі тысячамі.

Генерал, аднак, быў нездаволены: ішоў і не ведаў, што будзе днём. Што там — днём, невядома было, што чакала за полем, якое пачыналася. Эх, лёс генеральскі! Які гэта дурань выдумаў, што генералы паміраюць у пасцелі? Пабыў бы гэты балбатун цяпер на яго генеральскім месцы!

Генерал ішоў пеша. З тугою думаў пра зручны ўтульны «опель», які прыйшлося пакінуць у дывізіі. Колькі гэта генеральскім нагам прыйдзецца патупаць, пакуль яны атрымаюць права адпачыць?.. Час ад часу Баумволь з непакоем пазіраў на неба,— чорт ведае, нашто там выпаўз такі яркі месяц! Светла, быццам удзень...

Толькі на золку месяц схаваўся. У гэты час, правяраючы маршрут па карце, генерал заўважыў, што група збілася з намечанага шляху. Заблудзілася!

Прыйшлося ісці далей наўгад. Генерал спадзяваўся, што ўраніцу ўдасца сарыентавацца і тады можна будзе выправіць памылку.

Але, як толькі развіднелася, гадзіне а пятай, з бліжняга пасёлка — гэта быў пасёлак Палеўцы — групу заўважылі. Па ёй адкрылі страляніну. Хавацца ці непрыкметна адыходзіць было позна...

## РАЗДЗЕЛ IV

### 1

У Мінску было неспакойна. Хоць перадавыя часці, што вызвалілі яго, вялі наступленне ўжо далёка на захадзе, людзі ў горадзе не адчувалі сябе ў бяспецы. Жы-

хароў трывожыла, што баі на ўсходзе, там, дзе кіпеў вялізны «мінскі кацёл», ішлі амаль ля ўскраін. Гітлераўцы, здавалася, у любы момант маглі зноў уварвацца ў горад. Трывога ў Мінску жыла яшчэ і таму, што войскі, якія трэцяга і чацвёртага ліпеня запаўнялі вуліцы, амаль усе пакінулі іх. Пайшлі на захад. У горадзе застаўся толькі адзін полк.

Праз суткі пасля вызвалення на Мінск, які спакойна спаў пад сховай цёплай ночы, былі кінуты фашысцкія бамбардзіроўшчыкі. Самалёты ашалела бамбілі жылыя кварталы, разбуралі тое, што, дзякуючы хуткаму вызваленню горада савецкімі войскамі, яшчэ ўцалела. Асабліва люта бамбілі раён Маскоўскай вуліцы, Заходняга моста і Таварнай станцыі.

Людзі, што жылі каля чыгункі, перабіраліся ў цішэйшыя раёны. Многія на ноч зусім выходзілі за горад, дзе можна было адчуваць сябе бяспечней. Мацеры неслі на руках ці вялі дзяцей, амаль заўсёды людзі валаклі з сабой і каляскі з дамашнім набыткам, бо хто мог ведаць, што, вярнуўшыся, убачыць сваю хату цэлай.

Але і на ўскраінах і за Мінскам таксама было трывожна: тут час ад часу паяўляліся групы немцаў. Яны падыходзілі да ўскраін і нават пранікалі ў горад. Тады цішыню ночы будзілі чэргі аўтаматаў і стрэлы вінтовак.

У адну ноч аўтаматная страляніна ўзнялася ў гарадскім парку. Па бліжніх да парку вуліцах паляцела трывожная вестка: «Немцы ў парку!» Хтосьці пусціў чуткі, што немцы наступаюць і занялі частку горада.

У парк сапраўды пранікла вандроўная група варожых аўтаматчыкаў. Яна была неўзабаве акружана і разбіта.

Горад увесь час гарэў. Да пажараў, якія ўзнікалі пад фашысцкімі бамбардзіроўшчыкамі, далучаліся пажары ад выбухаў будынкаў, замініраваных мінамі замаруджанага дзеяння. Адзін з такіх выбухаў разбурыў левае крыло Дома Чырвонай Арміі.

Дзе-нідзе гарэлі будынкі, падпаленыя яшчэ да трэцяга ліпеня. Пажары часта не было чым тушыць: у горадзе не хапала вады.

Дымы ўздымаліся ўгару то чорнымі, кіпучымі, ша-

лёнымі клубамі, то празрыстымі згасаючымі струменямі. На вуліцах тхнула горкім і едкім пахам гары.

Абломкі разбураных будынкаў у многіх месцах завалілі вуліцы. Цэлыя горы сцэментаваных глыб, пакручаных, пакарэжаных бэлек і ўсялякага друзу перагароджвалі шлях машынам, якія вымушаны былі шукаць абходных дарог.

Таму першыя дні пасля вызвалення многім мінчанам давялося брацца не за які-небудзь іншы занятак, а расчышчаць вуліцы. З гэтага тады найчасцей пачыналася новае жыццё...

На адной з вуліц сярод жанчын і мужчын, якія расчышчалі завал, можна было бачыць Клаву Сняжко. Яна яшчэ не зусім паправілася пасля ранення, пасля ўсяго перажытага, хутка стамлялася; знясільная дарога ў Мінск, якую яна адужала пазаўчора, таксама далася ёй у знакі.

Ляжаць бы ёй, ляжаць ціха ды патроху правіцца дома,— але хіба магла Клава ў такія дні сядзець спакойна ў хаце! Да таго ж дома пякло горкае гора: там усё напамінала пра нябожчыцу-маці.

Амаль усю мінулую ноч Клава не стуляла вачэй, бо над горадам раз-пораз гулі нямецкія бамбардзіроўшчыкі; выбегшы з хаты, яна бачыла, як у небе ходзяць зялёныя нажы пражэктараў і рвуцца снарады зенітак...

Яна паспала толькі гадзіны са дзве, калі яе разбудзілі Сяргей і незнаёмы сінявокі хлопец у вайсковай гімнасцёрцы. Хлопец назваў сябе Васілём Крайко. Хаваючы сарамяжлівасць, гэты Васіль з жартаўліва-важным выглядам назваў сябе ўпаўнаважаным па расчыстцы вуліц.

— Ого, якая рэдкая пасада! — мімаволі пакпіла з яго Клава.

— В-важная пасада! С-сур'ёзна. Ну, праўда. Такой другой больш н-ніколі не будзе... Пры гэтым, п-папярэджваю,— мне дадзены асобыя правы... Я не проста ўпаўнаважаны, а спецыяльна ўпаўнаважаны, ясна? — Пачуўшы, што ўсё ясна, Васіль папрасіў яе сабраць на працу людзей, якія жывуць па суседству.

— Зараз жа збяру, таварыш упаўнаважаны!..

— Т-трэба адказваць: не «зараз збяру», а «ёсць»! І не «таварыш упаўнаважаны», а «таварыш асоба ўпаўнаважаны».

— Есць, таварыш асоба ўпаўнаважаны! «Па расчыстцы вуліц» не абавязкова называць?

— Гэта — лішняе!

Сяргей па сакрэту шапнуў Клаве, што хлопец гэты — баявы партызан, можна нават сказаць — славуты партызан. І што прызначаны ён на новую работу гаркомам партыі, і яму, праўда гэта, дадзены вялікія правы.

— Добра, усё будзе зроблена. Таварыш памочнік упаўнаважанага...

Неўзабаве яна прывяла на завал шаснаццаць чалавек. Калі ўбачыла Васіля, пакіравала да яго, гулліва пазіраючы, далажыла:

— Каманда прыйшла. Што загадаеце, таварыш упаўна... спецыяльна ўпаўнаважаны?..

— Узяцца за справу...

— Есць. Зараз жа?

— Зараз.

Але працаваць ёй у гэты дзень амаль не давялося. Ледзь яна толькі падняла некалькі каменняў, як у яе пачала кружыцца галава.

Падымаць камені станавілася ўсё цяжэй. І ўсё больш кружылася галава, хіліла да зямлі — легчы, спачыць... «Не трэба пра гэта думаць. Не трэба паддавацца».

Але неўзабаве яна ўсё-такі апусцілася на каменную глыбу. Калі б Клава не села, то, напэўна, упала б,— так паплыло ўсё вакол. Да яе падбеглі некалькі ўстрывожаных жанчын.

— Нічога. Нічога, усё пройдзе...— паспрабавала ўсміхнуцца яна.— Штосьці галава кружыцца. Мусіць, ад таго, што не выспалася.

Ёй прыйшлося вярнуцца дамоў. Легчы...

## 2

Туравец зірнуў у твар капітана, што сядзеў за тым жа сталом, насупраць.

У капітана рука была на бялюткай, яшчэ не запыленай, не заношанай марлевай касынцы: відаць, перавязку яму рабілі зусім нядаўна. Акрамя Тураўца і капітана, у пакоі нікога не было.

— Ёсць тут у мяне падпольшчыца, якая была разам з Нінаю ў адной камеры. Толькі яе вывезлі з турмы раней за Ніну...— сказаў Туравец.

— Хто гэта?

— Клава Сняжко... Яна добра ведае Ніну, гаворыць, што яны там, у камеры, нават пасябравалі. Але — я яе ўжо аб гэтым пытаўся — пра далейшы лёс Ніны, дружа мой, ёй нічога невядома. Гэта я табе адразу кажу. Не буду таіць... На адно ў мяне надзея, што яна можа знайсці людзей, якія сустракаліся з Нінай. Клава, здаецца мне, такая, што калі толькі можна знайсці іх, то яна знойдзе...

— Ну, і што яна,— пакуль не знайшла?! — капітан прамовіў гэта спакойна, але Туравец заўважыў, як складкі пры кончыках яго губ смыкнуліся і напружыліся. «Хвалюецца».

— Пакуль не знайшла. Каб яна даведалася пра Ніну, то паведаміла б мне...

— Дзе яна жыве ці працуе? — Туравец сказаў, што Клава жыве недалёка адсюль, на Лодачнай.

— У мяне на прыкмеце ёсць яшчэ некалькі чалавек, вызваленых з турмы. Можа, хто-небудзь з іх і знаёмы з Нінай... Як бы там ні было, пагавары з імі. Запішы, я табе скажу, дзе яны жывуць.

Аляксей запісаў прозвішчы і адрасы ў кніжачку, што была ў яго планшэце, і стаў развітвацца. Туравец, паціскаючы руку, запытаўся, дзе ён жыве, і паабяцаў, як толькі ўдасца што-небудзь даведацца пра Ніну, паведаміць яму пра гэта.

Аляксей, выйшаўшы на ціхую ўзбярэжную Свіслачы, усцяж якой хіліліся над вадою сівыя ніклыя вербы, адразу накіраваўся на пошукі.

Ад Тураўца ён ужо ведаў, што Ніну пасылалі з заданнем у гарадок, што, вяртаючыся назад у лес, яна выпадкова наскочыла на засаду і яе, па вестках, якія ўдалося выведаць, адправілі ў турму ў Мінск...

Перш за ўсё ён рашыў пайсці да Клавы Сняжко. Але тут яго чакала няўдача. Калі ўвайшоў на яе двор, ён убачыў на дзвярах дома замок. Жанчына з суседняга двара, вешаючы бялізну, сказала, што Клава пайшла, здаецца, уладжвацца на працу, калі вернецца, невядома.

Аляксею не хацелася сядзець і чакаць — можа

быць, вельмі доўга, і ён пайшоў праз паўгорада па другім адрасе...

Доўгія пошукі Аляксея амаль нічога яму не далі,— толькі адна жанчына, якая папала ў турму ў часе аблавы, крыху ведала Ніну,— сядзелі неяк побач, але Ніна пра сябе нічога не гаварыла, а неўзабаве іх разлучылі. «І што далей было з ёй, я не магу сказаць». Нягледзячы на няўдачы, Аляксей усё-ткі працягваў пошукі. Ён пабываў і на Камароўцы, і на Ляхаўцы, адхадзіўшы па пыльных вуліцах многа кіламетраў.

Чым больш Аляксей хадзіў, тым больш яго апаноўвала трывога.

Шукаючы знаёмых Ніны, пытаючыся пра яе, ён хутка зразумеў, што з тых, хто быў у турме ў апошнія дні, амаль ніхто не вярнуўся. Амаль пра ўсіх гэтых людзей, як і пра Ніну, ніхто не мог сказаць, дзе яны...

Ён можа спадзявацца толькі на тое, што Ніне пашанцавала больш за другіх, што ёй выпала нейкае асобае, для яе адной, шчасце. Тая шчаслівая выпадковасць, якая гэтак рэдка бывае ў жыцці...

Позні вечар, цемра, што ахутала прыціхлыя, неасветленыя вуліцы, прымусілі яго прыпыніць пошукі. Аляксей, натомлены за дзень, намерыўся падацца дамоў, як прыгадаў — не ў першы раз — словы Тураўца пра Клаву Сняжко. Няўжо яе і цяпер няма дома? Як бы там ні было, трэба зайсці да яе, трэба абавязкова ўбачыць яе. Яна ж была разам з Нінаю, бачыла яе зусім нядаўна; можа, сёння здолела ўведаць што-небудзь ад іншых...

Увайшоўшы на Клавін двор, Аляксей заўважыў у адным акне цьмяную палоску святла, што прарэзвалася знізу акна, не поўна закрытага маскіроўкай. Ён пастукаў у дзверы і пачуў мужчынскі голас у адказ: «Заходзьце». У пакоі, які быў асветлены ад мігалкі, што стаяла на стале, Аляксей убачыў невысокую, круглатварую дзяўчыну. Яна ішла насустрач. Ля стала стаяў хлопец з карабінам — можа, брат,— ён, відаць, збіраўся некуды ісці. Аляксей прывітаўся.

— Выбачайце, што так позна турбую... Мне сказалі, што тут жыве Клава Сняжко.

— Так. Гэта я... А па якой вы справе?— Клава здзіўлена зірнула на незнаёмага капітана. Хто ён? Яна, здаецца, яго раней не бачыла.

— Я — Лагуновіч.

— Аляксей?! — вырвалася ў яе.

Дужкі-бровы яе раптам узляцелі. Яна на нейкі міг разгубілася і як бы спалохалася яго, і гэта прымусіла Аляксея насцеражыцца. Назіральны заўсёды, а цяпер асабліва, ён адчуў нядобрае.

— Мне Нічыпар Паўлавіч сказаў, што вы былі разам з Нінаю...

— Так, была... Але чаго мы стаім тут,— схамянулася Клава. Яна падышла да сценкі, дзе стаялі два табурэты: — Сядайце...

Але ні ён, ні яна не селі.

Аляксей заўважыў, што дзяўчыну, хоць яна цяпер і стараецца хаваць гэта, штосьці вельмі непакоіць. Пальцы яе нервова прабеглі па гузіках жакеткі, паправілі за ражкі касынку.

Аляксей моўчкі чакаў. У адрозненне ад Клавы ён здаваўся спакойным.

— Няма яе,— пачуў неспадзявана ён амаль шэпт, амаль стогн.— Няма...

«Каго, Ніны?» — хацелася запытацца Аляксею, але ён маўчаў. У яго ў грудзях усё пахаладзела.

— Загінула яна... Пад ранне забралі яе... павезлі за горад...

Тады толькі ён змог раскрыць рот. Але якім дзіўным, незнаёмым здаўся яму свой голас:

— Хто гэта сказаў?

— Красуцкая. Яна бачыла, як Ніну выводзілі... А аб іншым хваліўся пасля паліцай...

У тую хвіліну ў Аляксея было толькі адно адчуванне — страшны холад у грудзях, які рабіў яго як бы нямым.

У галаве застыла думка: «Ніну... расстралялі!» — вялікая, дзіўная, нерухомая.

— Яе забралі ўночы. Перад раннем...— стрымліваючы плач, але з рашучасцю чалавека, што наважыўся на ўсё, паўтарыла Клава.

«Каго, куды забралі...— няўцямна падумаў ён.— Ах, гэта пра Ніну... Ніну забралі... Яго Ніну,— зноў важка дайшоў ён да сэнсу.— Ніну расстралялі, яго Ніну!!»

— Перад раннем?

— Красуцкая сказала, што было ўжо далёка за

поўнач, як пачалі выклікаць іх. Узялі тады акрамя Ніны яшчэ пяць чалавек. З адной камеры... Потым яна чула, як на двары шумелі машыны.

Аляксей, ссутулены, нібы аглушаны, раптам зварухнууся: «Самому бачыць гэтую жанчыну, самому распытацца пра ўсё!»

Ён кінуў на Клаву хуткі позірк:

— Вы можаце паказаць, дзе яна?

— Хто?

— Красуцкая.

Клава адказала, што можа. Сказаўшы «дабранач» хлопцу з вінтоўкай, якога ўвесь гэты час быццам не бачыў, Аляксей выйшаў з хаты...

Красуцкая жыла на Грушаўскім пасёлку. Калі Клава падвяла Аляксея да кватэры Красуцкай, у вокнах былі цішыня і цемра. Але ў хаце, відаць, не спалі, бо адразу, ледзь Клава пастукала ў шыбу, адтуль пачулася: «Хто там?»

Упусціўшы Клаву і Аляксея, у пакоі запалілі святло. Красуцкая ляжала на ложку, накрыўшыся да шыі коўдрай.

— Гэта — Аляксей, Нінін муж,— пазнаёміла Клава жанчыну з капітанам.

— Самі прыйшлі...— сказала жанчына, калі Аляксей і Клава прыселі на канапу каля ложка.— А я абяцала Нінцы, ды так яшчэ і не спраўдзіла слова. Адбілі гады ўсё ўсярэдзіне, устаць не магу... Адбілі, а тады ўжо выпусцілі, мусіць, спадзяваліся, што ўсё роўна нядоўга ўжо. Ох!.. Ледзь дахаты дацягнулася... А Нінка...

Яна заплюшчыла вочы і сціхла. Аляксею здалося, што яна стрымліваецца, шкадуючы яго, думае, ці пра ўсё казаць. Ён папрасіў:

— Гаварыце пра ўсё. Пра ўсё расказвайце... Я хачу ўсё ведаць.

3

«Яе забілі... Пад раніцу забілі яе... Казалі — яна спрабавала ўцячы, выратавацца, але не ўдалося. Чарга з аўтамата насцігла...»

Цяпер, ідучы па маўклівых вуліцах адзін, ён пачынаў усё глыбей адчуваць сэнс таго, што яму сказалі.

Ён і да гэтага гараваў, але толькі цяпер, калі ўспамінаў размову з Красуцкай, нібы абуджаючыся, Аляксей адчуў усю неймаверную жахлівасць пачутай весткі.

«Яе няма! Ніны няма!!» Той, да каго больш за ўсё ён ірваўся, якая больш за ўсіх, за ўсё патрэбна была яму, няма. Няма і ніколі ўжо не будзе.

Ніколі ўжо не ўбачыць ён яе любых, нібы зацягнутых смугою, вачэй, не пачуе яе голасу, не адчуе дотыку яе рук. Ніколі больш яна не скажа тых слоў, якія некалі гаварыла і аб якіх ён марыў, ірвучыся сюды. Ніколі, ніколі...

Яна заўсёды жыла ў ім, поўніла яго душу, увесь свет навокал, радасцямі, трывогамі. Жыццём. Цяпер яе няма. І радасцей тых і трывог няма. Жыцця няма.

Пуста, пуста... Усё, што было навокал, здавалася назаўсёды апусцелым.

З адчуваннем незвычайнай адзіноты ішоў ён па горадзе, па цёмных, маўклівых вуліцах і завулках, не пазнаваў іх. Былой стомы і слабасці цяпер як не было. Нешта вялікае, горкае і моцнае штурхала і штурхала яго немаведама куды, невядома на што, не давала прыпынку.

Праходзячы па вуліцы, ён у адным акне пачуў песню, якую выспеўвалі ні то патэфон, ні то радыё, і тады ж яго слых раптам працяў вясёлы смех. Гэты смех так уразіў яго, што Аляксей стаў.

Як яны могуць смяяцца! У гэты вечар, калі ўсё, здаецца, гатова крычаць аб горы, на вуліцах, дзе яшчэ быццам чуваць рэха крокаў забойцаў. Яшчэ не паспела астыць на каменні кроў,— а яны смяюцца!

Але Аляксей стрымаўся. Не сказаўшы нічога, пабрыў далей. «Тыя радуюцца, тым пашанцавала, а Ніны — няма!..» — падумаў ён неспадзявана з крыўдай. Чаму ёй не пашанцавала дажыць? Чаму ім з Нінай не выпала шчасце дачакацца сустрэчы?.. Услед за гэтай думкай узнікла другая, разважлівая: хіба толькі ў яго гэтакае гора? Хіба толькі з Нінаю адною такое здарылася? Аднак сэрца не хацела слухаць нічога. У ім было адно: Ніны няма...

«Яна прасіла, каб помнілі пра яе без гора». Хіба ж можна не гараваць? Любая, любая... «Прасіла, каб не плакалі аб ёй...» Як жа не плакаць? Як жа трываць, калі сэрца не слухае, заходзіцца з болю! Сэрца плача!..

Эх, чаму ён цяпер не са сваімі таварышамі, чаму не ў дарозе, не перад атакай! Там было б лепш...

На Нямізе яго затрымаў вайсковы патруль. Старшы нарада, пасвяціўшы ліхтарыкам і назваўшы сябе, папрасіў дакументы.

— Што з вамі, таварыш капітан? — сказаў адзін з патрульных.— Твар у вас — як зямля. Рана? Баліць?

— Рана... Колькі часу? — запытаў глуха Аляксей.

— Без дзесяці тры...

Ён здзівіўся: так многа! Трэба вяртацца дамоў, там — чакаюць. Адышоўшы крыху, Аляксей успомніў пытанне патрульнага: «рана? баліць?» — горкая спазма раптам здушыла горла. Ён зарыдаў.

Доўга захлынаўся ён горам, адчаем. Доўга не мог стрымаць стогну, бедавання... Прыпаў да нейкай сцяны і біўся ў горы, безвыходнасці, адзіноце... Колькі было так — гадзіна, дзве — не разумеў. Не чуў часу. Не чуў нічога...

Потым павольна, зняможанай хадою пайшоў. Трэба было кудысьці ісці. Але куды ішоў, спачатку не цяміў. Пазней ужо ўзнікла: трэба дадому. Ён пацёгся ў бок дому. Спачатку знябыта, бяздумна. Тады падумаў заклапочана: як і калі ён раскажа маці пра гора? Як яна перажыве гэта? «Трэба памагчы ёй, падтрымаць трэба старую...»

Яму згадалася другое аблічча, самае любае і самае дарагое цяпер у яго жыцці. У грудзях Аляксея — упершыню за той вечар — зацяплела ціхая, вялікая пяшчота. Люда, маленькая яго дачушка... Яго і Ніны...

«Як жа я мог забыцца пра яе?»

## РАЗДЗЕЛ V

### 1

Каля Мінска яшчэ ішлі баі з акружанымі варожымі групамі. Удзень і ўночы над палямі і лясамі цішыню рвалі выбухі снарадаў і аўтаматная страляніна.

Не было цішыні і каля Паплавоў, ад якіх вайна ўсё нібы не хацела адыходзіць.

Учора ў Паплавах быў бой. Немцаў выгналі з сяла, але яны трымаліся яшчэ недалёка.

У сяле было трывожна. Шабуніха, якая толькі вярнулася з балотнай сваёй сховы, толькі пераначавала на родным селішчы, старалася глушыць неспакой, што наганялі блізкія стрэлы. Ёй не хацелася верыць, што можа зноў перамяніцца ўсё на горшае. Колькі ж можна бадзяцца ды хавацца?..

Яна ад самага ранку корпалася на агародзе, палола грады. Сядзець без справы Аўдоцця не магла: усё сваё жыццё яна прывыкла быць у вечным клопаце. У гэтым клопаце яна цяпер шукала сваё супакаенне.

Поруч з ёю былі і яе дзеці. Волечка старалася памагчы маці, таксама палола грады, а Валодзька драмаў пад грушкаю. Шабуніха знарок трымала дзяцей пры сабе,— час неспакойны...

Недалёка ад Паплавоў, на адной з дарог, што ішлі з «мінскага катла», у гэты дзень быў Юрый Туравец.

Тут зранку было на дзіва ціха. У неглыбокіх акопах, наспех выкапаных пры дарозе, дзяжурылі толькі назіральнікі, іншыя корпаліся сабе хто з чым. Чарнавокі, звычайна рухавы Шарыфутдзінаў, седзячы ўскрай акопа, заклапочана вырэзваў вострым канцом нажа на кацялку ніжэй таго месца, дзе ўжо значылася яго прозвішча, месяц і год нараджэння.

Юрый перабіраў рэчы ў мяшку, вытрасаў адтуль розную труху.

— Слухай, ты тут пакуль пабудзь за мяне,— сказаў ён пазней Шарыфутдзінаву, завязваючы мяшок.— Я хачу адлучыцца...

— Да землякоў, канечне? — Вочы яфрэйтара хітравата смяяліся.

— Да іх...— Юрый устаў, пацягнуўся, санліва пазіраючы на маўклівыя, рэдкія кусты, дзе былі агнявыя пазіцыі артылерыйскай батарэі. Гарматы стаялі з апушчанымі ствaламі, прыкрытыя павялымі галінкамі маскіроўкі. На адным з дрэваў сядзеў прытоены артылерыст-назіральнік.

«Як дзяцел»,— падумаў Юрый і пакіраваў у другі бок, дзе заняла пазіцыі рота «землякоў» — партызаны з той самай брыгады, у якой быў камісарам бацька. Юрыя сюды цягнула, як у родную сям'ю,— хоць тут

цяпер не было ні бацькі, ні нават Васі Крайко. Тут ён прападаў увесь вольны час.

Ляхора і яшчэ двое хлопцаў ляжалі на зялёным узмежку і пра нешта гаманілі. Побач з імі некалькі партызан гулялі ў карты, стараючыся трымацца ў цяню ад маладзенькай бярозкі-адзіночкі.

Каля ігракоў, сочачы і нярэдка ёрзаючы ад нецярплівасці, калі ствaралася вострая сітуацыя, бавіўся на кукішках Андрэй Шабунёк.

— А, Юрка! — заўважыў першы Ляхора.— Давай, прызямляйся!..

Гаворка ў хлопцаў, відаць, ішла сур'ёзная,— хлопец з наіўным, па-дзявочы мяккім тварам турбаваўся:

— Вызвалім яе, а далей?..

Ляхора павярнуўся да хлопца.

— Што — далей?

— Зноў, глядзі, гэтыя вашы, як іх — буржуі, ці што, вернуцца...

Юрый здагадаўся, што размова ідзе пра Чэхаславакію. Ён ужо аднойчы заўважыў, што Ляхору тут лічаць як бы адказным за ўсё, што датычыцца лёсу яго краіны.

— Па-першае, буржуяў можаш сабе забраць,— адказаў Ляхора з той грубаватай прастатой, якая перадалася ад хлопцаў.— Яны мае такія ж, як і твае... А па-другое, па-старому цяпер не будзе. Будзе інакш. Расчысцім паветра, ясна...

— Даўно пара! — заявіў Юрый.

Юрый толькі ўступіў у важную, вельмі цікавую гаворку, як — у час — калі ён менш за ўсё хацеў гэтага! — падбег баец і перадаў, што яго выклікае Праворны.

— Я хутка вярнуся...— паабяцаў Юрый сябрам, устаючы і атрэсваючы са штаноў зямлю.

Але ён не вярнуўся. Калі сержант падышоў да Праворнага, той сказаў, што званіў Паўлоўскі і паведаміў — сюды набліжаецца калона праціўніка.

— Так што скажы сваім, каб былі напагатове. Можа быць цёплая справа...— Малодшы лейтэнант чамусьці ніколі не гаварыў «гарачы бой» ці «гарачая справа».

Юрый мігам кінуўся ў аддзяленне. Яшчэ з бегу

крыкнуў байцам падрыхтавацца да бою, хутчэй праверыў, ці ўсе на месцах.

На батарэі артылерысты выгуквалі каманды; наводчыкі стаялі наўколенцах каля панарам, жэрлы гармат цікавалі яшчэ не бачную цэль.

Юрый, звёўшы чорныя бровы, углядваўся ўдалеч, дзе дарога ўзыходзіла на пагорак. Адсюль да самага таго пагорка працягвалася поле, парэзанае на палоскі, маўклівае, спякотнае, на ім мірна зелянела бульба, ціха варушыліся жыты. Паблізу расла паласа даспелага ячменю. Недзе ў жыце, быццам папярэджваючы пра надыход бою, трывожна затуркала перапёлка.

Колькі там іх? Юрый ведаў, што ў «катле» ёсць вялікія і моцныя групы; баючыся страшнага для іх акружэння, ірвучыся да сваіх, яны могуць біцца ашалела, з упартасцю смяротнікаў...

Раптам у полі непадалёк паявілася двое чалавек. Яны выйшлі з-за лесу, за рогам якога была вёска, і цяпер ні то гуляючы, ні то аглядваючы поле, брылі ў жыце. У адной постаці лёгка было пазнаць жанчыну,— яна ішла спакойна і, здаецца, слухала мужчыну, які, размахваючы рукамі, штосьці гаварыў і паказваў...

Хто гэта? Не падобна, каб гэта былі пераапранутыя немцы, бо людзі ішлі вельмі ж ужо бестрывожна ды і з боку вёскі, у якой былі нашы. Але чаго гэтыя дзве постаці выйшлі ў поле ў такі час?

Юрый загадаў Шарыфутдзінаву даставіць іх сюды.

— Чаго ходзіш тут, чалавек — галава, два вухі?! — накінуўся салдат на Жывіцу. Ён ці зрабіў выгляд, што не пазнае Жывіцу, ці і сапраўды не пазнаў.— Страляць будзем тут!

Не даўшы Жывіцу слова сказаць, Шарыфутдзінаў загадаў ісці следам. Як толькі затрыманыя,— цяпер было ясна, што гэта свае, мабыць, з Паплавоў,— былі прыведзены, сержант, не распытваючыся ні аб чым, адправіў іх з Шарыфутдзінавым да Праворнага.

Каля Праворнага, што праціраў вочка бінокля, былі якраз камандзір партызан Дрозд і яго сувязны, малы Шабунёк.

Тут адбылося незвычайнае. Не ўправіўся Шарыфутдзінаў пачаць дакладваць камандзіру пра затрыманых, калі сувязны, без меры ўзрадавана крыкнуў-

шы: «мамка!», забыўшыся пра сваю дарослую паважнасць, рынуўся да жанчыны. Тая моўчкі, пяшчотна прыгарнула малога да сябе.

Дрозд, здзіўлена міргаючы выцвілымі вейкамі, утаропіўся ў твар мужчыны:

— Ты — Жывіца?! Адкуль ты зваліўся сюды?..

— Не зваліўся, сусед, а прыкаціўся!..— узрадавана адказаў Жывіца.

— Хутка ж ты!.. І ўжо на поле? Ах ты, неспакойная твая душа. Ты ж мог у лапы да немцаў трапіць, ды яшчэ — чорт ты гэтакі! — Аўдоццю завесці.

— Я трапіў бы? Я іх, братачка, за пяць вёрст чую!..

— Бач, які ўпэўнены, малодшы лейтэнант?

— Такі не трапіць! — заклапочана прамовіў Праворны, сочачы за полем.— Шарыфутдзінаў, можаш ісці назад...

— Ты ведаеш, жыта і ячмень выдаліся нядрэнныя,— падзяліўся ахвоча Жывіца.— Вельмі нядрэнныя, сказаць, выраслі! А бульба — гэтая падгуляла! Падгуляла, сусед... Зямля збяднела, карміць трэба...

— Трэба!..

Праворны азірнуўся на Дразда і ціха аб'явіў:

— Паявіліся!..

## 2

Юрый таксама ўбачыў — доўгая шэрая калона, узбіваючы хмару пылу, паволі выпаўзала на пагорак. Наперадзе, выставіўшы, нібы шчупальцы, ствалы гармат, асцярожліва сунуліся танк і дзве самаходкі.

Калі яны падышлі блізка, у кустах, зіхнуўшы языкамі-полымем, ударылі гарматы,— абедзве самаходкі некалькімі трапнымі стрэламі былі падбіты. Танк хутчэй збочыў і пачаў, манеўруючы, часта страляць з гарматы.

Тады калона на полі стала распаўзацца ўшыр, загаварылі нявідныя адсюль нямецкія гарматы і мінамёты. Яны найбольш абстрэльвалі батарэю, каля яе ўвесь час не сціхаў грукат.

Калона ішла проста па полі, мнучы і топчучы збажыну. З-за пагорка выпаўзлі яшчэ некалькі танкаў, за якімі варушыліся рады і купкі пехацінцаў, ледзь

бачных у жыце. «Адкуль іх столькі сабралася!» — падумаў здзіўлена і ўстрывожана Юрый. Шарыфутдзінаў штосьці сказаў, але Юрый не разабраў тых слоў, і казах паўтарыў у другі раз:

— Як саранча, кажу... Яны — як саранча!.. Паўзуць. Многа.

Там, каля ўзгорка, было, напэўна, разы ў два больш, як нашых.

— Нічога, мы ўжо бачылі такіх,— Юрый сказаў з ноткай пагарды, знарок спакойна.

— Бачылі! С-саранча...

Юрыю ўжо не раз даводзілася біць гітлераўцаў і бачыць, як яны — няхай часам пасля цяжкага бою — уздымаюць паслухмяна рукі. Спрактыкаваным вокам франтавіка Юрый заўважыў, што ў тых, хто хацеў прарвацца, цяпер было менш, як калі-небудзь раней, парадку і зладжанасці...

Аднак ён адчуў, што справіцца з такою сілаю будзе нялёгка. Вельмі ж багата іх тут. Ды і, акрамя таго, лезуць яны вельмі настырна, быццам ашалелыя. Напралом пруць...

Юрый махнуў кулямётчыку:

— Давай!..

Ён мелькам зірнуў у бок бранябойшчыка. Цэлы, страляе. Стаў пазіраць туды, куды б'е кулямётчык: гітлераўцы беглі насустрач. Падалі — адны назаўсёды, другія, каб перадыхнуць: хутка яны зноў уздымаліся і беглі... Падалі і беглі.

На полі дымела ўжо некалькі машын, было там нямала раненых і забітых, але постаці ў зялёных мундзірах па-ранейшаму рваліся наперад... Тры танкі, да паловы схаваныя жытам, манеўруючы, б'ючы з кулямётаў, хутка рушылі на акопы ўзвода Праворнага.

— Гранаты!.. Адбіваць танкі!..— крыкнуў Юрый, голас якога патануў у грукаце. Ён схапіў у нішы акопа важкую процітанкавую гранату, хапаючыся ўставіў запал. Моцна сціснуў ручку.

Але адзін з танкаў ужо замёр, прашыты навылёт у вежу артылерыйскімі снарадамі, а хутка нехта — ці артылерысты, ці, можа, хто-небудзь з бранябойшчыкаў — спаліў і другі. Куля ці снарад папалі, напэўна, у бак з гаручым, над танкам адразу высока выбухнуў клуб дыму... Трэці танк, што крыху адстаў, хаваючы-

ся за дымам, адстрэльваючыся, не разварочваючыся, пачаў адступаць назад...

Потым з боку немцаў пачаўся шалёны абстрэл з гармат. Адзін снарад упаў на край суседняга з Юрыем акопа, пасекшы ўшчэнт байца-астраханца, што сядзеў там. «Вось бязглузда будзе — калі загіну цяпер»,— падумаў мімаволі сержант. Яму на нейкую хвіліну ўспомніліся Вася Крайко, размова з ім пра бацьку і тая надзея хутка ўбачыцца з бацькам, з якой Юрый жыў гэтыя два дні... Не, не, яны абавязкова пабачацца!..

Праз некаторы час сюды падышло некалькі «кацюш». Калі снарады «кацюш» пачалі з грукатам ірвацца ў радах гітлераўцаў, націск іх прыкметна паслабеў. Дзе-нідзе салдаты сталі разбягацца. Пасля трохчатырох залпаў «кацюш» над жытам паявіліся першыя белыя шматкі.

— Спыніць агонь! Спыніць! — пачуў Юрый голас Праворнага. Ён перадаў загад свайму аддзяленню. Калі яго байцы перасталі страляць, ён заўважыў, што «кацюшы» і гарматы ўжо сціхлі. Азірнуўшыся на ўзводнага, Юрый убачыў, што малодшы лейтэнант, устаўшы ў поўны рост, зграбны, стомлены, выцірае пілоткай спатнелы твар. Каля Праворнага ўстаў сувязны ад камандзіра роты. Сувязны, відаць, толькі што прыбег, задыхана хапаў паветра адкрытым ротам, ззяў.

— Другое і трэцяе аддзяленні — да мяне!.. Пойдзем браць заваёўнікаў! У палон!..

Аддзяленню Юрыя Праворны загадаў заставацца на месцы, быць напагатове. На ўсякі выпадак.

Пільна цікуючы за полем, Юрый убачыў, як гурты немцаў, узняўшы рукі, паспешліва выбіраюцца на дарогу, як пехацінцы і яго «землякі» прачэсваюць жыта, абяззбройваючы тых, хто хацеў схавацца. На дарозе расла гара трафейнай зброі, якая цяпер не магла ўжо нікому пагражаць, а побач пакорліва цснуўся натоўп палонных.

Ён хутка павялічваўся...

Гукнуўшы на дапамогу Шарыфутдзінава, Юрый разам з ім выцягнуў з акопа забітага астраханца. Трэба было пахаваць яго.

— Чаму яны стралялі? — ні то пытаўся, ні то раз-

важаў сам з сабою Шарыфутдзінаў, робячы даўжэйшым акоп, у якім быў забіты астраханец.— Ім трэба было здавацца, а яны — стралялі! Навошта яны стралялі,— бескарысна стралялі?..

Так, біліся яны бескарысна.

## 3

Сустрэча Баумволя з рускімі каля пасёлка была трагічнай для генерала. Адразу, ледзь толькі група завязала бой, генерал з некалькімі афіцэрамі аддзяліўся ад яе, аднак уцячы непрыкметна не ўдалося: Баумволя і яго паплечнікаў неўзабаве акружылі, і генералу, хочаш не хочаш, прыйшлося падняць рукі.

Апоўдні Баумволя прывялі да камандзіра гвардзейскай дывізіі генерал-маёра Шчарбацюка.

Шчарбацюк сядзеў за сталом. Ён дазволіў генералу сесці на сялянскі ўслон па другі бок стала, запытаў:

— Як генерал адчувае сябе?

Баумволь хвіліну маўчаў, як бы ў роздуме, потым расшчапіў губы і неахвотна паведаміў, што вельмі стаміўся. Апошнімі начамі даводзілася мала спаць. Моцна баліць галава. Баумволь наморшчыў лоб.

Генерал-маёр загадаў, каб далі што-небудзь ад галаўнога болю. Маёр-перакладчык адразу кудысьці выбег і праз хвіліну вярнуўся. Падаў панураму генералу пакецік з парашком. Баумволь разгарнуў яго і, плюшчачы вочы з пачырванелымі павекамі, дапытліва прыгледзеўся. Спытаў:

— Што гэта?

— Пірамідон,— сказаў маёр.

— Так? — у голасе палоннага чулася сумненне.

Зрэшты, у голасе гэтым была і абыякавасць.

Шчарбацюк супакоіў яго. Генерал запіў парашок глытком вады.

Ён адказваў абыякава. Відаць такі, ён праўда моцна стаміўся. У любы момант, здавалася, можа заснуць. Але ён не заснуў, і адчувалася: дужы, моцны духам быў. Умеў цярпець нягоды. Нават тут, у палоне, трымаўся самаўпэўнена, патрабавальна. Калі генерал-маёр Шчарбацюк запытаў, якія ў палоннага просьбы, той незадаволена паведаміў, што згубіў акуляры. Што няма некаторых дарагіх яму асабістых рэчаў. Няма

змены бялізны і абмундзіравання, якія ён, пайшоўшы з групай, пакінуў пры штабе войск. Ён не прасіў, а патрабаваў, каб рускія знайшлі яго рэчы і вярнулі яму.

Генерал-маёр Шчарбацюк слухаў яго без якой-небудзь прыкрасці ці нецярплівасці. Упершыню бачачы перад сабой такога пародзістага палоннага, камандзір дывізіі глядзеў на яго так, як глядзеў бы на злоўленага незвычайнага звера, кракадзіла ці бегемота. Звера, які ўжо не небяспечны і якога таму можна з цікавасцю разглядваць...

Палонны патрабаваў пакінуць пры ім ардынарца, што быў узяты разам з ім.

— Добра. Я загадаю, каб ардынарац быў пры вас,— адказаў згаворлівы Шчарбацюк.— Больш няма просьб?

О, не,— у генерала было яшчэ адно патрабаванне. Можна сказаць, самае важнае.

— Рускае камандаванне павінна паведаміць маёй сям'і пра маё месцазнаходжанне і становішча.

Гэта было так неспадзявана, што Шчарбацюк не знайшоўся, што адказаць. Са здзіўленнем угледзеўся ў палоннага. Той, не даючы яму часу на развагі, заявіў тым жа патрабавальным голасам:

— Акрамя таго, мне неабходны адпачынак. Мне неабходна аднавіць сілы і здароўе.

Чуючы гэта, генерал-маёр глядзеў на свайго палоннага пільна і нібы не разумеючы. Тое, што і як казаў палонны, было такім дзіўным, што ў Шчарбацюка на момант з'явілася падазрэнне: ці не дурыцца ■ ім гэты ўжо бяспечны фрыц. Але палонны казаў сур'ёзна, з выразам годнасці, з разуменнем нейкіх неадменных сваіх правоў. Неймаверна: пабіты гэты фрыц, рукі якога ў крыві нашай, не прасіў аб літасці, наогул не прасіў, а патрабаваў! Паведаміць сям'і, наладзіць адпачынак! У Шчарбацюка мільгнула думка: ці не выбілі ў яго высокага палоннага страхі апошніх дзён розуму? Не, падобна, палонны быў не хворы...

Што сказаць гэтаму нахабе? Шчарбацюк, канечне, мог бы належным чынам паказаць палоннаму яго становішча. Але генерал-маёру палонны быў пакуль патрэбны для справы. Справа патрабавала трымаць з палонным найлепшы кантакт. І камандзір дывізіі сказаў дыпламатычна:

— Наша камандаванне, магчыма, магло б даць згоду паведаміць вашай сям'і пра ваша становішча. Мы зацікаўлены ў тым, каб у Германіі ведалі аб становішчы ў палоне. Але, відаць, нямецкае камандаванне не дазволіць... Што да вашай просьбы пра адпачынак, то я не сумняваюся: адпачынак вам будзе.

Генерал-маёру хацелася хутчэй перайсці да справы, не тая абстаноўка была, каб траціць марна час. Ён рэзка змяніў кірунак размовы:

— Як вы ацэньваеце становішча германскіх войск у Беларусі?

Было відаць, што палоннаму размова на гэту тэму не падабаецца. Але ён стрымаўся. Засяроджана задумаўся, не спяшаючыся, з годнасцю выказаў сваю думку.

— Нашы войскі трапілі пад моцны ўдар. Рускім удалося стварыць вельмі вялікую перавагу што да колькасці сіл і тэхнікі. Нашы войскі не здолелі вытрымаць такі моцны ўдар. Цяпер становішча іх цяжкае. Але не безнадзейнае,— дадаў непахісна палонны.

— Вы лічыце, што ў іх ёсць шанцы на поспех? — з іроніяй зірнуў на палоннага Шчарбацюк.

— Так, яны могуць перамагчы. Павінны перамагчы.

Шчарбацюк з насмешкай запытаў:

— Якім чынам яны гэта зробяць?

Баумволь не стаў адказваць: паказаў Шчарбацюку, што адказ на гэта — яго камандзірская тайна.

— Значыцца, вы лічыце, што войскі вашы павінны працягваць бяссэнснае супраціўленне?

— Так, біцца да канца.

Генерал-маёр з'едліва пацікавіўся, чаму ў такім разе палонны пакінуў свае войскі.

— Я павінен быў перабрацца да сваіх, каб арганізаваць абарону на новых рубяжах. Арганізаваць новыя сілы.

— Але ж вы кінулі на смерць ранейшыя... Тысячы салдат!..

— У іх ёсць свая задача. І яны гэту задачу выконваюць.

— Яны загінуць усе. Бяссэнсна.

— У іх цяжкай барацьбе ёсць вялікі сэнс.

— Ніякага сэнсу!..— Шчарбацюк зазлаваў. Па-

чырванеў гнеўна. Засоп.— Перад імі стаіць небяспека — бязглузда загінуць! Бязглузда! Становішча іх безнадзейнае.— Ён гаварыў рэзка, упэўнена, пагрозна: — Мы не выпусцім ніводнага салдата ці афіцэра! Ніводзін з іх не вырвецца з акружэння! Або ў палон — або смерць! Палон цяпер — самае разумнае. Вы добра ведаеце гэта!..— Камандзір дывізіі са строгім выглядам закончыў: — Камандаванне арміі даручыла мне прапанаваць, каб вы звярнуліся да акружаных войск з заклікам спыніць супраціўленне.

Ні адна рыска не варухнулася на твары палоннага. Быў як каменны. Цвёрда заявіў:

— Я не зраблю гэтага звароту.

— Гэта канчаткова?

— Так.

Баумволь прамовіў гэта такім тонам, што гаварыць больш не было патрэбы. Генерал-маёр устаў, сказаў рашуча:

— Ну што ж! Мы іх прымусім хутка здацца. І без вашага звароту.

## РАЗДЗЕЛ VI

### 1

Ермакову неспадзеўкі давялося дзень пабыць сярод англічан. Незвычайным гасцям захацелася, каб з імі быў хто-небудзь з вядомых партызан, і з загаду камандавання злучэння камбрыгу давялося ехаць з імі.

Афіцэры англійскай місіі ўвесь дзень аглядалі Мінск. Мінск быў самым значным горадам з тых, якія аказаліся на шляхах іх падарожжа. Яны аб'ездзілі розныя кварталы горада, палазілі ў нямецкіх дотах, дзотах, пахадзілі каля штабялёў бомб ля Дома ўрада, знялі адзін аднаго неаднойчы на цікавым фоне: ля будынкаў, што яшчэ дыміліся, ля дротавых загарод, ля бункераў. Едучы адсюль, яны, напэўна, лічылі, што горад ведаюць. Нічога цікавага: руіны, запусценне. Усё гэта ўжо не раз даводзілася бачыць.

Яны спяшаліся. Падрыхтаваную на ўскраіне горада багатую, з гарэлкай, вячэру з'елі са смакам, з гаманою, але ў паскораным тэмпе. Ад іх не таілі, што

ноччу немцы могуць бамбіць горад, і падарожнікі, ды і нашы афіцэры пры іх, не хацелі рызыкаваць.

Калі ехалі, Ермакоў, які быў у першай машыне поруч з шафёрам, пачуў абрывак размовы:

— Вы кажаце, што мы — жорсткія, не гуманныя...— горача гаварыў наш маёр, што талкаваў ззаду пра розныя высокія праблемы з капітанам-англічанінам. Калі б і не ведаў Ермакоў, ён па голасу, па спосабу гаворкі мог бы зразумець, што абодва даволі выпілі. З гэтай прычыны і спрачаліся асабліва горача, голасна.— А хіба гэта гуманна — вось гэта, бачыце, пустэча з абодвух бакоў? Тут былі раней вуліцы, сады, бегалі дзеці.

Таксама захмялелы, Ермакоў, быццам словы маёра ішлі да яго, паглядзеў на вялізны пустыр, што раскінуўся па абодва бакі рэчкі. Можна было падумаць, што гэта поле ўжо, але далей на шэрані неба акрэсліваліся цёмныя абрысы вялікіх будынкаў. У цёплым змроку, што гусцеў, руіны здаваліся асабліва панурымі.

— Яны паступілі кепска, не спрачаюся...— адказаў капітан, прозвішча якога было Харпер.— У вайне таксама ёсць свае законы прыстойнасці. Абавязковыя законы, якіх усім належыць трымацца. Усё ж і ў такой паганай справе, як вайна, чалавек павінен заставацца цывілізаванай істотай. Яны часта здаюцца проста дзікунамі, якія не ведаюць, што такое цывілізацыя і проста — прыстойнасць. Вы не згодны са мной? Не?

— Вы вельмі здагадлівы чалавек, капітан...

— Дзякую... А пра Мінск я вось што скажу. Мне здаецца, калега, прабачце за шчырасць, Мінск мог мець і менш разбурэнняў... Але ён напалову драўляны горад... Каб паўгорада згарэла, дастаткова толькі некалькі запальных куль...

— Вы бачылі хаціны на ўскраінах? Яны ўцалелі — выпадкова... А лепшая частка горада знішчана. Не запальнаю куляю. Мінску давялося прыняць столькі бомб, колькі, мусіць, не бачыў і Ковентры... Дарэчы, вось паглядзіце — гэта дыміцца Акадэмія навук... Яе падпалілі перад самым уцёкам адсюль...

Ермакоў зацікаўлена прыслухаўся, што скажа англічанін. Той маўчаў некалькі хвілін, а калі машына выбегла на магістраль і насустрач паляцеў вецер поля, сказаў нечакана:

— Я люблю пачатак вечара... Душу абдымае незвычайная цішыня, вялікая, як неба, як свет. А ў сэрцы ўваходзіць незразумелы смутак, проста — містычны... Вы, маёр, любіце вячэрні час?

— Не... Я не зусім разумею вас...— адказаў маёр, і Ермакоў адчуў, што ён думае не пра хараство вечара.

— Як не разумееце, калега?

— Я ўсё яшчэ думаю пра нашу размову.

— Яна вас здзіўляе?

— Здзіўляе. І калі вас цікавіць чым, то вашай, калі можна сказаць, мяккацеласцю да фрыцаў...

— Не забывайце, маёр, мы — хрысціяне... Дабрата — першае хрысціянскае пачуццё...

— «Дабрата — да бліжняга?» Да каго, да забойцаў?..

Капітан Харпер сказаў, што маёр разважае занадта прасталінейна і рэзка. «Вось нягоднік!» — падумаў Ермакоў пра англічаніна.— «Хрысціянская дабрата!..», «Мог згарэць ад запальнай кулі». Ён адчуваў непрыхільнасць да гэтага дыпламата і шпіёна ў ваенным фрэнчы.

Ермакоў не ўмешваўся ў іх размову, ведаў: бескарысна. Не ўхваляў гарачкавасці нашага маёра: папусту кіпіць, знайшоў, каго спавядаць.

Ермакова больш цікавіў шафёр англічан, сержант Бейтс. Сочачы за дарогай, сержант, заўважыў Ермакоў, даволі ўважліва прыслухоўваўся да гаворкі ззаду. І не абыякава, хваляваўся. Але стрымліваў сябе. Маўчаў. Умеў трымацца. Ведаў дысцыпліну і сваё месца.

Ермакоў помніў, як Бейтс раней, яшчэ ўдзень, калі аглядалі горад, ехалі між бясконцых гор руін, раптам сказаў цяжка:

— У мяне таксама — у Грэйт-Грымзбі — разбурылі дом: уцэліла бомба... Маці і дачку — адразу, разумееце?

Яшчэ раней, дапамагаючы змяніць прабіты цвіком скат, Ермакоў даведаўся ад яго, што сержант прыехаў у Расію з Кірэнаікі, што там ваяваў у танкавым палку. Там у яго засталося нямала добрых сяброў. Адшпіліўшы кішэню кароценькай курткі, Бейтс тады выняў некалькі пакамечаных картак, на якіх быў з сябрамі. Ермакову тады спадабалася яго шчырае, няхітрае апа-

вяданне аб таварышах, што быццам былі і тут побач з сержантам. Чарлі Бейтс — так звалі яго,— відаць, вельмі любіў сваіх «хлопцаў», сумаваў па іх.

— Многа ці мала, а павалтузіцца з бошамі давялося,— закручваючы болт, што мацаваў кола да машыны, казаў тады ў роздуме Бейтс.— Але там не такая вайна. Толькі тут я, прызнаюся, убачыў, што такое сапраўдная вайна... І наогул вы — рускія — сапраўдныя хлопцы. Вы ўмееце за сябе пастаяць! Мне гэта падабаецца!..

Цяпер сержант Бейтс маўчаў. Слухаў, хваляваўся, але дысцыплінавана маўчаў.

Моўчкі глядзеў за дарогай наперадзе. Звыкла круціў баранку.

Абапал дарогі пабеглі сосны, між якіх дзе-нідзе цямнелі вялікія маўклівыя будынкі. З сасняку выходзіла некалькі грузавікоў; скупое святло іх фараў выхоплівала з цемры толькі камлі дрэваў, што здаваліся пнямі. Сосны хутка засталіся ззаду.

Сержант Бейтс маўчаў. Наогул не вельмі гаваркі быў ён, дзелавіты і засяроджаны з выгляду, сімпатычны хлопец, былы франтавы сержант Бейтс. Ён увесь час выклікаў вялікую цікавасць у камбрыга Ермакова: ад тых другіх, ад афіцэраў, камбрыг быў вельмі ж ужо далёкі. Вельмі ж ужо камбрыг ведаў, што ёсць кожны з іх сваёю прафесіяй і характарам сваёй цікаўнасці тут. Разуменне гэтага вымушала камбрыга заўсёды трымацца з асцярогаю, сачыць за сабою. Гэтая акалічнасць вымушала Ермакова і яго цікаўнасць да англічан, якая была ў камбрыга вялікаю, трымаць таксама з насцярогаю. Але тым больш цікавіў яго сержант Бейтс: седзячы звычайна побач з сержантам, камбрыг адчуваў як бы заўсёдную блізкасць іх стану, блізкасць іх душ. Праўда, розумам Ермакоў настройваў сябе на тое, што сержант, вядома, таксама з той жа кампаніі, але сэрца нібы не верыла розуму, настройвала Ермакова на лад дружалюбны.

Здаецца, і Бейтс быў настроены прыхільна да Ермакова. Не дарэмна ж, калі машына генерала перагнала іх і спынілася, а за ёй спыніліся і яны, выйшлі на ўзбочыну, выстраіліся ля кювета, а потым пачалі перагаворвацца, курыць, сержант раптам сказаў раздумліва, даверна:

— Ні маці, ні дачкі... Жонка толькі там... Часта сумую па Грэйт! Здаецца: добра там!.. Але ўсё не магу пабыць: служба!..

Але ўжо ж надта маўклівы быў ён, сержант Бейтс. Можа быць, таму, што гаварыў па-руску кепска, цяжка. Але ж маўклівы занадта.

— Чорт, ці доўга яшчэ нам трэсціся? — спытаў Харпер, калі паселі ў машыны.— Мне, прызнацца, ужо хочацца зваліцца на ложак...

— Хутка прыедзем. Гэта недалёка...

— Капітан! — крыкнуў Ермакову Харпер.— Мы правільна едзем? Не пападзём у «госці» к фрыцам?

— Не...

Ермакоў бачыў, як наперадзе па асфальце бягуць ад фараў дзве варухлівыя жоўтыя плямы.

## 2

Афіцэры ваеннай місіі папрасілі наладзіць сустрэчу з палоннымі.

Сустрэча адбылася ў вёсцы Красты. На гэтай сустрэчы быў і Ермакоў.

У прасторным і светлым пакоі, што займаў амаль палову дома, дзе англічане начавалі, сабралася трое нашых афіцэраў і некалькі англічан. Побач з гэтым пакоем быў другі, у ім стаяў ложак і каля дзвярэй вісеў, нібы знарок кідаючыся ў вочы, яркі халат кагосьці з англічан. Перад гэтымі быў у доме яшчэ адзін пакой, з вялікай печчу, своеасаблівая пярэдняя. Праз гэты пакой па адным прыводзілі палонных. Калі немцы паяўляліся перад гасцямі, наш афіцэр коратка дакладваў пра іх: прозвішча, чын, пасада, калі ўзят у палон.

— Баумволь, генерал-лейтэнант,— далажыў афіцэр, калі ўвялі палоннага.

Баумволь з-за акуляраў агледзеў цікаўных «гасцей» вострым, нядобрым позіркам. У вачах мільгнула насцярожанасць, але генерал стрымаў сябе. Твар стаў нерухомы, як маска. На гэтай масцы быў цяпер толькі выраз самаўпэўненасці і непрыхільнасці да «гасцей», якіх палонны і не стараўся хаваць. Ён, здавалася Ермакову, быў цяпер падобны да непрыручанага звера, якога прывялі паказаць людзям.

— Генерал Баумволь?.. Мы чулі пра вас. Чулі як пра аднаго з найбольш разумных генералаў праціўніка,— прамовіў пачціва і ветліва англічанін-генерал, як бы стараючыся падбадзёрыць палоннага. Іншыя англічане з цікаўнасцю разглядвалі былога ўпаўнаважанага з Берліна, чакалі, што ён скажа.

Баумволь не адказаў,— ганарліва прапусціў пахвалу без увагі. «Самалюбівы!» — падумаў Ермакоў.

— Як ваша, генерал, здароўе?.. Зрэшты — вы, напэўна, як салдат, не прывыклі скардзіцца на здароўе, ці не праўда?

— Не.

Баумволь не зірнуў на англічаніна.

Палонны быццам не заўважаў апечнай ветлівасці англійскага дыпламата. Англічанін прыкметна спрабаваў надаць афіцыйнай размове лад мірнай гаворкі, стараўся не вярэдзіць хваравітае самалюбства гітлераўца. Ермакоў адзначыў, што нямецкі генерал адкрыта не падтрымаў гэтага намеру, трымаўся з вайсковай рэзкасцю.

— Вы не хочаце паснедаць з намі, генерал? — дыпламат кіўнуў на столік, за якім было яшчэ некалькі афіцэраў. Генерал сядзеў на лаўцы каля рогу стала. На стале завабліва ляжала розная закуска, над якой узвышаліся галоўкі пляшак з віном.

Палонны адвёў вочы ад стала, з годнасцю адказаў, што не хоча есці.

— У такім разе — калі ласка, раскажыце пра сябе...

— Гаварыце больш дакладна.

— Нас цікавіць ваша жыццё, натуральна, ваеннае жыццё. Якімі вы, напрыклад, часцямі камандавалі? Якія даручэнні выконвалі ў апошні час?

Баумволь, панура пазіраючы проста перад сабой, неахвотна і каратка паведаміў пра тое, якія камандныя пасады займаў. Пра спецыяльныя даручэнні гаварыць не стаў.

Таксама ж каратка ён адказаў на пытанне пра ўзнагароды.

— Вы, нямецкія войскі, зазналі тут вялікае паражэнне,— загаварыў англічанін раптам пра іншае.— Чым, па-вашаму, тлумачыцца такі поспех, выдатны, бліскучы поспех нашых саюзнікаў — рускіх?

Гэта, відаць, вельмі цікавіла генерала-дыпламата, такое пытанне ён задаваў ледзь не кожнаму палоннаму. У чым сакрэт перамогі савецкага войска? — генерал асцярожна, але настойліва шукаў адказ на гэта пытанне. Мімаволі ўзнікала думка, што генерал бачыць у гэтым ключ да разгадкі тайны, якую так неабходна было ведаць. «Як гэта назваць? Ды гэта ж, гэта проста — адкрытая разведка!» — падумаў Ермакоў. Ён адчуваў, што роспыты англічаніна былі ўжо не з простай цікаўнасці...

«Ключ» аказаўся над меру складаным. Палонныя гаварылі ўразнабой: адны тлумачылі ўсё тэхнічнай сілай Савецкай Арміі, другія тым, што ў рускіх больш войска, сярод іншага вінавацілі нямецкія флангі, якія быццам бы кепска былі прыкрыты. Некаторыя панура прызнаваліся, што рускія камандзіры аказаліся мацней у стратэгіі і тактыцы — умела ўзялі ўсё, што дае хуткасць, націск, манеўр...

Генерал Баумволь непрыхільна ўзяў пытанне. Здавалася, вагаўся спачатку: ці прыніжацца да адказу. Нарэшце, можа быць, каб адкаснуцца ад прыкрага чакання, прынізіўся. Расшчапіў губы.

— Мы дапусцілі пралік... у вызначэнні напрамку галоўнага ўдару... У выніку рускія... дабіліся тут... вялікай перавагі сіл...

Ён змоўк — было відаць, што ён пра гэта гаварыць больш не жадае і не жадае наогул ніякіх пытанняў на гэту тэму. Англійскі генерал, пэўна, гэта ўлавіў. Пачакаваўшы за адказ, перавёў размову на іншае.

— Што вы думаеце пра аперацыі англічан і амерыканцаў на захадзе?

Зірнуўшы ганарыста на таго, хто пытаўся, Баумволь заявіў рэзка, непахісна:

— Нічога. Вы кепска ваюеце.

Ермакоў бачыў, як нездаволена варухнуўся на табурэце такі ветлівы і мяккі англійскі генерал, як ён падцяснуў губу. Дыпламата яўна пачынаў злаваць гэты самаўпэўнены грубы арыец.

Размова яўна не ладзілася.

Яе ледзь не сапсаваў зусім Харпер.

Капітан у час сустрэчы забаўляўся тым, што рабіў фотаздымкі «на ўспамін». Спрытна падрыхтаваўшы фотаапарат, ён цяпер накіраваў яго на Баумволя. Па-

лонны ў той жа момант гнеўна зіркнуў вачыма, уладна махнуў рукой. Загадаў схаваць фотаапарат.

— Я хацеў толькі зрабіць фотапамяць аб нашай сустрэчы...— здзіўлена растлумачыў капітан Харпер.

Каб разагнаць нядобрую цішыню, генерал-англічанін запытаў у Баумволя пра яго сям'ю, і тут Ермакоў убачыў: фанабэрысты твар палоннага ўпершыню ажыў, абыякавасць знікла. Халодныя вочы за акулярамі неспадзявана пацяплелі.

— Яны жылі ў Берліне. У час адной бамбёжкі мой дом разбурылі...

— І дзе ж яны, генерал, цяпер?

— Яны пераехалі ў Кётцынген. Там яны былі потым увесь час... Але я ўжо амаль паўмесяца пра іх нічога не ведаю...

Англічанін, апусціўшы вочы, спачувальна кіўнуў галавою: шкада, шкада...

— Вы, вядома, хочаце перадаць вестку пра сябе?

— Яволь.

— Нашы войскі, напэўна, хутка будуць у гэтым... Кётцынгене. Я ахвотна напішу нашым генералам, каб вашай сям'і паведамілі, што з вамі...

— Яволь...— Баумволь папраўіўся: — Вы ўважлівы да мяне...

— Мы — міласэрныя...

«Эх, пан саюзнік! — з непрыязнасцю папракнуў у думках Ермакоў, гледзячы на ласкавы твар саюзнага генерала. Здзіўлена падумаў: — Нібы не на розных палях раслі з гэтым бітым ваякам...» Ён раптам успомніў учарашнюю размову ў машыне п'янага Харпера з нашым маёрам...

Калі Баумволя вывелі і афіцэры пачалі разыходзіцца, наш афіцэр-перакладчык, што выпадкова апынуўся ззаду двух англічан, неспадзявана пачуў узрушаны шэпт аднаго з іх:

— ...генерал гаварыў з гэтым бошам... уражанне... як з прыяцелем...

Такі ж ціхі, але з ухмылачкай, голас Харпера шматзначна адказаў:

— Вайна канчаецца, Майкл... Гэтая...

## 1

З кожным днём становішча тых, хто быў у «мінскім катле», пагоршвалася.

Амаль цэлымі суткамі над палямі і пералескамі ля Волмы кружылі нашы бамбардзіроўшчыкі, вышуквалі праціўніка і сыпалі на яго бомбы. Грымелі гарматы, выбіваючы акружаных з іх пазіцый, секлі «дзегцяровы», і, прыкрытыя імі, кідаліся на ворага пехацінцы, выганялі яго з жытнёвых палёў, з лясоў і ляскоў.

Нямецкія часці неслі нечуваныя страты. Амаль усе дарогі, патаптаныя ў жытнёвай красе палі, перарытыя выбухамі лугі ў бляску травы былі завалены трупамі, што хутка пухлі ад ліпеньскай спёкі. Над трупамі хмарамі круціліся назойлівыя мухі; цудоўны гарачы водар летніх прасцягаў быў атручаны нясцерпным смуродам смерці. Дорага заплацілі гітлераўцы за спробу супраціўляцца нашым войскам!

Пятля вакол акружаных з кожным днём сціскалася тужэй і тужэй. Бамбёжкі і абстрэлы ўсё мацнелі. Яны выбівалі з галоў немцаў надзеі на дапамогу з захаду, на які-небудзь ратунак. Усё больш салдаты то па адным, а то і вялікімі гуртамі ішлі ў палон.

Дысцыпліна ў часцях упала зусім. Канчаліся боепрыпасы, амаль не было харчоў...

Восьмага ліпеня камандзір 12-га нямецкага армейскага корпуса генерал-лейтэнант Мюлер, які выконваў абавязкі камандуючага 4-й арміі, падпісаў загад аб капітуляцыі:

«8.7.1944 г.

Салдатам 4 арміі, якая знаходзіцца на ўсход ад ракі Пціч!

Пасля тыднёвых цяжкіх баёў і маршаў наша становішча стала безвыходным. Мы свой абавязак выканалі. Наша баяздольнасць упала да мінімуму, і няма ніякай надзеі на забеспячэнне. Рускія, згодна паведамлення Вярхоўнага камандавання, стаяць каля горада Баранавічы. Апошнія нашы шляхі цераз бліжэйшы водны рубеж перарэзаны. Няма ніякай надзеі выбрацца адсюль нашымі сіламі і сродкамі. Нашы злучэнні

бязладна рассеяны. Каласальная колькасць раненых кінута без усякай дапамогі.

Рускае камандаванне абяцала:

а) медыцынскую дапамогу раненым,

б) захаванне афіцэрам халоднай зброі, а салдатам — ордэнаў.

Нам прапанавана:

усю зброю і снаражэнне сабраць і здаць у непашкоджаным выглядзе,

пакончыць бяссэнсавае супраціўленне.

Я загадваю:

Неадкладна спыніць барацьбу. Мясцовым групам ад 100 да 500 чалавек збірацца пад кіраўніцтвам афіцэраў або старшых унтэр-афіцэраў. Раненых сабраць і ўзяць з сабою. Мы павінны паказаць дысцыпліну і вытрымку і як можна хутчэй пачаць праводзіць гэтыя мерапрыемствы.

Гэты загад пісьмова, вусна і ўсімі сродкамі перадаваць далей.

Мюлер, генерал-лейтэнант, камандзір
12 армейскага корпуса».

2

Клямт не захацеў ісці ў палон. Трое эсэсаўцаў, з якімі ён пазнаёміўся два дні назад, вырашылі як бы там ні было прабівацца на захад, і лейтэнант далучыўся да іх.

Яшчэ да таго як пачалася ўсеагульная капітуляцыя акружаных, чацвёра адасобіліся ад іншых. Моўчкі падаліся ў глыб лесу, што ўвесь кішэў салдатамі розных часцей.

Усе вакол толькі і гаварылі цяпер, што пра палон, пра загад Мюлера. Дзе-нідзе ўжо групкі салдат выпраўляліся на ўскраіну лесу. Многія з падазронасцю пазіралі на эсэсаўцаў і лейтэнанта, якія ішлі ў іншы бок.

Эсэсаўцы спыніліся далёка ад ускраіны ў цёмным ельніку. Зямля тут была амаль без травы, амаль усюды тоўстым пластам шарэла ігліца, а там, дзе зямля агалілася, яна нагадвала прысак. Непадалёк ад уцекачоў пірамідай уздымаўся вялікі руды мурашнік, па версе каторага ў розных кірунках снавалі занятыя сваімі

справамі мурашкі. Убачыўшы гэта, Клямт прыгадаў труп эсэсаўца, які ён гідліва абмінуў нядаўна ў лесе,— па трупе поўзалі мурашкі, раз'ядалі твар, рукі.

Тут было параўнаўча спакойна. Галасы з рупараў, устаноўленых рускімі, даносілі сюды загад аб капітуляцыі, але яго словы тут ледзь-ледзь можна было разабраць. Гэтыя гукі амаль не парушалі ляснога спакою. Праўда, і тут поблізу часам хадзілі; перагаворваючыся, шаргалі ботамі, ішлі ў бок ускраіны салдаты.

— Генерал Мюлер — галава...— гаварыў адзін з іх, што крочыў у групе таварышаў. Ён цягнуў на сабе кулямёт, абыякава трымаў за дула.— Усё роўна — бязглузда!..

— Шайзэ!..— плюнуўшы, падхапіў другі, які штосьці жаваў.— Улезлі!..

Чацвёра ў гушчары маўчалі. Толькі рослы, бледнаваты, інтэлігентнага выгляду гаўптштурмфюрэр пагрозна вылаяўся.

Яны дамовіліся перачакаць тут да вечара, а ўвечар паспрабаваць выбрацца з лесу і рушыць на захад.

З кожнай гадзінай цішыня станавілася ўсё больш трывалай, і чатыры ўцекачы пакрыху спакайнелі. Ужо недалёка быў вечар — вечар і ратунак.

І раптам непадалёк зноў пачуліся галасы. Калі галасы намацнелі, Клямт разабраў, што гавораць па-руску.

— Прачэсваюць лес! — вырвалася ў яго.

У прагаліну лейтэнант убачыў чалавека, апранутага ў цеснаваты пінжачок, у армейскія штаны і боты; на пілотцы незнаёмага ярка гарэла чырвоная істужка. Ён нешта камандаваў камусьці нявіднаму. Значыцца, гэта партызаны. Больш за ўсё не хацеў Клямт сустракацца з партызанамі!

## 3

Яны сталі адбягаць ад партызан. Паспрабавалі звярнуць управа, абмінуць партызанскі ланцуг, але там ледзь не наскочылі на другую групу партызан. Добра яшчэ, што тыя не заўважылі іх.

Адступалі, хаваючыся за дрэвамі, асцерагаючыся партызан, датуль, пакуль не засвяцілася ўскраіна. Угледзеўшы поле, уцекачы рашылі, што ў гэтай сітуа-

цыі, напэўна, больш надзейна схавацца ў жыце, але ледзь дабраліся бліжэй да поля, заўважылі непадалёк групу савецкіх салдат, штоназіралі за полем і краем лесу. Адзін рускі вёў у жыце немца з паднятымі рукамі.

Адступаць не было куды. Клямт і адзін эсэсавец рынуліся ў бліжэйшыя кусты, але іх прыкмецілі.

— Эй, фрыц... здавайся! — здагнала іх.

Клямт, не цэлячыся, даў у адказ чаргу з аўтамата. Эсэсавец таксама стрэліў. Ён вылаяўся і сказаў, што рускія могуць адрэзаць дарогу з тылу. Лейтэнант астатняе зразумеў без слоў: трэба хутчэй ісці адсюль.

Даўшы яшчэ чаргу ў бок рускіх, лейтэнант, угнуўшы галаву ў плечы, рынуўся следам за эсэсаўцам. Аднак, прабегшы нядоўга, ён зноў убачыў рускіх, цяпер ужо збоку. Там былі маладзенькі хлопчык з вінтоўкай і чалавек у пілотцы, з яркай чырвонай паскай, каторага ён прыкмеціў раней з прагаліны. Відаць, яны хацелі абысці лейтэнанта.

Клямт стрэліў, і партызан у пілотцы спатыкнуўся і выпусціў аўтамат з рук. У той жа міг другі, зусім маладзенькі хлопчык, яшчэ амаль дзіця, размахнуўшыся, штосьці кінуў. «Граната!» — мільганула ў Клямта, і ён праворна адскочыў за дрэва.

Раздаўся выбух. Асколкамі парвала кару, дзе-нідзе агаліла дрэва. Па траве папоўз сіні дым.

— Ах ты, гад паганы! — пагрозна крыкнуў, увесь аж затросся ад нянавісці хлопчык. Гэта быў Шабунёк Андрэй.

Клямт, хаваючыся за дрэвы, час ад часу адстрэльваючыся, пачаў адбягаць ад партызан. Ён раптам кінуўся ў поле, стараючыся дапасці да недалёкіх кустоў, але заўважыў, што справа наперарэз яму бягуць два байцы.

Клямт на міг спыніўся, стаў дзіка, як звер, азірацца. І тут яго здагнала куля. Лейтэнант, ранены ў нагу, упаў. Павярнуўшыся назад, перамагаючы боль, ён хацеў яшчэ страляць у партызана, што падбягаў, у Андрэйку, але яго апярэдзіў адзін з салдат. Клямт ірвануўся ўсім сваім кароткім, дужым целам, нібы імкнучыся ўтрымацца ў жыцці, стаў драпаць, хапаць зямлю. Ухапіўся за камялёчак чырваналістага дубка-парастка. Нібы намагаўся яго вырваць. І — застыў.

Андрэй, на ўсякі выпадак выставіўшы вінтоўку, наблізіўся да Клямта. Убачыўшы, што той не варушыцца, хутчэй адштурхнуў нагой ад яго аўтамат. Усё яшчэ з асцярогай схіліўся над лейтэнантам, пераканаўся, што той мёртвы. Да Андрэя падышлі два вайсковыя, адзін з іх быў сержант Туравец.

— Да чаго паганае стварэнне: бачыць, што капут, а яшчэ шкодзіць! — прамовіў узрушана Юрый. Вусны Шабунька-малодшага скрывіліся ад нянавісці:

— Уу-у, г-гад!

У тым баку, дзе быў узвод Праворнага, пачулася новая перастрэлка — гэта, як потым выявілася, стралялі два эсэсаўцы,— і Юрый, скінуўшы з шыі рамень аўтамата, пабег да сваіх таварышаў.

Андрэй, закінуўшы вінтоўку за спіну, з аўтаматам у руках пакіраваў у лес, дзе застаўся ранены.

— Моцна ён, таварыш камандзір, зачапіў? — спытаў ён у Ляхоры, што ляжаў на траве. Шабуньку кінуліся ў вочы разрэзаная амаль даверху штаніна, кроў, што працялася праз бінт, якім абкручвала сястрычка Валя раненую, белую, бы нежывую, нагу.

— Не, здаецца... У мякаць папаў,— працадзіў ранены, стрымліваючы боль.— Адно пагана, што, відаць, прыйдзецца ў шпіталь лажыцца. Не адсвяткую, Андрушка, з вамі перамогу.

— Адсвяткуеце, таварыш камандзір! Вы хутка паправіцеся, вы жывучы!

Шабунёк, якому хацелася сказаць раненаму штосьці вельмі харошае, усцешлівае, папрасіў, проста молячы вачыма, каб ён са шпіталя прыехаў у Паплавы: маці так будзе рада, і ён, Андрэйка, таксама.

— Не, Андрушка, не абяцаю пакуль... Хачу пайсці ў Чэхаславацкі корпус. Ваяваць за новую Чэхаславакію... Вось калі вызвалю Прагу, тады прыеду, чакай...

— Прыязджайце, абавязкова! Мамка так будзе рада...— ён раптам схамянуўся, супакоіў:— Мы яму — будзьце пэўны — адпомсцілі за вас! Цяпер ён адправіўся к Адаму. Абясшкодзілі канчаткова!..

Потым, нібы падводзячы вынік, дадаў стала:

— Адным словам, яшчэ адзін гад даваяваўся!

## 4

І вось сціхлі стрэлы. Фронт быў далёка на захадзе, і тут магло здацца, быццам скончылася вайна.

Немцы асобна і купамі здаваліся ў палон. Здаваліся абознікам, збіраліся каля рэгуліроўшчыц. І салдат і афіцэраў бралі ў палон дзесяткамі работнікі рэдакцый, вясковыя жанчыны.

Немцы кідалі зброю. На большых зборных пунктах высіліся горы зброі, боепрыпасаў.

Па сцежках і дарогах цягнуліся доўгія чароды палонных. Гэта быў разнастайны зброд. Прадстаўнікі ўсялякіх часцей, часам даўно ўжо разбітых, салдаты і афіцэры ўсялякіх узростаў, рангаў, поглядаў. Змарнелыя, зарослыя шчацінаю, абшарпаныя, у выпэцканым торфам і глінаю адзенні...

Над імі, быццам смеючыся з іх, сінела высокае яснае неба, у якім дзе-нідзе млелі мірныя пухмяныя воблачкі, а абапал дарог лёгка пагойдвала каласамі даспяваючае жыта. З-за сцяблін цікаўна выглядвалі чыстыя вочкі васількоў.

Няшчадна паліла сонца. Палонныя, што пагублялі шапкі, прыкрывалі галовы далонямі ці хусцінкамі, спіралі з брудных твараў пот...

Байцы і партызаны ўпершыню начавалі бесклапотна, як пасля поўнасцю скончанай справы.

Прачнуўшыся ўранку на ўзлессі, за якім блізка цягнуліся ў рад хаты, Юрый здзівіўся таму вялікаму спакою, што панаваў у прыродзе. Ён мімаволі чакаў, што вось-вось дзе-небудзь пачуецца выбух ці стрэл, але навокал было ціха. Толькі спявалі дразды ды гугнелі камары.

Непадалёк, ля партызана-пастушка, на доўгіх няўклюдных нагах стаяла круталобае цяля з пукатымі спакойнымі вачыма, шырокімі рудымі вушамі, выцягнуўшы наперад да спаленага танка мызу, нюхала, быццам бачыла перад сабою штосьці незнаёмае. Выгляд у яго быў даверлівы і прастадушна-цікаўны. Хутка яно абыякава адвярнулася і, памахваючы ляніва хвастом, павольна падалося ў лясок.

«Нават цяля не баіцца ўжо танкаў! — засмяяўся сам сабе Юрый...— Прыкмета цішыні...»

Неўзабаве прыйшоў загад — выступаць у вёску, кі-

ламетраў за пяць. Там збіралася, як даведаўся Юрый, уся часць, напэўна, для таго, каб выпраўляцца, ісці далей на захад. І гэта таксама было прыкметай цішыні — тут больш рабіць няма чаго. Салдаты сталі развітвацца з партызанамі, якія начавалі тут жа, на ўзлессі. Пяць дзён сумесных баёў усіх вельмі здружылі. Юрый па-сяброўску абняў малога Шабунька.

— Ну, бывай, Андрэй!.. Вяртайся цяпер дахаты ды памагай мамцы. Ёй цяпер адной цяжка...

Мінуўшы ўзлессе, узвод Праворнага дарожкаю пайшоў праз тое поле, дзе ўчора вялі баі. Бой — гэта таксама мінулае, цяпер тут толькі цішыня.

Жыта, на сцяблах якога дзе-нідзе яшчэ зіхцелі кроплі расы, было ў многіх месцах нашчэнт здрасавана. Колькі яго вытаптана, гэтага выспяваючага жыта! Што ж, гэта апошні бой. Тут яго больш не будуць таптаць.

Цішыня далася нялёгка. На дарогах, у жыце, усюды — варожае снаражэнне. Зямля то там, то тут парыта снарадамі, сцяблы жыта, палеглыя ад выбуховых хваль наўкруг варонак, абпалены і прыціснуты камякамі вывернутай зямлі... Як прывіды, цямнеюць між калосся разбітыя грузавікі, кухня з прастрэленым навылёт кулямётнай чаргой катлом. З ніжніх прабоін катла цягнуцца закарэлыя раўчакі нейкай стравы.

Калі яны зноў падышлі да ўзлесся, што клінам выдавалася ў поле, Юрый раптам убачыў нямецкага лейтэнанта, каторы параніў партызана. Па твары мерцвяка паўзла вялікая зялёная муха...

Мярцвяк тут не адзін. Усюды на полі каля варонак — трупы ў брудных, зямлістых мундзірах, з зямлістымі тварамі.

— І яны цяпер спакойны! — заўважыў хтосьці.

— Прыціхлі! — паблажліва адгукнуўся другі.

Насустрач калоне з жыта выйшаў немец-салдат, без зброі, без пілоткі, з расхрыстаным, вываленым у зямлі мундзірам, аброслы, як лясун. Ён загадзя ўзняў над сабой рукі.

У яго насцярожаным позірку, што з-пад рудых броваў сачыў за байцамі, было штосьці дзікае.

— Плен! — папрасіў ён, як ласкі.

— Няма тут калі з табою! — Праворны на адну хвіліну прыпыніўся: — Вір ніхт габе цайт. Фарштэй?

— Яволь,— прамармытаў немец.

— Дуй туды! — малодшы лейтэнант паказаў у бок збору палонных.— Адзін! Айн, айн!

— Канваіра хочаш? Нашто? Нікуды ты ў другое месца не пойдзеш. Няма куды...

## РАЗДЗЕЛ VIII

### 1

«Нелюдзі... звяры... людаеды...» — словы гэтыя многа разоў узнікалі ў Аляксея. Тое, што ён цяпер бачыў, праходзячы па лагеры, было страшнейшым за ўсё, спазнанае апошнімі днямі... Ямы, поўныя трупаў, вакол ям — натоўпы жывых. Анямела маўчаць, рыдаюць, б'юцца ў горы, праклінаюць. Іх многа, гэтых ям-магіл, што раскапала следчая камісія. Кажуць — каля сарака... А вось рэшткі спехам раскіданых печаў, дзе яшчэ некалькі дзён назад гітлераўцы рабілі сваю звярыную справу. Учарнелы, прыбіты дажджом попел панурымі пісягамі спаласаваў вытаўчаную ботамі зямлю. Абвугленыя недагарэлыя апошнія галузы...

Запомнілася, урэзалася на ўсё жыццё ў памяць: каля слупоў з абрыўкамі калючага дроту — россыпам і горкамі — банкі ад кансерваў,— яны былі за пасуду нявольнікам. Банак гэтых, і бліскучых, і раз'едзеных іржою, страшэннае мноства — сотні, тысячы. І ў кожнай [redacted] іх быў не адзін гаспадар...

Па лагеры купкамі ходзяць людзі, сумныя, заплаканыя, гнеўныя. У кожнага тут сваё гора, свой боль.

— У вас, таварыш камандзір... таксама каго-небудзь няма? — запытала раптам Аляксея ціхая, маленькая, уся нібы высахлая жанчына, калі ён ішоў ужо з лагера. Трымаючы ў руцэ раскрытую сумачку, яна выцірала скамечанай мокрай хусцінкай нерухомыя, нібы сляпыя, вочы.

— Жонка...

— А ў мяне — трох сыноў... Падпольшчыкі былі. Двух закатавалі ў гестапа яшчэ ў сорак першым. А малодшага — зусім нядаўна... Я і не ведала, што ён падпольшчык. Хаваў ад мяне...— яна зноў прыклала хусцінку да вачэй.— Божа мой, хоць бы адзін застаўся!..

Аляксей усім сэрцам адчуў яе гора. Спагадлівы наогул, ён цяпер асабліва чулы быў да гора. Ён разумеў, што павінен неяк суцешыць яе, дапамагчы ёй. Але чым ён мог дапамагчы ёй?

— Не плачце, мама... Не трэба!..— мякка, са спачуваннем сказаў Аляксей.

— Ні аднаго!..

Ён адчуваў, якія слабыя тут былі словы суцяшэння. Але нельга было маўчаць, чуючы такі адчай. Поўны нязноснага болю, тугі сам, ён павінен быў супакоіць няшчасную старую.

— Вялікае гора ў вас, мама... Я разумею...— Старая сумна зірнула яму ў твар. Моўчкі чакала.— Страшнае гора... Сэрца ваша баліць... і будзе балець...— Як цяжка было яму думаць, якім незнаходлівым быў розум. Не знаходзіў неабходных думак, патрэбных слоў. Але трэба было знайсці. Трэба было. Праз тугу, што поўніла ўсяго, важка праціснулася думка. Няпэўная спачатку, акрэслілася. Тая, што трэба.— Але я вам хачу сказаць вось што... Гора, канечне, ёсць гора... Але я думаю: сэнс жыцця не ў тым, каб толькі пражыць доўга... Можна пражыць доўга, але — пуста... А можна і за кароткае жыццё зрабіць многа... А галоўнае — пражыць прыгожа...

— Гэта — праўда,— згадзілася старая.

— Чаго варты чалавек — паказвае ён у цяжкую хвіліну. Калі — небяспека... Асабліва, калі наперадзе... можа быць, смерць... Тады вытрымліваюць толькі моцныя, сапраўдныя... Я гэта бачыў па сваіх салдатах... А яны пайшлі ж — без загаду... З-за сумлення, абавязку толькі... Вам трэба ганарыцца імі...

Страшэнна цяжка было Аляксею гаварыць гэта: спазмы сціскалі горла. Была жахлівая дваістасць: розум, абавязак знаходзіў словы, стараўся падтрымаць старую, і сэрца як бы пярэчыла, хацела плакаць, крычаць...

Старая знясілена ківала галавою: разумее гэта. Але плакаць не перастала.

Яны паволі ішлі па ціхай вуліцы, у бок шасэ. Аляксей знарок ступаў нешырока, каб спадарожніца не адставала. Зазіраючы Аляксею ў вочы, старая спагадліва, нібы па-сваяцку спытала, як загінула Ніна. Слухала моўчкі, з болем.

— І ў вас — вялікае гора... Многа гора цяпер у людзей...

— Калі мне было балюча... вельмі балюча,— загаварыў Аляксей,— я ўявіў таго, хто забіў яе, маю Ніну. Як бы ён, гад, глядзіць на мяне і хоча ўбачыць, як я гарую... І я перамог сябе, адчай. Лютасць мяне ўзяла!

У голасе Аляксея пачулася пагроза:

— Яны мне расплоцяцца за ўсё!..

— А за маіх некаму адпомсціць...

— За ўсіх і за ўсё, мама, разлічымся. Вось толькі б вярнуцца туды, да таварышаў...

«...Ніна, любая мая Ніна,— думаў ён, развітаўшыся са старою.— Я ніколі не ўяўляў ні шчасця, ні жыцця без цябе... А цяпер цябе няма... Я адзін павінен жыць, расціць дачку...

Вакол ідзе жыццё. Іншыя, як і мы калісьці, мабыць, любяць, чакаюць, спадзяюцца. А цябе няма. І для мяне нібы няма жыцця... Толькі — Людачка. Наша дачка...

Як мне быць далей — не ведаю. Нічога не ведаю. Усё зламалася, страціла сэнс без цябе... Ні ты, ні я не ведалі, як многа ты для мяне значыла...

Не ведаю, нічога не ведаю... Ведаю толькі, што павінен адпомсціць за цябе. Прагну больш за ўсё гэтага... Больш нічога не ведаю. Не ведаю...

Люблю цябе, як і раней. Больш, чым раней... Помню ўсё. Заўсёды буду помніць... Дачку зберагу! Нашу дачку!.. Больш нічога не ведаю... Не ведаю... Не бачу... Не бачу...»

2

Як ні цяжка было яму, ён стараўся падтрымаць Наталлю Міхайлаўну, дапамагчы ёй перанесці гора.

Наталля Міхайлаўна не плакала, перажывала няшчасце моўчкі. Аляксей заўважыў, што яна стала цішэйшай, чым заўсёды, і быццам больш згорбілася. Яна цяпер часта гаварыла пра сына Алега, які недзе на фронце,— было відаць, вельмі трывожылася, што з ім, ці жывы? Няхай бы хоць словам адгукнуўся! Хоць адным словам!

Рукі ў яе зрабіліся непаслухмяныя: рэчы часта валіліся з іх.

— Божа мой, што гэта я такая няўдалая? — спрабавала яна часам кпіць з сябе.

Яна здавалася цяпер дзіўна няцямнай, раскіданай. Гаворачы з Аляксеем, іншы раз не разумела звычайных яго думак. А то раптам трацiла ніць сваёй гаворкі і не магла ўспомніць, пра што хацела сказаць.

— Вось памяць стала — дзіравая, як рэшата... Аб чым жа гэта я хацела? — Глядзела на Аляксея збянтэжана, прасіла напомніць.

Але ў адзін з гэтых горкіх дзён да яе прыйшло шчасце. Яно прыйшло разам з лістаносцам, пажылою негаваркой жанчынаю, якая прынесла канверт-трохкутнік. Наталля Міхайлаўна, нібы не верачы, глядзела на гэты трохкутнічак, на знаёмы сынаў почырк, потым дрыжачымі рукамі адкрыла ліст.

— «Дарагая мама!» — паварушыла яна нямымі губамі і раптам прашаптала, задыхаючыся: — Алег, сыночак, хлопчык ты мой! Шчасце ты маё...

І раптам горка, з няўціхным адчаем зайшлася, застагнала, забілася...

...Ажыўляла і цешыла яе ўнучка. Бабуля амаль штодня ўранку і ўвечар сядзела каля ложка Людачкі, не зводзіла з дзіцяці закаханых вачэй.

Днём яна пільна сачыла за ўнучкай, нікуды не адпускала ад сябе адну: толькі б не звалілася якоенебудзь няшчасце на малую!

Аляксей часта браў Люду на калені, песціў, ладзіў гаворкі з ёю. Гадзінамі, асцярожна, пальцамі трымаючы кволую яе ручку, хадзіў ён з малою па двары, па вуліцы. Гэтыя гаворкі і пагулянкі поўнілі яго сэрца ціхай, цёплай радасцю.

— Хутка табе руку развяжуць? — запытала Люда аднойчы, калі яны ішлі па двары.

— Хутка, Людачка.

— Калі?

— От як трохі зажыве.

— А хутка яна трохі зажыве?

— Ды от пабачым — калі. Як толькі зажыве, тады і будзе відаць...

— А цяпер не відаць?

— Не, дачушка...

— А ты б развязаў руку, тады б і было відаць.

— Няможна, дачушка, бо рука будзе балець...

Яна сціхла, увагу яе якраз прывабіла птушка, што села непадалёк на слуп ад плота. З усяго, што Люда бачыла, больш за ўсё яе цікавілі цяпер птушкі. Яна глядзела на іх заўсёды з захапленнем.

— Верабейка... Глядзі — верабейка!..— паказала яна маленькім, амаль празрыстым пальчыкам на птушку. Людчыны вочкі засвяціліся ад шчасця. Аляксей пяшчотна паправіў яе:

— Не верабей, а шпак...

Люда ўпэўнена запярэчыла:

— Не, гэта не шпак, а верабей...

Пагаварыўшы з ёю, Аляксей выявіў, што яна ўсіх птушак падзяляе на курэй і вераб'ёў. Куры — гэта тыя, што ходзяць па зямлі, а вераб'і лятаюць.

— А гэта што? Шпак?..— кранула яна пазней бацьку за руку.

— А гэта — верабей.

— Верабей. Які жвавы — верабей! Праўда?

Аляксея захапляла яе цікаўнасць. На кожным кроку толькі і чулася ад яе: «Што гэта? А чаму?» Яна так багата пытала, што Аляксей, і раней не надта гаваркі, а цяпер найбольш і зусім маўклівы, ледзь упраўляўся тлумачыць.

## 3

Люда звыклася з Аляксеем. У адносінах Люды да яго дзень за днём усё мацнела шчырая дзіцячая даверлівасць і прыхільнасць, якія вельмі цешылі бацьку.

Яна ахвотней стала хадзіць з ім на пагулянкі, а ў апошнія дні чакала іх нецярпліва, пытала: ці хутка пойдуць?

— Ты хочаш, мы з табою будзем дружыць? — сказала яна ў адну з гэтых пагулянак.

Ясныя вочкі запытальна пазглядалі на бацьку.

— Хочаш, Аляксей?

— Хачу, мая сінявокая...— засмяяўся ён.

— Ну, то мы цяпер і будзем дружыць,— прамовіла яна задаволена. Потым даверна паведаміла: — Я яшчэ дружу з бабуляй. І з Сідарам таксама. Ён добры і зусім не паганы, як бабка кажа...

Аляксей ведаў: Сідар — дабрадушны і лянівы рудаваты кот суседзяў. Часты госць на іх двары.

Амаль штодня Люда непакоілася пра бацькаву руку.

— Табе кепска хадзіць з завязанай рукой, праўда? Нават размахваць няможна.. Чаму ты яе так доўга не развязваеш?

— Бо рука яшчэ не зажыла, Людачка.

— От, чаго яна так доўга не зажывае?

Аляксей заўважыў: дачка магла гадзіны гуляць адна, гаманіць сама з сабою. Было відаць: не сумавала без малых сяброў. Не нудзілася адзінотаю. Што гэта: характар ці толькі прывычка? — думаў ён. Відаць, Люда стала такой ад таго, што амаль усё маленькае жыццё, усе тры гады ёй даводзілася быць адзінокаю.

Аляксей стараўся ўладжваць так, каб яна часцей гуляла з суседскімі дзецьмі. На яго двары цяпер нярэдка кіпелі шумлівыя дзіцячыя гульні, чуліся крыкі і смех. Люда ахвотна ўдзельнічала ў забавах, аддавалася ім усёй душой. Здружылася з усімі.

Нярэдка здаралася так, што, захапіўшыся гульнёю, Люда прыбягала ў хату толькі для таго, каб пад'есці. Бабуля ці Аляксей рабілі ёй бутэрброд з кансервамі, і яна выбягала зноў да таварышаў, даядаючы ўжо на двары. Часам жа бабулі прыходзілася клікаць ці весці яе ў хату, каб яна падсілкавалася.

Усё лепшае, што Аляксей атрымліваў на паёк, ён аддаваў дачцэ. Вельмі хацелася яму, каб дачка хутчэй паправілася, паздаравела. «Еш, еш, дачушка! — пажартаваў ён аднойчы,— ты ў нас цяпер працуеш больш за ўсіх!»

— Бабуля, ножкі баляць,— скардзілася яна ўвечары, кладучыся спаць.

— Набегалася, от і баляць. Дзіва — цэлы дзень на нагах!..

— Нагулялася, дачушка?

— Нагулялася,— прызналася яна, засынаючы.

Але дружба яе з дзецьмі была нямоцнай. Адзіным чалавекам, па-сапраўднаму неабходным ёй, была бабуля. Бацьку ж, хоць Люда і «дружыла» з ім цяпер, яна ўсё яшчэ называла то татам, то Аляксеем. Аляксей думаў, што ў яе пакуль ёсць толькі звычайная прыхільнасць да яго, нічога большага,— і калі ім да-

вядзецца расстацца, Люда, мусіць, хутка забудзе яго...
Зусім інакшае месца займаў гэты маленькі бялявы чалавечак у душы Аляксея. З кожным днём Люда станавілася даражэйшай яму.
Думаючы пра будучыню, ён турбаваўся перш за ўсё пра шчасце дачкі...

## РАЗДЗЕЛ IX

### 1

Дзевятага ліпеня Клава развітвалася з братам. Ён ішоў у армію.
Усе папярэднія дні Сяргей быў у знішчальным батальёне,— камандаваў узводам, у якім было некалькі знаёмых шафёраў. Увесь батальён складаўся з пажылых рабочых і хлопцаў.
З узводам, якім камандаваў, Сяргей трэцяга ліпеня абяззбройваў немцаў, што заселі ў цагляных чатырохпавярховых будынках ля чыгункі — «казармах Белпалка». Гітлераўцы стралялі з дахаў, з вокан. Калі іх прымусілі змоўкнуць, давялося лезці на дахі, абшукваць калідоры, пакоі...
Нарэшце наступіў спакой і тут.
На золку другога дня Сяргей біўся з нямецкаю групкаю, якая прабралася ў горад і была акружана на яўрэйскіх могілках. Немцы, найбольш былі тут эсэсаўцы, ніяк не хацелі здавацца. Хаваючыся за надмагільныя пліты, адстрэльваліся з аўтаматаў і пісталетаў.
Мінчане-знішчальнікі перабілі іх больш за палову,— толькі тады між пліт паявіліся белыя шматкі.
Цяпер, калі ў Мінску і пад Мінскам уціхла, Сяргей папрасіўся ў армію.
Клава правяла брата да месца збору. Збіраліся на прызыўным пункце, які ў тыя дні быў у парку Чалюскінцаў. Між строгіх, парадзелых за вайну сосен зелянелі брызентавыя палаткі; каля іх усюды стаялі гурткамі хлопцы, мужчыны, дзяўчаты, маткі, жонкі. Многа было тут хлопцаў, што выраслі за вайну.
У сасонніку плылі, плёскаліся песні, пераліваліся галасы вясёлага гармоніка.

— Дык ты ж глядзі, каб пісаў часта,— наказвала Клава.— Не лянуйся... Бо я цябе ведаю — пісьмо сабрацца напісаць табе цэлае гора...

— Буду пісаць... Толькі ты не думай нічога пра мяне. І — не сумуй тут адна...

— А чаго мне думаць? Вось яшчэ — прыйдзе час, вернешся. Нікуды не дзенешся!..

Хоць Клава паказвала сябе зусім бесклапотнаю, без крыхоткі суму, Сяргей ведаў, што ў душы яе шчыміць: як-ніяк — ростань. Ды і родных у яе больш няма, адзін ён толькі...

— Канечне, куды ж дзенуся? Вярнуся, нідзе не дзенуся! Ты ж ведаеш мяне!

— Ведаю!..

— Ды і абстановачка — не тая. Гэта табе — не акупацыя, дзе проста можаш ускочыць у пастку. Армія, кругом свае! І абстаноўка — наперад, на захад!.. Вунь як ляцяць заваёўнікі!

— Я ж і кажу: нідзе не дзенешся! Вернешся!.. Паваюеш і вернешся!..

— Вярнуся — і зноў у гараж. За руль. З багатым баявым вопытам!.. А ты, Клаўка, каб тым часам школу кончыла. І ў інстытут паступіла... Дамовіліся?

— З восені — абавязкова ў школу. Працаваць і вучыцца... Ух, як хочацца цяпер вучыцца!

Яна памаўчала крыху.

— Я табе мыла кавалачак паклала, яно ў мыльніцы... І ручнік той, што з махрамі... Я іх зверху палажыла, каб лягчэй было дастаць...

— Знайду ўсё...

— Глядзець усё за табой трэба. Бы за малым. Як ты там будзеш без мяне?

— Як-небудзь, Клаўка... Можа, не прападу...— Ён засмяяўся.

— Добра было б, каб цябе прызначылі па спецыяльнасці, праўда?

— Я хацеў бы — танкістам.

— Танкістам? Вучыцца трэба будзе!..

— Доўга мне?! З маёй падрыхтовачкай. Рухавікі я ведаю. Усякіх наглядзеўся. Механіка знаёмая! Раскушу і мудрасці танкавыя.

— З цябе і танкіст будзе добры.

— Асвою.

— Асвоіш...— Раптам яна стала часта міргаць, вочы яе дзіўна затуманіліся.

— Дык я пайду,— заспяшалася яна, як бы схамянуўшыся.— І так ужо запазнілася...

Прыкусіўшы губу, яна апошні раз абняла брата і хутчэй адвярнулася. Амаль пабегла па алеі — на вуліцу, у горад.

## 2

Клава другі дзень працавала на станказаводзе.

Сёння яе з другімі дзяўчатамі паставілі расчышчаць завал. Завал быў высокі, з магутнымі глыбамі-абломкамі, Клава падумала, што паваждацца тут прыйдзецца доўга. Дні на тры хопіць, не менш.

Але пра думку сваю не сказала. Нашто? Хіба яна прыйшла сюды ўздыхаць? Чым весялей людзі возьмуцца за справу, тым хутчэй зробяць.

— Гэй, насілкі сюды! Цэглу няма куды класці! Хутчэй, хутчэй... А то от горы тут накідаем!.. Перарвецеся, а не ўправіцеся насіць...

— Глядзі ты, якая грозная, Клаўка?!

— Не палохай, Клаўка. Не баімся! Нікога цяпер не баімся...

Каля яе шчыравалі некалькі жанчын, разбіралі і лажылі цэглу на насілкі. След іх працы на завале быў амаль непрыкметны, але завіхаліся ўсе з ахвотаю.

Па вуліцы, крыху наводдаль, правялі групу ціхіх, паслухмяных палонных...

— На работу, мусіць? Вучыць працаваць...

— Навучыш ты іх! Яны толькі і ведаюць, што ламаць ды забіваць...

— Розныя і сярод іх ёсць...— Клава расказала пра ўчынак Пауля з Рура...

Спрэчка пра немцаў уціхла, калі поблізу паявіліся ўзброеныя хлопцы, відаць, партызаны. Яны прынеслі некалькі ламоў і насілкі. Паміж жанчынамі і хлопцамі адразу завязаліся вясёлыя спрэчкі.

Хлопцы, жартуючы, называлі Клаву начальніцай. Яна спачатку адмахвалася і смяялася: «Якая я начальніца?» — але потым Клава змяніла ролю, зрабіла строгі начальніцкі выгляд і загадала ім працаваць як след.

— Куды, куды? — крыкнула яна двум рослым партызанам.— З гэтым каменьчыкам і дзяўчына справіцца. Трэба разбіць вунь тую — вялікую — глыбу.

— Тую?

— А якую ж? Не бойцеся, не надарвецеся! Глядзіце, як разленаваліся!..

Хтосьці з хлопцаў паскардзіўся на нераўнапраўе, але голас яго патануў у дружных вясёлых воклічах жанчын:

— Правільна, Клаўка! Так і трэба!..

3

Васілю ў Мінску не пашанцавала. Ва ўсякім разе, ён так лічыў.

Ён ужо прыйшоў у гарадскі камітэт камсамола атрымаць прызначэнне на працу ў адзін мінскі райком, калі неспадзявана ўсё перайначылася.

— Паедзеце, таварыш Крайко, вучыцца,— сказаў яму сакратар гаркома камсамола.— Акурат атрымалі ўказанне з ЦК — паслаць некалькі чалавек на вучобу. У Маскву паедзеце! На тры гады!..

Калі Васіль выйшаў з кабінета сакратара, ён некалькі хвілін стаяў у калідоры, быццам на цяжкім раздарожжы.

Ехаць у Маскву ён, вядома, хацеў. Пра такую паездку яшчэ нядаўна ён і марыць, бадай, не адважваўся: такой неймавернай яна здавалася. Такім недасяжным шчасцем. Убачыць Крэмль, Маўзалей, Спаскую вежу, Акадэмію імя Фрунзе, дзе вучыўся яго брат, пахадзіць па вуліцах Масквы — пра гэта і цяпер ён думаць спакойна не мог. У іншы час ён паехаў бы вучыцца ў Маскву з правялікай ахвотай, але вучыцца цяпер, у такую гарачую пару вайны, ехаць з Мінска, які так пакалечаны, у якім столькі цяжкай працы...

«Не,— Васіль рашуча надзеў пілотку,— не паеду...» Ён быў перакананы, што гэта паездка, паездка ў глыбокі тыл, была б не што іншае, як уцёк з фронту.

Трапіўшы ў «бяду», Васіль, вядома, перш за ўсё ўспомніў пра былога свайго камісара. Ён быў упэўнены, што камісар адразу ж кінецца на выручку яму, адмяце навіслую над Васілём небяспеку.

У кабінеце Тураўца, на няшчасце, хтосьці быў, і Васілю нейкі час давялося пакутаваць у калідоры. Але як толькі Туравец вызваліўся, Васіль рушыў у пакой камісара. Пакрыўджаны, рашучы.

Туравец спаткаў яго здзіўленым позіркам.

— Што гэта такі хмарны, Васіль? Няшчасце якое?

— Пасылаюць! Адсюль!..

— Пасылаюць? Куды? Чаго?

— У Маскву. Вучыцца.

— А-а, дык я гэта ведаю!

— На тры гады!..

— Ведаю! І радуюся за цябе. Але чаму ты хмарны?! Ці ты,— у голасе Тураўца пачулася здзіўленне,— не хочаш вучыцца?

Васілю здалося, што Туравец здзіўляецца і радуецца знарок, нібы пакеплівае з яго. Але, запалены, ён усё ж шчыра, ад душы расказаў усё, што паліла яго. Ён гаварыў горача, глядзеў у вочы Тураўца з надзеяй і верай. Туравец ківаў яму, што слухае, разумее. Але нібы не чуў. Нібы не даходзіла да яго.

— Усё гэта правільна, Васіль,— загаварыў былы камісар, калі Васіль змоўк.— Але — разумееш — вучыцца трэба! Трэба абавязкова!

Ён падышоў да акна, усміхнуўся:

— Можна падумаць — ты баішся, што потым работы будзе табе мала. Хопіць, Васіль, работы! Прыедзеш праз тры гады — мы табе дадзім яе столькі, колькі вытрымаюць твае плечы! Будзе работы многа!.. І вельмі важнай, і цяжкай, і яшчэ больш складанай!..

— Але ж, цяпер...

— А цяпер мы і без цябе пакуль усё зробім. Ці ты нам не давяраеш? Давяраеш... Тады я лічу інцыдэнт скончаным. Наогул — ты прыйшоў са скаргай дарэмна. Я не чакаў ад цябе гэтага...

Збянтэжыў Васіля Туравец.

— Што думаеш рабіць да ад'езду? — ужо як бы са спачуваннем пацікавіўся Туравец.

— Н-не ведаю пакуль...

— У цябе нямала часу! Цэлых дзесяць дзён.

— Б-буду пакуль на старой рабоце... Расчысткай займацца...

— Гэта — талкова,— пахваліў Туравец.— Але трэ-

ба, брат, і да ад'езду падрыхтавацца. Уладкаваць свае асабістыя справы...— Васіль адчуў у словах Тураўца намёк пра Валю.— І адпачыць трохі...

— Адпачыць?!

— Сілы для вучобы набрацца...— Туравец строга зірнуў на Васіля: — Глядзі, каб там вучыўся як след! Каб не ганьбіў нас, мінчан!.. Я спецыяльна праверу!

...Ходзячы па горадзе, моцна ўзрушаны, поўны нязвыклых думак, Васіль спаткаў на вуліцы Шашуру.

Твар былога падрыўніка заззяў радасцю.

— Вось дык сустрэча! Ну, пакажыся, як ты выглядаеш? Ого, змарнелы. Ты глядзі, гэтак хутка табе, каліна-маліна, прыйдзецца ногі ў руках насіць,— цьфу-цьфу, каб не ўракнуць...

Ён узяў Васіля пад руку.

— Ведаеш што, таварыш студэнт, ці як цябе там, хадзем да мяне. Падкармлю! Не магу спакойна бачыць, як на вачах маіх гінуць лепшыя людзі.— Ён па-змоўніцку шапнуў Васілю на вуха, што ёсць у запасе дзве пляшкі піва з трафеяў.

Шашура сілком пацягнуў хлопца да сябе. Слухаючы гарэзную балбатню таварыша, Васіль падумаў: «Усё такі ж. Вецер!» У яго ўжо быў гатовы прысуд.

Але, прыйшоўшы на прадпрыемства Шашуры, хлопец глянуў на таварыша інакш.

Васіль са здзіўленнем акінуў вачыма памяшканне, ці, як Шашура называў — залу сталовай. Сцены не надта пра сторнага, з нізкай столлю, цемнаватага сутарэння былі чыста выбелены, у тры рады стаялі акуратныя столікі, накрытыя лістамі паперы. Якраз пачынаўся абед, за сталамі сядзелі першыя наведвальнікі. З кухні выйшла маладая дзяўчына ў белай кофтачцы, трымаючы паднос з талеркамі. Добры парадак, утульнасць так адчуваліся тут, былі такімі нечаканымі пасля руін і бруду на вуліцах, што нельга было не здзіўляцца.

— Т-ты ўсё-ткі здорава п-папрацаваў!

Шашура без захаплення махнуў рукою. З заклапочаным выглядам правёў Васіля ў склад і паказаў некалькі мяхоў мукі і дзве скрынкі маргарыну. Вось усё багацце. Мала. Але з якой цяжкасцю ўсё гэта дасталося! Шашура адзначыў гэта такім пакутным го-

ласам, што было ясна: справіцца з падобнай задачай у цяперашніх умовах мог толькі ён.

— Гэта што, каліна-маліна! — сказаў Шашура, калі вярнуліся ў залу.— Вось зараз я табе пакажу скарб. Лепшы свой скарб!..

Ён гукнуў у бок дзвярэй. Адтуль неўзабаве выйшаў нізенькі, ледзь старэйшы за Васіля загарэлы хлопец у белым каўпаку. Дапытліва, з закаханай усмешкай зірнуў на Шашуру. Шашура пазнаёміў з ім: шэф-кухар.

— Умее з гэтай самай простай мукі рабіць семдзесят чатыры стравы... Я не хлушу, Пятро?

Кухар кіўнуў з усмешкай: праўда. Было відаць, што ён адносіўся да Шашуры з вялікай любоўю і павагай. Падміргнуўшы лясному другу задаволена, з гонарам — «Чуў?!»,— Шашура папрасіў шэф-кухара падмацаваць «гэтага змарнелага таварыша»,— ён кіўнуў на Васіля.

— На гэты раз я цябе пакармлю так, а з заўтрашняга дня, калі захочаш паабедаць у мяне, каб прыносіў картку, ясна?

— Ясна, таварыш дырэктар! Але... т-ты стаў скупы?

— Не скупы, Вася, а гаспадарлівы. Запомні.

— Ды прыйдзецца запомніць.

Калі Шашура і Васіль сядзелі за столікам у маленькай баковачцы побач з залай, дырэктар, наблізіўшы да таварыша хітры твар, расказаў, як ён цэлых два дні ўгаворваў начальства адной брыгады, каб адпусцілі гэтага майстра.

— Аблогу проста наладзіў. Па ўсіх правілах сучаснай вайны! З гаркома спецыяльную адносіну прынёс!.. Усё сваё красамоўства скарыстаў! Два дні і дзве ночы, каліна-маліна, прымяняў розныя тактычныя прыёмы, пакуль не дабіўся...

Шашура пахваліўся, што ўчора заяўляўся сюды Туравец: усё абгледзеў, абследаваў,— быў задаволены. Абяцаў памагаць...

— Сказаў нават,— падміргнуў Шашура,— што з мяне сур'ёзны гаспадарнік можа выйсці! Вось якія, таварыш Вася, поспехі на маім харчовым участку!..

Узрушаны гаворкай і трафейным півам, падрыўнік раптам крута павярнуў размову, сказаў, што заўтра —

дакладныя весткі — іх брыгада прыбудзе ў Мінск. Так што Васіль павінен нацэліцца на адну сустрэчу. Шашура падміргнуў.

— Ты, глядзі, мацней трымай яе, Валюху сваю! Каб хто-небудзь, часам, не перахапіў!

— Не п-перахопіць!..

— Ты цвёрда ўпэўнены?

— Больш, як у с-сабе,— з запалам аб'явіў Васіль.

— Э-э, брат! — пашкадаваў яго Шашура.— Ты паслухай вопытнага чалавека: бабам не надта вер! Ёсць праўда, адна, на якую можна спадзявацца. Нават больш, чым на сябе. Але ты яе не ведаеш,— у вачах Шашуры бліснулі гуллівыя агеньчыкі: — Гэта мая ўдавіца...

4

У той дзень Туравец пабачыўся з Марыяй Андрэеўнай. Туравец правёў яе на вуліцу Карла Маркса, туды, дзе паўз Дом Чырвонай Арміі спускаецца ўніз да Свіслачы і парку шырокая бетонная лесвіца. Тут, у старым двухпавярховым доме, была яго кватэра.

— Вось мае пенаты! Заходзь, знаёмся! — запрасіў ён, адчыніўшы дзверы.

Марыя Андрэеўна азірнула пакой і засмяялася.

— Няма чаго сказаць — пенаты! Пуста, няўтульна,— як у склепе. Нібы і не жыў ніхто.

— А ты, праўду кажучы, не памылілася. Я тут быў усяго раз ці два... Жыву і сплю пакуль збольшага ў гаркоме, па-паходнаму. Праўда, зусім не таму, што адвык ад аседлага жыцця. Ты не думай, што я прыроджаны вандроўнік. Усё не было калі прыбраць тут. А пакуль жыллё гэта, як ты кажаш,— падобна на склеп, я і не дужа рваўся да яго. Не люблю, калі няўтульна!..

— Ага, здагадалася! Трэба, значыць, наводзіць утульнасць?

— Іменна. Адзіна правільны вывад!

— Задача ясная. Значыць, за работу?

— За работу! Зараз жа!

Ён прынёс аднекуль вядро, схадзіў — ці, лепш сказаць, збегаў — па ваду. Кавалкам дроту прывязаў да

стала адламаную ножку, праверыў, ці добра стаіць стол цяпер. Маша сачыла за ім і весела падсмейвалася: смешна было бачыць яго за такім заняткам!..

Але неўзабаве Туравец схамянуўся і, зірнуўшы на гадзіннік, з прытоенай ніякавасцю, са шкадаваннем сказаў, што павінен быць у гаркоме. Справа важная будзе вырашацца. І яму, Тураўцу, неабходна быць...

Яна зірнула на яго з папрокам, знарок гаротна.

— Пачынаецца! Я так і думала, што ўтульнасць рабіць буду збольшага я.

— Трэба абавязкова быць, Маша. Абавязкова, разумееш? Але як толькі вызвалюся, адразу вярнуся пад тваё начальства. І прытым — з ахвотай!.. А пакуль — усё аддаю тваім рукам і густу!..

Марыя Андрэеўна засталася адна. Яна ўсё поўнілася шчасцем. Як добра будзе жыць у пакоі, а не ў зямлянцы! У іх цяпер пакой, сапраўдны пакой! Пасля зямлянак ён здаецца неправўдападобна прасторным, а вокны — небывала шырокімі і светлымі! Тут будзе жыць разам з ёю яе Нічыпар! Як гэта яшчэ дзіўна — яе Нічыпар! Быў — камісар, Туравец, няхай яна яго даўно любіла, але ўсё ж — камісар, Туравец. Чалавек для ўсіх. А цяпер — яе Нічыпар! Яе шчасце. Думаючы ўвесь час пра свайго Нічыпара, пра незвычайнае, неймавернае жыццё тут, яна з захапленнем гаспадарыла. Цяпер яна здавалася простаю гаспадыняю, якой яе мала хто ўяўляў.

Прыехаў партызан і прывёз на тачанцы пісьмовы стол, канапку, рэчавы мяшок, падушку, звязак розных кніг. Усё гэта ён паставіў і паклаў у калідоры і ў кутку пакоя...

Калі ён паехаў, Марыя Андрэеўна зноў стала шчыраваць: мыць шыбы, вушакі, аддзіраць паскі паперы з нямецкімі літарамі, што засталіся з зімы. Стаміўшыся, з плямкамі гразі на твары, на беленькай кофтачцы, паружавелая, азірала яна пакойчык і ў соты раз меркавала, дзе што паставіць. Яна ніколі не думала, што дамоўкаю сваёй будзе займацца з такой ахвотаю.

За што б яна ні бралася, ёй усё хацелася зрабіць так, каб гэта спадабалася Нічыпару. Рэчы для яе былі не проста рэчамі, а нібы жывымі істотамі, што ў нейкім сваяцтве з дарагім чалавекам,— Нічыпаравы рэчы!

Стол Марыя Андрэеўна паставіла каля акна так, каб Нічыпар, калі будзе сядзець за ім, мог бачыць прастор за акном. На стол паклала некалькі недачытаных кніжак, і здалося, што ён працаваў ужо за сталом.

У тоўстым сшытку ляжаў дзесятак здымкаў. Адзін з іх,— на якім быў зняты Юрый у вайсковай форме, яна паставіла каля кніжак.

Сын падобны з твару на яго,— такі, мусіць і Нічыпар быў у маладосці. Пазіраючы на картку, яна падумала пра першую жонку Нічыпара, маці Юркі, і адчула як бы віну, як бы дакор сумлення. Але хіба яна ў чым вінавата перад той, што загінула? Перад сынам, які павінен стаць і яе, Машы, сынам? Яна любіць яго бацьку і хоча быць шчаслівай...

Ці зразумее Юрка яе і Нічыпара? Ці ведае ён, што і ў трыццаць пяць і ў сорак год хочацца любіць і жыць у шчасці? Як ён будзе адносіцца да яе?

І тут Марыі Андрэеўне згадалася яе Светка, якую яна так даўно пакінула ў вёсцы на Віцебшчыне, з бабуляю. Нясцерпна захацелася: хутчэй забраць дачку сюды — Светка, пэўна ж, так насумавалася па ёй, па маці! Светка па маме, а маці — па ёй! Вось адразу пасля парада і трэба паехаць, забраць!..

Яна захапілася працаю так, што не заўважала, як ідзе час. Не заўважыла, як і ўвайшоў Нічыпар. Ён раптам абняў яе і закрыў рукою вочы, быццам загадваў загадку: хто?

— Пусці. Выпэцкаешся!.. Рукі брудныя ў мяне,— папрасілася Марыя Андрэеўна.— І валасы раскалмаціліся. Так ты мяне і разлюбіш, чаго добрага!

— Баюся, што будзе наадварот! — Ён пацалаваў жонку ў скронь і адпусціў.

Азірнуўся здзіўлена. Гэтае здзіўленне было ёй як узнагарода.

— Ну ты, аказваецца, проста чараўніца!.. Я і не думаў, што строгая «доктарша» можа быць такой гаспадыняй. Каб я, мілы доктар, не бачыў цябе тут сваімі вачыма, я мог бы падумаць, што памыліўся адрасам...

Ён узяў яе рукі ў свае далоні і пяшчотна сціснуў.

— У такіх выпадках, Маша, здаецца, спраўляюць наваселле. А чым мы горш за людзей?

Ён выняў са скрутка, які прынёс з сабою, бутэльку гарэлкі, паклаў на стол закуску.

Калі яны селі за стол, Туравец зірнуў на партрэт сына — вось яшчэ каму належала б быць тут!

— Вып'ем, Нічыпар, за Юрку! — сказала Марыя Андрэеўна, быццам адгадваючы яго думкі.— Каб ён прайшоў дарогу сваю шчасліва і вярнуўся здаровы...

Туравец мімаволі спахмурнеў: «Эх, так і не давялося пабачыцца з Юркам! Як крыўдна атрымалася...»

Марыю Андрэеўну напаўняла ціхая, спакойная радасць. Яна ўспомніла Анатоля, але гэты, звычайна прыкры ўспамін, не прынёс цяпер гаркаты. Усё тое скончана назаўсёды, і добра, што скончана. Але чаго яна, наперакор свайму пачуццю, трымалася за мінулае? Чаго яна вагалася, не адважвалася ісці насустрач шчасцю? Чаго сумнявалася? Дзівачка!

Туравец сказаў, смеючыся:

— Я, здаецца, сёння пазнаю, якая добрая штука — адзінота.

— Якая ж гэта, Нічыпар, адзінота? Мы ж — удваіх.

— Мы — адно, адзінае!..

## РАЗДЗЕЛ X

### 1

Мінск рыхтаваўся да свята — парада партызан. Яшчэ за тыдзень да парада з розных раёнаў Беларусі пачалі сыходзіцца ў сталіцу партызанскія брыгады, атрады, групы. Яны займалі не толькі ўсе вуліцы ў цэнтры горада, але і пасёлкі на ўскраінах — Козырава, Грушаўскі і іншыя, навакольныя вёскі. Табарамі размяшчаліся ў пералесках, а то і проста ў полі.

Хаты і дамы не маглі ўсіх умясціць. На пустырах і ў садах уздымаліся палаткі і буданы з брызенту, коўдраў, скошанай травы. Многія з прыезджых уладжваліся пад павозкамі, проста пад высокім небам...

Там і тут каля вялікіх партызанскіх катлоў завіхаліся кухары, размешвалі крупнік, падкладвалі дровы ў агонь...

Ніколі яшчэ за ўсю вайну не было ў Мінску такога ажыўлення. Па вуліцах гарцавалі-красаваліся на ко-

нях хвацкія камбрыгі і начштабы са сваімі «світамі», разведчыкі, сувязныя.

Хадзілі ўпаасобку і абняўшыся дзяўчаты і жанчыны з вінтоўкамі і аўтаматамі, загарэлыя чубатыя хлопцы ў кепках, пілотках, чырванаверхіх казацкіх кубанках, насунутых па-маладзецку на вуха. Чуліся смех, вясёлыя воклічы, заліхвацкія пераборы гармоніка... Вось ён, у вялікую сваю гадзіну, той Мінск, які гітлераўцы так намагаліся задушыць. Мінск — што цешыцца, святкуе. Жыве, віруе адчуваннем сілы, радасцю перамогі.

Вось яны, сціплыя дзеці вернай, няскоранай Беларусі, слава аб якіх у вайну пайшла па ўсім свеце.

Падрыўнікі, разведчыкі, дыверсанты... Ходзяць захмялелыя ад шчасця, ад цішыні, ад мірнага спакою. Ад таго, што самае галоўнае праўдзілі.

Ермакоў у першы дзень прыезду спаткаўся з былым камісарам. Увайшоў у кабінет Тураўца, далажыў знарок, што баявыя аперацыі брыгада скончыла.

— Чуў тое-сёе, Коля,— Туравец ад душы абняў друга.

Ермакоў расказаў, што зрабіла брыгада пасля ад'езду Тураўца. Ермакову здавалася, што яны даўно-даўно не бачыліся з камісарам...

— Малайцы. А вось нам дык, падобна, і пахваліцца няма чым,— прызнаўся Туравец.— Шчыраваць шчыруем,— а вынікаў, дарагі мой,— быццам ніякіх. Амаль не відаць вынікаў!

— Ну, працы тут, Нічыпар,— рабі, не пераробіш. На многія гады хопіць. Усім на поўную выкладку. Усім. Скажы, як тут нашы? Як вядуць?

Уважліва, насцярожана слухаў Тураўца: ці не падводзяць брыгаду, не ганьбяць? Не, Туравец задаволен імі, хваліць...

— Ну, хопіць размоў! — Туравец стаў збірацца: запрасіў Ермакова дадому да сябе, на чарку з поваду сустрэчы...

І вось надышло 16 ліпеня. Незвычайны, непаўторны дзень.

З самага рання з усіх куткоў Мінска — з Камароўкі, са Старажоўкі, ад Чэрвеньскага тракту, з вуліц,

раскінутых за чыгуначнымі лініямі, з навакольных пасёлкаў і вёсак рушылі да шырокага лугу ля ракі, да былога іпадрома калоны партызан і натоўпы гарадскіх жыхароў.

Туравец зайшоў да Аляксея, і яны ўдвух таксама накіраваліся да месца парада. Іх яшчэ напярэдадні запрасілі быць на ўрадавай трыбуне. Тураўца ад гаркома, а Аляксея ад афіцэраў і байцоў танкавай брыгады, якая вызваляла Мінск. Марыя Андрэеўна ўранку пайшла да сваіх памочніц, каб удзельнічаць у апошняй, як яна жартавала, брыгаднай «аперацыі»...

На вялізным зялёным лузе, што разлёгся ў шырокай лагчыне на беразе ціхай Свіслачы, якая паўкругам ахінае гэтую прыгожую мясціну, з краю ў край пераліваласся, хвалявалася неабсяжнае мора людзей. У гэтым моры, як вогненныя ветразі, ярка, нязвыкла святочна палымнелі сцягі, транспаранты, плакаты...

Такой безлічы народу ў адным месцы, на віду, Аляксей не бачыў ні разу за ўсю вайну. Яму прыгадаліся дэманстрацыі на Першае Мая ці на Кастрычнік, якія былі ў Мінску перад вайною. Стракаты рух твараў, адзенняў, сцягаў на плошчы Леніна... І вось зноў усё вяртаецца.

Усё? Не, не ўсё,— зашчымела згадка пра Ніну. Цяпер, на людным свяце, якое кіпела радасцю і песнямі, успамінаць яе было асабліва балюча. Нібы зачапілі жывую рану...

Тут, відаць, недзе яе сяброўкі, многія яе таварышы. Ім пашчасціла дажыць да гэтага дня. Чаму ж Ніны тут няма? Туравец з Аляксеем не адразу пайшлі да трыбуны, нейкі час снавалі між натоўпу людзей, шукаючы знаёмых, размаўляючы. Да пачатку мітынгу заставалася яшчэ нямала часу. Аляксей глядзеў навокал і слухаў з мяшаным, супярэчлівым адчуваннем. І горка было ў душы, неадольна горка, і праз гаркату праціналася цікаўнасць. І нібы святліла душу чужая радасць. І дзіўным здавалася ўсё навокал, нібы недасяжным сэрцу.

Калі пачало набліжацца да дванаццаці, Аляксей з Тураўцом падаліся да трыбуны, над якой высіліся два вялізныя разгорнутыя сцягі. Яны явіліся сюды ледзь раней часу: неўзабаве на трыбуну па драўлянай лесвіцы ўжо ўздымаліся члены ўрада, сакратары ЦК пар-

тыі, прадстаўнікі ад жыхароў горада, дэлегаты ад арміі.

Стоячы на трыбуне, Аляксей бачыў непадалёк ад сябе знаёмую з даваеннай пары цяжкаватую постаць сакратара ЦК партыі Панамарэнкі, побач з ім — Чарняхоўскага. Панамарэнка быў засяроджаны, прытоены, Чарняхоўскі — узрушаны, святочна-вясёлы...

Мора, неабсяжнае людское мора наўкруг. Тысячы людзей глядзяць на трыбуну, з якой пачынае гаварыць сакратар ЦК партыі.

2

Ён вітае мінчан і партызан з вызваленнем беларускага народа. Вялікая плошча адказвае на прывітанне радаснымі воклічамі, воплескамі, партызанскім «ура».

— Дазвольце,— глухаватым голасам, усхвалявана гаворыць Панамарэнка,— ад вашага імя перадаць словы любові і падзякі таму, хто вядзе нас ад перамогі да перамогі,— правадыру, настаўніку і другу беларускага народа, Маршалу Савецкага Саюза таварышу Сталіну!..

Зноў усплёсквае радаснае «ўра» дзесяткаў тысяч людзей. Па плошчы з краю ў край, як прыбой, праходзіць, звініць:

— Ура таварышу Сталіну! Нашаму правадыру!

— Няхай жыве наша вялікая Радзіма!

Разам з сакратаром ЦК людзі дзякуюць войскам трох Беларускіх і Першага Прыбалтыйскага франтоў, што прынеслі волю мільёнам беларусаў.

У Аляксея ад разліву ўсеабдымнага шчасця зноў зашчымела-ажыла туга па Ніне: чаму яна не дачакалася гэтага дня!..

Нібы адгадваючы думкі Аляксея, Панамарэнка пачаў гаварыць аб тым, што прыйшлося перажыць людзям у фашысцкай няволі. Праз свой боль Аляксей адзначыў з асаблівай, палючай чуласцю: сакратар ЦК сказаў: у няволі загінулі «сотні тысяч людзей»!

Сотні тысяч! Сотні тысяч людзей знішчылі сучасныя людаеды, зграі шалёнага фюрэра! Колькі матак страцілі сваіх сыноў і дачок, колькі дзяцей засталося сіротамі! Сам таго не заўважаючы, Аляксей у гэтую

хвіліну зірнуў на сваё гора інакш, чым раней. Ён нібы адчуў не толькі сваё гора, а і гора ўсяго народа.

Якое яно вялікае, гэта гора! Гора народа!..

Уся плошча замерла ў напружаным маўчанні. Гэтае маўчанне было грознае, поўнае гневам вялізнага людскога мора.

Але неўзабаве голас сакратара ЦК мяняецца,— Панамарэнка гаворыць пра гераізм народа, пра баявыя справы партызан.

«Яна загінула недарэмна!» — у каторы раз суцяшае сябе, думае Аляксей пра Ніну. Але думка гэта па-ранейшаму не сцішвае болю. Па-ранейшаму боль праціНае ўсе пачуцці і думкі...

Кожнае слова сакратара Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі людзі ловяць, стаіўшы дыханне,— усё шумлівае мора сціхла, услухоўваецца, як адзін чалавек.

Прамоўца нагадвае пра той цяжкі шлях, які праз тры вялікія гады барацьбы прывёў народ да вызвалення. Важкія, мужныя, яго словы ідуць да тысяч людзей, адчуваецца: хвалююць, будзяць думкі і ўспаміны. Тысячы людзей услед за ім, відаць, азіраюцца на мінулае, перабіраюць у памяці падзеі апошніх год.

Большасць успамінала, мабыць, партызанскія паходы, баі з гарнізонамі, блакадныя дні, трывогі ў зняволеным Мінску, а Аляксей сваё — снежныя дарогі ў данскім стэпе, сустрэчу з маці, апошні бой перад Мінскам, калі ледзь не загінуў.

— Таварышы мінчане! Партызаны і партызанкі! — Голас Панамарэнкі памацнеў, стаў урачыстым: — Вы паказалі сябе доблеснымі патрыётамі ў гэтыя страшныя тры гады, вы не скарыліся ворагу. Цяпер перад вамі стаіць задача — не пакладаючы рук працаваць над аднаўленнем роднага Мінска, роднай Беларусі... Нам аказваюць вялікую дапамогу партыя і ўрад, нам дапамагае ўся краіна. Ужо ідуць першыя эшалоны з падарункамі з Горкага, Пермі і іншых гарадоў. Мы залечым раны нашай цудоўнай сталіцы!

— Залечым!..— паклялося людское мора.

## 3

Калі скончыўся мітынг, пачалася падрыхтоўка да парада.

Аляксей бачыў, як брыгады і атрады раўнялі рады. У калонах там і тут чуліся воклічы каманд, прабягалі, заклапочана аглядваючы свае падраздзяленні, камандзіры... Пастунова плошча стала сціхаць.

— Парад, смірна!! — прагучала ўладна над плошчаю.— Раўненне направа!.. Па атра-а-дах, шагам марш!..

Першай перад трыбунай праходзіць брыгада імя Варанянскага, што нарадзілася ў пачатку вайны тут жа, у Мінску. Сочачы за строгімі радамі партызан, Туравец расказаў Аляксею: яе камандзіру, Васілю Трафімавічу Варанянскаму, не давялося дажыць да гэтага дня, ён загінуў, пералятаючы лінію фронту.

Услед за ёй крочаць «шчорсаўцы», «чапаеўцы», «чкалаўцы», «кіраўцы»... Гарцуюць на ўкветчаных конях партызанскія кавалерысты, нячутна коцяцца, выціскаючы след у траве, трафейныя процітанкавыя «трыццацісямёркі»... Вось рушаць паўз трыбуну, старанна раўняюць рады адважныя салдаты «Штурмавой брыгады», што пусціла пад адхон дзвесце варожых эшалонаў... Адна за адной перад мінчанамі праходзяць Першая, Другая, Трэцяя мінскія брыгады, у якіх ваявала многа жыхароў сталіцы.

— Мае, мае ідуць! — усхвалявана шэпча Аляксею Туравец, ківаючы на калону брыгады, на чале якой мерае страявым крокам урачысты Ермакоў... Туравец з захапленнем паказвае капітана Габдуліна, Дразда, Васіля Крайко. Васіль крочыў са сваімі баявымі таварышамі. І Васіль, і Шашура...

На нейкі час строгую атмасферу парада раптам змяніла весялле, смешкі. Перад атрадам на плошчу выйшаў казёл, перакрыжаваны рамянямі, абвешаны нямецкімі «жалезнымі крыжамі» і медалямі. Казёл, як бы разумеючы незайздросную сваю ролю — бітага гітлераўскага ваякі,— нявесела трасе барадою, пакорліва дыбае на павадку за пярэднім атрадам...

Зноў змяняюцца рады партызан, коцяцца гарматы. Праходзяць славутыя брыгады «Буравеснік», імя Панамарэнкі. Брыгада імя Варашылава, якая да пры-

ходу Чырвонай Арміі адваявала ў немцаў Капыль. Брыгада «Беларусь», што выбіла гітлераўцаў з Рудзенска... Ці было яшчэ калі ў Мінску такое незвычайнае відовішча, якое так добра, багата паказвала б аблічча, душу народа?..

— Падумаць толькі,— задуменна, стрымана сказаў Аляксей,— такіх людзей — сотні тысяч... Народныя арміі...

Туравец разумеў нялёгкі стан Аляксея, дадаў лагодна:

— За кожным з іх, капітан, былі дзесяткі «мірных» людзей, якія памагалі ім...

Войскам гэтым, здаецца, не будзе канца. Людзі розных узростаў, з рознай зброяй, апранутыя ў самую разнастайную вопратку... Вось яна, сіла, душа народная!..

Калі вярталіся з Тураўцом дамоў, Аляксей доўгі час ішоў моўчкі. У ім была ўсё тая ж супярэчлівасць думак і пачуццяў. Не сціхаў паваструэлы боль аб Ніне, жаль, шкадаванне аб ёй, крыўда на жорсткі лёс: мог бы ж даць жыць Ніне, а вось жа, так бязлітасна, у апошнія дні, загубіў. Але на гэтыя пачуцці і думкі находзілі, адціскалі іх новыя, што ішлі з пабачанага на мітынгу і на парадзе. Яны таксама хвалявалі, не давалі спакою Аляксею. Увесь час адчуваючы боль і крыўду за лёс Ніны, ён журботна і ўзрушана думаў пра ўбачанае. Нарэшце загаварыў:

— Раней, памятаю, модна было пісаць пра нас: беларусы — ціхі, амаль бязвольны народ, «добрыя землякопы»... Байкі расказвалі пра нашу пакорлівасць і цярплівасць. Ах, якія няшчасненькія, якія пакрыўджаныя. Прачытаеш, бывала, і нічога не застаецца, як пашкадаваць гэтых бедных людзей...

— Жаласлівыя пісанні былі! — сказаў Туравец, таксама задуменна, лагодна.

— Ведаеш, што я падумаў, Нічыпар Паўлавіч, на парадзе? Вось няхай бы, падумаў, цяпер гэтыя чуллівыя плакальшчыкі ўсталі з магілы ды паглядзелі, хоць бы сёння, на нас — «няшчасненькіх» ды «пакорлівых»! — Заўважыў: Туравец, хоць і маўчыць, але слухае з цікавасцю.— Памыліліся паны. Выдумалі самі і паверылі, што так і сапраўды. Цэлымі гадамі і пісалі, і гаварылі, і плакалі — «бедненькія»! А тут вось

які ён, народ-воін. Сёння можна было падумаць, што гэты народ быццам створан для бітвы... Ну, нічога,— у голасе Аляксея, разам з неадольным смуткам, чуўся гонар,— цяпер увесь свет пабачыў, які гэты «бедны» народ упарты і моцны і, калі трэба,— ваяўнічы! Ён з аўтаматам і гранатай, аказваецца, умее ўпраўляцца не горш, чым з плугам. Не горш! Хто-хто, а ваяўнічыя арыйцы ў гэтым добра пераканаліся.

— Добра — на ўласнай шкуры!

— Цяпер, можа, паразумнеюць крыху і тыя, у каго яшчэ не балела шкура, але чэшуцца рукі...

— Дай бог! — сказаў ні то недаверліва, ні то жартаўліва Туравец.— Пара ўжо ім паразумнець!..

## РАЗДЗЕЛ XI

### 1

Андрэй Шабунёк ішоў па вуліцы, не чуючы пад сабою ног. Ён толькі што вылез з кузава вайсковага грузавіка, які падвёз яго з Мінска ў родныя Паплавы.

Як было Шабуньку-малому не спяшацца! Ён жа так даўно не бачыўся з мамаю, так ссумаваўся па ёй. Праўда, акрамя таго, для радаснага настрою былі і іншыя прычыны: учора, перад парадам, яму ўручылі насярэбраны партызанскі медаль. Хлопец усё не мог нарадавацца, штохвіліны пазіраў на кружочак што, як сонца, ззяў на яго даўгаватым пінжачку.

Падумаць толькі, у яго такі медаль, як у Тураўца і ў Васіля!

У Андрэя ў руках была нямецкая вінтоўка, праўда, без патронаў,— а на шапцы ярка чырванела істужка. Па ўсім было відаць, што чалавек вяртаецца з вайны, і не абы-як, а са славай!

Ён увайшоў на родны двор, які здаўся яму дзіўна ціхім і цесным. На месцы папялішча былі цяпер складзеныя партызанамі падмурак і некалькі вянцоў зруба, ляжала абчышчанае смалістае бярвенне. У траве дзенідзе валяліся непадабраныя дробныя трэскі і жаўцела, як высеўкі, пілавінне.

Маці дома не было. Жывіца, які праходзіў поблізу, сказаў, што яна ў полі, за агародамі: там яе брыгада акопвае бульбу.

— Брыгадзірам яна ў нас цяпер, сынок.

Андрэй адразу рушыў туды. Ён пазнаў маці яшчэ здалёк. Яна рабіла разам з жанчынамі, не заўважыла Андрэя, але малы Валодзька, што аціраўся каля маці, адразу навастрыў вочкі на яго. Выраслы бульбянік закрываў малога амаль да плеч.

— Длей! — крыкнуў Валодзька.

Чапляючыся за бацвінне, спатыкаючыся, ён стаў прабірацца да брата. Тады маці разагнулася, кінула жмуток травы, што трымала ў руках, і таксама падалася да Андрэя, як заўсёды, нехапатліва. Яна выцірала рукі аб спадніцу.

Падышла, зірнула на надзвычай сур'ёзны твар сына, які ледзь утрымліваў усмешку шырокага шчасця, і, хаваючы хваляванне, нібы не верачы, што перад ёй сапраўды стаіць сын,— грубаватым голасам сказала:

— Андрэй? Прыйшоў, дзяціначка мая?

— Прыехаў! З самога Мінска! Усяго дзве гадзіны ехалі — аж вецер вочы рэжа... Шафёр, ведаеш, баявы такі хлопец: у яго машына ляціць, як усё роўна самалёт!.. Зух-шафёр...

— Надоўга, сынок?

— Цяпер назусім...— і дадаў: — Ну, п-праўда,— адваяваўся. Кончылі, мама... Цяпер будзем пачынаць новае жыццё...

Усё такая ж суровая з выгляду, яна абняла яго мякка, і, пакораны матчынай пяшчотай, ён адразу забыўся, што хацеў быць паважным і стрыманым, як дарослыя. Па-дзіцячы аддланы і чулы, увесь аддаючыся парыву душы, ён прыціснуўся галавой да яе грудзей: як добра, калі абдымае маці!

— Цяпель будзем нёвае...— паўтарыў Валодзька словы брата.

А маці шурпатаю цвёрдаю далонню лашчыла непакорны чубок і прыгаворвала, стрымліваючы слёзы.

— Вярнуўся!.. Радасць мая ты, надзея мая!..

2

Аднекуль з-за саду вырваўся свежы ветрык. Дзяўчына захінула пінжак, накінуты на яе плечы, сказала заклапочана:

— Трэба, мусіць, ісці дамоў... Халаднавата становіцца...

— Вось выдумала, ну, п-праўда, у ліпені — халадна... Добра, што хоць духмень вячэрні п-прайшоў, дыхаць стала лягчэй!..

Яна не пярэчыла. Некалькі хвілін абое стаялі моўчкі, трымаючыся за рукі.

— Ты помніш,— загаварыла зноў дзяўчына,— як ты застаў у лесе гэтага Ермакова са мной... Ён жа проста выцягнуў мяне з зямлянкі. Балбатаў нешта, усё хацеў мяне рассмяшыць. Я і сама не ведаю, як засмяялася, а тут — як знарок — ты!.. Эх, як мне крыўдна было тады... Я пасля проста бачыць яго не магла...

Васіль слухае гэта спакойна,— няма ў яго цяпер ні рэўнасці, ні прыкрасці. Ён нібы сам не разумее сябе ранейшага, здзіўляецца мінулым трывогам сваім: «дзівак быў, ну, праўда!»

Валя папракае яго, таксама без крыўды:

— А ты быццам не бачыў нічога. Дурны ты мой!..

Васіль асцярожна прыхінае яе да сябе.

— Ты не злуй, Валя... Думаеш, ч-чаму я раўнаваў? Я хацеў, каб усё ў нас было чыстым і ясным. Калі любіць, дык любіць. Каб усё тваё, уся душа належыла любімаму. Да р-рэшты, аднаму! Вось як я думаю...

Яны стаялі каля плота. Даўно мінуліся цёплы і цёмны вечар і месячная поўнач, світанне пачыналася, а яны ўсё не разыходзіліся. Як жа ім было разысціся, калі яны павінны былі надоўга расстацца: Васілю ж трэба ў Маскву, вучыцца. Яны то хадзілі паволі па вуліцы, то стаялі каля платоў. Закаханым, шчаслівым, ім увесь свет здаваўся напоўненым шчасцем. Яны бачылі паблізу руіны, яны ведалі, што ёсць многа няшчаслівых, але ўласная іх радасць была такой прыгожай, што перад ёй усё адыходзіла. Там, дзе жылі іх думкі і жаданні, было шчасліва і светла. Толькі ўспамін пра мінулае прымусіў Валю спахмурнець:

— Колькі я за цябеператрывожылася! Асабліва, калі цябе аставілі ў заслоне пад пасёлкам. Проста думала, што не перажыву. Цяжка ўсё-ткі любіць у вайну! — уздыхнула дзяўчына.— Няхай бы яна хутчэй

скончылася, каб усе маглі любіць радасна і без трывогі!

— Не трэба бедаваць пра тое, што было. Ну, п-праўда — яно ж ужо мінула! — Ён далонню пяшчотна падняў яе галаву, зірнуў у цёмныя вочы, добра бачныя ў ранішнім змроку.

Дзяўчына схамянулася:

— Не, усё-такі трэба ісці: глядзі, ужо зусім развіднела. Проста не ведаю, як я маме ў вочы буду глядзець...

Яна зняла з сябе пінжак і накінула на Васілёвы плечы.— Дык ты часта будзеш пісаць?

— Кожны дзень!.. Валя, скажы, т-толькі шчыра,— ён парывіста сціснуў яе руку: — ты мяне вельмі л-любіш?

— Хіба пра гэта пытаюцца?.. Самому трэба бачыць...

— Скажы, ну, праўда! — настойваў ён.

— Люблю. Так люблю, як нікога,— сур'ёзна, з нейкай урачыстасцю адказала яна.— Ведаеш, мне нават здаецца, што я... нават маці сваю... менш... Толькі ты не думай нічога,— я і яе вельмі...

— Я хачу, каб ты мяне заўсёды так любіла! Каб мы заўсёды любілі адно аднаго! Моцна!

— Я таксама, Вася... хачу гэтага...

Ён ехаў у Маскву раніцай — стомлены ад бяссоннай ночы, але шчаслівы.

## 3

Аляксей Лагуновіч пакідаў Мінск у той жа дзень. Перад ад'ездам ён зайшоў у апошні раз да Тураўца.

— Ужо назад? У цябе ж яшчэ і тэрмін водпуску не скончыўся, ды і рука не зусім у форме.

Нічыпар Паўлавіч па-таварыску папракнуў Аляксея за тое, што не хоча сур'ёзна лячыцца:

— Трэба было б дабыць да канца водпуску: колькі там яго! І ехаць зусім здаровым... А ўрэшце, можа, ты і правы: там, відаць, хутчэй зажываюць раны... Ну, вяртайся жывым і бадзёрым, і абавязкова да нас, у Мінск!

На скрыжаванні вуліц Карла Маркса і Валадарскай Аляксей выпадкова спаткаўся з Клаваю.

— Еду да сваіх, на фронт! — паведаміў ён задаволена.

— А як жа рука?

— А што ■ ёю, з рукою,— зажыве... Што вы пажадаеце мне — на дарогу?

— Што?.. Шчасця, удачы. Там, на вайне, і — усюды... Заўсёды!

— Шчасця? Самае вялікае маё шчасце цяпер — дачка... Заходзьце, Клава, да яе, калі будзе час. Каб яна не сумавала вельмі... І бабуля будзе рада... Адны застаюцца...

— Зайду...

Ён рэзка і моцна пацiснуў яе руку, пайшоў дамоў. Клава не ўтрывала, каб не азірнуцца. Пазірала так, нібы хацела запомніць яго надоўга.

Калі ён знік за рогам вуліцы, у яе сэрцы штосьці нібы абарвалася.

Аб сваім рашэнні ехаць раней тэрміну Аляксей сказаў Наталлі Міхайлаўне ўчора, але думкі пра ад'езд турбавалі яго няўціхна ўжо некалькі дзён. Усё мацней цягнула Аляксея на фронт. Усё мацней клікалі яго туды думкі пра Ніну, прага помсты за яе смерць. Усё больш сумаваў ён па родным батальёне, па таварышах, ■ якімі прайшоў ад Смаленшчыны да Мінска. Ён турбаваўся аб таварышах, непакоіўся пра іх. Ці камандуе батальёнам новы камандзір як належыць? Ці цэніць і беражэ афіцэраў і экіпажы?

Не, не з лёгкім сэрцам пакідаў Аляксей Мінск. Трэба было, вядома, пабыць яшчэ з дачкою, абагрэць бацькоўскай пяшчотай яе. Трэба было б, канечне, дапамагчы старой, што гаравала па Ніне. Ды і рана Аляксея не зусім загаілася. Але развагі гэтыя не маглі ўжо стрымаць Аляксея.

Дома Наталля Міхайлаўна неспадзявана падала яму два лісты.

— Толькі што прынеслі.

Яшчэ не чытаючы, па почырку і маленькім прыгожым канверце Аляксей даведаўся: ад Гогабярыдзе. Нарэшце! Сандро пісаў:

«Дарагі дружа! Як ты жывеш? Якімі былі гэтыя дні ў цябе? Калі ты радуешся, то мы таксама падзя-

ляем тваё шасце. А — калі якое-небудзь гора?.. Будзь мужны. І ведай, што мы заўсёды з табою, душою і сэрцам. Мы цяпер далёка ад цябе, дружа. Твая Беларусь ужо за намі. Цяпер мы ідзём па літоўскіх дарогах. Хутка-хутка настане час, і нашы «трыццацьчацвёркі» ўварвуцца ў бярлогу таго шакала, які асмеліўся пайсці на нас з мячом. Мы ўжо блізка да граніцы.

Як толькі паправішся, прыязджай!

Твой да канца жыцця Сандро».

Другое пісьмо было ад Быстрова і Сонцава. Камандзір гарматы пісаў, што падышлі да вялікай ракі, якую ён не называў. Гэта быў, здагадваўся Аляксей, мусіць, Нёман. Чытаючы пісьмо, Аляксей уяўляў кплівую ўсмешку сержанта, калі Быстроў пісаў пра свайго таварыша: «А Сонцаў, калі вас цікавіць,— спіць па-ранейшаму кожную вольную хвіліну. Ужо, як я падлічыў, на паўгода ўперад наспаў». Сонцаў тут жа, у прыпісцы, прасіў, каб Аляксей не верыў Быстрову: «Усё, што ён напісаў пра мяне,— брахня. Я не сплю амаль зусім, бо ўвесь час у паходзе. А машына ў поўным парадку. Так што будзьце спакойны і прыязджайце, адным словам!»

«Прыеду. Хутка прыеду!» — узрушана падумаў Аляксей...

Наталля Міхайлаўна і Люда праводзілі яго. Ён хацеў узяць дачку на рукі, але яна зажадала ісці сама, падала адну руку бабулі, а другую бацьку.

Утраіх спыніліся каля рэгуліровачнага паста, дзе сярод вуліцы стаяла русявая загарэлая дзяўчына са сцяжкамі. Аляксей рашыў ехаць на папутнай машыне. У той час праз Мінск такіх машын праходзіла да фронту многа.

— Тат,— Люда падняла на Аляксея заклапочаныя вочкі.— А... немцы, калі ты паедзеш, сюды не прыйдуць?

— Не, дачушка. Не пусцім іх.

— Не пускай, бо яны вельмі паганыя. Такія брыдкія!

— Таварыш капітан! — крыкнула рэгуліроўшчыца.— Папутная!

Аляксей заспяшаўся. Абняў Наталлю Міхайлаўну, на вачах у якой выступілі слёзы. Узняў на рукі дачку. З хваляваннем, [redacted] любоўю ўгледзеўся ў яе, такія знаёмыя, Ніціны вочы.

Дачка раптам скрывіла губкі, прыхінулася, прыціснулася да яго. Абхапіла шыю. Нібы прасіла не кідаць. Відаць, дзіцячай душою адчула сапраўднае значэнне падзеі, што павінна забраць у яе бацьку.

У Аляксея сціснула сэрца. Пяклі шкадаванне і пяшчота, жаль і разуменне віны, заблытанасці жыцця. З гэтым усім адчуваў на шыі мяккія ручкі, ля грудзей кволую, бясконца дарагую істоту.

Яна сама зняла рукі, раптам, нібы патрабуючы, сказала:

— Ты хутчэй вяртайся... бо я буду сумаваць...

Яе словы ўзварушылі самую глыбіню сэрца Аляксея. Самае чулае, балючае ў ім.

— Вярнуся, дачушка мая... Абавязкова вярнуся...

— Глядзі ж, вярніся! Мы будзем з бабуляю чакаць!

Аляксей пацалаваў яе ў лобік, у шчочкі, асцярожна паставіў на зямлю.

Ускінуў за плячо рэчавы мяшок, шынель узяў на руку і адразу пабег да машыны. Ускочыўшы ў кузаў, дзе сядзелі ўжо некалькі вайсковых, Аляксей азірнуўся. Дачка махала яму сваёй маленькай, кволай ручкай — сур'ёзная, задумлівая.

Стоячы ў грузавіку, ён памахаў у адказ фуражкаю. Машына рэзка рванулася, памчала па вуліцы, трасучыся на няроўным бруку. Дзве постаці на тратуары пачалі хутка аддаляцца.

Пакуль бачыў іх, Аляксей, трымаючыся рукой за кабіну, махаў ім.

Скора дачка і старая зніклі за паваротам вуліцы. Абапал беглі каменныя і драўляныя дамы, праскоквалі тэлеграфныя слупы...

Але душа яго поўнілася тымі дзвюма. Тугой развітання. Любоўю і жалем да дачкі. І болем пра Ніну. Больш за ўсё — жалем і болем.

«Хутчэй вяртайся, тата... Мы будзем чакаць».

...Так, жыццё яго мае сэнс. Ён едзе на фронт, за якім яшчэ жывуць тыя, хто загубіў яго шчасце, Ніну, хто знявечыў яго горад. Хто пагражае яшчэ яго малой.

Ён не ведае, хто іменна забіў Ніну. Але ён ведае, ка-

му помсціць. Яму вядома, хто вывучыў забойц, хто прысылаў іх сюды, нацэльваў дулы іх аўтаматаў.

Ён не дасць сабе спакою да канца вайны. Ці да смяротнай сваёй хвіліны...

У яго ёсць дачка. Калі суджана будзе вярнуцца, ён аддасць сваё жыццё ёй. Ён зробіць так, каб яе гады, як і гады яе сябровак, былі шчаслівымі, бясхмарнымі. Каб ніхто ніколі не мог адабраць у іх радасці жыцця, будучыні.

*1947—1953, 1967—1973*

## ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

Перагорнута апошняя старонка кнігі. «Што ж далей?» — часта пытаецца чытач, які доўга хадзіў з героямі рамана па сцежках жыцця, разам з імі радаваўся і пакутаваў.

Далей было жыццё, пра якое маглі б расказаць многія кнігі, многія тамы. Пра гэта напісалі і будуць пісаць яшчэ іншыя.

Коратка ж з героямі гэтай кнігі вось што было. Аляксей Лагуновіч быў яшчэ раз паранены пасля пераправы цераз Віслу, паранены, на шчасце, лёгка: яму перабіла асколкам палец на левай руцэ. Вайну ён закончыў у нямецкім горадзе Шверыне, адкуль неўзабаве пасля перамогі дэмабілізаваўся і вярнуўся ў родны Мінск. У Мінску жыве і працуе ён да сённяшняга дня. Жыве ён цяпер не адзінока: гады праз тры пасля вяртання ён ажаніўся з Нінінай сяброўкай Клавай, якая стала другой маткаю яго дачцэ Людзе.

Яны нярэдка ўспамінаюць Ніну, але ўспамінаюць з кожным годам спакайней: чалавек не можа быць вечна ў горы, жывым трэба жыць...

Люда вырасла так, што не пазнаць. Як і ўсе аднагодкі, яна ходзіць у школу. Нядаўна яна распытвала бацьку пра сваю маці і доўга потым хадзіла ў сумнай задуменнасці. Бабулі яе няма ў жывых: толькі на паўтара года перажыла яна гібель сваёй дачкі...

Туравец па-ранейшаму на партыйнай рабоце, але не ў Мінску, а ў адной з абласцей. Сын яго Юрый у арміі, капітанам у дэсантнай часці. У арміі застаўся і Сандро Гогабярыдзе, які цяпер камандуе танкавым падраздзяленнем у нашых войсках, што ў Германіі. Ён ужо даўно не лейтэнант, хутка, мабыць, будзе палкоўнікам, галаву яго бярэ сівізна, але, як і тады, ён гарачы і быстры.

У арміі застаўся і Ермакоў, які некалькі гадоў назад скончыў у Маскве ваенную акадэмію і верна служыць свайму «богу» — артылерыі.

Васіль Крайко працуе парторгам на адным вялікім заводзе. Там жа на заводзе і яго жонка, Валя, загадчык адной з лабараторый. Нягледзячы на гады, Валя характарам не перамянілася, і ў сям'і найчасцей камандуе ўсім яна. Сябры кажуць, што яна трымае свайго Васіля «ў руках».

Рэдка можна ўбачыць у Мінску Шашуру. Кіруючая кар'ера ў сталовай скончылася для яго няўдала: Шашуру далі вымову за адну смелую і незаконную аперацыю, і ён, абражаны, неўзабаве перабраўся «на перыферыю», дзе, кажуць, працуе — і з поспехам — па нарыхтоўцы прадуктаў...

Далёка ад Мінска Быстроў, у роднай яму сібірскай старане. А Сонцаў, паплечнік яго, у другім баку, спіць вечным сном на польскай зямлі...

Уся краіна з болем перажыла смерць выдатнага палкаводца і цудоўнага чалавека — генерала Чарняхоўскага...

Многа горкіх і радасных падзей прайшло, прашумела над зямлёй. Але памяць пра тое лета, пра вялікі паход не ціхне. Як вечны помнік пра іх, пра Мінскі напрамак, устае на былых руінах і пустэчах вялікі горад, малады Мінск, адна з вуліц якога ўдзячна ўвекавечыла слаўнае імя генерала.

*1959*

## ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

*«П» — час. «Полымя», 1952.*

*«М. н., 1952» — Іван Мележ. Мінскі напрамак. Раман. Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1952.*

*«М. н., 1958» — Іван Мележ. Мінскі напрамак. Раман у двух тамах. Кніга другая. Мінск за небакраем. Кніга трэцяя. Будучыня з намі. Мінск, Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1958.*

*«М. н., 1970» — Іван Мележ. Збор твораў у шасці тамах. Том трэці. Мінскі напрамак. Раман у трох кнігах. Кніга другая. Мінск за небакраем. Кніга трэцяя. Будучыня з намі. Мінск, «Беларусь», 1970.*

*«М. н., 1974» — Іван Мележ. Мінскі напрамак. Раман у трох кнігах. Кніга другая. Мінск за небакраем. Кніга трэцяя. Будучыня з намі. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1974.*

I

*У дадзены том уваходзяць другая і трэцяя кнігі рамана «Мінскі напрамак» («Мінск за небакраем» і «Будучыня з намі»).*

*Друкуюцца па выданню: Іван Мележ. Мінскі напрамак. Раман у трох кнігах. Кніга другая. Мінск за небакраем. Кніга трэцяя. Будучыня з намі. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1974.*

*Пры ўстанаўленні аўтэнтычнага тэксту і напісанні каментарыяў выкарыстаны наступныя матэрыялы:*

*1) друкаваныя тэксты ўсіх прыжыццёвых выданняў рамана:*

*а) «М. н., 1952», стар. 293—726;*

*б) «М. н., 1958»;*

*в) «М. н., 1970»;*

*г) «М. н., 1974».*

*2) Час. «Полымя», 1952, №№ 6, 7.*

*3) Час. «Беларусь», 1952, № 7.*

*4) Газ. «Бальшавік Палесся», 1951, 9, 11, 12 верасня; «Звязда», 1952, 9 мая і 3 ліпеня; «Мінская праўда», 1951, 11 кастрычніка і 1952, 8 чэрвеня.*

*5) Матэрыялы архіва сям'і І. П. Мележа:*

*а) кніга «М. н., 1952» з паметкай: «Дапаўненні і праўкі да першага выдання. І. Мележ»;*

*б) расклеены на лісты тэкст другой і трэцяй кніг «М. н., 1952» з праўкамі аўтара, зробленымі ў час падрыхтоўкі «М. н., 1958»;*

*в) расклеены на лісты тэкст другой і трэцяй кніг «М. н., 1958» з праўкамі аўтара, зробленымі ў час падрыхтоўкі «М. н., 1970»;*

*г) машынапісныя старонкі тэксту другой і трэцяй кніг «М. н., 1958» з праўкамі і ўклейкамі, зробленымі аўтарам у час падрыхтоўкі «М. н., 1970»;*

*д) расклеены на лісты тэкст другой і трэцяй кнігі «М. н., 1970» з праўкамі аўтара, зробленымі ў час падрыхтоўкі «М. н., 1974»;*

*е) машынапісныя старонкі тэксту другой і трэцяй кніг «М. н., 1970» з праўкамі Мележа, зробленымі ў час падрыхтоўкі апошняга прыжыццёвага выдання «М. н., 1974»;*

*ж) перадрукаваныя машынапісныя старонкі з улікам гэтых правак;*

*з) кніга «Минское направление». Роман. М., «Советский писатель», 1954 з праўкамі, паметкамі і заўвагамі А. Фадзеева.*

*У тэкст унесены наступныя праўкі:*

| | |
|---|---|
| *Стар. 368, радок 9* | *«за якой» замест «з якой» («М. н., 1958», «М. н., 1970»)* |
| *Стар. 500, радок 9* | *«картку» замест «карту» («М. н., 1952», «М. н., 1958», «М. н., 1970»).* |

II

Раман «Мінскі напрамак» у творчасці Івана Мележа займае асаблівае месца. Ні да таго, ні пасля ніводзін твор пісьменніка не прыносіў яму столькі турбот і хваляванняў, не вымагаў такой працы і такога напружання сіл, не займаў столькі часу. «З вялікім хваляваннем і адданасцю пісаў я свой раман... Я жыў сваёй кнігай днём і ноччу. Пазней, здаецца, нічога падобнага не было» [1]. Раман пісаўся каля пяці гадоў — з восені 1947 да вясны 1952. Але на гэтым праца не была завершана. У пазнейшыя гады Мележ твор гэты неаднаразова дапрацоўваў. У 1974 г. выйшла апошняе прыжыццёвае выданне «Мінскага напрамку». У канцы стаяць даты: 1947—1953, 1967—1973. Як бачым, больш за дваццаць пяць гадоў раман прыкоўваў увагу пісьменніка. Ці выпадкова гэта? Знаёмства з напрамкам і характарам дапрацовак красамоўна сведчыць — зусім не выпадкова. Дапрацоўкі ні ў малейшай ступені не былі самамэтнымі, тым больш былі далёкія ад усялякага пісьменніцкага капрызу. У інтэрв'ю газеце «Литературная Россия» ў 1972 г. І. П. Мележ гаварыў: «Мяне... папракаюць хто-ніхто з літаратараў за тое, што я зноў вярнуўся да свайго рамана «Мінскі напрамак», выдадзенага дваццаць гадоў назад, што я не першы раз сябе праўлю. Я ж бачу ў гэтым асабістую аўтарскую адказнасць за літаратурны лёс свайго рамана» [2]. Адказнасць узмацнялася адчуваннем, усведамленнем таго, што не ўсё ў рамане адразу было зроблена так, як хацелася б, як трэба было б зрабіць. Прычынай была як творчая нявопытнасць пісьменніка, так і (гэта асабліва) выключная складанасць і цяжкасць пастаўленай задачы.

Мележ у гэтым творы лічыў галоўным для сябе ўславіць велічны подзвіг народа, паказаць масавы, усенародны характар барацьбы з фашысцкай навалай, барацьбы, нябачанай сваімі маштабамі, выключнай напружаннем духоўных і фізічных сіл, адметнай сваімі значнымі вынікамі — палітычнымі, сацыяльнымі, маральнымі. У артыкуле «Знайсці сябе» пісьменнік так пісаў пра гэта: «Гэта кніга пра нашу перамогу ў Беларусі, пра вызваленчую бітву за беларускую зямлю ў 1944 годзе. Гэта кніга, па задуме,— пра веліч народнага подзвігу...

Я імкнуўся ўсё падпарадкаваць задачы — намаляваць воблік народа ў цяжкую, але вялікую гадзіну. Гэтае імкненне ўсебакова паказаць народ у барацьбе і патрабавала ўвесці ў раман мноства герояў, вызначыла сюжэтную і кампазіцыйную яго пабудову, яго панарамнасць. Кароткі па звычайных, мірных уяўленнях час — усяго два з нечым месяцы, што ўваходзіў у раман, быў да крайнасці напружаны, багаты самымі разнастайнымі падзеямі; ён сабраў на беларускіх палях і ў лясах мноства самых розных людзей, якія прадстаўлялі самыя розныя погляды, розныя нацыі, розныя характары» [3]. Непрацяглыя ў часе, падзеі рамана разгортваюцца на шырокіх геаграфічных прасторах Беларусі, ахопліваюць самыя розныя сферы ўсенароднай барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Трывожныя, суровыя будні танкістаў,

---

[1] Іван Мележ. Жыццёвыя клопаты. Мн., 1975, стар. 401.

[2] Тамсама, стар. 522.

[3] Жыццёвыя клопаты, стар. 399—400.

што рыхтуюцца да рашучай бітвы за вызваленне беларускай зямлі; бяссонныя, турботныя ночы камандуючага Трэцяга Беларускага фронту Чарняхоўскага; бязлітасная вайна партызанаў з рэгулярнымі злучэннямі вермахта; шматпакутнае жыццё і супраціўленне няскоранага Мінска; блакады і фашысцкія канцэнтрацыйныя лагеры — вось той багаты, разнастайны жыццёвы матэрыял, які Мележ уводзіць у твор. Такім чынам, мэта, задача абумовілі шырыню ахопу ў ім рэальных з'яў і фактаў, своеасаблівасць жанравай формы рамана — панарамнасць, шматпланавасць. Сваёй ідэйнай накіраванасцю, пэўнымі агульнымі мастацкімі асаблівасцямі раман «Мінскі напрамак» — твор свайго часу. Супастаўляючы яго з «Маладой гвардыяй» А. Фадзеева, «Вясной на Одэры» Э. Казакевіча, «Бурай» І. Эрэнбурга, «Сцяганосцамі» А. Ганчара, «Бурай» В. Лаціса, «Векапомнымі днямі» М. Лынькова, творамі, напісанымі ў тыя ж гады, што і «Мінскі напрамак», можна адчуць, даволі выразна заўважыць і ў ідэйным пафасе, і ў характары ўзаемаадносін з рэчаіснасцю нямала агульнага, таго, што народжана, прадыктавана тагачаснымі грамадскімі і літаратурнымі ўмовамі. Маючы на ўвазе вышэй названыя творы, Мележ потым зазначаў: «Мне здаецца, у аснове большасці раманаў таго часу была, удала або няўдала выказаная, думка народная»[1]. Пэўная агульнасць заўважаецца і ў іншым — шырыні ахопу падзей, багацці жыццёвага матэрыялу, шматпланавасці і панарамнасці, вялікай колькасці персанажаў, пранізанасці твораў адчуваннем велічы і маштабнасці дасягнутай перамогі. Больш таго, сёння ўжо зусім выразна акрэсліліся і пэўныя агульныя недахопы, уласцівыя гэтым творам: захапленне падзеямі, недастатковая псіхалагічная распрацаванасць характараў, сюжэтна-кампазіцыйная нескампанаванасць, значная апісальнасць. У прынцыпе, многія з гэтых недахопаў, дарэчы, як і пэўныя вартасці, як бы вынікалі з самой задумы, агульнай аўтарскай ідэйнай устаноўкі, характару адносін да зусім недалёкіх падзей вайны. Пераадоленне недахопаў, якія ў аснове сваёй нёс у сабе падзейна-панарамны раман, залежала пераважна ад сілы таленту мастака, яго творчага вопыту. Праўда, трэба прызнаць, што поўнага мастацкага пераадолення гэтых недахопаў нельга ўбачыць ні ў адным з названых твораў. А большасць іх напісана аўтарамі вопытнымі, таленавітымі. У гэтых адносінах Іван Мележ быў па сутнасці пачаткоўцам. «Гэта быў першы мой раман. Амаль першая мая кніга»[2]. Да гэтага Мележ выдаў два невялікія зборнікі апавяданняў. У рамане пісьменнік упершыню спрабуе шырока адлюстраваць жыццё, узяўшы розныя яго сферы, разнастайныя пласты, увёўшы ў дзеянне мноства герояў, розных сваім грамадскім становішчам, духоўным складам, псіхалагічным напаўненнем; спалучыць матэрыял, звязаны ў нейкай ступені непасрэдна з яго духоўным і жыццёвым вопытам, матэрыял дакументальны, узяты з кніг, газет, ваенных дакументаў, успамінаў людзей, і «матэрыял» творчай фантазіі. Задача для маладога пісьменніка выключнай складанасці. Пазней Мележ скажа: «Багата трывог і працы каштавала мне гэтая кніга... Багата выклікала яна сумненняў і ба-

---

[1] Жыццёвыя клопаты, стар. 399.
[2] Тамсама, стар. 520.

гата роздуму»[1]. «Неймаверна цяжкаю аказалася справа, за якую я ўзяўся»[2]. Вельмі шмат клопату было звязана з матэрыялам дакументальным, падзеямі гістарычна рэальнымі. «Турботы ўскладняліся тым, што ў рамане расказвалася пра гістарычна вельмі канкрэтныя і вядомыя многім рэальныя падзеі, якія нярэдка дыктавалі свае рашэнні. Яны ў многім уплывалі на сюжэт, на кампазіцыю і прымушалі мяне акрамя вырашэння задач чыста мастацкіх займацца даследаваннем у галіне ваеннай гісторыі, вывучаць сведчанні ўдзельнікаў падзей, капацца ў архівах, якія тады не былі адкрыты так шырока, як цяпер...»[3] Патрэбны дакументальны матэрыял не быў даследаваны. Таму яго вывучэнне, падрыхтоўка да работы займалі шмат часу, патрабавалі вялікіх намаганняў. Вопыту асэнсавання і мастацкага ўвасаблення дакументальнага матэрыялу ў Мележа практычна не было. Праўда, своеасаблівай разведкай перад пачаткам работы над «Мінскім напрамкам» быў нарыс «Дарогі на ўсход і на захад», які друкаваўся пад назвай «Заўсёды наперадзе». У ім расказвалася пра баявы шлях праслаўленага камандзіра танкавай брыгады, двойчы Героя Савецкага Саюза Сцяпана Фёдаравіча Шутава. Зразумела, не ўсё тут паказана ў поўным аб'ёме, не пра ўсё сказана ў поўную сілу. Але прафесійна пісьменніцкае вывучэнне жыцця танкістаў, праца над гістарычна рэальным вобразам галоўнага героя самым непасрэдным чынам адчуліся ў «Мінскім напрамку». Хаця, відавочна, у рамане іншая ступень мастацкага спасціжэння рэальных фактаў і падзей, чым гэта было ў нарысе. Вялікія складанасці і цяжкасці сустрэлі Мележа пры стварэнні вобраза Чарняхоўскага. Вось сведчанне пісьменніка: «Вельмі цяжка было пісаць вобраз камандуючага фронту Чарняхоўскага. Я ніколі не бачыў Чарняхоўскага, не даводзілася ніколі быць мне ў штабах франтоў, не было пра Чарняхоўскага і надзейных матэрыялаў: я зусім не быў гатовы, каб брацца за стварэнне яго вобраза. Ужо быў напісаны амаль увесь раман, калі я адчуў, што атрымаецца ці не атрымаецца, а ўводзіць Чарняхоўскага ў раман прыйдзецца, без яго не хапала ў творы вельмі важнай дзеючай асобы, якая вызначала рух многіх падзей. Разумеючы, як мала таго, што я ведаў пра Чарняхоўскага, што тут мяне падсцерагае вельмі шмат небяспек, я ўсё ж наважыўся.

На ўсё тое, што ўдалося мне адшукаць пра Чарняхоўскага, патрачана было шмат працы...»[4]

Гэта — цяжкасці больш суб'ектыўнага, так сказаць, характару: якія тычыліся непасрэдна ўзаемаадносін пісьменніка і канкрэтнай гістарычнай асобы, дакладней, гістарычнага матэрыялу, які адносіцца да гэтай асобы. Але былі цяжкасці і больш шырокага, больш агульнага парадку. Пра іх добра сказана ў рэцэнзіі С. С. Смірнова на «Мінскі напрамак». Там ён пісаў: «Літаратурнае ўвасабленне вобраза буйнога палкаводца, а тым больш рэальнай гістарычнай асобы, добра вядомай сучаснікам, уяўляе значныя цяжкасці. Пісьменнік, які паставіў сабе такую

---

[1] Жыццёвыя клопаты, стар. 398.
[2] Т а м с а м а, стар. 562.
[3] Т а м с а м а, стар. 400.
[4] Т а м с а м а, стар. 400.

мэту, павінен добра арыентавацца ў пытаннях ваеннай навукі сённяшняга дня, разбірацца ў шырокім коле праблем, з якімі мае справу сучасны палкаводзец, што кіруе велізарнымі масамі войск у самых разнастайных і пераменлівых абставінах, рашае задачы матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння аперацыі і г. д. і да т. п. Кола гэтых, чыста ваенных, праблем такое шырокае, што аўтара, нават калі ён свабодна валодае неабходным ваенным матэрыялам, падсцерагае ў рабоце другая сур'ёзная небяспека. Вельмі нялёгка бывае знайсці патрэбную меру дапасавання гэтага ваеннага матэрыялу да мастацкай тканіны твора, меру, якая вызначае правільныя суадносіны паміж спецыфікай ваеннай прафесіі і чыста чалавечымі рысамі характару палкаводца» [1]. Апрача гэтага, трэба мець на ўвазе і тое, што беларуская літаратура, і ў прыватнасці проза, не мела традыцый гістарычнага жанру наогул, стварэння гістарычна-канкрэтнай асобы асабліва. Ва ўсёй савецкай літаратуры таксама не было вопыту мастацкага ўвасаблення рэальнага героя нядаўняй гісторыі, тым больш героя такога маштабу. Усё гэта не магло не адбіцца на творчай рабоце Івана Мележа над вобразам Чарняхоўскага. У творы потым не магло не адчувацца.

Былі цяжкасці і іншага характару. Але для пісьменніка, для яго творчасці, канкрэтна для «Мінскага напрамку» не менш важныя. У першых сваіх творах Мележ звычайна пісаў пра падзеі, людзей, мясціны, унутрана яму блізкія, непасрэдна звязаныя з яго асабістым жыццёвым вопытам. Таму напісаны яны былі пераважна ў лірыка-псіхалагічнай манеры. Тут жа, у рамане, сама агромністасць жыццёвага матэрыялу, мноства дзейных асоб, іх адносная, у параўнанні з творамі ранейшымі, унутраная як бы аддаленасць ад жыццёвага лёсу аўтара патрабавалі (так здавалася Мележу) іншай манеры апавядання — больш аб'ектыўна-стрыманай, эпічнай. «Чаму гэта? Ці не ад жадання быць непадобным на некага? Ад недаверу да самога сябе, да сваіх схільнасцей?» [2] — будзе разважаць пазней Мележ. Але як бы там ні было, раман у асноўным і быў напісаны ў аб'ектыўна-стрыманай манеры. Хаця сёння можна сказаць, што такая манера пісьма не зусім уласціва прыродзе таленту пісьменніка.

Як бачым, творчых цяжкасцей і аб'ектыўнага і суб'ектыўнага характару ў час працы пісьменніка над «Мінскім напрамкам» было больш чым дастаткова. Гэта не магло не адбіцца на творы, на яго ідэйна-мастацкіх вартасцях. Мележ усё бачыў, адчуваў; яго як мастака раман не мог поўнасцю задаволіць. Да таго ж многія недахопы, слабыя месцы былі падказаны ў пісьмовых і вусных выступленнях пісьменнікаў, крытыкаў, чытачоў.

Узнікае пытанне, пытанне надзвычай істотнае ў адносінах да «Мінскага напрамку», а менавіта: што прымушала Мележа зноў і зноў дапрацоўваць гэты твор?

Асабліва часта характар і прычына дапрацовак звязваюцца з «Палескай хронікай». Вось разважанні А. Адамовіча: «Відаць, не раз яшчэ І. Мележ — аўтар «Палескай хронікі» — пройдзецца па старонках «Мінскага напрамку». І гэта так зразумела: узрасло пачуццё патрабавальнасці, адказнасці за ўсё,

---

[1] «Военный вестник», 1955, № 10, стар. 85—86.

[2] Жыццёвыя клопаты, стар. 401.

што ён напісаў, няхай нават у маладыя гады, узнікла жаданне ўсё падняць, падцягнуць да ўзроўню «Палескай хронікі». Пісьменнік будзе гэта рабіць, відаць, да самага таго часу, калі героі яго «Палескай хронікі», прайшоўшы праз усе выпрабаванні 30-х гадоў, «уступяць у вайну...» [1]. Меркаванні гэтыя слушныя і ні ў якой ступені не могуць выклікаць пярэчання: набыты мастакоўскі вопыт выяўляецца ва ўсім, што за гэты час творыць пісьменнік. Але, думаецца, меркаванні такога зместу зусім недастатковыя. І вось па якой простай прычыне: Мележ дапрацоўваў неаднаразова свой першы раман яшчэ да напісання «Палескай хронікі», і, што самае істотнае, характар і напрамак дапрацовак па сутнасці не мяняліся.

Нярэдка прычыну дапрацовак бачаць у пажаданнях і крытычных заўвагах А. А. Фадзеева. Вядома, што Фадзееў у свой час вельмі ўважліва прачытаў Мележаў раман, зрабіў шмат канкрэтных заўваг на палях, прыслаў пісьмо, дзе, у прыватнасці, пісаў: «Адчуваецца, што Вы многа працавалі над сваім раманам, уклалі многа любві ў людзей, пра якіх напісалі, але аказаўся недахоп вопыту». Настойліва раіў: «Папрацуйце ж яшчэ над сваім раманам, каб яго мог чытаць і любіць *шматмільённы* чытач, а не дзесяткі тысяч. Раман гэтага варты» [2]. Можна ўявіць сабе, што значылі тады для маладога аўтара першага рамана словы такога прызнанага майстра слова, як Фадзееў. Пазней Мележ напіша: «Дзесяткі добрых фадзееўскіх ацэнак акрылілі мяне. Але разам з тым А. А. Фадзееў памог мне так-сама больш крытычна настроіцца ў адносінах да свайго дзецішча. Яго меркаванні былі свайго роду ўзмацняльнікам, які развіваў мае затоеныя сумненні ў дасканаласці рамана» [3]. Звернем увагу на апошні сказ. Заўвагі Фадзеева былі ўсяго толькі ўзмацняльнікам. Крытычныя адносіны, сумненні «ў дасканаласці рамана» былі і раней. За гэта сведчыць найперш грунтоўная Мележава дапрацоўка рамана пры падрыхтоўцы да першага рускага выдання 1954 г., таго выдання, якое якраз чытаў Фадзееў. А вось прызнанне на гэты конт самога Мележа: «Павінен сказаць, што вяртаўся і вяртаюся я да рамана не толькі таму, што гэта раіў А. А. Фадзееў. Бясспрэчна, я вярнуўся б да кнігі, калі б і не пачуў гэтай парады. Таксама як я вяртаўся да яе перад першай публікацыяй на рускай мове» [4]. І што істотна: крытычныя заўвагі Фадзеева датычацца якраз тых момантаў, на якія звярнуў асноўную ўвагу і сам Мележ пры першай дапрацоўцы ўсяго рамана. Увогуле, супастаўляючы самыя першыя дапрацоўкі з тымі, што былі зроблены ў 1973—1974 гадах, без асаблівых цяжкасцей можна заўважыць, што агульны змест і напрамак іх застаецца ў аснове сваёй той самы.

Усё гэта дае падставу сцвярджаць, што галоўная прычына пастаяннага імкнення ўдасканальваць раман «Мінскі напрамак» крыецца ў самім аўтару, а не ў адносінах да твораў чытача і пісьменніцкай грамадскасці, не ў змене літаратурных ці грамадскіх абставін. Вялікая мастакоўская патрабавальнасць, са-

---

[1] Алесь Адамовіч. Здалёк і зблізку. М., 1976, стар. 361.
[2] А. А. Фадеев. Собр. соч. в 7-ми т., т. 7. М., 1971, стар. 474.
[3] Жыццёвыя клопаты, стар. 521.
[4] Тамсама, стар. 521.

макрытычнасць, адказнасць перад чытачом і перад абраным аб'ектам раманнага даследавання, укладзеная праца, сілы не давалі спакою пісьменніку, прымушалі яшчэ і яшчэ раз правіць, удасканальваць зробленае, даводзіць да ўзроўню вышэйшага. Іншыя моманты толькі ўзмацнялі ўнутранае аўтарскае імкненне.

У якіх жа напрамках ішла гэтая праца? На што ў першую чаргу была скіравана? Аналізуючы дапрацоўку рамана, зробленую для першага рускага выдання, Ф. Куляшоў у артыкуле «Патрабавальнасць мастака» пісаў: «Дапрацоўка рамана ішла ў асноўным у трох напрамках: па-першае, значна скарочана колькасць дзеючых асоб, па-другое, ставілася мэта больш поўнага раскрыцця вядучых вобразаў рамана, і, нарэшце, удасканальваліся мова і стыль рамана» [1].

Усе пазнейшыя дапрацоўкі ў асноўным ішлі ў гэтых напрамках. Былі, праўда, пэўныя адхіленні, пашырэнні, удакладненні. Так, напрыклад, сярод вобразаў твора асабліва сур'ёзна быў дапрацаваны вобраз Чарняхоўскага. Як сведчыць сам Мележ, ён не толькі напісаў некалькі новых раздзелаў непасрэдна пра камандуючага Трэцяга Беларускага фронту, але і «дапоўніў сцэны і эпізоды ў рамане, якія былі сюжэтна звязаны з вобразам Чарняхоўскага і ў якіх былі ўспаміны і водгукі пра яго другіх персанажаў рамана» [2]. Дапрацоўваючы вобразы, пісьменнік аднačасна пэўную ўвагу ўдзяляў удасканаленню сюжэтна-кампазіцыйнай структуры твора. У працэсе ўдасканалення рамана, шматразовых яго дапрацовак пастаянным клопатам Мележа была мова. У апошніх выданнях «Мінскага напрамку» яго мастацкая тканіна стала больш эмацыянальна насычанай, слова больш лірычна адкрытым і шчырым. Мае рацыю Дз. Бугаёў, які заначае, што «хоць лірызаванае, адкрыта эмацыянальнае пісьмо і не складае стылёвай асновы рамана. Але яно ад выдання да выдання ўзбагачае пераважна эпічную апавядальную манеру аўтара, прыкметна збліжае стыль апошніх рэдакцый «Мінскага напрамку» з творамі пісьменніка пазнейшага часу. Інакш кажучы, у стылёвых адносінах гэтыя рэдакцыі нясуць на сабе пэўны адбітак аўтарскай мастацкай манеры не толькі 50-х, але і 60-х або пачатку 70-х гадоў» [3]. Дарэчы, «лірызаванае, адкрытае эмацыянальнае пісьмо» было характэрнае і для твораў, напісаных да «Мінскага напрамку». Яно арганічна ўласціва прыродзе таленту пісьменніка. У гэтым сэнсе дапрацоўка рамана ішла і па лініі больш натуральнага, глыбокага выяўлення асобы мастака.

Развівалася, сталела літаратура, развіваўся, уваходзіў у поўную сілу талент пісьменніка. І зразумела, гэта ўсё па-свойму адбілася ў Мележавых праўках. Але пры ўсім пры тым, аддаючы належнае Мележавай патрабавальнасці, мастакоўскай упартасці і настойлівасці, захапляючыся і здзіўляючыся імі, усё ж трэба прызнаць, што ў сваёй сутнасці, у сваім глыбінным змесце твор асабліва грунтоўна не змяніўся. Можна гаварыць пра змены ў ступені, узроўні якасці, але не ў змесце самой якасці: пераходу колькасці ў новую якасць не адбылося. І зусім пра-

---

[1] «Полымя», 1955, № 5, стар. 123.

[2] Жыццёвыя клопаты, стар. 524.

[3] Дз. Бугаёў. Вернасць прызванню. Мн., 1977, стар. 65.

вільна піша А. Адамовіч: «...ёсць рэчы, якія пішуцца толькі нанова, таму што ў аснове кожнага твора — пэўная эстэтычная сістэма. Бывае, што колькі ні паляпшай твор на «старой аснове», якаснага скачка не будзе (хоць многае і стане лепшым)...»[1] Ды, напэўна, Мележ і не ставіў сабе за мэту зрабіць якісьці «якасны скачок», г. зн. карэнным чынам перарабіць твор. Галоўным было — палепшыць, удасканаліць. І гэта было дасягнута.

Гаворачы пра неаднаразовыя дапрацоўкі і перапрацоўкі рамана «Мінскі напрамак», увогуле пра творчую гісторыю гэтага твора, нельга не ўлічваць адносіны да яго крытыкі і пісьменніцкай грамадскасці. Тым больш што адносіны гэтыя не вылучаліся адназначнасцю.

Першая кніга рамана ў скарочаным выглядзе была надрукавана ў 1—3 нумарах часопіса «Полымя» за 1950 год. У хуткім часе у газеце «Літаратура і мастацтва» з'явіўся вялікі артыкул І. Кудраўцава «Раман пра «Мінскі напрамак», артыкул неабгрунтавана рэзкі ў сваім крытычным пафасе, несправядлівы. Кудраўцаў катэгарычна заяўляў: «Пісьменнік не ўвасобіў у паўнакроўныя літаратурныя вобразы велізарнейшы жыццёвы матэрыял, не раскрыў велічы падзей недалёкага мінулага». Вялікія недахопы твора ён бачыў у паказе барацьбы партызанаў. Вось логіка разважанняў крытыка: «На жаль, у адлюстраванні барацьбы народных мсціўцаў з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў рамане «Мінскі напрамак» аўтара, на нашу думку, спасцігла няўдача, і гэта, нам здаецца, з'яўляецца буйной хібай твора. Аўтар міжвольна аддае актыўны пачатак праціўніку, паказваючы яго і ў наступленні, робячы яго здольным на ажыццяўленне аперацый вялікіх маштабаў, у той час як партызанам адводзіцца роля абаронцаў жыцця свайго атрада». Далей як вывад: «І пісьменнік, які не хоча адысці ад жыццёвай праўды, павінен паказаць партызан у наступленні на акупантаў, у актыўных дзеяннях супраць гітлераўцаў»[2]. Былі больш прыватныя крытычныя закіды. Асобныя з іх слушныя. Ды гэта нікольні не мяняе сутнасці. Асноўнае — агульны напрамак артыкула, сама логіка крытычнага падыходу да твора. Кудраўцаў у разуменні сутнасці ўзаемаадносін літаратуры і жыцця, разуменні самой прыроды мастацтва і адпаведна ў ацэнцы «Мінскага напрамку» кіраваўся нарматыўнымі, часта дагматычнымі меркаваннямі.

У абарону Мележа выступіў Янка Маўр. 12 жніўня ў той самай газеце «Літаратура і мастацтва» быў надрукаваны яго артыкул «Ці так трэба «падтрымліваць»?». Вядомы дзіцячы пісьменнік рашуча запярэчыў Кудраўцаву, паказаў неабгрунтаванасць яго крытычных абвінавачанняў, вылучыў у творы станоўчае, найбольш адметнае. Маўр пісаў: «У Мележа параўнальна большае месца адведзена мірным карцінам з жыцця Савецкай Арміі — вучобе, быту, працы сярод насельніцтва. У апісанні партызанскага жыцця таксама больш і лепш паказаны бытавыя карціны. У апісанні ж баёў больш увагі звернута на чалавека і яго псіхалогію, чым на ход бою». Падкрэсліў, што Мележ «глыбока адчувае хараство душы чалавека», «умее трапна і тон-

[1] Здалёк і зблізку, стар. 361.

[2] «Літаратура і мастацтва», 3 чэрвеня 1950 г.

ка перадаваць адценні характару і пачуццяў»[1]. Гэтая падтрымка вядомага пісьменніка вельмі многа значыла для І. П. Мележа. Пазней, ужо ў 1972 г., ён пісаў: «...да гэтага часу з пачуццём удзячнасці ўспамінаю я разумнае сяброўскае слова Янкі Маўра. Яно мне тады было так неабходна»[2]. З'явіліся і іншыя станоўчыя водгукі на першую кнігу (А. Миронов «Минское направление».— «Советская Белоруссия», 12 января 1951 г., Л. Салавей. Твор аб Вялікай Айчыннай вайне.— «Беларусь», 1951, № 9). У 1952 г. шматгадовая праца над раманам была завершана. Тады ж «Мінскі напрамак» выходзіць асобным выданнем. Цяпер крытыка і пісьменніцкая грамадскасць аднесліся да твора з асаблівай увагай і прыхільнасцю. У перыядычным друку з'явіліся артыкулы і рэцэнзіі А. Адамовіча[3], Я. Герцовіча[4], А. Клачко[5], Ф. Куляшова[6], І. Навуменкі[7], М. Паслядовіча[8] і інш., дзе раман І. Мележа атрымаў адзінадушна станоўчую ацэнку. Так І. Навуменка, напрыклад, зазначаў: «Ужо адно тое, што пісьменнік падняўся ад невялікага апавядання, замалёўкі з жыцця да шырокага эпічнага палатна, дзе перакрыжоўваецца лёс дзесяткаў герояў, асэнсаваны буйныя падзеі рэчаіснасці, заслугоўвае пільнай увагі». У 1954 г. раман «Мінскі напрамак» выйшаў у перакладзе на рускую мову. Водгукі, якія з'явіліся ва ўсесаюзным друку, таксама былі пераважна станоўчыя (И. Козлов. «Минское направление».— «Знамя», 1956, № 1; Ю. Лукин. «Минское направление».— «Красная звезда», 7 января 1955 г.; Л. Никулин. Роман об Отечественной войне.— «Дружба народов», 1955 г., № 5; С. Смирнов. «Минское направление».— «Военный вестник», 1955 г. № 10). Крытычна паставіўся да рамана па сутнасці адзін А. Бачароў[9]. Праўда, гэты артыкул аспрэчваўся ў выступленнях некаторых удзельнікаў абмеркавання рамана ў часе Дэкады беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве (1955). У абмеркаванні выступілі Л. Нікулін, А. Власенка, А. Караваева, Ю. Лукін. Заключнае слова сказаў В. Ажаеў. Ён адзначыў: «Кніга І. Мележа — цікавая і значная з'ява ў нашай прозе. Удача аўтара ў тым, што ён здолеў стварыць сваю кнігу пра Айчынную вайну пасля таго, як у нашай літаратуры з'явілася шмат добрых і розных твораў пра гэта. Асаблівая каштоўнасць «Мінскага напрамку» ў тым, што і па духу, і па каларыту — гэта беларуская кніга». І далей: «У кнізе ёсць атмасфера, карціна ўсенароднага ўздыму, усенародных намаганняў у барацьбе з ворагам. Шмат сустракаецца цікавага і тонкага ў паказе людзей, прыроды»[10]. Асаблівае значэнне для І. Мележа ў гэты час мела пісьмо А. А. Фадзеева, а таксама яго заўвагі на палях

---

1 «Літаратура і мастацтва», 12 жніўня 1950 г.
2 Жыццёвыя клопаты, стар. 397.
3 «Советская отчизна», 1964, № 6.
4 «Мінская праўда», 14 чэрвеня 1953 г.
5 «Звязда», 25 красавіка 1953 г.
6 «Полымя», 1953, № 5.
7 «Чырвоная змена», 9 ліпеня 1953 г.
8 «Літаратура і мастацтва», 22 лютага 1953 г.
9 «Литературная газета», 13 января 1955 г.
10 Декада белорусского искусства и литературы в Москве. Государственное издательство БССР, М., 1955, стар. 339.

рамана «Мінскі напрамак». Выдатны мастак слова шчыра падтрымаў маладога пісьменніка, добразычліва адзначыў пэўныя недахопы, настойліва параіў не пакідаць працу над удасканаленнем твора.

І. П. Мележ вельмі ўважліва, чула адносіўся да ўсяго, што гаварылася пра яго творы. Можна меркаваць, што ўсе тагачасныя выступленні, якія мелі адносіны да «Мінскага напрамку», не маглі не ўплываць на аўтара. Яны ўмацоўвалі ўпэўненасць, веру ў свае сілы, узмацнялі пачуццё адказнасці, прымушалі нястомна працаваць.

Мележава праца над раманам — гэта яркі прыклад (другі такі цяжка знайсці ў нацыянальнай літаратуры) самаадданага служэння абранай справе, прыклад вялікай патрабавальнасці да сябе, адказнасці перад народам, перад літаратурай. Ён так характэрны для творчых паводзін гэтага выдатнага мастака слова.

«Мінскі напрамак» — з'ява выключна важная ў творчасці пісьменніка, у станаўленні яго таленту. Стварэнне рамана, яго неаднаразовыя дапрацоўкі асаблівую ролю адыгралі ў выхаванні мастаковага характару — смеласці ў падыходзе да рэчаіснасці, настойлівасці ў дасягненні мэты, пастаяннай незадаволенасці зробленым, імкненні вырашаць складаныя ідэйна-мастацкія задачы. Твор вялікую ролю адыграў у самасцвярджэнні Мележа-мастака. Вось што гаварыў у гэтым сэнсе сам пісьменнік: «Яна памятная для мяне, гэтая кніга, і таму, што, мабыць, толькі з яе выхадам я адчуў сябе пісьменнікам. Ішло многа пісем ад чытачоў: было відаць, што кніга патрэбна людзям, што праца не прапала дарэмна.

Раман даў мне адчуць, як многа значыць для людзей пісьменніцкае слова, якая велізарная ў нас, савецкіх пісьменнікаў, грамада чытачоў і якая ўважлівая, спагадлівая яна» [1].

Праца над раманам «Мінскі напрамак» з'явілася для Мележа добрай школай эпічнага спасціжэння рэчаіснасці, школай стварэння складаных, шматпраблемных, шматгеройных мастацкіх твораў. Гады, аддадзеныя гэтаму раману, былі карыснымі ў выпрацоўцы сістэмы ўзаемадзеяння мастацкіх элементаў, асобных тэхнічных прыёмаў, у выпрацоўцы эпічнага, пранізанага лірызмам, пісьма. Цікавым і новым і для Мележа, і для беларускай літаратуры наогул было суровае адчуванне ў рамане драматызму і трагізму падзей: эпізоды блакады, апошнія старонкі рамана. «Ужо тады, у першыя пасляваенныя гады, Мележ зірнуў на вайну не толькі як на справу найвялікшай мужнасці, подзвігу народа, а і як на цяжкую, паўсядзённую працу, дзе праявіліся такія якасці савецкіх людзей, як цягавітасць, вытрымка, уменне пераносіць, пераадольваць пакутлівыя нягоды і выпрабаванні жыцця» [2]. Пісьменнік на гэтым творы яшчэ раз пераканаўся, у чым ён асабліва моцны як мастак (гэта, дарэчы, адзначалася і крытыкай): адлюстраванне жыцця вёскі, побыту, працы; эмацыянальна-псіхалагічная манера апавядання; свабоднае выяўленне асабістых адносін. Пра апошняе ён скажа пазней: «Я імкнуўся часта маляваць людзей і карціны знешне,

[1] Жыццёвыя клопаты, стар. 402.

[2] І. Навуменка. Кніга адкрывае свет. Мн., 1978, стар. 155—156.

а не знутры, хоць яшчэ пра раннія мае апавяданні вялікі наш пісьменнік Кузьма Чорны сказаў, што па прыродзе сваёй я — псіхолаг. Толькі некаторыя раздзелы, як, напрыклад, вяртанне Шабунiхi на роднае папялішча напісаны ў іншай, псіхалагічнай, можна сказаць — лірыка-псіхалагічнай манеры, якая знойдзе працяг у наступных творах. Дарэмна, мне здаецца, я часта стараўся быць спакойным, гнаў усякую пяшчоту, цеплыню...» [1]

Раман «Мінскі напрамак» народжаны пэўным часам, нясе ў сабе выразныя грамадскія і эстэтычныя прыкметы гэтага часу. Разам з тым, напісаны рукой таленавітага пісьменніка, твор гэты стаў прыкметнай з'явай не толькі ў беларускай, але і ва ўсёй савецкай літаратуры, прысвечанай «незабыўным дням» Вялікай Айчыннай вайны. Для самога І. П. Мележа раман быў вельмі важным крокам на шляху эпічнага спасціжэння жыцця народа.

*С. А. АНДРАЮК.*

## III

## КНІГА ДРУГАЯ

Упершыню апублікавана са скарачэннямі ў час. «Полымя», 1952, №№ 6, 7.

Урыўкі з другой кнігі надрукаваны: «Мінскі напрамак» — «Бальшавік Палесся», 1951, 9, 11, 12 верасня; «На камандным пункце» — «Звязда», 1952, 9 мая; «У вялікім паходзе» — «Мінская праўда», 1952, 8 чэрвеня.

«Мінск за небакраем» з'яўляецца працягам кнігі «Хмары на світанні», цэнтральным звяном рамана «Мінскі напрамак» і складаецца з яго трэцяй, чацвёртай і пятай частак.

Як ужо адзначалася, І. П. Мележ, напісаўшы твор (1947—1952), на працягу больш як дваццаці год удасканальваў яго. Апошнія дапрацоўкі беларускіх выданняў адносяцца да 1973 года. Існуе чатыры рэдакцыі кнігі «Мінск за небакраем» (выданні 1952, 1958, 1970, 1974 гг.).

«У кожнай старонцы, якую стварае пісьменнік,— пісаў Іван Мележ,— ...удзельнічае яго жыццёвы вопыт, эмацыянальны, маральны, грамадзянскі: іменна гэты вопыт, найскладанейшая дыялектыка яго поглядаў, яго светаразумення і абумоўлівае незлічоныя ацэнкі пісьменнікам людзей, падзей, фактаў, разнастайных праблем мастацкага майстэрства» [2]. Таму кожная новая рэдакцыя кнігі «Мінск за небакраем», якая адпавядае пэўнай ступені жыццёвай і творчай сталасці мастака, адрозніваецца ад папярэдняй не толькі кампазіцыйна і стылёва, але і шырынёй адлюстравання падзей, глыбінёй іх аналізу.

На вялікі жаль, ні рукапісу, ні машынапісу другой кнігі «Мінскага напрамку», якія папярэднічалі часопіснай публікацыі або першаму яе поўнаму варыянту, не захавалася.

Пасля публікацыі са скарачэннямі ў чэрвеньскім і ліпеньскім нумарах часопіса «Полымя» за 1952 г. кніга «Мінск за

---

[1] Жыццёвыя клопаты, стар. 401.

[2] Тамсама, стар. 213.

небакраем» была поўнасцю надрукавана ў першым асобным выданні рамана («М. н., 1952». Падпісана да друку 25 лістапада таго ж года). Гэтыя публікацыі істотна адрозніваюцца.

У скарочаным часопісным варыянце трэцяй часткі другой кнігі ў параўнанні з «М. н., 1952» адсутнічаюць: успаміны Нічыпара Тураўца аб дзіцячых гадах Юрыя (стар. 313), падраздзел аб узаемаадносінах Васі Крайко і Валі Залескай, фрагмент аб «камерцыйных аперацыях» Рыбакова ў час прыпынку (стар. 332), раздзел аб маршы танкістаў Лагуновіча праз балоты, сустрэчы іх з партызанамі, вызваленні танкістамі вязняў з лагера.

У чацвёртай частцы няма падраздзелаў пра выхад танкістаў Лагуновіча да Мінскай магістралі, пра канфлікт паміж танкістамі і Рыбаковым у час адпачынку, размовы з прычыны гэтага Лагуновіча з Рыбаковым, а таксама размовы Лагуновіча і Колышавым аб паводзінах і аўтарытэце камандзіра, апавядання аб тым, як у час наступлення нашых войск, услед за імі, рухаюцца на захад, каб аднаўляць жыццё на знявечанай ворагам зямлі, дырэктар завода Міхалап, старшыня калгаса з Міншчыны Жывіца, вызвалены з лагера танкістамі Лагуновіча падлетак (стар. 392—397; 399—402).

Адсутнічаюць падраздзелы аб сустрэчы Юрыя Тураўца і Міхалапам, размовах Чарняхоўскага з салдатамі і цывільнымі ля кастра (стар. 403—409), Жывіцы з Праворным аб цяжкасцях аднаўлення жыцця на беларускай зямлі, ад'ездзе Юрыя, Міхалапа, Жывіцы і Талачына (стар. 409—412), разгроме батальёна лейтэнанта Клямта (стар. 464—466).

У пятай частцы зняты канец першага падраздзела першага раздзела («У адной такой вёсцы Аляксей, нарэшце, даў Колышаву экіпаж і машыну. ~ Я яшчэ пакажу сябе!» (Стар. 469—470), падраздзелы пра здраднікаў Грэчку і Тыталя і іх смерць (стар. 477—481), успаміны Лагуновіча аб тым, як ён ледзь не загінуў (стар. 483—484), сцэна вызвалення ўзводам Праворнага савецкіх людзей, якіх немцы гналі на захад, і ўрывак аб падыходзе палкоў Шчарбацюка да Бярэзіны (стар. 486—491).

Апушчаны поўнасцю трэці раздзел (далейшае наступленне дывізіі Шчарбацюка, яго сустрэча і размова з Аўдоццяй Шабуніхай), фрагмент з роздумам Валі Залескай пра Васю Крайко і яго лёс да таго, як ён трапіў у атрад Ермакова: «Яна ўспаміпала... ~ ...такая бяда...» (стар. 532).

Адсутнасць дакладных звестак не дазваляе зрабіць пэўных высноў аб тым, чаму кніга «Мінск за небакраем» упершыню была апублікавана ў скарочаным выглядзе і як адбываўся адбор раздзелаў і падраздзелаў для яе часопіснай публікацыі — зрабіў яго пісьменнік сам ці згадзіўся з пажаданнямі рэдактара і рэдкалегіі. Вядома аднак, што ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе ў літаратуры пераважалі творы, дзе часта спрошчана, аднабакова адлюстроўвалася вайна і чалавек на вайне, а пад уплывам тэорыі бесканфліктнасці і дагматычнай крытыкі ўсталёўваліся пэўныя нарматыўныя патрабаванні да раманаў на ваенную тэматыку.

У артыкуле «Наш раман і яго крытыка» (1950) І. Мележ нагадвае такі выпадак: «Тав. Бурносаў калісьці прачытаў у рукапісе раман «Мінскі напрамак» і з абурэннем накінуўся на

аўтара за тое, што ён разам з іншымі героямі вывеў вобраз танкіста-гандляра: «Калі ты дасі вобраз, я першы цябе разнясу! — сказаў ён мне з пагрозай.— Гэта паклёп!» [1]

Прыгледзеўшыся да фрагментаў, падраздзелаў, раздзелаў, якія не ўвайшлі ў часопісную публікацыю, можна прыкмеціць пэўную заканамернасць: скарачаліся ў асноўным тыя старонкі, дзе ішла размова пра чалавечыя думкі, пачуцці, перажыванні або пэўныя негатыўныя з'явы тагачаснага жыцця.

Параўнанне тэкстаў часопіснай публікацыі і асобнага выдання кнігі «Мінск за небакраем» сведчыць аб тым, што І. Мележ працягваў работу над гэтай кнігай і пасля таго, як яе часопісны варыянт быў здадзены ў друк.

Пісьменнік перанёс з кнігі «Будучыня з намі» ў шосты раздзел чацвёртай часткі кнігі «Мінск за небакраем» два першыя падраздзелы шостай часткі часопіснай публікацыі. У выніку гэтага ўсе падраздзелы аб ратунку Клавы аказаліся ў адным месцы.

У першай поўнай публікацыі кнігі «Мінск за небакраем» (у параўнанні з часопіснай) паўней раскрыты вобраз Чарняхоўскага. Аўтар паглыбляе такія рысы характару камандуючага, як добразычлівасць, павага да падначаленых, прынцыповасць, акуратнасць, пачуццё адказнасці за даручаную справу.

*«П», № 6:*

Стар. 61

Разам з гэтым яму (Шчарбацюку.— *А. А.*) успомніліся словы Чарняхоўскага: — «Дывізія добрая, баявая і людзі баявыя».

Стар. 67

Ён стаў уважліва чытаць уголас зводку...

*«М. н., 1952»:*

Стар. 308

Разам з гэтым яму (Шчарбацюку.— *А. А.*) успомніліся словы Чарняхоўскага — «...а што вы скажаце, таварыш генерал-маёр... справіцеся?..»

Стар. 320

Ён стаў уважліва чытаць уголас зводку, <яшчэ> раз перапытаў генерал-маёра, ці не завышаныя тут весткі, ці правераныя яны, і, толькі пачуўшы адказ, што ўсё гэта праверана, зноў схіліўся над паперай.

У другім падраздзеле трэцяга раздзела выкраслены кавалак тэксту, дзе ішла гаворка аб асаблівых адносінах Чарняхоўскага да танкістаў («П», № 6, стар. 69). Магчыма, ён быў зняты І. Мележам з тых меркаванняў, што Чарняхоўскі як камандуючы фронту не меў права на асаблівую прыхільнасць да якога-небудзь аднаго роду войск.

Перапрацаваны і часопісны варыянт дыялога Сяргея Снежко з дружбаком, які хадзіў у горад, каб даведацца аб лёсе падпольшчыкаў, маці Сяргея і яго сястры Клавы. У новым варыян-

[1] Жыццёвыя клопаты, стар. 118.

це ён набыў эмацыянальнасць і псіхалагічную абгрунтаванасць («П», № 6, стар. 82 і «М. н., 1952», стар. 363).

Сказ часопіснага тэксту «Хутка машыны зноў выходзілі на дарогу...» («П», № 6, стар. 99) заменены фрагментам, дзе Мележ паказвае, як стамілі танкістаў не толькі бясконцыя баі, але і турботныя ночы і спякотныя дні, як цяжка чалавеку на вайне («Начамі таксама было неспакойна... ~ ...Можаш ісці...» Стар. 415—418).

Няма ў «М. н., 1952» роздуму Лагуновіча пра сям'ю, яго сну пра Ніну («П», № 6, стар. 101—102).

Праўка, якую зрабіў пісьменнік у канцы падраздзела аб выхадзе падрыўнікоў Шашуры на жалезку, пазбавіла гэты падраздзел ад адназначнасці паводзін партызан і гітлераўцаў у розных сітуацыях «Праехала паволі дрызіна. ~ ...нічога не заўважылі...» — «П», № 6, стар. 106 // «Прайшло некалькі немцаў. ~ ...Нічога не заўважылі...» — «М. н., 1952», стар. 430.

І. Мележ унёс праўкі і ў канцоўку сцэны, дзе эсэсаўцы забіраюць Ніну Лагуновіч з турэмнай камеры, каб адправіць у Трасцянец. Яе апошнія ў гэтай сцэне словы, якія звернуты да гітлераўцаў (« — Бі, паразіт! Бі! Пакуль можна,— спяшайся — нашы ўжо блізка!..» «П», № 7, стар. 10) у «М. н., 1952» заменены зваротам да вязняў: « — Родныя мае... бывайце! — крыкнула яна людзям.— Чакайце нашых!.. Нашы ўжо блізка!..» (стар. 454). Новая канцоўка больш адпавядае душэўнай настроенасці Ніны пасля апошняга допыту і як бы завяршае яе роздум аб дачцэ, мужу, таварышах.

Зусім новую псіхалагічную і ідэйную афарбоўку атрымаў у эпізодзе гібелі экіпажа Якавенкі вобраз Рыбакова. Перад намі ўжо не эгаіст і сябелюбец, а сумленны салдат. Ён цяжка перажывае гібель людзей, што сталі яму блізкімі, роднымі, але нічым не можа ім дапамагчы.

| *«П», № 7:* | *«М. н., 1952»:* |
| --- | --- |
| Стар. 19 | Стар. 476 |
| Удалося выратавацца толькі вадзіцелю Рыбакову... Ён азірнуўся навокал, знайшоў вачыма ямку і асцярожна перапоўз у яе. Адсюль Рыбакоў убачыў, як з вежы, круцячыся, валіць чорны дым. | Удалося выратавацца толькі Рыбакову, які быў вадзіцелем... Твар яго і асабліва рукі былі абпалены, вопратка на ім тлела, але Рыбакоў не заўважаў гэтага, ён бачыў, як з вежы, круцячыся, валіць чорны дым... Можа, там дапамагчы трэба каму-небудзь? Рыбакоў напружана ўзняўся на руках. |

Інакш раскрыты ў «М. н., 1952», чым у часопісе, псіхалагічны стан Лагуновіча, які стаў камбатам, перад боем. Тут яго думкі, перажыванні, учынкі сталі натуральнымі і лагічнымі.

Ужо ў час падрыхтоўкі «М. н., 1952» І. Мележ значна палепшыў моўную фактуру рамана. Асаблівасці працы над мовай твора разгледжаны ў каментарыях да першай кнігі.

У 1954 годзе «Мінскі напрамак» выйшаў у Маскве («Советский писатель». Авторизованный перевод с белорусского Л. Шапиро). Перакладчык паставіўся да тэксту рамана безадказна, дапусціў адвольныя скарачэнні. Аднак пераклад даў магчымасць саюзнаму чытачу пазнаёміцца з гэтым творам. Напярэдадні Дэкады беларускай літаратуры і мастацтва ў Маскве (1955) раман быў прачытаны А. Фадзеевым. Ліст А. Фадзеева ад 18 лютага 1955 года, з канкрэтнымі парадамі, а таксама паметкі на старонках кнігі «Мінск за небакраем» [1] уяўляюць вялікую цікавасць. Яны дапамаглі пісьменніку вызначыць кірунак яе далейшага ўдасканалення. У артыкуле «Шчаслівы дар лёсу» Мележ пісаў: «...вучыў мяне майстар не агульнымі пажаданнямі, а вельмі канкрэтнымі заўвагамі, ацэнкамі, вучыў прадметна, пераканаўча. І вучыў са здзіўляючай шчодрасцю, дабратою» [2]. Аб гэтым сведчаць і паметкі на кнізе «Мінск за небакраем».

На стар. 323, у канцы першага раздзела трэцяй часткі, што адпавядае першаму раздзелу той жа часткі «М. н., 1952», ён напісаў: «Вся эта глава слишком дробная из-за мелких подробностей. И слишком много людей, новых для читателя, которых он еще не успел полюбить. Поэтому нет души в этой картине».

На стар. 324 падкрэслены ўрывак: «Сегодня Туровец был на партийном собрании в отряде; собрание затянулось и закончилось около одиннадцати. Пока поговорил с ребятами, которые обращались к нему с разными просьбами и жалобами, и прошел часть пути «домой», понял, что не успеет к сводке.

«Ну что ж, делать нечего, узнаю позже». Он сбавил шаг, пошел спокойнее»,— зроблена заўвага: «И зачем вы тащите в роман всю эту чепуху?» (А. Ф.).

У трэцім раздзеле (стар. 330) А. Фадзееў выкрасліў абзац «Вторые сутки по всему фронту — на полях, на болотах, в лесах — не затихал бой. Черняховский, которому ни на час за это время не удалось уснуть, следил за разными участками, давал советы командующим армиями, приказывал, требовал, поправлял»,— і зазначыў: «Вот если б вы этак прочесали весь свой роман, выбросив из него мусор, роман выиграл бы вдесятеро».

На стар. 367 ён напісаў: «В этих главах совершенно пропала индивидуальность Лагуновича. Колышева, Гогоберидзе мы видим, чувствуем, а Алексей превратился в общее место и «командира». А ведь именно он должен цементировать все эти главы» (А. Ф.).

У канцы першага раздзела чацвёртай часткі (стар. 409) Фадзееў напісаў: «Все должно теперь развертываться стремительно, а вы тянете, даете десятки и сотни напускных подробностей. Скучно, только вся история с Рыбаковым написана хорошо».

Прачытаўшы другі раздзел чацвёртай часткі кнігі «Мінск за небакраем», А. Фадзееў зрабіў наступныя паметкі: «В этой главе дела идут живее» (стар. 409); «Живица — это здорово, это ваша находка» (стар. 414); «Здесь дела живо идут!» (стар. 420); «Хорошо» (стар. 423).

На стар. 441 адзначана: «Как замечательно развертываются

---

[1] Архіў сям'і І. П. Мележа.

[2] Жыццёвыя клопаты, стар. 521.

у Вас отношения Шашуры и Аксиньи! И какие оба живые, как их видишь, любишь их и сочувствуешь им».

У канцы пятага раздзела чацвёртай часткі (стар. 456) мы знаходзім паметку. «Немцы Вам, в общем, не удаются. Очень однотипные. Но вся бытовая конкретность жизни наших людей при немцах дана более или менее правдиво — немцы воспринимаются через эту конкретность и это несколько спасает положение. Фон верен и конкретен, немцы условно воспринимаются, как часть этого страшного фона».

А. Фадзееў выкрасліў канец пятага падраздзела трэцяга раздзела пятай часткі, пачынаючы ад слоў: «Он думал о детях, с которыми уже более года не виделся...» (стар. 523).

У канцы трэцяга раздзела пятай часткі ён напісаў: «Вы сделали большую ошибку, что так надолго разлучили нас с Ермаковым, Туравцом, Крайко — с людьми, которых мы успели уже хорошо узнать, влезть в их судьбы, полюбить их. Ведь они относятся к числу первостепенных героев романа, а потом сделали так, что они вовсе перестали быть духовной движущей силой романа».

На стар. 541 зазначыў: «Видите, как сразу все заиграло, как только вы вернулись к излюбленным героям!»

Адносна першых чатырох абзацаў другога падраздзела шостага раздзела пятай часткі: «День выдался ясный, солнечный. Алексей вдруг услыхал, как в вышине над рожью поет жаворонок. Он не поверил, прислушался: в промежутках между взрывами с вышины сыпался серебряный звон.

Ишь ты, какой смелый!

В небе плыли белые ватные облака. Солнце, начавшее уже клониться [redacted] западу, еще сильно жгло. У ног Алексея недружно поднимались беловатые стебли ржи, среди которых вилась повилика и пробивалось из земли всякое мелкотравье; под сапогами чувствовалась пыльная, податливая, высушенная солнцем пахота.

Мягкая земля, ползучая повитель, усатые стебли ржи, песня упрямого жаворонка были безгранично дороги и милы сердцу Алексея. Он весело спросил у Костюченко, сколько накуковала ему кукушка,— у кнізе зазначана: «Слава богу, опять хоть немного оживили Алексея, а не то он совсем превратился в общее месиво».

На стар. 551 А. Фадзеевым выкраслены сказ: «Даже когда он думал о Минске, то, вопреки обычному состоянию, тревога не омрачала его, он был почему-то уверен, что все обойдется хорошо».

Парады А. Фадзеева былі ўлічаны аўтарам «Мінскага напрамку» пры далейшай працы над раманам.

Тэкстуальна-параўнальны аналіз кнігі «Мінск за небакраем» у выданнях «М. н., 1952» і «М. н., 1958» сведчыць, што, рыхтуючы гэту кнігу для «М. н., 1958», І. Мележ ажыццявіў яе франтальную кампазіцыйную перабудову.

Пісьменнік імкнуўся пазбегнуць непатрэбных перакрыжаванняў сюжэтных ліній. Ён аб'яднаў падраздзелы ў раздзелы так, каб яны былі звязаны [redacted] адным героем або групай дзеючых асоб у пэўны перыяд іх жыцця. Падраздзелы аб дзейнасці Чарняхоўскага на КП і ў штабе размясціў так, каб яны папярэдні-

чалі падраздзелам аб баявых дзеяннях танкістаў Бяссонава і пехацінцаў Шчарбацюка.

Чацвёрты раздзел трэцяй часткі «М. н., 1958» (аб баявых справах танкістаў Лагуновіча) Мележ дапоўніў першым, другім і трэцім падраздзеламі шостага раздзела той жа часткі «М. н., 1952».

Чацвёрты падраздзел шостага раздзела «М. н., 1952» (вызваленне танкістамі Лагуновіча з лагера вязняў) перанесены ў першы раздзел пятай часткі. Два падраздзелы сёмага раздзела (Вольф у Мінску — у рэстаране і ў Ані) І. Мележ перанёс у першую кнігу «Хмары на світанні», а трэці (назначэнне Вольфа да Шульцэ і агляд імі абарончых рубяжоў у Мінску) зрабіў трэцім падраздзелам пятага раздзела чацвёртай часткі, дзе гаворка ідзе аб жыцці ў акупіраваным Мінску напярэдадні вызвалення. У выніку гэтых перастановак шосты і сёмы раздзелы «М. н., 1952» перасталі існаваць.

Восьмы і дзевяты раздзелы «М. н., 1952» (Сяргей Сняжко пасля правалу падпольшчыкаў, Ніна і Клава ў турме, нечаканы ратунак Клавы ў час расстрэлу) аб'яднаны ў адзін. У выніку ўзнік шосты, больш поўны, эмацыянальна насычаны, лагічна завершаны раздзел трэцяй часткі.

У выніку кампазіцыйнай перабудовы колькасць раздзелаў у трэцяй частцы кнігі «Мінск за небакраем» паменшылася з дзевяці да шасці.

Акрамя гэтага, пісьменнік дапоўніў першы раздзел лірычным зваротам да беларускай зямлі[1], а пяты — падраздзелам, у якім паказаны Клямт і яго падначаленыя ў час абстрэлу нямецкіх пазіцый нашай артылерыяй.

Зменена кампазіцыя і чацвёртай часткі кнігі.

У «М. н., 1958» І. Мележ перанёс з другога раздзела, дзе ён быў не да месца, у першы фрагмент аб становішчы нашых войск у пачатку наступлення.

Чацвёрты раздзел (Шашура на жалезцы, у Паплавах і ў Нічыпара Тураўца) «М. н., 1952» аўтар дапоўніў двума падраздзеламі аб здрадніках Грэчцы і Тыталю. Гэтыя падраздзелы, якія тэматычна і сюжэтна выбіваліся з раздзела аб баявых дзеяннях танкістаў Лагуновіча, арганічна ўпісаліся ў раздзел аб жыцці і баявых дзеяннях партызан.

У пяты раздзел устаўлены новы падраздзел аб прыгодах генерала Баумволя пад Талачыном і яго візіце да камандуючага нямецкіх войск на гэтым напрамку, а таксама трэцім падраздзелам сёмага раздзела трэцяй часткі «М. н., 1952» (прызначэнне Вольфа да Шульцэ і агляд Баумволем, Шульцэ і Вольфам абарончых рубяжоў у Мінску).

Кампазіцыйная перабудова пятай часткі насіла той жа характар, што і папярэдніх.

Чацвёрты раздзел гэтай часткі кнігі «Мінск за небакраем» І. Мележ перанёс у трэцюю кнігу «Будучыня з намі», дзе ён стаў другім раздзелам шостай часткі.

Першы раздзел пятай часткі (баявыя справы танкістаў)

---

[1] Упершыню гэты зварот быў змешчаны ў другой кнізе першага выдання «Мінскага напрамку» на рускай мове (М., 1954).

пісьменнік дапоўніў чацвёртым падраздзелам шостага раздзела трэцяй часткі папярэдняга выдання, дзе гаворка ішла аб вызваленні танкістамі Лагуновіча з лагера вязняў. Падраздзел арганічна ўпісаўся ў мастацкую тканіну раздзела і набыў у яго кантэксце дадатковую сэнсавую напоўненасць.

У другім раздзеле значна дапоўнены і перабудаваны падраздзелы аб Чарняхоўскім і яго дзейнасці.

Рыхтуючы выданне 1958 года, І. Мележ бязлітасна выкрэсліваў з тэксту мясціны, якія абцяжарвалі сюжэт.

Адначасова пісьменнік перагледзеў і размяшчэнне матэрыялу ўнутры раздзелаў. У выніку гэтай вялікай перабудовы кніга «Мінск за небакраем» набыла кампазіцыйную зладжанасць і сюжэтную завершанасць.

Пры падрыхтоўцы кнігі «Мінск за небакраем» для «М. н., 1958» Мележ не абмежаваўся ўдасканаленнем яе кампазіцыі.

У першым раздзеле трэцяй часткі пісьменнік робіць спробу глыбей раскрыць пачуцці і перажыванні Юрыя Тураўца ў час першага бою, псіхалагічна абгрунтаваць паводзіны маладога чалавека, амаль хлапчука, які трапіў у бязлітасны вір вайны.

Значна дапрацаваў Мележ вобраз генерал-маёра Шчарбацюка. Ён дапоўніў новымі падрабязнасцямі яго партрэт («грузны, рыхлаваты, з жыватом»; «...выцер лысіну, медны карак»; «...выняў кісет, панура зацягнуўся едкім дымком самакруткі»), раскрыў такія рысы характару, як непаспешлівасць, здзіўляючая дакладнасць у справах, якія датычыліся ваенных аперацый (стар. 19), лагоднасць і адначасова схільнасць да «гнеўных выбухаў». Калі Шчарбацюку здавалася, што яго падначалены робіць сваю працу не так добра, як трэба, чым ставарае пагрозу поспеху наступлення, «генерал станавіўся гарачым і нястрыманым» (стар. 21).

У другім раздзеле пятай часткі (стар. 208) Мележ увёў фрагмент, дзе малюе Шчарбацюка асцярожным, разважлівым камандзірам, які не рызыкуе жыццём салдат без пільнай неабходнасці. Ён спыняе Паўлоўскага, які аддае загад перапраўляць падмацаванне на другі бераг, на захоплены плацдарм: «...Пачакай. Спяшайся, але з розумам... А тут — людзі,— трэба з развагай, беражліва... Пачакаем...»,— і загадвае Сібіраку рыхтавацца да пераправы на світанні «добранька, старанна».

У трэцім раздзеле (стар. 219) пісьменнік дабавіў дыялог паміж генерал-маёрам і ардынарцам у час вячэры, дзякуючы чаму вобраз военачальніка ўзбагаціўся чыста чалавечымі рысамі.

Устаўка на стар. 220 паглыбляе наша ўяўленне аб Шчарбацюку. Камандзіру палка, які ў час пераправы нервова бегаў па беразе, выклікаў афіцэраў, пагражаў, лаяўся, ён робіць заўвагу: «...А ты ўсё ж спакайней, спакайней. І без лаянкі! За ласку табе кожны зробіць у сто разоў больш, як за крыкі. Страху ім і без цябе досыць, а разумнае слова — у сэрца!..»

Дабрата Шчарбацюка, яго спачуванне людзям, што пакутуюць на вайне і ад вайны, яшчэ глыбей раскрываюцца ва ўведзеным у выданне 1958 года эпізодзе сустрэчы яго з жанчынай, якая толькі выйшла з канцлагера (стар. 226).

Не застаўся без увагі ў гэтай рэдакцыі і вобраз Чарняхоўскага. Урывак, у якім паведамлялася аб загадзе Трэцяму Бела-

рускаму фронту, дапоўнены новым фрагментам, дзе выяўляецца глыбокае адчуванне Чарняхоўскім еднасці з народам.

«...Чарняхоўскага сталі віншаваць.

— Дзякуй усім,— сказаў ён.

Паціснуўшы рукі афіцэрам і генералам, Чарняхоўскі прыслухаўся — у баку пярэдняга краю гупалі важкія выбухі...

Ён намерыўся ўжо ісці, але, як бы ўспомніўшы штосьці важнае, спыніўся.

— Адзін разумны рускі чалавек... неяк сказаў: усе мы народ, і ўсё тое лепшае, што мы робім, ёсць справа народная...» (стар. 35—36).

У новай рэдакцыі з'явілася сцэна, у якой генерал Емяльянаў паведамляе камандуючаму аб смерці брата, а таксама ўрывак, дзе падаюцца роздумы і ўспаміны Чарняхоўскага аб дзяцінстве, смерці маці, сустрэчах і размовах з Сашам (стар. 40—41).

Яшчэ раз падкрэслівае пісьменнік прынцыповасць Чарняхоўскага ў новым дыялогу яго з даручэнцам Камаровым (стар. 216).

Устаўка на стар. 42 раскрывае настрой і стан Лагуновіча ў час, калі яго танкі выйшлі на беларускую зямлю; на стар. 126 — узаемаадносіны Лагуновіча з камандзірам палка Бяссонавым.

Размова Якавенкі з Колышавым, якога прыслалі ў яго роту, дае больш поўнае ўяўленне аб адносінах камандзіра роты да даручанай яму ваеннай тэхнікі і патрабавальнасці да падначаленых (стар. 189) і г. д.

Рыхтуючы да друку свой першы Збор твораў, Мележ зноў звярнуўся да «Мінскага напрамку». На адной з старонак кнігі «Мінск за небакраем» «М. н., 1958», што папярэднічае тэксту, аўтар напісаў: «Рыхтуючы выданне:

1) Выпалаць лішняе.

2) Скараціць непатрэбныя гаворкі, рэшткі.

3) Знішчыць перабоі ў мове апавядання.

4) Знішчыць канцылярскія выразы і словы.

5) Многа кропак. Ірваныя сказы злучыць. Зняць непатрэбныя абзацы.

6) Дапрацаваць, развіць Чарняхоўскага».

Як паказаў матэрыял перапрацовак, задачы, пастаўленыя пісьменнікам, былі паспяхова вырашаны.

Выкідаючы «лішняе», Мележ, напрыклад, зняў у трэцяй частцы эпізод, у якім нямецкі яфрэйтар у час артылерыйскага налёту, збіўшы кулаком фельдфебеля, выскаквае з бліндажа; думкі Клямта аб тым, што яго паплечнікі лягуць у зямлю без ушанавання, як бяздомныя сабакі. Выкрасліў словы немца да вязняў, якіх вялі на расстрэл, скараціў размовы ў падраздзелах, дзе апавядалася пра далейшае адступленне салдат Клямта, вялікі ўрывак тэксту са словамі Чарняхоўскага аб тым, што нельга святкаваць дзень нараджэння ў той час, калі гінуць людзі, і як будзе ён святкаваць гэты дзень пасля вайны і інш.

У кнізе «Мінск за небакраем» павінен быў раскрыцца вобраз Чарняхоўскага як палкаводца і чалавека, кіраўніка аперацыі «Багратыён». Аднак у першай рэдакцыі кнігі ён быў пададзены даволі схематычна. Спасылаючыся на пераклад рамана на рускую мову (1954), крытыка адзначала, што ў вобразе Чар-

няхоўскага недастаткова выяўлена маштабнасць яго дзеянняў як палкаводца, не раскрыта напружанне яго духоўных і фізічных сіл, яго ўнутраны свет (А. Караваева) і чалавечая змястоўнасць (В. Ажаеў) [1].

Пісьменнік дапрацоўваў вобраз Чарняхоўскага кожны раз, як толькі вяртаўся да работы над другой кнігай рамана, і значна ўзбагаціў яго. Але, як сведчыць пяты пункт аўтарскага плана, Мележ лічыў гэту работу незавершанай. Раманіст настойліва вывучаў спецыяльную ваенную і мемуарную літаратуру аб аперацыі «Баграціён», сустракаўся з сябрамі і паплечнікамі Чарняхоўскага, яго блізкімі і роднымі. Успаміны аб Чарняхоўскім жонкі і дачкі, даручэнца камандуючага А. І. Камарова, начальніка штаба Трэцяга Беларускага фронту П. А. Пакроўскага, члена Ваеннага Савета В. Е. Макарава далі пісьменніку мажлівасць глыбей зразумець характар камандуючага, яго ўнутраны свет, маштабнасць дзеянняў.

«Цяпер паявілася многа матэрыялаў, раней невядомых, якія дазволілі падняць вобраз героя»,— пісаў Мележ у артыкуле «Клопаты мінулага года» (1969) [2].

Рыхтуючы «Мінск за небакраем» для Збору твораў, ён дапісаў у раздзелы, звязаныя з вобразам Чарняхоўскага, шмат новых старонак, перапрацаваў і дапрацаваў раней існаваўшыя падраздзелы.

У выніку гэтага значна пашырыўся трэці раздзел трэцяй часткі, а колькасць падраздзелаў у ім павялічылася з двух да шасці. Падраздзелы другога раздзела пятай часткі, звязаныя з асобай камандуючага Трэцяга Беларускага фронту і яго дзейнасцю, таксама дапоўнены і перапрацаваны. Акрамя таго, І. Мележ дабавіў да іх яшчэ тры новых (сёмы, восьмы, дзевяты).

Новыя падраздзелы кнігі, звязаныя з вобразам Чарняхоўскага, пабудаваны на дакументальнай аснове. Гэта дазволіла пісьменніку паказаць грандыёзнасць, маштабнасць падзей, удзельнікамі якіх былі яго героі, у тым ліку і Чарняхоўскі.

Чаргаванне дакументальна дакладных падраздзелаў аб ходзе аперацыі з фрагментамі інфармацыйнага характару (узяцце Магілёва, Барысава, Бабруйская аперацыя і інш.) ствараюць адчуванне імклівасці падзей, у ходзе якіх Чарняхоўскі раскрываецца як таленавіты стратэг і выдатны арганізатар.

Тое, што паплечнікі Чарняхоўскага ў новай рэдакцыі — рэальныя гістарычныя асобы (член Ваеннага Савета Макараў, генералы Іголкін, Пакроўскі, Бурдзейны, Родзін, Хруноў, даручэнец Камароў), стварае ўражанне гістарычнай дакладнасці.

Мележ апускае ў тэксце тыя мясціны, дзе Чарняхоўскі часам захапляецца ўласнымі поспехамі, празмерна ганарыцца імі, прыніжае сілу нямецкай ваеннай машыны, якая ў той час была яшчэ даволі моцнай.

У адносінах з блізкімі і роднымі ён добры, пяшчотны бацька, муж, брат, што не выключае патрабавальнасці ў адносінах і да іх. Размова Чарняхоўскага з жонкай, дзецьмі, успаміны пра брата пазбаўлены лішняй патэтыкі, натуральныя.

---

[1] Дэкада беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве. Мн., Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1955.

[2] Жыццёвыя клопаты, стар. 355.

Дапрацоўваючы раздзелы і падраздзелы аб Чарняхоўскім, Мележ імкнецца яшчэ глыбей раскрыць гуманізм і дэмакратызм камандуючага. Падкрэслівае добразычлівасць Чарняхоўскага да падначаленых, уменне слухаць і лічыцца з іх думкамі, меркаваннямі.

Вобраз Чарняхоўскага-палкаводца пададзены ў развіцці. Аўтар паказвае, як да яго ў час аперацыі «Баграціён» на змену няўпэўненасці, незадаволенасці, хваляванням прыходзіць упэўненасць, адчуванне здатнасці да той ролі, якую яму наканаваў лёс у гэтай вайне.

Вобраз Чарняхоўскага ў гэтай рэдакцыі становіцца шматгранным, маштабным, цікавым і запамінальным. Безумоўна, аўтар кнігі «Мінск за небакраем» меў рацыю, калі насупраць пункта аб Чарняхоўскім у сваім плане па яе ўдасканаленню для «М. н., 1970», напісаў: «зроблена».

У «М. н., 1970» лірычны зварот да беларускай зямлі ў тым выглядзе, у якім ён быў у кнізе «Мінск за небакраем» («М. н., 1958»), перастаў існаваць. На яго аснове пісьменнік стварыў тры зачыны-звароты. Пачынаючы з гэтага выдання, кожны з іх адкрывае адну з кніг «Мінскага напрамку» і «з'яўляецца для яе лірычным камертонам, па якім выяраецца эмацыянальнае гучанне калі не ўсяго далейшага апавядання, дык яго самых высокіх эмацыянальных узлётаў» [1].

На матэрыяле другога падраздзела першага раздзела аб Юрыю Тураўцу «М. н., 1958» І. Мележ, дапоўніўшы і перапрацаваўшы яго, стварыў тры першыя падраздзелы новага выдання, якія істотна адрозніваюцца ад папярэдняй рэдакцыі. У трэцім падраздзеле другога раздзела чацвёртай часткі кнігі «Мінск за небакраем» размову з салдатамі і цывільнымі ля кастра вядзе не камандуючы фронту, як было раней, а камандзір дывізіі, што больш адпавядае логіцы падзей. Гэты эпізод уносіць новыя штрыхі ў характар генерал-маёра Шчарбацюка, узбагачае яго. Падраздзел кампазіцыйна перабудаваны (Шчарбацюк спачатку даведваецца аб тым, хто такія цывільныя і куды накіроўваюцца, а затым пачынае размову з салдатамі аб тактыцы вулічных баёў).

У «М. н., 1970» значна дапрацаваны і сёмы падраздзел шостага раздзела трэцяй часткі (неспадзяваны ратунак Клавы), пяты падраздзел пятага раздзела чацвёртай часткі (Рэйзе ў прыёмнай Готберга), трэці падраздзел шостага раздзела чацвёртай часткі (Ніна Лагуновіч пасля апошняга допыту) і г. д.

Закончыўшы працу па падрыхтоўцы рамана «Мінскі напрамак» для Збору твораў, І. Мележ пісаў: «Хоць работа гэта як быццам не новая, я задаволены, што зрабіў яе. Адчуваю сябе так, нібыта выканаў абавязак» [2].

Аднак і на гэтым работа па ўдасканаленню рамана, у тым ліку і яго другой кнігі, не скончылася.

Рыхтуючы «Мінскі напрамак» для выдання ў серыі «Беларускі раман» («М. н., 1974»), І. Мележ зноў звярнуўся да кнігі «Мінск за небакраем».

---

[1] Дз. Бугаёў. Вернасць прызванню. Мн., «Мастацкая літаратура», 1977, стар. 63.

[2] Жыццёвыя клопаты, стар. 355.

Ён унёс у кнігу невялікія змены кампазіцыйнага характару. Так, у першым раздзеле чацвёртай часткі зняты першы падраздзел, што быў у «М. н., 1970» («Становішча войск увесь час мянялася. ~ ...баі ў цэнтры горада...» Стар. 104—105). Пісьменнік замяніў яго новым урыўкам: «Дні былі поўныя руху, клопату, падзей... ~ рушылі з баямі па нашай зямлі» «М. н., 1974», стар. 99). Дадзены ўрывак разам з часткай другога падраздзела «М. н., 1970» («Мост... ~ ...разварочаны бераг. Стар. 105—107) склалі першы падраздзел першага раздзела чацвёртай часткі «М. н., 1974».

У другім раздзеле пятай часткі аўтар пакінуў толькі тыя падраздзелы, якія звязаны з вобразам Чарняхоўскага, а першыя тры — аб далейшым наступленні і выхадзе дывізій Шчарбацюка да Бярэзіны — перанёс у трэці. Вынікам гэтай перастаноўкі з'явілася сюжэтная зладжанасць і лагічная завершанасць як другога, так і трэцяга раздзелаў.

У новай рэдакцыі І. Мележ як бы падвёў рысу пад шматгадовай напружанай працай. Уся яго папярэдняя работа завяршылася грунтоўнай перапрацоўкай і дапрацоўкай амаль усіх раздзелаў і падраздзелаў. Правілася літаральна кожная старонка тэксту. Адзначым толькі некаторыя, найбольш характэрныя з гэтых правак.

У трэцяй частцы яшчэ раз перагледжаны першыя тры падраздзелы першага раздзела (Юрый Туравец у баі), істотна дапоўнены першы, другі, чацвёрты і сёмы падраздзелы шостага раздзела (Сяргей Сняжко, апошні допыт Ніны, ратунак Клавы).

У чацвёртай частцы значна перапрацаваны першы раздзел, дзе асаблівая ўвага звернута на вобраз Колышава, першы падраздзел трэцяга раздзела (фрагмент аб Мінскай магістралі). Дапрацаваны чацвёрты і пяты падраздзелы чацвёртага раздзела (Шашура ў Паплавах і ў Тураўца), трэці і чацвёрты падраздзелы пятага раздзела (Вольф і Шульцэ, «кангрэсік»), трэці і чацвёрты падраздзелы шостага раздзела (Ніна Лагуновіч пасля апошняга допыту і яе смерць), сёмы раздзел (адступленне нямецкіх войск).

Не абмінуў аўтар увагай і пятую частку. У першым падраздзеле першага раздзела глыбей раскрываюцца вобразы Якавенкі, Колышава, Гогаберыдзе; ярчэй сталі замалёўкі тых месц, дзе быў прарыў. У пятым падраздзеле аўтар перапісаў, зрабіў больш змястоўнай прамову Лагуновіча на пахаванні тых, хто загінуў пры ўзяцці моста.

У трэцім раздзеле ўнесены значныя змены ў другі і чацвёрты падраздзел (вызваленне ўзводам Праворнага вязняў, эпізод няўдачнага фарсіравання падраздзяленнямі Шчарбацюка Бярэзіны). У чацвёртым раздзеле (бой партызан Ермакова з немцамі ў пасёлку) дапрацаваны амаль усе раздзелы, у пятым — першы (вобраз Бяссонава) і трэці (бой перад Мінскам і раненне Лагуновіча).

Мележ стварае шмат цікавых, трапных замалёвак франтавога побыту, узбагачае твор новымі эпізодамі. Некаторыя з іх маюць рэальную аснову. Бязлітасна выкрэслівае эпізоды, дыялогі, якія, на яго думку, замінаюць руху сюжэта.

Пасля выхаду ў свет першай кнігі «Мінскага напрамку» Я. Маўр адзначыў у яе аўтара глыбокае адчуванне харaства душы чалавека, уменне трапна і тонка перадаць адценні харак-

тараў і пачуццяў. Здатнасць да раскрыцця ўнутранага свету чалавека прыкмеціў у І. Мележа А. Фадзееў. Аднак сапраўдная глыбіня псіхалагічнага аналізу прыйшла да пісьменніка не адразу.

Цікавая ў гэтых адносінах праца Мележа над вобразам Юрыя Тураўца. У першых рэдакцыях кнігі «Мінск за небакраем» ён даецца ілюстрацыйна, псіхалагічна недастаткова абгрунтавана. Паступова ідзе працэс яго псіхалагічнага напаўнення. Пісьменнік паказвае, як пад уздзеяннем падзей знікаюць у Юрыя ўяўленні, якімі ён жыў раней, як са страхам, неразуменнем уступае ён у новы, як бы нерэальны на пачатку свет вайны. Якое напружанне ўсіх духоўных і фізічных сіл спатрэбілася яму, каб перамагчы страх, няўпэўненасць і, спасцігнуўшы гэты чужы свет, уступіць у супрацьборства з ім і выстаяць! Складаны працэс нараджэння ў Юрыю Тураўцу салдата, камандзіра, сталага чалавека, паказаны Мележам са здзіўляючай псіхалагічнай дакладнасцю.

Значна паглыбляе пісьменнік у гэтым выданні вобраз Ніны Лагуновіч. Раздзелы аб апошніх днях яе жыцця напісаны з добрым веданнем чалавечай псіхалогіі.

Праз трагічныя і драматычныя калізіі і выпрабаванні лёсу праводзіць аўтар вытанчанага прыгажуна Колышава. Суровы ваенны час становіцца для яго часам адкрыцця важных ісцін, якія спатрэбяцца яму ў далейшым жыцці.

Пры дапрацоўцы кнігі «Мінск за небакраем» апошняга прыжыццёвага выдання пісьменнік паглыбіў, дапрацаваў вобразы і іншых герояў рамана.

Набываюць псіхалагічную адметнасць вобразы сухаватага, схільнага да грубай прыдзірлівасці, уедлівага, але чалавечнага Бяссонава, парывістага Гогаберыдзе, марудліва-флегматычнага, безадказнага працаўніка вайны Якавенкі, камлюкаватага, па-сібірску ўпэўненага, добразычлівага Быстрова, становіцца больш натуральным у сваім духоўным развіцці Рыбакоў і г. д.

Карэнным чынам перапрацаваў і паглыбіў Мележ і вобразы ворагаў (камандуючага групы Цэнтр фельдмаршала Буша, спецыяльнага ўпаўнаважанага Берліна Баумволя, яфрэйтара Келлера і г. д.). У выніку дапрацоўкі яны набываюць і псіхалагічную выразнасць, і сацыяльна-палітычную дыферэнцыраванасць.

Апошняя рэдакцыя кнігі «Мінск за небакраем» вызначаецца стройнасцю кампазіцыйнай пабудовы, лагічнай завершанасцю сюжэтных ліній, дакладнасцю і паэтычнасцю малюнка, глыбокім псіхалагізмам у адлюстраванні вобразаў і падзей.

15.IX.1971 года ў адной са сваіх запісных кніжак І. П. Мележ запісаў: «Нарэшце вялікі клопат, якому аддаў столькі часу, збыты... Падагнаў усё, сумленне чыстае» [1].

*А. Д. АТАЕВА*

---

[1] Архіў сям'і І. П. Мележа.

## КНІГА ТРЭЦЯЯ

Упершыню апублікавана са скарачэннямі ў час. «Полымя», 1952, № 7. Урыўкі былі надрукаваны: «На Мінскім напрамку» ў газ. «Мінская праўда», 1951, 11 кастрычніка; «Ранак над Мінскам» у газ. «Звязда», 1952, 3 ліпеня; «У тыя дні» ў час. «Беларусь», 1952, № 7.

І. Мележ пачаў працаваць над раманам у 1947 годзе, закончыў у 1952, і ў гэтым жа годзе твор выйшаў асобным выданнем. Але дапрацоўваў яго пісьменнік да канца жыцця. Кожнае новае выданне рамана выходзіла са шматлікімі праўкамі, дапаўненнямі, значна перапрацаванае. Аб гэтым сведчаць даты, якія ставіў аўтар у канцы кнігі кожнага выдання. У «М. н., 1952»: 1947—1952; у «М. н., 1958»: 1947—1953, Мінск; у «М. н., 1970»: 1947—1953, Мінск; у «М. н., 1974»: 1947—1953, 1967—1973.

Аналітычная зверка тэксту па ўсіх прыжыццёвых друкаваных і рукапісных крыніцах (у дадзеным выпадку — машынапісы з аўтарскімі праўкамі) паказала, што кнігі рамана неаднолькава перапрацоўваліся ад выдання да выдання.

Кніга трэцяя найбольш значна перапрацавана пры падрыхтоўцы апошняга прыжыццёвага выдання 1974 г. Але і ў папярэдніх выданнях яна таксама не заставалася па-за ўвагай пісьменніка. Так, у «М. н., 1970» упершыню з'яўляецца лірычны зварот да трэцяй кнігі рамана. Да гэтага выдання пісьменнік напісаў і «Слова ў дадатак», якому ў «М. н., 1974» даў назву «Замест эпілога».

У выданні 1970 г. пад эпілогам стаяла дата: 1959, а ў наступным выданні 1974 г.— 1956. Дакладнай трэба лічыць дату 1959, таму што ўнесеныя ў другі варыянт эпілога праўкі былі зроблены пісьменнікам на тэксце «М. н., 1970» і ўключаны ў «М. н., 1974». У апошняе выданне рамана на рускай мове [1] эпілог не ўключаны.

Аўтар не абмяжоўваўся дапрацоўкай толькі выданняў на беларускай мове. Так, першае выданне рамана на рускай мове выйшла ў 1954 годзе са значнымі скарачэннямі, шматлікімі стылёвымі і моўнымі праўкамі [2]. Пісьменнік у гэтым выданні пачаў складаную працу над паглыбленнем асноўных вобразаў рамана, якая затым паслядоўна працягвалася ад выдання да выдання.

У архіве сям'і І. Мележа захоўваецца выданне рамана на рускай мове [3] з заўвагамі А. Фадзеева. На апошніх лістах кнігі простым алоўкам напісана пісьмо А. Фадзеева да І. Мележа, у якім выдатны савецкі пісьменнік, зыходзячы з уласнага вопыту шматлікай дапрацоўкі свайго рамана «Разгром» [4], настойліва

---

[1] Минское направление. Роман в трех книгах. Пер с бел. автора. М., Воениздат, 1976.

[2] Ф. Куляшоў. Патрабавалькасць мастака. «Полымя», 1955, № 5, стар. 123—134.

[3] Минское направление. Роман. М., «Советский писатель», 1954.

[4] А. С. Бушмин. Работа над романом «Разгром». Вопросы советской литературы. II. М.— Л. Издательство Академии наук СССР, 1953, стар. 311.

рэкамендаваў значна перапрацаваць твор. У пісьме дадзены агульныя заўвагі па раману, а на палях кнігі — прыватныя заўвагі, ацэнкі і рэкамендацыі [1].

У Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы АН БССР захоўваюцца два машынапісы трэцяй кнігі з аўтарскімі праўкамі. У канцы першага паметка фіялетавым чарнілам: 16 студзеня 1952 года. І. Мележ.

Машынапіс № 1 складаецца са 175 старонак. На лістах шматлікія аўтарскія праўкі простым алоўкам і чарнілам. На адвароце некаторых старонак рукою пісьменніка дапісаны вялікія кавалкі раздзелаў і падраздзелаў. У машынапісу № 1, як і ў асноўным тэксце, дзве часткі: шостая і сёмая. Але раздзелы гэтых частак, асабліва шостай, не зусім супадаюць з апошняй рэдакцыяй. Ёсць перастаноўкі і падраздзелаў. Старонкі машынапісу № 1 пранумараваны, але парадак іх некалькі разоў парушаецца.

Машынапіс № 2 складаецца з 210 старонак. У параўнанні з машынапісам № 1 ён мае значна меншую колькасць аўтарскіх правак, зробленых таксама фіялетавым чарнілам і простым алоўкам. На апошняй старонцы дата: 16 студзеня 1952 года (лічба 16 і назва месяца закрэслены). Зверху простым алоўкам дапісана: 22 красавіка. Машынапіс № 2 таксама мае дзве часткі, у шостай — 8 раздзелаў, у сёмай — 11.

У машынапісу № 2 адсутнічаюць старонкі: 2—15, 49—53, 65—75, 79, 83—85, 133—136. На старонцы 146 парушаецца нумарацыя, ідуць старонкі 1—6, а затым стар. 150, з якой нумарацыя аднаўляецца. Парушэнне нумарацыі звязана ў асноўным з перастаноўкай раздзелаў і падраздзелаў.

На стар. 208 фіялетавым чарнілам напісана: «устаўка — 2 лісточкі алоўкам». Але гэтыя старонкі адсутнічаюць. Параўноўваючы тэкст машынапісу № 2 з часопісным варыянтам, можна заўважыць, што адсутнічаюць якраз тыя старонкі, дзе аўтар рабіў значныя праўкі.

У архіве сям'і І. Мележа захоўваюцца ўсе выданні рамана з аўтарскімі праўкамі, дапаўненнямі, якія пісьменнік уносіў пры падрыхтоўцы кожнага наступнага выдання.

На кнізе «М. н., 1952» аўтарам зроблены праўкі для выдання рамана 1958 г. Многа ўклееных лістоў, напісаных ад рукі і надрукаваных на машынцы. [2] У шостай частцы (раздзел 4, падраздзел 4) уклеены ліст з надрукаваным тэкстам; (раздзел 5, падраздзел 5) закрэслена ўся старонка, зверху паметка, зробленая рукою аўтара: «Раздзел перапісан, дапоўнен».

Ёсць дапаўненні і ў сёмай частцы (раздзел 2, падраздзел 2).

---

[1] На стар. 575, рад 34 напісана «добра»; на стар. 620: «Карціны «Нашы ў Мінску» вельмі ўражваюць (пачынаючы з падглаўка «3»)»; на стар. 623, рад. 7—8: «Гэта патрэбна», а рад. 19—21: «А гэта не патрэбна»; на стар. 627, рад. 26—32: «Навошта гэта дэкламацыя?!»; на стар. 636, рад. 24—27: «Слабавата для канцоўкі-та!» Указаны абзац на стар. 627 І. Мележ зняў у наступных выданнях.

[2] Частка шостая: раздзел 2, падраздзелы 1, 3; раздзел 4, падраздзелы 1, 2, 4, 6. Частка сёмая: раздзел 2, падраздзел 3; раздзел 5, падраздзел 1.

Захаваліся і старонкі кнігі «М. н., 1952» (565—690), расклееныя на асобных лістах для выдавецтва пры падрыхтоўцы да друку выдання рамана 1958 г. Праўкі на гэтых лістах напісаны фіялетавым чарнілам. Сярод расклееных лістоў ёсць і машынапісныя старонкі таксама з вялікай колькасцю правак.

Працуючы над падрыхтоўкай да друку першага Збору твораў, І. Мележ прарабіў аналагічную працу на тэксце кнігі «М. н., 1958». Праўкі, дапаўненні і іншыя змены ў тэксце зроблены сінім і фіялетавым чарнілам. Напісаны лірычны зварот [1].

У канцы рамана стаяць даты: 1947—1952, 1953. Апошняя дата дапісана сінім чарнілам. Пад першымі датамі: Мінск. Подпіс рукою аўтара: І. Мележ і новая дата: 20.V.64 г. На асобным чыстым лісце кнігі дапісана: « — последняя строка: брать у іх радасці жыцця, будучыні». 1947—1952, 1953. Пад датай: Мінск і паўторна: 20.V.64 г. Збоку подпіс: Іван Мележ.

Усе праўкі зроблены сінім і фіялетавым чарнілам. Апошняя дата чамусьці не адзначана ў апошніх выданнях рамана («М. н., 1970», «М. н., 1974»).

Вялікую цікавасць уяўляюць матэрыялы, якія даюць магчымасць прасачыць за ходам працы пры падрыхтоўцы да друку апошняга прыжыццёвага выдання рамана.

Як і пры падрыхтоўцы папярэдніх выданняў, пісьменнік расклеіў на асобныя лісты тэкст кнігі «М. н., 1970» і ўносіў у яго праўкі і дапаўненні.

На тытульным лісце ёсць запіс аўтара:

«1. старонкі, перадрукаваныя на машынцы, не перадрукоўваць зноў.
2. друкарскі тэкст працягваць перадрукоўваць на няпоўныя машынапісныя старонкі».

Машынапісныя старонкі, пра якія гаворыць аўтар, захаваліся ў другім або трэцім экземпляры. Старонкі не пранумараваны, усяго іх 65. Гэта перадрукаваныя на машынцы старонкі выпраўленага аўтарам тэксту.

На расклееных лістах вялікая колькасць правак. Значна перапрацаваны ў шостай частцы: 1 і 3 падраздзелы 1 раздзела, увесь 2 раздзел, часткова 3, 4, 6, шматлікія праўкі ёсць і ў 1 і 2 падраздзелах 7 раздзела.

Значна менш дапрацоўвалася частка сёмая. Перапрацаваны падраздзелы 1 і 8 раздзела 3. Шмат правак і ўставак у 3 падраздзеле 7 раздзела і ў 1 падраздзеле 8 раздзела.

Акрамя расклеенай кнігі «М. н., 1970» захаваўся поўны машынапісны тэкст, у якім улічаны ўсе аўтарскія праўкі, зробленыя на гэтым выданні. Але і ў гэты тэкст пісьменнік унёс шмат правак, уставак, зрабіў шэраг скарачэнняў.

Вельмі істотна ў машынапісным тэксце перапрацаваны ў шостай частцы 1 і 2 падраздзелы 1 раздзела, 5 падраздзел 2 раздзела, увесь 3 раздзел (шмат уставак, дапісаных на адвароце

---

[1] Упершыню гэты тэкст у выданнях на беларускай мове з'явіўся ў «М. н., 1958», дзе ён быў самастойным падраздзелам і пачынаў другую кнігу «Мінск за небакраем». Ужо ў наступным выданні «М. н., 1970» пісьменнік падзяліў гэты падраздзел на тры самастойныя часткі, якія затым у дапрацаваным варыянце з'явіліся своеасаблівымі ўступамі да кожнай кнігі рамана.

рукою аўтара). Вялікая колькасць закрэсленых кавалкаў тэксту і нанава напісаных урыўкаў у 1 і 2 падраздзелах 4 раздзела; у 1 і 3 падраздзелах 5 раздзела. Тое ж можна сказаць і пра 3 першыя падраздзелы 6 раздзела і 4 падраздзел 8 раздзела.

Калі ў папярэдніх выданнях частка сёмая перапрацоўвалася менш, то ў апошняй кнізе «М. н., 1974» яна таксама, як і частка шостая, у значнай меры дапрацавана пісьменнікам. Гэта датычыцца ўсяго 1 раздзела, асабліва 4 і 5 падраздзелаў. Шмат уставак, нанава перапісаных урыўкаў у 2, 3 і 4 падраздзелах 2 раздзела; у 2 і 3 падраздзелах 3 раздзела; у 1 і 3 падраздзелах 4 раздзела, у 3 падраздзеле 5 раздзела; у 6 раздзеле; у 1 і 3 падраздзелах 9 раздзела і ў 11 раздзеле.

Параўноўваючы гэты машынапісны тэкст з асноўным, становіцца відавочна, што яны амаль ідэнтычны.

Гэта акалічнасць дае падставы меркаваць, што машынапісны тэкст з'яўляецца адным з апошніх варыянтаў, якія папярэднічалі выданню рамана 1974 г.

Пасля выхаду ў свет раман адразу прыцягнуў увагу чытачоў і літаратурнай грамадскасці. Агульная ацэнка была станоўчай, усе ўбачылі ў асобе І. Мележа арыгінальнага празаіка, пісьменніка вялікіх творчых магчымасцей. Недахопы, аб якіх пісалі рэцэнзенты, не зменшылі вялікага значэння самога факта з'яўлення ў беларускай літаратуры буйнога эпічнага твора. Літаратура аб вайне не мела яшчэ значных здабыткаў, і кожны новы твор на ваенную тэму выклікаў жывую цікавасць. Гэтым і можна растлумачыць вялікую колькасць рэцэнзій на раман. У 1955 годзе на Дэкадзе беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве сярод іншых твораў абмяркоўваўся і раман І. Мележа «Мінскі напрамак», які да таго часу выйшаў на рускай мове значна перапрацаваны аўтарам. Выступаўшыя на абмеркаванні вядомыя пісьменнікі і крытыкі станоўча ацанілі раман, адзначылі важнейшыя асаблівасці твора: маштабнасць, шматпланавасць, імкненне аўтара звязаць вялікія гістарычныя падзеі з мастацкім вымыслам і г. д. Разам з тым было ўказана на рад недахопаў, якія ў той час былі ўласцівы не толькі гэтаму твору, але і многім іншым творам на ваенную тэму.

Такая ўвага да твора абавязвала І. Мележа перагледзець напісанае. Ён вельмі ўважліва адносіўся да ўсіх заўваг і парад, якія ў значнай ступені вызначылі характар і змест перапрацовак.

Ужо будучы аўтарам двух раманаў трылогіі («Людзі на балоце» і «Подых навальніцы»), якія паставілі пісьменніка ў рад вядучых празаікаў савецкай шматнацыянальнай літаратуры, І. Мележ працягваў з упартай настойлівасцю перапрацоўваць «Мінскі напрамак». Паралельная праца над раманамі ўзбагачала пісьменніка і плённа ўплывала на кожны твор паасобку. Праўкі і дапаўненні, унесеныя пісьменнікам у апошнія выданні рамана, былі зроблены ўжо сталай рукой мастака.

Прынцыпы перапрацоўкі ўсіх выданняў у асноўным заставаліся адзінымі для трох кніг. Дапрацоўваючы трэцюю кнігу, І. Мележ уносіў змены ў кампазіцыйную структуру рамана, паглыбляў псіхалогію вобразаў, удасканальваў мову і стыль.

Адным з галоўных напрамкаў у перапрацоўцы рамана з'яўлялася кампазіцыйна-сюжэтная перабудова, якая не абмя-

жоўвалася простым скарачэннем і перастаноўкай раздзелаў і падраздзелаў. Праца над удасканальваннем архітэктонікі рамана была звязана з жаданнем аўтара глыбей пранікнуць ва ўнутраны свет сваіх герояў, зрабіць больш матываванымі іх паводзіны і ўчынкі.

Трэцяя кніга рамана складаецца з дзвюх частак: шостай і сёмай. Пачынаючы з машынапісу № 1 і да апошняй рэдакцыі, колькасць частак заставалася нязменнай. Але колькасць раздзелаў і падраздзелаў змянялася.

Частка шостая ў машынапісу № 1 мела 8 раздзелаў (1 раздзел — 4 падраздзелы, 2—3, 3—3, 4—3, 5—4, 6—4, 7—4, 8—4). Ужо ў машынапісу № 2 пісьменнік скарачае колькасць раздзелаў да 6 за кошт павелічэння колькасці падраздзелаў і іх перастаноўкі. Так, 4 раздзел ужо мае 6 падраздзелаў (4, 5, 6 падраздзелы ўтварыліся адпаведна з 3, 4 і 1 падраздзелаў раздзела 5). Вызначыць дакладную колькасць падраздзелаў у 5 раздзеле немагчыма з-за адсутнасці старонак. Але па змесце можна меркаваць, што колькасць падраздзелаў у гэтым раздзеле павялічылася за кошт падраздзелаў 7 раздзела.

У часопіснай публікацыі і ў «М. н., 1952» таксама захаваліся 6 раздзелаў. Частка шостая ў гэтых рэдакцыях адрозніваецца адна ад другой толькі колькасцю падраздзелаў у 1 і 5 раздзелах. У час. «Полымя» 1 раздзел меў 4 падраздзелы, у «М. н., 1952» было ўжо 2. Першыя два падраздзелы пісьменнік не скараціў, а з некаторымі дапаўненнямі перанёс у другую кнігу. (Частка 4, раздзел 6, падраздзелы 1, 2). 5 раздзел у час. «Полымя» складаўся з 6 падраздзелаў, у «М. н., 1952» аўтар зрабіў 5, аб'яднаўшы два апошнія падраздзелы ў адзін.

Але кампазіцыйная перапрацоўка часткі шостай на гэтым не спынілася. У «М. н., 1958» І. Мележ зноў вяртаецца да першапачатковай колькасці раздзелаў. З другой кнігі (частка 5) пісьменнік пераносіць у трэцюю (частка 6) цалкам 4 раздзел з 5 падраздзеламі і робіць яго другім раздзелам. Такое размяшчэнне не было выпадковым. Апавяданне пра знаходжанне гітлераўцаў у Мінску напярэдадні прыходу Савецкай Арміі рабіла больш матываваным апісанне прыезду англійскай місіі [1], размову яе членаў з Аўдоццяй Шабуніхай і Аксінняй, сутнасць якой зводзілася да таго, што палітыку дзяржаў, якія адцягвалі адкрыццё Другога фронту, ужо разумелі не толькі военачальнікі, але і простыя савецкія людзі, якія вынеслі на сваіх плячах увесь цяжар першых горкіх паражэнняў і акупацыі.

Раздзел 3 (у «М. н., 1952» — 2) значна перапрацаваны [2]. Аб прыездзе англійскай місіі ў вёску чытач пазнае не з простага паведамлення, як было да выдання 1958 г., а як бы праз успрыманне Шабуніхі і Аксінні. Дыялог, які адбыўся паміж імі і гасцямі, дазваляе пісьменніку глыбей пранікнуць у сутнасць і значэнне гістарычнага моманту. У апошніх рэдакцыях рамана пісьменнік пазбягае спрошчанасці ў апісанні гэтай падзеі. Дадзена рэалістычная ацэнка такой складанай з'явы, як адносіны паміж саюзнікамі не толькі ў той момант, але выявілася імкненне вы-

---

[1] Аб гэтым гаворыцца ў 3 раздзеле.

[2] Падраздзел 1 гэтага раздзела з «М. н., 1952» аўтар не ўключыў у наступныя выданні.

значыць асноўныя напрамкі ў палітыцы саюзных дзяржаў у будучым [1].

Кампазіцыйная перабудова рамана праводзіцца аўтарам вельмі паслядоўна. Так, з 6 падраздзелаў 4 раздзела («М. н., 1952») у 5 («М. н., 1958») увайшлі толькі першыя тры. Дамагаючыся лагічнай паслядоўнасці падзей і кампазіцыйнай стройнасці, пісьменнік дапісвае 4 падраздзел, пераўтвараючы 4 і 5 падраздзелы названага раздзела адпаведна ў 2 і 3 падраздзелы 6 раздзела, а 6 падраздзел пераносіць у 1 раздзел [2]. У апошнім выпадку размова ідзе аб вяртанні Клавы ў Мінск, дзе яна ўбачыла «жахлівыя пажары»: гарэлі гарадскія будынкі. Адступаючы, немцы імкнуліся знішчыць Мінск. Перанесены падраздзел, якім цяпер завяршаўся раздзел, з'явіўся лагічным пераходам да 2 раздзела, у якім І. Мележ паказаў ворагаў у трагічнай сітуацыі пачатку адступлення. Гэта дапамагло пісьменніку глыбей пранікнуць у псіхалогію гэтых нелюдзяў і тым самым закляйміць звярыную сутнасць фашызму, узмацніўшы жудасную карціну «апошніх дзён няволі».

Аўтар істотна перапрацоўваў 2 раздзел. Акрамя моўна-стылёвых правак у тэкст былі ўнесены даволі значныя дапаўненні [3]. Амаль усе рэцэнзенты рамана былі адзінадушны ў думцы, што вобразы ворагаў не зусім удаліся пісьменніку. Ва ўсіх трох кнігах І. Мележ настойліва імкнуўся пазбавіцца ад схематызму і банальнасці ў адлюстраванні фашыстаў. Трэці падраздзел у 2 раздзеле значна перапрацаваны ў гэтым кірунку. Эпізод, у якім Вольф забягае ў нежылы дом і вывозіць з яго дыван, а затым у невялікім драўляным асабняку, схапіўшы гадзіннік, гіне ад выбуху, пісьменнік замяняе на іншыя абставіны і дзеянні, якія, безумоўна, больш адпавядаюць таму моманту. Разважанні Вольфа аб сваім дэзерцірстве паказваюць яго як чалавека з пачуццём воінскага абавязку, у якога жаданне выратаваць уласнае жыццё ўсё ж мацней. І, нягледзячы на тое, што ў апошняй рэдакцыі маёр Вольф застаецца пакуль што жывы, канцоўка 3 падраздзела не пакідае ніякай надзеі на яго выратаванне.

*Тэкст «М. н., 1970»:*

Прамень ліхтарыка заблішчаў на пазалочаным амуры: гадзіннік! Вольф працягнуў растапыраную руку і паспешліва схапіў. І тады ж

*Тэкст «М. н., 1974»:*

Ён не ведаў, што дарога гэта была перарэзана ўжо. І шляху да ратунку больш не было.

---

[1] Дадзенае выданне, стар. 338—350.

[2] Такім чынам, 6 раздзел з 6 падраздзеламі ў «М. н., 1958» утварыўся з падраздзелаў, якія ўваходзілі ў 4 і 5 раздзелы ў «М. н., 1952» (1 падраздзел з 1 падраздзела 5 раздзела; 2 — з 4 і 3 — з 5 падраздзелаў 4 раздзела; 4 — з 2, 5 — з 3 і 6 — з 2, 3, 4 падраздзелаў 5 раздзела). 7 раздзел з 4 падраздзеламі ўтварыўся з 5 падраздзела. 8 раздзел цалкам адпавядаў 6 раздзелу.

[3] Дадзенае выданне, стар. 328—329, рад. 24—39 і 1—4; стар. 329—330, рад. 40—43 і 1—5; стар. 331—332, рад 9—43 і 1—7; стар. 336, рад. 5—14.

нечакана бліснула полымя: ударыла ў галаву, у жывот, тузанула назад. Калі сюды ўбег шафёр, Вольф быў мёртвы.

Паглыбляючы амаль кожны вобраз ворагаў, пісьменнік хацеў асабліва падкрэсліць звярыную жорсткасць фашыстаў нават у адносінах да сваіх суайчыннікаў.

*Тэкст «М. н., 1958»:*

Памочнік «прэзідэнта» ў адчаі схапіўся за борт акенца і, не выпускаючы яго з рук, пацягнуўся следам. Рэйзе пачаў біць кішанёвым ліхтарыкам па яго руках, але той упарта не хацеў выпускаць борта. Нарэшце, войкнуўшы, шмякнуўся на зямлю.

*Тэкст «М. н., 1970»:*

Памочнік «прэзідэнта», што момант стаяў разгублены, раптам у адчаі кінуўся да машыны, учапіўся за край адчыненага акенца. Не выпускаючы яго, не адстаючы ад машыны, стаў маліць зноў:
— Гэр штурмбанфюрэр!.. Гэр штурмбанфюрэр!..
Машына, раўнуўшы, пачала набіраць хуткасць, і Кухта, што ўсё хутчэй драбніў нагамі, спаткнуўся. Але ён не выпусціў машыны, пацягнуўся побач.
— Прэч! — загадаў Рэйзе.
— Гэр Рэйзе! Гэр штум...— не паслухаўся той. Рэйзе разззлаваўся.
— А, дрэнь!
Ён успомніў пра кішанёвы ліхтарык, што трымаў у руцэ, разгневана выцяў Кухту па пальцах. Той не адпускаў пальцаў, і ён біў усё зласней. Нарэшце пальцы выпусцілі машыну.

Наогул, у апошнім выданні І. Мележу ўдалося дасягнуць большай праўдзівасці і пераканальнасці ў паказе ворагаў.

Частка сёмая таксама зазнала некаторыя змены. У машынапісах №№ 1 і 2 яна мела 12 раздзелаў, толькі ў машынапісу № 2 раздзелы 3 і 4 былі пераастаўлены месцамі. У 3 раздзеле замест [illegible] падраздзелаў стала 4. Два апошнія падраздзелы ўтварылі 3 падраздзел у 5 раздзеле. (У машынапісу № 1 было толькі 2 падраздзелы.) Пераастаўлены месцамі 7 і 8 раздзелы.

Частка сёмая ў скарочаным часопісным варыянце мела 10 раздзелаў. У першым асобным выданні 1952 г. яна складалася ўжо з 11 раздзелаў.

Першы раздзел з 5 падраздзеламі ў «М. н., 1952» аб'яднаў першыя два раздзелы ў машынапісу № 2, якія ў суме мелі

7 падраздзелаў. Але першыя два падраздзелы 2 раздзела аўтар не ўключыў у наступныя выданні. З «М. н., 1952» колькасць раздзелаў і падраздзелаў засталася без змен.

Параўноўваючы тэксты машынапісаў і ўсіх прыжыццёвых выданняў, можна заўважыць, што ў асноўным кампазіцыйна-сюжэтная перабудова трэцяй кнігі, як і ўсяго рамана, закончылася выданнем 1958 г.

Аналіз змен, скарачэнняў і перастановак, зробленых пісьменнікам, паказаў, што яны не былі выпадковымі. І. Мележ старанна імкнуўся пазбегнуць кампазіцыйнай расцягненасці і па магчымасці больш драматызаваць сюжэт.

Кампазіцыйная перабудова трэцяй кнігі, як і ўсяго твора ў цэлым, аказалася вельмі плённай. Усе перапрацоўкі сведчаць аб жаданні аўтара прывесці форму і змест да пэўнай адпаведнасці. Такое імкненне пісьменніка ў значнай ступені было рэалізавана ў апошнім выданні. Паказальнай ў гэтых адносінах з'яўляецца праца мастака над вобразнай сістэмай.

На старонках трэцяй кнігі рамана ў апошні раз з'яўляецца камандуючы Трэцяга Беларускага фронту І. Д. Чарняхоўскі. Ад першага і да апошняга выдання рамана пісьменнік вельмі многа працаваў над вобразам палкаводца. Як ужо адзначана ў каментарыях да першай і другой кнігі, І. Мележ імкнуўся паказаць Чарняхоўскага не толькі як выдатнага военачальніка, але і як чалавека рашучага, моцнага і разам з тым добрага і чулага.

Заключная частка 5 раздзела ў «М. н., 1952» апавядае, як, знаходзячыся недалёка ад Мінска, Чарняхоўскі каардынаваў апошнія аперацыі па вызваленню горада. У «М. н., 1958» пісьменнік выдзеліў у асобны падраздзел гэтую частку, пашырыў яе і істотна перапрацаваў наогул. З'явілася вельмі цікавая размова Чарняхоўскага з членам Ваеннага Савета Васілём Макаравічам Емяльянавым [1] аб вялікай вызваленчай місіі Чырвонай Арміі ў Еўропе і адкрыцці Другога фронту. Гутарка ўжо адбываецца ў машыне па дарозе ў Мінск, дзе ішлі яшчэ жорсткія баі.

Пазней, рыхтуючы Збор твораў, І. Мележ зноў вяртаецца да гэтага падраздзела. Ён падзяляе яго на дзве часткі. Фрагмент, аб якім ішла размова вышэй, апускаецца, але падраздзел павялічыўся за кошт новага матэрыялу, дзякуючы якому паглыбіўся вобраз камандуючага фронту. Пісьменнік апісвае душэўны стан Чарняхоўскага ў апошні момант завяршэння аперацыі па вызваленню Мінска, яго думкі пра гэты горад, з якім раней быў звязаны асабістым лёсам [2]. І. Мележ упершыню ўключае новыя фактычныя звесткі аб тым, што «перадавы атрад 4-й танкавай брыгады з корпуса Бурдзейнага ўварваўся з боку магістралі ў Мінск» [3].

Пісьменнік псіхалагічна дакладна раскрывае ўнутраныя перажыванні і супярэчлівыя пачуцці героя, калі той даведаўся, што фронт па загаду Стаўкі накіроўваецца на Вільнюскую аперацыю. Нялёгка было Чарняхоўскаму адмовіцца ад думкі, што Трэці Беларускі не «будзе наступаць не куды-небудзь, а на самы

[1] У «М. н., 1970» стаў Васіль Емяльянавіч Макараў.
[2] Дадзенае выданне, стар. 401—402, рад. 39—43 і 1—6.
[3] Т а м с а м а, стар. 402, рад. 7—12.

цэнтр Германіі»[1]. І. Мележ паказвае, як цяжка прымірыцца яму з гэтай дырэктывай Сталіні, але вытрыманасць і разуменне ўсёй адказнасці за пастаўленую задачу дапамагаюць Чарняхоўскаму мужна перанесці сваё незадавальненне.

Вялікая населенасць твора перашкаджала пісьменніку скіраваць намаганні на шматбаковае развіццё кожнага характару, ускладняла задачу даць «найбольш дакладную псіхалагічную матывіроўку паводзін герояў, іх унутранай перабудовы, зрухаў у іх адносінах»[2]. Ад выдання да выдання І. Мележ пазбаўляўся ад другарадных асоб і непатрэбнага матэрыялу, скіроўваў сваю ўвагу на галоўныя персанажы, якія праходзілі праз увесь твор і адыгрывалі важную ідэйна-кампазіцыйную ролю. Да ліку такіх адносяцца А. Лагуновіч, І. Д. Чарняхоўскі, Н. Туравец і інш.

Ужо пры падрыхтоўцы выдання 1954 г. на рускай мове І. Мележ пачаў дапрацоўваць вобраз Нічыпара Тураўца, нягледзячы на тое, што крытыка справядліва прызнала яго адным з лепшых у рамане. Працу па ўдасканальванню вобраза камісара партызанскай брыгады пісьменнік працягваў да апошняга выдання. Кожная новая дапрацоўка яскрава сведчыць аб імкненні аўтара глыбей пранікнуць у духоўны свет чалавека, усебакова раскрыць яго характар[3].

У трэцяй кнізе рамана Туравец развітваецца з баявымі сябрамі і пакідае партызанскую брыгаду. Яго накіроўваюць працаваць сакратаром аднаго з райкомаў партыі. Аднаўленчы перыяд патрабаваў ад Тураўца арганізатарскіх здольнасцей, пэўнай падрыхтаванасці ў справе мірнага будаўніцтва. Не проста складваліся і яго ўзаемаадносіны з людзьмі. Выкарыстоўваючы розныя мастацкія сродкі, пісьменнік узбагачаў характар героя, паказваў шырыню яго погляду на жыццё, яго ўменне бачыць унутраную сутнасць чалавека, падкрэсліваў у ім здольнасці партыйнага кіраўніка і станоўчыя чалавечыя якасці. Напрыклад:

| | |
|---|---|
| *Тэкст «М. н., 1970»:* | *Тэкст «М. н., 1974»:* |
| І першая, амаль без сну, ноч, у якую ён думаў, як будзе згуртоўваць людзей для баёў. | І першая, амаль без сну, ноч, у якую ён думаў, як будзе рыхтаваць людзей да баёў. |
| *Тэкст «М. н., 1958»:* | *Тэкст «М. н., 1970»; «М. н., 1974»:* |
| Тады многае было незразумелым, нечаканым,— | Тады многае было незразумелым, няясным,— |
| *Тэкст «М. н., 1970»:* | *Тэкст «М. н., 1974»:* |
| ...ён добра ўяўляў мірную будучыню, уяўляў у канкрэтных дэталях,— | ...Туравец добра бачыў мірную будучыню, бачыў у канкрэтных дэталях,— |

---

[1] Дадзенае выданне, стар. 403—404, рад. 39—41 і 1—6.

[2] А. Лысенко. Путь ратной доблести. «Неман», 1975, № 5, стар. 174.

[3] Дадзенае выданне, стар. 363, рад. 28—32; стар. 365, рад. 13—14; стар. 367, рад. 4—12.

| *Тэкст «М. н., 1970»:* | *Тэкст «М. н., 1974»:* |
| --- | --- |
| Туравец улавіў у яго словах затоеную нецярплівасць: | Туравец улавіў у яго словах затоеную нецярплівасць, па спачуваў яму. |

У гэтым жа 5 раздзеле шостай часткі, дзе І. Мележ апавядае пра ад'езд Тураўца, многа новых кавалкаў тэксту, якія з'явіліся ў апошнім выданні. У іх пісьменнік асобнымі штрыхамі, дадатковымі рысачкамі пашырае ўяўленне чытача аб героі [1].

Пісьменнік настойліва шукае больш дакладных слоў і выразаў, каб яны ў значнай ступені адпавядалі сутнасці характару героя:

| *Тэкст «М. н., 1970»:* | *Тэкст «М. н., 1974»:* |
| --- | --- |
| Рэгуліроўшчык з павагай зірнуў на гэтага рухавага нецярплівага чалавека. Хоць Туравец гаварыў лагодна, | Рэгуліроўшчык з прыкрасцю паклаў дручак, нядобра зірнуў на Тураўца, але стрымаўся. Хоць Туравец гаварыў ветліва, |

| *Тэкст «М. н., 1970»:* | *Тэкст «М. н., 1974»:* |
| --- | --- |
| Ён ішоў на новую працу не адзін, а з групаю надзейных, выпрабаваных людзей, і гэта Тураўцу асабліва падабалася. | Ён ідзе на новую працу не адзін, а з групаю дзейсных, талковых людзей, і гэта Тураўца асабліва абнадзейвала. |

| *Тэкст «М. н., 1970»:* | *Тэкст «М. н., 1974»:* |
| --- | --- |
| Сядаючы ў машыну, ён загадаў усім быць напагатове. | Перад тым як выкіравацъ у дарогу, паведаміў усім абстаноўку, загадаў быць напагатове. |

| *Тэкст «М. н., 1970»:* | *Тэкст «М. н., 1974»:* |
| --- | --- |
| — Добра, заставайся, Шашура... Усе іншыя — за мной! — падняўшыся, скамандаваў Туравец. | — Добра, паспрабуйце. Толькі для пачатку трэба праверыць дарогу.<br>— Туравец сказаў, што пройдзе з групай наперад, і, калі можна ехаць, дасць знак. |

Новы пачатак зрабіў аўтар у 2 падраздзеле 1 раздзела. Ён спатрэбіўся пісьменніку дзеля таго, каб вытлумачыць некаторую нерашучасць Тураўца [2] яго вялікай адказнасцю за людзей.

Некаторыя дапаўненні ў тэксце датычацца і думак Тураўца пра сына, вострага жадання пабачыць яго [3].

Вывучаючы характар правак і дапаўненняў ад першай і да апошняй рэдакцыі, можна заўважыць, як узрастала майстэрства пісьменніка. Так, у частцы сёмай у другім раздзеле, дзе расказ-

---

[1] Дадзенае выданне, стар. 370, рад. 6—8, 9—13, 18—21, 27—43.

[2] Т а м с а м а, стар. 419, рад. 7—11.

[3] Т а м с а м а, стар. 417, рад. 31—36; стар. 432, рад. 17—23.

ваецца аб тым, як Туравец ідзе па Мінску, якімі былі яго ўражанні ад бачанага, думкі пра мінулае і будучае, І. Мележ узбагачае ўрывак новым зместам і асаблівым падборам слоў і павольным рытмам надае апавяданню лірычную танальнасць.

*Тэкст «М. н., 1970»:*

Ён вяртаўся назад весялейшым. Цяпер, калі ён ішоў па Савецкай ці па вуліцы Энгельса, ішоў нейкі радасны і нібы дужэйшы, жахлівая спусцеласць вуліц і руіны здаваліся не такімі страшнымі. «Думаеш, не падымемся! — сам сабе, у думках, заспрачаўся Туравец з тым, хто разбурыў і спаліў усё.— Не падымемся? Эх ты, гадаўё фашысцкае!..»

Спускаючыся ўніз, каля Дома Чырвонай Арміі, ён падумаў, што вось ужо і ўвайшоў у той чаканы мірны свет. Адразу.

*Тэкст «М. н., 1974»:*

Ішоў ён назад стомлены. Столькі падзей пераждыў ён за адзін дзень з той хвіліны, як ускінуліся залпы «кацюш». Добрае і горкае жыло ў ім, радавала, засмучала, трывожыла. Зося, Зося, сцяна ў неба, балкончык з вазонам. Юрый у ваеннай гімнасцёрцы, у грузавіку, што ідзе міма. Малюнкі гэтыя ўвесь час трымала памяць. І разам з імі відовішчы страшэннага разбурэння горада.

Ва ўсё гэта ўнізваліся, спляталіся з гэтым новыя клопаты, што ўзніклі ў кабінеце Рогава, ад сустрэч з людзьмі...

Ён быў узрушаны тым, як многа трэба зрабіць, каб горад зноў зажыў. Каб разабраць, сцерці ■ вачэй гэтыя горы цэглы, пабудаваць новыя дамы, вуліцы, новае жыццё. Якое ён у гэты дзень бачыў вельмі цьмяна, як амаль неймавернае...
У яго пакуль не было кватэры, але ішоў ён у гарком і з другой прычыны. Усё спадзяваўся: раптам там чакае хлопец у вайсковым адзенні...

Ён не думаў пра тое, што вось і пачалося мілае сэрцу мірнае, жыццё. Ён вельмі ж быў поўны гэтым жыццём, і вельмі ж многа было ў гэтага жыцця горкага...

Цікавыя праўкі ўносіць аўтар у эпізод, дзе Туравец прыводзіць Марыю Андрэеўну, будучую жонку, у сваю кватэру. З мэтай раскрыць некаторыя рысы іх характару, паказаць іх узаемаадносіны, пісьменнік пашырае дыялог паміж героямі, знаходзіць больш дакладныя словы:

*Тэкст «М. н., 1970»:*

...ты не думай, што я вечны вандроўнік.

*Тэкст «М. н., 1974»:*

Ты не думай, што я прыроджаны вандроўнік.

*Тэкст «М. н., 1970»:*

Але неўзабаве Туравец схамянуўся і, зірнуўшы на гадзіннік, сказаў, што трэба ісці ў гарком.

*Тэкст «М. н., 1974»:*

...зірнуўшы на гадзіннік з прытоенай ніякавасцю, са шкадаваннем сказаў, што павінен быць у гаркоме. Справа важная будзе вырашацца. І яму, Тураўцу, неабходна быць...

Яна зірнула на яго з папрокам, знарок гаротна.

*Тэкст «М. н., 1970»:*

Марыя Андрэеўна засталася адна.

*Тэкст «М. н., 1974»:*

Марыя Андрэеўна засталася адна. Яна ўся поўнілася шчасцем.

*Тэкст «М. н., 1970»:*

Думаючы ўвесь час пра свайго Нічыпара, яна з задавальненнем пачала гаспадарыць.

*Тэкст «М. н., 1974»:*

Думаючы ўвесь час пра свайго Нічыпара, пра незвычайнае, неймавернае жыццё тут, яна з захапленнем гаспадарыла.

*Тэкст «М. н., 1970»:*

Яна і сама не думала, што гэтымі дамашнімі клопатамі будзе займацца з такой прыемнасцю.

*Тэкст «М. н., 1974»:*

Яна ніколі не думала, што дамоўкаю сваёй будзе займацца з такой ахвотаю.

Дапаўненні ў тэксце, якія былі звязаны з вобразамі Марыі Андрэеўны і Нічыпара, выкліканы жаданнем аўтара праз думкі герояў высветліць найбольш прывабныя рысы іх характараў, выдзеліць тое галоўнае ў пачуццях і адносінах герояў, што з'явіцца фундаментам, на якім у далейшым будзе пабудавана новая сям'я:

*Тэкст «М. н., 1970»:*

Але хіба яна ў чым вінавата перад яго маці?

*Тэкст «М. н., 1974»:*

Але хіба яна ў чым вінавата перад той, што загінула? Перад сынам, які павінен стаць і яе, Машы, сынам?

Вобразу Тураўца пісьменнік надаваў выключнае значэнне. Па аўтарскай задуме ён павінен быў аб'яднаць у рамане тэму Вялікай Айчыннай вайны і мірнай стваральнай працы.

Як ужо адзначалася ў каментарыях да першай кнігі рамана [1], праца І. Мележа над стылем і мовай твора была найбольш працяглай і напружанай.

[1] Дадзенае выданне, т. 3, стар. 899.

Параўноўваючы ўсе рэдакцыі рамана, няцяжка заўважыць, як пісьменнік настойліва шукаў патрэбныя словы, якія б больш дакладна характарызавалі герояў, адпавядалі іх душэўнаму стану. Так, напрыклад, апісваючы знаходжанне Клавы ў Кацярыны, І. Мележ падкрэсліў тыя рысы яе характару, якія дапамаглі дзяўчыне пераадолець фізічную слабасць і пазбавіцца ад «страшных успамінаў-прывідаў, што даймалі, трывожылі яе...».

*Тэкст час. «Полымя», 1952:*

Жывучая, не схільная да самоты.

*Тэкст «М. н., 1958» і «М. н., 1970»:*

Жывучая, не схільная да смутку,

*Тэкст «М. н., 1974»:*

Жыццялюбная, не схільная да смутку.

Слова «смутак» па свайму значэнню, безумоўна, больш тонка перадавала настрой гераіні, яго зменлівы характар. Але такая сэнсавая замена выклікала неабходнасць далейшага ўдакладнення. Па змесце слова «жывучая» хутчэй азначала фізічны стан чалавека, яго здольнасць добра супрацiўляцца неспрыяльным умовам жыцця, чым выдатную рысу характару. Таму, менавіта, слова «жыццялюбная» лагічна зрабіла завершанай аўтарскую думку.

Імкненне І. Мележа да большай дакладнасці і выразнасці слова заўважаецца ў кожнай рэдакцыі. Пісьменнік шукаў новых слоў не проста дзеля замены, а мэтанакіравана працаваў над удасканаленнем уласнага стылю. Аўтарскі стыль набываў лірызм. У апошнім выданні мова становіцца больш гнуткай, эмацыянальна насычанай, экспрэсіўнай:

«узрадаваная» — «узрушаная» («Полымя», 1952)[1]; «вялікае» — «агромністае» («Полымя», 1952); «вогнішча» — «полымя» («Полымя», 1952); «вогнішчы» — «зарывы» («М. н., 1952»); «парашыла ісці» — «парашыла, што пойдзе» («Полымя», 1952) — «рашыла» («М. н., 1970») — «развАжыла» («М. н., 1974» ; «сумам» — «болем» («М. н., 1974»).

*Тэкст «М. н., 1970»:*

«Уцякаюць, гады! — падумала Клава і пашкадавала, што нельга іх затрымаць.

*Тэкст «М. н., 1974»:*

«Уцякаюць, гады! — падумала Клава і пашкадавала, што нельга іх спыніць.

*Тэкст «М. н., 1970»:*

Небяспечна ў хаце — яшчэ падпаляць... ці гранату шыбнуць...

*Тэкст «М. н., 1974»:*

Страшна ў хаце — яшчэ падпаляць... ці гранату шыбнуць...

Ёсць шмат выпадкаў, калі замена аднаго слова прымушала пісьменніка рабіць далейшыя праўкі.

---

[1] У дужках указаны выданні, дзе ўпершыню з'явіліся праўкі.

*Тэкст «М. н., 1970»:*

**Дзяўчыне было вельмі горка і сумна, калі яна глядзела на пажары, што лютавалі ў розных мясцінах Мінска. Асабліва жахлівыя пажары былі каля Акадэміі навук,—**

*Тэкст «М. н., 1974»:*

**Клаву браў жах, калі яна глядзела на пажары, што лютавалі ў розных месцах Мінска. Асабліва страшныя пажары былі каля Акадэміі навук,—**

Працу І. Мележа над мовай рамана можна назваць своеасаблівай школай па ўдасканаленню і ўзбагачэнню мастацкага стылю пісьменніка.

Раман «М. н.» цікавы шырокаму чытачу і даследчыкам як прыклад высокай патрабавальнасці мастака да сябе і тым выключным значэннем, якое ён меў для станаўлення І. Мележа-раманіста.

Багатая гісторыя тэксту рамана сама па сабе з'яўляецца вельмі цікавым фактам не толькі ў творчасці І. Мележа, але па праву лічыцца непаўторнай з'явай ва ўсёй беларускай літаратуры. Творчая лабараторыя пісьменніка, якая раскрываецца пры вывучэнні гісторыі тэксту, дапамагае ўбачыць вузлавыя моманты ў мастацкім метадзе Мележа-празаіка, бліжэй падысці да вывучэння праблемы псіхалогіі творчасці, надзвычай актуальнай на сучасным этапе развіцця беларускага літаратуразнаўства.

*Э. А. ЗОЛАВА*

## ЗМЕСТ

### *Кніга другая*

#### МІНСК ЗА НЕБАКРАЕМ



### *Кніга трэцяя*

#### БУДУЧЫНЯ З НАМІ

Мележ І.
М 47 Збор твораў. У 10-ці т. Т. 4. Мінскі напрамак: Раман у 3-х кн. Кн. 2-я. Мінск за небакраем; Кн. 3-я. Будучыня з намі.— Мн.: Маст. літ., 1981.— 559 с., 4 л. іл.

У пер. 2 р. 10 к.

У чацвёрты том уваходзяць другая і трэцяя кнігі рамана «Мінскі напрамак» — «Мінск за небакраем» і «Будучыня з намі».

М $\frac{70303-088}{М 302(05)-81}$ падпіснов

ББК 84 Бел 7
Бел 2

Иван Павлович Мележ
Собрание сочинений
в десяти томах
ТОМ 4
«Минское направление»
*Роман в трех книгах*
Книга вторая
«Минск за небокраем»
Книга третья
«Будущее с нами»
Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар П. З. Шаўцоў. Мастак М. У. Сустова. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар Т. М. Собалева.

ІБ № 935

Здадзена ў набор 21.07.80. Падп. да друку 29.05.81. АТ 06152. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 29,40+0,42 укл. Ул.-выд. арк. 30,34. Тыраж 52 000 экз. Зак. 837. Цана 2 р. 10 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Паліграфкамбінат імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.